Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Яўгена Куліка:
на 1-й стар.: Ілюстрацыя да паэмы «Слова пра паход Ігараў», 1963 г.;
на 4-й стар.: «Наваградскі замак. XIII–XVI ст.».



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 19.10.2018 г. Падпісана да друку 29.11.2018 г.
Фармат 70x108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№6 (97)
/лістапад-снежань/ 2018

дзеясло̆ў

ЗМЕСТ

ВЫТОКІ

## Лявонці Карповіч




...чыстае сэрца, Божа,
ўмацуй ува мне і дух праўды
ўва мне абнаві...

# Што адбылося аднойчы, нанова цяпер адбываецца

***Калядная казань***

Дзень сённяшні,
праваслаўныя хрысціяне,
святая Царква называе
нядзеляю перад Раством Хрыстовым.
Як, вось, у доме спраўнага гаспадара
ўсе рэчы спарадкаваны адмыслова
і ўсякая рэч мае месца сваё
і ў належнай справе
ўжываецца ў час належны,
так і ў святой Царкве набажэнствы
й абрады дыхтоўна і дужа гожа
спарадкаваны і ў належны
час дзеюцца водле задумы
самога гаспадара – Святога
і Жыватворнага Духа.

*Са старабеларускай перастварыў Алесь РАЗАНАЎ.*

А тое, што дадаюцца да гэтых
хвалебна-ўрачыстых святаў
прадсвята і паслясвята яшчэ, вынікае
з саміх гэтых святаў:
адно з іх, дасць Бог, святкавацьмем
на гэтым тыдні.
Што да прадсвята і паслясвята,
то, для чаго яны з’яўлены, зможам,
дасць Бог, зразумець з развагі
над тэкстам Евангелля, што кагадзе
прачыталася, і каб гэта
ў спажытак было нашым душам,
каб распаліліся розум і сэрца
слушнасцю боскіх слоў, павінны
прасіць, паслухмяныя самі, Таго,
Хто ў яслях жывёльных
народзіцца неўзабаве.

Захоўваецца ва ўладароў,
у князёў свету гэтага суадпаведны
звычай: калі хто з іх хоча
наведацца ў месца, што прыналежыць
яму, дык што робіць – піша
перш за ўсё ліст і з ім
перад сабой пасылае пэўных
асобаў – спраўцаў, каб жыхары
краю ці горада, ці мястэчка
ўведалі загадзя аб прыездзе
свайго спадара,
каб рыхтаваліся й падрыхтавалі
ўсё, што ён згадвае і патрабуе
ў сваім лісце.

Чынам, падобным на гэты, дзеіць
і сам Тварэц неба й зямлі,
Уладар Усявышні,
Спадар Найзаможны,
Цар, што з Царквою, сваёю
абранніцаю, царуе
над светам усім і над кожнай
душой хрысціянскай, –
наш Збаўца Хрыстос: у сваёй
міласэрнасці невымоўнай
з радовішча невычэрпных
шчадротаў сваіх сузволіў
гэтак слухмяна панізіцца й гэтак
самаадана спакорыцца
Богу Айцу Свайму,

што дзеля таго, каб узвесці
да самапершага ўзроўню
справунак дзеяў сваіх,
і з-за заняпаду ў бяздонне згубы
самога роду людскога
сышоў з маестату
славы Сваёй на бяздольны
гэты дол плачу і аб'явіўся
Сваёю постаццю ў людзях,
каб на Ягонае прыйсце
свет гэты тлумны
загадзя змог як найлепей
падрыхтавацца і як найлепей
спаткаць Спадара Свайго
і Тварца.

Для таго
Ён і паслаў наперад
сябе Сваіх пасланцоў,
паслаў памагатых Сваіх,
паслаў прарокаў,
паслаў патрыярхаў,
што не чынілі
нічога другога – адно
слёзнымі просьбамі самааддана
прасілі Тварца ўсяе тварнасці
і спаконвечнага Уладара,
каб Той у Сваёй
міласэрнасці невыказнай,
маючы жаль да тварэння Свайго,
сышоў у зямную юдоль і наведаў
людзей, што, бядотай адоленыя,
сядзяць у цені смяротным.

Прадвызнавалі тады адны
прыйсце Цара бессмяротнага,
другія, з імі суладна,
казалі, што мае прыйсці
праўдзівы Месія,
прараканы і для ўсяго
тварэння жаданы вельмі.
А да таго ж Сам Бог,
Спрадвечны Айцец, засведчыў,
што мае паслаць з адменнай
Славы Сваёй на зямлю,
каб чалавека ўзвысціць,
Адзінароднага Сына Свайго,
Супрынасутнага Слову,

Які зняісціць уладу
князя гэтага свету
і выбавіць са смяротнай
цямротнай няволі люд.

Абвяшчалі аб гэтым
усцяж прарокі, і гэта
прадвыяўлялася ў многіх
уявах і вобразах старазаконных.
А напярэдадні прыйсця Свайго
анёла перад аблічам
Сваім паслаў – Іаана Хрысціцеля.
Аб ім сведчыць
Сам Збаўца Хрыстос: ніхто
з тых, што народжаны ад мацярок,
большы не паўставаў
за Іаана Хрысціцеля.
Да таго ж, калі быў пасланы
гэты слуга, быў таксама
нібыта пасланы ліст
у тую краіну, што адцурала
Яго і супротнічала заўзята
Свайму Спадару і Тварцу.
Дык што гэта ўрэшце за ліст?
Гэта не іншы які-небудзь ліст,
а тойсамы, што кагадзе
вашым ласкавасцям прачытаўся,
і пачынаецца ён са слоў
святога Мацвея-евангеліста:
“Кніга раства Ісуса Хрыста,
сына Давідавага,
сына Абрагамавага”.

Таксама была і другая кніга,
якую Майсей Багавідца пісаў,
і называлася тая кніга
Кнігай Быцця, як сам аўтар
кнігі тае напісаў: “Гэта кніга
быцця чалавечага”, і насампраўдзе
апавядае яна аб быцці
чалавечым – аб тым,
як людзі жылі на свеце,
як распладзіліся на зямлі,
хто ад Адама быў нарадзіўся
спярша і пасля,
таму й найманоўваецца быццём
людскім тая кніга.

Але кніга, з якою маем
справу цяпер, ужо кажа
не пра людское раство,
а раство Спаконвечнага Бога
і дасканалага Чалавека,
які ў канчатковым часе
з’яднаў у адно прыроду
Боства і чалавецтва, таму
яна не наймяноўваецца ўжо кнігай
Быцця, хоць таксама кнігай.
Спытаемся: як адна
дапасоўваюцца да адной
гэтыя кнігі?
Што тычыцца першай, то да яе
стасуюцца словы прарока
Езэкііля – слушна
й надзвычай слушна яны
змест, уласцівы ёй, вызначаюць:
“Убачыў руку, да мяне
працягнутую, у ёй
кніжны сувой, і на ім
напісана: “галашэнне, і стогн, і гора”.

А гэта ўласна
і выяўляецца ў кнізе, што напісаў
Майсей Багавідца.
Як ведама, кажа
ён у пачатку самым пра ўпад Адама,
нашага продка, як страціў
ён у раі жытло,
цудоўна-прыгожае, адкрывае,
як гэты, пастаўлены над усімі
істотамі тварнымі, цар, да таго ж,
дарамі дзівоснымі, што сапраўды
не маюць цаны сабе, абдараваны,
ў пашане існы,
павёўся, нібыта быдла
без розуму, і яму
ўпадобіўся, апавядае, як гэты
цар існага ў адначассе
злуплены быў з усіх
кляйнодаў сваіх, як у свет
смерць увайшла праз акно –
праз тое акно, якое
не ўмела як след зачыняць
наша прабабка Ева.

Апавядае Майсеева кніга
затым, як зямля
падпала пад вечны праклён,
і кажа яшчэ
пра многія іншыя змены.
Паведамляе, што жонка пачула вырак,
ёй дадзены: “будзеш
у муках дзяцей нараджаць”,
і пачуў муж вырак,
яму скіраваны: “будзеш
у поце твару твайго
есці свой хлеб”.
Усё гэта
змяшчаецца ў кнізе Быцця,
а таксама
у ёй выкладаюцца іншыя справы,
тлумачацца іншыя з’явы,
апісваюцца падзеі,
што адбыліся –
як, дзе, калі.
Насамправўдзе,
як я і казаў ужо, можа
кніга Быцця назвацца
той кнігаю, у якой
аповед вядуць галашэнне,
ды нараканне,
ды плач,
ды стогн...

А другая кніга
мае, аднак, не такое найменне,
не гэтакі тытул,
і наймяноўваецца яна
Евангеллем, ці, інакш,
радаснай весткай,
жаданаю, гэта тая
вестка, якую праадчувалі
й хацелі пачуць пракрокі
і патрыярхі заўжды, ад Адама
першага да Адама
другога – самога Хрыста,
і, спавядаючыся без слоў
плачу, чакалі яе.
Тая кніга найменне
бярэ ад зямлі, бо з зямлі
Адам быў і створаны,
ды займела
затое гэтая кніга

найменне ад неба, бо новы
Адам – сам Гасподзь нябесны,
што саступіў на зямлю,
каб здолеў знайсці Айчыну
аднойдзены чалавек.
Калі першы Адам
быў страціў яе і з ёю
радасць і ўцеху і аддаліў
усіх нас ад іх, то Гэты
прыйшоў, каб з зямных сутарэнняў
вывесці нас і ўвесці
у найвышэйшы пасад.

Дык вестка
гэтая шчасная, і надзвычай!
І ці, наогул, яшчэ змагла б
уцешнейшай быць хоць якая вестка
і радаснейшаю, чым тая,
якую атрымлівае неспадзеў
горад, аблогай абкладзены
і небяспекай вялікай загрожаны,
калі цар, уладны
над сілай супротнаю, у аднaчассе
аблогу здымае,
не адбірае ні ў кога жыцця
і нікога караць не карае,
а – болей за тое – хоча
усім паспрыяць, з усімі
ўсімі набыткамі падзяліцца?!.
Тое ж і найвышэйшы
Ўладар, наш Збаўца
Хрыстос учыніў, бо калі
за цяжкія нашы грахі адпомсту
мы заслугоўвалі і ў пакаранне
на вечныя мукі былі
асуджаныя, у сваёй
міласці невымернай паслаў
нам гэтую вестку.
Вестку, што нашы грахі
нам адпускаюцца, больш за тое –
вестку-дарунак,
вестку-абвестку, што хоча
жыць з намі ў згодзе,
што хоча паразумецца
з нашай натурай і, на Сябе
прыняўшы грахі нашы,
іх зняісціць.

Так, зрэшты,
аб Ім і казаў папярэднік Ягоны
святы Іаан Хрысціцель:
“Вось Ягня Божае, што бярэ
на сябе грахі свету”.
Сам, як гаворыць прарок Ісая,
граху не ўчыніў,
і ніякага фальшу
у вуснах Яго не знайшлося,
таму й зазначае апостал Павел:
“Хрыстос адкупіў нас
ад клятвы закона, за нас
стаўшыся клятвай”.

Хто б з вас,
праваслаўныя хрысціяне,
весткі тае не прыняў удзячна?
Хто б з вас не цешыўся,
не весяліўся, такую
жаданую вестку пачуўшы?
І хто б не дзякаваў Богу
за тыя Яго дарункі,
што і цаны не маюць?
Няхай сабе кожны з нас
у сваім розуме ўявіць,
і ў сваім сэрцы дапусціць,
што жыў у тымсамым часе,
калі народзіцца ад Найсвятой
Найбаславёнай Дзевы Марыі
наш Збаўца Хрыстос,
і што тая вестка,
як пастухам праз анёлаў,
абвесцілася і яму, то, пэўна,
тады ён не ўсцешыўся б адно толькі,
калі б меў каменнае сэрца
ці нават цвярдзейшае...
І хіба знайшлася б
такая душа ў каго, каб агнём
Божай любові не запаліцца?!.
Не думаю, каб хто з вас
меў гэткае сэрца –
няпамятлівае і глухое.

Усе вы, аднак, павінны
ведаць напэўна,
усведамляць глыбока:
тое, што адбылося
аднойчы тады, нанова
цяпер адбываецца.

Маці наша
святая Царква спраўляе
свята ўрачыстае са штогадовым
абходам і дзеіць тое
з прычыны тае, што з’ява
Раства Хрыстова нанова
ўзнаўляецца кожны год.
Узнаўляецца з’ява
найслаўная, і з ёй разам
змяняюцца акалічнасці – абнаўляецца
кола самога часу.
Як сонца відочнае, Богам
створанае, пачало
спраўджваць сваё прызначэнне
і выяўляць сваю моц адразу,
як было створана, пачало
дрэвы, і кветкі, і зёлкі – усё,
што мелася на зямлі, – ажыўляць
і ўрэчаісніваць, так і цяпер,
калі завяршаецца кола года
і дзейсніць сваё набажэнства абход,
выяўляецца вынік,
падобны на сонцавы.
Так, абуджаецца і ажывае
тады зноўку свет і дрэвы
ўбіраюцца ў моц і са сховаў
сваіх дастаюць аздобу
сабе, а кветкі
ўсцяж прысвячаюцца ў прыгажосць.

Калі з’яўнае сонца,
відочнае сонца, мае,
знаходзячыся на гэтым
відочным небе такую моц,
тым большую моц,
моц інакшую мае
звышз’яўнае Сонца Праўды
наш Збаўца Хрыстос: сваімі
промнямі несупынна
Ён свеціць і асвячае
свет гэты на гэтай
цвердзі звышз’яўнай, на гэтым
небе адушаўлёным – у гэтай
святой Царкве.

У боганатхнёным пісьме святая
Царква й называецца гэтак –
небам, бо як

матэрыяльнае неба мае
сонца і месяц, так і святая
Царква, ці духоўнае неба, мае
Сонца духоўнае – Хрыста Збаўцу,
любцу свайго, і мае
Луну месяцовую – Найсвятую
і Найбаславеную Багародзіцу,
што прыняла
ад Сонца святлынь і Сама
сталася Сонцам.
І як усцяж неба мае
зоркі, таксама мае
духоўнае неба апосталаў і святых,
і ўгоднікаў Божых, што ў цемрыні
няведання і засляпёнасці
свецяць усім.
А спарадкавана і ўладкавана
духоўнае неба
згодна з нябесным колазваротам
і кола года
вянчае сабой; цяпер жа,
з прыходам часіны, калі таемства
Хрыстова Раства адкрываецца, як бы
вяртаецца вынік справункаў усіх
у пачатак, назад, і моц
сваю выяўляе.

І як тады
сузволіў Бог нарадзіцца
ў хляве для быдла,
знайсціся ў жывёльных яслях,
так і цяпер: хто зможа
дом свой душэўны падрыхтаваць,
спарадкаваць, каб прыняць
нованароджанага Цара, тады
у гэтакі дом – у такую
душу – уваходзіць
адвечны Ўладар з дарамі
сваімі і з невычэрпнай
скарбніцаю дабротаў сваіх –
уваходзіць у сэрца
вернікаў, што Яго
чакаюць, і як бы зноў
на свет нараджаецца ў сэрцах
і ў розуме іхнім.

Так прысвячаючыся ў таемства
Хрыстова Раства, хрысціянін

можа і радасць займець, і ўцехай
напоўніцца, можа,
у вестку ўслухоўваючыся, узычыць
яе самому сабе:
самога сябе нанова
ўсвядоміць і як тады,
калі нарадзіўся Хрыстос, тойсамай
радасцю радавацца і цяпер.
І з якою набожнасцю рыхтаваўся б
тады прывітаць і прыняць Цара
нованароджанага, з такой жа
набожнасцю розум
і сэрца сваё належыць
цяпер рыхтаваць, каб найлепей
прыняць Яго ў доме сваім
і быць пэўным,
што тыя дары-даброты
цябе не мінуць.
І што Спадар Усёўладны,
што Уладар Усявышні,
калі народзіцца ў доме
тваім душэўным, дык, заняпалы
й струхлелы, спаўна
той дом перайначыць – скарбы
шматстайныя змесцяцца ў ім,
кляйноды каштоўныя
дом аздобяць.

Калі, праваслаўныя хрысціяне,
хочам і мы асягнуць
гэтага, калі хочам
стацца ўладальнікамі тых боскіх
дарункаў, тады павінны
дом наш душэўны
ўпарадкаваць і ачысціць,
каб з радасцю і пашанай
вялікай прыняць таго
высокага й дужа жаданага госця.
А для таго як нейкі ліст папярэдні
Святая Царква цяпер
нам і ўзычае Евангелле, і нядзеля
гэтая, што нядзеляй
перад Раством імянуецца,
усталявана якраз для таго, каб нам
быць папярэджаннем – для пільнейшай
гатоўнасці нашай, наказам –
для суадпаведнейшай тоеснасці.

І для таго пасланы
ліст гэты наперад самое
з’явы, каб мы як след
з ім азнаёміліся і ўдзялілі
кожнаму пункціку ўвагу
належную.

Для таго
і згадваюцца святым
евангелістам Мацвеем імёны
многія ў гэтым Хрыстовым
Евангеллі, і найперш
робіцца гэта, каб відавочным
сталася, што Хрыстос
праўдзівы Месія: Яго
прапаведавалі прарокі,
чакалі людзі, і Ён паходзіў
з калена Абрагамавага, з калена
Давідавага і другіх
там пералічаных, як таксама
і Багародзіца Найсвятая,
і старац Іосіф, што быў
з Ёю ашлюбаваны не для жанімства,
а для захоўвання чысціні
Ейнага цноцтва.

З калена Давідавага,
ды Абрагамавага, ды другіх
і нарадзіўся Хрыстос: няйначай
і выпісаны радавод
Ягоны так паслядоўна, каб мы,
чытаючы, самі не дужа
родам сваім ганарыліся –
які слаўны!.. – а самі
дбалі ўвесь час пра тое,
каб справамі чыннымі,
ўчынкамі адмысловымі свой
род упрыгожыць, славай
святою ўвянчаць.
Пільнуемся, каб няўзнак
нам не ўпадобніцца тым,
пра каго чытаем
у прыпавесці: “Спаткаў
адзін багацей, што быў
высока, як кедр ліванскі,
узнесены ў славе і ў пашанотах
гэтага свету, неяк
галетніка ўбогага і пачаў

ганіць яго ды казаць, што ён
народжаны ў подлым доме;
на тое бядняк адказаў: “Мой род,
убогі няхай, яшчэ
узвысіцца можа, твой жа
ужо не ўзвысіцца можа,
а – адно ўпасці”.
І гэтыя словы
сказаў чалавек, што не быў
прасветлены светлынёю
евангельскаю, але і Сам
Хрыстос, Збаўца наш, хоць вядзе
лінію радаводу з царскага дому,
не зажадаў, каб усе
Ягоныя родзічы-продкі, з чыіх
каленаў Ён нарадзіўся, былі
і наймяноўваліся царамі.
Пэўна, Яму як Тварцу
усяго існага не ўяўляла
складанасці гэтак павесці з’явы,
а рэчы спарадкаваць, каб Найсвятая
Маці Ягоная мела
усякі дастатак і ў дабрабыце
знаходзілася, але бачым –
і сведчыць аб гэтым Евангелле, – што
высноўваецца радавод
Ягоны з такіх і гэткіх,
з выдатных людзей і не дужа,
з высокага роўню і нізкага,
і нават з тых, што мелі
ганьбу якуюсьці на сабе.

Чаму гэта ўсё
адбывалася і пра што,
тое, што адбывалася, кажа?
Найперш пра тое, што не адрокся,
не заўстыдаўся прыняць на Сябе
наш Збаўца ўсе нашы вады
і ад таго, хто ганьбу
нейкую меў на сабе, зусім,
як тут гаварылася ўжо,
не адракаецца.
Так, у спісе
Яго радаводу значыцца Саламон,
сын Давідаў, што нарадзіўся ад маладой
жонкі Урыевай, ад Вірсавіі:
ўзяў цар Давід
гвалтам яе і ўпаў

з гэтым у грэх дваякі –
у чужалоства і следам за тым
у забойства.
А каб не ўпадаў
ні ён, ні хто іншы з ім, канчаткова
у роспач, і згадваецца ён тут.

І як з маестату
славы Сваёй тады
сузволіў сысці, бо быў
чаканы і кліканы, гэтак
сузволіць і ў душы нашы ўвайсці,
наведацца і нарадзіцца.
у іх – калі гэтаксама будзе
кліканы і чаканы.
І што наўзаем
чакае ад нас – каб мы
настройваліся на гэта
і рыхтаваліся да таго, і зовы
свае пасылалі аддана,
каб як тады,
калі не адмовіўся нарадзіцца
ў хляве і знайсціся
у яслях жывёльных, так і цяпер
згадзіўся ўвайсці ў нашы душы
і ў іх нарадзіцца: у іх –
у хляве для гавяды, у іх –
у загарадцы для быдла, у іх –
у яслях жывёльных.

Таму гэтак шмат
родаў і згадваецца евангелістам,
каб мы займелі
гэтакае ж адчуванне,
гэтакае ж прагненне.
Так, згадваецца найперш
патрыярх Абрагам: хіба
прыйсця Хрыстовага ён не прагнуў?!.
Сам Хрыстос Збаўца сведчыць
аб ім: “Абрагам, ваш айцец, Месію
праўдзівага прагнуў убачыць”,
прагнуў угледзець Бога,
што з’яўлены ў целе, аднак
не ўгледзеў – хіба што
ва ўяве і ў цені,
але не ў самой істоце.
А прыклад таго прагнення
такі – чытаем: калі Абрагам,

пераўзыходзячы звычай
самой чалавечай натуры,
прывёў Ісаака,
сына свайго, каб Богу
ахвяраваць яго і ўжо нож
узняў быў, убачыў баранка,
з'яўленага яму і за рогі
у садзе Саўскім прывязанага,
і замест сына свайго тады
яго прынёс у ахвяру.
І стаўся сам дзень той
ахвяраю дню,
што меўся настаць, –
дню Раства Хрыстова.
Калі тады,
угледзеўшы адно ўявы
ды цені ўвідочненыя, Абрагам
радаваўся, то, мы
убачыўшы Госпада, у самой
Ягонай істоце, хіба
радавацца не павінны?

Таксама гаворыцца і пра другіх,
захопленых гэтаю жадай
Божаю – вунь, з якім
прагненнем Давід чакаў
гэтага дня, з якою
жальбаю вымаўляў
гэтыя словы: "Пачуй,
Пастыр Ізраілеў!.. Акажы
Сябе, Справядлівы, што пасвіш
ізраільскі люд, што водзіш,
быццам авечак, Іосіфа... Нахілі
нябёсы і сасупі
на дол", – Ты, каму
маестатам неба,
падножжам зямля.

І хоць з-за сцісласці часу
мы тут гаворым
пра Абрагама адно і Давіда,
ўсё гэта належыць
і ў дачыненні да многіх
другіх людзей разумець.
Так, гаворыць
Сваімі найчыстымі вуснамі
Збаўца: "Хацелі
многія праведнікі і пракокі

бачыць, што вы цяпер бачыце, –
і не бачылі,
чуць, што вы чуеце, –
і не чулі”, затое
“шчасныя вочы вашы,
што цяпер бачаць,
і вушы вашы,
што цяпер чуюць”, – гаворыць
вучням сваім Хрыстос.

Якой бы высокай цаной заплацілі
ўсе праведнікі і пракрокі
за неймаверную гэтую ласку,
за гэты час дарагі, але,
не ўбачыўшы гэтага, паўміралі.
Аднак некаторыя з іх, чытаем,
жадалі хаця б пасля смерці
з тым, чаго вочы
цялесныя не змаглі
угледзець, судатыкнуцца –
прынамсі, каб пахаваны
іхнія косці былі
там, дзе Хрыстос, наш Збаўца,
у постаці чалавечай
пакінуў свае сляды.
І таму Іакаў,
са светам развітваючыся, абавязаў
клятвай Іосіфа, сына свайго, каб той
яго не хаваў у Егіпце, а перанёс
ягоныя косці туды, дзе Гасподзь,
уцелясніўшыся, з’явіцца,
дзе хадзіцьме.

А яны самі –
людзі, якія памерлі,
не ўбачыўшы Бога, –
падобныя на караблі, што вязуць
плады размаітыя –
яблыкі ды вінаградныя гронкі –
аднак не сабе, а камусьці, а самі
цешацца адно толькі
духмянасцю й слодыччу
іхняга водару.
Тое ж рабілі прарокі,
калі сваёй мольбай,
сваёю просьбай сардэчнай,
сваім уздыхам бяссонным
як бы схілялі намысел Сына

Адзінароднага й Слова,
Супрынасутнага Богу Айцу,
каб сышоў з маестату
славы Сваёй у зямную
нізіну, і хоць
гэтага не назіралі вачамі
сваімі, нам адкрывалі
духмянасць і слодыч
тых водараў найкаштоўных.

Таму патрыярх Ісаак,
калі адыходзіў з гэтага свету
і прамаўляе Іакаву –
ці, больш дакладна, тады,
калі аддаваў яму
першынства дабраславення –
гэткія словы: “Вось, пах
сына майго, як пах
нівы”, і трохі пазней: “Няхай
слугуюць табе народы,
няхай табе кланяюцца князі”.
І калі тады,
бачачы Сутнага ў старазаконных
вобразах і азнаках, здалёк
Яму пакланяліся, то ўжо тут,
у дадзенасці найновай, калі наяве
з Ім узаемнічаем, хіба
не мусім Яму пакланяцца?
Калі не баранак нейкі, а Той,
Хто ўзяў на Сябе грахі
свету ўсяго, у ахвяру
прыносіцца Богу Айцу?

Усё гэта
гаворыцца з мэтай, каб мы
падрыхтаваліся як найлепей
да прыйсця нованароджанага
Цара, бо, як кажа
адзін з дактароў царкоўных:
“Якое ўмясцілішча,
гэтакі змест. Калі падасі
начынне, вялікае насампраўдзе,
дык увальецца ў яго багата
Божых дароў, калі ж розум
жыццёвымі клопатамі заняты-
пераzаняты, там ласка Святога
і Жыватворнага Духа не можа
ужо змяшчацца – калі пасудак

сыры ды спляснелы, бальзам
туды не ўліваецца найкаштоўны.
Калі апануе хто сэрцам тваім,
калі будуць валодаць
жарсці і корці табою, то гаспадар
іншы ўжо ў доме акажацца.
Бо якое
суладдзе быць можа паміж Хрыстом
і Вяліярам?”

Ты, аднак, дурнем акажашся
і шаленцам, калі не захочаш
такімі дарамі дзівоснымі ўзбагаціцца
і, каб прыняць іх,
начыння не падрыхтуеш,
і ўбогім акажашся, калі розум
не супакоіш і не спакорыш,
каб стаўся здольны
і годны прыняць даброты
гэтакія. А каб бліжэй
ты распазнаў дарункі
Боскія і як хутчэй
да іх прыгарнуўся ўсёю
сваёю істотаю, сступае
ў зямную нізіну Дабро
безумоўнае – ў Ім
змяшчаюцца ўсе даброты
і ўцехі.

Прыходзіць твой Цар – такі
дужы й такі магутны, што ўсю
арду сатанінскую пераможа,
знішчожыць дашчэнту, а да таго ж,
з’яўляючы дабрачыннасць
высокую, абяцае
з табою ў прыязнасці жыць ды ў лагодзе.
Прыходзіць Айцец – Той, што дбае
аб быце сыноў сваіх, іх набытках.
Прыходзіць Айцец, што сына
свайго марнатраўнага рады
прыняць дадому – і ў шаты
найлепшыя апранае, і не цяля
у целе, а ўжо самога сябе падае
на той пераможнай бяседзе,
на тым балі неўміручым,
і, як пелікан
сваёю крывёю жывіць
дзяцей сваіх, так і Гэты

Сваёй крывёй найкаштоўнай,
пралітаю за ўвесь свет, гатовы
цябе жывіць.
За ўсё тое
ты застаешся, аднак, няўдзячны
і ўсімі дарункамі гэтымі
пагарджаеш і не жадаеш
падрыхтавацца, парупіцца і прыняць
Госця жаданага і дарагога.

Ці многія з вас,
праваслаўныя хрысціяне,
падрыхтавалі свой розум
ды ад зямных
уяў аддалілі?
Ці многія з вас адчулі
патрэбу свой дом душэўны
абмыць ды ачысціць выспавяданнем
грахоў сваіх і пакаяннем
праўдзівым, ад сэрца, і ўжо
гэта зрабілі?
Ці многія з вас свой пасудак
адшаравалі, адчысцілі, каб змаглі
уліць бальзам найкаштоўны?
Калі б каторамy з вас было
паведамлена, што цар,
валадар свету гэтага, мае
прыехаць да дому твайго
й тымчасова ў ім пасяліцца,
хіба рупліва не падрыхтаваўся б,
каб годна госця
прыняць у доме сваім,
і хіба гэтаксама з нагоды гэтай
сябе не аздобіў бы як найлепш?

Дык чаму
душэўны твой дом застаецца
такі занядбаны?
Чаму не ачысціш ніяк
ад бруду і цвілі сваё начынне?
Калі, вось, на лаву
альбо на стол сядзе
пляма якая, яе сціраеш,
чаму ж тады не зважаеш
на плямы, што на душы,
і самохаць сябе пазбаўляеш
боскіх дароў? Хіба
не ведаеш, што кірмаш

жыцця нашага дужа кароткі
і хутка ўжо скончыцца,
а ты нічога
яшчэ не набыў?!.

Хай цяпер абросіць
твае сардэчныя вочы
хаця б слязіна – яна
змястоўнейшая і мае
вагу куды большую, чым ручаі
бурлівыя слёзаў, калі кірмаш
скончыцца ўжо.
Усё гэта
даводзіцца ўсім і зноўку
нагадваецца, каб вы
перад Хрыстом адчулі
сваю павіннасць, каб памяталі,
што век ваш скоры
і каб хоць крыху
ды заўстыдаліся іншаверцаў,
што колькі разоў ці нават
дзясяткаў разоў на год
збіраюцца ў сінагогах сваіх
і аплаткі
бяруць у рот.

А вы, што сябе
наймяноўваеце хрысціянамі,
ці пачулі, ці прынялі,
што кажа вам Збаўца Хрыстос:
“Калі праведнасць ваша
не пераўзыдзе праведнасці фарысеяў
і кніжнікаў, аніяк
не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае”.
Калі насамрэч
не будзеце жыць, каб само
ваша жыццё было ўзорам
і прыкладам іншым, калі
яно не станецца гэтакім, каб іншаверцы,
гледзячы на яго, Айца
вашага самі ўслаўлялі
і шанавалі, тады
бойцеся помсты – адпомсты
і кары Божай.
Таму не толькі як можаце ачышчайце
дом свой душэўны, а гэтаксама
цнотамі аздабляйце –
постам, малітвамі, міласцінай.

А каб не згасаў
у нас агонь Божай любові,
Самога Таго Цара,
што Ўсясветны і што
на свет нарадзіцца мае
у яслях жывёльных, просім,
каб запаліў нашы сэрцы агнём
любові Ягонай, каб розум
нам адамкнуў.
Яшчэ ні за што
не ўдзячныя, мусім за ўсё
удзячнымі стацца, яшчэ
нязгодамі паразбіраныя, мусім
годнымі стацца тых
Ягоных дароў невыказных,
тых незлічоных шчадротаў,
той мілаты бязмежнай,
якімі, як скарбніца, з намі
дзеліцца і дзяліўся
дагэтуль – каб мы як найлепш
падрыхтаваліся да прыёму
ў наш дом душэўны
нованароджанага Цара.

А ўжо тыя, другія,
што не адмовіліся дайсці
па споведзі да прычасця
(хоць і кароткі ўжо час,
хоць адзінаццатая гадзіна
адно ўвяла іх у вінаграднік), змаглі
сцягнуць з сябе ветхлага чалавека
з ягонымі корцямі й падрыхтавалі
душэўны дом – дом аднойдзены.
Бо патрабуе
новы Адам для жытла
і новага дому.
З прарокам гукаем жа разам:
“Чыстае сэрца, Божа,
ўмацуй ува мне і дух праўды
ўва мне абнаві”.
Табе ж прыналежыць
усякая слава і шана
да веку-вякоў.
Амін.



Уладзімір Някляеў



...О, Беларусь! О, Крывія мая!
Ты
Ува мне
Жывой крывёй струменіш!..

# Яблычны спас

## АЛІВА

*Вользе*

Ён моўчкі крочыў берагам марскім.
Ягоныя сляды змывалі хвалі
І адбягалі... Потым цалавалі
Сляды жанчыны, што ішла за ім.

Ён не глядзеў, ці йдзе? Ён шлях пачаў
І доўжыў так, нібыта йшоў да мэты,
Якой ніхто не ведаў, апрача
Яго самога і жанчыны гэтай.

За імі шлях не рассыпаўся ў прах,
Бо самі йшлі яны, куды хацелі,
І разам з імі па сваіх шляхах
Звяры і птушкі беглі і ляцелі.

Днём грэла сонца. Ноччу грэў касцёр.
Яны ішлі – нічога не шукалі.
Пілі ваду, што працякала з гор,
І елі сыр, што пастухі давалі.

Калі ісці стамляліся, плылі.
Спаць клаліся пад вечнаю алівай.
І ён спяваў нараніцы, калі
Яна з ім прачыналася шчаслівай.

У ёй аліва вечная цвіла,
Якая йсці яму давала сілу,
Ён вёў яе, яна яго вяла
Ад небасхілу і да небасхілу.

На іх сляды, што йшлі вакол зямлі,
Пакладаліся сляды дачкі і сына...

Бог ведае, куды яны ішлі...
І хто быў ён... І хто была жанчына...

*09.09.2018, Ліда Марыні, Салента, Італія.*

## ЯБЛЫЧНЫ СПАС

Наканаванае наканавана.
Разам уночы, як здані з тумана
Выйшлі да возера. Там на вадзе
Спалі лілеі. Ніколі, нідзе
Нам не было так святочна, так светла...
Як мы кахаліся! Дзе тое лета,
Жнівень даспелы, яблычны Спас,
Дзічка, што свечкай свяцілася ў ночы?..
Тыя лілеі, што ўбачылі нас
І сарамліва заплюшчылі вочы.

*7.05.2017*

## СВЕТ

*Сяргею Ваганаву*

Калі глядзець на свет прыветна,
Не распаляць у сэрцы злосць –
Свет не такі ўжо беспрасветны,
Святло таксама ў свеце ёсць.

І людзі ёсць, і ёсць не людзі,
І ўсё, што тут стварыў Гасподзь...

І ёсць сам-Свет,
Ёсць цуд,
І ў цудзе
Ёсць мы – на міг адзіны хоць...

*28.07.2016*

* * *

Поўдзень. Субота. У садзе
Брат. У ягоным паглядзе
Сонца. Нябёс вышыня.
Ён усміхаецца. Я –
Брату насустрач –
Шчаслівы...

Спёка. На прыпечку дня
Дзедава выспела вішня.
Бацькава выспела сліва.

*31.07.2016*

* * *

Душа да душы
прывыкаюць,
І рукі да рук
прымыкаюць,
І губы да губ
прынікаюць –

Так людзі ў людзей пранікаюць
Адное ў адно звар’яцела,
Пажадліва - целам у цела!

А як ты хацела?..

*17.01.2017*

* * *

Цела на захад, а кроў выцякае на ўсход.
Мёртвы народ сам сябе ўжо не помніць жывога.
Гэта такая трагедыя – мёртвы народ.
Гэта такая камедыя мёртвага Бога.

Ён у царквах, у касцёлах – у храмах памёр.
Думалі – храмы, а выйшла, што склепы і труны.

І ні пры чым ні чума, ні халера, ні мор,
І ні пры чым ні варагі, ні скіфы, ні гуны.

Час і манюк, і прарокаў да кучы грабе,
Перамяшаліся ў пыле свае і чужыя,

Мёртвы народ ажыўляе самога сябе –
І аніяк ён самога сябе не ажывіць.

Бог беларускі! Калі ты ў нябёсах есі,
Можа, абрынешся градам, пяском з камянямі,
Громам ударыш, ці вогненны знак падасі,
Страшны свой суд, ажывіўшы, учыніш над намі.

Можа, запаліш у нас пад нагамі зямлю,
Каб мы суда пабаяліся болей, чым смерці...

Бог беларускі!
Цябе я і мёртвым люблю!
Б'ецца і б'ецца ўва мне тваё мёртвае сэрца.

*26.03.2017, Брэст, шпіталь хуткай дапамогі*

* * *

Сарвалася ў бездань дарога.
І я азірнуўся ўначы:
За спінай маёй анікога.
Хоць крыкам крычы –
Ніхто мне вяроўку не кіне
Ніхто не працягне руку!..

А недзе
Агонь у каміне.
Каханая на скразняку.

*24.03.18*

## КРЫЖЫ

*29 чэрвеня 2018 года былі арыштаваныя крыжы,
якія беларусы везлі ў Курапаты, каб абараніць
Нацыянальны мемарыял ад нячыстай сілы.*

Арыштаваныя крыжы.
Нябесны Ойча, адкажы,
Ці час нам брацца за нажы,
Ці падстаўляць шчаку другую,

Як падстаўляе з году ў год
Яшчэ няспраўджаны народ,
Што сам з сабою варагуе?

Даруй нам, Божа. Не карай.
Хай сам сябе знішчае край,
Той родны кут, што так нам мілы,
Дзе ў храмах молімся чужых,
Дзе мёртвым сорамна за тых,
Хто зневажае іх магілы!

Даруйце нам, дзяды, бацькі...
Хай вам баляць, пякуць цвікі,
Якімі вы раскрыжаваны,
Хай Беларусь, уся ў слязах,
Пакуль мы таньчым на касцях,
Галосіць, ліжа вашы раны!

Няхай паміж крывавых вех
На здзек сыходзіць і на смех
Усё, што стала нашай доляй,
І хай знямее той народ,
Няхай той род ідзе на звод,
Які не заручыўся з Воляй!

Даруй смяротны грэх, Гасподзь!
Хай век не скінуць нам аброць,
Хамут, што самі мы надзелі!..
Хай прахам стануць дух і плоць,
Але пакінь надзею хоць,
Пакінь мне, Госпадзі, надзею...

*29.06.2018, Курапаты.*

* * *

Хрыстос сказаў з крыжа сем фраз.
І ўсе не пра сябе. Пра нас.

Ён нам пра тое, як любіць,
Як жыць у Божым свеце годна.

А мы Яму: як нам баліць,
Калі глядзім на крыж Гасподні.

*Хрышчэнне, 2017*

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Дым у полі пустым.
Свіст –
Нібы
Пры татара-манголе.
Анікім не засеяна поле,
Анічым – і паволі
Камяні
Узыходзяць
На ім.

## КАНСПЕКТ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

*Алесю Краўцэвічу*

Крыжамі на полі карчы.
Я ў полі араты.
А ў хмарах мяне крумкачы
Цікуюць зацята.

Каб сэрцы маё разарваць
І выдзеўбаць вочы!..
Дык што мне:
крычаць?! Ці маўчаць?
"Крычы. Але моўчкі".

Маўчу. Бо запомніла кроў
На вечныя векі:
Як выйдзе мой крык з берагоў –
Скрывавяцца рэкі.

Зазвоняць над полем мячы,
Заціўкаюць кулі...
І кажа мне памяць: "Крычы!
Ды так, каб не чулі.

Бо ўсіх нас – касой! Як траву –
Ад краю да краю!.."

Я моўчкі крычу і жыву.
Я моўчкі ўміраю.

І некалі моўчкі радня
Спытаецца ў скрусе:
"А што гэта за цішыня
Над тым,
што было
Беларуссю?.."

*26.09.2018*

* * *

У час, заткнуты коркам,
Часцей глядзім туды,
Дзе Божыя сады,
Скуль нам міргаюць зоркі.

І поўнімся святлом,
Што нам не слепіць вочы...

Мы лепей бачым днём.
Але далей – уночы.

*4.01.2017*

## *НЕВЯДОМЫ*

Невядомы ўвайшоў у жытло.
Запаліў невядомы святло
І агонь распаліў невядомы,
Гаспадар невядомага дома.

Дзе той дом? На зямлі, на вадзе?
Невядома. Не ведаю, дзе.

Але з тым жа – штораніцы – сном
Прачынаюся, бачу ў кашмары:
Невядомы ўваходзіць у дом –
І гарыць на ім шапка ў пажары.

*18.01.2017*

* * *

Цямрэчы кругаверць.
І пах. Ці кроў? Ці не?
Так востра пахне смерць, –
Падумалася мне.

Тады дажыць – паспець! –
Любоў – і з ёй у роў.
Яле якая смерць,
Калі так востра – кроў?

Калі паспець – дажыць! –
Калі твой страх бяжыць
Скрозь стрэлы, брэх сабак!..

І як яно: не жыць? –
Не ўцяміць аніяк.

*23.03. 2018, 20-я камера ЦІП.*

## ДЗЕНЬ ВОЛІ

### I

У камеры турэмнай, нібы звер,
Глухім адчаем выючы да столі,
Святкую я стагоддзе БНР —
Няспраўджанае свята нашай Волі.

Прынік да вочка
вокам
вартаўнік.
Мардаты. Зубы сцяты. Чын па чыну.
А недзе там, над столлю, — сакавік.
І недзе там — за кратамі — Айчына.

І раптам я адчуў, што мы ўдваіх
За кратамі. Як з ланцугом на шыі,
Я выю ў столь па гэты бок ад іх,
Яна — па той бок у нябёсы вые.

Аж дрыжыкі бяруць з яе выцця!
Такая ў ім туга, нуда такая.
Як не хапае ёй, каб жыць, жыцця,
І смерці, каб памерці, не хапае!

І так — скрозь век, скрозь сто студзёных год,
Скрозь боль і жах, скрозь песні з карагодамі —
І скрозь правадыроў, і скрозь народ,
Які ніяк не можа стаць народам.

### II

Вясна, вясна! Скажы, шапні ты мне,
Калі ўжо ты прыйшла на наш гасцінец,
Чаму я ў роднай, крэўнай старане
Турме — радня, а ўсёй радні — чужынец?

Шапні, вясна чаканая, скажы:
У чым я прад Айчынай вінаваты?..

І слухаў я, як б'юцца капяжы
Аб падваконнік,

Аб сцяну,
Аб краты...

***III***

О, Беларусь! О, Крывія мая!
Ты
Ува мне
Жывой крывёй струменіш!
І гэта ўжо ніяк,
Нічым не зменіш:
Кроў на ваду не памяняю я.

Дарма — турма! А Воля — не дарма!
І не дарма Пагоні меч узняты!
Мы рассячэм ланцуг! Мы вырвемся з ярма!
Мы ўсё-ткі спраўдзім
Волі нашай
Свята!

*25. 2018, 20-я камера ЦІП*

* * *

Яна ў табе – ты ў ёй. Няма паміж
Табою і Айчынаю нікога,
Апроч усемагутнейшага Бога,
Яго любові і Яго ахвяры.
Калі ж вас разламілі, як спарыш,
Калі між вамі ворагі, пажары, –
Хай помстаю, якою ты гарыш,
Гарыць зямля! Гараць у небе хмары!
Вада ў рацэ! І палымнее крыж
У Госпада ў руцэ – як сімвал кары!

*12.02.2015*

Віктар Казько



...назіраць і бачыць,

слухаць і маўчаць...

# Як я "рабіў" шпіёнам у Нью-Ёрку

***Аповесць***

Азіраючыся на сябе колішняга, мушу сцвердзіць: у нашым жыцці не бывае нічога выпадковага, нечакана стыхійнага. Усё загадзя ў ім прадпісана і наканавана. Кожнае нашае жаданне, мара, думка і слова не застаюцца на гэтым свеце не пачутымі. І калі ёсць энергія волі, мыслення, блаславленне ці жаданне лёсу – здзяйсняюцца, бо нашае напаўненне, змест і сэнс жыцця залежаць не толькі ад нас. Часовасць і хуткаплыннасць нашага зямнога быцця некаму ўсё ж недзе на ўцеху, на дзіва, хаця часам нам і на здзек, выпрабаванне нашых магчымасцяў і здольнасцяў, вольнага плавання нашага розуму ў сусвеце. Не толькі адно: бычку – на лычку, а кароўцы – на вяроўцы. Нехта нас час ад часу адвязвае і цікуе за намі, што з гэтага непрывязнага ўтрымання будзе, ці мае яно сэнс, мяжу.

Часцей за ўсё вольныя мы ў дзяцінстве. Я гэта добра зведаў, таму што на шчасце ці на бяду застаюся ў ім і сёння. Ссівеў, а да сталасці не прыбіўся, не вызначыўся, не прыбіўся да аднаго берагу. Хоць, як гавораць, раз на раз не прыходзіцца. У кожнага і ў кожны час сваё. Надараецца шчымліва і гожа, светла, а часам пакутліва, да дрыжыкаў змрочна і гідка. Але нічога не зробіш, так ужо нам наканавана, насіць сябе ў сабе. I я насіў і нашу, як хвоя шурпатыя шышкі, як вожык колкія іголкі. Да скону. Нашу дзіцяча-абмежаваную вольнасць і сталую магчымасць немагчымасці вяртання да маладых мрояў і парыванняў.

Але ж пакручастая рэчаіснасць іншым разам падкідвае нам з колішняга дзіцячага такое, што ні чорту камень, ні Богу свечка... Вяртае нас да даўным-даўно пройдзенага і нязбытна забытага. Так яна згуляла ў зваротнасць і са мной. Нікольки не наракаю, у асалоду мне згуляла. Бо адбылося гэта пры сонцы, зеляніне травы і дрэў, павеўным дыханні марской і акіянскай вады. З адчуваннем годнасці і ўзнёсласці.

А пачатак гэтай гульні хаваўся ў неасэнсаванасці далёкага, як сама тагасветнасць, маленства. Калі я свядома і падсвядома, мужна і смела хацеў стаць ні больш, ні менш як шпіёнам. Вядома, савецкім шпіёнам. А таму зусім не шпіёнам – разведчыкам. Савецкі чалавек тае пары не мог быць шпіёнам. Яны былі толькі замежнымі. А ў нас – разведчыкі. Адукаваны быў хлопчык, хаця мо ўжо і адпеты, бо з вуліцы Трэцяя Падольская, сірочай і крыху бандыцкай ускраіны чыгуначнага вузла Каленкавічы. Фільмы «Подзвіг разведчыка», «Падзенне Берліна» тры разы падпольна глядзеў. Падпольна таму, што на білет не меў грошай, але ведаў дзірку пад падлогай у клуб. Узрост дазваляў пралезці амаль да самай сцэны і экрана. Трэба адзначыць, што дзіркі ўвогуле былі адзіным нашым уваходам, пралазам у жыццё. Толькі каб галава не захрасла, а тулава, жывата і дупы ў нас амаль не было. Вось так, бесцялесна, мы і тварылі сябе.

Таму пра сябе, як колішняга, так і сённяшняга, магу мовіць толькі адно словамі італьянскага кінарэжысёра, творцы свайго кіно і лёсу Феліні: «Я ніколі нічога не рабіў дзеля таго, каб усё адбылося так, як адбылося. Я проста ехаў на цягніку ад адной станцыі да другой, а вакзалы ўжо стаялі». Трывала стаяў і мой вакзал ў той дзень на Мэдысан-авеню ў Нью-Ёрку. Чакаў майго выхаду з цягніка, каб вярнуць мяне зноў у маленства. Спраўдзіць маё жаданне стаць шпіёнам. Адкрылася гэта мне непадалёку ад нашай беларускай місіі ААН, на рагу вуліцы імя Бонэр. Я тады так і не ўцяміў, чаму наш куратар, падпалкоўнік КДБ, прывёў мяне менавіта да гэтай вуліцы, бо ад яе мы скіравалі ў супрацьлеглы бок. Зразумеў значна пазней. А тады, пільнуючы вачыма то мяне, то шыльду з назвай вуліцы, куратар патлумачыў:

– Калі не супраць, будзеш ісці следам за мной. Толькі наводдаль. Ні ў якім разе не набліжацца і не азывацца. Моўчкі. Назірай за спадарожнымі і сустрэчнымі. Калі хтосьці мільгне раз-другі, падай мне знак. Не супраць?

Вядома, я не мог быць супраць. Скеміў: мы абодва будзем шпіёнамі, разведчыкамі ў Нью-Ёрку. Куратар, Радзіма мне давяраюць, што ўсцешвала, бо дасюль я такога даверу не адчуваў. Хутчэй наадварот. Жмурыла, мружыла на мяне вока мая радзіма з самага майго пачатку, калі я толькі-толькі ўведаў, што дзіркі ёсць не толькі ў клуб на кіно, але і туды, дзе нешта патрэбнае мне ляжыць. А ад мяне схаванае.

Ці не з тае пары я адчуў на сабе дзяржаўнае вока і свае вочы прамыў.

Хаця мо толькі адно. Усё ж мы жылі тады аднавока, як зайцы касенькімі былі, адным вокам у неба, да сонца і зорак, а другім – патуплена толькі сабе пад ногі, у зямлю, а абодвума, як соўкі, наўкруг сябе, каб у лоб не атрымаць.

Вось такім патупленым вокам я нешта і прыгледзеў у сябе пад нагамі. І спатыкнуўся. Спатыкнуўся на самым пачатку свайго шляху: ці то сеў не ў свой цягнік, ці то выйшаў не на сваёй станцыі. Хаця зранку ў той дзень усё ішло спадарожна наканаванаму мне.

Бацька абкошваў загадзя прыгледжаную далінку з сітнікам. Наедку з таго сітніку карове ніякага. Высахне, і больш пацярухі. У сярэдзіне ў ім нешта падобнае да ваты, пыл як ад дзьмухаўцоў. Але ж нам было не да перабораў. Добрую траву пільнавала дзяржава ў асобах леснікоў і аб'ездчыкаў – шэршняў, як іх тады звалі з-за іх пуг пастухі і падпаскі з падворкаў, што трымалі кароў і самі іх пасвілі. Леснікі і аб'ездчыкі – дзяржаўнае вока зямлі, джалілі да жуды, калі прыхоплівалі на калгасных ці лясных выганах. А сена для каровы даставалася толькі на дзясятую капу: дзевяць калгасу, дзясятая – табе. Вось так: руб, коп і нешта ў лоб.

Я з граблямі чакаў, калі бацька справіцца з касьбой, каб зграбці траву, кінуць на вазок і гайда драла лататы – трава, хоць не нечая, боская, ды паўсюдна недатыкальна-дзяржаўная. Бралася на поўдзень, прыпякала, смажыла ўжо сонца. І таму я ўзяўся здабываць ваду. У невялічкай, парослай тым жа сітнікам высахлай сажалцы пачаў капаць нешта накшталт калодзежа. Мянташкай, а дзе і рукамі раскалупаў удзірванелае дно копанкі. І вада праступіла. Крыху жаўтлявая, як і заўсёды пры балотным торфе. Жалудовага колеру і смаку жалудовага. Вымачаных у ёй непарослых яшчэ пажоўклых жалудоў.

Той смак прыбалотнай вады быў надта ж мне даспадобы пад чэрвеньскую ці ліпеньскую касавіцу. Я не піў яе, а слухаў. Слухаў горлам і жыватом задумлівы і скрушны голас часу, вякоў. Траваў, што торфам леглі тут, спрахлых даўно тых жа самых жалудоў, што так і не сталі дубровай. Усё гэта даносілі да мяне колер і саладжавасць, стоеныя ў застыгласці былой багны, некранутага колішняга жыцця. Асабліва, калі смактаць, піць, каўтаць яго без хапатлівасці і з берасцянога карца, ды яшчэ з прыцмокам.

Яміна была ўжо даволі глыбокай, можна было і спыніцца, даць адстояцца вадзе. Але тут я натыкнуўся на нешта няўкопнае, цвёрдае і зламаў бацькаву дубовую мянташку. Адчай прымусіў мяне дабрацца да гэтага зломна-няўкопнага голымі рукамі. Дабраўся, хаця добра намучыўся, вымазаўся, але і з пазногцяў гразь вымыў. Гэта было нешта каменнае, хаця і зусім не валуновае. Больш лёгкае і парэпанае, як бы паточана-вапнянае і трохі шкляна-апечанае. Нават знешне не наскае.

Жыццё яго, паходжанне было ў ім не наскае. Яно патыхала на мяне чужымі, не балотнымі тугой і задумёнасцю, адначасова сонечным святлом і змрокам, спрасаванай і сцятай у выкапнёва-каменны кулак перанаселенасцю. Чужыя жыцці, тысячагоддзі дыхалі з таго кулака пахмурна-сонечнай зацятасцю і спакоем, неспазнанасцю выдаленай з мяне мо і прымусова, і хутчэй прымусова, сваёй і чужой мінуўшчыны. Сачылі за мной зморшчана-прымружанымі вачыма ракавак, таксама не наскіх, пакручаста большымі, відавочна большымі за разбіты ружова-блакітны сподачак, з якога хлебча малако наш коцік.

А яшчэ там мелася нешта жаўтлявае, пад скамянелы палец ці не волата, нечакана некім зламаны і згублены, завостраны, як у пясчанай верацёнкі на

пасляваенным акопным жвіры, з аднаго боку і з дзірачкай, што ў дудачкі ці глінянага пеўніка ў с...ачцы, з другога. Дарэчы, такія пальцы я знаходзіў і раней у глыбіні гліны ці пяску, капаючы ямы пад капцы для бульбы. Яны, пальцы гэтыя, аказаліся лекавымі. Імі, надзёртымі рашпілем ці на драчцы, гаілі болькі кароў, іх патрэсканае вымя з-за адсутнасці стрэптацыду. Дапамагала, зацягвала рэпіны, што на сабаку, і не толькі ў каровы, але і ў мяне. І зваўся той палец у нашай хаце чортавым.

А ўвесь цалкам капанец-камень з усіх бакоў нагадваў абрус, вытканы на кроснах вякоў невядомымі мне і ўвогуле ў нашым краі ўзорамі ні на рушніках, ні на посцілках – знакавыя малюнкі чужой вечнасці і з зажыва замураваных на вечнасць у мёртвы камень істот, каб праз вякі і вякі зазірнуць у іх вочы агаломшанаму хлопчыку-паляшуку сярод спякотнага лета падчас касавіцы ў Пятроў дзень.

Той дзень прыхаднем далёкіх светаў уварваўся ў мае жыццё, назаўжды перавярнуў яго. Знойдзены мной у копанцы сярод не надта спажыўнага карове сітніку маўклівы камень стаў каменем спатыкнення мне на ўсё далейшае жыццё. Вось і адмаўляй наканаванасці лёсу, калі ты на кожным кроку спатыкаешся аб яго. Едзеш, едзеш на цягніку жыцця, а вакзал твой ужо стаіць. Расстаўлены чалавеку і чалавецтву паўсюдна нябачныя вакзалы, дзе ляжаць камяні спатыкнення.

Калі б не было таго каменя спатыкнення, пэўна, не было б і сённяшняга мяне. Мне быў бы наканаваны лёс маіх хаўруснікаў са зладзейкаватай калячыгуначнай вуліцы Трэцяя Падольская. Славутая на ўсе Каленкавічы і, шчыра скажу, таленавітая была тая вуліца пасляваенных безбацькавічаў што на злодзееў, тое ж на майстроў, творцаў. Я на ёй ці не самы бесталанны. Але цягнік мой своечасова, сакральна і знакава прытармазіў сярод балота і павёз мяне зусім у іншы свет, у іншую рэчаіснасць, пра якую я ні слыхам і ні дыхам.

Камень спатыкнення збіў мяне з нашага вулічнага падольскага тропу. Неадчэпна і абцугова назаўжды выцягнуў мяне з наканаванасці, а мо й наадварот, пацягнуў у маю наканаванасць, схаваную тады ад мяне свядомасць, у такія далі, што і прымроіцца не маглі. Пра якія толькі спявалі п'яныя бязвокія і бязрукія салдаты, інваліды вайны, абсечана, слупкамі седзячы на вазках з падшыпнікавымі коламі: “Я свет увесь прайшоў, да самай Амерыкі, дзе ўсе дамы каменныя і двухпавярховыя”.

Балотны камень пайшоў за мной. Хаця, больш дакладна, павёў, пацягнуў мяне. Я пачаў яго сніць. Ці не спрэс камянёвымі былі і мае сны ўжо ў сталасці, калі я трапіў у Кузбас, у Горную Шорыю і пачаў нейкі час рабіць геолагам, горным праходчыкам. Капаў, біў, як там гаварылі, шурфы і канавы, даходзіў да скальнага грунту. І на адвалах выкінутай вонку пароды падоўгу разглядаў раструшчаныя да друзу камяні. Знаходзіў у іх адбіткі на тысячагоддзі, а мо на мільёны гадоў адбеглага ад мяне жыцця, існага калісь тут. У большасці расліннага: асокаў, папарацяў, бо чалавека і звера мо тады яшчэ не мелася. Задуменна застыглыя нямыя адбіткі пялёсткаў кветак, востралістых траў. Чарамшы, рамонку, нібы хтосьці гадаў на апошніх, рваў і кідаў на камень у вечнасць, і таксама касіў колішні сітнік на спажыву жывёле.

А потым я іх сніў. Сніў мноства камянёў з захаванай у іх мінуўшчынай. Адбіраў хоць трохі каляровыя, найбольш выразныя і ацалелыя. Хаваў пад падушку і задаволена засынаў. У сненнях, сярод ночы, здаецца, прачынаўся,

падсвядома абмацваў узгалоўе, шукаючы бягучае і мінулае. Пуста. Толькі раптоўны сонечны пробліск праменю працінаў мяне і ложак, як азоранае вітанне з даляў былога пачатку майго дня. І гэта доўжылася і доўжылася ў працяг усяго юнацтва і сталення.

І, што дзіўна, мяне нікольki не займалі шматлікія сталактыты і сталагміты, якія я знаходзіў у мностве пячор Горнай Шорыі. Утвораныя з іх крышталёвыя з завіслай слязінкай вечнасці на востраносых шчыках, празрыстых да болю вежава накшталт вытанчана гранёных, нібыта зімовыя ледзяшы, вяшчуноў і носьбітаў старажытнасці, як пра гэта пачалі гаварыць пазней. Выплаканы час і прасцяг невядома калі і кім. Празрыста збалелыя – застыглае пячорнае вока з векавой слязой на ім спатыкнулася, пэўна, на мне, мо яшчэ ненароджаным. І прыглядвала, цікавала за мной. Я не зважаў на яго, быў няўважлівы на яго сляпое зацятае маўчанне. Фаласы вякоў, пацёкава навіслыя са столі пячор з кропелькай празрыстай вады, насення на кончыку – гэта было нікольki не наскае, не маё, не паляшуцкае.

А пасля таго лета, у якім я здабыў камень на балоце, у верасні, калі мяне прымалі ў піянеры, я прынёс сваю знаходку ў школу. А яшчэ праз дзень ці два мяне пацягнулі на педсавет. Я ішоў на яго амаль упэўнены: здымуць з мяне чырвоны гальштук. Няварта і думаць, чаму і за што. Безліч было ў маім дзяцінстве чаму і за што. Кожны дзень. Толькі на дзіва педсавет сустрэў мяне маўчаннем ў прыглядку, яшчэ на парозе, нібы нешта непазнанае, засушанае і прышпіленае да аркуша белай паперы ў школьным гербарыі. І ўпершыню мяне не ўшчувалі, абыходзіліся як з чалавекам без заганаў і вымоваў у штодзённай прыроджанай шкадлівасці.

А потым доўга распытвалі, дзе я знайшоў той камень. Ці не было там яшчэ чаго, што кінулася ў вочы.

– А як жа, – адказаў я. – Бацька быў. Сітнік касіў. Але той сітнік...

Пасмяяліся, збянтэжылі мяне, абвінавацілі ў тым, што я невук. Настаўнікі, што з іх возьмеш:

– Бацька – гэта хто, нешта адушаўлёнае, а што – нежывое.

Пра мае былыя шкоды не ўзгадвалі. Зняць гальштук не пагражалі. Не папікалі нават тым, што калі не пачну вучыцца, то ўсё жыццё буду каровам і валам хвасты круціць. Наадварот, сышліся на тым, што мо будзе з мяне і толк, калі падольская бесталач выйдзе. Галава ёсць, і ў ёй не толькі мякіна ды тырса, нешта яшчэ ўклалі, цяміць. Мае клёпкі, вока мае прыкметлівае. Пад ногі сабе дапытліва ўглядаецца. Малайчына, малайчына, хаця і з Трэцяй Падольскай.

З педсавету я выйшаў узнёсла-лёгкі. Цвёрда вырашыў яшчэ больш пільна глядзець сабе пад ногі. І калі што знайду вартае на балоце, у лесе ці нават на вуліцы – цягнуць адразу ў школу. Толькі атрымалася так, што выпала мне цягнуць не ў школу, а ў міліцыю. Прыглядаючыся сабе пад ногі, адзін за другім я знайшоў два кашалькі. Дабрачыя, скураныя, але пустыя, без капейчыны грошай, хаця з зусім непатрэбнымі мне пашпартамі і нейкімі іншымі паперчынамі.

Чаму не выкінуў, як нявартае ніякіх музеяў. Чаму не кальнула тое, што гэта ж мяне могуць абвінаваціць у тым, нібыта я скраў іх ці выцягнуў грошы, ні тады, ні цяпер не ведаю. Напрасткі аднёс у аддзяленне чыгуначнай міліцыі. На дзіва, там не ўсумніліся, што здабыча тых кашалькоў з нечых кішэняў справа не маіх жа рук. Запісалі толькі маё прозвішча, адрас

і адпусцілі. Без міліцэйскай падазронасці і бачных, здаецца, наступстваў, як мне тады падалося.

Але наступствы былі пазней. Праз пэўны час па мяне прыйшлі дамоў і пад пільным наглядам павялі ў хату напрыканцы нашай вуліцы. Нядобрую хату, паблізу якой сцішаліся і прыпынялі хаду нават нашы каровы. Увогуле хата як хата, і зямля пад прысядзібныя соткі была лепшая за вулічную, чарназёмная, тарфяная. Стаяла яна на так званым гнілым рагу, які непраходна распускала ў весну і па восені. Тады ад яго адыходзіла чорнае, алешнікавае ззянне. Гэтае ззянне, цьмянасць належалі, пэўна, чалавеку, які жыў у хаце і, не выключана, таксама гаспадару, які на той час сядзеў далёка ад яе, у турме. Да асуджэння яго ў нейкай ступені быў далучаны і я, разам ці не з усёй падпаскавай малечай нашай вуліцы.

Пасвячы ў хмызах і ў полі кароў, мы часцяком знаходзілі зброю. То міну, то снарад, а то і вінтоўку. У мяне асабіста быў пісталет, бацька пазней адабраў яго і ўтапіў у прыбіральні. А вось бацька сына канцавой хаты не дагледзеў вайсковы арсенал свайго нашчадка. Нехта каму і куды трэба шапнуў, і прыйшлі з вобшукам. Зброю знайшлі, забралі разам з гаспадаром хаты. І вось дзівосы: яго хату абрала, прыгледзела сабе пад котлішча ахова дзяржавы – дзяржаўнае вока і прызначаны для гэтага чалавек.

Тое дзяржаўнае вока легла і на мяне. Я глядзеў сабе пад ногі, а зверху, ці не з неба, на мяне ўжо таксама глядзелі. Глядзелі нават з глыбіняў зямлі. Наша вуліца талакой пачала капаць калодзеж. На мой дзіцячы погляд, у непрыдатным для вады месцы, на сухім бугры. А я ж, гледзячы сабе пад ногі, непадалёку ад таго бугра прыкмеціў заўсёды, і ўвесну і ўлетку, спатнелы лапік зямлі. Вось там, на маю думку, і варта было дабівацца падземнай вады. Толькі ці ж укладзеш сваё дзіцячае ў разумныя дарослыя галовы, тым больш нядаўніх франтавікоў, што Гітлера перамаглі і Берлін з Рэйхстагам узялі. Мяне ніхто не ўважыў. Лазаходцы ж, старыя дзяды, гурмой абпоўзалі ўсё навокал. Лаза іх паказала на ўзгорак. Як гавораць на Палессі, бацька лепей ведае, што кабыле рабіць. Няхай капае.

Я ўпадабаў сядзець на гліне маючага быць калодзежа, слухаць франтавыя байкі далакопаў. Бацька тлумачыў, чаму ён не здолеў распісацца ў Берліне на Рэйхстагу: ушчаміўся ўнізе адной толькі безыменнай рысачкай. Затое дапамог паставіць подпіс свайму камандзіру маёру Алейнікаву. Стаў на карачкі, маёр яму на плечы і дацягнуўся да вольнага на сцяне месцейка. Маёр пасля гэтага перасадзіў яго са студэбекера на віліс, прызначыў асабістым шафёрам.

Такіх баявых учынкаў у кожнага з капальнікаў мелася процьма.

Другі наш сусед, малады і адукаваны хлопец, быў у партызанскім атрадзе пісарчуком. Неяк пасля чарговай сутычкі з немцамі пісаў справаздачу аб ёй: з нашага боку страт няма, толькі чатыры параненыя. З нямецкага загінула два. Камандзір атрада прачытаў і здзівіўся:

– Што ты пішаш? Што ты тут крэмзаеш, Леў Мікалаевіч Талстой? Не два, а дваццаць два!

– Дык толькі ж два...

– Ага, два. Табе што, гэтых фашыстаў шкада?

Маўклівы дзяцюк у цяльняшцы, заўсёды падперазаны шырокім матроскім рэменем са свінцовым напоем на пражцы, скардзіўся на шчаслівы і няшчасны свой лёс. З мянушкай Мінёр выйшаў ён з вайны і дэмабілізаваўся з флоту. Па халоднай зімовай ужо вадзе Балтыкі праехаўся на

міне пасля таго, як фашысты патапілі яго бронекацер, а разам з ім і ўсіх матросаў. Яго ж выратавала фашысцкая міна. Так учапіўся за яе рожкі, што чацвёра з кубкам спірту аддзерці не справіліся. Атрымалася гэта, калі спірт ужо добра ўлёгся ў шлунках. Пад рогат ратавальнікаў: чорт на міне, Пякельны мінёр. З такой мянушкай ён і выйшаў з вайны ды ішоў па жыцці. Толькі тое, што ён мінёр, губляецца, а застаецца Пякельны чорт.

Вось такая вайна пасля вайны ўжо была ў тых, хто ацалеў, выжыў.

Аднаму толькі лазаходцу дзеду Жычку пахваліцца не было чым. Для фронту і партызанкі, а тым больш мора, стары быў падслепаваты і нягеглы. Але і ў яго ў сонечны надвячорак каля калодзежа была талацэ свая гісторыя.

Сабаку ён меў выбітнага, надта ж разумнага. Грушы абтрасаў. Як толькі яны паспеюць. Залазіў ранкам, калі дзед яшчэ спаў, на дрэва і трос голле. Ён з хаты на ганак, а грушы ўжо на зямлі, у траве і на парозе. І такія салодкія, свежыя, росныя. Вось такі быў у дзеда Жычкі спрытны сабака. Я хоць і верыў дзеду, але пра сябе думаў, што я таксама спрытны, не горш за сабаку. Бо абтрасаў дзедаву грушу-мядоўку, адзіную на ўсе нашы тры Падольскія вуліцы. На поўную пазуху трусіў. І дзякуй Богу, што ў дзеда быў такі разумны сабака, а сам ён быў сляпы і глухі.

Так, бавячы час каля сухога, бязводнага, хаця ўжо і глыбокага калодзежа, пад пятнаццаць метраў – вада ж аказала сябе толькі на дваццатым метры – я штодзень наведваў і нязводна прыглядаўся да нагледжанага мной вільготна ўспатнелага лапіка зямлі. І аднойчы ўбачыў на ім вытыркнутыя вонку вочы. Па вулічнай жорсткай завядзёнцы адразу ж хацеў знішчыць, растаптаць. Толькі нешта невядомае ўтрымала маю ўжо паднятую нагу. Я застыў на адной назе, як чапля на балоце. Вочы заклікалі мяне мо і да літасці. А хутчэй папярэджвалі. Лупата-пукатыя ў акантоўцы нейкай шэрай з прозелянню плоці. Але плоці было зусім трошкі, адно толькі пазначыцца вейкамі ці брывамі ў цьмянасці вільготнай зямлі, а больш саміх вачэй, круглых, без веек, як у птушкі ці гадзюкі. Толькі крыху ўсё ж меншых, з нерухома-прытоенай у іх вечнасцю. Што дзіўна, тыя пукатыя зямныя вочы назаўжды засталіся са мной. Я пра гэта недзе ўжо пісаў. Але яны суправаджалі мяне ўсюды і ўсё жыццё.

А тады я ці не тройчы на дзень прыбягаў да гэтай лупата ўтрапёнай вечнасці: чым жа, якой істотай яна праклюнецца, ажыве: выродай ці гожасцю, наземнасцю ці тагасветнасцю. Пачварнасці я адмаўляў, але нічога і прыемнага за ёй ніколі не бачыў. Хаця і адчуваў нешта знакавае, нябачную нітачку, працягнутую мне зямлёй ці нябёсамі. Мне б учапіцца за яе, дачакацца, чым яна мне абернецца, выцягнецца, вулічна-клубкова разматаецца. Але не хапіла цярпення. Я быў хцівы, прагнуў пэўнасці і дасведчанасці самога сябе заўтра і паслязаўтра, як мага хутчэй. Зменаў і змененага, як бацька, што ўшчаміўся адзначыцца рысачкай на Рэйхстагу. А зменаў з зямнымі вачыма не было. Яны не павялічваліся і не меншалі. Як нязменным заставаўся і я сам.

І я не вытрымаў. Неяк вечарам, пад восень, перад пачаткам заняткаў у школе, мы, зямныя і мае вочы, доўга ў вочы глядзелі адно аднаму. Агорнуты адчаем непаразумення і заўсёднай жорсткай дзіцячай прагай знішчэння, я рашуча ўзняў і ўбіў нагу ў тое, што пазірала на мяне з глыбіні зямлі. Наступіў, утаптаў у шэрань вільготна-заплаканай глебы. І пакруціўся яшчэ на месцы без боязі і апаскі, таму што быў абуты ў новыя бліскучыя

чаравікі, якія атрымаў з дзяржаўнай ласкі, ад дзяржаўнага чалавека, за свае прыкметлівыя вочы. Чаравікі і новыя картовыя штаны. Абнавіўся.

I тут мяне, абноўленага, адразу ж працяў страх, жуда, якіх я ў сваім маленстве дагэтуль ніколі не зведваў. Мяне нібыта паменела, сціснула ці не да тых самых вачэй, якія я толькі што расчавіў. Сціснула не толькі мяне, але, пэўна, і чаравікі, бо яны пачалі ціснуць мне, а былі ж акурат па назе, нават з запасам, на выраст. I сонца ўжо не так ласкава паглядала на мяне, захінулася хмаркай. I тая хмарка лягла, ахінула мяне да нутра. З тае пары і кінуў слязіцца, пацець лапік зямлі, нагледжаны мной. Ці то мой зрок замыліўся і здрадзіў мне. А вочы на роднай вуліцы назаўжды зніклі для мяне. Але значна пазней зноў прараслі. Прараслі і зірнулі, дасталі мяне да пячонкі, толькі ўжо на чужыне. Але пра гэта ў свой час.

А я, урослы ў сваю Трэцюю Падольскую ўскраінную вуліцу, не надта займаў сябе пабочным, надзённа не патрэбным глупствам. Да ўсяго ў мяне пачаў абуджацца іншы клопат. Я пачаў углядацца ў сваю будучыню: кім бы я хацеў стаць у гэтым жыцці. Родзічы – чыгуначнікі, паравознікі, кандуктары, змазчыкі вагонных колаў ды стрэлачнікі. I таму некаторыя з іх у вязніцы. Я ж таксама вышэй качагара, машыніста паравоза, шафёра не сягаў. I ўгрэўна, і дровы будуць, і на пляшку зарабіць можна. Марыў, мроіў, не ведаючы, што ўсё летуценнае, нагаданае заканамерна сыходзіцца і сумяшчаецца ў мітусні і бязладдзі нашага жыцця з наканаваным, што падсвядомае жаданне лёсу – ужо і ёсць лёс. А пасунула ж мяне да такога клопату пра будучае сустрэча з дзяржаўным чорным чалавекам, як я пазней ужо яго пайменаваў. А тады ён мне быў святлей светлага.

Мне толькі здавалася, што я абсевак у полі. Ніхто мяне не чуе, не бачыць і нават не плюе ўслед. Каму трэба – бачылі і плявалі. Дзяржаўнае вока і з-пад зямлі цікавала ўжо за мной. Свой камень спатыкнення хаваўся на кожным маім кроку, пустыя гаманкі, што заносіў я ў міліцыю, некаму і нечаму служылі і ўжо ўпляталіся ў маю наступнасць, якая і звяла мяне з дзяржаўным чалавекам у нядобрай хаце на гнілым рагу.

Памяці на яго аблічча і словы няма. Увогуле павінен прызнацца, што яна, памяць мая, вельмі і вельмі наравістая і няправільная. Як і сам я, мая самасць. Надта ўжо прыхаматлівая і наравістая. Варта было мне толькі нешта аспрэчыць, ад нечага адмежавацца: не-не, ні за што і ніколі, як ужо ці не на наступны дзень я меў ужо за гэта: загану, хваробу, вымову. Усё, чаму я, здаецца, шчыра адмаўляў, спасцігала мяне, ды так, што іншым разам жадаў сабе засляпіцца, закрыцца душой і сэрцам. Але дарэмна. Паратунку не было. Спакушэнне адмаўлення было нашмат больш жывучым і неадчэпным. Ці не ў гэтым уся наша чалавечая натура. А праўда толькі ў адным: баяцца сябе, не даваць волі душы спатыкацца на адвяржэнні, што можа і азначае – быць беларусам, бо надта ж мы ўпартыя і зацятыя, няскораныя ў сваёй шкарлупіна-закараўленай прыняволенасці. Прага волі і праўды ў нас смяротная, ці, хутчэй, прадчувальна перадсмяротная.

Так, у школьныя гады я прызначыў сябе дастукацца, спазнаць праўду, адкрыць сабе і чалавецтву шчасце, вынайсці бяссмяротнасць. Вось так, ні многа, ні мала. Мне здавалася, што ўсё гэта схавана як вечнасць жыда, альбо як вечнае жыццё Кашчэя Несмяротнага ў дупле ці не вячыстага дуброўнага дуба, у якім сядзіць качка. А ў качкі яйка, а ў яйку – іголка. Яе неабходна, разбіўшы яйка, дастаць і зламаць. I адразу праблісне, ажыве ўсё, што патрэбна кожнаму з нас. I я шукаў гэта вечнае, нікім яшчэ не

знойдзенае ў кніжках, як да гэтай пары шукаюць бібліятэку Івана Жахлівага. Школу і падручнікі не прызнаваў. Свет мне здаваўся вялізнай скрыняй, напакаванай кніжкамі. І я чытаў і чытаў іх, як спажываў – не менш пяцісот старонак удзень. На ўроках праз шчыліну ў парце, гуляючы з хаўруснікамі ў пекара, на кароткі час закопваючы кніжку ў пясок каля таго ж пекара, за сняданкам, абедам і вячэрай хатняй ставіў каля талеркі разгорнутую кніжку. Хлябтаў заціруху, паядаў пісанае.

Але ні праўды, ні вечнасці, ні абсалютнай ісціны не дабіўся, не спазнаў. Хутчэй мо наадварот. Усё кніжнае ад мяне адпала, асыпалася, як скрушлівы сухі бярозавы ліст па восені. Засталося толькі непрадугледжанае глупства, як учора, пазаўчора, а мо месяц таму ці нават год і на ўсё жыццё. Хібіла, засціла неадчэпнае дрыгвяна-балотнае, хмызнякова-дуброўна-баравое ды вулічнае, у што я быў ужо да пупа ці нават з галавой укапаны.

Я назаўжды і зусім не прымусова ўведаў, спазнаў, як паўзла, а то і не паўзла, павінна была толькі паўзці па сухой і шэрай сваёй сцежцы, абмінаючы былкі, мадэльна перацятая ў стане, смуглявая пасля фітнэсу на сонцы да свайго мурашніка пад хвояй мурашка. Як яна злосна шчыпаецца, калі схопіш яе пальцамі ці сунеш руку ў яе “хату” – будан з векавога шчыгалля. Усе кусаюцца, каб трошкі большыя – бывай, рука, ужо заспіртаваная і муміфікаваная. Незабыўна, памятна, хаця невядома адкуль і з чаго, як і што думае пра цябе злы непрывязны сабака, хіжа паблісваючы пачырванелым ужо вокам. Але ты ўпэўнена ведаеш, як сцішыць і падпарадкаваць яго сабе, каб хвост мімаволі скруціўся абаранкам, нібыта ў малочнага яшчэ цуцыка. Помніш вяскова-набрынялую знямогу дрэў, бяроз, восеньскі сцішаны шэпт, шолах і сум вечароў, раніц і світанкаў.

Вось гэта нейкім чынам пралезла, убілася ў галаву і засталося, назаўжды захавалася ў ёй. А кніжнае, разумнае, добрае, вечнае, як алгебра і трыганаметрыя, сінусы, косінусы нават у школьных выдатнікаў-зубрылаў ці яшчэ не да першага свіданкавага пацалунку і страты цнатлівасці, адышло, сцерлася, выгарэла амаль датла. Хаця хтосьці яшчэ пярэчыць, сцвярджае: рукапісы не гараць. Гараць, яшчэ як палка, навучаны сваёй і чужой, сусветнай гісторыяй. Супакойся, Міхаіл Апанасавіч, ты проста не дажыў да гэтага, забыўся пра Гогаля. Выпальваюцца не толькі загартаванай сталлю, лазерам, агнём, полымем, але і здрадай нашай нядоўгачаснай памяці.

Вось так не прыняла, не захавалася памяць на маю сустрэчу з чорным чалавекам, дзяржаўным яго словам і вокам. Усё засталося як у тумане, ці то зрэджаным, світальна-грыбным, ці то надвячоркавым, папярэдне выпалена-прадказальным. Змрок, у якім пачынаюць ужо пракудзіць, ажываць пустэльніцкія страхі, ногі губляюць пруткасць і апірышча. Але што было пад імі, пад нагамі. Пафарбаваныя масніцы тады яшчэ вялікая рэдкасць, у нашых хатах – дарэмная трата грошай, раскоша і распуста: падлогу трэба мыць і шараваць дзеркачом да бляску курынага жаўтка ці не штодзень, гэта запомнілася. Гарадскі, пад зялёным сукном, казённага вырабу двухтумбавы стол з прасветам пад хромавыя боты і сіняе суконнае галіфэ, з якога, пагойдваючыся перада мной, з’яўлялася, апранутае пад вулічнае, цывільнае, тулава.

Дакладнай памяці на выраз яго твару, аблічча, словы таксама няма. Мо мае вушы не звыклі да іх, не паспявалі за імі, ці я ўжо тады падсвядома разумеў, адчуваў за імі спакусу, як Адам пад яблыняй Еву, яблык і змея, і абярэжна адхрышчваўся. У красным куце над службовым чалавекам

пагражальна цьмяна мроіўся мне адбітак складзеня абразоў, што, пэўна, зусім нядаўна знялі. Мужчына за сталом пад іх яшчэ нязрушаную плямнасць нешта даводзіў мне праз згусткі коса зрэзаных сонечных променяў і ценяў. Мужчына немаладога ўжо веку, але і не стары яшчэ, сталы, без пэўных рысаў твару, шабельна-востра абструганых ці не маім сполахам і стоенасцю. Даводзіў праз заслону застаялага, закарэлага пылу і курны прах паветра з імгненным іскраным праблiскам лятучага пылу, што мройна трапятаў, трапляючы на сонечны прамень. Як гэта заўжды адбываецца, калі выхапішся з святла ў плывіста-рухомы напаўзмрок, – збег жывога і нежывога, адмерла-колішняга, сённяшняга і, пэўна, трохі будучага, – старога хлява, павуціны прыкаморных сенцаў. Праз шчыліны дзвярэй, скразныя парэпіны бёрнаў сонца, яго скальпель на праніклівы прамень чараўніча гуляецца са з'едзенным ім жа з часам – тленам, пылам і прахам стагоддзяў, то абнадзейна абуджаючы іх, то канчаткова губячы, зводзячы ў могілкавы нябыт. Непраяўлена, адным толькі намёкам адкрываецца некаму ці нечаму, схаванаму ў спакоі старызны і адначасова ў самім сабе, у святле сонечнага праменя.

Абуджаў непраходнае і падманлівае чараўніцтва вечнасці. І гэта непраходнае і падманлівае штосьці ці хтосьці, што не паддаецца вызначэнню, крыж на пузе, як у нас кляліся, невідушчае і нябачнае было стоена, схавана ў той хаце, якая пазбавілася гаспадара і пусціла на яго месца чорнага чалавека. Нешта злепленае і сатканае з аскалепкаў і парэшткаў неўразумеласці, што не ўбачыць вокам і не адчуць слыхам, не выкрыць нават сонечным промнем, варочалася, ціхенька стагнала і цяжка ўздыхала. Толькі дзе – у былым красным куце ля абразоў, са столі, ці пад падлогай, а мо і ўва мне – гэтага я не мог, ніяк няздольны быў уцяміць. Не хапала ні клёпак, ні арыентацыі. Але я ўжо добра, хаця і не асэнсавана, ведаў, хто гэта: невыяўна патаемны дух жытла, уласцівы ўсяму існаму на зямлі. Чыстай кармушцы каровы, у якую яна смачна дыхае жуйкай лугавой травы. Малочнаму, толькі-толькі ўстаяламу сваімі нагамі на жытняй саломе цяляці. Маладому і сталаму ўжо дрэву, асабліва вячыстаму векавому дубу, падворку, траве-мураве, сакатлівым курам і жоўта-жоўценькім куранятам.

Зведаў усё гэта яшчэ ў няўцямным дзяцінстве. Але з цягам часу спакваля пачаў забываць гэтае веданне. Яно адышло зусім ад мяне, калі я падаўся на чужыну і ніяк не мог прынюхацца да яе, не зважаючы на ўсю прыязнасць да мяне. Мой дух жытла ніяк не хацеў звыкнуцца і парадніцца, паяднацца з набытым, нязвыклым мне чужым духам. Яны не пярэчылі адно аднаму, але і не пабраталіся. І таму ці то я забыўся на яго, ці то ён забыўся і пакінуў, збег ад мяне. Значна пазней я ўзгадаў пра яго і часткова набыў, як ні дзіўна, на чужбіне па-за морам-акіянам: ці не далячынь, выдаленасць і адрачонасць свайго, абсалютная чужасць паспрыялі гэтаму. Даводзіцца толькі гадаць, як гуляе з намі прастора і час. У нейкай меры гукнулася, адбылося гэта ў Нью-Ёрку, у так званым жаблоце – супермаркеце для неграў і савецкіх дыпламатаў. Думаю, што гэта ўсё ж было знакавае, сакральнае прадбачанне, прадчуванне хуткай будучыні, праз акіяны і мора навеенае сонечным промнем пакінутай радзімы. Але пра гэта пазней.

А тады... Гэта ж была першая для мяне сустрэча з дзяржаўным чалавекам. У яго асобе сама дзяржава паклала на мяне свае вока. Абрала і вылучыла, як Паўліка Марозава. Так ужо, пэўна, у нас заведзена, нака-

наванае і мройна летуценнае здольны сыходзіцца і сыходзяцца ў хаосе, сумяшчацца ў нашым жыцці. Савецкім працягам таго ж Паўліка і шматлікіх іншых нашых Паўлікаў, таму што захапіўся чытаннем кніжак. Усякіх і розных, якія траплялі пад руку і вока. Вучыцца амаль не вучыўся, чытаў пры сонцы і месяцы, у хаце за сталом падчас абеду, пасвячы карову ў полі і лесе, у школе на ўроку, прарабіў на два друкаваныя радкі шчылінку ў парце. Маёй мэтай было прачытаць усе да адзінай кніжкі ў свеце – *единого слова ради*. Слова адкрыцця. Схаванай ад мяне праўды, набыцця мудрасці, стоенай друкавана ў сусветна вялізнай шафе, як уяўлялася мне на тую пару, скрыні, накшталт зусім мне не казачнага Кашчэя: той, дзе захоўваўся амаль увесь жыццёвы набытак маёй бабулі, яе пасмяротны пахавальны пасаг.

Як ужо казаў, вызначыў сабе штодзённую норму чытання – пяцьсот друкаваных дробнымі літарамі кніжных старонак – і выконваў яе, бо такая ж норма была ў Леніна і яшчэ ў некага з правадыроў. Як гэта ні дзіўна, ў школьныя гады я быў ці не самым вялікім паглынальнікам тагачаснай макулатуры, чым, на вялікі жаль, заняты і сёння: ні больш, ні менш – самы сапраўдны кніжны наркаман. З той розніцай, што сёння з паглынальніка макулатуры я нейкім чынам ці не пераўтварыўся ў вытворцу яе, перараджэнне падобна таму, як з брыдкага бязглуздага вусеня ці балотнай казюркі вылупляецца гожы матылёк ці асвяжальная і астуджальная воку страказа. Так гожыя, але хіжыя, бясконца хіжыя і шкодныя, пра што ў сабе мне цяжка меркаваць. Некалі так прагнучы праўды, сёння я яе баюся і па магчымасці, на жаль, цураюся. Бо надта ж яна жорсткая, не па маёй галаве.

Галоўнае з той колішняй і сённяшняй макулатуры ўражанне і адчуванне зусім не дабрачыннае і дабрадзейнае – праваслаўна-хрысціянскае. У свеце тысячагоддзі і тысячагоддзі бясконца, згодна ўсходніх веравызнанняў, адбываецца, цягнецца так званая, модная сёння і ў нас рэінкарнацыя. Не толькі людзей, але і вякоў, часоў, падзей і народаў, толькі сама прастора чалавека і чалавечнасці сцягваецца і сцягваецца, нібы шагрэневая скура. А рэінкарнаваная гісторыя доўжыцца, доўжыцца і працягваецца ў непамятнасці. Са зменай ладаў, рэвалюцый і бунтаў. Выцягнутая на Божы свет і Божае святло з канібальскай няцямнасці пячор у людажэрнае сярэднявечча. І далей, далей, далей. У бяконцасць нашага роду. Зноў жа, тую ж самую канібальскую людажэрнасць. У сённяшні гуманістычна-цывілізаваны, часам нават рафінавана-адукаваны і вытанчаны дзень. Рэінкарнацыя часу, прасторы і сучасных уладных месій. Цара Івана Жахлівага, імператара Пятра Вялікага, месій і правадыроў усіх часоў і народаў Леніна-Сталіна, фюрэра Адольфа Шыкльгрубера. Гэта толькі адзінкі з тых, хто рэінкарнавана ўзыходзілі і адроджана рэінкарнаваліся, падобна птушцы Фенікс на крыві адзін за адным і адзін ад аднаго. А колькі было іншых, дробных, рэгіянальных, месцячковых, вясковых і нават ворных. Крывавая справа рэінкарнацыі была пастаўлена на канвеер, пэўна, мо нават з большай магутнасцю, чым у самога Форда. Таму што краіне ды і свеце паўсюль і бясконца не хапала герояў. А як адзначыў яшчэ Б. Брэхт горкім усхліпам Галілея: “несчастная та страна, которая нуждается в героях”. Як вядома, у нас героем можа стаць кожны, дзяржава была надта ж плоднай на іх.

Ці не штосьці падобнае, ахвярнае, мо ўжо не аднойчы рэінкарнаванае стоена стагнала, хваравіта дыхала і спрабавала аб нечым папярэдзіць мяне ў той, пазбаўленай гаспадара, службовай хаце. Чалавек нешта даводзіў

нязвыклымі мне яшчэ ў маім узросце словамі. Я чуў і не чуў іх, успрымаў хутчэй скурай даўнавата ўжо не мытага цела, чаму яны і захрасалі там без пранікнення ўглыб, у макацоўбіну, сэрца. Слізгацелі па паверхні кароткай, але ўчэпістай памяці. Учэпістай на захаванне ў падсвядомасці на гады:

– У цябе пільныя вочы. Ты павінен і надалей захоўваць іх пільнасць.

У мяне не было пярэчання гэтаму. Я ніколі не наракаў на свае вочы, не прыглядваўся да іх, у галаве не трымаў, якія яны. Мае – і ўсё.

– У цябе не сквапныя і не хіжыя, чыстыя рукі. Верым, ты не скраў гаманцы. І з іх нічога не ўзяў.

Гэта была праўда, толькі не наконт чысціні маіх рук. Ваду і мыла яны ведалі толькі зрэдзьчасу.

– Добрая, кемлівая галоўка. Ты не выкінуў знойдзенае, данёс куды трэба. Прама ў органы. Трымайся гэтага і ў будучым. Будзь як савецкі піянер Паўлік Марозаў. Ведаеш яго?

– Ведаю, – адказаў я, крыху здзіўлены, хто ж у той час не ведаў Паўліка Марозава, амаль Леніна нашых дзён.

– Будзеш такім, як ён?

– Буду, – без ваганняў прамовіў я. Таму што ўжо ганарыўся сабой. І сапраўды, з такой кемлівай галавой, чыстымі рукамі, пільным вокам, а там было яшчэ нешта лагоднае мне і пра сэрца – мне без дурняў быў угатаваны лёс Паўліка Марозава. Я ўжо ці не рэінкарнаваўся ў яго. Сама рэчаіснасць была скіравана на такую рэінкарнацыю. Сістэма праарабляла гэта па-майстэрску.

Два тысячагоддзі таму пры вывяржэнні Везувія загінулі Пампеі. Заліло вогненай лавай, засыпала попелам. Людзі гінулі імгненна. Выпараліся ў вулканічнай лаве. Замест іх там ўтвараліся пустоты, што захоўвалі форму некалі жывога чалавека. Форму жывога чалавека распазналі сучасныя археолагі. Яны залівалі вулканічныя пустоты гіпсам і атрымлівалі чалавека, які жыў дзве тысячы гадоў таму. Ці не тое ж рабілі і тут, і адносна зусім нядаўна, з жывымі людзьмі, канвеерна выраблялі з жывой біямасы гіпсавых балванчыкаў, адлітых з удзелам творцаў – творчасцю, абвешчанай самім Максімам Горкім як сацрэалізм.

Творцы-песеннікі ўшаноўвалі іх музычна, нотна, творцы-скульптары наставілі гэтых гіпсавых балванчыкаў ці не па ўсёй краіне, адмыслова для мяне і шмат іншых, падобных да мяне. Апелі сваё тварэнне ў вершах, песнях, паэмах, увекавечылі ў каменных ідалах. Вось такі быў сацыялістычны рэалізм.

А самога Паўліка Марозава, як гэта ні дзіўна, не было. Не было нічога і блізкага да створанага савецкімі інжынерамі чалавечых душ. Быў няшчасны, смаркаты і вашывы хлопчык у зрэбных штоніках і кашулі. Дарэчы, хаця і сібірскі хлопчык, але беларус па паходжанні, з Віцебшчыны. І ніякага подзвігу ён не здзейсніў. Была чыста сямейная, без палітыкі крымінальная разборка, пасля якой забілі і ўзвялі на ідэлагічна-бальшавіцкі п’едэстал творцы таго ж сацрэалізму. Павязалі яму чырвоны піянерскі гальштук, са здрайцы роднага бацькі стварылі пакутніка і пачалі гіпсава множыць па краіне. Быў попыт на падобных крывавых ахвярных хлопчыкаў з бальшавіцкага гіпсу. А хлопчыка, да вашага ведама, Аляксей Максімавіч, усё ж не было – адзіна попыт.

Попыт не толькі ў нас, але і ў іншых краінах свету. Пачыналася вывядзенне новай пароды замбаваных і манкуртавых людзей. Адчувальна

не хапала здраднікаў, даносчыкаў, сексотаў. Пушачнага, хай і гіпсавага мяса. Па ўсім, набліжаўся сыход чалавецтва з планеты, і перш-наперш са святога – з разбурэння еднасці і радаводу людзей, разбурэння сям'і. І быў свой Паўлік Марозаў, нягледзячы на розніцу ладаў, але ж блізкасць, роднасць ідэалогій і ў фашысцкай Германіі. З той толькі розніцай, што Паўлік Марозаў-немчык быў цалкам літаратурным героем, мастацкай прыдумкай. Мы ж, як заўсёды, былі наперадзе планеты ўсёй: чаго тут круціць. Інжынеры, падручныя і памагатыя стукнулі абцасамі: яволь.

І што тут адметна, Сталін, не зважаючы на пільную патрэбу станаўлення савецкай міфалогіі, хлусні і падманна як творчага метаду, сацрэалізму і новага ладу – нідзе не абмовіўся і слоўцам, нідзе не ўхваліў, хаця і не зганіў, подзвіг Паўліка Марозава. Каўказская, горская ментальнасць ці семінарысцкая рэлігійная адукацыя? Так і было. Усё зрабілі за яго творцы, мастацкая інтэлігенцыя, інжынеры чалавечых душ, праўдарубы, мысляры і філосафы, рупліўцы народнага шчасця і долі. Гітлер таксама стоена прамаўчаў пра свайго Паўліка-немчыка, як стоена прамаўчала ўвогуле ўся нямецкая нацыя. Адчулі сорам ці ад безумоўнага нахабства і падмены паняццяў перахапіла дых?

А я і мае равеснікі, нягледзячы на наша сіроцтва, безбацьковасць – не было каго прадаваць – нястачу і ўскраінную зладзейкаватасць, ці не ўсе раўняліся на Паўліка Марозава. І я ці не быў ужо рэінкарнаваны ў яго. Мяне апраменьвалі ім, рыхтавалі да гэтай рэінкарнацыі. Я прагнуў... І я не ўпарціўся, не супраціўляўся гэтаму. Такая, пэўна, была наканаванасць, нарачонасць, і не толькі мне, але і новаму, здаецца, веку, новаму міленіуму, прадчуванне якога, падобна камунізму, зданямі блукала па планеце, пачынаючы ўжо выпальваць дух і душу чалавека і чалавецтва, пачынаючы з дзяцей, менавіта з мяне.

Новы век і час, падобна кракадзілу, зазыўна разяўляў пашчу на трусоў. І я хацеў увайсці ў яго пашчу. Увайсці гераічна. Як Паўлік Марозаў, як наш разведчык Мікалай Кузняцоў: непрададзеная славянская шафа была паролем маіх хаўруснікаў. Я хацеў быць шпіёнам у логаве ворага – разведчыкам. Адно толькі стрымлівала мяне: калі выкрыюць, ці вытрымаю катаванні. Не, выразанне зорак на целе, агонь і тушэнне цыгарэт і цыгарак на маім жываце, проста пабоі, не сумняваўся – вытрымаю. У нейкай меры я ўжо прайшоў праз гэта. Балюча, непрыемна, але цярпець можна.

А вось як я буду паводзіць сябе, калі мне пачнуць заганяць пад пазногці іголкі ці тыя пазногці здзіраць, тут я сумняваўся. Адна справа, калі ты выпадкова саб'еш пазногаць аб корань ці корч. Ну, падумаеш, адзін жа толькі, пасыпаў попелам ці па...цаў на яго і пабег далей. А тут дзве рукі, дзве нагі і столькі пальцаў, і на кожным пазногці, кіпці. Не вытрымаю, выдам ворагу ўсе савецкія сакрэты, калі не зайдуся і не сканаю адразу. І я паціху пачаў сам катаваць сябе, выпрабоўваць болем пашкамутаных і здзёртых пазногцяў, а спакваля і агнём. Да іголак не даспеў, баяўся іх, ды і ў дэфіцыце яны тады былі – бацька ўсяго нічога з пераможанай Германіі прывёз, схаваўшы ў мыла.

Але болю хапала – ад выспяткаў і ўшчуванняў з усіх бакоў. І проста жыць – патрэбны былі і мужнасць, і воля. Тым больш, калі твая мэта – вырасці шпіёнам. І я, пэўна, не здрадзіў бы ёй, ні схібіў. Але адбылося тое, што адбылося. Толькі тут наканаваная ці зададзеная некім насуперак мне станцыя прызначэння майго лёсу, жыццёвага, вулічнага, крута памяняла-

ся. Мой нехапатлівы лёсавы рабочы паяздок раптоўна набраў хуткасць і экспрэсам панёс мяне ў невядомасць і нязведанасць: ад роднай хаты, у беспрытульніцтва. Так здарылася. Так згуляла са мной мая доля і прага да чытання, непрадказальнасць памкненняў і непраходнага точыва кніжнага чарвяка, з якім я датачыўся да Аляскі. Вычытаў, что яе аддалі на дзевяноста гадоў у арэнду Амерыцы. І тэрмін арэнды ўжо зусім хутка заканчваўся.

Я вырашыў крыху апярэдзіць час. Пачаць свой ратны подзвіг на краі зямлі – адвечныя нашы айчынныя і паляшуцкія памяркоўныя выкрутасы, хітрыкі і выбрыкі, з якіх здзіўляўся сам Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя, усклікнуўшы прыкладна так: неспазнаны гэты народ, беларусы. Душыш іх, душыш, а яны маўчаць, трываюць, церпяць. Я ж, калі адчуў, што ўжо няўсцерп, маўкліва, ці не па-агліцку, знік са сваёй наканаванай мне прасторы і будучай нарачонасці. Даверыўся цягніку і спадарожным вакзалам.

Адчуваў, падсвядома разумеў, што гэтая наканаванасць ужо легла, аблытала мяне, і ці не назаўсёды. І гэтая мая падсвядомасць спраўдзілася. Мяне прыкмецілі і павялі не толькі ў маленстве. Дзяржаўнае вока было на мне на ўсё свядомае жыццё, думаю, да сённяшняга дня. І я ніколькі не імкнуўся пазбавіцца яго. Наадварот, ішоў на збліжэнне з ім, а часам і на сяброўства. Хадзіў у грыбы, ездзіў на рыбалку. А часам, чаго граху таіць, ішоў насустрач яму. Правакаваў і выпрабоўваў: а што будзе, калі?.. Так палеская ластаўка, паэтка Жэня Янішчыц, якая да мяне пабывала ў ААН, папярэджвала, каб я перасцерагаўся там: усе пільнуюць, сочаць адзін за адным. Я вырашыў праверыць гэта. Напісаў нейкую правакацыйную лухту, скруціў і засунуў у пераплёт тэлефоннага даведніка. Прарабіў гэта ранкам. А ў абед праверыў. Маёй лухты ў пераплёце ўжо не было. Мела рацыю Янішчыц – чытаюць савецкія чукчы ў ААН. Во дзе і ў каго пільнае вока. Але я толькі пераканаўся ў гэтым і застаўся нязменна верным сабе. Як і раней, піў са сваімі даглядальнікамі гарэлку і ні ў якім разе і ў галаве не трымаў пратэстова паўстаць, бо, як казала Ганна Ахматава, сваіх даглядчыкаў заўсёды трэба ведаць у твар і паіменна. Ні ў якім разе не скардзіцца, пазбягаць цурацца і выдаляцца. Бо знойдуць і прызначаць іншых, пра якіх і падумаць не зможаш – лепшага і самага вернага твайго сябра, каторы ведае ўсё пра цябе да донца, пра што ты сам ужо забыўся.

Я інтуітыўна трымаўся гэтага мудрага, ці не паляшуцкага нават, запавету. І ў мяне былі цудоўныя, спадзяюся, адносіны з дзяржаўным вокам. Неаднойчы мне нават прапаноўвалі ўславіць яго. Мажны генерал разам з палкоўнікам КДБ і з пісьменнікам паклікалі да сябе. Накрылі паляну, якая, не буду хавацца, уразіла мяне. Не багаццем стала, хаця і гэта было, – арыстакратычнасцю: крышталь, фарфор ці не палацавыя, кітайскія. Крухмальныя настольнікі і сурвэткі. А пітва заморскага – хоць захлыніся. Да ўсяго няспынна сярод застолля спакушалі рыбалкай, сакрыта бязлюдным востравам і прыватным, толькі для мяне, катэрам, каб толькі я пагадзіўся на кнігу ці сцэнар аб іх справе.

Не ведаю, што мяне спыніла, вымусіла мяхенька, але няўмольна адмовіцца, што было зусім не ўласціва мне, дзетдомаўцу і палешуку. У адрозненне ад земляка А. Грамыкі – містэра «Не», я быў хлопчык «Так». Мо менавіта арыстакратычнасць паляны і, чаго ўтойваць, прывабнасць і прага прыватнага вострава з асабістым катэрам. Нязвыкла гэта мне было. Чагонебудзь прасцей бы, пралетарска-лапцевага, дзетдомаўска-фабзайцаўскага, ад родных асінаў і аўсоў... А так. Вось чаго няздольны быў зразумець у

беларусах Лаўрэнцій Паўлавіч: цураліся яны костак з барскага стала, хаця і ім воцат на халяву быў салодкі. Толькі свайго воцату ў іх было хоць заліся і запіся. А яшчэ яны добра ведалі: апроч косткі з барскага стала ім ніколі нічога не выпадзе. Ну і пануйце, пакуль кутніцу не выпрэ.

Другая сустрэча, усутыч, вока ў вока, адбылася крыху пазней і ўжо амаль афіцыйна, без паляны. У бярлозе, у логаве іхнім. У груваствскім гмаху ці не на квартал галоўнага сталічнага праспекта. Гмах быў светлых, калыскавых колераў, фарбаў дзіцячае нечаканасці, але прыгнятаў велічнасцю, спалучэннем савецкага і нямецкага ампіру. Пад пільным каменным ці бронзавым прыглядам у скверы насупраць у нейкім родзе і нашага земляка Ф.Э. Дзяржынскага. Мяне і двух маіх сяброў-кіношнікаў, сцэнарыста Фёдара Конева і рэжысёра Юрыя Марухіна, пазвалі і запусцілі праз парадныя дзверы, пра якія я дагэтуль думаў, што яны ўвогуле ніколі не адчыняюцца і праз іх «нет ходу никому». Такімі яны былі ўнушальна велічнымі, што нават прыступкі, пэўна, за час свайго існавання не зведалі чалавечага абутку. А ў сярэдзіне, да седала чалавека ў форме, вартаўніка, часавога, было добра выхаджана. Ногі ды ногі па камені тут патупалі. Калідор разбягаўся на два патаемыя крылы-рукавы. Нас пасля праверкі прапускоў і некалькіх тэлефонных званкоў па таксама добра выхаджанай дывановай дарожцы павялі налева. У канец калідора ўніз, у напаўпадвал. Ад чаго ўвушшу і галаве адразу зрабілася вусцішна. Асабліва пасля таго, як пстрыкнуў замок у дзвярах.

Нас замкнулі. Папярэдне, праўда, патлумачылі, што мы павінны рабіць, дзеля чаго пакліканы сюды. Нам быў аказаны гонар і давер. Ад нас чакалі, хацелі амаль таго ж, чаго хацеў сябар Астап Бэндэр ад сяброўкі яго дзяцінства. Мы павінны былі напісаць сцэнар пра работу нашых гераічных органаў. Забяспечылі нас неабходным фактычным матэрыялам.

Матэрыял быў выкладзены на стале перад намі і здаўся мне так сабе, заезджаным і разыходжаным. Ці не спрэс добра абсмоктаны іншымі таленавітымі творцамі таго ж сацрэалізму. Зладзейская падрыўная дзейнасць супраць нашай краіны featured рознага разліву імперыялізму і іх пасобнікаў-адшчапенцаў, здраднікаў, варожых выкармкаў і нелюдзей, у большасці НТСаўцаў (Народно-Трудовой Союз), УПА (Украинско-повстанческая армия).

У падмацаванне гэтай іх варожай дзейнасці нам была дадзена кніжка. Без назвы і прозвішча аўтара і нават без вокладкі, старонкі якой былі сшыты суровай канцылярскай ніткай. Я пагартаў кніжку. Змест яе быў прадказальна знаёмы мне. Знаёмы нават не кніжна, а вусна і крыху нават як відавочцу, яшчэ з дзетдомаўскіх часоў.

Недзе ў сярэдзіне пяцідзясятых гадоў, калі я дарэшты яшчэ не развітаўся з надзеяй вырасці героем, адбыцца шпіёнам-разведчыкам, у нашым дзетдоме было толькі і гаворкі пра падкопы капіталістычных імперыялістаў. Пра гэта гаварылі падчас палітінфармацый лектары, якія спраўна праведвалі і адукоўвалі нас, выхавацелькі. Ды і самі мы тое-сёе бачылі і чулі на свае чуйныя вушы і пільныя вочы. Шары і зонды, як сёння НЛА – неапазнаныя лятальныя аб'екты – лёталі над нашым лесам, хмызамі і палеткамі, а некаторыя з нас кляліся, што і над дзетдомам. Шпіёнілі і разведвалі, на выгляд, дык зусім як метэаралагічныя зонды. Але замест метэаралагічных прычындалаў – лістоўкі з заклікам змагацца з савецкай уладай. Лістовак я тых не бачыў і не чытаў. Хаця адзін, спадзяваліся, з тых капіталістычных шароў ці зондаў мы адлавілі, знайшлі ў лесе. І каб ён

дастаўся некаму аднаму з нас, прыдумалі б, куды і як яго ўжыць. Стужак залатых ці сярэбраных было на ім зашмат – хоць і капіталістычнае, але – багацце, скарб. І гэты нябесны скарб з-за таго, што шмат было сведак, жадаючых займець яго, не дастаўся нікому з нас. Аддалі, аднеслі каму і куды трэба. І атрымалі толькі дзякуй.

Вось усё гэта я і прыгадаў, гартаючы патрыятычна-выкрывальную кніжку. Узгадаў свае дзіцячыя жаданні стаць шпіёнам і шкадаванне таго, што залатая ці сярэбраная стужка мінула мае рукі. Мо і таму на нямое пытанне Марухіна і Конева адмоўна пахітаў галавой. Гаварыць услых мы ўсё ж не наважваліся. Замінала і адчуванне ўстановы, у якой мы знаходзіліся. А больш – падвальнае памяшканне, дзе мы сядзелі пад замком, забранае кратамі акно, праз якое бачны былі адны толькі ногі прахожых. Ногі міналі акно нячутна нам, без слоў абыходзіліся і мы, моўчкі націснулі загаданую нам кнопку, калі ўсе ўтрох прыйшлі да згоды.

З'явіўся чалавек у цывільным. Зразумеў, пэўна, наша рашэнне па знешнім выглядзе. Усё ж яны прафесіяналы, не дарэмна свой, а мо і наш хлеб ядуць. Ён не стаў нас прасіць і ўгаворваць, расходаваць сябе на пустыя словы, зноў жа – прафесіянал. І мы разышліся палюбоўна. Нас як завялі, так і выпусцілі праз парадныя дзверы. На каменныя няходжаныя прыступкі, на якіх мякка прылегла паўдзённае сонца.

Што мяне непадробна ўразіла падчас першай і другой сустрэчы са службоўцамі канторы, зарубкай легла на маю спраўджаную і няспраўджаную будучыню – гэта тое, што мяне бачылі, прыкмецілі, і дзяржаўнае вока нязводна ляжыць на мне. Дзівіла адно: што я кожны раз вылузваюся, як Маруська з-пад Івана. Мяне пільнуюць, вядуць, але ж няма прапановы нават у патрыятычна-савецкія шпіёны, стукачы. А ў мяне ўжо столькі назапашана адгаворак. І ўсе яны застаюцца нявыкарастанымі. Нават некаму шчыра прызнацца, як гэта прараблялі за мяне і да мяне шмат і шмат іншых у тым, што я таксама няздольны трымаць таямніцу, размаўляю ў сне, нетрыманне языка – балбатун, знаходка для шпіёна і г.д. Было крыўдна пакідаць гэта нескарыстаным. Нечым я ўсё ж не падыходзіў ім. Не бачылі яны ўва мне перспектывы. Не бачылі свайго, нягледзячы ні на што, нават і пасля таго, як падаслалі двух дзяўчат, калі я вясной быў адрэзаны паводкай ад усяго свету. Сядзеў у глухой палескай вёсцы, нешта крэмзаў сваё, пісаў. Дзяўчаткі прарваліся праз маўклівую тэлефонна-вясковую сувязь, праз занядбаныя і разбураныя масткі – пешкі мясілі гразь, ішлі пяць кіламетраў. І ўсё толькі дзеля таго, каб займець, папрасіць і давезці да сталіцы, дзе яны жылі, пару аркушаў маёй пісаніны.

Мне было шкада тых аркушаў, таму што пісаў я надта ж дробнымі літаркамі: з аднаго аркуша выходзілі тры ці чатыры друкаваных. А памяці на напісанае не меў – кожны раз пры перапісванні з мяне лезла, перла зусім іншае. А галоўнае, я баяўся. Баяўся сурочыць яшчэ не народжанае, што толькі-толькі папярова з-пад рукі прасілася на свет. Сялянская прывычка жыць адкрыта і таемна. Самае дарагое, усё сваё насіць у сабе. Але я паважаў подзвіг дзяўчат і разумеў, нешта ведаў пра графалогію. Некаму карціць патрэба зведаць пра мяне таемнае, мой нораў і характар. Я ахвяраваў напісаным, праводзіў дзяўчат да аўтобуса. Дарэчы, у Мінску ўжо яны вярнулі мне маю пісаніну пад песні і скокі, калі я абіраў бульбу, каб накарміць іх. Хаця і дасціпныя, гераічныя былі дзяўчаткі, але не з працавітых.

Цяжка сказаць, якія вынікі былі зробленыя там з трох пісаных ад рукі

аркушаў паперы. Толькі вывучалі мяне, вывучаў і я. А часам настыраўся і правакаваў: уласцівасць натуры ці не кожнага з нас, каб спазнаць цану сябру і ворагу, ці яшчэ, як кажуць, абас...аць бліжняга і тым задаволіцца. Адкуль растуць ногі ці не ўсіх нашых высакародных і нізкіх намераў, а таксама і паскудстваў. Вось і я змушана ці не змушана трапіў у такую пастку чалавекаў. Напрыканцы вясны мая жонка нарадзіла сына. А кветак у тым горадзе, хаця і на поўдні Заходняй Сібіры, зусім на той час не было. Увогуле час на кветкі тады быў суровы. Адзінае месцейка, дзе меліся, квітнелі рознакаляровыя капіталістычна-варожыя галандскія прыхадні цюльпаны – на клумбе паміж двума будынкамі. Абкамам партыі і Камітэтам Дзяржаўнай Бяспекі. Ды і тое толькі таму, што чакалі візіту Генеральнага Сакратара ЦК КПСС М.С. Хрушчова. Дзеля гэтага паміж абкамам і КДБ пабудавалі сціпленькі, але надта гожы церам-церамок з вокнамі на замежную галандскую прыгажосць.

Сын нарадзіўся ў ноч на свята памежніка, у адзінаццаць гадзін. А апоўначы, у дванаццаць ужо недзе, я парушыў усе межы камуністычнай прыстойнасці – латашыў урадавую дзяржаўную клумбу з цюльпанамі. Ці не пад вокам самога Генеральнага сакратара ЦК Камуністычнай партыі краіны. Не саромеўся, вокны ўсіх наглядальных будынкаў былі слепашарымі і не падганялі мяне. Букет ці венік атрымаўся хвацкі. Толькі нядоўга ён цешыў сынава, жончына, а таксама і маё вока.

Мяне ўзялі ўжо ў сярэдзіне наступнага дня. Як яны выйшлі на мяне – ніводнай жывой душы паблізу, а да наглядальных камер яшчэ амаль паўстагоддзя, і ўсе вокны "заслепленыя". Але ўзялі. Радзіма пабачыла, пачула і пазнала. Нават у сібірскай начы. Таму, пэўна, вока і вуха дзяржаўнымі і названы.

А я займеў магчымасць трапіць ці не ў сярэдзіну гэтых дзяржаўных пільных органаў. Мяне памясцілі ва ўнутраную камеру следчага ізалятара КДБ. Такі гонар выпаў мне і яшчэ некалькім маім хаўруснікам, дзекабрыстам, як іх тады называлі, дробным парушальнікам парадку, – указ аб іх пакаранні з'явіўся ў снежні – таму, што ўсе іншыя месцы іх утрымання былі перапоўненымі, а часткова – у рамонце. Зашмат было нас, дзекабрыстаў, у Сібіры і ў хрушчоўскія часы. Такім чынам я атрымаў магчымасць вывучаць жыццё ўстановы, якая цікавіла мяне, шлункава і вантробна.

І ці не адразу ж расчараваўся. Прабачце, спрэс неймаверна клаповы гадавальнік і расаднік. Хаця я даўно звыкся і зжыўся з гэтымі вестунамі і сведкамі галоты і нястачы, крывасмокамі ліхалецця. Але тут іх было процьма, раць незлічоная. Абуджалася як па горне ці будзільніку з надыходам ночы. Рухалася на ўсё таксама рухомае рудой татара-мангольскай ардой са шчылін, са сценаў, столі і немаведама адкуль, дзе месцілася, пражывала, пасвілася і пладзілася. Мы злазілі з нараў, спаўзалі з сеннікаў на падлогу. Але і там не было ратунку.

Увогуле, канечне, цярпіма. Мы не панскай пароды. Клапы ў той час накшталт сённяшніх эмігрантаў хадзілі па жытлу чародамі, вандравалі са старых паслярэвалюцыйных баракаў-клапоўнікаў у новабудоўлі, так званыя хрушчоўкі. І гэта не перабольшванне, не дзеля прыгожага слоўца. Такія валацужныя марш-кідкі праraбляялі ў пэўны час не толькі клапы. Пераходзілі з аднаго будынка ў другі прусакі, мышы і іншая набрыдзь і пошасць на чалавека. А часам, чаго хавацца, іх падкідвалі ў новабудоўлі і будаўнікі, каб навасёлам жыццё здавалася не цукрам.

Такім чынам, на маю думку, набрыдзь гэтая і пошасць у чалавеку, з'яўляюцца тады, калі сам чалавек стаіць на парозе адчаю, страціўшы веру, надзею. Якраз тады і ачуньвае, прачынаецца, уздымае галаву ўсё тое, што мы завем набрыддзю, пошасцю і мярзотай. Усе эпідэміі, усе найвялікшыя пакуты чалавецтва, халеры, язвы, іспанкі, чумы – у часе ліхалецця, падзення чалавечага духу, вартасці, маралі і чалавечнасці. На людской крыві і з крыві зачынаюцца і нараджаюцца ўсе стоеныя да гэтага крывапіўцы, крывасмокі і людажэрцы. Тыя ж клапы, прусакі, правадыры, месіі, гнюс – камары і мошкі, а ў нашы дні яшчэ нечакана, паўсюдна апанавалыя наваколле кляшчы.

А найбольш паказальна – вошы. Ваенныя, пасляваенныя, турэмныя, гарадскія. Дахторка-тэрапеўт, яўрэечка, божы дзьмухавец у акулярах, рассказвала:

– Звялі ўжо іх. Жыццё наладжвалася, і раптам прачнулася, а галава ці не сівая, шэрая, і валасы варушацца. Вошы. Адкуль, з чаго? Ды столькі, што ў вайну не бачыла. Прынеслі газету, чытаю ў “Праўдзе”: “Убийцы в белых халатах”.

Вось так жывуць, пажыццёва пасуцца і тлусцеюць на нашых ахвярных свету целах паразіты. І тут мы бездапаможныя, каб штосьці перамяніць. Гэта параджэнне нашай вечнай пакутнай юдолі і Галгофы. Наш крыж. Усё так, але, як кажуць, за дзяржаву крыўдна. А дзяржава, чалавек з ружжом і нават атамам, ядзернай зброяй забіць, перамагчы ні камара, ні вошы, ні клапа няздольны.

Чалавек у пагонах – сіла і моц, твар дзяржавы. Але ў маім выпадку відавочна пакусаны клапамі, хаця і з уласцівым ім падманным пахам каньяку. Да ўсяго разам з намі, дзекабрыстамі, я – за любоў да жонкі і сына, кветкавы дзекабрыст, мой зямеля беларус па прозвішчы Весялуха, наадварот – за нянавісць, нелюбоў да цешчы: падцікаваў, калі тая пайшла ў прыбіральню, падпёр дзверы калком і падпаліў іх. Іншыя не памятаю, за што і чаму. У адным пакоі ці камеры знаходзіўся і супрацоўнік КДБ з выбітным славутым прозвішчам – Лапацін. Я чамусьці звязаў яго са знакамітым нарадавольцам Германам Лапаціным, сядзельцам прыбайкальскай турмы. Адукаваны быў дзекабрыст, не раўня нам, дробным хуліганам раства Хрушчова. Дасціпны. Мне было цікава наглядаць за ім, як мроілася і здавалася мне, ажылым пакутнікам царскага рэжыму, хаця цяпер і службоўцу карных органаў савецкай улады. Знешне нічога карнага і пакутнага ў ім не было, больш дарэвалюцыйнага пародна-дваранскага, што мо найбольш займала і цікавіла мяне – спалучэнне неспалучальнага, несумяшчальнага. Як гуляюцца з чалавекам час і гісторыя...

І ў мяне была неасэнсаваная, падсвядомая цікаўнасць пралетарыя да нечага незвычайнага і незразумелага, што праяснілася мне значна пазней. Цікаўнасць і ўзвядзенне на п'едэстал, абагаўленне як усіх і ўсяго, што было над намі, па-за маёй сірочай вуліцай, што зводзіла нас да вінцікаў, гаечак, болцікаў і шурупаў. Так мы шурупілі па сваёй ахвоце, праціналіся верай і святасцю свайго прызначэння. І я тут ні ў якім разе не быў выключэннем, без кукішаў у кішэні, верны і нямы, як усякі злодзей, законапаслухмяны да зацятасці ва ўсім, апроч, зразумела, крадзяжу. Больш за тое, і тады, і значна пазней, калі гэтая вера пачала хістацца, я заставаўся ўпэўнены, што, толькі захоўваючы яе, мы захаваемся. Адродзімся і выжывем. Ні на што іншае спадзявацца ўжо было немагчыма, позна. Адзінае апірышча. Адзінае апірышча – КГБ, кантора глыбокага бурэння, дзе яшчэ захавалася,

думаў я, савецкая ўлада. Адзінае, каб толькі не клапы. Гуманнае катаванне іх нашэсцем уначы ў нашым і іхнім бяссонні. Удзень жа яны адпачывалі, спалі па шчылінах.

Капітан Лапацін, па ўсім, як сёння кажуць, з батанікаў, у акулярчыках і пры гальштуку, назіраючы за нашым пралетарска-дзекабрысцкім каросллівым чуханнем уранку, спачуваў:

– Вампіры. І на падлозе ад іх няма ратунку. Адзінае выратаванне – яднанне, зліццё з імі. Спаць разам з імі, у шчылінах і на сталі. Тады яны прымуць вас за сваіх.

Слушная, вартая канторы глыбокага бурэння парада, ды каб парадамі і радамі можна было аберагчыся ды ацалець.

Але мне здаецца, справа была не толькі ў гэтым. Клапы, як і вошы, – параджэнне адчаю, прадбачанне зрухаў і перамен у краіне, грамадстве, у прыватным жыцці. І не заўсёды ў лепшы бок. Зусім не ў лепшы. А зрухі тыя ўжо наспявалі. Толькі людзі – не клапы і не вошы – не разумелі іх. Ім здавалася, адліга толькі пачынаецца, а наперадзе ж яшчэ вясна і лета.

У самім жа паветры, падобна, ужо завісла адчуванне няпэўнасці і хісткасці. Зямля прагнула новага духу, дыхання, жытла. Бо надта ж нахабнічала, скуллем выпірала падманная надзённасць. Час і прасцяг паціху пазбаўляліся раскрыленай смаркатай шчырасці і рамантыкі, рыхтавалі ім пахаванне і сціплыя хаўтуры. Бо менавіта ад іх і сыходзіла найвялікшая кроў, на якой узышло дваццатае стагоддзе: рэвалюцыі, бальшавікі, Сталін, Гітлер, Гарбачовы. Ельцыны. Дабрадзеі і рупліўцы планетарнага ўсенароднага шчасця прыканчвалі, забівалі другое тысячагоддзе ад народзінаў Хрыста, тапілі яго ў крыві, мярцвілі краіны, народы, іх мовы і словы. Пазбаўляліся менавіта словаў, іх сапраўднага сэнсу і моцы. Каб ужо на самым пачатку трэцяга тысячагоддзя ці, праўдзівей, напрыканцы другога загарнуць, аблытаць палітычным балабольствам. Упакаваць у вайсковую форму з пагонамі і пры лампасах. Якія не трываюць думкі і пярэчання – пад вартай і наглядам аўтамата Калашнікава. Салаўямі генеральных вайсковых штабоў, казкамі і казачнікамі гарматнага мяса. Элачка-людажэрка можа адпачываць. Слова змарнела і змізарнела, выкрыўшы бездапаможнасць, духоўную спустошанасць, дэбільную дэградацыю творцаў і іх творчасці, гатоўнасці служыць дадаткам пры тых жа аўтаматах Калашнікава. Слова пайшло ўпрочкі і ці не ўвогуле з зямлі – пасланнем SOS, у бежанства сусвету, куды імкнуў, кіраваўся і касмічны карабель “Зямля” з экіпажам у сем мільярдаў чалавек.

Але Калашнікаў і на Млечным Шляху Калашнікаў. Згвалтаванае, пазбаўленае радаводнага сэнсу слова адлавілі і на Млечным Шляху, закавалі ў кайданы і замкнулі ў турэмных камерах па вязніцах і засмучаных без ахвяр, пачынаючых парахнець ужо ГУЛАГах. Зняволілі, таму што раней ім дабіваліся і шукалі праўду. Цяпер жа тую праўду прыспеў час хаваць ад набытага ў стагоддзях слова і піплу.

І, як ні дзіўна, сапраўдная радаводная вартасць зніклага на волі слова акрыяла, захавала сябе менавіта ў зняволенні, у новастворанных лагерах, турмах, следчых і штрафных ізалятарах, дзе за яго нявольнікі патрабавалі адказнасці. Інакш – пашчу парвуць, апусцяць, пеўнем паселяць каля парашы.

Яшчэ паўтара стагоддзі таму Генрых Гейнэ прарочыў сваёй радзіме: там, дзе паляць кнігі, рана ці позна будуць паліць людзей. Крыху перайначыўшы яго, пра сённяшні свет можна сказаць: там, дзе знікла ў вязніцах слова, знікне, як у прорве, і чалавек. У пацвярджэнне гэтаму і

М. Карамзін, даследуючы расійскую гісторыю і замілаванне расіян самадзяржаўем, самадурствам і людажэрствам з эпохі Івана IV Жахлівага, пісаў пра своеасаблівыя якасці, прарослыя ў той эпосе: “Апрычніна – гэта зграя голаданосных насякомых, якая паднялася, скіравала і памкнула ў глыбіню, не назад, а наўздагон, наперад расійскай імперыі, і ці не чуем мы сёння, да гэтага часу, трэск крылаў гэтай саранчы, ці не лётаюць і зараз гэтыя насякомыя, чапляючы нас, ранячы”. Як гэта сучасна з пункту гледжання на клапоў, прусакоў і кляшчоў?

Пытанне зусім не рытарычнае, на засыпку, як цяпер кажуць. Таму што сапраўды няшчасная тая краіна, дзе бяруць верх голаданосныя. Апрычнікі і аўтаматы Калашнікава, месіі, героі і каты. І няма чаго хавацца і хітрыць перад самімі сабой. Сверб героя і гераізму ішоў за мной з дзяцінства. Носьбітам яго было ці не ўсё пакаленне, да якога я належаў, выпальваючы, спапяляючы на ўсё жыццё чалавечую вартасць і годнасць, сумленне і званне чалавека. І як сталаму сёння расіяніну не пазбавіцца адчування сваёй імперскай ролі старэйшага брата, так нам – пакланення яму, часу, яго перакуленасці і перавернутасці.

А мы хоцькі-няхоцькі цешым сябе сваёй выключнасцю, прыналежнасцю да цароў прыроды. А на самой справе з думкі, погляду і адносінаў да нас тых жа старэйшых братоў мы ці не тыя ж прусакі, клапы голаданосныя на іх дзяржаўным целе. Верныя, як аўтамат Калашнікава і Мухтар. За што нас прывучаюць і пагладжваюць па галоўцы. І кожны божы дзень аздабляюць святам з бразготкамі, забаўкамі, цацкамі і лялькамі. Напышлівымі брахлівымі прамовамі і пажаданнямі: жыць хоць і бедна, але нядоўга.

І хаця сёння модна і выгодна нават сцвярджаць сваю абачлівасць, свой даўні розум, змаганне і пратэст супраць так званай саўковасці (брыдкае, нахабнае слова): я, маўляў, з маленства змагаўся з сістэмай і савецкім ладам – нават у піянеры адмовіўся ўступаць. Прыкра ўсё гэта і хлусліва. Уступіў бы, не застаўся неахопленым, бегам пабег бы, як сёння бяжым на ўсе святы і парады. І якім бы стаў палымяным і зацятым юным ленінцам – яны ўсе такія з падобных вальнадумцаў. Прыкра ўсё гэта, хлусня. Гэткія голаданосныя пярэваратні, Паўлікі Марозавы, выдатнікі найноўшай школы сённяшняга прытворства і двурушніцтва. Паўлікі Марозавы навыварат. Спажыўцы саміх сябе, свайго сумлення і годнасці. Прыстасаванцы. Ужо існыя гіпсавыя бажкі.

А мы былі пасля кастрычніцкага землятрусу шчырымі Паўлікамі з выпаленым чалавечым зместам, нутром, якое залівалі гіпсам, вырабляючы манкуртаў і замбаваных балванчыкаў. І чаму толькі былі? Тое, што ўжо было, не знікае без следу ў часе і прасторы, гоніцца за намі па цьмяных калідорах беспамяцтва абылганых эпох і стагоддзяў, замбавана выходзіць з пагостаў і кладаў нашых папярэднікаў – ці не таму па праваслаўным звычаі магілы нябожчыкаў неабходна замыкаць, каб не выпусціць вонкі іх помсту і зло, што займелі яны за свой зямны век.

Ці не таму на другой палове свайго сталага існавання на краі ці пачатку свету маё дзіцячае летуценна-мройнае беспамяцтва дастала, адлавіла мяне. Спачатку крадком, знакава. Вокам са старажытнай піраміды ONE DOLLAR – амерыканскай аднадаляравай купюры. Да гэтага я замежных грошай у руках не трымаў. Не бачыў, і таму бязмежна ўразіўся, калі даляравая зеляніна нагадала мне нешта надта ж знаёмае. Я не паверыў сваім вачам, убачыў ужо бачанае на пачатку свайго жыцця і амаль пад сваёй хатай.

Бачанае, прарослае на маёй паляшуцкай Падольскай вуліцы, выпрабавальна назіральнае за мной, маёй вуліцай і хатай вока. Лупатае, пільнае, як і на даляры. Я ж некалькі дзён сачыў за ім, гадаючы, адкуль яно ўзялося, кім спаслана і каму належыць. Чакаў, хто нехта ці нешта вылупіцца, узыдзе з зямлі, пакажа сябе. Не дачакаўся, схібіў па дзіцячай натуры.

Расчавіў тое вока, утаптаў у глыб. Хаця далося гэта не без стратаў. Расчавіў новымі чаравікамі, набытымі на грошы, пакладзеныя мне дзяржавай і дадзеныя чорным чалавекам. За пільнасць, чысціню рук, гарачае сэрца, за тое, што я здабыў свой камень спатыкнення, гляджу сабе пад ногі – новыя чаравікі і новыя крамныя штонікі з корту. Узнагарода і прэмія – ці не мае першыя трыццаць сярэбранікаў, укручванне ў вечную гульню. Трыццаць сярэбранікаў, якія абяцаюць пераліцца ў будучыні залатымі чырвонцамі. Шэра-зялёнае раструшчанае вока скаланула мяне да дрыжыкаў. Але згінула. Згінула тады. І вось яно зноў ужо на чужыне пазірае на мяне. З мінулага, будучага, каб ведаць. Каб ведаць. І мне прыгадваюцца розенкрэйцэры, ілюмінаты, масоны-муляры і іх усёісныя калісь ложы. Няўжо яны з таго свету адсочваюць час, цікуюць ужо за вёскамі і вясковай галотай. Выйшлі з незамкнёных магілаў і могілак гісторыі, каб ашчадзіць, папярэдзіць ці ўжо канчаткова знішчыць нас і ўладарыць светам.

Няўжо і я спазнаўся з імі? Няўжо яшчэ ў дзяцінстве яны паклалі на мяне сваё сусветнае ўладнае вока? А ў мяне не стае рашучасці і супраціву процістаяць ім, як тады, калі я быў яшчэ савецкім піянерам, юным ленінцам, і марыў стаць разведчыкам, шпіёнам. Маё мінулае і будучае глядзелі на мяне з дзяцінства ці не іншапланетна тады і цяпер – з ONE DOLLAR'a. Толькі я ўжо даўно збыў дзяцінства, летуценнасць і жаданне стаць шпіёнам. Даўно паслаў іх туды, дзе Макар і цялят не пасвіць. І наўрад ці здольны сёння на той учынак – па-дзіцячы расправіцца з вокам. Дый што ні кажы, а даляр ёсць даляр, не наш драўляны рубель. Дзерці яго, рваць, таптаць нагамі з-за прыхамацяў, неспасціжнага нейкага вока, шкада. Хаця я і патрыёт сваёй радзімы, але без даляраў. Няспраўджаны разведчык і шпіён. Хіба мо цяпер папрацаваць шпіёнам за той жа даляр.

Вось так я сам сабе напарочыў, лёгенька аднадалярава сурочыў, на голым месцы. Думаць таксама трэба край як асцярожна, бо ад думак, як сцвярджаў мой дзед, чэрві заводзяцца ў чалавеку, і не дзе-небудзь, а ў галаве. Учора толькі цюкнуў мне ў макітру настальгічны ўспамін пра маё дзяцінства, а ўжо ранкам наступнага дня дзіцячая мара пачала збывацца. ААНаўскі куратар беларускай дэлегацыі, падпалкоўнік КДБ, пазваніў мне са свайго гатэля і папрасіў тэрмінова сустрэцца, на што я адразу і пагадзіўся: "Партия сказала – надо, комсомол ответил – есть". Тым больш, якраз у ААН выходны. І мне не трэба змагацца за свабоду Нікарагуа, дзеля чаго мы, беларусы, і пасланыя ў Амерыку. Мне і раней падабалася разам з куратарам хадзіць па сонечным прадвосеньскім – нам бы такое лета – Нью-Ёрку. Ён быў у ім з языком, а я толькі з нагамі і вачыма. Хаця і гэта няблага. Ніхто не перашкаджае маўчаць у вулічным натоўпе і тлуме. Толькі я заўсёды губляўся на асфальце нават сваіх гарадоў, мне б, як зайцу ці дзіку, у хмызы, у карчы. Іх, пэўна, і ва ўсёй Амерыцы не знайсці. Куратар жа, таксама мой зямеля, палескі хлопец, з Кармы, ішоў па чужым горадзе як даўні яго жыхар, свяціўся амаль амерыканскай прыязнасцю і дабрынёй да кожнага стрэчнага-папярэчнага, нязмушанай цікаўнасцю – сапраўдны янкі.

Янка ці Янка з Палесся, свой у Амерыцы. Прафесійная адметнасць

ці не кожнага гадаванца Лубянкі. Выхаваная прыхільнасць у жаданні і чаканні такой жа прыхільнасці ў адказ, расхрыстанасці ў думках і словах. Я ведаў пра гэта, не купляўся, а верыў. Як заўжды верыў кожнай усмешцы, кожнаму шчыраму, няхай і падманнаму парыванню знаёмага і незнаёмага чалавека. На гэтым яны нас, пэўна, і ловяць, гэтым і бяруць. Усе. Не толькі хлопцы з Лубянкі, канторы глыбокага бурэння, але і з кожнай адзяржаўленай установы, ад месіі-правадыра да галоўных падмятальшчыкаў, прыкарытнікаў-чаляднікаў.

Гэта нашая адвечная бяда і хвароба. Вера, давер. Асёл, кажуць, двойчы ў адну і тую ж лужыну не ступіць. А мы топчамся і топчамся ў сваёй лужыне. А з другога боку, мо ў гэтым наш паратунак. Як тая жаба, саб'ём з малака масла, асушым сваю лужыну і выцерабімся на прасцяг і волю.

Такім чынам, абодва мы збівалі ў замежжы кожны сваё масла, не ўяўляючы, што будзем рабіць з адгонам, сыроваткай. Прынюхваліся і вывучалі адзін аднаго. Пачалося гэта яшчэ ў рэйсавым самалёце Масква – Нью-Ёрк. На вышыні дзесяць кіламетраў, па-першае, спыніў дзеянне гарбачоўскі сухі закон, а па-другое, сцюардэса пачала разносіць гарэлку і каньяк. Я заказаў каньяк, і не адзін кілішак. Куратар сядзеў за мной і таксама піў каньяк. І міністр, і ці не ўся беларуская, змагарная за цвярозасць аанаўская дэлегацыя, хаця і цікавалі сусед за суседам, як гэта адбываецца і ў жыцці на зямлі.

Я адчуў гэта пасля пасадкі самалёта ў аэрапорце імя Кенэдзі. Куратар падышоў да мяне і сказаў:

– Калі б ты адмовіўся ад гарэлкі ці каньяку ў самалёце, я б табе на зямлі зрабіў...

Ён не сказаў, што б ён мне зрабіў, але я зразумеў: я на кручку, даўно на кручку. І быў удзячны куратару за прызнанне гэтага. І пайшло ў нас, як пазней дыпламаты наракуць, не жыццё, а ўзаемнае прымушэнне да міру. Але спачатку павінен распавесці пра сваю гаворку наконт чагосьці падобнага з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным. Перад паездкай у Штаты і працай у ААН ён настаўляў мяне:

– Трымайся камітэтчыкаў, хаця і аднаго агароду ягадкі з дыпламатамі, але сярод іх больш шчырых, разумных людзей, чымсьці сярод дыпламатаў.

Я пераканаўся ў гэтым пасля чарговага дыпламатычнага прыёму, здаецца, у прадстаўніцтве Чэхаславакіі. Няблага прынялі мы з куратарам бехцераўкі ці слівовіцы, так што сама Мадлен Олбрайт, славянка, чэшка па паходжанні, а тады паўнамоцны і пастаянны прадстаўнік ЗША ў ААН, па-амерыканску мружыла вочы і хітала галавой. І вось там я спытаў расійскага, а мо ўкраінскага дыпламата, ці накладвае краіна знаходжання адбітак на наш славянскі характар і паводзіны.

– А як жа, – шчыра адказаў той. – Іх жыццё і наша, як кажуць у вашым Бабруйску ці ў нашай Адэсе, дзве вялікія розніцы... Сутыкненне іх, пранікненне зусім не на карысць карэнным насельнікам...

Так ён мовіў на замыленым ўжо воку падчас прыёму. Але на наступны дзень адшукаў мяне сярод тысячнай аанаўскай грамады і па-савецку выправіўся:

– Не, ніякага ўплыву. У нас усё ж свой асаблівы савецкі гонар.

Той гонар, дарэчы, самавіта вылупляўся ў жонак савецкіх дыпламатаў, што без манернасці і слова не вымаўлялі, толькі праз губу, нібыта на іх сапраўды сышоўся клінам белы свет – калі Дуньку з вадакачкі пусцілі ў

Амерыку. Асабліва варта было паглядзець на тое, як яны паводзяць сябе ў амерыканскіх маркетах. Цырк на дроце – сланы, а праўдзівей, сланіхі ў крамах посуду. Ці нават больш за тое – вожыкі ці вожыхі на фабрыцы прэзерватываў.

Зусім інакш, непадробна і шчыра складаліся мае адносіны з гадаванцам Лубянкі, хаця мы па першасці крыху перасцярагаліся адзін аднаго і вывучалі. Хутчэй з-за свайго беларускага падабенства. Абодва ж з аднаго палескага кубла. А сваё прыроднае і прыроджанае не збудзеш, не прадасі і не схаваеш і на Лубянцы. Таму што чым старанней хаваешся, тым больш яно навідавоку само выкрывае сябе, прэ з цябе, як цеста з дзяжы.

Недзе ў глыбіні Расіі ў свой час так схавалі лубянскую школку, што і падумаць нельга. За высокім плотам, як красныя дзевіцы ці цнатлівыя манашкі, аберагаліся будучыя асы выведкі: Абелі, Зорге, Кананы Млодыя. Хадзілі, пахаджвалі, насілі сябе па прысадах свайго парку, медытавалі ў альтанках, гулялі ў шахматы. Думалі, што выпалі са свету і навакольнага жыцця, набылі шапку Манамаха-невідзімку. Але аднойчы праз высокі плот пераляцеў футбольны мячык, з падскокам пакаціўся па траве. І адразу над плотам узнікла кудлатая, мо і не зусім цвярозая галава і прамовіла чалавечай мовай:

– Шпіёны, аддайце мячык...

Сапраўды, усё таемнае з цягам часу становіцца яўным, як шыла ў мяшку: згвалтаваная і падманная гісторыя, сапраўдны кошт усіх рэвалюцый, справядлівых і несправядлівых войнаў, крывавая, забітая ў ГУЛагах праўда. І гэта толькі здаецца, што ўсе мы розныя і таемныя. Карэннае, нашчадкавае, у барадзе Карла Маркса, не схаваеш, у дрыгве і багне не стоіш, чужое ёсць чужое. Сваё ж заўсёды бярэ верх, кілой яно выпрэ з цябе. Кожны на зямлі смяецца, плача, робіць і нават крадзе і хлусіць так, як бацькі і бацькаўшчына запаветавалі.

Я і куратар, здавалася, дзве супрацьлегласці. Але гэта зусім не так. Адно мы з ім. Я марыў быць разведчыкам, шпіёнам, а ён здзейсніў маю дзіцячую мару. Ці не адэска-бабруйская гэта розніца паміж намі, паляшукамі вясковага паходжання, што само па сабе надыктоўвае: не вытыркацца гарэлым пнём сярод зялёнага гала. Не спяшацца са сваім словам і розумам. Больш падтакваць чужому і неўдавана гнуцца перад ім. Гнуцца, але не ламацца. Такое ўжо нашае гнуткае, ды не ломкае наканаванне ад веку ў век. З гэтага пайшлі, ідзем і ісці будзем. Таму і сёння яшчэ тэпаем, брыдзем, блукаем – губляемся і знаходзімся.

Інакш сярод балотаў і дрыгвы ды ліхіх суседзяў не выжыць. З аднаго боку ляхі, з якімі мы патаемна пабраталіся мовай і звычкамі, зямлёй, схільнасцю думак і сэрца, але ніколі не прызнаемся ў гэтым, як і яны. Толькі ўзаемна душа здрыганецца, калі іх ці нашае слова ды песню пачуе. З другога – наканаваны ці навязаны гісторыяй старэйшы брат, з трэцяга... Ёсць, ёсць і з трэцяга, калі аблога, то з усіх бакоў. А пад нагамі могілкавы белы пясочак, багна і балота. І над галавой з неба то залева, град і снег, то спёка. І заедзь-гнюс сляпіцай у вочы.

Як тут не гнуцца, не адстойваць сябе – жыць доўга, вельмі доўга трэба, каб з цягам часу аказваць сябе, сваю годнасць і вартасць, нябачна загартоўвацца да легіраванай сталёвасці. Агрызацца і выскаляцца так, што ўласнаму, роднаму чорту ў балоце моташна стала. Вось гэта прыроднае, вясковае яднала і радніла нас, службоўца-кадэбіста і мяне, няпэўнага, невядомага яшчэ

мне самому прыдурка, але з нечым сваім у галаве. Як у кожнага палешука, колішняга яцвяга, зніклага, кажуць, цяпер. А ён нікуды не знік. Дрыгва і балота ўсё прыбіраюць і тояць у сабе да пары, да часу. І пакрыўджаны, абыйдзены Богам той, хто ўспрымае наш спакой, ціхмянасць і міралюбнасць за адметнасць характару і пакору. У ціхім балоце ўсе ж чэрці водзяцца.

Я неасэнсавана зайздросціў свайму куратару. Падсвядома адчуваў у ім самога сябе. Міжволі думаў – чаму я не падпалкоўнік, сын бы ганарыўся. А так... што і хто мы для сваіх сыноў, асабліва ў трэцім тысячагоддзі?! А між тым мы абодва разам з падпалкоўнікам шпіёны. Лічыцца, што самая старажытная на зямлі прафесія – прастытуцыя. Падман. Выведка – яна прастытуткай была ці не раней. Калі ўжо не блізняты яны, то, бясспрэчна, аднаяйкавыя родзічы. І зусім нядоўга дзве старажытныя прафесіі заставаліся паасобку. Як заведзена, лайно да лайна плыве. Сустрэліся, пабраліся шлюбам, пазналіся і параднілісія. А там і дзеткі пайшлі. Памножыліся. Асабліва падчас здрадаў, рэвалюцый і войнаў. Так званай ВАв – Вялікай Айчыннай вайны. Зацяжарылі і апрасталіся пятай калонай, Камінтэрнам. А ў нашыя дні палюбоўна і зачаравана зрасліся: “муж і жана адна сатана” – прастытуцыя і разведка. Здрада, шпіёнства, выведка паўсюдна і на ўсіх узроўнях. Няма шпіёна без прастытуцыі, а прастытуцыі без шпіёнства. Адсюль на ўсім свеце і такія крывавыя хлопчыкі – тэрор, смертнікі, шахіды, камікадзэ. Такая ўжо плата за ўсе ідэалогіі свету.

Праўда, некаторыя з сучасных тэарэтыкаў выведак адмаўляюць ідэалогіі. Маўляў, у большай пашане з цягам часу стаў карпаратыўны гонар, кланавасць. Але ж ці не ад гэтых кланавасці і карпаратыўнасці чакаць новай крыві, рэвалюцый і ўзрушэнняў. Таму што ў гэтай старажытнай і вечнай справе не злічыць папярэднікаў, геніяў, месій усіх часоў і народаў, хуткіх розумам жанчынаў і мужчынаў, прызнаных светам, што моліцца на іх.

Разведчыца, шпіёнка, Мата Хары пачатку дваццатага стагоддзя, набліжаныя да нас па часе Вольга Чэхава, Марлен Дзітрых, Како Шанель. Як і ўсе Рэрыхі, Васка да Гамы і наш Восіп Гашкевіч у Японіі. Дарэчы, адзін пісьменнік-японец, шпіёнячы за звычкамі сваёй рускай жонкі, за кожным яе крокам, нават фізіялагічнымі адпраўленнямі, і найбольш за імі, напісаў кнігу, якая на доўгія гады стала бестселерам.

Такім чынам, усе мы ў гэтым жыцці шпіёны. Без гэтага, пэўна, нам і не адбыцца б. Шпіёняць за светам нават нашы сперматазоіды. За мной шпіёніць зямляк, разведчык-нелегал, не аднойчы паранены ў чужых краінах. Сляды варожых куль яскрава чытаюцца на яго плячах. Я шпіёню за ім, мо крыху і за самім сабой, а больш за чужой жыткай, у чужой мне краіне Амерыцы. Бескарысна, але ж, але ж... Хто ведае, хто ведае: самы подлы смех – смех шчыры і не за плату. Не толькі каты і коткі млеюць ад гуляў. Мы ім не саступаем. Асабліва, калі за забаўкай – пазнанне. І небяспека. Без адрэналіну сёння няма жыткі. Гармон – зусім як калісь гармонь.

Не суджу, толькі прыглядаюся, прымяркоўваю да сябе і сваёй бацькаўшчыны. Цікава. Вельмі цікава, пазнавальна і адрэналінава. Так, тут, у Амерыцы, жытка зусім іншая. Мы – каменны век, Маўглі бальшавіцкага разліву і паходжання. Ды не зусім жа, не настолькі ж, каб забывацца на сваё званне. Сталых гадоў амерыканец нясе за плячыма абярэмачак дроў – чатыры-пяць бярозавых паленцаў. Мяне дзівяць і дровы, і тое, што іх так мала. І гэта адбываецца сярод хмарачосаў з бетону і шкла, на асфальце. Які, дарэчы, уначы мыюць шампунем, і таму ён блішчыць, што ў ката яйцы. У

яго ж яшчэ з-за спёкі летам і плаўленае шкло дадаюць. Сярод тых жа хмарачосаў, зіхоткіх вітрын супермаркетаў і безлічы хуткіх легкавікоў – усе ў руху, бегу, гоне. Горад па насельніцтве ў паўтара разы большы, чымсьці ўся мая краіна. Мне тлумачаць: хутка каталіцкае Раство. Дровы прызначаны яму. Куплёныя. Кошт – пяць-шэсць даляраў. Пераводжу на айчынныя, драўляныя. Воз можна купіць. Не, усё ж такі-сякі парытэт цэнаў увогуле ў сённяшнім свеце існуе. Дарэмна ці танна адно – пераплата на другім. І такія дробныя выкрывальна-шокавыя адкрыцці на кожным кроку.

Прыгадваецца расповед рэктара Літінстытута, драматурга Ф. Піменава пра сустрэчу яго з замежным калегам, здаецца, Мілерам. Замежнік спытаўся, якая ў яго дача.

– Ды просценькая, – адказаў Піменаў. – Драўляная, з лесу, з хвояў.

– Во як, – здзівіўся субяседнік. – Багаты вы чалавек. Драўляная, з хвояў, дача. А ў мяне бедненькая, з цэглы, каменная.

– Уга, – здзівіўся ўжо Піменаў. – Бедненькая, каменная, з цэглы. Я такой бы ніколі не пацягнуў. Каменная дача...

Вось такая знамянальная гаворка пра наш і іх лад. Нашы і іх цэны і адносіны да жыцця. Парытэт і не парытэт яго...

Праўда, цяперашні лад і час давялі гэты постсавецкі ўжо парытэт да ўзорнага абсурду. Кіраўнік некалі выбітнай заможнай гаспадаркі “Малеч” на Брэстчыне некалі скардзіўся:

– Не хапае зернеўборачных камбайнаў. Каб прыдбаць хаця б адзін, павінен аддаць увесь ураджай жыта і пшаніцы. І яшчэ не хопіць.

Вось такія нашы парытэты: дажыліся палякі – ні хлеба, ні табакі...

Два савецкія шпіёны ідуць па чатырнаццацімільённым амерыканскім горадзе. Праўда, мне яшчэ невядома, што я ўжо шпіён, я звык сумнявацца, а горад жа, пэўна, здагадваецца. Вялікія гарады думаюць хутчэй за іх насельнікаў, тым больш гэты – насычаны духам прароцтваў, праклятцяў і пакутаў яго карэнных жыхароў, індзейцаў, забойствам і гвалтам пераўтвораны з першабытных джунгляў у джунглі цывілізацыйныя, асфальтаваныя, камяніца-хмарачосавыя. Два савецкія шпіёны ідуць па новым рознапляменным, шмат’языкім Вавілоне канца дваццатага стагоддзя.

Вавілонская вежа тут ужо ўзведзеная, нават дзве – больш за сто паверхаў – вежы-блізняты. Карфаген пабудаваны ўжо, але ж, узгадваючы гісторыю, – Карфаген павінен быць разбураным. Толькі пра гэта нікому яшчэ няведама. Хаця мо... Як і ўсе Карфагены і Вавілонскія вежы, яны насычаныя нязгодай, здрадай рознагалосся і адмаўлення. Прароцтва і прадбачання сакрэтнасці. Ці не адсюль і шпіёны, і шпіёнства, сусветная выведка. Хаця ў наш век, век дэмакратыі, сакрэтаў ужо няма, іх немагчыма нават мець. Шпіёны не дрэмлюць. Усё вядома да таго, як яшчэ не адбылося. Таму, пэўна, па ўсім свеце такая незлічонасць выведак. Анахранізм часоў параджэння і стварэння Карфагенаў і Вавілонскіх вежаў.

Дарэчы, што тычыцца апошніх. Ці не знакава гэта нам, ці толькі біблейскі гэта міф. І ўвогуле ці міф. Хутчэй тое ж прароцтва і папярэджанне са старажытнасці, а мо і з нябыту яшчэ чалавецтва. Папярэджанне і ківанне пальцам будучыні Усявышнім, а не выключана, і самім засмучаным светлым сёння Д’яблам. Ці не з’яўляецца ў нейкім родзе тая Вавілонская вежа папярэднікам сённяшніх дзяржаўных дум, парламентаў, хуралаў і палат – параджэннем высакалобых і глыбокадумных халяўных пустабрэхаў і балаболаў, што стоўпілі народы і іх мовы.

I стала слова крывавым. Абражана скінула сваю чыстую апратку. Знявечанае, пазбаўленае праўды, сілы і моцы распачало вайну, абвясціла вайну чалавецтву, хлусліва ўзводзячаму ўсё новыя і новыя Вавілоны ілжы. Слова пачало нявечыць і забіваць не толькі людзей, але ўсё існае. I з большым спрытам, чым нават ядзерная зброя. Запалалі і акрываўіліся ўсе далі і весі. Пачала знікаць энергія і вера сэрцаў, кахання. Магла і знікнуць назаўсёды.

Але тут з нябесных і падземных высяў і глыбіняў разам падалі ўгневаны голас Бог і Д’ябал. I пайшло вялікае размежаванне, рассеянне народаў. I брала яно пачатак, як і ў нашыя дні, каля цяперашніх Іракаў, Іранаў, Сірый. Мо ў тым вялікім рассеянні хавалася і вялікая памылка зямных уладароў і месій. Таму што былі сярод іх і нелюдзі. Ці не тыя здані, што ўпершыню праявілі сябе і пачалі блукаць па Еўропе ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя? Праз тысячагоддзі і тысячагоддзі нелюдзі наеліся чалавечыны, напіліся крыві, узышлі на сусветных пажарышчах, надыходзячых апакаліпсах, якім жа зноў палохаў усё жывое свет.

Шматаблічны монстр, Янус, каменны і сталёва-машынны, упэўнены ўладнай дзяржаўнасцю свайго жыцця, тысячамі твараў і вачэй шпіёніць, сочыць за мной. Выпрабоўвае сваім бездакорным белым амерыканізаванай эры стаматалогіі моцным зубам, прамянёвай прыліпласцю прыязных усмешак: даў бы даляр, ды няма, самому трэба. Не мясцовы я, беспрытульны ў гэтым свеце, нават пераначаваць няма дзе, проста пашчасціла мне апынуцца ў вашым горадзе і нейкім чынам зноў спаткацца, увайсці ў маё пакінутае маленства.

Куратар з амаль па-палеску сонечнага ранку вызваніў мяне са свайго гатэля. Ён жыў асобна ад нас недзе паблізу колішняга няўдалага прэзідэнта Ніксана. Мы сустрэліся каля брамы савецкага прадстаўніцтва, дзе адразу праявілася незвычайнасць накірунку нашага шпацыру. Раней па сваёй шэсцьдзесят сёмай стрыт, міма паліцэйскага пастарунку і пажарнай часткі, мы браліся ў цэнтр – аазіс капіталу, банкаў, заможнасці і багацця. Цяпер жа чамусьці пайшлі ў адваротны бок, у сонечную задуменнасць цішы, замацаванай бязветранай блізкасцю рачной вады, закаванай у бруклінскую сталь моста і няпуджанасць пустых тратуараў.

На рагу шэсцьдзесят сёмай стрыт куратар прыпыніўся. Нейкі час пільна прыглядаўся да шыльды з назвай на канцавым будынку. Вуліца звалася імем Алены Бонэр. Знаёмае мне, а яшчэ больш куратару, прозвішча, што ён, не сыходзячы з месца, і засведчыў:

– У-у, зверюга в юбке!

Выказаўся гучна і злосна, нібы гэтая звяруга жыўцом стаяла перад ім. Мяне ўскалыхнула яго абуранасць. Што ні кажы, па краіне ўжо другі год каціласся рэвалюцыйная – зноў рэвалюцыйная – перабудова і цвярозасць. Куратару, на маю думку, усё ж лепш быць матросам у кастрычніку сямнаццатага года п’яным і пад кайфам. Мо б і не так перабудовачна бурчэў жывот. Але ж гэта да слова.

З крывавага пачатку стагоддзя ўжо праступаў катавальна-расстрэльны курапацкі шлях. З абылганага і ўкрадзенага мінулага туманова імкнуліся паўстаць з магілаў зведзеныя ў беспамяцтва продкі, беларускія Дзяды. “Архіпелаг ГУЛАГ” ужо ляжаў на паліцах кнігарняў, праўда, яшчэ не нашых. Але друкавальныя станкі, што выязныя коні, ужо стаялі напагатоў, чакалі дазвольна паганяльнага: “Ну, пайшлі, буланыя і вараныя!” Хаця сам Салжаніцын яшчэ жыў у выгнанні, у Германіі, а потым – у Амерыцы, Ан-

дрэй Сахараў з жонкай Аленай Бонэр – у ссылцы, пад арыштам у горадзе Горкім, былым і будучым Ніжнім Ноўгарадзе. І таму знакавае, як тое было на самой справе, выказванне куратара я зразумеў значна пазней. Зразумеў, што гэта скарга, горкае прадбачанне лёсу яго канторы, яго асабістая крыўда.

А тады мы павярнуліся і пайшлі звычайным нашым маршрутам, па якім хадзілі заўсёды ў вольны час дагэтуль. І я, як па палескіх, зрэджаных прагай волі, а часам і сякерай чалавека, прасторах і разлогах, наскрозь працятых, прастрэльна нанізаных на сонечны прамень гонкіх мядзяна-ствольных барах, распарана крэкчучых дубровах і цнатліва гуллівых бярозавых гаях. Куратар суладна са мной, толькі трохі мядзвекавата ці барсукавата, абачліва насцярожана, як бы і на патыліцы маючы вочы, звярына ахопліваючы наўкруг сябе ўвесь абшар. Мне нават здаецца, і час. Усё гэта памяшчалася ў яго вачах, на выгляд не надта пільных. Больш па-амерыканску ўсмешлівых, хаця і з паляшуцкім прыжмурам ды іскрынкай недзе глыбока ў зрэнках. Наша вока, нікуды не падзенешся, здольнае і пасмяяцца, і загарэцца, і надурыць. Хаця, не выключана, і пужанае, таму абачлівае, ненадакучлівае, што я ці не адразу ацаніў у ім.

Толькі ці не з-за нашай абачлівасці, ненадакучлівасці і стрыманасці, па сведчанні даследчыкаў смеху – ужо і да гэтага дабраліся – наш чалавек не мае натрэніраванасці смеху. Наш смех больш падобны да квашанай, кіслай капусты. У лепшым жа выпадку – неразгаданай таемнасці Моны Лізы Джаконды з яе прыхаванай паблажлівасцю, а то і пагардай. І ўсё з-за адсутнасці стаматалагічнай культуры зубоў – ці не тое ж самае з Монай Лізай? – мы баімся паказаць свету свае зубы, такі іх стан. Адпаведна і наш стан, змушанасць нашага характару. Крыўдна, крыўдна. Але, з другога боку, звычка паказваць, выскаляць зубы – сведчанне агрэсіі, калі нават меркаваць па жывёле і зверу, тым жа сабаку. А мы ж міралюбныя людзі, хаця і з гнілымі зубамі. У нашага ж куратара ці прыродныя, ці ўстаўныя, а хутчэй за ўсё натрэніраваныя да смеху, амаль амерыканскага кшталту. А як у яго ўвогуле, як у падпалкоўнікаў з Лубянкі з агрэсіяй, мне невядома.

Што ж мяне найбольш займала ў ім, – гэта маё ўласнае: ці адчувае ён, падобна мне, сонечнасць вялікага горада, мегаполіса. Я ж яшчэ з палескага маленства быў зачараваны сонцам. Гэта было мо адзінае, чаго мне хапіла ў дзяцінстве. Я піў яго нагбом усюды і ўсім целам, гроб далонямі на голы жывот. Таму што Палессе па сонечных днях не саступае самой Адэсе-маме. І мяне вельмі здзівіла, калі адзін з нашых дыпламатаў, дарэчы, будучы міністр замежных спраў, на амерыканскае пытанне, як яму падабаецца Нью-Ёрк, адказаў з нейкім намёкам на заганнасць горада, шматлікасць у ім хмарачосаў, што засцяняюць вуліцы:

– Падабаецца, толькі сонца мала, бракуе сонца.

Што ж, адказ варты дыпламата, будучага міністра замежных спраў. Мне ж хмарачосы вачэй не засцілі. Неяк вельмі ўдала стаялі яны на пад-муркавым граніце Нью-Ёрка, прымушалі мяне глядзець у неба, сачыць за сонцам і гуляцца з ім у хованкі. Адзінае, чаго мне не ставала ў гарадской прыязнасці чужога ўсё ж мне Нью-Ёрка, – гэта амаль поўная адсутнасць дзяцей. У нас у Мінску яны стракатымі гарошынкамі каціліся за дарослымі, пехатой і ў вазках. А тут толькі зрэдзьчасу неяк квола па-птушынаму, як з кублаў, вытыркаліся з заплечнікаў заклапочаных матуль.

Пад маё глыбакадумнае маўчанне мы з куратарам дайшлі да канца шэсцьдзясят сёмай стрыт і апынуліся на Мэдысан-авеню, ці пятай вуліцы,

на рагу якой я заўсёды здзіўлена спыняўся. Не стрымаўся і цяпер. Зрок не падводзіў, хаця гэта было і непамысна мне. У вуглавым будынку месцілася нейкая крама, якой я мімаволі з першых дзён у Нью-Ёрку асцярагаўся. У мазаічных вітражах вітрын крамы раслі нейкія зусім не наскія, хаця і звыклыя майму воку дрэвы. Ніцма прыпалая да россыпу дробных камянёў разложыстая хвойка і такі ж самы ядлоўнік. Добраму сабаку хібіла заднюю нагу на іх ускінуць.

Толькі ўражвала іншае – цэннікі, кошт гэтых недалыжных хмызовых дрэў. Чатырыста пяцьдзясят, шэсцьсот даляраў. Я разумеў, што гэта нешта дэкаратыўнае, накшалт японскага мадняцкага ў тую пару бансая. Але ж бансай ён то бансай, ды навошта мне, чалавеку, гэтыя лесапасадкі, карчы і хмызы, за такія грошы. Такі бансай, такі хакей, як на ўвесь свет усклікнуў некалі спартовы каментатар Мікалай Возераў, нам не трэба. І было цікава, ці трэба ён заможным амерыканцам? Я сачыў, ці купіць хто-небудзь з іх гэты бансай. За тры месяцы майго знаходжання ў Нью-Ёрку ахвотнікаў не знайшлося. Палешукі і янкі ў нечым усё ж сышліся, аказаліся аднадумцамі, што ўсцешвала палешука – дробязь, а прыемна.

На рагу Мэдысан-авеню, пры сведках бансаевай дураты і распусты, здзеку з мяне, куратар і паведаміў мне, навошта я яму зранку спатрэбіўся:

– Будзеш ісці следам за мной, але не падыходзіць. Мы не ведаем адзін аднаго. Кароў пасвіў?

– Пасвіў, – прызнаўся я.

– Цяпер будзеш пасвіць мяне. Толькі не губляй, бо я буду каровай збродлівай. Буду, задзершы галаву і хвост, бегаць, лётаць, пераходзіць з адной вуліцы на другую. Дурыць.

– Тады б пугу.

– Абыдзешся вачыма і галавой. Палескі пастух – жывёла кемлівая. Таму і звялі разам з каровамі ў прыватных гаспадарках. А раней жа, ого, чалавекам жа быў, і я з іх. Буду імкнуць наперад, вяртацца, збочваць. Разявакам спыняцца каля люстраных вітрын. Не здзіўляйся. Ведаеш пра нас прыпеўку? На прыёме ў замежным прадстаўніцтве дыпламат лапае бландзінку. А тая яму піша запіску:

Как доберешься до яйца,
Не делай глупого лица.
Привет от родины сынов.
Майор разведки Иванов.

Так і мы с табой. Я – на заданні. А ты прышый кабыле хвост, а ў яе свой, павадыр-разявака. Сачы, хто ідзе за мной. Хто мільгне побач, наперадзе ці адзаду мяне двойчы, тройчы, сігналізуй мне. Сячэш?

Я сёк, і таму без пярэчанняў, а мо нават і з гонарам падпарадкаваўся яму. Чаму не пагуляць палешуку ў Нью-Ёрку ў шпіёны? Апроч таго тут мелася і адна акалічнасць. Мне варта было задобрыць свайго куратара. Апраўдацца перад ім. Вінаваты ж, вінаваты перад ім, нікуды не падзенешся.

Учора вечарам у ААН адзначалі Дзень Беларусі, і я павінен быў выступіць. На сваю бяду, як сараканожка, задумаўся: а на якой мове мне, беларусу, у Амерыцы гаварыць. Задумлівасць двуязыкага змея: зусім не думала цяля, як бы воўка з'есці. Проста разважала без кукіша ў кішэні і апазіцыйна-нацыянальнай афарбоўкі: калі Дзень Беларусі, дык і прамаўляць

на свяце ў яе гонар варта па-беларуску. Хаця б таму, што Беларусь разам з Украінай і Расіяй – Савецкім Саюзам – была заснавальніцай ААН. Як краіна, найбольш пацярпелая ў Другой сусветнай вайне, краіна, што страціла кожнага трэцяга, а мо і палову свайго насельніцтва. Генацыд, не асэнсаваны і не прызнаны светам. Дарэчы, не першы, і не другі, і нават не трэці... Не выключана, што не апошні...

Мо таму яна і страціла сваю мову. Гаварыла ў ААН на мове старэйшага брата, як, між іншым, гаворыць і сёння. І я выйшаў на трыбуну і пачаў выступаць на беларускай мове зусім не пратэстова. Мо больш нават па глупстве. А мо і не па глупстве. Час, зноў жа, куды больш празорлівы за нашу існасць. Недзе нешта яшчэ не яўленае лунала ўжо ў прасторы. Мяняла і разбурала застойную, зацята задубелую рэчаіснасць і чалавека, у тым ліку і мяне ў ёй. І было гэта ніколькі не стыхійна, свядома. Не ведаю, ці разумела зала, а сядзелі там і ўкраінцы, і расейцы, і амерыканцы, белыя і чорныя – усе слухалі ўважліва і, здаецца, са спачуваннем і перажываннем. Бо якраз пра вайну і дзяцей вайны, сваё дзетдомаўскае я і гаварыў.

Усё пачалося адразу пасля заканчэння вечара ці Дня Беларусі. Мяне ніхто не папракаў, не папікаў, мо нават наадварот, не бачылі ва ўпор, абыходзілі бокам, адводзілі ад мяне вочы. Усе некуды спяшаліся, што мне было трохі дзіўнавата. Нашыя ж аанаўскія супрацоўнікі – людзі прыязныя, як і амерыканскае атачэнне, – з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Што з імі сталася, чаму яны цяпер такія. Растлумачыў куратар пасля гаворкі, пэўна, з такімі супермэннымі куратарамі нашых саюзных краін і стажорамі з Беларусі.

– Ну адмачыў ты, дык адмачыў... – Не ўхвальна, зразумела, але сардэчна, шчыра. – Тожа мне змагар.

Увогуле нашыя з куратарам стасункі былі вынікам таго ладу і быцця, які мы на той час мелі пры адсутнасці літаральна і голасна прапісаных і агучаных правоў і законаў. Вясковыя: рука руку мые. Вяліся адно з адным больш па тых правілах, куды пайшло і дзе знаходзілася нашае слова. Калі ўсё і ўсе да суда і суддзяў роўныя, незалежныя і падпарадкоўваюцца толькі абкаму. Так было, так ёсць і, пэўна, доўга яшчэ будзе. Па-шклоўску, па-бабруйску – ад Масквы да Ракава жытка ў нас аднакава.

Ці не таму дэмакратыі ў нас хоць с...акай еж. І заходнія дзеячы, палітыкі так здзіўляюцца нашай дэмакратыі. А нашы палітыкі і правадыры, гаранты, не здольны зразумець заходніх гарантаў, калі звяртаюцца да іх з якой-небудзь просьбай: “Ну як гэта вы не можаце? Пры ўладзе, калі ўсё ў вашых руках, закон і праўда. І вы не можаце?” Нашае існаванне “па паняццях” непераможнае, таму што сапраўды – правільнае. Надае дзяржаўную і правінцыйную раўнавагу Айчыне. А інакш усё даўно б гікнулася ў тых жа самых лужынах.

І гэта добра, як сказаў Творца, а следам за ім і ўсе месіі-правадыры... Гэта падобна кошту за бярозавае паленца ў нас і за мяжой – асновы парытэту нашага існавання. Згодна жыццю “па паняццях” мы і аплочваем усё, што маем. Вясковыя, местачковыя законы зусім неблагія. За дабро плаціць дабром. А паляшук, у адрозненне ад свайго гаранта, адмаўляе ўвогуле жыццю толькі сёння – запазычанаму, з чужых рук і чужой ласкі. Ён цалкам і ўвесь у заўтра, і таму не трывае, не церпіць пазык, адмаўляе каму-небудзь, нават самому Богу, быць вінным – толькі сабе і сваім дзецям. Але якраз мо тут і сабака закапаны, чаму мы не маем ні сёння, ні заўтра. Толькі ўчора. Сплочваем сваю віну за мінулае і, падобна, за будучае. Як я сплочваю куратару.

Да Дня Беларусі ў ААН мне давялося выступаць у публічнай бібліятэцы Нью-Ёрка на сустрэчы, арганізаванай аматарамі і прыхільнікамі беларускай мовы Калумбійскага ўніверсітэта. Слухачы былі выбітныя і дасведчаныя ў нашым жыцці. Дастаткова назваць толькі некалькі імён: муж і жонка Кіпелі, палітыкі, публіцысты, знаныя ў свеце беларусісты, Масей Сяднёў, паэт і празаік, эмігрант-беларус часоў Другой сусветнай вайны. Дарэчы, прататып журналіста і паэта ў адным з раманаў Івана Чыгрынава. Раманаў, на жаль, яшчэ і сёння не ацэненых. А ў іх ёсць не толькі мінулае, але і будучае нашай мовы і культуры. Але нічога не папішаш, добры пісьменнік Іван Чыгрынаў, *Святлейшы*, як ён дый іншыя яго велічалі. Добры, але наш, айчынны навылёт і наскрозь беларускі.

Прысутнічаў на сустрэчы эмігрант, наш зямляк, публіцыст Янка Запруднік, і іншыя, пра якіх я ўжо забыўся ці не ведаў і не ведаю. Але пра аднаго са слухачоў мушу згадаць пазней асобна.

Без перабольшання і пахвалы цікаўнасць да сустрэчы з замежнага боку была вялікая. І не столькі да мяне, да гома-саветыкуса, зразумела. Недзе ўжо тады выспявала ідэя арганізацыі "Згуртавання беларусаў свету". І ўсё, што папярэднічала гэтаму, бралася, успрымалася на разлік будучага. Слухалі больш чым уважліва, бо ўсе нейкім чынам па духу і паходжанні былі датычнымі да Беларусі, Айчыны, Бацькаўшчыны.

Але не абыходзілася і без пад'юджвання і правакацыйных пытанняў наконт матчынай мовы, літаратуры, накладаў беларускамоўных выданняў, тых жа правоў чалавека. Я не хлусіў, адказваючы, і не апраўдваўся перад імі. Адчуваў давер між намі, хаця давер з іх боку, здаецца, быў крыху паблажлівы, але не злосны. Пытанні розніліся. Універсітэцкія – мо крыху наіўныя. Але добразычлівыя. Эміграцкія – з прыхаванай падколкай і як бы з сумам, настальгіяй. Так гэта ішло да тае пары, пакуль гаворка не пачала наўпрост тычыцца іх лёсу, мінулага і цяперашняга, што ўвогуле было, мусіць, непазбежна. Усё ж яны былі хаця і беларусамі, ды эмігрантамі, і ў большасці не па сваёй волі. Вайна, у якой яны так ці інакш удзельнічалі, закінула іх у Амерыку.

Тут варта ўзгадаць, што тады, адносна нядаўна, пабачыла свет мая аповесць "Суд у Слабадзе", дзе гаворка ішла пра паліцаяў, здраду. Аповесць прыкмецілі, у газеце беларускіх эмігрантаў была надрукавана рэцэнзія, як мне пазней давялі, былога паліцая С. Станкевіча: "Новы беларускі пісьменнік". Мяне, мякка кажучы, папрасілі адгукнуцца на яе. Папярэдне параіўшыся з А. Адамовічам, я і адгукнуўся ў газеце "Голас Радзімы" артыкулам "І не пухам будзе вам зямля".

Якраз гэта і выклікала раздражненне залы. Мяне, як гаворыцца, дасталі. І я распавёў прысутным пра пахаванне былога паліцая ў вёсцы на радзіме. Труну з целам нябожчыка вяскоўцы не дазволілі нават занесці на могілкі. Паклалі за плотам.

– Так наканавана і ўсім астатнім, у каго на руках кроў, ляжаць не сярод людзей, а пад плотам... – Дзетдомаўская безагляднасць і прасталінейнасць, жорсткасць, якую зразумеў толькі сёння.

Зала відавочна ўзбудзілася, падзялілася на два лагеры. Але ж, на дзіва, маіх прыхільнікаў было больш. Я прыкмеціў, што некаторыя са слухачоў моўчкі, па-англійску, зніклі.

Разам з іншымі сышоў Запруднік. Вітаўт і Зора Кіпелі сышлі, што мяне непрыемна ўскалыхнула. Хаця іх сыход я разумеў. Так і павінна было

стацца, мяркуючы па іх прыродзе, характары, адукацыі і маёй вяскова-пэтэвэшнай аднабаковай шчырасці. А яны ж шырокія, ці не па Дастаеўскаму, іх мо і ўкараціць трэба... Дарэчы, ці не чуецца ў Фёдара Міхайлавіча ў гэтым нешта нашае паляшуцкае – з XVI-га стагоддзя прозвішча Дастаеўскіх знанае на Беларусі. Можна было каранёва спазнаць дух беларусаў.

Так, на самой справе, яны шырокія, хаця вякамі і гісторыяй ужо абвужаныя. Не аднымі каўтуном і ліхаманкай адметныя, але і схільнасцю і жаданнем пазіраць не толькі сабе пад ногі, а і ў неба, да творчасці, чаму шмат і шмат прыкладаў у расейскай і сусветнай мастацкай ды тэхнічнай культуры. Што дазваляе мне сцвярджаць у дадзеным выпадку, маючы на ўвазе Кіпеляў, пра інтэлект, эрудыцыю. Інтэлектуальны пачатак беларусаў з неадменна ўласцівай ім так званай памяркоўнасцю. Сузіральнасцю. Падыход да рэчаіснасці філасофска-мыслярскі, які ў рэшце рэшт дазваляе яму тлумачыць сябе. З аднаго боку вінавацiцца, а з другога апраўдваць і апраўдвацца.

Вось мо менавіта таму, па-беларуску, Кіпеляў я ні ў чым не вінаваціў, больш апраўдваў. Дараваў, як ніколі не дараваў за пражытае і створанае сабе. Мы былі не сутыкальныя, жылі ў розных светах.

І я судзіў сябе па паняццях таго свету, у якім мо і мімаволі ў свой час апынуўся – вораг ёсць вораг, а сябра – сябра. Камусьці гэта можа падацца і спрэчным, але мой свет усё ж быў прывідным, мо нават і не існуючым. Створаны мной жа і з мяне рэальнага, можа, і падманна. Адначасова дыстылявана-чысты, кніжна-выхалашчаны. Свет, у якім шматлікія здані і прывіды, пазбаўленыя плоці і крыві, бралі над усім верх, уладарылі.

Абдзеленая яшчэ калісь на рэальнасць шматаблічная і моцная, надта ж трывучая, жыццёваўстойлівая пэўная парода абмежавана-сапраўдных ці ніколькі і нідзе не сапраўдных, штучна выведзеных людзей.

Людзей, усё ж, на жаль, з-за сваёй штучнасці цяпер, у век рацыё і разумнага эгаізму знікаючых. Сённяшні дзень і час не трывае залішняй летуценнасці і ўзнёсласці, самападману. Прагне, хіжа патрабуе плоці, крыві, мяса, канкрэтыкі пражывання, ужывання і спажывання. Я ж у ім быў асобай прамежкава-імгненнай, невызначана-безаблічнай. Як і большасць нас з дваццатага стагоддзя. Кіпелі былі над намі. Я адчуваў, дыхаў іх звышнасцю і зайздросціў ім. Мне відавочна і паўсюдна іх не хапала, хаця я б ніколі і нікому не прызнаўся ў гэтым. Прызнанне ці не патрабавала б кастрычніцкага перавароту пачатку мінулага стагоддзя.

Вітаўт эміграваў з Саветаў у 1944-м годзе – яму пагражаў расстрэл. Па справе ці не – хай адкажа гісторыя. Доктар геалогіі, аўтар прац па гісторыі беларусаў і беларускай эміграцыі. Скончыў Лювенскі інстытут у Бельгіі, Ратгерскі ўніверсітэт у ЗША. У Злучаных Штатах Амерыкі ўзначаліў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Як пра яго гавораць – галоўны беларус у Амерыцы.

Я не ведаю, ці ёсць падобныя фігуры сярод украінскай эміграцыі. Украінцы тут не падобныя да нас. Эміграцыя больш заможная. Нашы ж перабіваюцца хто навукай – выкладчыкі, хто творчасцю – адным словам, як і на радзіме – напаўжабракі ці жабракі, зразумела, па амерыканскіх мерках. Палякі першай эмігранцкай хвалі – майстры, механікі, шахцёры – рабацягі патомныя і не бедныя, з гонарам. Падазрона пaглядаюць на другую і трэцюю хвалі сваіх эмігрантаў. Яўрэі – як гэта ідзецца пасля першай і другой сусветных войнаў, з Растова-папы і Адэсы-мамы, застаюцца вернымі сабе.

У Кіпеля лёс знакавы, знакавы лёс беларуса па-за Айчынай. Лёс нават нібыта новага памяркоўна-кансерватыўнага беларуса, якому галоўнае не бізнес, не грошы, а духоўнае, што даць яму можа не Айчына, а чуж-чужаніна, як сотням і сотням, тысячам іншых. Крыўдна, горка. Але такія мы ўжо ёсць.

За знікненнем Кіпеляў і іншых я шмат чаго ўпусціў, аб чым пазней шкадаваў. І небеспадстаўна. Шпіёнам, гульцам у іх, таксама ўсё ж патрэбна галава. Халодная.

Да мяне падбег каржакаваты і ружоватвары дзядок, чыста нашай, паляшуцкай знешнасці і звычак і, падобна, манеры апранацца. Аднекуль надта ж знаёмы мне дзядок, безумоўна, недзе і неаднойчы бачаны.

Дзед плакаў, праўда, не ўголас, але слёзна, вачыма. Прытуліўся да мяне, абхапіў аберуч:

– Не пазнаеш?

Я не пазнаваў, у чым і прызнаўся.

– Я Міхась, хлопчык. Міхась Міцкевіч. Брат Якуба Коласа.

Мне як развіднела. Цьмяна, але я нешта чуў пра брата Коласа Міхася, яго пакручасты лёс.

– Вер мне, хлопчык, вер, – між тым гаварыў дзядок. – На маіх руках крыві няма.

– І ў мяне рукі чыстыя, – падышоў Масей Сяднёў.

Шкадую, ні з Міхасём, ні з Масеем працяглай гаворкі не атрымалася. Перанялі і адцягнулі ўвагу знаёмыя, а мо і родзічы вядомага ўжо тады спевака Данчыка. Падаравалі дзве кружэлкі з запісам яго песень, сярод якіх на словы Ніла Гілевіча “А я лягу-прылягу”, якую адразу ж нараклі гімнам беларускага лайдака і якая сёння дык, пэўна, магла паслужыць з ласкі ўладаў і гімнам дармаеда. Адна кружэлка прызначалася мне, другая паэту Алегу Мінкіну. Толькі я вінаваты. Даруй мне, Мінкін, сваю, як палічыў, я разбіў, а тую, што павінен быў перадаць табе, аддаў Нілу Сымонавічу, чым надта ж усцешыў яго.

Заняты гэтымі падарункамі і наказамі, усё ж прыкмеціў, што нідзе ў зале няма майго куратара і шафёра нашага прадстаўніцтва. Куратар узнік каля мяне нечакана. І адразу ж настойліва пацягнуў да выхаду з залы:

– Біць будуць. Будуць біць, – давёў ён мне. – Я гэта адчуў пасля тваіх апошніх словаў пра паліцаяў. Знік, каб падагнаць бліжэй машыну: каб з ганку – адразу ў легкавік. Хутчэй выходзім. Стаянкі нідзе няма, усё занята. Машына заведзена.

І мы ці не подбегам пакінулі залу публічнай бібліятэкі Нью-Ёрка. Не ведаю, збіраліся мяне біць ці не. Хочацца верыць, што не, вельмі ж гасцінна сустракалі мяне бібліятэкаркі і шмат хто са слухачоў. І хораша, і ўтульна мне там было, і нос ні з вечара, ні з ранку таго дня не часаўся. Хаця пазней мы з куратарам, ужо ў прадстаўніцтве, добра ўзялі на губу і пагаманілі душэўна, пусціўшы ваду ў прыбіральні, каб ніхто нас не падслухаў і не ўведаў нашых сакрэтаў.

Мяне і ўразіў, і крануў клопат куратара, яго імгненная рэакцыя і кемлівасць. Усё гэта паціху, пакрысе пачало знікаць з нашага жыцця. Нават пастановы Палітбюро ці прэзідыума ЦК КПСС, па іх жа сведчанні, выконваліся толькі на дваццаць пяць адсоткаў. На тры чвэрці ўлада проста балаболіла і страсала паветра. У самым разгары была гарбачоўская перабудова і галоснасць. Заканчвалася дваццатае стагоддзе, набліжалася

дваццаць першае. Панавалі разгубленасць і апатыя нізоў і няздольнасць вярхоў.

А я не жадаў выходзіць з дваццатага свайго веку – вясковая вернасць. Вернасць свайму стойлу, балоту і часу. Як гаварылі тады: мы айчыну не прададзім, мы яе лепш прап'ем.

Усё сумясцілася ненаедна ў адным чэраве. Прадалі і прапілі. Выпілі і закусілі, толькі не ўсе. Адзінкі. І не віна і гарэлкі, а крыві – надзеі, веры, марных спадзяванняў. Але гэта яшчэ наперадзе. І я, як сапраўдны беларус, тым больш паляшук, што ніколі сала свайго кабанчыка не есць, у большасці чужое, суседскае. Сваё ж – прынамсі, гэта было раней – разносіць, раздае па тых жа суседзях, сябрах, родзічах. А тыя кормяць яго ў адказ сваім салам. Вось так дрымуча і ў кругавой повязі і жывем. З гэтым нараджаемся і паміраем: абы ціха. Абы не было б вайны: бы-бы-бы, быбыкі.

Гэта было ўва мне і дома, і на чужыне. Я перасцерагаўся каму-небудзь быць вінным. Лічыў абавязкам разлічыцца за кожнае добрае слова, акраец хлеба, скрылёк сала. Ці не адсюль бярэ пачатак нашая паслухмянасць і памяркоўнасць і не перапыняецца з веку ў век, бо сумленне таксама няспыннае і непарыўнае. Калі ёсць, то ёсць, а калі няма... Спажывецкі час толькі выкрые і памножыць яго адсутнасць на тыя ж грошы, даляры, фунты, юані і рублі. Мільёны і мільярды, што ў нас жа ўкрадзены. Украдзены ў адлітых з гіпсу, згарэлых пасля землятрусаў людзей, у нас з вамі.

Вось чаму я без роздуму і ваганняў прыняў прапанову куратара і авечым хвосцікам пацёгся за ім ці не з узноўленай, акрылены летуценнай марай маленства, жаданнем подзвігу, служэння Айчыне, падобна ўжо сатлеламу Паўліку Марозаву. У той жа час па-шпіёнску, выведкава не губляючы з поля зроку не толькі мінулае і сённяшняе куратара, але і наваколле. Раенне чужога люду на чужых мне вуліцах, нервовы рух як нашкіпінараных легкавікоў, іх хаду і пешую прысутнасць сярод усяго гэтага самога сябе. І мне гэта было надта ж цікава.

Асабліва займалі спачатку людзі. Падобна, яны не прывыклі хадзіць пешкам, не адчувалася нашых асалоды і імпэту пешай хады, мэтавай яе заклапочанасці і бесклапотнасці пад апекаваннем родных бароў і водаў. Яны ж ішлі і ішлі, хаця і прыязна ўсмешлівыя, але як выгнаннікі-яўрэі з Егіпта, аднолькава няўважна, непрывязна і адрачона, здаецца, што не па Вавілоне, па пустыні. Вандроўнікі, качэўнікі, пустэльнікі. Але ў гэтай іх вулічнай адасобленасці, усмешлівасці і незанятасці і гультаяватасці руху, як ні дзіўна, была праўда, праўдзівасць, непарушная ўпэўненасць у тым, што толькі так і варта хадзіць. Нейкая заказная, зададзеная патрэбнасць, хаця патрэбнасць звыкла вымушаная, механічная: ранкам бегалі дзеля мацыёну і здароўя, цяпер шпацыравалі, упэўненыя ў сабе, сваёй хадзе, сваім горадзе, асфальце і непахіснасці сваіх шклобетонавых хмарачосаў. І самі як хмарачосы, бо амерыканцы непадробна – нават беспрытульныя – нясуць у сабе ж Амерыку і амерыканцаў, як расійцы сваё разуменне старэйшага брата.

Міжволі прыгадваліся словы Алеся Адамовіча. Неверагодна, але я сустрэў яго на вуліцы Нью-Ёрка, непадалёку ад нашага прадстаўніцтва. Каля выбітнае крамы "Аляксандэр". Ківаючы на вулічных прахожых, Аляксандр Міхайлавіч як нешта даўно нагледжанае і выспелае даводзіў мне:

– Асобная парода людзей. Яшчэ людзі, але ўжо і амерыканцы. Па праўдзе, ніколі не хлусяць, але ці ёсць за гэтым праўда. Сапраўднасць пачуццяў, спачуванне чужому чалавеку. Костку са свайго стала яшчэ кі-

нуць, а мяса... Апошняй сарочкай не падзеляцца. Яны іншыя і інакшыя. А мы для іх – тое зніклае звяно ў ланцугу чалавецтва, паміж малпай і неандэртальцам.

Так гэта ці не? Думаю, што так, хаця ў той дзень, ідучы за куратарам, давялося бачыць і іншае. Яшчэ толькі ўчора, праходзячы міма знакамітага міжнароднага валютнага банка, я прыкмеціў на яго прыступках надта ж засмучаную дзяўчынку. Па-вясковаму, па-наску засмучаную. І на выгляд, падобна, нашую, вясковую. Кранальна кірпатую, з ластаўчыным рабацiннем на твары і носе. Сцяўшыся ў камячок, падкурчыўшы пад сябе ногі, яна сядзела на каляровым мармуры ўваходу ў банк, нібы куранятка, згубленае і разгубленае сярод стракатага кветніка і высокай травы.

Цяпер жа, у часе выканання абавязкаў шпіёна, я ўбачыў яе там жа. Начавала, ці што? На хвілінку забыўся пра свой ганаровы абавязак быць пастухом, пасвіць падпалкоўніка-куратара. Прыгледзеўся да дзяўчынкі. Яна ледзь не румзала, але была не адна. У атачэнні зноў жа падобных да амаль вясковых кабет, што, бы куры-квахтухі, тапталіся каля яе. Ужо на наступны дзень у “Нью-Ёрк таймсе” было надрукавана: дванаццаці-ці чатырнаццацігадовая дзяўчынка, фермерская дачка, збегла з дому і прыбілася да Нью-Ёрка. Да банка. (Добра ж удумала, куды прыбіцца). Жанчыны сабралі грошы і правялі яе дахаты.

Адразу ж узгадалася маё беспрытульніцтва на Айчыне. За намі, шматлікімі пасляваеннымі тады сіротамі, безбацькавічамі, міліцыя палявала, нібыта за зайцамі ці пацукамі. Адлоўлівала. Міліцыянт пытаўся:

– Галодны?

Чаго пытацца, зразумела, галодны.

– Макароны па-флоцку будзеш есці?

І, ведаючы ўжо адказ, міліцыянт нахіляў галаву, заціскаў маю галаву, як абручамі, паміж каленяў і пачынаў карміць макаронамі па-флоцку – секчы па карку даланёй так, што і няз’едзенае пырскала ў паветра і ў штаны. А каб хтосьці тады пакарміў ці даў якога рубля – гэта, пэўна, было б не па-амерыканску. Мо якраз дзеля гэтага варта пахадзіць ў шпіёнах па вуліцах, авеню і пранумараваных стрытах Нью-Ёрка.

Мне, як цалкам савецкаму, ні ў якім разе нельга расслабляцца. З маленства, з малаком маці і каровы ўваччу плакат: “Вораг не дрэмле”, і хаця я не бачу варожасці, але і сустрэчная прыязнасць можа быць удаванай, чыста нацыянальна-амерыканскай. Жанчыны каля дзяўчынкі ўвогуле ні на цэрэушніц, ні на фэбээравак не падобныя. Ды толькі хто ведае, пад якім аблiччам, якой усмешкай сёння замаскіраваны шпіён. Падобны, не падобны, ідзі разбяры-зразумей, знайдзі некага, здалёк адразу падобнага да шпіёна. Пакажыце мне хаця б аднаго, а з другога боку – варта толькі ў люстэрка паглядзець. І выгляд жа зусім не шпіёнскі, а раблю шпіёнам.

Гэта мне не інакш нагадана бясконцым, амаль эратычным рухам і жарсцю няспыннага гону легкавікоў. Яны, амерыканцы, зноў жа, таксама ездзяць не па-нашаму. Вучыць і вучыць іх трэба. Бягуць шчытнымі шэрагамі, як рымскія легіянеры, закаваныя толькі ў метал ды на гумавым хаду. Пруць, нібыта крыжаносцы на Чудскім возеры. Па-вайсковаму, не парушаючы палоснасці, паслухмяна спыняюцца пад чырвоным вокам іх дзыбатага камандзіра. А як толькі тое вока падміргне ім, зноў жа паслухмяна і цішком кідаюцца ў эратычныя гоны і бегі, у адной звязцы.

Не, нашыя не такія. Мне нязвыкла. Нашыя, калі едуць, то даюць ку-

родыму. Літаральна, без дурняў, даюць куродыму і дразда на ўсю Іванаўскую. І з дымам, гукам і рыкам, нават мацерным. Але ўсё гэта, прабачце, ці не сённяшняя памінальная абстракцыя ўжо, бурклівасць, а мо і асінавы кол свайму мінуламу, што грэшна. Грэшна таптацца на былым, на магілах і танчыць там, ладзіць гулі, скокі, казіно, ядальні, расперазвацца чэравам, падобна «Поедем поедим» у Курапатах. Адрыгнецца, бокам выпрэ, кутніцай, кілой і ракам да дзявятага калена будзе караць манкуртаў і зомбі, сугнееў і злыдняў, забыўшых сябе, зняважыўшых памяць нябожчыкаў, продкаў, бацькоў.

Застаюцца адзаду, змяняюцца, адбягаюць і зноў набягаюць амерыканскія авеню, стрыты і пранумараваныя, як у нас нумаруюць казённую мэблю, нерухомасць, нью-ёркскія вуліцы. Так, як мы ідзем, заяц скідвае петлі, кругамі ходзіць воўк, кружыць коршак над сялянскай сядзібай у пошуках спажывы. Такая ўжо звярына-птушыная доля шпіёнская – воўка кормяць ногі. Хаця, гавораць, сёння сэнсу шпіёніць, біць ногі і тлуміць галаву – нуль цэлых і нуль дзясятых. Усё на слыху, усё на бескасцёвым языку, мове газет, радыё і тэлебачання: бла-бла-бла. Усё ўжо прашпіёнена, на блакітным сподачку, усяму свету па сакрэце абвешчана. Выведана, як на Айчыне, украдзена. Але раскрадзена то раскрадзена, а крадуць. Нешта, значыць, застаецца. Невычарпальны айчынны самабраны абрус. І сярод шпіёнаў і выведкі беспрацоўных няма. Хутчэй наадварот, як кажуць, былых разведчыкаў і кадэбэшнікаў не бывае. Усе пры справе, пад крылом дзяржавы. Бо за сваімі вока і вока трэба мець і мець. Хаця б дзеля ўведання, дзе што ляжыць ці стаіць, каб самім скамуніздзіць. Вока і адвечнае паганяла заўжды трэба мець, а то і хрэн за мяса перастануць лічыць.

І вось ці не тут той заўсёды зламысны сабака закапаны: як пры такім воку, наглядзе, такой незлічонай раці вартаўнікоў прашляпілі, прагледзелі не што-небудзь дробненькае, а краіну, дзяржаву. Адну шостую частку свету. Няйнакш памаглі самі вартаўнікі разам з крамлёўскай хеўрай. Як гавораць, хто на чым сядзіць, хто што вартуе, той гэта і крадзе.

Мэдысан авеню, пятая авеню, Цэнтральны парк паміж імі, Тайм-сквер, Эмпайр Стэйт Білдынг, Брадвей – усё змяшалася ў беднай галаве палешука. Хаця Брадвей з гэтай мешаніны выбіваецца. Надта ж на слыху паўсюль. Выбітны працягласцю – дваццаць пяць кіламетраў, чвэрць даўжыні Сталінграда ці Валгаграда, як наша, па асацыяцыі і блізкасці па назве Даўгабродская. Была калісь Даўгабродская, перайменавалі ў Казлова, і стала Казлабродская. Але паміж нашым Казлабродам і нью-ёркскім Бродам, амаль адэска-бабруйская розніца. Іхні Брадвей і непадалёку ад яго Ӯол-стрыт, апендыкс, накшталт нашых кароткіх Сацыялістычных тупікоў. А тут сусветная знакамітасць, прыстанішча разбэшчаных лайдакоў, музей і выстава ўолстрытаўскіх банкаў, банкіраў, мільёншчыкаў і мільярдэраў, якія, небеспадстаўна пагаворваюць, і ходзяць не па асфальце, не па бруку, а па алмазах і брыльянтах – чаму ў іх вечная патрэба абутку, падэшвы туфляў не трываюць у бедных і няшчасных. Імгненна зношваюцца ўшчэнт на алмазах бруку.

І сапраўды, бедныя і няшчасныя тыя, каго я бачу цяпер на Ӯол-стрыце. Нікольк і нічым не выдаюць на багацеяў. Ідуць не надта вялікімі купкамі. Як пазбягаюць і староняцца адзін аднаго. Крочаць лена і, як мне здаецца, разморана, нібыта апоўдні ў сонечным зацішку ці ў надвячоркавым спакоі каровы з пашы, раскарачаныя ад лішку малака ў вымені, – ледзь жуйку

не жуюць. Туфлі не зношаныя, апрануты, падобна, беднавата, але чысценька, па-старэчы чысценька, дагледжана. Падэшвы спраўныя, а твары ўжо добра зношаныя, пабітыя ці то моллю, ці то ўзроставай грэчкай, іржой.

Неяк да гэтага я бачыў, як па Ўол-стрыце і Брадвеі шпацыравалі зусім іншыя людзі. Маладыя і падцягнутыя, мадняцкія, з іголачкі апранутыя, так што і пылінкі на іх не было. Сапраўдныя янкі ці дэндзі-мільёншчыкі і мільярдэры. Але мне патлумачылі, што гэта простыя банкаўскія служачыя, клеркі. А папраўдзе міліянеры і міліярдэры вось такія непаглядныя і каржакавата затруханыя – старыя казлы. Сціплыя і ціхія амерыканскія Альхены – як расійскія Абрамовічы ды Гусінскія з Беразоўскімі. А непаглядныя таму, што няма чаго на іх глядзець. Глядзіце на іх даляры. І я і думаць не мог, што сярод іх ёсць нехта з ЦРУ ці ФБР, якія цікуюць за мной і куратарам, амаль ужо сапраўднымі, спрактыкаванымі працаўнікамі мяча і шчыта.

Зусім іншая справа і карціна чакала нас у Цэнтральным парку Нью-Ёрка, вельмі дагледжаным і напакаваным маладым і спартыўным людам, белым і чорным. Не мітуслівым, не гаманкім, сур'ёзна і працавіта адпачываючым. Адны палёжвалі на зялёнай траве-мураве пад шатамі задумліва-шапаткіх дрэваў. Другія ўдумліва тапталі шматлікія сцежкі, ганячыся за доўгажыхарствам і здароўем. А той-сёй, хлопец і дзяўчына, накаціста імкнулі ў мінулае, а мо і будучае на старажытных амерыканскіх паштовых дыліжансах, карэтах і кабрыялетах, запрэжаных двума ці нават тройкай конікаў. Што было незразумела – паўсюдная адсутнасць шыльдаў нашага паркавага і скверавага кшталту: праход забаронены, па клумбах не хадзіць, кветкі не рваць, на траве не ляжаць, ды іншых. Як, дарэчы, на ўсім нашым шляху па Нью-Ёрку нас ні разу не загналі пад зямлю, ні адзінага падземнага пераходу, што так люба Айчыне. Псіхалогія.

І ці не тая ж псіхалогія ўладарыла ў парку. Дваццаць першае, хаця яшчэ дваццатае стагоддзе вытыркалася, паказвала свой твар, настальгічна плакала і смяялася сярод аціхлых дрэваў, бесклапотна, але сур'ёзна занятых адпачынкам у выходны дзень людзей. Я мімаволі страпянуўся і паплыў, паплыў у свой пачатак, у сваё хаця і дзетдомаўскае, але светла-бестурботнае галапузае дзяцінства.

Было падобна, што мяне падымалі і неслі. Трубныя архангелаў і анёлаў гукі, чыстыя гукі мінулага і будучага нараджаліся і пачыналіся не з зямлі, а з неба. Павольна слізгацелі, хмарава луналі ўгары, дасягалі долу. І, нязздольныя справіцца з чысцінёй, напалам і ўзнёсласцю, прападалі, хаваліся ў вушастых медных капялюхах раструбаў духавога аркестра. Ганарліва наструненых шляхетных горнаў і падтакваючых ім падбрэхічаў альтоў, па-вясковаму задумлівых няспешных і памяркоўных тэнараў, усёпераможных і ўпэўненых у сабе брухатых басоў. І зноў аказвалі сябе ўвайшоўшыя і адразу ж вызваленыя з металу. Захоўваючы нябеснасць, залатымі зайчыкамі, што вольна разбягаліся паўсюль, палюбоўна дападалі да лістоты, шатаў і макавак дрэваў,ператвараючыся ў аціхлых на тую хвіліну хуткіх крыламі птушак. Галосячы іх боскімі спеўнымі галасамі, якія ўхвальна слухалі, звесіўшы галовы ўніз, хвастатыя – распушаным хвастом у неба – ваверкі.

Гэта была застыглая, затоеная ў часе музыка таго мястэчковага дзетдома, у які я трапіў. І, пэўна, не толькі дзетдома. Аркестр духавой музыкі прабегся па лёсе ці не ўсяго майго казённага і хатняга пакалення:

В городском саду играет духовой оркестр,
На скамейке подсудимых нет свободных мест...

Ці не гімн гэта маленства, сталення самога майго, нашага некалі былога часу, калі па ўсіх парках, скверах, на ўсіх танцпляцоўках ігралі ў большасці толькі духавыя аркестры, праз млявую тамлівасць якіх дзяўчыны станавіліся жанчынамі, а падлеткі, юнакі – мужчынамі.

І мяне па прыездзе ў пасялковы дзетдом сустрэлі і ацанілі – да якога духавога інструмента я прыдатны.

– Труба, – мовіў хтосьці з купкі сустракаючых.

– Не, губамі не выйшаў. Таўставатыя.

– Тады бас.

– І тут не падыходзіць. Танкаватыя.

– Тады ні на што не годны. Ні ў кутніцу, ні ў Чырвоную Армію.

Як у ваду глядзелі. Непрыгодны я быў да музыкі і музыкаў, як і да Чырвонай Арміі. Не было слыху. Строем не здольны быў хадзіць і каманды не разумеў: як гавораць – сена, салома. А сама музыка чаравала. Абуджала. Нешта накшталт коціка ці злодзея, духоўнага злодзея, мімаволі пранікальнае ў чалавека. Так яна ўзяла і маіх дзетдомаўскіх хаўруснікаў. У пасёлак прыйшла разам з войскам, што на нейкі час спынілася і квартаравала там. Войска мела свой духавы аркестр, гукі якога імгненна спустошылі дзетдом. Вайсковыя музыкі, уражаныя апантанасцю захаплення зусім не дзіцячых вачэй, што спазналі вайну і смерць, вырашылі падарыць ім свае інструменты, самім жа на вайну пайсці паміраць без музыкі. Пакінулі ў памяць пра сябе палескім сіротам свой трафейны духавы аркестр і тым адным з іх прызначылі будучы лёс, другім жа – проста магчымасць нечым заняцца. Зарабіць на курыва ці цукерку, правесці свайго ж равесніка пад крыж на местачковыя могілкі ці на станцыю да цягніка. У самастойнае жыццё.

Неба цешыла, лагодзіла сябе і людзей музыкай, жывым і рухомым дыханнем і духам свайго жытла, невычэрпным, неабсяжна вялікім і велічным, што абдымкава прыпадала, паланіла і песціла ўсё існае на матухне Зямлі. Абуджала яе ззянне, прамяністасць яе блакіту, патрабуючы ў адказ таго ж самага. Такой жа ласкі, пяшчоты. Каб там, дзе гэтае зямное і нябеснае сыходзіліся, зачыналася вясёлка, што каляровай музыкай ахоплівала і агучвала, асвячала неабсяжную бясконцасць нашага будучага, у якім не зводзіўся б дух і дыханне той жа музыкі, каб чалавек назаўжды стаў носьбітам, суседам, жытлом, захавальнікам вясёлкі, струннай яе музычнай цноты.

Не, толькі дзеля гэтай сустрэчы ў Цэнтральным парку чужой, а мо і не надта прыязнай краіны варта было пайсці ў шпіёны, пагуляцца, як у маленстве, з небам і зямлёй. Хаця духавы аркестр тут быў зусім гукава і знешне нават не падобны да нашага дзетдомаўскага. Яднальнымі заставаліся толькі захлісты і захлынанні знаёмай, роднай мне радасці і скрухі, стоенай у ім. Узнёсла чыстыя і бязмежна кранальныя, без фальшу. Ігралі ўкраінцы. Маладыя ружовашчокія твары парубкаў, а каля іх – кроў з малаком маладзіцы. Стракатасць вышыванак, сарочак, паясоў, запарожскія чубы, вусы і бездакорна бліскучая, зіхатлівая медзь інструментаў – не інакш, як і мы, крэйдай драілі і суконкай паліравалі. І дыхалі, дыхалі на іх, дыхам сваім надавалі спеўнасці ім.

Амаль нашы людзі, суседзі з Нью-Ёрка. Нашы, але зусім не нашы. Мяне яшчэ раней папярэдзілі, каб я, крый Божа, не загаварыў каля іх

на рускай мове. У лепшым выпадку зганяць і затуркаюць. А то і пабіць могуць. І я быў хаця і сярод іх, але стоена, маўкліва, як сапраўдны шпіён і паляшук – толькі вачыма, вушамі і крыху сам не ведаю чым, мо сцішанасцю, нібыта пры ўваходзе ў бацькоўскую хату пасля доўгай разлукі, дыхання.

Сярод іх, пэўна ж, былі і службоўцы, звязаныя з ЦРУ і ФБР. Няма вяселля без нячысціка, чорта і дзіва. Былі, я ўпэўнены, бо ці не ўсе хахлы зацятыя не толькі ў працы, але і ў службе. Толькі я быў супраць гэтага, так ужо выхавалі, нягледзячы ні на што – здрады, ссучанасці мы не трывалі. Ледзь што, адразу ж ладзілі цёмную. Мо таму з мяне такі няўдалы шпіён, ці то мы, палешукі, увогуле як шпіёны нікуды нягодныя. Ці то ўсе шпіёны за намі ў нядзелю звяліся, ні ЦРУ, ні ФБР мышэй не ловяць. Крыўдна нават. Гады ў рады выправіўся бедны паляшук у шпіёны, і тут яму не шанцуе. Так ужо нам наканавана.

Але ж у Цэнтральным парку, непадалёк ад украінскіх музыкаў, здаецца, пашчасціла. Знайшоўся такі-сякі, падобна фэбээравец ці цэрэушнік, хаця і чарнаскуры. Адліты з ваксы, адны далоні і зубы блішчаць, паказальна мажны. І крошкі сабраў – шпіён. Асабліва ўначы пры месяцы, ды і ўдзень жа чорнае парушыць і засціць вока. Я прыкмеціў яго яшчэ раней, ці то на пятай, а мо і на шостай авеню. Ён цягнуўся следам за намі, маім куратарам і мной, спыняўся, калі спыняліся мы. Пільна прыглядаўся да тых, хто крочыў побач з ім, у тым ліку і да нас, маскіраваўся цікаўнасцю да сметнікавых урнаў.

Тут варта адзначыць, што амерыканцы ў вулічным абыходку не надта ахайныя. Як знарок, смецце стараюцца кінуць міма сметніцы, амаль як і мы. Лічаць, чыста там, дзе прыбіраюць. І ўначы Амерыка прыбірае ўсё дзённае. Але пасля дажджу асфальт каля урнаў і самі урны расцвітаюць, нібыта клумбы, кінутымі зламанымі, а часам і спраўнымі парасонамі. Амерыка, як кажа шафёр нашага прадстаўніцтва. Яе б на Палессе ці ў Мінск, мы б навучылі хаця б парасоны паважаць і свабоду любіць.

Негр не абыходзіў ніводнай сметніцы, корпаўся, нешта вышукваючы ў іх, але парасонамі відавочна грэбаваў.

Ён неадступна следаваў за намі па авеню, стрытах і ў Цэнтральным парку. Украінскіх музыкаў абачліва мінуў бокам, мо быў расійскім неграм? Затрымаўся, распужаўшы на дрэвах вавёрак. Прымусіў іх ваяўніча, трубна ўскінуць угару іржавыя хвасты. Схаваўся ў маладым падросце кустоў. Доўга корпаўся там і нешта мармытаў. І зноў крочыў за намі. І я пры першым жа сутыкненні з куратарам на межава сярэдзінным падзеле нейкай авеню ці стрыт, наструнена, як наш разведчык Абель і амерыканскі шпіён, лётчык Паўэрс на мосце пры двухбаковым узаемаабмене імі, падаў яму знак. А пры непасрэдным кантакце паведаміў:

– Ёсць падазроны. Нас вядуць. За намі сочаць.

– Хто? – амаль радасна выдыхнуў куратар, бо, пэўна, абрыдла зацягнутая і без перашкодаў гульня ў выведку. Я кіўнуў яму на негра, які на той момант прыпаў да сметніка, нешта ўсё ж дастаючы адтуль і хаваючы ў добрых памераў цэлафанавым пакеце.

– Не. І блізка не, – астудзіў маю пільнасць куратар. – Звычайны гарадскі валацуга, бяздомнік, бомж. Такіх на свеце пятнаццаць адсоткаў – ніколі не рабілі нідзе і рабіць не будуць. Бачыш – бляшанкі алюміневыя збірае з-пад “кока-колы” і “пепсі”, як нашы бамжы пустыя бутэлькі, а яшчэ і ўкрадзе што-небудзь.

Як у пацвярджэнне гэтага, міма нас пратупацеў яшчэ адзін негр: размахваючы ці не японскай сталі дарагімі нажамі з крыкам, які мне пераклаў куратар:

– Танна, таму што крадзена. Танна. Таму што крадзена.

– Во, бачыш, – зноў жа радасна мовіў куратар, – самыя звычайныя дармаеды.

І мы патэпалі далей.

А сёння я ў одуме пра тыя пятнаццаць адсоткаў амерыканскіх дармаедаў. Абкласці б іх падаткам на дармаедства – азалаціліся б. Акрыяла б адразу дзяржава, забагацела. Няма на іх нашых правадыроў, эканамістаў і мысляроў. Атамныя станцыі будуюць.

Так ішлі мы, ішлі чужым сонцам смаленыя і апечаныя. Хаця гэта мне ўжо абрыдла. Але ж беларускія, палескія шпіёны трывушчыя і цягавітыя. Як пра нас, паляшукоў, кажуць: такія ж людзі, толькі са знакам якасці. Кожную справу даводзяць да заканчэння яе ці сябе. Выжыльваюцца да апошніх гізунтаў – пакутнікі часу, гісторыі, мо таму і пазбаўленыя зямлі, мовы і ці не імя. Адным словам – беларусы.

Недзе, мо на Тайм-скверы, маладзенькія амерыканскія прыгажуні, пяць-шэсць дзяўчатак школьнага ўзросту, даволі спрактыкавана, з зусім не падлеткавым веданнем справы круцілі яйцы прэзідэнту Рональду Рэйгану. Рэйган быў кардонны, з пап'е-машэ, але зроблены грунтоўна, пераканаўча натуральна, як усё, пэўна, у Амерыцы. На ўвесь свой, а мо трошкі і падбольшаны рост, з традыцыйна-прытворнай усмешкай на пародзістым твары. Смяяліся дзяўчаты і з асалодай, нібыта гэта адбывалася на самой справе, жмурылі вочы і падміргвалі прахожым, у тым ліку і нам.

Сярод іх ужо дакладна не магло быць шпіёнак, не той профіль. Але не той, не той, а з другога боку бывае, што і палка страляе, і дзеўка раджае. Варта толькі ўзгадаць зноў жа Марлен Дзітрых, Мата Хары, Како Шанель, баранэсу Будберг ды і выбітную акторку трэцяга рэйха рускую Вольгу Чэхаву. Нічога ўжо не кажучы аб прафесійных куртызанках старажытнасці і нашых дзён. Ці не таксама ж яны круцілі яйцы выведкам усяго свету.

А сапраўднага цэрэушніка ці фэбээраўца, як паведаміў мне мой вядучы, я правароніў. І што тут дзіўнага і нават крыўднага. Мусіць, таму, што быў ён надта ж кідкі, сам прасіўся ў службоўцы мяча і шчыта, у нашу Лубянку. А я паўдня вочы праглядзеў, выдзіраў, шукаў яго, нібыта тую сякеру пад лаўкай.

Упершыню ён намаляваўся перада мной пасля памылкі з неграм. На самой справе намаляваўся, карцінна стоячы на пешаходным пераходзе, круцячы галавой, як певень на плоце, толькі без кукарэку. А так певень і певень, сам паглядны, фігурысты і нават гожы, кідкі, нецярплівы рухавы сярод спакойна і сціпла паводзячых сябе прахожых. Я яшчэ падумаў, чаго выдзыгаецца чалавек такога сталага веку, высакародна пасярэбраны, сівых у плаціне доўгіх валасоў, што выбіваліся з-пад шырокаполага стэтанаўска-каўбойскага капелюша. Магнітны быў чалавек. Чапляў вока відавочнай прыналежнасцю да адмысловых службаў. Я мімаволі заглядзеўся на яго і мо таму страціў пільнасць і нюх.

Наступным разам ён кінуўся мне ў вочы пасля таго, як мы пакінулі Цэнтральны парк. Куратар, пэўна, каб збіць з тропу тых, каму быў цікавы, забег у краму грузіна Жоры, які гандляваў электронікай па даволі танным кошце. Оптам пастаўляў яе і ў наша прадстаўніцтва. Я бываў у яго краме

і раней разам з куратарам і здзіўляўся, да чаго ж яны знешне падобныя, грузін і беларус, як аднаго замесу і заводу.

Абодва аднаго росту і аднолькава плячыстыя. Любяць гаварыць рукамі, жэстам. А галоўнае, як грузінскія вочы падобныя да паляшуцкіх. Чмяліна-жывыя, з іскрынкай, каляровым бляскам, хуткія, прыязныя, але выпрабавальна-абмацваючыя субяседніка. Па ўсім, Жорава электроніка была выдатнай якасці і вельмі чуйная. Жора ведаў усе маючыя быць падзеі далёка наперад. Цяпер жа ён, як сказаў мне куратар, паведаміў яму, калі мы паляцім з Нью-Ёрка дамоў, што нам яшчэ было і блізка невядома.

Я ж паказаў куратару чалавека, які нецярпліва наразаў кругаля каля крамы:

– Другі, нават трэці раз бачу яго, ці не ад самага Цэнтральнага парку ідзе па нашым следу.

Куратар наўскідку зірнуў у яго бок і прызнаў, пэўна: свой сваяка сапраўды бачыць здалёк.

– Ён! Чаго раней маўчаў?

– Не мог паверыць, надта ж усё проста і відавочна.

Я ўперыў вочы на выкрытага ўжо. Той адчуў мой погляд і, не хаваючыся, падміргнуў мне. Але я ўсё яшчэ не мог даць веры, што і наша цяля можа воўка злавіць, і калі не з’есці, то добра пакусаць. Амерыканскі шпіён, наглядчык, мо таму, што я яго прыкмеціў і разгадаў, падабаўся мне. І чым далей, тым болей. І во дзіва, ці не ведаў я яго раней, здаўна, на Радзіме яшчэ. Бачыў у замежных амерыканскіх кінастужках. У вестэрнах. Ягоная постаць нібыта сышла з экрана каўбойскага фільма, якія на тую пару палюбіў і адзіна мог глядзець з замежнага і айчыннага кіно.

Жывы каўбой, вясёлы і лагодны, толькі без каня, стрэльбы і пісталетаў, і не ў саване ці ў прэрыях, каля салуна стаяў на бруку шматмільённага горада, сучаснага Вавілона. Блакітнаджынсавы, у каўбойскім абутку, у чаравіках з доўгімі халявамі ці чобатах на высокіх абцасах з меднымі, накшталт сапраўдных шпор, набойкамі быў яўлены мне. А куратар даводзіў да мяне азы выведкі:

– Каб ведаў, наружка не заўсёды вядзецца скрыта. Бывае і выклікальна адкрытая. Таптун знарок падстаўляецца, каб нерваваць, выклікаць разгубленасць і давесці да глупства, самавыкрыцця аб’ектаназірання.

Я не адгукваўся на яго словы і не пярэчыў яму. Засмучала іншае. Мне было крыху непамысна ад таго, што сучасныя каўбоі пайшлі ў звычайную выведку, у шпіёны. Кіношная і кніжная памяць дзяцінства пра іх абуралася і пратэставала. Нешта ўсё ж было ў ёй мройнае, дзіцяча-жаданае пасля маёй мары пайсці ў шпіёны. Ці не трапяткое нават. Нешта карэннаэнаёмае, побытава-роднае. За чым цьмяна праглядваліся з тла пражытага піраты, гуліверы, ліліпуты, следапыты, фіністы ясныя сокалы і, безумоўна, амерыканскія індзейцы, нечым падобныя да палешукоў, якімі нас яшчэ са старажытнасці лічылі ў адукавана цывілізаваных краінах.

Я амаль уяўна адчуваў, як прачынаецца і мацнее, смыліць, трашчыць і рвецца мая заскарузлая ў гадах, у наплывах дробязяў жыццёвай мітусні памяць. Зносіла вечка, зрывала дах. Таму што пад імі хавалася зусім іншае жыццё, летуценна і мройна набытае ў асляпляльным горача апечаным і асвечаным маленстве, у якім я няздольны быў прырасці да гэтага свету, быў прыхаднем з іншых светаў. Светаў Вальтэра Скота, Фенімора Купера, Янкі Маўра, Якуба Коласа. Хаўрусаваў у краіне райскіх птушак з

палескімі рабінзонамі, апошнім з магікан, вершнікам без галавы, Зверабоем і Фіністам – Ясным сокалам.

Усё змяшалася і скруцілася, збілася ў славуты паляшуцкі каўтун у дрыгве і багне родных балотаў, бароў, дуброў і гаёў – на пашчапаным сякерай бацькоўскім парозе. У вар'яцкім бегу пазначанага мне цягніка да прызначаных мне, загадзя расстаўленых вакзалаў. Але мая дарога са стралою пракладзенымі сталёвымі рэйкамі маёй будучыні, падобна, недзе падманула мяне, пацягнула ці не ў тупік. Паманіла, пацвяліла, захапіла – і кінула чыгуначным металёвым башмаком пад колы вагона на чужой, адчужанай ад мяне станцыі новага Вавілона, у якім я раблю шпіёнам, дзе мне наканавана ўсё ж сустрэцца са сваім паляшуцкім дзяцінствам, зачараванасцю жаданых, але схаваных ад мяне светаў. Спатыкнуцца, як некалі на родным балоце таксама не чужым мне пасланцам іншых зямель – камені майго жыццёвага і пажыццёвага спатыкнення.

Каўбой пры ўсёй яго кіношна-амерыканізаванай каўбойскасці на самой справе нечым быў падобны да індзейца. Індзейца і каўбоя мінулага кіно. Не сённяшніх крывавых баявікоў Галівуда і не менш крывавых расійскіх бандыцкіх мыльных серыялаў, што апанавалі не толькі тэлескрыні, а ўвогуле мастацтва – і кіно, і літаратуру. Дух і дых культуры. Збілі з панталыку і тропу піпл. Калялітаратурныя незадаволеныя дамачкі-пісучкі і такія ж пісукі мужчынскага роду адчулі, ўзялі след халяўна-кіношных дэтэктыўных грошай, і адзін за другім кляпаюць дэтэктывы-сцэнарыі з выкарыстаннем фрэйдаў сучаснага псеўда-псіхааналізу раман за раманам: х*а*вай, быдлячы піпл. Ці не таму, што сустрэлася штосьці знаёмае па былым яшчэ сапраўдным мастацтве і жыцці, вяртанне колішняга вестэрна і каўбоя, хаця і шпіёна, мне здаліся добрым знакам, што неўзабаве ў нейкім родзе і пацвердзілася.

– Ну, што ж, – мовіў куратар, нязводна гледзячы на таптуна-каўбоя, – калі танцаваць, дык і кружыцца. У адкрытую дык у адкрытую. Пагуляем, паглядзім, чые нервы мацнейшыя.

І пачаліся іх танцы і гулі. Куратар амаль рэверансна, як кавалер барышню, запрасіў свайго ворага на першы круг – танга, вальса, румбы? І той з нізкім прыседам, толькі не махаючы насоўкай, прыняў запрашэнне. Куратар павярнуўся да мяне, загадаў:

– Чакай мяне тут.

І пайшлі яны, як шэрачка з машэрачкай, пругкай моладзевай хадой па абыякавым да іх гульняў і танцаў Вавілоне. Горад жа, пэўна, ужо даўно прывык да шпіёнскіх ідовішчаў, не замінаў і не пярэчыў ім: чым бы дзіця не цешылася, абы грошы плаціла..

Да мяне куратар вярнуўся недзе праз гадзіну. Цэлы, з непашкоджаным тварам і з нерасхлістанай вопраткай. Прыехаў на таксі. Я не стаў пытацца, куды ён падзеў свайго паплечніка. А "Нью-Ёрк таймс" у бліжэйшыя дні нічога не паведаміла пра безыменных нябожчыкаў, трупы якіх знойдзены ў новым Вавілоне.

Набліжалася завяршэнне маёй шпіёнскай кар'еры. Мы падышлі да самага звычайнага, у некалькі паверхаў будынка, мо, у параўнанні з іншымі, і непагляднага. Яшчэ не заходзячы ў сярэдзіну яго, вонкі, на вышараваным шампунем асфальце я адчуў, як нешта незразумелае, не датычнае маёй шпіёнскай работы пачало лёгенька ды з усіх бакоў ахопліваць мяне, нібыта мякка воглы і ласкава цёплы павеў ветру птушку. Мозг сярод дрымоты

страпянуўся, як пад першым сонечным чырвоным, але халаднаватым промнем, нібыта сонца пазяхнула абяцаннем цёплага дня. І птушка пазяхнула ў адказ, і я пазяхнуў нечаму ці некаму, што спачатку неадчувальна, але ўладна, ціхмяна абвалоквала мяне.

Хтосьці незнаёмы, а мо і наадварот, добра знаны, прачынаўся, выдаваў сябе ў чужым замежным горадзе, краі. Прачынаўся, пацягваўся, абдымаў і абдаваў мяне забытым дыханнем роднай бацькоўскай хаты, прапаленай пад хлеб ці грыбы печы, цьмянай прахалодай сенцаў, сырадоем хлява са сцельнай будучым цялём каровай. Прадчуванне цягавітасці і непарыўнасці жыцця, яго голасу, што падавалі бёрны, насычаныя жывіцай, не падсочаныя бёрны адгукаліся ранку, сонцу і пачатку новага дня, дыхалі борам у хаце і па-за хатай, дыхам стоеных у шчылінах іх цвыркуноў.

Гэта было дыханне спрадвечнага жытла, кублішча. Дыханне кніжак, што ў маленстве ўвайшлі ў мяне першай літарай і радком, а потым пяцісотстаронкава ўдзень, якія я праглынаў, еў, еў, ды не насыціўся, не даеў. Дыханне незабыўнага і нязбыўнага. Вечнай прагі маладога і сталага пазнання, падарожжа ў сусвет, космас і выведку. У ніколі недасягальную вабную краіну цудаў і таямніц.

Векапомная выведка сваёй і чужой душы, духу і дыхання свайго і чужога жыцця. Пранікненне ў іх патаемнасць. Вечнае змаганне жывога з нудой, мітуслівасцю побыту, з засцяроджанасцю вечнасці.

Але разам з гэтым нешта ў кніжнай краме не толькі ўсцешвала. Але і насцярожвала. Нешта не зусім здаровае, гарачкава-хваравітае хавалася на маўклівых паліцах з рускамоўнымі творамі. Нешта вычваралася там нядобрае, пагрозлівае, сцята ўгневана папераджальнае. Я тады не зразумеў – што. Усе кнігі суладна дыхалі друкарскімі фарбамі, клопатам іх творцаў, вытворцаў, разняволенасцю моў і словаў, неаспрэчнасцю свінцовых набораў, шрыфтоў, як апошнім, дарэчы, кропкава дыхае куля. Гэта я зразумеў, уцяміў значна пазней. Але да гэтага яшчэ трэба было дажыць. А тады, увайшоўшы ў сярэдзіну памяшкання, да якога мы з куратарам дабрылі, я быў захоплены і ўражаны духам і дыхам жытла. Наскім, родным, ці, як гаворыцца, рускім, славянскім духам.

Кніжная крама, сусветна вядомая сапраўднаму чытальніку друкаванага слова: кнігарня Віктара Пятровіча Камкіна. Расійскага ў свой час чалавека, апантанага кнігамі. Былога белагвардзейца, калчакаўскага афіцэра, які пранёс сваю апантанасць праз моры і акіяны, праз вавілонскае markdown-рознамоўе. І калі ў свой час у Амерыцы пайшлі яўрэйскія пагромы, парадокс біяграфіі і часу, бараніўся партрэтам правадыра пралетарскай рэвалюцыі У.І. Леніна, выставіўшы яго ў вітрыне сваёй кнігарні.

Вось так забаўляецца з намі час, пасміхаецца рассеянне моваў і народаў. Слова і кніга – таксама выведка вякоў і на вякі. За якімі невядомая і неспазнаная намі вечнасць зямнога духу і жытла. З'яўлення нас і сыходу. І таму свае, непадуладныя нам гулі з сусветам. Часам суровыя і нават крывавыя, але ў працяг сябе. З усмешкай Джаконды, прароцтвамі Дастаеўскага, займальнасцю Вальтэра Скота і Майна Рыда, загадкавасцю Булгакава, светлым смуткам Багдановіча – з адчуваннем, прадбачаннем нас у стагоддзях, у якіх мы не будзем смецццем у нашых зямных Вавілонах, у часе, што займальна і, пэўна, крыху грэбліва і здзекліва выпрабоўвае нас, вывучае і выведвае. Смеючыся на ўсе зубы, шпіёніць за намі. Змяняе сэнс, змест і напаўненне нашых біяграфій, прыстасоўваючы іх да патрэ-

баў часу, свядомасці і сумлення ладаў эпохі і гісторыі. Наканаваныя нам спадарожныя цягнікі, супынкі і канцавыя станцыі і вакзалы прыбыцця.

У дадатак, як пацвярджэнне гэтага – нездарма мой куратар з Лубянкі падводзіў мяне да шыльды з назвай вуліцы імя Бонэр, жонкі бацькі вадароднай бомбы Андрэя Сахарава, які адразу пасля выпрабавання той бомбы прапанаваў М.С. Хрушчову бахнуць ёю па Амерыцы. Але потым стаў прызнаным светам пацыфістам, гуманістам, змагаром з савецкім ладам, як і яго натхняльніца жонка А. Бонэр. У пару ім і знішчальнік, руйнавальшчык злачыннага камуністычнага ладу, сістэмы Аляксандр Салжаніцын. У яго, безумоўна, векапомна выкрывальнай кнізе "Архіпелаг ГУЛАГ" у кнігарні Камкіна была схавана інструкцыя змагарнай дзейнасці з капіталізмам і імперыялізмам для куратара, абярэжніка нашых дыпламатаў у ААН, што словам змагаліся за гуманізм, супраць усіх апартэідаў, дыктатараў, выведак, падкопаў пад волю і свабоду. Я ж у той час, як і ўся наша беларуская, савецкая дэлегацыя, адстойваў волю і свабоду народа Нікарагуа, не надта нават ведаючы, дзе тое Нікарагуа, з чым яго ядуць. Даць ёй бы свой адрас і папрасіць пазмагацца за свабоду маёй роднай айчыны, Беларусі.

Мае ж адчуванні нейкай няўтульнасці каля паліц рускамоўных кніг у кнігарні Камкіна былі небеспадстаўнымі. Камкін абанкруціўся. Нашчадкі звялі ці не ўсе яго кнігарні. Але гэта бяда не толькі Камкіна – свету, часу, веку, што загуляліся ў выведку, шпіёнаў, захварэлі на шпіёнаманію. Бацылы, вірусы і мікробы гэтай хваробы прачынаюцца і набіраюцца моцы зусім не ў занядбаных цяпер кнігарнях, якія канаюць і ці не сканалі ўжо, бо ў іх знікае дух жытла. Знакі і знакі гэтаму ідуць даўно, няспынна і з усіх бакоў. Ды такія, што і казаць – дых перахоплівае. Знямець хочацца. Нездарма ўсё ж у друку там-сям, хоць і цьмяна, прагаворваецца, што Аляксандр Ісаевіч, аўтар "Гулагу", – найвялікшага каменя спатыкнення эпохі і імперыі – быў звязаны з канторай глыбокага бурэння. Праходзіў у ёй пад прозвішчам Вятроў ці Ветраў.

Па якіх спіралях рухаюцца нашыя цягнікі, на якіх арбітах расстаўлены нашы вакзалы. Гэта, па словах У. Чэрчыля, "загадка, загорнутая ў сакрэт і запакаваная ў таямніцу".

Што ж, дакладней не скажаш. Камень спатыкнення скалыхнуў мяне і загадаў загадку. На жыццё, якое загарнула мяне ў сакрэт, адгадку шукаў у макулатуры. Сакрэт не даўся. Толькі сам я пахіснуўся і няўзнак прыхінуўся да таямніцы. Выведкі таямніцы, якой я ўжо, пэўна, ніколі не спазнаю. Але ўсё яшчэ спадзяюся. Спадзяюся, бо гуляюся ў пазнанне. Наркаманія якога, наркаманія выведкі існай, паўсядзённай, святочнай, будзённай, прывіднай і міфічнай прымушае мяне быць у свеце, сярод падобных мне, чалавекам. І я іду, іду па сваім жа следзе праз камяні спатыкнення, па сцежках, барах і дубровах, багне і дрыгве дзяцінства. Па апякаючай і чаруючай нас памяці, прагі загадак, сакрэтаў таямніц, няхай і марна прывідных. Іду на чужыне і дома, па тым, што наканавана і загадана мне вечнасцю – быць шпіёнам, хаця на кожным кроку выракаюся гэтага. Толькі ў галаве трымаю: назіраць і бачыць, слухаць і маўчаць. Чым не наш з вамі партрэт, партрэт беларуса сёння.

*в. Пціч, 21 чэрвеня 2018 г.*



Леанід Галубовіч



...Маўчання не агучвай,

там – хаос...

# Гармонія гайдаецца ў калысцы

* * *

Усё, што я вачыма бачыў – рай.
А ўсё, што зведаў розумам, то – пекла.
Як сонечныя шкельцы не збірай, –
паранішся і ўсё звядзеш да кепства...

Бо з'яўленае намі хараство
і прыгажосць – не болей, чым хімеры.
Паэзія – здзіўленне пусткай: што?!
пяра на чыстым аркушы паперы.

*29 жніўня 2016*

* * *

Паэзія нікому не патрэбна,
апроч паэта, што стварыў яе,

і ўся яна – са зрэб'я ці са срэбра –
адно яму і плача і пяе.

Яна і разняволіць да нябёсаў,
і ўвязніць у самоту і запой,
пакінуўшы паэта безгалосым,
спакутаваным словам і сабой.

Але для творцы то наканаванне –
ёй слугаваць да самага канца,
не прагнучы ні славы, ані звання –
прыняўшы крыж, нібыта знак вянца...

*17 снежня 2016*

* * *

Крый Бог, сказаць каму, што ты – паэт,
каб прыхаванай не адчуць насмешкі...
З зямнога каменным зрабіўся свет,
душу згарнуўшы да маленькай флэшкі.

*30 жніўня 2017*

* * *

Маўчання не агучвай, там – хаос.
Гармонія гайдаецца ў калысцы,
дзе немаўля намацвае свой лёс,
гарлаючы па мацярынскай цыццы...

*31 студзеня 2016*

* * *

Максім Багдановіч
вяршынь паэзіі
дасягнуў рана,
а вянца славы –
толькі пасля
сваёй смерці...

Бацька ж мой
быў цесляром,
будаваў хаты
і кожную з іх
вянцом завяршаў.

Многія з іх
ужо абязлюдзелі
і струхлелі...
Што ж, ён быў
рукатворным майстрам,
і нічога не рабіў навечна,
а ўсё – для пэўнага часу
і для канкрэтных людзей...

Вось жа й Максім калісьці
нарадзіўся ў бацькоўскай хаце...

*3 кастрычніка 2015*

## *ПОШУКІ МАМІНАЙ РАДАСЦІ*

*Мы бачым адны толькі матчыны рукі,*
*Адны яе рукі, адны іх рухі.*

**Анатоль Вярцінскі**

Успамінаю:
мама корміць, спявае, распавядае,
нас шкадуе, лашчыць і апранае;
мама працуе, сумуе, плача, бядуе,
нам спагадае, дорыць, даруе...

...і толькі шчасця яе, хоць знак,
успомніць я не магу ніяк.

Значыць,
трэба перазагрузіць памяць быцця,
вылоўліваючы імгненні яе жыцця.
Дарэчы, я першынцам быў у мамы,
то, можа, момант шчаслівы самы
і быў у час з’яўлення майго?

Зрэшты, я з болем на свет выходзіў,
каб мець на тое хоць нейкі сподзеў...
Са мною шчасця быць не магло.

*1 кастрычніка 2016*

* * *

Так хочацца вярнуцца мне туды –
да маміных дагодлівых далоняў,
да вымаўленых першых родных слоў,
да басаногіх дзён,
да шэпту таямнічага: “кахаю”...

...ад утравелай матчынай магілы,
ад мовы пад счужэлым языком,
ад збабленай і сплаканай жанчыны
чаму ж іду я ў супрацьлеглы бок,
а не туды, куды хачу вярнуцца?..

*1 лютага 2017*

* * *

Калі б мінулае вярнулася сюды,
то ўсе мае бабулі і дзяды,
тым болей, прадзяд*ы* і прабабулі,
ўсяго б свайго не ўбачылі й не ўчулі,
а згледзелі б засушаны выток,
дзе прашчураў квітнеў жыцця куток.

Цяпер тут іншы рэй і іншы тлум,
дзе новы свет стары пусціў на глум,
каб тут раскашаваць яму прыгожа...
Ды ад збыцця ўцячы ніхто не зможа, –
і кожны з нас між небам і зямлёй
пакіне крыж адсутнасці сваёй.

*7 кастрычніка 2016*

## АПОШНЯЯ РАЗМОВА

*Светлай памяці паэта Алеся Каско*

Ну, вось, Алесь, з табой апошні раз
гаворым мы на ўскраі нашай драмы
без лішніх слоў і рытарычных фраз
па два бакі пустой магільнай ямы.

“*Адразу я,* – ты гэтак мне сказаў, –
*а ты чакай, калі паклічуць Зверху...*”,
нібы крывёй з ахвярнага ляза
апёк, – і як бы спраўдзіў паняверку...

Калі ж паклалі слухаўкі, нібы
з натомленых і потных рук рыдлёўкі,
стаў адступаць заценены нябыт,
вяртаючы паперу і алоўкі...

Ды што пісаць, калі ў Айчыне ўсё
духоўнае й бацькоўскае на схіле,
і ўсё святое сцёрта на рыззё,
а грэшнае – ва ўсёй красе і сіле?!

Ну, што ж тады няхай ужо зямля
прымае нас, як высахлае семя,
якое, можа, – некалі, пасля –
рассуне жвір і дол сабой засее...

*27 лістапада 2017*

* * *

*Шчаслівыя, хто ведаюць мову Бога.*
**Цар Саламон**

*Аснова мовы – маўчанне...*
**Алесь Разанаў**

Пакутна мне быць паэтам
нямеючай мовы,
збіраць, як жабрак манеты,
ў падворках маміны словы.

Ціха шаптаць, таемна,
нібы ў малітвах млосных,
гукі жыцця пайменна –
зычныя да галосных...

Небу з прадоннем млечным
іх адпускаць бяссіла,
каб захаваць навечна
ў мове Айца і Сына.

*7 чэрвеня 2018*

Сяргей Рублеўскі



...кнігі пішуцца паволі,

а час бяжыць...

# Тузік-Гузік

***Аповед пра сабачку, унукаў і іх шчаслівага дзядулю***

Невядома чаму, але Уладзіслаўка з нядаўняга часу пачала звяртацца да свайго дзеда як да хлопчыка – па імені Сяргейка. Звычайна ўнукі звяртаюцца да дзядоў паважна, вымаўляючы поўнае імя, напрыклад, дзед Іван або дзед Мікіта, а не змяншальнае – Іванька, Мікітка... А тут – Сяргейка замест Сяргея... Не дзед, а хлопчык, з якім можна гуляць як з роўняй... Хоць і прыемна, але ж нязвыкла.

Набліжаўся снежань, а з ім і дзень народзінаў унучкі.

«Калі я для яе хлопчык, дык і зраблю ёй хлапчукоўскі падарунак! – падумаў здзяцінелы дзед. – Падару ёй... свісток!»

Не смейцеся! Свісток не звычайны меў на ўвазе дзед, не з пластмасы, які за капейкі купіш у кожным напоўненым розным драбноццем кіёску. І не самаробную гліняную свістульку, што прадаюць ганчары на розных святочных кірмашах ды фестывалях. А чароўны свісток! Яго майстру-

юць у дзяцінстве з галінкі ліпы вясною, калі пад карой дрэў узнімаецца ад каранёў да вершалін зямны сок. А ў якую іншую пару года і пару жыцця ніхто і не спрабуе рабіць чароўны свісток, бо нічога не атрымаецца!

«Але ж Уладзіслаўка, мусіць, пакрыўдзіцца, што прыраўняў яе да хлопчыка...»

Дзядуля Сяргейка сумеўся на якое імгненне, а потым махнуў рукой: «Ат, нічога, і дзяўчынцы пасвістаць такім свістком будзе за шчасце!»

За вакном тым часам падзьмуў халодны віхурысты вецер і прыляпіў да шыбы чырвоную кляновую лісцінку.

«Які ж цяпер у дрэваў сок, калі яны заміраюць перад зімой...» – цяжка ўздыхнуў дзядуля Сяргейка.

І згадаў сваё менш даўняе, чым маленства, юнацтва. У тыя гады многія людзі – і дарослыя, і дзеці – былі перакананы, што найлепшы падарунак – кніга!

«Ну, вядома ж, кніга... Кніга!» – узрадаваўся дзед і вырашыў падарыць Уладзіслаўцы «лепшы падарунак». Але не купленую кнігу, а, як той свісток, «самаробную», гэта значыць самім напісаную.

Дзядуля Сяргейка згадаў, што дзяўчынка даўно хоча займець сябра-сабачку, нават імя яму выбрала – Тузік. Простае, звыклае для сабачак імя.

Ён выцягнуў з пісьмовага стала шуфляду і пачаў пераглядаць свае чарнавікі, бо ўспомніў, што там павінен быць патрэбны яму накід. Пры гэтым, захоплены пошукам, дзядуля пачаў прыгаворваць сабе пад нос: «Тузік-Гузік, Тузік-Гузік, Тузік-Гузік...»

І раптам узрадаваўся: «Ага, вось жа ён, той накід да аднаго апавядання для дзяцей!..»

І дастаў з шуфляды аркушык паперы ды пачаў чытаць: «Сабачка, хоць і быў дарослым, заставаўся зусім маленькім...» «*Памерам з марожанае ў вафельным стаканчыку...*» – дапісаў дзядуля.

«Падыходзіць! – падумаў ён з задавальненнем і падоўжыў чытанне: – Поўсць у сабачкі была сукрыстая... Пагладзіш *Тузіка-Гузіка*, – дзядуля Сяргейка дапісаў імя сабачкі са сваім нечаканым дапаўненнем, – і пяшчота ад рукі даходзіць да самага сэрца...»

Ён ужо прымерваў тэкст да задуманай кніжачкі-падарунка.

«А ў сабачкі цікавае атрымалася імя», – адзначыў дзядуля і ўзяўся дачытваць свой колішні чарнавік.

Але што там заставалася дачытаць – адзін сказ: «На поўсці сабачкі было колькі невялічкіх чорных плямцаў: па баках, на хвосціку і вакол левага вочка – такое асаблівае, што здавалася, ён заўсёды падміргвае, нібы прапаноўвае пагуляць разам...»

«Гэта я колькі кляксачак зрабіў у рукапісе – вось і плямкі...» – усміхнуўся ў вусы дзед.

Мусіць, так яно і было, бо дзядуля Сяргейка, як калісьці ў школе, любіў пісаць чарнільнай ручкай-самапіскай.

Назаўтра з самай раніцы ён ўзяўся пісаць апавяданне пра Тузіка-Гузіка, і быў вельмі задаволены жвавасцю прыдуманага ім сабачкі: ён жа нястомна бег ад адной думкі да другой, ад завершанага сказа да наступнага ды імкнуўся як мага хутчэй пераскочыць на новую старонку.

«Ага, дазнаўся пра мой намер падарыць яго Уладзіслаўцы, дык стараецца, каб гэта адбылося як мага хутчэй. Яму ж таксама цяжка жыць без сяброўства...»

***

Кнігі пішуцца паволі, а час бяжыць...

Вялікімі пухнатымі сняжынкамі ўпала з неба зіма. Наступіў снежань, і да дня народзінаў Уладзіслаўкі заставаліся лічаныя дні. А рукапіс кніжкі быў яшчэ толькі распачаты. І дзед вырашыў схітраваць – падарыць унучцы Тузіка-Гузіка не з апошняй старонкі рукапісу, а вось з гэтай, якую вы цяпер чытаеце.

«Можа, так яно нават лепш будзе! – суцяшаў ён сябе. – Жыццё сабачкі ў сяброўстве з Уладзіслаўкай стане куды цікавейшым, а значыць, цікавейшым будзе і працяг аповеду!»

Як надумаў, так і зрабіў.

***

Дзень народзінаў Уладзіслаўкі выпаў на нядзельку. Дзяўчынка паставіла будзільнік акурат на пяць гадзін раніцы: ёй захацелася паглядзець, як выглядае свет менавіта ў час яе прыходу са сваім агуканнем у людское шматгалоссе. Дарма, што гэта адбылося дзесяць гадоў таму – усе шчаслівыя дні падобныя адно да аднаго.

***

...Уладзіслаўка ўстала з ложка і адчула, што яна ўсё адно як цеснай пялюшкай шчыльна атулена цішынёй. Здавалася, цішыня гэтая пануе не толькі ў кватэры, але і ва ўсім свеце.

Яна падышла да вакна і расхінула шторы. Са двара да шкла прыціскалася сцюдзёная цемра. Дзяўчынцы падалося, што цемра касматая, нібы вялізны чорны Рэкс, сабака-вадалаз дзядзькі Міколы, які жыве на першым паверсе. Яна абапёрлася локцямі на падваконне і пачала ўзірацца ў цемру ў спадзяванні ўбачыць што-небудзь асаблівае. Але нічога не патраплялася на вочы, нават у крузе святла ліхтара, які стаяў непадалёк ад дома.

Дзяўчынка ўзняла галаву і раптам убачыла, як у суседнім доме, угары, як ёй здалося, таксама на дзявятым паверсе, засвяцілася вакно. «Можа, якая дзяўчынка ці хлопчык збіраюцца, як і я, адзначаць свой дзень народзінаў...» – падумала Уладзіслаўка, і радасць далучанасці да людзей прыемнай цеплынёй агарнула яе душу.

***

А дзясятай гадзіны раніцы прыехалі павіншаваць унучку дзядуля Сяргейка з бабуляй Янінай.

Уладзіслаўка даўно ўжо чакала жаданых гасцей і адчыніла дзверы з сонечнай усмешкай і радаснымі воклічамі.

Бабуля Яніна тут жа дастала з сумкі ўпакаваны ў прыгожую паперу і перавязаны шаўковай ружовай – ведае ж улюбёны колер унучкі! – стужкай падаруначак. Зверху стужка была завязана ў раскошны, які ўмее завязваць толькі бабця, бант.

І атрымаўся святочны салют з трох бантаў, бо на галаве Уладзіслаўкі было яшчэ два такія ж раскошныя ружовыя банты, якія ўмее завязваць толькі мама.

Унучка дастала з квяцістых папяровых абгортак свой падаруначак.

– Ой, самы навамодны пенал! У нашым класе толькі ў адной дзяўчынкі такі ёсць... Ён жа дужа дарагі! – сказала імянінніца і пачала пералічваць

адметнасці новага пенала: – У ім жа і фламастэры самых розных колераў, і алоўкі з адмысловай вастрылкай, і гумка для сцірання, і лінеечка, і яшчэ шмат чаго...

– А я ў дадатак і перавадныя карцінкі туды паклала, – завяршыла яе радасную гамонку бабуля Яніна, і яны пацалаваліся.

Дзядуля Сяргейка тым часам расшпіліў свой палітончык і дастаў з унутранай кішэні... ну так, яго – Тузіка-Гузіка! Апусціў сабачку на падлогу і, ні слова не кажучы, пачаў назіраць за ім, бо падумаў, што сабачка, як звычайна бывае, пачне бегаць па кватэры ды аглядаць усе куткі свайго новага жытла... Зусім забыўся, што гэта не звычайны, а літаратурны гадаванец.

Тузік-Гузік адразу падбег да сваёй абяцанай сяброўкі, утыркнуўся мордачкай у яе пухнатыя тэпці, а тады задраў галаву ўверх, гучна зацяўкаў і дакорліва паглядзеў на Уладзіслаўку: маўляў, ну што ты стаіш знерухомленая, хутчэй бяры на ручкі!..

І яна, агаломшаная такой прыемнай нечаканасцю, схамянулася, падхапіла Тузіка-Гузіка, прыцiснула да сябе, пачала цалаваць яго, а потым прытулілася да дзядулі Сяргейкі і сказала:

– Дзядулечка Сяргеечка, ты сапраўдны чарадзей! Дзякую, дзякую, дзякую табе! – і, шчаслівая, прыязна ўсміхнулася яму, абшчапіла і прыціснулася да дзеда з усяе сілачкі.

***

Калі імянінніца, бацькі і госці селі за святочны стол, дзядуля Сяргейка па даўнім звычаі пачаў цягаць унучку за вушы, пры гэтым прыгаворваў: «Вялікая расці! Вялікая расці! Вялікая расці!..» І так дзесяць разоў.

Уладзіслаўцы не надта спадабаўся гэты звычай, але яна цярпліва трывала. Яшчэ б! Такога сабачку падарыў! Адно толькі спыталася:

– А цябе, дзядуля Сяргейка, цягалі так за вушы ў дні народзінаў?..

– Аняго ж! Таму і вырас такі! – ён усміхнуўся і выпрастаў плечы.

– А калі вырас, таксама цягалі?

– Пасля шасцідзесяці не цягаюць, не расту больш. Ды і падумай, колькі разоў цягаць трэба, якія вушы вытрымаюць!.. – жартаўліва адказаў хітры дзед.

Але Уладзіслаўка была задаволена і такім адказам: яна ж у думках, прадбачлівая дзяўчынка, прымервалася да сваіх наступных дзесяцігоддзяў...

***

Усё святочнае застолле Уладзіслаўка сядзела, трымаючы на каленях Тузіка-Гузіка, гладзіла яго, злёгку пацісквала: «Які ён цёпленькі, які мякенькі...» І сабачку, па ўсім было відаць, гэта падабалася.

Калі мама Ірына пад радасныя воклічы і плясканне ў ладкі ўнесла ў пакой і паставіла на стол святочны торт з уторкнутымі па кругу свечкамі, а тата Дзяніс-старэйшы запаліў іх, Уладзіслаўка якраз узяла свайго маленькага сябра на ручкі.

А калі, як заведзена, прыгатавалася задзімаць свечкі, Тузік-Гузік таксама памкнуўся наперад, выцягнуў шыю, нібы спаніэль на паляванні, каб хоць такім чынам далучыцца да задзьмухвання агеньчыкаў...

І ўсе замілавана заўсміхаліся, апроч Уладзіслаўкі, якая была вельмі засяроджаная, нібы на адказным іспыце.

Яна задзьмула ўсе свечкі з першага разу! І тата з мамай, і бабуля з дзядулем зноў дружна запляскалі ў ладкі.

– Сябра мой верны, памочнік мой! – абшчапіла свайго натхніцеля дзяўчынка, і той з радасці напоўніў кватэру звонкім поклічным цяўканнем.

З усяе моцы! Каб і суседзі за сценкай, і ўсе іншыя жыхары дома, і наогул усе на свеце ведалі, што ён, Тузік-Гузік, стаў найлепшым сябрам цудоўнай дзяўчынкі.

***

Каб трошкі перадыхнуць, стомленай святочнай гаманой і празмернай увагай да сябе Уладзіслаўцы захацелася хоць колькі хвілінак пабыць адной. Яна ўладкавалася з Тузікам-Гузікам на канапе ў суседнім пакоі – калі сябра становіцца блізкім і сардэчным, дык здаецца, што вы з ім – непадзельнае цэлае...

Дзяўчынка пачала забаўляцца са сваім улюбёнцам – вучыла яго пераскокваць цераз пакладзеную на канапу руку, станавіцца на заднія лапы, нібы ў цырку, адгукацца на голас...

Неўзабаве да іх прытупаў, бо ён нядаўна пачаў хадзіць, маленькі брацік Дзяніс. Як толькі хлопчык прыхінуўся да канапы і зблізу разгледзеў рухавую мяккую «цацку», дык адразу памкнуўся пагуляць з ёю. І гэта было ўзаемна. Сабачка падбег да хлопчыка і апынуўся каля яго галавы, якая была ўпоравень з канапай. Прывітальна цяўкнуў і лізнуў яго ў шчочку, нібы сказаў: «Брацік маёй сяброўкі – таксама мой сябра. Давай гуляць разам!» Але Дзянісік ні слова не прамовіў у адказ, бо яшчэ не ўмеў гаварыць. Ён толькі выгукнуў радаснае «Ва-а-а...» і кіўнуў у знак згоды галавой. А тады зняў сваю пустышку, якая заўсёды вісела на каляровым матузку на шыі, і падторкнуў да мордачкі сабачкі: маўляў, на і ты паспрабуй маю смакату...

Тузік-Гузік, каб не пакрыўдзіць малога, тут жа ўхапіў соску і пачаў... жаваць яе – так сабачку смачней і больш звычна.

На танюткай мякенькай гуме засталіся сляды яго зубоў і нават некалькі дзірачак – пракусіў неабачліва. Уладзіслаўка адразу гэта заўважыла, і ёй стала смешна.

Усміхнулася і маці, якая ўвайшла ў пакой:

– Маленькія мае гарэзнікі... – сказала яна і дастала з шуфляды новую соску на такім жа квяцістым матузку ды пачапіла яе на шыю Дзяніску. – А ты ўжо старой сосачкай абыходзься... – жартаўліва звярнулася яна да Тузіка-Гузіка і па-змоўніцку ўсміхнулася Уладзіслаўцы.

***

Дзень народзінаў мінае вельмі хутка, асабліва зімой – куды хутчэй, чым звычайныя дні...

Назаўтра дзяўчынка прачнулася хоць і не на досвітку, але значна раней звычайнага. І не ад спеўнай мелодыі будзільніка, а сама. Да яе з ранішнім абуджальным халадком пратачылася ў пакой і хваляванне.

Уладзіслаўка яшчэ ўчора вырашыла, што ў гімназію абавязкова возьме з сабой Тузіка-Гузіка – навошта хадзіць адной, калі ёсць такі цудоўны сябра. Але ж не павядзеш яго на якім матузку ці ланцужку: каб паспяваў маленькі, давядзецца ісці марудна, дык, чаго добрага, спознішся на заняткі... Да таго ж яна баялася, што сабачка, калі ўбачыць на вуліцы якога ката, раз’юшыцца, пачне вырывацца з повязі, каб спагнаць злосць на адвечным ворагу сабак.

Учора пасля святкавання Уладзіслаўка ўключыла тэлевізар, каб пагля-

дзець перадачу пра хатніх гадаванцаў, якая стала для яе асабліва цікавай пасля з'яўлення Тузіка-Гузіка. Размова пра сабак і катоў у перадачы разпораз перапынялася на рэкламу корму для катоў з удзелам мульцяшнага гарэзлівага і фанабэрлівага ката Фелікса.

І калі, гледзячы на звычайных катоў-гадаванцаў, якіх паказвалі разам з іх гаспадарамі, Тузік-Гузік яшчэ сяк-так трываў, толькі зрэдчасу злосна цяўкаў, дык ката Фелікса ён на дух не пераносіў і пры яго з'яўленні на экране адразу заходзіўся залівістым брэхам.

«А можа, ён усяго толькі не любіць рэкламу на тэлебачанні... – старалася ў думках суцешыцца Уладзіслаўка. Але тут жа і запярэчыла сабе: – Мусіць, не! Гэта ён на абрыдлага ката сярдуе... А што калі на вуліцы сустрэне такога ж непрыемнага катуську?..»

Заклапочаная дзяўчынка разгубілася: «Не пакладу ж я свайго сябра ў ранец, як рэч якую, як пенал ці зменны абутак... Дарагога майго сябра...» – пагладзіла яна Тузіка-Гузіка. Сабачка азваўся сваім звыклым, але на гэты раз ціхім і, здавалася, нават трохі вінаватым цяўканнем.

І раптам Уладзіслаўка схамянулася: «А дзядуля ж, мусіць, нездарма назваў яго Тузікам-Гузікам... Гузікам...»

Яна ўсхапілася з крэсла, збегала ў пярэдні пакой і прынесла адтуль свой пухавы палітончык.

«Ну вось – гузікі вялізныя, прарэшкі для іх – адпаведныя... Тое, што трэба! Зараз прымераем...»

Сабачка цяўкнуў у знак згоды: давай!

Дзяўчынка ўзяла Тузіка-Гузіка і наважылася пратачыць яго галоўку ў другую зверху прарэшку ў палітончыку. Сабачка тут жа зразумеў гэты намер – выцягнуў шыю і прыціснуў вушы... І яго галава даволі лёгка пратачылася праз прарэшку. «Малайчынка, мой любы!» – злёгку патузала яго за вуха Уладзіслаўка, дастала з прарэшкі і, вясёлая, пайшла збірацца ў гімназію.

Яна хуценька паснедала, падзякавала за смачны наедак маме і пачала апранацца. А сабачка анічога есці не захацеў.

– О, якое ты цёпленькае месцейка пад палітончыкам знайшла для свайго сябра! – сказала матуля, выпраўляючы сваю любачку на вучобу.

***

Тузіку-Гузіку было ўтульна і цёпла пад крысом палітона. А ў дадатак да ўсяго Уладзіслаўка пры неабходнасці гатова была захінуць яго ад марознага ветру шалікам.

Не ведала клапатлівая дзяўчынка, што сабакі ветру асабліва не баяцца, нават такія маленькія...

Пакуль яна ішла да тралейбуснага прыпынку, Тузік-Гузік з цікавасцю назіраў са свайго схованшча за мінакамі, а потым – за пасажырамі тралейбуса. А на яго амаль ніхто не звяртаў увагу: ну, гузік і гузік, толькі чорненькі з аднаго боку...

***

У гэты дзень Уладзіслаўка прыйшла ў гімназію адной з першых са свайго класа. Дзяўчынак яшчэ наогул не было, а з хлопчыкаў – толькі адзін Раман, што і не дзіўна. Ён заўсёды рана прыходзіў, бо жыў побач з гімназіяй: вуліцу перайшоў – і на занятках.

Раман быў дужа свавольным хлопчыкам, не мінала дня, каб ён не зачапіў Уладзіслаўку – то за коскі патузае, то сваё імя ў яе блакноцік употай напіша, а то выхваляцца новым айфонам пачне, так, што слухаць нялюба хварсуна.

Вось і цяпер падбег да яе і пачаў паказваць адмысловы сцізорык, якім, маўляў, куды лепш, чым вастрылкай, даводзіць да ладу алоўкі.

І тут Раман раптам убачыў незвычайны гузік на палітончыку Уладзіслаўкі.

– Ой, што гэта ў цябе? Брошка такая?

– Брошка, брошка... – з усмешкай адказала дзяўчынка, абы адчапіўся назола.

Але Раман захацеў памацаць «гузік», дакрануўся да яго і раптам пранізліва войкнуў ад нечаканасці і ўвобміг, як ад агню, адвёў руку. Тузік-Гузік у адно імгненне ўкусіў яго за пальчык. Праўда, не с усяе сілы, а так, злёгку, абы не назаляў яго сяброўцы. А зубкі ж у сабачкі войстранькія!..

– Ты што, электрычнасцю б'ешся?.. – прамовіў агаломшаны Раман.

Але Уладзіслаўка не слухала яго. Захінуўшы ранцам Тузіка-Гузіка, яна ўжо спяшалася ў свой клас.

***

Спачатку Уладзіслаўка хацела трымаць сябра-сабачку на каленях, пад рукой, каб, як толькі захочаш, можна было пагладзіць улюбёнца... Але перадумала: аднакласнікі будуць вочкамі блішчэць, зайздросціць, ды і настаўніца заўвагу можа зрабіць... Дык вырашыла прытуліць Тузіка-Гузіка на палічцы знізу вучнёўскага стала. Толькі спачатку паказала сабачку сваёй сяброўцы Анюце, але без якога-небудзь выхвалення – каб не пакрыўдзіць.

Анютцы, якая сядзела з Уладзіслаўкай за адным сталом, таксама захацелася пагладзіць Тузіка-Гузіка – і ён даверліва лізнуў яе руку...

На ўроках сабачка паводзіў сябе зусім ціхмяна, як і не было яго. Ляжаў на палічцы, нібы зmoраны спёкай вясковы цюцька ў сваёй будцы ў двары – ні руху, ні гуку... Асабліва на ўроку матэматыкі. Уладзіслаўка, каб сябра не падумаў, што на яго забылі, часам неўпрыкмет пагладжвала свайго ўлюбёнца, а то, нібыта незнарок, выпускала ручку на падлогу, а тады нагіналася за ёй і пазірала на Тузіка-Гузіка – як ён там...

Але маркота сабачкі доўжылася толькі да ўрокаў беларускай мовы і беларускай літаратуры, якія ў гэты дзень, так атрымалася, ішлі адзін за адным.

О, тады Тузік-Гузік ажывіўся! Пачаў варушыцца, перабіраць лапкамі, усё адно як наважваўся спешна выбрацца са свайго сховішча... А калі вучні чыталі завучаны на памяць верш Янкі Купалы, дык у такт іх чытанню заўзята віляў і пастукваў аб дошку палічкі хвосцікам, нібыта гатовы быў падказаць катораму разгубленаму хлопчыку або дзяўчынцы прызабыты радок... Але ніхто, акрамя Уладзіслаўкі, не чуў яго нецярплівага варушэння.

А на ўроку беларускай мовы, калі настаўніца Алена Аляксандраўна папрасіла назваць колькі назоўнікаў на літару «с», Уладзіслаўка задумалася ды міжволі пачала пагладжваць Тузіка-Гузіка... І раптам з прыкрасцю адчула, што поўсць у сабачкі ў адно імгненне стала зусім інакшай – куды больш жорсткай. Мяккіх кудзерак як і не было. Валосікі, адчувалася навобмацак, чарадзейна сашчапіліся ў маленькія пасмачкі, якія нагадвалі... буйную луску. Дзяўчынку ахапіла жахлівае здзіўленне. Але яна пераадолела яго і

пагладзіла сабачку яшчэ раз і яшчэ... І раптам адчула, што замест пасмачак валасоў на Тузіку-Гузіку з’явіліся... палоскі паперы. Калі людзі, якія не карыстаюцца інтэрнэтам, а ўсё яшчэ даюць пры якой патрэбе папяровыя аб’явы на спецыяльна прызначаных для гэтага дошках, дык свае аркушыкі з тэкстам разразаюць унізе на вузкія палоскі, на якіх пішуць нумар свайго тэлефона. На сабачку былі паперкі, накшталт такіх.

Калі Уладзіслаўка пагладзіла яго ў чарговы раз, дык заўважыла, што да яе далонькі прыліпла колькі такіх папяровых палосачак. Паглядзела больш уважліва – і ледзь не ўсклікнула ад здзіўлення: на іх почыркам дзядулі Сяргейкі, толькі больш разборлівым, чым звычайна, былі напісаны словы на літару «с». «Страха, студня, склеп, садавіна, сейбіт, стрыжань, стос, селядзец, сцюжа...» – прачытала яна і ўзняла руку.

Алена Аляксандраўна, якая паволі хадзіла па класе, у гэты момант была якраз каля Уладзіслаўкі, дык за добры адказ пагладзіла яе па галоўцы і пахваліла: «Малайчына!» І хоць дзяўчынцы было крыху сорамна за тое, што скарысталася падказкай, яна ў сваю чаргу ўдзячна пагладзіла Тузіка-Гузіка.

Але вось дзіва: да яе далонькі зноў прыліпла некалькі палосачак, на якіх таксама былі напісаны словы на літару «с»! Верны сабачка гатовы быў служыць сваёй сяброўцы яшчэ і яшчэ... «Можа, на ім змясціўся цэлы слоўнік, уся таўшчэзная, як у дзядулі Сяргейкі, кніга...» – падумала дзяўчынка.

Калі Алена Аляксандраўна пагладзіла па галоўцы за добры адказ сваю вучаніцу, Уладзіслаўцы, насуперак сораму, было вельмі прыемна не толькі ад ласкавасці настаўніцы, а яшчэ і таму, што коскі яе былі некранутыя – як мама запляла. Раман у гэты дзень больш і пальцам зачапіць яе баяўся...

***

Звыш трох месяцаў Уладзіслаўка прахадзіла ў гімназію разам з Тузікам-Гузікам. І ўсё было добра! Бацькі заўважылі, што яна нават стала лепш вучыцца. Аднакласнікі асабліва не звярталі ўвагу на яе сяброўства з сабачкам. Некаторыя зайздросцілі, але стараліся не паказваць свайго непрыемнага пачуцця.

Іншы раз маці прасіла Уладзіслаўку пакінуць Тузіка-Гузіка дома, звычайна ў дні, калі ў яе накопліваліся неадкладныя хатнія справы. З ім жа дужа ахвотна гуляў Дзянісік, і не трэба было часта браць маленькага на рукі.

Ён ужо не частаваў сабачку сосачкай, а гуляў з ім, бегаючы навыперадкі... Дарма, што бегаць па-сапраўднаму маленькі яшчэ не ўмеў, але ж мог пераходзіць на дужа шпаркі, як яму здавалася, крок. Ці распачынаў гульню ў хованкі – затойваўся за сценкай, а тады выглядваў у дзвярную пройму, зноў хаваўся і зноў выглядваў... І пры гэтым смяяўся, смяўся... Тузік-Гузік у адказ сядаў на кілім, падымаў галаву ўгору і паклічна цяўкаў: маўляў, давай яшчэ, яшчэ!

З надыходам цёплых дзён, напрыканцы сакавіка – пачатку красавіка Уладзіслаўчын сябра і наогул вымушаны быў штодня застававацца дома. Яна змяніла свой цёплы палітончык на лёгкую куртачку, а прарэшкі для гузікаў у ёй былі куды меншыя – у іх пралазіла толькі лапка сабачкі.

Аднойчы на перапынку Уладзіслаўка загадкава, з сумам у голасе сказала ў чародцы аднакласніц:

– А мне шкада, што зіма скончылася... Яна была такой па-сяброўску цёплай...

Ніхто не зразумеў яе, хіба што Анютка.

***

Дзіўныя ў свеце адбываюцца з'явы: калі чакаеш канікулы, якія вось-вось надыдуць, дык дні паўзуць як чарапахі, а калі канікулы надыходзяць, дык яны так хуткацечна мінаюць, не раўнуючы як дзень народзінаў. Ды яшчэ без падарункаў, калі не лічыць новае школьнае адзенне, якое перад надыходзячым навучальным годам спраўляюць школьнікам бацькі. Але, калі падумаць, які гэта падарунак?..

Затое дні канікулаў спаўна напоўнены радасцю! Адна з радасных для Уладзіслаўкі падзей адбылася неўзабаве: бавіць з ёю чэрвеньскія дзянькі на лецішчы з Мінска са сваёй маці, а яе цёткай Веранікай і бацькам Арцёмам прыехалі стрыечныя пяцігадовы брацік Радзівон і трохгадовая сястрычка Нора. А ў дужа прыкметна павялічаным жывоціку цёткі Веранікі набіраўся моцы, каб з'явіцца да ўсіх нас на гэты свет, яшчэ адзін сынок, яшчэ адзін дзядулі Сяргейкі і бабулі Яніны ўнучак, яшчэ адзін на радасць Радзівона, Норы, Уладзіслаўкі і Дзянісіка брацік!

Не паспелі госці і крыху прызвычаіцца з дарогі да новага свайго жытла, як Уладзіслаўка пачала знаёміць іх са сваім чарадзейным сябрам-сабачкам. Тузік-Гузік быў пасаджаны на пожаньцы перад хатай, а наўкруг яго пасталі брацікі і сястрычкі.

Уладзіслаўка пачала распавядаць, які сабачка верны сябра, які ён паслухмяны, як шмат умее, як з ім цікава гуляць і нават вучыцца. Апроч усяго, ён жа чароўны! Пры гэтым Уладзіслаўка, пераймаючы паводзіны настаўніцы, распавядала пра свайго гадаванца з дужа сур'ёзным выглядам, нібы даводзіла веды, якія трэба запомніць на ўсё жыццё. А Радзівончыка, Нору, Дзянісіка ды і Тузіка-Гузіка разам з імі, нібы вучняў на ўроку, строга змушала паводзіць сябе ціхмяна ды ўважліва слухаць. Пры гэтым яна зрэдчасу пазірала на дзядулю Сяргейку, які стаяў збоку і загадкава ўсміхаўся.

Але засяроджанымі і ўважлівымі «вучні летняй школкі» былі, можа, колькі хвілінак, а тады сарвалі «ўрок». А ўсё пачалося з Тузіка-Гузіка, які не вытрымаў маркоты, падбег да Норачкі і зацяўкаў на яе, а тады адбег, зноў падбег і зноў адбег... Так ён падбухторваў дзяўчынку пагуляць з ім.

І Нора прысела на траўку і пачала падклікаць Тузіка-Гузіка да сябе. Ёй хацелася патрымаць сабачку на ручках, пагладзіць такога міленькага...

Тут і Радзівончык да сабачкі памкнуўся... Імгненна, каб сястрычка не паспела ачомацца, падхапіў маленькага з яе рук і запытаўся:

– Уладзіслаўка, калі ён здольны да чароўных пераўтварэнняў, дык і трансформерам можа стаць?

– Як гэта? Пакажы...

І Радзівончык вярнуў Тузіка-Гузіка Норы, якая, пакрыўджаная, яшчэ не паспела расплакацца, толькі захныкала, а сам стаў на кукішкі і пайшоў на гледачоў, а тады марудна пачаў узнімацца ў поўны рост і сагнуў у локцях рукі...

– Так нізенькая, вельмі хуткая машына ператвараецца ў робата, а ў яго адна рука можа быць яшчэ і магутным лазерам! Гэта ж Бамблбі, трансформер першага пакалення. Хіба вы не ведаеце?.. – звысоку гледзячы на сястрычак, прамовіў хлопчык.

Радзівон з мінулага лета стаў апантаным аматарам трансформераў.

– Цікава, цікава... – сказаў задумлівы дзядуля Сяргейка. – А давай мы яго назавем па-нашаму, каб сабачку было лягчэй пераўтварацца...

– А як? – спытала Уладзіслаўка.

– Ну хаця б... – дзядуля Сяргейка зрабіў выгляд, што задумаўся і нават пачухаў за вухам, як робяць некаторыя вучні, калі рашаюць цяжкую матэматычную задачку. – Авой, напрыклад!

– А што гэта значыць?

– Гэта такі беларускі вокліч. Калі чалавек здзіўляецца, дык радасна ці з сумам у голасе ўсклівае: «Авой!»

– Гэта, як «ваў!!!» па англійску?..

– Ну так, мусіць, з нашай мовы ўзялі свой вокліч англічане, – засмяяўся дзед.

А тым часам Тузік-Гузік саскочыў долу з рук Норы і пачаў паўтараць за Радзівончыкам паказаную ім дзею. Ён адбег ад гледачоў на колькі крокаў, а тады развярнуўся, знізіўся так, што яго пузца ледзь не кранапася зямлі і, шпарка перабіраючы лапкамі, папоўз назад. Ды так імклівa!..

– Глядзіце! Ён рухаецца ўсё адно як Бамбл... ой, як Авой... – сказаў узбадзёраны сваім захапленнем Радзівон.

– Гэта ён дзядулю Сяргейку слухаецца, яны ж і без слоў адзін аднаго разумеюць... – сказала Уладзіслаўка.

– Пабачым, што далей будзе...

Сабачка, не спыняючы рух, пачаў узнімацца на заднія лапы, а пярэднія сагнуў і прыціснуў да тулаўца, а тады трохі збочыў і наўпрост накіраваўся да Радзівона... Пры гэтым Авой-Тузік-Гузік злёгку пагойдваўся ў бакі, баючыся згубіць раўнавагу. Вочы яго раптам засвяціліся зыркімі іскрынкамі, здавалася, усё адно як ад якіх-небудзь адмысловых батарэек.

***

Назаўтра Радзівон паўдня гуляў з Тузікам-Гузікам як з Авоем, пакуль не здаволіўся. Уладзіслаўка была не супраць: радасць брацікa ўсё адно як свая.

Пасля абеду дзеці знайшлі цяпер ужо агульны для іх і маленькага сябра занятак. Яны вучылі Тузіка-Гузіка... скакаць праз нацягнутую вяровачку...

Маленькая Норачка стаяла ўбаку і назірала. Яна таксама пакуль што не ўмела спрытна скакаць і цярпліва чакала, калі нарэшце надыдзе яе чарга пагуляць з гэтай такой жвавенькай, такой цудоўнай цацачкай.

***

І яе чарга надышла даволі хутка, калі старэйшыя брацік і сястрычка надумалі пагуляць у хованкі. Сабачку яны не ўзялі з сабой, бо асцерагаліся, што ён выдасць схованку Уладзіслаўкі або Радзівона сваім радасным цяўканнем.

А Нору – таму, што яна яшчэ не мела неабходнага спрыту і ўвішнасці для гэтай рухавай гульні. Дык і засталася яна з Тузікам-Гузікам у хаце.

Ну і няхай сабе! Маленькая добра-такі нагулялася з ім.

Ёй адразу захацелася ўпрыгожыць пацешную цацку, ды так адметна, каб усім на дзіва было! А для прыўкраснага ўпрыгожвання, нават маленькія дзяўчынкі ведаюць, найлепш падыходзяць ружовыя банты! Але ж завязваць банты Нора яшчэ не навучылася. Тым больш маленькія, якія падыходзілі сабачку. Да таго ж трэба было завязаць не адзін, а шмат банцікаў, каб

пагойдваліся на ім, нібы чароўныя кветкі. А дзе ж узяць столькі ружовых стужак... Гэта вунь якім багатым трэба быць!

Як прыемна жыць, калі здараюцца шчаслівыя выпадкі! Вось і на гэты раз...

Бабуля Яніна забылася прыбраць са стала вялікі жмут каснікоў – нарэзаных з белай тканіны (эх, каб з ружовай!) стужачак для падвязвання абцяжараных завяззю сцяблоў памідораў. Але якія там памідоры, калі Норачцы трэба ўпрыгожыць сабачку, такога мякенькага, такога любенькага...

Дзяўчынка ўзяла Тузіка-Гузіка на калені, вылучыла пальчыкамі пасмачку поўсці, абціснула яе каснічком і завязала вузельчык, акурат такі, які зусім нядаўна навучыла яе завязваць бабуля. Каснічок цесненька сціснуў валосікі. Нора была вельмі задаволеная сваім поспехам: сабачка стаў куды больш вабным!

«Прыгожа! – узрадавалася маленькая. – А будзе яшчэ прыгажэй!» – і яна пачала завязваць другі свой, найлепшы ў свеце «банцік».

Завязваць яго было ўжо куды лягчэй, чым першы. І не таму, што Норачка прызвычаілася, а таму, што поўсць у Тузіка-Гузіка ў адно імгненне чароўным чынам падрасла, стала значна даўжэйшай, і кудзеркі пачалі буйнымі кольцамі шчыльніцца адна да адной: бяры і завязвай свае каснічкі!

Праўда, дзяўчынка зусім не заўважыла гэтых перамен, бо калі перамены чарадзейныя, дык яны зусім незаўважныя для дзіцячых вочак, нібы падчас паказу фокусаў у цырку.

І другога «банціка», як падалося Норы, недастаткова для ўпрыгожвання сабачкі. І яна ўзяла са стала трэці, чацвёрты, пяты... дзявяты каснічок... Завязала б і больш, ды не было дзе на маленькім Тузіку-Гузіку...

Але ж калі апанавала захапленне, дык упрыгожванне ніколі не завершыш, як ніколі не могуць завяршыць яго дарослыя дзяўчаты-модніцы!

Норачка звярнула ўвагу на акварэльныя фарбы на стале і слоічак з вадой. У дзядулі з бабуляй было ўсё неабходнае для цікавых заняткаў унукаў.

Цяпер расфарбоўка «банцікаў» стала для дзяўчынкі найцікавейшай у свеце справай. Яна, як звычайна, рабіла яе пальчыкам. І цудоўна атрымлівалася: каснічкі адзін за адным рабіліся слаба чырвонымі, лічы, ружовымі, зялёнымі, жоўтымі, блакітнымі... А з імі каляровымі плямкамі пачынала стракацець і крыху жаўтаватая, як папера, якая паляжала на сонцы, поўсць Тузіка-Гузіка і... сукеначка маленькай мастачкі.

Калі ў хату вярнуліся пасля сваіх забавак Уладзіслаўка і Радзівон, а з агарода – бабуля Яніна, усе яны пачалі любавацца творчасцю Норы. І нельга было зразумець, чаму раптам Уладзіслаўка і Радзівон засмяяліся так, што за жывоцікі ўхапіліся. І бабуля Яніна заўсміхалася...

Але Нора не звяртала на гэта ўвагу, дык і не пакрыўдзілася. Наадварот, сама далучылася да іх смеху.

***

Не засмуцілася дзяўчынка і калі бабуля Яніна амаль адразу пачала развязваць каснічкі на сабачку ды выціраць мяккай мокрай анучкай каляровыя плямкі на Тузіку-Гузіку і на Нораччынай сукеначцы. Яна ж патлумачыла ёй, што банцікамі сабачка можа зачапіцца ў агародзе за сцяблы раслін і заваліцца...

Каснічкі бабуля Яніна зноў склала ў акуратны жмуток, каб потым выкарыстаць на гародзе.

Неўзабаве яна так і зрабіла – падвязала імі калівы памідораў у цяпліцы.

Атрымалася дужа прыгожа. Калі бабуля прывяла на агледзіны ўнукаў, дык Норачка ад радасці аж у ладкі заляскала. А за ёй і Уладзіслаўка з Радзівончыкам узрадаваліся. І ўжо ніхто не смяяўся.

– Ну, выбірайце кожны сваю сцябліну – ружовую, жоўтую, блакітную, зялёную... Пабачым, на чыёй памідоры хутчэй зачырванеюць! – сказала бабуля.

***

Але да чырвоных памідораў было яшчэ далёка, а свята Першых чырвоных суніц надышло даволі хутка! Дарма што яны былі не з лесу, а з агароднай лешкі. Усё адно смаката, духмяная асалода!

Бабуля Яніна ў вялізнай місе заправіла суніцы смятанкай, трошкі пасыпала цукрам і перамяшала. Як гэта прыемна – перамешваць маленькую радасць кожнага ў адну вялікую супольную радасць! І дзеткі адразу адчулі асаблівы прысмак гэтай радасці. Калі бабуля сабралася раскладваць прыгатаваныя суніцы ў асобныя глыбокія місачкі – кожнаму ў сваю, даўно ўпадабаную, дзятва загаманіла: «Не трэба! Не трэба! Будзем есці з адной, так смачней...»

Уладзіслаўка, каб Тузік-Гузік не замінаў ёй і не адцягваў увагу ад смачнага наедку, аднесла яго да цёці Веранікі, якая прылегла адпачыць у суседнім пакойчыку, і, каб не разбудзіць яе, асцярожна паклала сабачку на падушку, яго ўлюбёнае месца: «Няхай пашэпча што-небудзь прыемнае і мілай цёці на вушка...»

Але сабачка, як толькі Уладзіслаўка зачыніла за сабой дзверы, асцярожненька, на мяккіх лапках перайшоў на круглы, як глобус, жывоцік Веранікі і лёг на ім.

Каб не парушыць сон цяжарнай цёці, а, можа, і маленечкі сынок спаў у жывоціку разам з мамай, Тузіку-Гузіку захацелася стаць незаўважналёгкім, як пушынка ці аркушык паперы.

Але, мусіць, Вераніка не спала, а толькі драмала з прымружанымі вачыма, бо неўзабаве яна пачала пагладжваць сабачку... І Тузіку-Гузіку падалося, што яе рука нават мякчэйшая, чым ва Уладзіслаўкі.

Праз колькі хвілін Вераніка з сабачкам на руках выйшла з пакоя і падсела да вялізнай місы, у якой яшчэ не закончыліся суніцы.

– Эх вы, малеча! А таго не ведаеце, што гэта і не сабачка наогул, а дзядуліна любоў да вас у такім абліччы! – сказала яна і перадала Тузіка-Гузіка Уладзіслаўцы. – Любоў да кожнага з вас! Такая цёпленькая, такая мякенькая, такая жаданая і для кожнага свая...

Замурзаныя ягадамі дзеткі вытарапілі вочы... Па ўсім было відаць, што яны не зразумелі яе слоў.

Апроч Уладзіслаўкі.



Валянціна Аксак



...дараваць –
не значыць забыць...

# Кава ў арліным гняздзе

## *ЭДЭМ*

Уцёкі ад дзікае слівы
ў завінены рай
апынуліся бегам
па трэнажорнай дарожцы.
Дрот ад датчыка пульсу
спутаў ногі,
стоп-кадрам завіс
заваконны пейзаж,
прытупілася яркасць малюнка
і паветра загусла,
як застылая манная каша.
Трэба рэзка рвануць пупавіну
без аглядкі на места,
каб не стаць
тут
слупом саляным.

Пасля цёплага ходніка ў казцы,
у назове якой
зашыфрована слова “малая”,
холад сшэрхлай гразі
на няходжанай сцежцы
па зарослым дзядоўнікам
невядомым раней,
так рэальным цяпер краявідзе
асцюжае падэшвы.
Стомай строма ўзвіваецца думка,
што папар на гары,
на якую мне трэба ўзабрацца,
чакаў цэлы век на мяне
ў спадзяванні
назвацца
Эдэмам.

### *БРАМКУ ЗАМУРАВАЦЬ*

Раптоўна ўчора надвячоркам
намысліла я
бразнуць клямкаю варотцаў
ды падзівіцца,
што дзеецца
за межамі падворка.
Адразу ж злева
згледзела рахманага суседа,
які, як і надоечы, сядзіць
на спарахнелай лаўцы
пры спадчыннай хаціне
ды забаўляе
валацужных цуцыкаў
захмеленымі досціпамі.
А справа,
як і сто гадоў таму,
стаіць убраная ў ядвабы пані,
заслоньваецца
капялюшыкам ад сонца
ды раз-пораз кідае пагляд
у дальні канец вуліцы,
спадзеючыся ў хмарах пылу,
узнятага мурзатым трактарыстам,
пазнаць валадара
яе душы і цела.
Наўпрост жа
за калдобістай дарогай
раскошна разрастаецца бур’ян,

у гушчары ягоным
не адшукаць пазнак
анічыйго больш гаспадарання.
Навошта ціснула на клямку?
Куды хацела выйсці?
Што пабачыць?
Так змарнаваць бяздумна
чвэрць гадзіны,
каб зразумець зноў тое,
што ведала даўно.
Брамку мушу заўтра
усё ж
замураваць.

## КАВА Ў АРЛІНЫМ ГНЯЗДЗЕ

Гойстрае каменне
ўверх кутамі,
наўсторч
зрудзелай посцілцы
з засохлага бадылля,
прыкрытага
падвялай муравой
і трохі зацярушанага
цёплым пухам.
Не мулка,
але і не ўседзіш доўга.
Ды і распешчвацца
не выпадае.
Вучыцца лётаць лёгка,
калі арліца скідвае цябе
вось проста ў прорву
наўздагон
развеенай з кубла пасцелі,
і ты ўжо ведаеш,
што мякка
ў родным доме
больш не будзе.
Але на развітанне
так хочацца
прыгубіць кубак
з горкай кавай,
прысеўшы
хай сабе
і на гойстрае
каменне.

### ЯБЛЫЧНЫ СОН

Неба
такое цяжкое,
што бярозка
аж скасабочылася,
падпіраючы яго,
каб не рухнула
і не нарабіла грукату,
покуль яблыкі
наліўныя
спяць
у салодкай знямозе,
тут,
ля маіх хрызантэмаў
засмужаных
і ля ног маіх
струджаных.

### ПЕРАДЗІМ’Е

На бярозе лістота
рудзенькая і рэдзенькая,
як валасы
на старой галаве,
фарбаваныя хной.

### ПОКРЫВА

Кагосьці –
старым лісцем,
некага –
маладым снегам,
а мяне хай бы –
спелымі пялёсткамі.

### СПАКОЙ

Гляджу на голыя
галіны дрэваў
і разумею,
што ўжо не мае
ніякага значэння,
дачакаюся лістоты,
ці не.

### *БУДЗЕ*

Гэта будзе так,
як было,
калі ўпершыню паспытала
завінены хлеб прычасця.
Гэта будзе так,
як было,
калі неяк раптоўна
той смак апынуўся
на вуснах вясёлага Янака.
Гэта будзе так,
як было,
калі нечакана
з бяседнага келіха
распырскаўся
воцат.
Гэта будзе так,
як і ёсць,
калі адна толькі згадка
пра
Першы
Ягоны Цуд
хмеліць збалелае сэрца.
Гэта будзе так,
як бывае
толькі аднойчы,
калі нічога з мінулага
ўжо
не будзе.

### *МАРЫ ПРА ВЕЧНАСЦЬ*

Кальварыя.
Камень.
І крыху кветак.
Жывых, калі ласка.

### *ЦЁМНАЕ НЕБА*

Маліліся сёння
мы
ў нашай
светлай царкве
за ўсіх
забітых
бязбожнаю ўладай,

спявалі ім
вечную памяць.
Анёлы
нясуць нашу песню
праз цёмнае неба
да іх
спакутаваных
душаў.

### *СТУДНЯ*

Уздыбілася кроў
забітых,
па мёртвых жылах
пацякла з магілаў
наверх на горку,
а з макаўкі
абрынулася ўніз,
у маю студню.
І захлынулася
вада жывая.
І суша выспеліла
плод няўродны.
Капаць
калодзеж новы
ці гэты ачышчаць –
аднолькава
фатальная ўжо
справа.

### *УГЛЫБ*

Гонта.
Ганак.
Грунт.

### *УШЫР*

Напрасткі.
Напралом.
Наросхрыст.
На зло
птушанятку
ўсярэдзіне.

## *УЗДОЎЖ*

Клышаногія.
Камлюкаватыя.
Каржакаватыя.
На кожным кроку.
Іду дадому.

## *УПЕРАД*

Пад восень
разлюбляю
ўсё тое,
што было
мілае
ўвесну.
Да чаго прыхінецца
душа
на пачатку зімы?
Думаю –
да краявіду,
які прымроіла
некалі ў
красавіку.

## *НАЗАД*

Пасталела нарэшце –
ужо не азіраюся.
Там нічога няма.
Нават жменькі попелу
са спаленых дзённікаў.
Але палюбіла чытаць
чужыя ўспаміны.
У іх так прыгожа
распавядаецца пра тое,
чаго не было.
І я гэта помню.
Дараваць –
не значыць забыць.
Уважліва чытаю
між радкоў.

## *УВЫСЬ*

Імкнуся туды,
адкуль будзе

добра відаць,
што ты й без мяне
цудоўна спраўляешся,
і нават бывае,
чуешся шчасна
ў самоце.
Без маіх
невылечных
грахоў.

## ЛІСТ

Мілая мама,
дзень добры!
Я ўжо дома
й адразу пішу,
што жывыя мы ўсе
і здаровыя,
і ў хаце парадак.
Даехала я да заходу.
Мяло ўсю дарогу,
пхалася неяк навобмацак,
трохі нат буксавала.
Надвор'е было,
як дванаццаць гадоў таму,
калі пакідалі цябе
каля дзеда і бабы
ў бярэзнічку.
Але гэта не важна,
Галоўнае –
пераведала вас,
завезла любімых тваіх
мядовых піражных.
От, забыла зусім расказаць,
якую звязала за люты
прыгожую сукню
для Красачкі,
пунсовую знізу,
а ўверсе бялюткую
ў ружачкі
на грудках і рукавох.
І прызнаюся, мама,
што я больш не фаршу
ў сукенцы тваёй,
той зялёнай тафтовай.
У стане яна
яшчэ добрая мне,

і кажуць усе,
што вельмі пасуе.
Але ты не крыўдуй –
сама ж перастала
яе надзяваць
яшчэ да зяцёў,
то і мне, выглядае,
неяк няёмка
ўбірацца перад нявесткамі.
Хацела б аддаць мо каторай
ды ніводная з іх
не апранецца ў яе –
паставы не тыя
дый густы цяпер інакшыя.
Павесіла ў дальнюю шафу.
Дачакаюся мо,
калі ўпадабае выстроньчваць
у прабабулінай сукні
Красачка наша.
Ах, мама,
ты ж сваю праўнучку
і не паспела пагушкаць,
не ўбачыла нат ні разэчку
вочак яе валашковых.
Усенька тваіх.
Не хвалюйся за нас
і чакай на Вялікдзень.
Прывязу пасвянцонага.

*2.03.2018*

## ЯНЫ – УВАСКРЭСЛІ

Самае лепшае,
што мы можам зрабіць
на Вялікдзень, –
пасля Усяночнай занесці
бацькам пасвянцонага.
Прысесці ля іх
апусцелых магілаў
у веры,
што яны – уваскрэслі,
і стомлена падрамаць
пад бярэзінкай
на мармуровай пліце,
якую гушкае мама
невідочнай рукой,
а бацька дзесь побач

голасам жаўрука
ціхутка пяе
валачобную песню.

### СОН

Апрануць
ягоную піжаму,
легчы
на ягоны ложак,
убачыць неба
праз ягонае вакно,
пачуць спевы
невядомых птушак
з ягонага балкона,
заснуць пад грукат
добра знаёмых
ягоных суседзяў,
прачнуцца ў боязі,
што гэта быў
толькі сон.
Сон
у забытым
сне.

### КНІГА

Мне
сонечна і цёпла,
покуль ляжыць
твая
вусцішная кніга
на маім
струхлелым
стале.

### ПУНСОВАЯ КВЕТАЧКА

Звялая кветка
найбольш змізарнела зніцае
паміж пругкіх пупышак,
якія шчэ толькі збіраюцца
пырснуць наўкола
асляпляльнай красой,
ад якой невідушчымі стануць
і дрэвы, і людзі,

і нават прынц,
які ва ўсе вочы
глядзеў перад тым
на сваю
пунсовую кветачку.

### *ЧЫТАЮЧЫ МАКСА ФРЫША*

Недзе мо пяць,
не, часам менш,
тры хвіліны
патрэбна жанчыне,
каб зразумець,
што яна ўсё ж знайшла
тога адзінага,
з чыім бацькам
ёй заманулася
апынуцца шчаслівай.
Прыкладна дваццаць гадоў,
не,
бывае, і больш,
дваццаць два
здараецца думаць мужчыну,
каб паклікаць да шлюбу
тую сваю незабыўную
першую лепшую
ў абліччы
ейнай
дачкі.

### *МАПА*

Кастрычнік скрышыў
свае гойстрыя зубкі
і няма чым прагрызці
дзірачку ў хмарах,
каб праліць скрозь яе
цурочак святла.
Вецер падмог –
падкінуў у воблакі
лісцік кляновы.
Ягоны абрыс
накрэсліў на небе
мапу адной
невядомай краіны,
павялічыўшы
дзейны маштаб:
адзін – да вечнасці.

## *КАЛЯДНЫ ДОЖДЖ*

Нашыя паралелі
настолькі адхіліліся
ад галоўнага мерыдыяна,
што яны
хутка
не вытрымаюць
гэтага шчодрага
каляднага дажджу.
Прынамсі,
адну з іх
залева змые
ў невараць
яшчэ
да Новага года.

*29.12.2017*

## *ВЕЧНЫ ПАКУТНІК*

Грэх не мае
летніх вакацыяў.
Восеньскіх таксама
ў яго няма.
І пра калядныя яму
толькі даводзіцца марыць.
Не кажучы ўжо
пра самыя важныя,
вясновыя,
велікодныя.
Спраўдзіла не раз.
На сабе.
Веру Вам,
добры Ойча,
сапраўды,
аніякага ён
адпачынку
не мае.
Толькі праца і праца.
Вечны пакутнік –
мой грэх.



Алесь Бычкоўскі



...заўтра
будзе лепей...

# Край ваўкалакаў

***Фэйсбучны раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №96.*

***

У юнацтве мы любілі выпіць гарэлкі. Мы збіраліся па начах у дзіцячым садку каля гарадскога стадыёна ў дзіцячай хатцы памерамі два на два метры. Сямёра-васьмёра ілбоў цішком рушылі на тэрыторыю садка з торбай чарніла, ці спірту, які разводзілі "Трайплам", і нейкім цудам усім хапала месца ў тым доміку. Праз палову гадзіны з дамка клубіўся дым, чуліся выкрыкі, лямант і гвалт, вартаўнік на ўсялякі выпадак не набліжаўся, толькі ранкам забіраў пустыя пляшкі. Мы шмат размаўлялі пра палітыку. Хлопцы дралі кашулі на грудзях, праклінаючы рэжым, ганьбячы "бацьку", выбары, саюз з РФ. І вось пасля з тых начных наведнікаў дзіцячай хаткі атрымаліся: дырэктар школы, начальнік аддзела ідэалогіі, начальнік БРСМ, дарадца старшыні па абаронных пытаннях, міліцэйскі работнік, іншыя...

Ну, а я па жыцці ў выніку стаў качагарам зусім не з-за таго, што ў маладосці быў, бадай, адзіным з сяброў, хто наіўна ўхваляў рэжым.

І цяпер мае таварышы "гаспада" дружна галасуюць на нарадах, прамаўляюць на адзіных днях інфармавання, трымаюць справаздачы і іншае. А я вольны не насіць дулю ў кішэні і магу казаць усё, што думаю, бо, у адрозненне ад таварышаў юнацтва, мне няма чаго губляць...

Праўда, варта зазначыць, дадзены тэкст пісаўся даўнавата. І цяпер названыя людзі свае пасады альбо не займаюць, альбо пераведзены на іншыя. Хаця на сутнасць сказанага тое зусім не ўплывае.

***

"Люблю кракадзілаў", – казаў адзін мужык у кіно і тлумачыў: "Вось у каго дакладнае ўяўленне пра акаляючы свет".

"Забіваць дабрынёй – наш прынцып", – завяраў другі мужык у іншым кіно.

"Былі б патроны, ворагаў мы знойдзем", – сцвярджаў мой знаёмы.

"Снайпер на крыше, мир на земле", – перайначыў хтосьці вядомую песню.

"Адна ракета – адна краіна", – кіраваліся прынцыпам канструктары і стваральнікі ваенных тэхналогій у часы Саюза.

І гэта толькі вяршыня айсберга. Знешняе міралюбства дзяржаў не болей чым маска. Камбайны з вертыкальным узлётам – ідэя-фікс ва ўсе часы.

***

У 2013-м Венесуэла абяцала прыслаць нам часцінку мошчаў "апостала сацыялізму" Уга Чавеса. Цікава, якую менавіта часцінку яны меркавалі прыслаць? Мы так, бадай, ніколі не даведаемся, бо ў Венесуэле грымнула нешта кшталту рэвалюцыі, і краіна-сябар надоўга прапала з афіцыйных інфармацыйных стужак. Аднак, хочацца спадзявацца, што заакіянскія сябры мелі намер прыслаць у Беларусь зусім не тое, пра што мы ўсе раптам падумалі, ну ці збіраліся падумаць...

***

Адзін знаёмы ўзнёслы беларус ажаніўся са шчырай дзяўчынай з РФ. І няхай сабе, абы захапленні палітыкай не заміналі ўзаемнаму каханню.

– Он такой милаш, уже три года зовет меня малпочькой, так мило!.. – у захапленні прамаўляла жонка. Пакуль хтосьці не патлумачыў, што "малпачька" гэта "обезьянка"...

Ось тут іх і накрыла чорная хваля. Жонка мо з тыдзень не размаўляла, пакуль не адтаяла... Затое пачала вучыць "мову". Проста так, на ўсялякі выпадак.

Жывуць да гэтай пары.

***

Беларуская мова спрыяе ўсталяванню згоды ў сям'і. Вось адзін знаёмы чалавек неасцярожна сказаў жонцы па-руску:

– У меня есть подружка! – і ледзь не атрымаў трэпанацыю чэрапа чыгуннай патэльняй.

А калі ж перапрасіўся і мовіў па-беларуску:

– У мяне маецца сяброўка, – быў успрыняты адэкватна, бо сяброўка

і каханка ў беларускай мове вельмі розныя рэчы, чаго нельга сказаць пра “подружку” і “любовницу” – словы з аднолькавым сэнсам у асобных выпадках у рускай...

***

Каб у касметалагічных салонах прапанавалі працэдуру выдалення памяці, туды б ламіліся чэргі кінутых і падманутых жонак, “рагатых” мужоў, людзей з няспраўджанымі надзеямі, тых, хто выракаецца ўласнага мінулага. Пагатоў можна кнігу напісаць пра ўсіх жадаючых забыцца на ўласныя, так бы мовіць, памылкі. Уявіце: муж ці жонка здрадзілі адно аднаму і грызуцца з той нагоды гадамі. А ім памяць выдалілі, і ўсё, няма сваркі.

Выдаляць памяць напэўна было б на карысць і варагуючым нацыям, краінам. Напрыклад, прыляцелі міратворцы і сцерлі варагуючым бакам памяць, і ўсё, людзі не ведаюць, навошта браць зброю ў рукі, мір і згода наўкол. Праўда, існуе небяспека, што і людзі, і краіны пасля зноўку наступяць на тыя ж граблі, таму памяць сцерці нельга. Калі мы каемся, Бог даруе нам грахі, але людзі іх добра памятаюць, таму нашае мінулае ідзе следам за намі. Вось таму і нельга стварыць адпаведны касметалагічны салон. З памяццю трэба мірыцца...

***

– Бабам сэкс не патрэбен сёння, – з выглядам знаўцы кажа Мілана. – Сэкс трэба мужыкам. Жанчыны згаджаюцца на блізкасць, але каб мужчына прыйшоў ды ўзамен карніз прыгваздаў, пафарбаваў дзе, падладаваў, дапамог па гаспадарцы. Ведаеце, якія зараз жанчыны-адзіночкі? У кватэрах еўрарамонты робяць, у хаце поўная чаша. А мужчыны толькі піячуць, жанчыны ўсё робяць самі. Праблема ў тым, што мужыкі сёння пайшлі нерукатыя, не хочуць прыйсці і дапамагчы, нават у абмен на сэкс, ім лепей выпіць.

– А вось мне не трэба карнізы прыбіваць, мне ўвогуле не трэба, каб мужчына што рабіў у кватэры, я сама ўсё раблю па гаспадарцы, – кажа Алена. – Я сэксу хачу!

Вось і зразумей гэтых жанчын. Сумна.

Адзінота, яна такая...

***

Іду па ціхай правінцыйнай вуліцы. Старая хата, пад хатай лава, на лаве – бабуля.

– Чалавек, слухай, хадзі сюды, калі ласка, я папытаць хачу.

Наблізіўся... У бабулі мокры твар і слёзы.

– Чалавек, гляньце, калі ласка, там на рагу не мой сынок стаіць?

На рагу нікога няма.

– Слухайце, а мо яго ў міліцыю забралі, вунь там? – і тыча пальцам удалечыню.

– Прабачце, я нічым вам не дапамагу, – я хутка аднекаўся і сышоў.

А чым тут дапаможаш? Сына той бабці пахавалі шмат гадоў таму, дачку між іншым таксама, бо дужа піла. Міліцыі ў напрамку, што старая паказвала, таксама даўно няма, яшчэ за савецкім часам перавялі ў новы будынак. А бабулю гэтую лічылі старой, яшчэ калі я школу заканчваў.

Аднак, такая вось старасць...

***

Дзіўнае пытанне: чаго ты дасягнуў у жыцці? Вось чаму лічыцца, што пафаснае “дасягнуць у жыцці” – гэта нагрэбсці шмат грошай, матэрыяльных каштоўнасцяў, заняць высокае месца ў грамадстве і атрымаць адпаведны сацыяльны статус? Цікава, адкуль тое ўзялося?

А вось, калі займеў шмат сяброў, вывучыў некалькі іншых моў і навучыўся пячы хлеб, гэта можна ганарыста-пыхліва менаваць “дасягненнем”? А калі знайшоў мір з Богам – гэта “дабіўся ў жыцці” або не?

– Гэта апраўданні для няўдачнікаў, – пракаментаваў адзін мой шчыры сябар.

Сябар ганарыўся калекцыяй італьянскага абутку коштам ад семісот еўра за пару. Хваліўся з захапленнем і паэтычна-геройскай узнёсласцю. Быццам зорку з неба зняў.

– Ты калі памрэш, будзеш у труне такім прыгожым... – заўважыў нехта.

Сябар засумаваў, плюнуў і з’ехаў на лета ў Парыж.

***

Часам скардзіцца чалавек на жыццё. Маўляў, спасу няма, усё абрыдла, і тое яму замінае, і гэта, і мала грошай плоцяць, і арганічныя ўгнаенні трэба замешваць бочкамі, і будучыні ў яго няма, нікуды не паехаць, не падацца, от жа...

А вось уяві, што ты даўно памёр ад гарэлкі, і зараз у пекле недзе ў глыбінях апраметнай у вечным полымі смыліш у пакутах і енчыш. І прагнеш вярнуцца на зямлю: і капейкі атрымліваць, і колам сядзець на адным месцы, і га...но варочаць бочкамі. Абы толькі дыхаць ды Богу маліцца.

Вось зірні на праблемы жыцця з гледзішча пакаранага грэшніка. Праблемы неяк адразу перастаюць быць праблемамі, а жыццё набывае колер і смак. Дэпрэсіям жа і месца не застаецца. У пэўным сэнсе праблемы могуць быць ласкай Божай, каб чалавек той змірыўся, замірыўся ды больш да Бога імкнуўся і ўратаваўся далей, ды пасля патрапіў ужо не ў пекла, а ў Царства Нябеснае, дзе пануе вечная любоў Бога.

Дык не, пачуўшы нешта падобнае, былыя сабутэльнікі глядзяць на мяне, як на блазна. Экзістэнцыі на дне чаркі ўласціва наркатычнае прыцягненне.

Міжволі прыгадваецца споведзь уратаванага самагубцы:

– Калі ты ляціш з моста, то разумееш, што ўсе твае праблемы прынцыпова вырашальныя, акрамя адной – ты ўжо ляціш з маста.

***

Пазнаёміўся з жыццём Антонія Вялікага, і мяне пачало вабіць і захапляць пустэльніцтва, манаскае жыццё.

– Засталося знайсці пустэльню, – заўважыў знаёмы бацюшка.

– Пустэльню можна знайсці і ў горадзе.

– Праўда? – недаверліва перапытаў святар.

От! Нельга ў горадзе адшукаць пустэльню, толькі адзіноту. Адзіноту, каб застацца сам-насам са спакусамі горада.

***

Я скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, каб зрабіць прыемнае маме, а на самой справе марыў стаць кіроўцам-дальнабойшчыкам. Разгаварыліся з братавай цешчай, і тая выдала сакрэт, што ўсё жыццё

марыла працаваць у Следчым камітэце, але працавала бухгалтарам-эканамістам. Мабыць, усё ж лёс не выбіраюць...

***

Адна з маіх бабуль, дакладней, дзедава сястра з Палесся, была варажбіткай. Калі памірала, разбіралі дах, бо не магла адысці, а ўлупіць доўбняю неяк не па-людску (не любілі яе тамтэйшыя родзічы). Другая мая бабуля варажбіткай не была, але мела рэпутацыю стоадсоткавай ведзьмы (прайшла вайну, была ў канцлагеры). Казалі, дзе плюне твая бабка, там зямля пячэцца палам і сем год нічога не расце.

Яны сабачыліся паміж сабой, гэтыя бабкі. Мір у іх суіснаванні праглядаўся толькі першыя хвіліны знаёмства. Затым – узаемныя праклёны, заклёны. “Табе зроблена”, – казалі бабцы з рэпутацыяй ведзьмы, намякаючы на пэўныя замахі палескай сапраўднай вядзьмаркі. “Ср...ла я і мазала”, – чулі ў адказ. І ў вайне гэтай перамагла менавіта яна, бабуля з татуіроўкай нумара Бухенвальда на руцэ, першай і адзінай кнігай у жыцці якой быў “Буквар”, якая жагналася са словамі “Войменцай” (бо не ведала, што трэба казаць “У імя Айца”). Але якую за вочы менавалі ведзьмай і дадавалі мацюкальны ганебнік, бо бабця словам магла выбіць чалавека з каляіны на ўвесь дзень.

А дзядуля мой з Палесся быў вернікам. Бывае, паслухае вядзьмарскія заклёны, кульне гранчак самагонкі і абавязкова зап’е свянцонай вадой...

***

– Глядзі, не ляпні ў школе ці дзе на вуліцы тое, што пачуеш дома, а то бацькоў пасадзяць у турму, а цябе аддадуць у дзетдом, – павучала мяне ў маленстве бабуля. – Дзе тата працуе – не ведаю, дзе мама – не ведаю, а што ў вас дома – не ведаю. На ўсё адказвай адно – не ведаю, хто не спытаўся б, нават настаўніца ў школе – не ведаю, не чуў, пацікаўцеся ў таты. І туды не хадзі, там цыганы ўкрадуць, пасадзяць у мяшок і занясуць на базар, прададуць.

У дзяцінстве я лічыў, бабка жартуе, на смех кажа. Але парады выконваў, бо быў паслухмяным хлопчыкам. І толькі пасталеўшы зразумеў: ані халеры бабуля не жартавала...

***

Сустрэліся двое колішніх сяброў.

Адзін гарбаціцца, цягне лямку. Усё ў хату. Затым – гоп! – хвароба і інваліднасць. Два месяцы мінула – жонка плюнула, кінула-рынула, пайшла да іншага.

Другі зарабіў кучу грошай на шыкоўны аўтамабіль. Але плюнуў і не купіў, падзяліў сродкі на роўныя прапорцыі і шчасліва жыў пяць гадоў, нідзе не працаваў, займаўся ўлюбёнай справай, пісаў музыку, ездзіў на імпрэзы, канцэрты, выставы.

І вось яны сустрэліся, адзін – інвалід, без жонкі і ў роспачы, а другі – пачынаў чухаць патыліцу, дзе яшчэ зарабіць на наступныя пяць гадоў. Пра што яны размаўлялі, я ўжо не цікавіўся...

***

Працаваў аператарам вёрсткі ў газеце. Калі раздрукаваны аркуш фар-

мату А3 з маёй вёрсткай выпаўзаў з прынтара ў рукі, заўсёды адчуваў сябе Францішкам Скарынам.

***

Узяў наўздагад кніжку, гартаю, чытаю недзе з сярэдзіны. Вокладка самаробная, назвы не відаць. А цікава ж напісана, нібыта пра нас, пра сучаснае жыццё, толькі трохі іншая мова. Дзіўлюся сабе, не баіцца ж нехта так пісаць нашым часам, не баіцца, што з работы пагоняць. Нарэшце глянуў на тытульнік. Андрэй Мрый. "Запіскі Самсона Самасуя", створана ў 1929 годзе.

Маўчу, доўга думаю...

***

Калі мой сябар, царкоўны пастар і экзарцыст, пазнаёміўся з маёй верагоднай цешчай, вырашыў неадкладна выгнаць з яе д'ябла.

***

Слухаю па радыё "Песні мінулых гадоў". Які ўжо раз задаюся пытаннем, што будуць круціць у названай праграме гадоў праз пяцьдзясят? Уявіце голас дыктара: "Песні мінулых гадоў" прапануюць слухачам запісы вакальна-інструментальнага ансамбля "Металіка", або "Крэдл оф філтс", або "Канібал корпс". І мы, да таго часу стаўшы пенсіянерамі, будзем слухаць, трэсці галовамі, "балдзець". Жах!

***

Займальнае мовазнаўства.

Такім чынам, сябры, з падачы СМІ у нас з'явілася новае слова "майнінг", і толькі ўжо з падачы забаўляльных СМІ яно набыло бездань неверагодных адценняў. Сустракаў наступнае: "даўней у нас майнілі самагон", "пасля вайны там намайнілі шмат зброі", "майнілі лайкі ў інстаграме". Можна дадаць: "мужыкі ад раніцы майнілі дробязь на чарніла". Версій шмат.

Ад сябе скажу: прачнуўся, пайду майніць снядак.

***

Дзіўная рэч фэйсбук. Прыйшоў з дзяжурства раніцай, загрузіў, чытаю паведамленне кшталту: у Пятрова Івана Пятровіча сёння дзень нараджэння, пакажыце, што ён вам не абыякавы. Натуральна, здзекі Цукерберга. Бо хто такі Іван Пятровіч, я ні ў зуб нагой. Нават з аватаркі нечалавечая морда пазірае. Не, шаноўныя Іваны Пятровічы, вы мне ўсе абыякавыя. Хаця, мо і пра мяне хто так кажа. Фэйсбук, ён такі.

***

А каго яшчэ верне ад кніг з назвай "Як напісаць кнігу і разбагацець"?

***

Смешна, калі ў беларускага аўтара пытаюцца, чаму ён піша па-беларуску.

***

З нагоды сусветнага Дня паэзіі выплылі на памяць радкі з Кнігі

Эклезіяста (Стары Запавет Бібліі), у якіх сказана: складаць многа кніг – канца ім не будзе, і многа чытаць – стамляецца цела... Знаёмы школьны псіхолаг пракаментаваў:

– Якія ж чароўныя словы!

***

Шэф аддзела культуры Канстанцін Паўлавіч дзівіцца: “Людцы, што ў свеце робіцца? Немцы змагаюцца за мір, яўрэі ваююць, а камуністы будуюць храмы!”

***

Калісьці я жыў падвоеным жыццём. Для ўсіх я прыкідваўся анёлам, беззаганным чалавекам, а па начах употай “гудзеў” у шынку, часцяком нават трапляў у пастарунак. І шыфраваўся як толькі мог.

Сябар даў мне мянушку Шцірліц.

***

Вось дзіўна ў свеце, даўней кахалі адных, а бацькі прымусам жанілі на другіх. Аддавалі замуж гвалтам па разліку. І мучыліся людцы часам усё жыццё, бо неслі крыж першага кахання, а дзяцей рабілі з іншымі.

І вось сёння чытаю: піша хлопец, дарослы ўжо мужчына. Маўляў, пераспаў з дзеўкай, з якой сустракаўся. Тая зацяжарыла, а ён пажартаваў праз месяц, што няплодны. І што? Дзеўка ў плач, у слёзы, даруй, я табе здрадзіла, тымі днямі яшчэ з адным была. Душэўны боль у выніку ў абоіх і пляма на ўсё жыццё. Лепей бы ўжо не жартаваў.

***

Жанчына – гэта такое стварэнне, якое спачатку табе пасміхаецца і “робіць вочкі”, затым пачынае частаваць пернікамі і падказваць, што табе лепей апрануць, а пасля ўжо гатовая авалодаць тваёй душой, памкненнямі і запоўніць сабой усё тваё жыццё, падпарадкаваць. Яны гэта памылкова мянуюць каханнем.

***

На вяселлі аднаго з маіх сяброў абвясцілі для гасцей конкурс на тэму: “Што такое каханне?” Я напісаў: “Каханне – гэта вялікі сусвет у маленькім сэрцы”. І атрымаў галоўны прыз – жменю цукерак.

***

– Пчолка, з народзінамі, зычу шчасця! – павіншаваў сяброўку.

Сяброўка ў вайберы пад псеўданімам Дэвора, што значыць “пчала”. Падабаецца, каб так звалі. І не бяда, што “пчолцы” даўно за сорак і яна круты юрыст недзе ў дзяржкантролі. Па-першае, яна жанчына (прыгожая між іншым!), а юрыст, дзяржкантроль і іншая трасца – гэта ўсё далёка на заднім плане. А так – пчолка! Вось падабаецца ёй, каб так звалі. Жанчына, адным словам.

***

Ідэальных людзей, каб ва ўсім падабаліся, хутчэй за ўсё не бывае. То так.

Калі раптам нейкі чалавек пачынае ўсім падабацца, і пры тым ён не Ісус Хрыстос, то ўсё гэта выглядае дужа падазрона. Існуе імавернасць, што перад вамі прыхаваны Іуда...

***

Пра сучаснае.
Мы шчасліва жылі, але інтэрнэт зрабіў нас ворагамі.

***

Насельнікі могілак таксама некалі казалі: “Перажывем!”

***

Літарагон – графаманісты літаратар.

***

Для набыцця ілжывых каштоўнасцей нам патрэбна вельмі шмат грошай.

***

Прыдумаў новае слова – жабадуш. Гэта або хвароба, або гарэзлівы хлопчык, які здзекуецца з жывёльнага свету.

***

Анёлы глядзяць на нас і прыгадваюць часы Ноя.

***

Займальнае мовазнаўства.
Дзеяслоў – чалавек, у якога слова не разыходзіцца з дзеяй.

***

Свярбіць напісаць фантастычны раман-утопію, пра тое, як беларусы кінулі маніць і красці і пачалі працаваць. Але баюся, што атрымаецца антыўтопія.

***

З дзяцінства я не аматар паэзіі, але прачытаў у Васіля Зуёнка “бульбянее душа беларуская”, і ўсё, неўпрыкмет захапіўся.

***

Калі госць на ўваходзе разам з абуткам пачаў здымаць і шкарпэткі, я моцна захваляваўся.

***

Праз фэйсбук часам чалавека спазнаеш нашмат лепей, чым калі жывеш побач.

***

Школа перакладчыка.
Даведаўся днямі, што выраз *Lusy in the Sky with Diamonds* па-нашаму значыць дыметыламід лізергінавай кіслаты. Люсі ў нябёсах з брыльянтамі. Рамантыка Джона Лілі.

***

Беларуская літаратура сёння мае адну істотную хібу – многія цікавыя рэчы нельга спампаваць бясплатна. Ганьба піратам, недапрацавалі.

***

Сцвярджаць, што чалавек прыдумаў Бога, гэта як казаць, што Гамлет напісаў Шэкспіра.

***

Фантастыка з’явілася, калі ў чалавека пачалі адбіраць веру ў Бога. Мары пра нябёсы ёсць нават у сэрцах атэістаў. Таму і з’явілася фантастыка.

***

У любых сацыяльных пратэстах вінаваты народ. Не было б народа – не было б пратэстаў!..

***

Прыкольна размаўляць з хатняй жывёлай, напрыклад, з катом. Яшчэ прыкольней, калі кот адказвае. І самы цымес, калі пачынаеш разумець, што коця меў на ўвазе.

***

Згубіўся градуснік. Звычайны, якім мераюць тэмпературу. Шукалі ўсім светам, перавярнулі хату. Знайшлі каціную схованку, у якой выявіліся даўно без вестак зніклыя рэчы: шэсць запальнічак, тузін алоўкаў і, о цуд, градуснік!

Кацей адгроб на пуп халады і зараз ходзіць лашчыцца, выказвае любоў усімі сіламі. Нават не зразумець, ці то выбачаецца, ці то прыдумаў, як адпомсціць.

***

Стаю на гаўбцы, дзіўлюся на двор, асфальт нарэшце паклалі. Не, заасфальтавана было і раней, ажно ў 1982 годзе. Аднак, я пра іншае.

Па двары бегаюць дзеткі. З крыкам, смехам, віскам.

– А давайце ў вампіраў гуляць!

– Давайце! Я – вампір!

– Людка, укусі яе!

З лямантам дзеці рассыпаюцца ва ўсе бакі. Людка бяжыць за бліжэйшай сяброўкай, расставіўшы рукі і разявіўшы рот...

І вось калі хто скажа, што СМІ, тэлебачанне і кіно не ўплываюць на дзяцей, смела плюньце таму ў вочы.

– Я не разумею фільмаў жахаў, хоць страляй! – шчыра прызнаўся мой колішні сябар Міша Дмытрыў. – Хоць рэж, не разумею, што за кайф, калі вывальваюцца вантробы, цурчыць кроў, ламаюцца рукі-ногі, наматваюцца на пожаг каўбы. Я – хірург. Мне надараецца дзяжурыць па начах. Часцяком разам з “хуткай” прыбываюць кліенты з вяселляў, хаўтур, танцаў. Мне даводзіцца зашываць, упраўліваць, рэзаць, збіраць па кавалках целы, ледзь не цвікамі збіваць разбітых небарак пасля п’яных боек. Мяне ледзь не ванітуе ўжо ад гэтых сумных відовішчаў. У мяне амаль штодзень ірваныя каўбы і кроў літрамі...

***

У нас аднойчы конь спудзіўся. Вось, нясецца конь, следам ляціць плуг, за плугам ляціць бацька...

А маці ўхапіла за лейцы і спыніла каня. Бо ўвесь гэты гармідар бег на нас малых, мяне з братам. А конь нішто сабе, паваліўся. Дужая была маці. Напішу некалі апавяданне.

***

Аднойчы ўладкоўваўся працаваць на мясакамбінат. Інспектарка па кадрах, злавеснага выгляду цётка, вымагала з мяне дакладную аўтабіяграфію і марыла знайсці адмоўныя рысы. Нарэшце пытае, а кім я хачу працаваць?

– Дэгустатарам! – адказваю я і ветліва ўсміхаюся (ага, на мясакамбінаце!).

– Ой, дзядзечка, вы такі ўвесь белы і пушысты, мо вы ў турме сядзелі?

***

Званок у дзверы, адчыняю.

Дзве прыгажуні з шырокімі ўсмешкамі:

– Здрастуйце, ЖКХ, праверка счотчыкаў вады.

А дзякуй Табе, Божачка, я ўжо думаў “Сведкі Іеговы”, гэтаксама дзве маладыя прыгажуні завітвалі, ледзь адбаярыўся, заявіўшы, што я “праваслаўны” баптыст.

***

Папрасіў блізкую сяброўку купіць жывой рыбы, люстранога карпа (ну ці “зяркальнага”, каму як падабаецца), каб менш лускі чысціць, бо ў люстраных карпаў лускі амаль няма зусім. Ага. Пайшла тая разам са сваёй сяброўкай, “зяркальных” карпаў не было, былі “без чэшуі”, але іх з-за гэтага палічылі хворымі. Выбіралі з паўгадзіны “з чэшуёй”, замучылі прадавачку. Галоўны крытэрый: “каб быў прыгожым”.

От жа! Затое я нічога не цямлю ў манікюры і касметычных сродках. Будзе мне навука.

***

Векапомнае...

Аднойчы ў гарадской лазні назіраю, як побач тата апранае малое дзіця.

– Усё, сынок, дамоў і спаць.

– Тата, есці і спаць?

– Ну ты сказануў, сынок. Ты ўжо сёння еў!

Малое сціхла.

А мне было і роспачна, і смешна адначасова. Вось яно – лозунг “Усё лішняе – дзецям” у дзеянні...

***

Мяне заўсёды бянтэжыць, калі работнікі банкаў запрашаюць святароў “асвяціць” установу. Прынцыпова не супраць, але... Каб курс даляра не рос? Ці каб раслі прыбыткі? Па сутнасці банк гэта пэўна сатанінская структура, адсоткі са сваіх крэдытаў вунь якія дзяруць. Дый у Пісанні ясна сказана, што любоў да грошай – зло. Таму запрашаць бацюшак служыць малебны ў банку нешта няправільнае. З такім поспехам можна запрасіць у бардэль ці на “вараўскі схадняк”. Па прынцыпу: каб з бацюшкам абавязкова, каб добра было...

***

Беларускі дзэн – чарга на пошце ў правінцыі. Тут загаргоўваецца дух, выхоўваюцца характар і доўгацярпенне, пазнаецца багацце народнай мовы, караняцца глыбіні беларускага дао. І нідзе не пачуеш столькі навін, як тут, у чарзе на пошце.

Стаяць бабці, стаяць маладзёны, стаяць сталыя людзі: прыстойныя і не вельмі, атэісты і вернікі, беларусы і не-беларусы. І нават часам выпівакі за нейкай неабходнасцю, трымаюцца, але стаяць. Хворыя і здаровыя, чхаюць і кашляюць, смаркаюць і пазяхаюць, смяюцца і жаляцца, радуюцца і скардзяцца, наракаюць, спрачаюцца, гучна і шэптам. Чыстыя і брудныя, смярдзючыя і духмяныя. Апранутыя ў невядома адкуль узятае рыззё, і апранутыя густоўна, у дарагіх строях.

І тут ніхто не крывадушнічае, тут раскрываецца нешта таямнічае, сакральнае, тое, што яднае людзей не раўнуючы як у лазні, калі ўсе голыя. Тут усе раптоўна пачынаюць казаць пра тое, што думаюць на самой справе. Міжволі наспявае выснова: вось месца, у якім варта праводзіць сацыялагічныя апытанні. Ніхто не падмане.

Словам, выстаяць чаргу на пошце – выпрабаванне для моцных нервамі.

***

Чалавек часам кажа: хачу пажыць, як чалавек. І ва ўяўленні адразу малююцца залатыя пернікі, разбэшчаныя дзеўкі, банкеты, віно, ферарымазэраці, выспа ў акіяне, палац да неба. Хто вызначыў меру, як гэта – жыць па-чалавечы?

А займацца любімай справай і быць з таго шчаслівым, гэта “жыць як чалавек”, ці не?

А набыць свабоду, якую дае Хрыстос, гэта ўжо нешта іншае?

Што значыць, калі людзі кажуць, што хочуць добра жыць? Гэта значыць, што маюць жаданне ўжываць і карыстацца як мага большай колькасцю матэрыяльных рэсурсаў. Жыццё з Богам, гледзячы па ўсім, не ўключаецца ў формулу “добра жыць”.

***

Чамусьці я ўпэўнены: каб стаць пісьменнікам у нашай краіне, можна ўвогуле нічога не пісаць. Замест творчасці трэба часцей рабіць сэлфі з помнікамі Купалу-Коласу, святкаваць чарговыя ўгодкі Міцкевіча-Багдановіча, наведваць магілы Караткевіча-Янішчыц, бываць на шматлікіх прэзентацыях, даваць аўтарытэтныя каментары ў сацыяльных сетках і трубіць-гудзець-трасці-звінець пра гэта на ўвесь свет праз фэйсбук. І ўсе пачнуць лічыць цябе творцам, паслядоўнікам традыцый айчыннай літаратуры...

***

Частка насельнікаў фэйсбука бачыць Беларусь па-свойму: такой і такой. Другая частка спрачаецца на фэйсбуку з першай: не, Беларусь такая і такая. Сабачацца паміж сабой, сыходзяцца ў баталіях, пнуцца, хто каго перакрычыць, пераплюне, перааблае. А вось існуе вялізная колькасць беларусаў, якія ўвогуле не ведаюць, што ёсць фэйсбук. Ім увогуле да лямпачкі і фэйсбук, і сеціва. Яны бачаць Беларусь зусім іншай, і мне здаецца, – больш рэальнай.

***

На старадаўніх фотакартках людзі выглядаюць неяк аднолькава, на тварах пячатка нейкіх пакут, нястачы, напругі, затоенасці, прадчування бяды і (паралельна) надзеі. Смяюцца рэдка. І ўспамінаецца расповед старога прэсвітара пра лёсы вернікаў-евангелістаў за савецкім часам: аднаго расстралялі, другую павесілі, трэцюю ўкрыжавалі ў лесе камуністы...

***

У гэтым жыцці мы ўсе нібыта ў чаканні цягніка на вакзале. І ва ўсіх квіток толькі ў адзін канец. Адных цягнік узнясе ў нябёсы, другіх канчатковы прыпынак у пекле. Бліжэй да саракагоддзя пачынаеш узважваць жыццё.

Я жыву як госць на гэтай зямлі, і мне нічога не трэба. Я хачу толькі, каб мяне ніхто не турбаваў і Царства Нябеснага. Але немагчыма так. Калі хочацца Царства Нябеснага, мусіш аддавацца ўсім, хто турбуе. Бо нельга трапіць у Царства Божае без уласнай самаахвярнасці...

***

Піць гарэлку, аказваецца, у беларусаў нацыянальнае. Чытаю кніжку П.М. Шпілеўскага “Беларусь у абрадах і казках”, артыкул пра вяселле. “Сват налівае гарэлку і п’е за здароўе маці нявесты. Маці, выпіўшы, накрывае чарку белай хусткай і перадае свату, які, схаваўшы хустку, п’е за здароўе нявесты... нявеста падае чарку і малодшаму дружку, які п’е за здароўе маладзіцы, а тая – за здароўе жаніха. Жаніх – за здароўе старшай бальшанкі, тая – за здароўе музыкі... Музыка перадае чарку нявесце, якая п’е за здароўе свата. Той – за здароўе яе бацькі, бацька – за здароўе жаніха. Жаніх – за здароўе свайго хроснага бацькі, той – за здароўе маці нявесты. Маці нявесты – за здароўе хроснай маці жаніха; тая – за здароўе бабкі, а бабка – за здароўе сваццяў”.

Яшчэ меўся перадвясельны абрад – запоіны, зразумела, з гарэлкай. Малыя запоіны, следам – вялікія запоіны. А паміж імі – гулянкі.

А цяпер увага: П.М. Шпілеўскі пісаў гэтыя нататкі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Прыкладна сто пяцьдзясят гадоў таму. Вось яны – карані.

***

Мы мусім завязваць з гарэлкай, калі губляем самае дарагое, што ў нас было. Ну, апроч жыцця. У маім выпадку то была каханая жанчына, якую я страціў. Парадокс, каб гэтага не здарылася, я, мажліва, піў бы да гэтай пары, ну або ўжо памёр ад гарэлкі.

Кідаюць піць усе – асобныя тыпусы паспяваюць зрабіць гэта пры жыцці.

Мой знаёмы па мянушцы Басіла (быў бас-гітарыстам у рок-гурце) пытаецца, як “кінуць” піць? Ды проста! Не так ставіцца пытанне. Трэба цікавіцца найперш, як захацець “кінуць”? Вось тут ужо гора незлічонае. Бо “захацець” няпроста. Спачатку трэба згубіць нешта надзвычай дарагое...

***

Аднойчы мужыкі з аўтапарка, сырзавода і спіртзавода сабраліся ў “Каўбой-бары”, набралі гарэлкі з закуссю, паставілі крэсла ў цэнтры і па чарзе ўставалі на гэтае крэсла і гучна дэкламавалі вершы, хто са школьнай праграмы, а хто і ўласнага гатунку, складна з мацюкамі. Публіка сабралася вельмі дэмакратычная, усе – свае. Здаецца, арганізаваў дзею

Толя-дальнабой. “Каўбой-бар”, на той момант вельмі непрыстойнае месца ў горадзе, з дня ў дзень тут было свята пароку і дужа дзіўна было пачуць тут Купалу і Пушкіна. Я ж быў малады, пісаў газетныя артыкулы, любіў выпіць, і мяне таксама заносіла хваляй у тую гавань, нібыта адзінокі карабель на Тартугу.

Неяк за стойкай нечакана сустракаю свайго начальніка (справа была недзе ў 2000-х). Набліжаецца скальд Толік, чалавек-песня, адно гусляў няма ў руках.

– А гэта хто? – тыцкае пальцам у майго шэфа.

– Мой начальнік, – тлумачу я.

– Твой начальнік? – у Толіка вочы літаральна лезуць на лоб. – Штосьці ён не выклікае ў мяне даверу!

Дальнабой Толік шчыры і заўсёды кажа праўду. Ён захапляецца пісаннем вершаў і перакладаннем іх на музыку. Выпусціў дыск сваіх песень. Аднак тым момантам я гатовы праваліцца скрозь зямлю... У выніку дальнабой Толік прымушае нас слухаць баладу, прысвечаную нябожчыку Мулявіну. Дарэчы, вельмі прыстойныя вершы, на грані надрыву, поўныя адвагі і пачуццяў. Напрыканцы Толіку апладзіруюць. Нам заадно таксама. Мы п’ем за Толіка, за “Песняроў”, за кожнага паасобку. Мы падымаем чаркі за будучыню, не разважаючы, ці ёсць яна. Творчы вечар творчых людзей. Правінцыйная багема.

Цяпер Толік на пенсіі, часцяком можна сустрэць у раёне возера. Калі ў гуморы, размаўляе вершамі...

***

Днямі іду па вуліцы ўзбоч будынка РАУС. Цераз дарогу крочыць чалавек нападпітку. Добра крочыць, не падае, толькі ледзь-ледзь хістаецца, ну зусім трошкі, быццам ноч мяхі з цэментам разгружаў. Раптам з будынка міліцыі выбягае чалавек у форме і крычыць цераз дарогу: “Мужчына, пастойце-ка, пачакайце, пастойце я сказаў, вы як сябе адчуваеце?” Па дарозе паміж нечаканымі суразмоўцамі рушыць плынь аўтамабіляў, і небарака намагаецца растлумачыць, што ўсё ў яго “зэр гут” і ён насамрэч цвярозы.

Іду далей і думаю амаль гогалеўскім радком: далёка не кожны п’яніца ў нас дабяжыць да сярэдзіны горада...

***

Мой сябар дзяліўся ўражаннем, як упершыню пакаштаваў “канаплянае” малако. Выпіў трошкі, эфекту нуль. Спецыялісты раілі, што шмат піць нельга, асабліва калі без звычкі. Ён выпіў палову кубка, тады яшчэ палову, і яшчэ трошкі.

Матор малоціць, з грудзей хоча выскачыць. Не ўтаймаваць.

Ідзе па шляху, а шлях падымаецца ўгару сам сабой.

Ён спыніўся і не ідзе. А шлях тады сам пайшоў насустрач.

Дома залез пад коўдру, бо спужаўся. І тут па стале павучок тапе-тапе. Спыніўся і пачаў размаўляць. Так і размаўляў павучок да раніцы, пакуль сябар не прачнуўся.

Гары яно гарам такі досвед мець.

З тае пары падобныя “эксперыменты“ сябар болей не праводзіць, толькі гарэлкай злоўжывае...

***

Нарколаг расказаў.

Телефануюць неяк у выходны, просяць прыехаць на агляд. Прыехаў... Здарылася наступнае. Жонка раптам убачыла, як муж ухапіў вілы і палез на дах. Яна следам, маўляў, навошта?

– Да нас збіраюцца прымацаваць трохфазны інтэрферэнтны сінгулятар, – злуецца муж і пора віламі ў дах. – Не бачыш, абараняю хату! Вунь тыя, у каструлі прыляцелі.

Як пасля высветлілі, муж захапляўся фантастыкай, ну і між іншым піў больш за дзесяць гадоў...

Аднак, з расповедаў урача гэта было бадай самае мірнае здарэнне...

***

Калі п’янаму ёсць што сказаць – цвярозаму няма чаго слухаць.

***

У нас жа як? Калі чалавек хоць і трымаецца адно брывамі за паветра, але сам яшчэ стаіць, то – цвярозы. Вакол спрэс цвярозыя людзі, з паразуменнем і самастойнасцю.

***

Раніца. Крама “Каласок” (у нас яшчэ завуць “Калбасок”). Прытулак размаітых п’яніц і боўдзілаў, якія стаяць у чаканні адкрыцця, каб набыць чарніла. Хвіліны перад запаветным адкрыццём цягнуцца марудна, рыхтык ў чаканні крамлёўскіх курантаў на Новы год. Усе трывожацца, нярвова паляць.

Раптам адзін другому кажа:

– Чуў, сёння такі моцны вецер, ажно дваццаць пяць градусаў у мінуту!

Людзі з паралельнага свету.

***

Вяртаюся з начной змены, завітваю ў краму па малако. За мной у чарзе ківаецца жанчына з дзвюма пляшкамі ў руках. Між іншым, жанчына добра апранутая, з парфумным пахам, толькі з тварам пакамечаная. Гадочкаў з дзесяць таму ўсё было наадварот. Мужчыны ківаліся ля касы з пляшкамі, а жанчыны куплялі малако. Глядзіш і міжволі дзіву даешся, як перакуліўся свет. Эмансіпацыя ў дзеянні, так бы мовіць. Разгул незацуглянага бязлітаснага фемінізму. Ну, ці больш простае слова – алкагалізм.

***

П’янічкі – унушальныя людзі. Калі іх кадуюць нарколагі-псіхіятры, то апошнія часам равуць у працэсе, нібы шаманы дзікунскага племя прамаўляючы заклёны... Знаёмая расказвала, пачула ад сяброўкі-нарколага, а я чуў архіўны запіс.

***

Алкагалізм нельга вылечыць медыцынскімі метадамі. Алкагалізм з майго гледзішча ў першую чаргу стан душы. А душу лякуе толькі Бог, а не доктар.

***

Сказаць “кінуў піць” нельга, гэта можа стацца першым крокам да вяр-

тання ў бездань. Насамрэч “кінуў”, гэта ўжо калі цябе памылі, апранулі, паклалі ў драўляную скрыню і павезлі ў гай, а душа-свядомасць адправіліся да Творцы трымаць справаздачу. Вось тады сапраўды можна з палёгкай, упэўнена зазначыць: чалавек кінуў піць.

Правільней казаць: чалавек знаходзіцца ў працэсе працяглай рэмісіі, ну ці недзе так.

Калі скажаш, што вось “я кінуў”, гэта няйначай вылузваецца асабіста-эгаістычнае “я”. Небяспечная сітуацыя, якая спараджае залішнюю самаўпэўненасць і рызыку паўтарэння п’янкі. Атож! Раз “я кінуў”, то здольны своечасова спыніцца і “кінуць” яшчэ раз. Ага! Гэта не раўнуючы гульня ў рускую рулетку і вялікі самападман.

Толькі з Божай дапамогай можна ўратавацца і спыніць зло з чаркі.

Дык я пра што?

Калі спыніўся піць, літаратурная творчасць так і паперла. Я не проста пішу апавяданні, я ў іх часцяком жыву.

Дзякаваць Богу!

***

Муха. Вялікая і тлустая, з фасетачнымі вочкамі...

Шкло. Празрыстае і таўшчэзнае...

Муха выпісвае фантастычныя піруэты і з просталінейным глупствам беспаспяхова намагаецца разбіць аб шкло свае неіснуючыя дурныя мазгі.

Муху вабіць свет за вакном. Там сонца, там зоры, там ясныя зялёныя паляны з мядовым квеццем, там свежае паветра і новае жыццё. Яно такое блізкае і адначасова такое недасягальнае.

І муха б’ецца і б’ецца ў каматозе аб незразумелую, для яе нябачную перашкоду. Мізэрныя мушыныя мазгі лепяцца ўсмятку, а сонца і свабода так і не робяцца бліжэй. Цяжка нават уявіць, разбіла сабе мазгі муха, ці не. Хутчэй не, бо калі мы прыгледзімся, то ўвогуле ўпэўнімся ў адсутнасці названых. Прынцыпова ёй мазгі і непатрэбны. Мушыны ўдзел лётаць па пакоі, біцца бясконца аб шкло і чакаць, пакуль не прыб’юць.

Дурніца так і не зразумее ніколі, што дзесьці ўверсе абавязкова ёсць расчыненая фіранка...

***

У нас часам вылузваецца настальгія па савецкім жабрацтве. Мы жылі бедна, але лічылі сябе багацеямі. Мы імкнуліся да духоўнага – забароненых кніг, употай на Вялікдзень наведвалі ўсяночныя набажэнствы і зачытваліся Аляксандрам Менем.

О, так! Хто тым часам меў дачыненне да ўсялякіх закрытых звычайнаму воку “кармушак”, той мог дастаць штаны-“бананы” і бразільскую распушчальную каву “Пеле”. І той ужо хваліўся ўласнай незвычайнасцю. Ну, а калі чалавечак апранаў джынсы “Лівайс”, а дома меў магнітафон “Шарп”, ці хай сабе звычайную “Электроніку”, той ужо адназначна лічыўся крутым. Дробны люд ставіўся па-рознаму: хто зайздросціў, хто наіўна прыніжаў сябе перад уладальнікамі “багацця”. А хто і лічыў тую “раскошу” нічога не вартай.

Гэта сёння мы ведаем, што распушчальная кава небяспечная для мужчынскага здароўя, а бразільская “Пеле” прынцыпова мярзотная дрэнь і паскудства. Ага, гэта цяпер у любой краме па дваццаць найменняў кавы

любых гатункаў, джынсы выбірай любыя, побытавай тэхнікі і гаджэтаў бездань. А тады ж – так, насунь "бананы", выпі "Пеле", уключы "Электроніку" і слухай "Модэрн Токінг", і ўсё, жыццё ўдалося, ты не раўнуючы зорку з неба зняў, мажор, і зрабіўся вышэй за астатніх, ускараскаўся на вяршыню соцыуму. Які ж самападман.

***

– Мы, хрысціяне, павінны рабіць тое, што рабіў Хрыстос.

– Аднак Хрыстос тварыў цуды: уваскрашаў памерлых, вылечваў сляпых, выпростваў гарбатых, выганяў бесаў. Мы ж нічога падобнага чамусьці рабіць не можам. Мо мы не сапраўдныя вернікі?

– А навошта табе здзяйсняць цуды? Ты лепей твары дабро, будзь міласэрным, май спагадлівасць, любі бліжняга. Бо па сённяшніх мерках рабіць добрае – гэта ўжо цуд.

***

Дыялог пра сакральнае.

– Жыве Беларусь!

– У нас кажуць – квітней, Беларусь!

– ?

– Мы рэдакцыя дзяржаўнага выдання, у нас Беларусь квітнее.

– Але не жыве?

– Па ўсім так. Гм. Выходзіць, Беларусь мёртвая, але квітнее?

– Якое квітнее, калі яна ў дупе? Трэ мовіць, жыве, пакуль яшчэ жыве!

– Слухайце, спадарства, а што калі казаць – памры, Беларусь? Гэта будзе ідэалагічна правільна? Ну сапраўды, раз "жыве Беларусь" нельга казаць, то лагічна меркаваць, што – "памры, Беларусь!"?

– Так, можна і памры, але ж квітней!

– Чым вы занятыя?

– Праходзьце, не стойце ў дзвярах... Вянкі ўскладаем на магілу краіны.

***

– Што ваша дэмакратыя? Што ў нас Правадыр паспее здзейсніць за шэсць гадоў? Хіба лецішча сабе збудаваць і радню ў сталіцу перавесці. Даўней правадыры колькі ў нас правілі, га? Ад князёў да Брэжнева? Пакуль не паміралі, ці пакуль іх хто адважна не выганяў. А наш Правадыр вось ужо нахапаўся, і зараз будзе дбаць пра краіну і галадранцаў, каб было скуль хапаць і надалей. Гэй, галадранцы, жывецьмеце пакуль – і добра. Хлябец жуяце? І добра. Вайны няма – галоўнае. І няма чаго скардзіцца на жыццё, вас жыць аніхто не прымушае. Квітней, Беларусь!

Прамоўца змоўк і сышоў з трыбуны.

***

Мы заўсёды гуляемся ў нейкую дурную гульню і робім выгляд, што так і трэба. Усе цудоўна разумеюць, што наўкола адбываецца, але робяць выгляд, быццам усё як мае быць. У нашай краіне пры любой уладзе будуць бардак і карупцыя. Бо красці – у нашай нацыянальнай традыцыі як і гараваць. Задача літаратара – выкрываць гэтыя заганы, але ні ў якім выпадку не дзеля рэвалюцыі ці перавароту, а выключна дзеля смеху, каб пасмяяцца ад душы і далей працаваць. Смех выпускае пар. Пасмяяліся і разышліся. І

нельга сатыру забараняць. Хай народ лепей рагоча з вертыкалі, чым мяркуе, як гэтую вертыкаль надзець на вілы. Ведаеце, каб сваім часам дазволілі самвыдат, Саюз бы не распаўся. Гэта як у вядомай показцы: муж з жонкай ляжаць у ложку, а ў мужа не паднялося тамака тое, што належна. І што, трагедыю распачынаць? Парагаталі абодва разам, і спаткі. Смех – гэта лекі.

***

З рубрыкі “векапомнае”.

Калі ўсё ў сацыяльнай палітыцы было сумна, мая бабуля казала: “А бажок-зязюлёк, каб іх свет не свяціў” і ўтыкала ў тэлевізар дулю.

Вось яна – адноснасць грамадскага меркавання ў адносінах са СМІ.

***

Нарэшце! У Амерыцы элегантна “пабядзіў” Трамп. У Беларусі сачылі за выбарамі з такой імпэтнай моцай, што пэўна вось – зажывем зараз за Трампам! На ўвесь свет загудзім: знаёмы дзядзя Сярожа абяцаў выпіць за Трампа скрыню гарэлкі. Заадно і за Хілары – не меней. “За любоў і згоду!” – любімы тост дзядзі Сярожы. А ў юнацтве ён перажываў за Альвара Тора Вега.

***

У пратэстанцкіх цэрквах вернікі заўсёды моляцца, каб Бог дараваў нашым начальнікам мудрасці. І мудрасці ў іх хоць адбаўляй. Давайце ж цяпер маліцца, каб Госпад абудзіў у іх сумленне.

***

У Пісанні ёсць выраз – лягчэй вярблюду пралезці скрозь іголкавае вушка, чым багатаму трапіць у Царства Нябеснае. Развіваючы гэтую думку, можна дадаць – лягчэй багатаму трапіць на неба, чым палітыку.

***

Мой сябар доўгі час пісаў дзённікі. Пасля стаў вернікам і ўсе дзённікі спаліў.

– А навошта захоўваць памяць пра тое, што Бог даўно дараваў?

Цікавы падыход да літаратурных эксперыментаў.

***

А ў нас тым часам сямейная акцыя для таты: пакладзі дзіця спаць і атрымай маму ў падарунак...

***

Па замове прыдумаў казку для малога Іллі. У некалькіх словах:

Коцік хацеў снедаць і пагрэў яечка, але замест яечні са шкарлупіння вылупілася куранё і сказала коціку: “Мама!” У коціка калісьці гэтаксама была мама, таму адразу ўспыхнула сумленне. Снедаць або не? Пакуль коцік завіс над дылемай, вылупленае куранё ўбачыў гаспадар. Гаспадар узважыў праблему па-свойму, ухапіў дубец і пагнаўся за коцікам. Нават раз улупіў. Проста на ўсялякі выпадак.

Коцік схаваўся на дрэве. Сядзеў там галодны і пабіты, затое з чыстым сумленнем.

– Казка яўна не дзіцячая, – вынесла прысуд Іллёва маці.

Сяджу, прыдумваю іншую, “дзіцячую”...

***

Захапляўся неяк цяжкім рокам, слухаў беларускі гурт “Gods Tower”, асабліва ўпадабаў кампазіцыю з назвай “Eerie”. Усё шукаў значэнне гэтага слова, не мог знайсці, пакуль не падказалі на нейкім форуме – так называецца месца, куды трапляе душа пасля смерці ў славянскай міфалогіі, так званы язычніцкі рай.

Пасля ў Юрыя Нікіціна “Трое з лесу” знайшоў слова “вирий” з тым жа значэннем, што і “eerie”. Хтосьці з украінскіх пісьменніц – стваральнікаў славянскага фэнтэзі – яшчэ ўзгадваў слова “ирий”. І вось выплыў мне на памяць эпізод з дзяцінства.

– Куды ляцяць качкі? – пытаў я ў бабулі.

– Птушкі восенню збіраюцца ў вырай, ляцяць далёка ў неба, – чуў бабулін адказ. – Так мая матуля казала. Даўней так усе людзі казалі: восенню ўсе птушкі ляцяць у вырай.

Вось яно, сугучча слоў розных моваў, еднасць і адзінства паняццяў.

У дзяцінстве не ведаў што такое “вырай”, пасля думаў пра значэнне “eerie”, а яны аднаго паходжання, з першасных крыніц культуры, адлюстраваных і захаваных мовай, спрадвечнае значэнне і сімволіка якой даўно ўсімі забытая...

***

Здаецца, сацыяльныя сеткі людзям не на карысць. Піша адзін чалавек на сваёй старонцы Укантакце: “песот тысечь”, “джынцевый камбензон” і далейшае з адпаведным правапісам. Побач статус: “Учи языки, люби себя”. І невядома ці то смяяцца, ці то спачуваць. Вось яно, новае пакаленне аматараў літаратуры, чытачоў...

***

Але ж якая цікавая ў мяне стужка навін у фэйсбуку У адной навіне – жанчына-даярка, якая атрымала заробак 16 даляраў за месяц. У другой – прапаведнік-місіянер у шыкоўным стройчыку распавядае пра падарожжы па Еўропах. Але ж які кантраст!

Дзіўная рэч гэты фэйсбук. Як там пісаў Скарына? “Посполитым людям доброму наущению”...

***

Нашыя веды пра падзеі ў навакольным свеце забяспечаны выключна інтэрнэтам, сацыяльнымі сеткамі і сродкамі масавай інфармацыі. Мы нават не дужа ведаем пра тое, што ў раёне адбылося, пакуль не зазірнем у мясцовую прэсу.

Вось адключы нас ад крыніц інфармацыі, і што здарыцца?

Анічога! Будзем жыць далей, як і жылі. Хадзіць на працу, гатаваць вячэру, а ноччу – спаць, сапець у дзве дзіркі. А вось эфемерных надуманых праблем значна паменее. Ну якая мне справа, што ў Сірыі вайна, што ў Зімбабве інфляцыя, што ў Штатах выбары? Мяне як добрага хрысціянскага верніка турбуе, як дагадзіць Богу, накарміць дзяцей і набыць жонцы футра на зіму. Усё!

***

Сацыяльныя сеткі збольшага – вялікі клоўнскі цырк. Звіняць-трубяць-гудуць-трасуць хто на што прыдатны. Адны лічаць, што нясуць Бога ў масы, другія гуляюцца ў палітыкаў, трэція думаюць, што могуць нешта вялікае здзейсніць і змяніць у жыцці. Насамрэч гэта пэўны від інтэрнэт-імпатэнцыі, калі справы нерухома вісяць а палове шостай.

І ёсць асобны від наведвальнікаў-рэалістаў, якія сюды заглядваюць, каб парагатаць ці пасварыцца, ну ці паспачуваць, як ужо выйдзе.

Па шчырасці, гэтыя пляцоўкі выдумалі дзеля забавы. Яшчэ тут зручна інфармаваць-прадаваць-ствараць грамадскае меркаванне, ну і збіраць грошы пад які чарговы праект са спрэчнай альбо адноснай каштоўнасцю.

Сацыяльныя сеткі – гэта віртуальны свет, дзе мы шчаслівыя ў сваіх ілюзіях, бо можна тут стаць тым, кім хацеў у рэале, але не вельмі атрымалася.

Прабачце, то мая выключна суб'ектыўная думка, гэтаксама спрэчная. Віртуальнае гледзішча інтэрнэт-чалавека, які гэтаксама не ведае, па якую трасцу палез сёння ў фэйсбук...

***

Са жменькі вядомых сацыяльных сетак (а іх разам з малавядомымі існуе некалькі тысяч) больш за ўсё весяліць дэбільства “Аднакласнікаў”.

Хто любіць маму, стаў клас! А нашто маме твае класы?

Гэтай бабулі дзевяноста гадоў, давайце падтрымаем яе класам! Народ, а навошта? Бабка памаладзее адразу, ці пенсіі атрымае болей?

У каго з заўзятараў адноклаў яшчэ захаваліся рэшткі мазгоў, ну падумайце, навошта вашыя класы выключнай лухце? Вы гадзінамі вісіце ў адноклах, чытаеце-глядзіце-слухаеце ўсё запар. Дык вас наўмысна пічкаюць-напампоўваюць прымітывам, каб думаць развучыліся. Хто не ўмее думаць, той спакваля патрошкі робіцца жывёлай. А жывёлай прасцей кіраваць. Не так?

Га! Гэтая бабуля жыве дзвесце гадоў і ні разу не мылася, паставім ёй клас!

Гэтаму хлопцу на вайне снарадам адсекла струк, давайце паглядзім, колькі класаў ён назбірае.

Хто здольны выжлукціць літр гарэлкі і не паваліцца – стаў клас, паглядзім колькі нас!

Га! Свет дурнее, адноклы круцяцца, мітусня паглынае. Пра добрую літаратуру забыліся, лайкі – каштоўнасць. Хто выдумае самы дурнейшы статус? Хутчэй стаў клас! Хутчэй стань жывёлай, аддай рабаўладальнікам свой розум...

***

На Вялікдзень раніцай вяртаюся з начной змены. Раптам насустрач афрабеларус, чорны ажно пераліваецца на сонцы, у мой бок:

– Хрыстос уваскрос!

– Сапраўды ўваскрос, – адказваю аўтаматычна.

Афрабеларус дэманструе шчырую ўсмешку, паціскаем адзін аднаму рукі.

***

На Велікодныя святы народ быццам звар'яцеў. У крамах чэргі, харчы і гарэлка набываюцца ў прамысловай колькасці. Прынцыпова нашым

людзям пляваць, на якое свята “гудзець”, галоўнае – адзначыць. Людцы, Вялікдзень гэта Хрыстос, вечнае жыццё ў Царстве Нябесным, а не тое, што вы думаеце.

***

Што такое Вялікдзень?

Гэта шлях у свет, дзеля якога мы былі створаны.

Гэта шлях да нябёсаў, пра якія не марыў ніводзін пісьменнік-фантаст.

Гэта шлях, на якім няма ні рускіх, ні амерыканцаў, ні беларусаў, ні ўкраінцаў, ні немцаў, ні чорных, ні белых, ні жоўтых, а наадварот усе – адно, адзіны народ.

Гэта шлях, на якім ворагі становяцца сябрамі і ідуць поруч.

Гэта шлях новай чалавечай расы да новай цывілізацыі, якая мянуецца Царствам Нябесным і з’яўляецца самай магутнай дзяржавай ад моманту стварэння свету. Царства Божае.

І Госпад Ісус Хрыстос, праз Якога Бог стварыў наш сусвет і ёсць гэты Шлях.

Жадаю ўсім апынуцца разам з Ім на гэтым Шляху.

***

Героі з правінцыі. У дзяржаўных газетах пад падобнымі рубрыкамі звычайна значацца перадавікі вытворчасці, на першым месцы абавязкова выява старшыні з намеснікамі, за імі актывісты рады ветэранаў і БРСМ. Гудуць трактары, малоцяць камбайны, зажынкі-дажынкі і фальклорны ансамбль народных спеваў і танцаў напрыканцы. Сябры, у маім свеце героі зусім не тыя, каго ганаруюць перадавіцы. Пра сапраўдных герояў газеты не пішуць.

Вось, напрыклад, Толік. Знаўца і аматар рок-музыкі. Працуе вартаўніком, падзарабляе грузчыкам. І апантана захоплены паездкамі на размаітыя рок-канцэрты, без іх жыцця не ўяўляе. Deep Purple, Sweet, Uriah Heep, Accept, Уда Дзіркшнайдэр, Арыя і іншыя-іншыя-іншыя. Колькі б ні каштаваў квіток, Толік гатовы аддаць апошняе, каб трапіць на тусоўку. Наведаў ужо даўно за сотню разнастайных шоў. Цікава тое, што ён за мяне старэйшы. Мабыць ужо, умоўна кажучы, і пенсія недзе там не за гарамі... Ну хто яшчэ можа чым падобным пахваліцца? Зразумела, у кожнага свае матылі ў галаве. Аднак яскравы прыклад, калі чалавек жыве захапленнем.

Валік. Таксама цікавы персанаж. Пазнаёміліся з ім, калі Валік працаваў дзіцячым псіхолагам у садку.

...Я прачнуўся а дзясятай раніцы з-за крыку на вуліцы. Нехта з энергіяй і ўвішнасцю вайсковага сяржанта моцнай глоткай аддаваў каманды, нібыта на страявой падрыхтоўцы. Зірнуў з гаўбца: на тэрыторыі дзіцячага садка дзеткі дружна маршыравалі пад каманды невядомага мне чалавека ў белай вопратцы. Голас выхавальніка скаланаў наш двор. То і быў Валік.

Валіку адносна хутка надакучыла працаваць на дзяржаву. Плюнуў-рынуў, падаўся ў камерцыю, аднак фішка ў іншым. Валік марыў рабіць дабро людзям. Купіў машынку і паставіў мэту: падстрыгчы тысячу чалавек, у першую чаргу булдосаў. Бясплатна!

Пасля сотай стрыжкі да Валіка пачала прыходзіць вядомасць. Стрыгліся не толькі п’янічкі, але і проста людзі-сябры і людзі-знаёмыя. Валік бясплатна стрыг народ, кайфаваў ад размоў з кліентамі, а ў цырульні

камбіната бытавога абслугоўвання, мабыць, кусалі локці з-за рэзкага падзення прыбыткаў. Калі недзе пасля семісотай стрыжкі зламалася машынка, думаеце, Валік кінуў занятак? Го, вы не ведаеце Валіка, якога мы на “Фуджыфільме” менавалі Лысуном (ён галіў сваю галаву). Валік купіў новую машынку і паставіў мэтай задарма падстрыгчы яшчэ тысячу раз – любога жадаючага. Валік быў шчаслівы, а булдосы – неверагодна ўдзячныя, астатнія – хто як.

Кожны кліент Валіка атрымліваў уласны нумар. Я быў 512-м, затым 762-м, пасля прыкладна 1240-м.

Першы раз пісаў пра Валіка ў 90-я ў раённай газеце. Праз дваццаць гадоў пішу ў фэйсбуку. Валік не змяніўся. Мо толькі пастарэў крыху, як і ўсе мы.

Увогуле, каб жыць і радавацца, трэба жыць і радавацца!

Дэвіз Валіка – радуйся штодня, жыццё скарачаецца!

Нас яднае тое, што мы абодва – блазны ў лепшым сэнсе гэтага слова.

У грамадстве звычайна лічыцца, вось у цябе ў адным узросце павінна быць сям’я, у другім – машына, у трэцім – банкаўскі рахунак. У нашых асабістых космасах усё не так. Мы лічым, што, па-першае, павінна быць любімая справа, а па-другое – радасць у жыцці.

Дарэчы, герой майго апавядання булдосаў болей не стрыжэ за так, бо два разы абрабавалі. Але ж некаторых іншых сяброў, якіх у Валіка агулам бадай за палову гарадскога насельніцтва, працягвае стрыгчы задарма, проста для душы. Радасць у чалавека. Вось пра гэткіх герояў і трэба пісаць і пісаць. Без іх жыццё сумнае. Але ж, у газетах заўсёды існуе самотнае “але ж”.

***

На дзяжурнае пытанне “як справы?” мой добра знаёмы Юрась надаваў сабе выгляд філосафа.

– З кожным днём усё лепей і лепей.

Юрась быў вернікам евангельскім, баптыстам, што, дарэчы, не перашкаджала яму доўгія гады гандляваць валютай, быць вядомым у горадзе як акула чорнага рынку. Юрась сваім часам быў камсамольскім лідарам, майстрам спорту па тэнісе, пасля скончыў біблейскі інстытут і прапаведваў у баптысцкай царкве. Юрася слухалі, ён умеў прыцягнуць слухача, і па нашым правінцыйным рынку ён хадзіў філосафам, не раўнуючы Сакрат тутэйшага гатунку.

– Як могуць быць справы, як не штодня лепей? З кожным днём усё бліжэй і бліжэй да смерці, да скону, то бок да пераходу ў вечнасць. І што можа быць лепей, як не сустрэча з Госпадам, нашым Творцам?

Пачутае я пераняў на свой лад, і калі мяне хто пытаўся пра ход спраў, нязменна адказваў: “Штодня ўсё лепей і лепей, хутка стане так добра, абы не памерці ад шчасця”. Народ згаджаўся. Звыклая канцэпцыя пра добрае заўтра – у крыві кожнага беларуса, які нарадзіўся за савецкім часам. Бо “заўтра будзе лепей” нам унушалі з пялюшак, а мы былі рады таму святу і ахвотна давалі веры.

Юрась стаяў ля сметніцы і еў ківі.

– Юрка, чаму ты ля сметніцы?

– Дык не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца!

І так з нязменным аптымізмам штодня. Сэнс Юрасёвых слоў я зразу-

меў, калі варочаў бярвенне на піларамe ўзімку начной зменай пры мінус дваццаць чатыры градусы. Толькі нядаўна я працаваў у газеце, і вось – мінігулаг на Палессі ў ляскавіцкай эксперыментальнай леса-паляўнічай гаспадарцы. Чалавек упрыгожвае месца. Не паверыце, я быў шчаслівы. Але гары яно гарам падобнае шчасце, не хачу болей так нічога ўпрыгожваць.

Формулу “Заўтра будзе лепей” я пачуў яшчэ ад свайго добрага сябра Макса, калі выходзіў з апошняга сакрушальнага запою. Урэшце, дагэтуль у мяне меліся пафасна-ўзнёслыя жыццёвыя дэвізы: “Рабі справу і няхай здзейсніцца ўсё наканаванае”, альбо “Ні ценю сумненняў, мінулае ззаду, мы народжаны для вечнасці”. Але ўсе яны згарэлі ў пякельным полымі гарэлкі. І вось “заўтра будзе лепей”: унушаў, падказваў, падтрымліваў Макс. Ну так, сёння ў першы дзень пасля містычнай п’янкі я наноў навучыўся размаўляць – гэта ўжо лепей, чым учора. Заўтра здолею нешта закінуць у страўнік, з’есці – таксама лепей. Паслязаўтра ўспомніў, куды мог падзецца мабільны тэлефон. Добраму настрою спрыялі пігулкі карбамазепіна...

Такім чынам ад раніцы да раніцы. Жыві з думкай, што заўтра будзе лепей. Праверана ўласна – дзейнічае! Аптымізму нам бракуе, вось што. Бязлітаснага аптымізму, які надае стваральнай моцы. Які штодня аднаўляе і ўзбагачае жыццё. Ідэолагі краіны саветаў усё ж нешта ведалі, мелі рацыю сцвярджаць “заўтра будзе лепей”. А мо проста паўтаралі на свой лад біблейнае – словы апостала Паўла: “...забываючы тое, што ўжо за мною, і сягаючы наперад, імкнуся да мэты...” (Піліпійцам 3:13-14).

І колькі ўжо гадоў мінула, а формула дзейнічае. Жыццё штодня набірае абароты. Сёння кніжку напісаў, заўтра выдаў. Словам, гэта не толькі статус у фэйсбуку, гэта не проста формула самаўнушэння, рыхтык заклён. “Заўтра будзе лепей” – гэта наўпрост лад жыцця, бо за ім стаяць упэўненасць і вера поруч з надзеяй.

Мы, беларусы, бывалі, і не раз, у глыбокай яміне. Нам наканавана нябёсамі ўсё жыццё, увесь век выбірацца з пракаветнага крызісу, выпаўзаць з глыбіні. Дармо сабе, выжывем. З Божай ласкі. Абавязкова.

Заўтра будзе лепей...

І гэта ўжо не фантастыка!



паэзія

Андрэй Хадановіч



...Казаў ім: "Калі не любіць цэлы свет,
не зможаш любіць і свой двор"...

# Радыё самота

***Хор***

Ён мальцам на спевы бегаў штодня,
ды ўночы было цікавей,
бо ўночы ў падворку спярша цішыня,
а потым пяяў салавей.

Яму падпявала вярба ля ракі
і конік фальшывіў між траў...
А потым бяда. Салаўя на шматкі
суседскі кот разадраў.

І хлопцаў душылі слёзы і гнеў,
а ён ім: "Птушку шкада,
ды гляньце, ён тыдзень нічога не еў,
давайце накормім ката".

Бо ў іхнім двары шмат было прыбышоў,
суседзяў было – цэлы свет,
і ўсім было добра, пакуль не пайшоў
вайной на суседа сусед.

І ўсім было кепска, ды скончыўся бой –
і хтось запяяў салаўём:
“Вось вораг, што прагнуў забіць нас з табой, –
давай мы яго заб’ём!”

І ўсіх паяднаў справядлівы парыў,
і помста біла хвастом...
А ён ім: “Вораг наш дом разбурыў,
давайце збудуем дом”.

Казаў ім: “Калі не любіць цэлы свет,
не зможаш любіць і свой двор...”
Жыў доўга, ды неяк на досвітку дзед
пакрочыў у рай, бо памёр.

“Ты шмат памыляўся, – сказалі яму, –
ды ўсё-такі жыў як след.
Ты варты, пакінуўшы цела-турму,
пець з намі для Госпада, дзед!”

А ён: “Я для спеваў занадта стары,
бо сёння на досвітку ўмёр.
Ваш хор салодка фальшывіць, сябры, –
давайце скасуем хор”.

## *РАДЫЁ САМОТА*

Восень гоніць па ходніках муміі кветак.
У гербарыі бронхаў – засушаны свіст.
“Сэрца ірвецца ў горы”, – плача падлетак.
“Сэрца ірвецца ў горы”, – мроіць турыст.

Алкаголь заядаецца шакаладам –
і настрой матляецца матылём.
Карабель знікае за даляглядам.
Далягляд знікае за караблём.

Карабель... – і так да канца лічылкі,
а на дне бяссоння – бяздонне сну.
Напісаць “свабода”. Выправіць тры памылкі.
Атрымаць “самоту”. Яе адну.

*Гамбург, кастрычнік 2017*

## *ГОРАД, ШТО НІКОЛІ НЕ СПІЦЬ*
## *(бо так і не адаптаваўся да мясцовага часу)*

Гэты горад сапраўды не спіць ніколі,
а таму й не прачынаецца зусім,
засыпаючы пялёсткамі магнолій
тых, хто зранку не прачнуўся разам з ім.

Гэты горад разгайдае кожны талент,
гэты горад пераправіць кожны кіч.
Закалыша вас травой на Коні-Айленд
і абудзіць пад сталом на Брайтан-Біч.

Штось кашэрнае гатуецца з бараніны.
Ў караблі гуляюць авеню і стрыты:
25-я і Мэдысан – паранены,
26-я і Лексінгтан – забіты.

Кіламетры тут расцягваюцца ў мілі –
і жывеш на трэць даўжэй, калі паверыць.
Тут на вуліцах за вечар напалілі
гэтак моцна, што не хочацца праветрыць...

Тут рок-зорка выступае ў пераходзе,
і кладзеш даляр падземнаму шаману.
Бачыш выспу – і ўсміхаешся Свабодзе,
і яна табе ўсміхаецца з туману.

Пройдзе ўсё, ды толькі тут – з табою побач...
І выходзіць твая муза на Брадвей,
брыдучы па ім апоўначы на поўнач,
з кожным крокам забірае ўсё лявей.

Каб гудзела памяць песняю няспыннай,
а калі ў чым перабольшу ці зманю –
нібы пальцы, што скрыжоўваюць за спінай,
яго вуліцы скрыжую з авеню.

*Нью-Ёрк, красавік 2018*

## *НОЧ МУЗЕЯЎ: СТАРАЯ ГРУЗІНСКАЯ ПЕСНЯ*

Апушчу галаву на стол – і прачнуся ў музеі,
а наўкол – жывыя карціны – усё, што прысню.
Белы голуб Пікаса глядзіць на мяне і шызее:
трэці раз прачынаюся тут, і ўсё ўпершыню.

З глыбіні інтэрнэту выйдзе Nickname Пірасмані,
а за ім наўздагон сімулякры сабак – Google dogs.

Элегантны цыган папросіць маіх money-money
на цыгары, цыліндр, цынандалі ды імпартны кокс.

Гэты ведае ўсе таямніцы вершаў і прозы,
адвязе на дабітай маршрутцы ў к/ф “Міміно”,
ператворыць віно – у песню, а песню – у слёзы,
слёзы ў дождж, і гэтак далей: вінаград, віно...

Расхістае ўначы ўвесь горад, са мной уключна,
бо жывая вада Тбілісі – надта жывая.
Мой кіроўца ў заторах слухае рэп так гучна,
што народ на прыпынках танчыць і падпявае.

Гандляры-мужчыны мераюцца чурчхелай,
вабяць самай вялікай, прыгожай, смачнай і спелай,
а красуня-кухарка толькі смяецца з мача,
разумеючы больш, дзе горача і дзе смачна.

“Вельмі пасуе сукенка”, – кажу ёй. “Пытанне цела, –
кажа какетка. – Я для яе патаўсцела”.
“Добры жарт”, – кажу. “А гэта – пытанне душы.
Бачу, што пішаш вершы. Бяры – і пішы...”

Неймаверны горад сышоў са сваіх графіці
і вядзе ў ноч музеяў, бо кожная ноч – музей:
“Нарадзіўся – расці вялікі, мой неафіце,
адрывайся, спявай і танчы, не цверазей”.

Льецца літрамі лірыка й літары лёгкага флірту
раскруцілі сляпым катом і кажуць: “Цяплей! Цяплей!
Цалавацца – толькі ў зацяжку, кахаць – без фільтра,
каб аднойчы памерці ад шчасця – і жыць далей”.

*Тбілісі, травень 2018*

* * *

З неба падаюць абрыкосы.
Вецер блытае сену косы.
Кот за коткай бегае крос.
З абарванцам б’ецца матрос.

Хлопцы рыбу ловяць таптухай.
Брат стрыечны ходзіць з татухай.
Першакласнік разбіў мапед.
Але смерць пайшла на абед.

Крапіва кусае за лыткі.
Сон – глыбокі, і Сож – не плыткі.
Ты суседцы: “Пайшлі ў траву”.
А яна: “Не дуры галаву”.

Абрыкосы падаюць з неба.
Усё на свеце ідзе як трэба.
– Адчапіся!
– Чаму?
– Таму...
Два па дваццаць гадоў таму.

### ЧАТЫРЫ СЕЗОНЫ, КАБ СТРЫГЧЫ ГАЗОНЫ

Увесну трава – пяе,
зялёны прыбой аж да ганка.
Як толькі скосіш яе –
за спінай расце, партызанка.

А потым ідуць дзьмухаўцы,
віншуючы з хуткім летам.
Ледзь зрэжаш на тым канцы –
капцы! –
яны ўжо на гэтым.

Улетку трава ўтрая
марудней расце, старая.
Ляжыць-загарае, як я.
Ды нос мой хутчэй згарае.

Увосень – бульбу стрыжэм,
грыбы й журавіны зрэдку,
а ўзімку ўплятаем джэм
з таго, што вырасла ўлетку.

Дарэчы, у нас дажджы,
касіць – дарэмныя мары.
Ты кажаш: “Лепш пастрыжы
газон, што вырас на твары”.

### ПІШУ ХАЙКУ

Лічу па складах.
Бракуе трэцяй рукі –
з сямю пальцамі.

*

Літаратуру
ведаю па вярхах.
Па вяршынях

* * *

У сёмае неба, нібы аблачынкі,
плывуць параходы, салют!
На трэцяй планеце гадаюць мужчынкі:
тхор, ластаўка, кіт ці вярблюд?

Вярблюд параходы цыруе канатам,
бо пойдуць іначай на дно,
і так віртуозна, што нават фанатам
ніводнага шва не відно.

Іголка гарэзіць, як ластаўка-птушка,
сшывае нябёсы й зямлю,
а тхор без аркестра пяе ёй на вушка,
даказвае, што не вярблю...

Ён просіць іголку: “Хоць песеньку вышый,
хоць просценькі-просценькі хіт,
бо трэба спяваць, усё вышай і вышай,
таксоўшчыку бла-бла-блакіт”.

А дзесьці над імі – Вялікая Тайна,
бо творцы нябесных радзім
не ведаюць самі, ці будзе там файна,
куды ўсе мы разам ляцім...

* * *

Дарэмная штука ў жыцці пацана
ганяцца за ёю ды мерацца славаю.
Ты ходзіш пад стол пехатой, а яна –
плавае.

Ты плаваеш, бо праваліўся пад лёд,
калі пакатацца пайшоў замест школы.
Яна, пасадзіўшы на лёд самалёт,
ратуе палярнікаў і ледаколы.

Чытаць і пісаць навучыўся ледзь-ледзь,
прычэсваеш першыя вершы калматыя.

Яна ж табе кажа: “Пара пасталець!”
і хітра смяецца ў тваёй хрэстаматыі.

Будзь сам Куляшоў, а яна – шоу куль,
там чэрап і косткі, там надпіс: “Не ўлазьце!”
Ды чуючы стуль “прывітанне” й “пакуль”,
ты рыкаў ад злосці і плакаў ад шчасця.

І хай па гісторыі й сёння траяк,
і нават па музыцы двойкі тры чвэрці,
але, як маньяк, не замоўкнеш ніяк,
шліфуеш памеры, каб ёй не памерці.

* * *

Першае слова з’ела карова,
сорам – другое скубе,
трэцім Марыська, твая чарнаброва,
дражніць малога цябе.

Хто анямеў ды схаваўся за пугу
ад языкастай чумы?
Вечар-пастух гнаў з нябеснага лугу
рыжых цялушак, нямы.

Кідаеш словы абразаю колкай –
дзеўчыне, лёсу, жыццю:
толькі хацеў абазваць рыжай цёлкай –
рыжая цёлка цю-цю...

Што дагарэла, вяртаецца з прыску –
ну, чарнаброва, чакай!..
Хто гэта й сёння малую Марыську
дражніць, здаровы бугай?

Не заракайся ад гэтага статку,
гэтай дражнілкі, каўбой!
Слова было, ёсць і будзе спачатку.
Нават калі не з табой.

## ЦУМ НА КАЛЯДЫ (ВЕРШЫ З ВІТРЫНЫ)

*

На Каляды змяняюцца ўсе.
Час падводзіць старыя рахункі.
Хтось дары ў Віфлеем панясе.
Хтосьці блізкім нясе падарункі.

*

Не засне да курантаў дзіця:
"Што падараць?" – пытанне жыцця.
Час паўзе... Пацярпіце хвілінку...
З Новым годам!.. Хутчэй пад ялінку!

*

На Каляды малы і малая
"Дзед-Марозам" завуць Мікалая,
Санта-Клаўсу пішуць лісты...
Ўсё трывае Мікола. Святы!

*

Кожны год тата цягне пакункі,
А ў пакунках – для ўсіх падарункі...
Але што б ні казала сям'я,
Іх галоўны прэзент – гэта я!

*

Пачастункі прыносім з крамы,
Без застолля й свята – не свята!
Навагодні настрой у мамы:
Сёння зноў памагае тата.

*

"Каханая, з Новым годам!" –
І кружыцца галава,
І горача снегу з лёдам
Ад шчасця і хараства!

*

Святкуем – толькі ў бабулі:
Чакаючы, кожны раз
Нам вяжа, каб мы адчулі,
Як многа звязвае нас.

*

Рыхтуем калядны цуд
У клопаце штогадовым,
А зорка – заўсёды тут,
У сэрцы, любіць гатовым.

## НОВЫ ГОД

Надышло трыццаць першага снежня.
Новы год адзначаем? Канешне.

У кватэры – далёка да раю,
дзікі вэрхал і лямант адчайны.
Тата енчыць: “Дэдлайны! Дэдлайны!”
Мама ў крык: “Прыбірай!”
Прыбіраю.

– Смецце выкіні!
– Слухаю, бос!
Потым тата бярэ пыласос.
Уключыў – і ўсяго за хвілінку
заганяе ката на ялінку.

У сацсетках – калядныя вершыкі.
У суседзяў – разборкі і спеў.
Усё менш да канца трыццаць першага.
Усё болей, чаго не паспеў.

Трэба сыру ў салату пацерці.
Паглядзець, колькі двоек у чвэрці.
З кніжкай хайку расслабіцца ў ванне.
І сябрам разаслаць віншаванні.

Сеў пісаць – не грузілася пошта.
Бег на хлеб – не ўлічыў галалёду.
Не паспеў! А куды? І навошта?
Адкладзём да наступнага году.

А пад вечар збіраюцца ўсе.
Хтосьці кнігу (стол-кнігу) нясе.
Хтосьці ставіць у цэнтр стала
пляшку міра, бутэльку святла.

За акном – навагодні салют.
На экране – то цар, то вярблюд.
Мандарынкі. Карыца. Халва.
Прывітанне ад духу Раства...

Госці выпілі шмат, ды не ўсё.
З ванны булькае прывід Басё.
Хтось за вокнамі горла дзярэ.
Хтосьці сані спыніў на двары.

У фіранках заблытаўся кот.
За сцяною храпе новы год.
Новы ранак прылёг на зямлю.
Спіце, родныя. Я вас люблю.



Уладзімір Сіўчыкаў



...але ж папраўдзе кажуць –
цесны свет!..

# Стрыптыз каля Белага Дома

***З нізкі “Уладзевы гісторыі”***

## Пацалаваць Фідэля

Сусед па лесвічнай пляцоўцы Віктар Х. аніяк не хацеў адпускаць, нават калі правёў іншых гасцей, са свайго дня нараджэння.

– Пасядзі яшчэ – куды табе спяшаць? Два крокі – і ты дома!

– Ну, тады налівай “расхадуху”!

– Будзе табе яшчэ і “расхадуха”, і “аглаблёвая”, і нават “забугорная”, – гаспадар на хвіліну знік у нетрах суседняга пакоя і вынес дзве чаркі, налітыя з каптуром. – Адгадай лепей, што гэта. Я хоць і Вадалей паводле гараскопа, але ж налiваю зусім не ваду.

Госць узяў невялікі глыток цёмна-бурштынавай вадкасці, затрымаў у роце, пракаўтнуў, пацмокаў вуснамі.

– Падобна да брэндзі. П’ецца мякка, смак бадзёры, а

водар лёгкі, мяккі. Уражанне – штосьці знаёмае, але даўно забытае... – прагаварыў ён, нібыта самельe, але пасля паўзы заявіў: – Здаюся!

– Дзіва што! – пераможна ўсклікнуў Віктар, і праз колькі хвіляў у руках у яго з’явілася стракатая бутля-літровік. – Сапраўдны кубінскі ром!

– І праўда – “Havana Club”!

– Вырабляюць яго з сакаўнога салодкага трыснягу і вытрымліваюць у бочках з белага дуба.

– Гэта ж колькі гадоў я не смакаваў яго! А калісьці, памятаеш, за часамі гарбачоўскага “сухога” закону, калі спіртное цяжка было набыць, ром гэты не знікаў з паліц гастраномаў, прадаваўся ад узыходу да заходу, бо куплялі яго неахвотна.

– Прадаваўся, каб падтрымаць братні кубінскі народ на востраве Свабоды.

– Ага, на востраве рому, цыгар, так званай свабоды і сапраўднай... галечы! Юрыст-недавук, як той Ленін, захапіў там уладу, скінуўшы такога самага дыктатара, як і сам, калі мне споўніўся адзін толькі год. Насіў два “Ролексы” на адным запясці, піў штораніцы па шклянцы свежавыціснутага грэйпфрутавага соку, смаліў духмяныя цыгары, карыстаўся паслугамі ці не найлепшай у свеце медыцыны, а народу свайму вешаў локшыну на вушы ў шматгадзінных прамовах. А як ты ставішся да нябожчыка?

– Здаўна цвердзяць, што пра памерлых кажуць або добра, або нічога... акрамя праўды. Мне дык, калі па шчырасці, быў ён выгодны.

– Гэта як жа?

– А так. Хросная маёй дачкі выкладала ў Інстытуце замежных моў нямецкую. Давала яна прыватныя ўрокі і генералу Іканчыцу. Генерал той быў важнай фігурай у супрацьпаветранай абароне падчас Саюзу, адзін час служыў у Беларускай ваеннай акрузе, а пасля адправілі яго наладжваць супрацьпаветраную абарону на Кубу. Дык вось, “наш чалавек у Гаване” быў там нібыта за малапрыкметнага кансультанта, але з каласальным уплывам і шырокімі сувязямі. Сябраваў, да прыкладу, з брыгадным генералам, дырэктарам па міжнародных справах кубінскіх рэвалюцыйных Ваенна-паветраных сіл Арнальда Тамаё Мендасам...

– Гэта з тым, што быў першым лацінаамерыканскім касманаўтам?

– І першай асобаю афрыканскага паходжання, што пабывала ў космасе.

– Мабыць, і з Раулем Кастра знаўся твой, як яго... Іканчыц?

– Дзіва што! Яны разам прысылалі па маю Леначку і яе хросную самалёт з-за акіяна! Прыём і суправаджэнне былі на найвышэйшым узроўні. Да прыкладу, марскія ракавіны лічацца ўласнасцю кубінскага народа, а Лене казалі: “Колькі вылавіце ў моры і зможаце падняць на карабель – усё ваша!” Вось і даводзілася ёй запіхваць тыя ракавіны ў купальнік! Ром вось гэты яна мне таксама з Кубы прывезла...

Віктар на хвіліну змоўк, а потым хітра прымружыўся, было відаць, прыдумаў, як унікнуць сур’ёзнага адказу на пытанне пра Фідэля Кастра:

– Ведаеш, некаторыя нацыі, напрыклад, габрэі, ахвотна расказваюць анекдоты пра саміх сябе...

– Але вельмі раўніва і крыўдліва ставяцца да іншых, хто расказвае анекдоты пра іх!

– Ну, мы з табою не габрэі і не кубінцы, а таму слухай. Уцякалі з Кубы ў амерыканскі штат Маямі колькі дзясяткаў кубінцаў, натуральна, морам – на плыце ці на лодцы. Аднаму старому дужа кепска зрабілася.

“Паміраю, – крычыць, – таму хачу развітацца з родным сцягам, бо адчуваю – больш яго не пабачу! Ёсць у каго-небудзь кубінскі сцяг?!”

Ні ў кога не аказалася нацыянальнага штандара, але пашкадавала старога адна сэксапільная дзявуля. Падабралася яна да нябогі, задрала спадніцу і аказалася, што пад ёю толькі майткі-стрынгі, затое на сцягне вытатуіраваны кубінскі сцяг!

Пацалаваў стары той сцяг у ахвотку, а тады й кажа: “А мая ты красата, павярніся да мяне перадам! Я зараз хачу пацалаваць і твайго барадатага Фідэля! І ўвогуле перадумаў я – не буду паміраць!”

– Дык гэта ж акурат як прыпеўка з Барадулінскага зборніка фалічнага фальклору “Здубавецьця”:

Ой, сват, ты мой сват,
Не бяры мяне за зад,
Бяры мяне за пярод,
Тады мяне забярот!

*12 лютага 2017 года.*

## Святочныя віншаванкі

Павіншаваў быў Уладзя напрыканцы красавіка аташэ па культуры амбасады Рэспублікі Польшча Эльжбету Шчэпаньску-Дамброўску з надыходзячым святам. Тая нашаторылася, перапытала, з якім, мабыць баючыся, ці не з савецкім Першамаем, з так званым святам вясны і працы.

Але потым, калі пачула, што Уладзя кажа пра 3 мая, палагаднела, заўсміхалася, аднак і перапытала, чаму ён памятае пра яго.

– Дык гэта ж не толькі Дзень Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, краіны дзвюх дзяржаў – Польскага каралеўства і Вялікага княства, над якой актыўна працавалі і мае суайчыннікі, – ахвотна патлумачыў Уладзя. – Гэта не толькі Сусветны дзень сонца, не толькі Сусветны дзень свабоды друку, але і мой дзень нараджэння!

Падобная сітуацыя склалася, калі 4 ліпеня агаломшыў Уладзя дзяўчат з сакратарыята творчай суполкі:

– Віншую вас, Сюзанна, і вас, Вікторыя, з Днём незалежнасці!

А калі тыя адарвалі позіркі ад манітораў і здзіўлена паглядзелі на яго, маўляў, як можна віншаваць іх з недарэчным, штучным, афіцыёзным святам, тым болей, калі ўжо адгрымелі пыхлівыя парады і ледзь не паўночныя салюты, удакладніў:

– Віншую вас з Днём незалежнасці... Злучаных Штатаў Амерыкі, з днём падпісання Дэкларацыі, якая абвясціла незалежнасць ЗША ад Каралеўства Вялікабрытаніі!

*4 ліпеня 2017 года.*

## Купала ў Нью-Ёрку

На другі дзень пасля прылёту ўдакладняў Уладзя з дачкою трохтыднёвую праграму агляду нью-ёркскіх славутасцяў.

– А ці можна ўключыць у раздзел “Нью-Ёрк беларускі” ўскладанне кветак да помнікаў-бюстаў Янку Купалу ды Тарасу Шаўчэнку ў Араў-парку?

– У якім парку? – перапытала Алеся. – Нешта я ніколі не чула пра такі.

– Павінен быць! – упэўнена сказаў Уладзя. – Пра помнік нашаму класіку чуў я не тое што калі быў студэнтам-філолагам, а яшчэ калі займаўся ў мастацкай вучэльні. Аўтар яго – Анатоль Анікейчык, амаль што мой зямляк, бо нарадзіўся ў Барысаве. Скончыў ён тэатральна-мастацкі інстытут, усё жыццё выкладаў на кафедры скульптуры і, можна сказаць, спецыялізаваўся на вобразе песняра. Стварыў паэтава надмагілле на Вайсковых могілках у Менску, знакаміты манумент ізноў жа ў сталіцы, у купалаўскім парку, помнік у Ляўках, а таксама скульптурную кампазіцыю "Восень паэта". Праўда, некаторыя творы зрабіў ён у суаўтарстве з Андрэем Заспіцкім, але ўжо ў сорак гадоў атрымаў ганаровае званне "Народны мастак". Можа, у нечым дзякуючы і Народнаму паэту Янку Купалу...

– А бронзавы бюст у Вязынцы, які мы бачылі, калі ездзілі на свята паэзіі?

– Тут даволі цікавая гісторыя. Зрабіў яго Анікейчыкаў настаўнік Заір Азгур яшчэ напрыканцы саракавых гадоў, а ўсталявалі бюст на паэтавай радзіме толькі ў 1972-м, да 90-годдзя песняра.

– Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? – спыталася Алеся. – Ты што, чалавек-энцыклапедыя?

– Ды не, але тоўстыя, грунтоўныя тамы дужа шаную. А ў іх ліку і "ЭнЛіМБел"...

– Што-што?

– "Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі", – патлумачыў, разгарнуў абрэвіятуру Уладзя.

– Але ж і сур'ёзныя даведнікі з энцыклапедыямі складаюць жывыя людзі. А людзям уласціва памыляцца.

– Энцыклапедычныя артыкулы пішуць дасведчаныя людзі, адмыслоўцы ў сваёй галіне, а рэдагуюць, выяраюць іх вопытныя рэдактары.

– Ну, добра, зараз мы гэта праверым, – прымірэнчым тонам сказала дачка і села да кампутара. – Пагуглім...

– Уводзь у пашукавік "Бюст Янкі Купалы" або "Араў-парк".

– Ну вось, так я і думала! – усклікнула Алеся праз пару мінут. – Зноў, як гэта нярэдка бывае, паблыталі горад са штатам Нью-Ёрк!

– Гэта як?

– А вельмі проста! Бачыш, на сайце "Бацькаўшчыны" напісана, што ўсталяваны ён у акрузе Манро (Monroe County) непадалёк ад Нью-Ёрка. А вось на гэтай мапе пазначаны помнік ажно на самай поўначы штата Нью-Ёрк! Нішто сабе "непадалёк"! Штат Нью-Ёрк па плошчы большы за многія еўрапейскія краіны кшталту Грэцыі! Адлегласці тут, татка, зусім не беларускія! Нам звыклыя дзясяткі і сотні кіламетраў, а тут нярэдка лічаць не на сотні, а на тысячы кіламетраў, а дакладней – міляў! Штаты займаюць палову цэлага мацерыка, а іх авіяпарк складае тры чвэрці ад сусветнага! Таму я не здзіўлена – вось тут пазначана, што машынай з майго Нью-Джэрсі дабірацца датуль больш за дзве гадзіны!

– Ого!

– Вось і я кажу: "Ого!" Цікава толькі, хто спарадзіў той міф пра Купалаў бюст?

– Баюся, што пра гэта мы ніколі не дазнаемся. Анатоль Анікейчык даўно пайшоў у лепшы свет, дый зусім не факт, што лётаў ён праз акіян усталёўваць свой твор. Гэта магло быць як з кінарэжысёрам Ігарам Дабралюбавым...

– А што з ім было не так?

– Ды проста ягоны фільм "Іван Макаравіч" атрымаў прыз на Венецыянскім кінафестывалі, а прадстаўлялі яго ў Італіі, як потым сказалі рэжысёру ў Маскве, "вельмі годныя людзі".

– Нармальна!

– Дык вось, думаю я, злёталі ў Штаты з адказнай і пачэснай місіяй маскоўскія чыноўнікі. Але нават калі ўсталёўвалі б бюст з удзелам аўтара, дык зусім не факт, што і ён надта дакладна пазначаў бы месца.

– Чаму?

– Таму што часам выгодна і прыемна падманвацца.

– Не разумею...

– Ну, разваж сама. Што было і ёсць выгадней і прэстыжней скульптару – не дагаворваць і лічыць, што твой твор упрыгожвае парк у адным найбуйнейшых у свеце мегаполісаў альбо ў малазнаным, заштатным гарадку кшталту Мантака? Дарэчы, вось на гэтай электроннай мапе выглядае, што ён нават бліжэй не да Манро, а да гарадка Харыман, што на ўскрайку Харыман-парка (Harriman State Park)...

– Дык што, атрымліваецца, гэта той самы выпадак, калі старая памылка бясконца тыражуецца і ў сур'ёзных выданнях?

– Ага. Як з тым самым шпінатам...

– Прычым тут шпінат? – здзівілася Алеся.

– Калісьці даследчык-лабарант не там паставіў коску, і легенда пра неверагодную колькасць жалеза ў ім жывая да нашых дзён.

– А-а, зразумела. Ты хочаш сказаць, што прэстыжнасць помніка ў Харымане ў дзесяць разоў меншая?

– Адно я магу сказаць сёння напэўна – наўрад ці пабачым мы Купалаў бюст гэтым разам, – падсумаваў Уладзя. – Хоць і цікава, чаму ён усталяваны менавіта там...

*18 траўня 2018 года.*

## Шкарпэткі Джасціна Трудо

– На выпускной вечарыне Бізнес-школы Стэрна Нью-Ёркскага ўніверсітэта (Leonard N. Stern School of Business, New York University), якая праходзіла ў канцэртнай зале знакамітага Мэдзісан Сквэр Гардэн (Madison Square Garden), з прывітальным словам выступіў са сцэны і прэм'ер-міністр Канады Джасцін Трудо (Justin Pierre James Trudeau). Свежаспечаны, у фірменнай універсітэцкай бэзавай мантыі, ганаровы доктар найпрэстыжнейшай адукацыйнай установы вітаў найперш сваіх суайчыннікаў – прафесараў, выкладчыкаў і выпускнікоў.

Пасля ўрачыстай часткі, у кулуарах, Уладзя прынагодна пахваліў эпатажныя ці, як кажуць цяпер маладзёны, прыкольныя шкарпэткі, якія прэм'ер ахвотна дэманстраваў і на самых адказных міжнародных самітах. Той нібыта чакаў падобнай ухвалы і штосьці шапнуў, паказаў на мігах верагодна сваёй памочніцы або сакратарцы, а праз колькі мінут уручыў Уладзю незвычайны прэзент – паўтузіна шкарпэткавых пар.

Познім вечарам адораны змог не толькі разгледзець пары як след, але і прымерыць некаторыя з іх.

Адны з іх былі з адмыслова канадскімі матывамі – белыя, у чырвонае кляновае лісце, другія – з амерыканскімі, чырвона-сіне-белымі, зорнапасястымі.

Паўночна-амерыканскі патрыятызм выяўляўся і на трэцяй пары, на якой мульцяшны кот у, зноў жа, зорна-пасястых акулярах, мурчэў слова “Амерыка” на свой, кашэчы манер: #meowica.

Жывёльна-акулярная тэматыка развівалася на чацвёртай пары: на ёй былі выяўлены ці то канадскія, ці то нямецкія аўчаркі ў сонцаахоўных акулярах і з высалапленымі ад спёкі языкамі.

На чарговай, чорнай пары шкарпэтак агледзеў Уладзя чырвоную канапу. Слэнгавы надпіс над ёю “Working On That # Dadbod” можна было б перакласці як “Працую над татавым целам”. Лёгка было прачытаць гэта і як іранічнае “Гадую піўны жывот” у процівагу знакамітай формуле “Beach Bod” – “Трэнірую цела для пляжа”.

Але найбольш прывабнымі, найбольш пацешнымі падаліся бацьку покуль яшчэ студэнткі факультэта “Міжнароднае бізнес-адміністраванне” адной з найпрэстыжнейшых у свеце навучальных устаноў бэзавыя, у фірмовы ўніверсітэцкі колер, шкарпэткі з лаканічным надпісам “#1 Dad” – “Тата №1”.

*18 траўня 2018 года.*

## Масонаў партрэт

– Адзін з твораў у нью-ёркскім музеі Метрапалітэн (The Metropolitan Museum of Art), жывапісны партрэт у авальнай раме ўразіў Уладзю, прымусіў надоўга спыніцца.

З палатна вочы ў вочы пазіраў на яго Бе́нджамін Фра́нклін (Benjamin Franklin, 1706–1790) – амерыканскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, дыпламат, пісьменнік, вучоны, выдавец, журналіст, вынаходнік. Адзіны з бацькоў-заснавальнікаў, які змацаваў сваім подпісам усе тры найважнейшыя гістарычныя дакументы, што ляжаць у падмурку Злучаных Штатаў Амерыкі як незалежнай дзяржавы: Дэкларацыю незалежнасці ЗША, Канстытуцыю ЗША і Версальскую мірную дамову 1783 года, якая завяршыла вайну трынаццаці брытанскіх калоній у Паўночнай Амерыцы за незалежнасць ад Вялікабрытаніі. Ён ніколі не быў Прэзідэнтам Злучаных Штатаў, як памылкова лічаць многія, затое быў духоўным лідэрам новай амерыканскай нацыі, аўтарам Вялікай пячаткі ЗША (Great Seal of the United States), заснаваў у Філадэльфіі друкарню, першую ў Амерыцы публічную бібліятэку, а таксама Філадэльфійскую акадэмію, што сталася пазней Пенсільванскім універсітэтам, назваў і даследваў акіянічную плынь Гальфстрым, вынайшаў маланкаадвод і біфакальныя акуляры.

Самая распаўсюджаная выява гэтага палімата амаль стагоддзе тыражуецца не абы-дзе, а на... манахромнай, зеленавата-шэрай 100-даляравай купюры Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША.

На разной авальнай раме выразна чытаўся лаканічны надпіс на латыні VIR – сапраўдны мужчына. Па напісанні амаль што супадаў ён з папулярнай цяпер англійскай абрэвіятурай V.I.P. (very important person – вельмі значная асоба), і адно толькі пацвярджала другое.

Амаль што ўпэўнены быў Уладзя, што якраз з таго пагруднага партрэта была зроблена гравюра, якая перакачавала на ці не самую папулярную, ці не самую распаўсюджаную ў свеце банкноту. У многіх краінах гэта банкнота з найвышэйшым з дазволеных для абарачэння наміналаў, а таму й

самая практычная і... эканомная. У Злучаных Штатах ходзяць банкноты вартасцю ў 500, 1 000, 5 000 і нават 10 000 даляраў, але ў "Твары са шнарам" Браяна дэ Пальмы і ў іншых фільмах пра гангстэраў і наркадзялкоў нярэдка можна пабачыць, як яны поўнымі чамаданамі перавозяць наяўныя менавіта ў 100-даляравых купюрах.

Сфатаграфаваў Уладзя на свой айфон і сам партрэт, і атрыбуцыйную шыльдачку пры ім, не паленаваўся зрабіць і сэлфі са знакамітым масонам.

Але вось жа містыка, вось бяда – аказалася пазней, што кадр з шыльдаю – няўдалы, размыты, і надумаў Уладзя выправіць тую хібу, калі выправіўся ў "Метрапалітэн-музей" ці, як кажуць ахвочыя да скарачэнняў амерыканцы, "The MET", праз два дні, паўторна.

Абышоў ён усе залы амерыканскага мастацтва на першым паверсе і ў мезаніне, на другім і на трэцім паверхах – няма "авальнага" Франкліна, хоць ты плач! "Не маглі ж яго вывезці на іншую выставу!" – думаў Уладзя. У роспачы звярнуўся ён да аднаго з наглядчыкаў, лацінаамерыканца з аблічча. Той уважліва выслухаў пытанне, а потым чамусьці палез у кішэню і выцягнуў... смартфон. Пакорпаўся ў ім і вывеў на экран фотаздымак – ягоны аўтапартрэт поруч са "100-даляравым" Бенджамінам Франклінам. З пераможным выглядам прадэманстраваў яго Уладзю, а пасля пазначыў на плане крыжыкам, падказаў, што шукаць "прапажу" трэба ў зале новага і сучаснага... французскага (!) жывапісу.

Патлумачылася загадка вельмі проста – партрэт Франкліна (1778) напісаў французскі мастак Жазэф-Сіфрэд Дзюплесі (Joseph-Siffred (-Siffrein) Duplessis, 1725 – 1802) тым часам, калі амерыканец быў у Парыжы за амбасадара ЗША ў Францыі ў 1778 – 1785 гадах.

Больш за тое, калі заінтрыгаваны Уладзя паглыбіўся ў дэталі, дык дазнаўся, што Дзюплесі напісаў некалькі партрэтаў Франкліна, два з якіх захоўваюцца ў прыватным зборы (1778) і ў Мастацкім музеі Паўночнай Караліны ў горадзе Ралі (каля 1779).

Але найбольшае, неаспрэчнае падабенства – па ракурсе твара і па дэталях адзення – са "100-даляравым" Франклінам вызначыў Уладзя на партрэце (1785), які пабачыў у Нацыянальнай партрэтнай галерэі (National Portrait Gallery) у Вашынгтоне. Там і пераканаўся, што, нягледзячы на тое, што імя Жазэфа-Сіфрэда Дзюплесі малазнанае нават мастацтвазнаўцам, адзін з ягоных твораў тыражаваны куды больш за знакамітую Леанардаўскую "Джаконду", шанаваны і любімы не толькі баністамі, філатэлістамі і медальерамі, але і ўсім людам паспалітым.

*22 траўня 2018 года.*

## Стрыптыз каля Белага Дома

На дзень памяці (Memorial Day) агледзелі бацька з дачкою Белы дом (White House), "французскае шато" – Стары дом урада, дзе знаходзяцца Адміністрацыя Белага дома, офіс віцэ-прэзідэнта і Рада Нацыянальнай Бяспекі, а таксама Лафаетсквер (Lafayette Square), у якім сярод іншых цікавіў іх найперш помнік Андрэю Тадэвушу Банавентуру Касцюшку, абмінулі агромністы пампезны (з адпаведнай назваю!) Выканаўчы офісны будынак Дуайта Д. Эйзенхаўэра, каб агледзець рэзідэнцыю Прэзідэнта ЗША і з адваротнага боку.

– Ну ўсё, болей не магу трываць! – рашуча заявіў Уладзя. – Пайду вунь у тыя хмызы!

– Не-не, татка! Ні ў якім разе! – запратэставала Алеся.

– Ты сама вінаватая – сказала, што паводле прагнозаў будзе ўсяго толькі васямнаццаць градусаў, а таму каб апрануўся даволі цёпла. А мне цяпер так горача, што неадменна мушу зняць мокрую ўжо майку, якая ў мяне пад кашуляй!

– Адкуль жа мне было ведаць, што раптоўна так пацяплее?! У Вашынгтоне надвор'е можа рэзка вагацца: да пятнаццаці, а то і дваццаці градусаў розніцы што ні дзень тут – звычайная рэч!

– Ну дык нікога ж, акрамя ветэранаў в'етнамскай вайны ды турыстаў, занятых сваімі сэлфі, паблізу няма!

– Гэта табе здаецца, што нікога няма, а створаная амаль што сто гадоў таму паліцыя Белага дома (White House Police Force) не спіць у шапку! Праўда, цяпер яна завецца інакш – Uniformed Division of the Secret Service. Сам будынак літаральна нашпігаваны электронікай. Нашпігаваны настолькі, што, напрыклад, каб не ўмешвацца ў асабістае жыццё і не замінаць прэзідэнту працаваць, пад дыванамі ўсталяваныя чуйныя датчыкі, якія рэагуюць на вагу гаспадара Авальнага кабінета і дазваляюць агентам быць у курсе ўсіх ягоных перамяшчэнняў.

– Нават калі ў яго наведвальніцы кшталту стажоркі з польскім іменем і прозвішчам?

– Іронія твая, татка, недарэчная!

– Чаму? Адзін беларускі міліцэйскі генерал у сваім шпіёнскім рамане спрабуе давесці, што абазнаны ва ўсіх таямніцах Авальнага кабінета.

– Хай гэта застаецца на ягоным сумленні! Але, павер, прэзідэнцкую ахову пасля таго, як яшчэ за Абамам у рэзідэнцыю здолеў праскочыць нейкі вар'ят з кухонным нажом, узмацнілі шматкроць! Дый камер назірання, павер, тут скрозь ці не сотні! – запэўніла бацьку дачка, калі міналі яны галерэю Каркаран (Corcoran Gallery of Art), адзін з першых у краіне мастацкіх музеяў.

– Ну, можа, ты перабольшваеш... І мінута не мінецца, як я пераапрануся!

– А-а, ты, мабыць, хочаш, каб заўтра "Голас Амерыкі", а следам за ім і бульварная прэса выдалі рэпартажы з кідкімі загалоўкамі кшталту "Беларускі пісьменнік наладзіў сеанс стрыптызу каля рэзідэнцыі Прэзідэнта ЗША"?! Ці ў пастарунку назавеш сваё пераапрананне хэпінінгам альбо мастацкім актам з нагоды Memorial Day – Дня памяці?

– А што, класная ідэя! Твой сябар Алесь мог бы хораша зарабіць!

– Павер, ён і так не бядуе! Прашу цябе, пацярпі яшчэ крыху: праз пару кварталаў будзе публічны парк, а ў ім – грамадская прыбіральня. Вось там спакойна і пераапранешся. Раю таксама набыць у сувенірнай ятцы пару эпатажных або ўра-патрыятычных цішотак.

– Ну, не з Трампам жа!

– Лепш з выявай Белага дома, Капітолія (United States Capitol) ці вялікай пячаткі ЗША (Great Seal of the United States). Будуць яны выдатнай якасці, а каштавацьмуць утрая танней, чым цішоткі з арнаментам-прынтам у Менску. Тым болей, што не раз табе прыдадуцца: прагнозы абяцаюць спякотнае лета.

*26 траўня 2018 года.*

## Янкі

У Алеся ды Таццяны К. нарадзіўся хлопчык.

Ды не дацярпеў, не дацягнуў пару тыдняў да святога дня, да Дня Волі, прыйшоў у гэты свет 10 сакавіка, пра што бацькі, вялікія жартаўнікі, нібыта крыху й шкадавалі.

– Дык чаму ты, Алесь, назваў сына Янкам?

– У беларусаў найчасцей, амаль што аўтаматычна, імя Янка цягне за сабою, выклікае ў свядомасці псеўданім Купала. Было б няпраўдаю, дзядзька

Уладзя, калі б я сказаў, што не памятаў і пра гэту акалічнасць. Таму напачатку перакажу гісторыйку, якую чуў, калі быў яшчэ за беларускага тэлежурналіста.

Нібыта прыйшлі пісьменнікі, а сярод іх Янка Маўр, Ян Скрыган ды Янка Журба ў госці да народнага песняра Янкі Купалы, а той проста на парозе агаломшыў іх нечаканым і гучным крыкам-енкам:

– Jankees, go home! (Янкі, ідзіце прэч!) Жыве Беларусь!

Збянтэжаныя калегі не ведалі, ці то распранацца далей, ці то разварочвацца і сыходзіць як мыла з'еўшы.

Але гаспадар, задаволены зробленым эфектам, заўсміхаўся і лагодна прамовіў:

– Ды жартую я, браточкі! Выбачайце мне ды праходзьце ў хату! Пасядзім як след, бо пагаварыць нам, як заўсёды, ёсць пра што...

– Ведаю, Алесю, што любіш ты, як вы кажаце, прыкалвацца. Хоць і не верыцца мне ў тое, але свет вялікі, усё магло быць.

– А я і не настойваю – як чуў, так і пераказаў. Але зараз перайду да амерыканскага прагматызму. Уяўляеце, дзядзька Уладзя, як будзе зручна: вось падрасце мой сынок, будзе гуляцца ў двары, а я як выйду на свой вашынгтонскі балкон ды як гукну на ўсю Александрыю:

– Janka, go home! Янка, хадзі дамоў!

*29 траўня 2018 года.*

## Mister Coffee

– А можа, зойдзем, дачушка, вось у гэтую кавярню? – спытаўся Уладзя пасля шпацыру па набярэжнай Гудзона ў Нью-Джэрсі і любавання эфектнымі краявідамі Манхэтана. – Выглядае нібыта сімпатычна...

– Не, у “Starbucks Coffee” я цябе не павяду, – мякка, але безапеляцыйна адказала Алеся.

– А чаму?

– Пазней патлумачу. А зараз раскажу табе анекдатычную гісторыйку ад аднаго з удзельнікаў маіх колішніх навукова-практычных канферэнцый. Дык вось, рымлянін Франчэска Вісконці быў медыкам, але час ад часу падпрацоўваў як вулічны музыкант. Аднаго дня граў ён на сваёй флейце на плошчы Навона (Piazza Navona), а тут праходзіць кампанія відавочна замежнікаў, і адзін з іх апускае ў раскрыты футарал купюру ў 50 еўра. Агаломшаны Франчэска кідаецца следам за меламанам з яго грашыма і кажа, што турыст ці бізнесовец, напэўна ж, памыліўся. Той адказае, што аніякай памылкі няма, і ён паклаў якраз столькі, колькі і хацеў. Разгублены музыка аніяк не хацеў верыць у падобную шчодрасць, казаў, што не можа прыняць столькі, а потым дапрасіў дазволу ў свайго шчодрага фундатара хаця б пачаставаць таго каваю ў недалёкай кавярні. Тут уся кампанія гасцей італьянскай сталіцы рассмяялася, а збянтэжанаму музыку патлумачылі, што ахвяраваў яму чалавек па мянушцы “Mister Coffee”, што гэта ўладальнік сеткі кавярняў ледзь не па ўсім свеце і адзін з найбагацейшых амерыканцаў, на якога працуюць сто пяцьдзясят тысяч чалавек.

– А што, папраўдзе ёсць такі чалавек?

– Анягож! Завуць яго Говард Шульц (Howard Schultz). Паходзіць ён з габрэйскай сям'і, а бацька працаваў шафёрам грузавіка...

– Па прозвішчы я сказаў бы, што хутчэй з нямецкай...

– Можа, з нямецка-габрэйскай. Не буду спрачацца – за што купіла, за тое і прадаю! Нарадзіўся ён у Брукліне, у Нью-Ёрку, і першы ў сям'і скончыў каледж. У свой час зразумеў, што каб падняцца па сацыяльнай лесвіцы, трэба займець шмат сувязяў і атрымаць універсітэцкую адукацыю. Як ні дзіўна, але і ў першым, і ў другім паспрыяў яму... баскетбол – Шульц атрымаў ільготную універсітэцкую стыпендыю.

– Я ў свой час гэтаксама захапляўся баскетболам, – асцярожна зазначыў Уладзя і прапанаваў: – Давай сядзем на лаву вось тут, у скверыку ў цяньку!

– Говард Шульц у свой час натхніўся атмасферай італьянскіх эспрэса-бараў і вырашыў данесці італьянскую філасофію атрымліваць асалоду ад кавы да сваёй радзімы. На той час амерыканцы аддавалі перавагу распушчальнай каве, якую пілі дома, а Говард Шульц прыдумаў канцэпцыю "трэцяга дома".

– Гэта што ж за яна?

– Амерыканцы праводзілі час пераважна на працы і ўласна дома, а Шульц і ягоная кампанія "Starbucks" здолелі прывучыць бавіць яго ў кавярнях, сустракацца там сем'ямі, а таксама з сябрамі і дзелавымі партнёрамі. Аб'яднаць кавярні і крамы па продажы найперш кавы пад адным іменем "Starbucks" Шульцу параіў Біл Гейц (Bill Gates), заснавальнік "Microsoft" і адзін з першых інвестараў Шульцавай кампаніі. Прынцыпамі "Starbucks" сталіся рамантыка, раскоша для ўсіх, спакой і неафіцыйная абстаноўка. Яны здолелі ўвасобіцца ў дэмакратычныя кавярні для новага пакалення наведнікаў – адукаваных і з добрым густам, а сам кіраўнік кампаніі падкрэсліваў, што ягоны бізнес не ў тым, каб напаўняць страўнікі, а ў тым каб напаўняць душы. У ягоных кавярнях уваходныя дзверы заўсёды арыентаваныя на ўсход ці на поўдзень, бо наведнікі павінны атрымліваць асалоду ад дзённага святла, якое пры тым не павінна ім замінаць. Музыка, якая гучыць у кавярнях "Starbucks", ахоплівае ўсю сетку: кампазіцыя, якую чуеш у Бостане, праграецца тым часам і ў Сіэтле. А вось дыяпазон інтэр'ера ў кожнай установе ўнікальны, а барыста ведаюць усіх сталых кліентаў па імёнах, памятаюць іх густы і ўпадабанні.

Разам з тым Шульц вёў агрэсіўную экспансію – пашыраў сетку кавярняў пад сваім лагатыпам з сірэнаю, папулярызаваў такія напоі на аснове эспрэса як "Café Latte" і "Frappuchino". У якасці падсаладжальнікаў замест звычайнага белага цукру там прапаноўваюць карычневы, трысняговы, а таксама сіроп з блакітнай агавы альбо мёд.

На сёння сетка "Starbucks" складае па ўсім свеце каля дваццаці васьмі тысяч гандлёвых пунктаў, а ў Штатах кожны пяты кубачак кавы выпіваецца менавіта ў іх. Хаця чаму толькі кубачак? Увялі яны і кубак максімальнага памеру (Trenta), а гэта аб'ём у трыцаць адну унцыю...

– Дык гэта ж больш за дзевяцьсот грамаў! Цэлы цэбар, як казала мая цётка Вольга! Слухай, дачушка, а адкуль ты пра ўсё гэта дазналася?

– Ды на курсе па маркетынгу рэкамендавалі прачытаць Шульцаву кнігу "Уліце ў яе сваё сэрца: Як кубак за кубкам ладзілася "Starbucks". Вось я яе і прачытала...

– Чакай, а ці не тая гэта сетка, дзе нядаўна надарыўся скандал? Нават тэлесюжэт быў у "Euro News"...

– Які скандал? Нешта я не чула...

– Ды двух цемнаскурых, якія толькі чакалі свайго сябра, не пусцілі ў прыбіральню, бо яны не былі кліентамі, анічога не замаўлялі. Гаспадар, ці

не той самы Шульц, нават мусіў пасля публічна выбачацца ды праводзіць адмысловы трэнінг па ўсёй сваёй імперыі.

– Ну, мабыць, гэта было падстроена недабразычліўцамі-канкурэнтамі, як і абвінавачванні ў падтрымцы збройнага лобі, аднаполых шлюбаў альбо ў фінансаванні войска Ізраіля. Вось ты за два тыдні хоць раз пабачыў у нас у Нью-Ёрку, каб кагосьці абслужылі няветліва?

– Ды не... Мне здаецца, варта толькі было паабяцаць барыста ці бармэну, што замовіш эспрэса або амеракана, і ніякіх праблем! Ты ўжо кліент і можаш наведвацца ў тую самую прыбіральню абсалютна легітымна. Аднаго разу нават спытаўся я на ўваходзе ў вустрычную пра прыбіральню, дык дзяўчаты-метрдатэлькі, мабыць, па звычцы, сказалі: “Enjoy!” – “Атрымлівайце асалоду!” Дык што ты думаеш – там гарэлі свечкі з сандалавым водарам!

– Вось бачыш! – пераможна ўсклікнула Алеся.

– Але ж ты так і не сказала, чаму не запросіш у кавярню, куды заваблівае лагатып з сірэнаю.

– А ўсё вельмі проста! Павер, кава там занадта горкая, з перасмажаных бабоў. А мой густ ты сфарміраваў яшчэ ў дзяцінстве на больш мяккіх гатунках. Дагэтуль памятаю твой хітрык кавы з пенкаю, калі ты расціраў у кубку лыжку цукру з некалькімі кроплямі вады ды лыжкай распуснай кавусі, а потым заліваў кіпнем. А ў кавярні, як ні круці, галоўнае ўсё ж кава! Памятаеш тую, што смакавалі мы з табою летась у рымскай “Sant’ Eustachio il caffe’” непадалёк ад Пантэона?

– А як жа я магу забыць тую суперкавярню з васьмідзесяцігадовымі традыцыямі? Тваё фота пры ёй я нанёс на кубак, з якога штораніцы п’ю каву дома! Праўда, прызнаю, што ніколі не згатаваць мне такія Gran Cappuccino, Monachella, Moretta, Irish caffe, як у іх...

– Дык вось, павер, што да тае рымскае кавы “Starbucks’у” як да неба! Можа, таму Шульцава сетка так і не здолела разгарнуцца ў так горача любімай ім Італіі! Амерыканцы ахапілі ўжо семдзесят сем краін, але, думаю, што італьянцы не саступяць ім свой рынак хацябы таму, што вельмі кансерватыўныя ў густах і па-ранейшаму будуць смакаваць каву з гарачых кубкаў ды з пышнаю пенай.

*30 траўня 2018 года.*

## Уручанцы ў Квінсе

Адно толькі сабвэем ехаў Уладзя са сваёй старэйшай дачкою Алесяй, а па сумяшчальніцтве – прэс-сакратаркай ды імпрэсарыа, з Нью-Джэрсі да нью-ёркскага Квінса (Queens) амаль што дзве гадзіны. У раён, які трэба было б называць Ямайскія пагоркі (Jamaica Hills), папраўдзе давялося падымацца, тупаць пехам яшчэ з чвэрць гадзіны, каб патрапіць у сядзібу на вуліцы з рамантычнай назваю Гатычны праезд (Gothic Drive).

Туды, у трохпавярховы будынак 166-34 з цёмна-чырвонае цэглы, дзе месцілася Беларуская фундацыя Пётры Крачэўскага, амерыканскія беларусы запрасілі Уладзю з літаратурным выступам.

Пасля імпрэзы і фотасесіі з гасцямі ды гаспадарамі надышоў час і сесіі аўтаграфічнай.

– Хлопец даволі маладога веку, у цішотцы з надпісам “Palesse” на грудзях, доўга і зацікаўлена гартаў кніжку вершаў дзецям “Кошык Велікодны”, а потым назваўся Андрэем Мурашкам і запытаў:

– А чаму гэта вы, спадар Уладзімір, пішаце такія вершы?

– Якія такія?

– Ну... Уручанскія. Вось, да прыкладу, “Цмок Уручанскі” – пра скульптуру на дзіцячай пляцоўцы. Альбо “Дзівосны музей” – пра музей ледавіковых валуноў ці, як яго яшчэ называюць, Сад камянёў? Вось чытаю я і дзіўлюся:

Музеем-дзівам ганаруся,
бо цуд такі
– кажу вам смела –
ёсць толькі ў нас,
у Беларусі,
і больш нідзе
ў Еўропе цэлай!

– А чаму мне не пісаць пра тое, што добра ведаю і люблю, чаму мне не ганарыцца адметным музеем? На дзіцячую пляцоўку з чатырохметровым бетонным цмокам маглі лёгка патрапіць мае дочкі – варта толькі было выйсці з пад’езда. А на дзіцячую бібліятэку №5 і на Сад камянёў выходзілі вокны маёй уручанскай двухпакаёўкі...

– Ды вы што ж, уручанец?!

– Уручанец, але былы – жыў там з сям’ёю амаль пятнаццаць гадоў.

– Дык і я ў Менску жыў у мікраpаёне “Уручча-1”, на вуліцы Русіянава...

– Ну дык і я – на Русіянава.

– Праўда?! – радасна-здзіўлена запытаў Андрэй. – А ў якім доме?

– У 32-м. У мяне пра гэта нават засведчана ў вершы пра цмока.

Уладзя пераняў у Андрэя кніжку і амаль адразу знайшоў патрэбную старонку:

– Крылы трэ яго “на шчасце”
Шчабятлівая дзятва.
Раніцай вітае часта
З вокнаў дома 32!

– Ды не можа быць! Я ж гэтаксама з 32-га дома! У мяне быў корпус 2! А ў вас?

– І ў мяне корпус 2!

– Ну, не скажаце ж вы, што жылі ў чацвёртым пад’ездзе. Я туды зрэдзь, але наведваюся да старых сяброў-суседзяў...

– Не, я жыў у пятым пад’ездзе. Памятаеце, там два пятыя пад’езды размешчаныя ўсутыч – ад першага і ад другога корпуса дома №32?

– Анягож! Але імаверна, што і кватэры нашыя падзяляла толькі блочная сцяна, калі жылі вы на пятым паверсе?

– Не, гэта было б ужо занадта неверагодным, – сказаў Андрэй. – Я мешкаў на трэцім...

– Ну вось, трэба было пераляцець праз паў-Еўропы і праз Атлантыку, каб сустрэць у амерыканскім мегаполісе не тое што земляка са сталіцы беларускай, але і суседа па пад’ездзе! – далікатна далучылася да мужчынскай гаворкі арганізатарка імпрэзы, бібліёграф і архіварыус Фонда Валянціна Трыгубовіч, што стаяла поруч з гаспадыняй, Алай Орса-Рамана. – Але ж папраўдзе кажуць – цесны свет!

*2 чэрвеня 2018 года.*

Іна Снарская



...Мне расці і расці да сталасці,
Каб цябе у табе разглядзець...

# За крок да Раю

* * *

Стаю на каленях.
Зямля так шчымліва да сэрца,
Да волі, да долі,
да ўсіх жаўруковых вятроў.
Стаю на каленях,
і мне па-дзіцячаму верыцца,
Што ўсе змагары
павярнуцца жывымі дамоў.

А ўсе змагары
свае песні яшчэ даспяваюць,
Ім гушкаць дзяцей,
уплятаць у бяссонне сады.
Стаю на каленях,
а ў небе зара караваем –
На волю, на долю
і на залатыя мяды.

Карунказы шлях
замаўляю на беразе поўні,
Цячэ па шчацэ не сляза –
верасовы спакой.
І поўніцца дзень...
Так сунічна, чароўна, раптоўна
Адчыняцца дзверы –
героі вярнуцца дамоў.

* * *

Паміж небам і зямлёй –
Толькі свечачка і вецер.
Ад галін і да камлёў –
Барацьба жыцця і смерці.

Вецер, вецер, пачакай,
Не тушы агмень, залева, –
Недзе родная шчака
Ад бяссонніцы налева.

Недзе творыцца жыццё,
Недзе лісце ападае...
Поўня колецца асцём
І да сэрца прыпадае.

* * *

А вершы і там, і тут,
Нават цяжка сказаць, дзе болей.
Дарогамі сэрца іду,
Прарастаю крыжамі болю.

На якой жа зямлі іх больш,
Тых крыжоў – жаўруковых поўняў?
Ад зямлі да зямлі – любоў
І званіцаў прыбой раптоўны.

### РАДАСЦЬ

Гэтыя снегапады
П'юць бярозавы сок,
Бо за тугою – радасць
Йдзе за адзін глыток.

Гэтыя снегапады
Толькі гартуюць кроў,

Бо за тугою – радасць
Поўніцца пад карой.

Поўніцца вешчай поўняю,
Птушкай лясной... Жыві
Радасцю дакранання
Да роднай зямлі.

* * *

Мы разляцеліся, як птушкі па галінах,
Па гулкіх плошчах і нямых дварах.
Трымаеш у далонях успаміны,
Як некалі руку маю трымаў.

Ты паляцеў на поўнач, я – на поўдзень,
І новы дзень ужо скасіў траву.
Трымайся, любы, хоць за бераг поўні,
Я да цябе іду, табой жыву.

Прыступачкі-хмарынкі пад нагамі,
Так блізка, так балюча да зары,
І толькі зорка родная над намі
Паходняю адвечнаю гарыць.

* * *

Снег пералётны забяліў
Лясы, дарогі.
Туга ад неба да зямлі
Лягла пад ногі.

Куды схаваліся чмялі,
Вавёркі, птушкі?
Снягі ад неба да зямлі
Накрылі душы.

Чаму такія халады
Вясна трымае
І п’е атрутныя мяды
За крок да Раю?

За крок да сонечных дарог
Інее час наш.
Зіма накрыла ўсіх нябог
За крок да шчасця.

## ПОЛАЦКУ

Бо крывінка тваёй зямлі...
Прытулі да грудзей, прытулі,
Мяне, вандроўніцу, вогнепаклонніцу,
Вятрамі сваімі спаві,
Жыві ў агнявой крыві!

* * *

Уздых і выдых – стромыя прычалы
Адмерыла нам родная зямля.
Крыжы растуць і сумнымі плячамі
Трымаюць неба злева ад камля.

Дзе карані скрозь неба прарастаюць,
Там весялеюць сумныя крыжы.
А можа, адыход не развітанне,
А толькі перапынак на мяжы?

Папіць вады і з'есці лусту хлеба...
Стаяць крыжы, спяшаецца жыццё.
Прыступачкамі ад зямлі да неба,
Да сонца дабяжым і прарасцём.

* * *

У Менску дождж,
а мне ізноў не спіцца.
Мінае ноч з табою,
пра цябе.
І ноч радкі на даляглядзе піша
Пралескава,
сунічна, у журбе.

А мне не спіцца.
Гарады мінаюць,
Як цягнікі.
Па вокнах час лічу.
З табою, пра цябе...
Недакрананнем
Душу сваю стамлёную лячу.

Так пералётна праплываюць твары.
Кідаю позірк долі наўздагон.
А ты пасеш хмарынкі,
як атары,
Пад невясомай сонечнай гарой.

Мялее час.
У смагу, як у рэчку,
Ступаю асцярожна
дзень у дзень.
З табою, пра цябе
спявае вечнасць.
А мне не спіцца, любы.
Дождж ідзе...

* * *

Калі я гляджу ў вакно,
то бачу, як дыхае паветра –
уздых – выдых, уздых – выдых...
Думкі пра цябе прыходзяць на ўздыху,
на выдыху – асэнсаванне немагчымасці
твайго вяртання...
А па небе плывуць аблокі.
Яны чапляюцца за голыя дрэвы
і плачуць дажджом –
па табе, па мне, па тым,
што ўжо ніколі не падзеліцца на два.
Нядзеля. Лістапад...

* * *

Маё неба сплялося з тваім,
Нібы дрэваў жывое карэнне.
Мяне ў гэтым небе ўсё меней,
А цябе з кожным днём усё больш.

* * *

Гляджу ў люстэрка – бачу бацькаў твар.
Аднойчы так я ў сыне паўтаруся...
Кунежыць поўню цёплая трава.
Ляціць мая душа над Беларуссю.

* * *

Бегла навыперадкі з ветрам,
злівалася з рэчкай сваім бяссоннем,
збірала званочкі і смолкі,
верала, што жыццё бясконцае.

Першаю развіталася мама,
потым сышоў бацька...
Родных там
значна болей, чым тут.

А я ўсё збіраю званочкі і смолкі
і па-дзіцячы веру –
аднойчы мы ўсе сустрэнемся.

## СУСТРЭЧА З ДЗЯЦІНСТВАМ
### Дыптых

*Камяні перад ганкам змянілі абліччы...*

**Валянціна АКСАК**

***1***

Мая хата такая маленькая,
Нібы я сорак год таму.
Замест печы пустэча некае:
– Толькі месца займала...
Каму

Тое месца цяпер патрэбнае?
Адляцелі ўжо ў вырай усе.
Мае родныя – птушкі зрэбныя,
След пакінулі на расе.

Паляцелі стамлёнаю восенню,
Чарадою сірочых гусей.
На далоні пярыначка – вось і ўсё,
Але з ёй зімаваць лягчэй.

***2***

Наш сад цяпер дзічэе дзень за днём,
Яго ўжо лес-ваяр бярэ ў аблогу,
Ён перамог дзіцячыя дарогі
Дзядоўнікам, асотам, палыном.

Пазарасталі сцежкі лебядою,
Змарнелі хаткі сонечных чмялёў.
Але стаіць антонаўка. З бядою
Ёй біцца да крывавых мазалёў.

Было б лягчэй скарыцца лёсу. Дзіўна –
Не адзічэла, не лягла на дол.
Царыца саду па траве хадзіла
І яблыкі мне сыпала ў падол.

## ЧЫТАЮЧЫ “ТАНЦЫ НАД ГОРАДАМ” УЛАДЗІМІРА АРЛОВА

Успомніла кветкі полацкага маленства – смолкі.
Як я магла пра іх забыцца?
Нашчым чэрвеньскім ранкам я збірала званочкі і смолкі,
каб у кожным пакоі зрэбнай бабулінай хаты
было па сонечным, шчаслівым букецiку.
Шкада, што на палтаўскіх лугах смолкі не растуць.
А верш ужо ёсць,
і смолкі ўпляліся туды,
як у вяночак.
Яго спляла русявая дзяўчынка,
якая танчыць у маіх ранішніх снах.

* * *

Травень пяшчотны пакладу ў траву звечара,
Раніцай збяру жнівень сакавіты...
Але хочацца ваўчыцай выць
Каля роднага парога.
А нашу хату перабудавалі.
А печ разбурылі.
А ў садзе – адны зялепухі.

* * *

Прыцягненне роднай зямлі
Адчуваю я ўсёй крывёю,
Нібы вечар у вены ўліў
Пералескавай, зрэбнай волі.

Адчуваю маю зямлю
Берагамі, сцяжынамі, поўнямі,
І слязою сваёй раптоўнаю,
І суцешным тваім “люблю”.

* * *

Калі б дахі прачнуліся птушкамі,
Яны б у далонях нас гушкалі.
Калі б дахам хапіла сілы,
Мы адчулі б зялёныя крылы.
Паміж небам і рэчкі адценнем,
Мы крыло да крыла ляцелі б...

* * *

Муры імя тваё складалі па складах –
Цагліна да цагліны, склад да складу.
Ды рэха дзён губляла ў гарадах
Таго імя высокі сэнс і радасць.

І лес маўчаў, нібы не пра яго.
Хоць быў наш лёс на позірк да зрачэння,
Як Гедымінава таўро лягло
Адбіткам золку на рацэ свяшчэннай.

А ты руку маю ў сваёй трымаў...
Вякі ляцелі птушкамі на поўдзень.
А лес маўчаў, і тых муроў прымар
Прымаў, нібы атруты келіх поўны.

* * *

Сяцяжына да сцяжыны –
І родная зямля.
Ссівеюць успаміны,
Здарожыцца ралля.

І дзе шукаць прытулак,
І дзе мне лепшы рай?
Чужая зямля муліць
Дажджамі небакрай.

Малітва да малітвы...
Спявай, душа мая!
На прызбе прытулілася,
На крылах ноч трымае.

* * *

Ластаўкі нізка над хатамі –
Будзе дажджысты дзень.
Неба рукою кратаю –
Хто яго радасць крадзе?

Сонца манетай меднаю
Коціцца, не дагнаць.
Шчасце сустрэчамі мераю,
Здольнасцю дараваць.

Ластаўка шчыракрылая,
Ты да мяне ляці,

Хоць навальніцаю ўкрыла я,
Нібы настольнікам, ціш.

* * *

Хоць бяжы, хоць трывай, хоць бажыся,
Будзе так, як на карце памяці.
Мне расці і расці да сталасці,
Каб цябе у табе разглядзець.

Дарасці яшчэ трэба да вечара.
Мы такія з табой невідушчыя...
Толькі сэрца поўняю поўніцца,
Калі ў вырай збіраюцца птушкі.

* * *

Ад шчаслівага кахання нараджаюцца прыгожыя дзеці,
ад нешчаслівага – добрыя вершы.

## *БРАТУ*

Неба майго ацалелую восень
Лёс замяшаў на крыві.
Вечар арэхавы, вечар прарочы
Слухае казкі травы.

Хутка завеі завеяць парканы,
Кане світанкавы след,
І на дарозе з'явіцца Каін
З леташніх сумных алей.

Не прытулюся, не сціснy рукамі
Слодыч яго і віну...
Іх было двое. Застаўся Каін.
Так адзінока яму.

## *ЛІСТАПАД*

*Спрадвечныя зоры вандруюць праз нашы лёсы...*

**Алесь РАЗАНАЎ**

Спрадвечныя зоры
вандруюць праз нашыя лёсы.
Балючы ўспамін
аддзіраю, з крывёю нібы.

Як маці мая
пасівела стамлёная восень.
Ужо адлятаюць у неба
яе галубы...

* * *

А цяпер пералётны вецер
Маю памяць схаваў на дне.
Уплятаю бярозак вецце
У даверу асенніх дней.

Паляцелі на поўдзень гусі,
Развіталіся да вясны.
Уплятаю я сны Беларусі
У свае даматканыя сны.

Да світання цяпер, да світання...
Паўтараю птушыны заклён.
Не вяртаюся – прырастаю
Да радзімых палёў.

* * *

Далячу да неба
і назад вярнуся.
Нашчымі шляхамі,
знічкай на вадзе
Дакрануся неба,
неба Беларусі
Нашчымі шляхамі,
васільком надзей.



Яніна Асіпцова



...чаму «любіць»
ёсць сінонімам да «балюча»?..

# Ва ўсім вінаватае сонца

* * *

Я спаліла ўсё, што мела
да цябе дачыненне.
Апроч думак – яны не гараць.
Уцякала, не азіралася, падала.
Толькі б далей, толькі б вытрымаць.
Насуперак сэнсу, замест нянавісці адчуваю пяшчоту.
Мы, як здзічэлыя яблыкі, салодкія,
ды не такія, як маем быць.
Мой унутраны голас чамусьці гаворыць табою.
Агучка такая сапраўдная, што вар'яцею паволі.
На закінутай выспе маёй цішыні
Я лаўлю тваё рэха
І прашу: гавары, гавары, гавары...
Усё заблытана проста, што падаецца, нібы
Адна душа падзелена для нас абоіх.
Я спаліла ўсё, бо попел балець не можа.

Сэрца не спаліш да стану попелу.
Жыццё, як палеская багна:
Не ведаючы не пройдзеш,
Я правяду цябе ў самыя нетры
Наўпрост да крыніцы.
Мы разам будзем глядзець на неба
І слухаць, як спяваюць сініцы.
Ведаеш,
Мае запясці па сёння пахнуць табою.
У куфэрку знаёмай Пандоры
Мы схавалі сваіх дэманаў назаўсёды.
Ты хацеў мяне болей,
Называў сваёю.
А я не хацела быць тваім «учора»,
Я хацела стаць тваім «сёння».

* * *

Вы не бачылі тут чалавека?
Звар'яцелаю птушкаю,
Я падала пад ногі тым,
Хто ішоў насустрач.
Я замірала з пытаннем на вуснах:
«Вы не бачылі тут чалавека?»
І спыняла сэрца ў чаканні.
Я ўглядалася ў цені
І зазірала ў вочы,
Пакуль нацягнутая ўнутры нітка
Пад напружаннем разгойдвалася
ў небяспечным танцы,
Здольная парвацца.
(Тлумачу свае пачуцці паперы,
Больш яны нікому не трэба.)
Мы сталіся знаёмымі незнаёмцамі
І замест таго, каб выйсці са сваіх пустых пакояў насупраць,
Крычалі адно аднаму пра свае жыцці і планы
паасобку
(так і хочацца паставіць тут кропку).
Раніцою правяду рукою па пустым ложку –
Ты зараз вернешся –
Прашу,
Узірайся ў мяне ўважліва,
няўважліва,
трымай сваю руку на маім сэрцы:
яно б'ецца,
яно разбіваецца,
яно абліваецца крывёй.
Але цябе няма побач.

Чаму «любіць» ёсць сінонімам да «балюча»?
Я б пакінула ў табе частку сябе,
як паўсюль, дзе была.
Ды заблукала падчас пошукаў выйсця.
Тое, што стаяла за намі,
апынулася сцяною паміж.
Пабітыя крапівою на шчасце,
Мы не ўцяклі, не схаваліся.
Сэнс не ў тым, што ты адштурхнуў мяне,
Сэнс у тым, што я ўпала.
Лепш пабітыя калені,
Чым пабітая душа,
Праўда?....
(Замест малітвы апантана паўтараю:
«абдымаць цябе, абдымаць цябе моўчкі»)
Тое, чаго не было, расквітнее вясной гіяцынтамі,
Я, бы каліна, у пошуках явару,
Звар'яцелаю птушкаю
ўпаду камусьці пад ногі
заплаканая –
«Вы не бачылі тут чалавека?
Я згубіла яго
Я згубіла яго...»

* * *

На заходзе дня сонца змагаецца за апошнія прамяні для нас.
Я абдымала пустэчу так, як хацела б абдымаць цябе,
Нават, калі дарэмна.
Нават, калі недарэчна.
Аднойчы ў маках патоне зямля,
І мы застанемся шэптам,
Зламанымі крыгамі на халоднай вясновай вадзе.
Скрэсленыя з памяці ўрыўкі
Бадзягамі блукаюць па начных вулачках
у пошуках прытулку,
Самыя няшчасныя і шчаслівыя,
Як мы.
Я абяцаю трымаць цябе за руку
Нават калі змерзлыя пальцы перастануць слухацца.
Яшчэ не позна.
Ніколі не позна.
Неба абмежаванае нашымі гарызонтамі
Падымае белыя хмары капітуляцыі.
Ты – мая свабода.
Ты – маё полымя.
На заходзе дня сонца схаваецца,

Каб на раніцу абвесціць цемры вайну.
Я буду тваім начным ліхтарыкам,
Калі раней у табе не патану.

* * *

Бачыш,
Нашыя цені ўсміхаюцца, гледзячы нам услед.
Ва ўсім вінаватае сонца:
(Часам даводзіцца і нам даганяць цені.)
Думкі параслі крапівою
У абмежаваным даляглядзе “сёння”.
Завітаеш, развітаешся.
А побач?
Змястоўна вытлумачаныя сімвалы памерлых моваў
Уплываюць на нас.
Трэба ведаць.
Так трымацца нагамі аб зямлю,
Што пазногцямі рваць абутак.
Ці-ша.
Твая частка мяне ціхутка спявае калыханку.
Люблю
Лёгкі змрок і шэпт
Да дрыжыкаў,
Да глыбіні сэрца.
У той халодны верасень нам было як сагрэцца.
Апёк на маёй далоні
(я хацела абараніцца).
Усё гэта новае палохае,
Лухта сніцца.
А нашыя ластаўкі нясуць галінкі
І крылы іх гараць,
Каб вось-вось разбіцца.

* * *

Ты пакідаеш пасля сябе попел
І сабраную валізку,
Якую неабходна пераправіць на вакзал,
Адкуль з’язджаеш з майго жыцця.
Мы развіталіся ўжо ў той час, калі знаёміліся
Ты ў сукенцы, апошні трэнд моды,
Глядзела ў вочы з усмешкай і маўчала,
Разглядаючы дасканала глыбіню маёй пустэчы.
Такая безабаронная і хворая на ўсе сіндромы,
Якія цяжка ўявіць.

Пакінула пасля сябе нешта непрадказальна моцнае
Ці нічога не пакінула, апроч зламаных успамінаў.
Ты нават не ведала свайго імя.
Я клікаў цябе рознымі,
І кожнае надавала табе пах кветак.
Я ўдыхаў гэты цуд з удзячнасцю.
Я кахаў, чакаючы тваіх заўваг і прамяністых вачэй.
Тваіх маленькіх рук і вялікага сэрца,
Што з'ехала разам з табой
З адзінага ў горадзе вакзала
На апошняй электрычцы.

* * *

Калі галава разбіваецца на часткі
Ад болю,
А жыццё падзелена кнехтам
На пазлы,
І табе здаецца, што збіраеш
Пялёсткі,
А насамрэч трапляеш у чарговыя
Пасткі,
Для безмежнай прасторы прыдумваеш
Межы,
І гуляеш у краіны, планеты і зоркі,
Толькі
Верыш сістэме адносных святу,
Лету
Летуценна дапісваеш сэрцам
Санэты.
Калі будзе інакш –
Светла,
Возьмеш у рукі кавалачак
Неба,
Прачытаеш малітву вачыма.
У нашым шалёным жыцці ўсё магчыма.



# “Бітва пад Розумам”: сучасная польская паэзія

**Войцех БАНОВІЧ**



### *ВЕРШ*

Я знайшоў верш
якому ўжо дваццаць гадоў
няўжо сапраўды мой?

Хацелася б
але той хто яго напісаў
даўно маўчыць.

### *ВАЯР*

Цяпер зіма таму ў краіне мёртвых растаюць ільды
і пачынаецца крыгаход. Я вяду праз роў жанчын і дзяцей.
Малы безыменны аддзел у якога дрыжаць плечы лыткі
і сэрцы. На мой знак усе дастаюць крылы.

### *МАЛІТВА ВЯЛІКАГА ЦЕЛА*

Божа зрабі мяне чымсьці меншым.
Такі гігант ходзіць па горадзе!
Мой сын кажа: “Пазнаў цябе па рыпенні костак”.
Зрабі мяне чымсьці маленькім каб я не баяўся
за зубы валоссе калені. Зрабі
кішэнную версію мяне.

*Пераклад з польскай Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

### НАПІШЫ І ЎБАЧЫШ

Напішы нешта пра што ўсе ведаюць

Убачыш
колькі будзе інтэрпрэтацый

### НЕ МАЮ ПАТРЭБЫ

Я напраўду не маю патрэбы

ў новых назвах
для старых рэчаў.

### У ГАТЭЛІ

“Добры дзень” кажу я хоць бачу толькі
вазок з бялізнаю. “Добры дзень” адказвае мне
хоць бачыць толькі вазок з бялізнаю.

### СТОЛЬКІ ЎСПАМІНАЎ

Малая цэркаўка да якой ходзяць у самай
сярэдзіне спальнага раёна. Як твая сукенка
да якой я хадзіў у самай сярэдзіне лета.

### УПАРТАСЦЬ

Напішы паэту.
Вышлі паштоўку
або напішы ў фэйсбуку

што яго сляпая ўпартасць
табе патрэбная.

### З НІЗКІ “30 ЖНІЎНЯ 2014”

Трамвай выглядае
як поле для гульні ў марскі бой
ёсць некалькі вольных месцаў
але толькі вакол аднаго падбітага.

### ПЕСНЯ А ПАЛОВЕ НА ЧАЦВЁРТУЮ

Паэты – каровы што могуць пасвіцца
ў святле поўні на шматпавярховых развязках

калі рух маленькі. Паэты – вялікія архітэктары горада
праекты якіх удасканальваліся так часта што
перасталі падабацца інвестарам. Паэты – заўсёды клопат
дурная звычка якой не адолець войнам прагрэсу
біржам нацыяналізмам ды іншым кідкім метафарам.

Калі паэтам уручаюцца прэміі то невядома
ці пачнуць крычаць ці ўвогуле нешта скажуць
можа толькі паціснуць плячыма. Паэты маюць бледны жывот
адвіслае чэрава часам каросту на спіне. Паэты – чужынцы таму
вітаюць чужых як сваіх а сваіх не пазнаюць. Паэты –
пяць пальцаў правай рукі і пяць пальцаў левай.
Паэты бяруць у рукі
пакінутыя інструменты ды імі жанглююць. Уночы зноў

бачылі як паэты ішлі праз горад у ботах з тоўстае скуры
і перад кожным домам закурвалі цыгарэты. Дык што з паэтамі?

Падымі руку й нейкі час так ідзі і ўбачыш
як гэта нязручна. Падыміся па сходах ці нават лепш:
увайдзі ў трамвай а калі тарганецца з месца
згадай пра паэтаў якія вось так штодня.

### КУПАЛІСЯ Ў МОРЫ

Уночы купаліся ў чорным
моры а я чакаў на беразе.
Я чуў за спінаю подых
сабак што збіраліся на выдмах.
Чуў у цемры віскат купальшчыкаў.
Страх разгортваў крылы. Я сціскаў у руках
іх адзежу і крычаў: “Давайце хутчэй
выходзьце”. Ніхто не адказваў.
Па калена ў вадзе ляскаючы зубамі
я крычаў: “Выходзьце ўжо”. Але ніхто не выйшаў.

*Паводле: Wojciech Bonowicz. Druga ręka. Kraków, Wydawnictwo a5, 2017.*

## Ілона ВІТКОЎСКА



### табе не надзенуць ашыйнік, ты толькі жанчына

серада. дзень абрастання пылам і тлушчам.
жучок на тратуары апладняе мёртвага жучка.

паветра пахне клешчавінай і ўсё як у мультфільмах;
у блакітнавокіх людзей вельмі, вельмі блакітныя вочы.

сабаку сніцца сон пра веліч. у сне ён – конь.

### ***свята***

глядзім на машыну, якая робіць цукровую вату.
невядома, што рабіць з другой рукою. выйсця няма.

гаспадар ваты парэзаў палец,
а дзеці думаюць, што яна малінавая.

### ***даследую выпадак***

бачу з балкона: сарока есць мёртвага голуба.
іншыя галубы глядзяць зацікаўлена.

### ***ад смутку размаўляю ў сне***

халодныя вусны і цёплыя трэшчынкі. толькі не злуйся. след на
далоні.
я мусіла схібіць. я пераблытала масты. я ўсё патлумачу:
што адбылося з тым чмялём? ён здох з голаду, калі мы з'ехалі.

ніколі больш не пакінем дом так надоўга.

### ***слоўнічак***

аб'ектыўны – гл. раздз. "быццё"
суб'ектыўны – гл. раздз. "праўда"

### ***сабачая падушка***

калі прыязджаюць госці, я надзяваю для іх наўлечку на сабачую
падушку. я нікому не казала, думала: нашто? нашто камусьці
ведаць, што два сабакі спалі, елі, крывавілі, хварэлі
і здохлі ў той самай пасцелі, што ты цяпер спіш?

але ад сёння хачу, каб вы ўсе ведалі.

### ***супермаркет забаваў: начны ўваход***

талеры слёз. не? а навошта?
зараз можа здарыцца штосьці дрэннае.
баю-бай, і хай табе прысніцца
чыстая праўда, а яшчэ, што да цябе прыходзіць
худы знясілены воўк і ты кажаш яму: сыходзь, а ён

кажа: вось твой павадок,
калі ласка.

### *Люцыфер перамагае*

птушачкі, птушачкі
тыя гірлянды агнёў –
калючы дрот

### *(бо ўсе нашыя ўчынкі – акты трывогі)*

пра што ты задумаўся, разглядаючы Сэйлар Мун?
пра дрэвы, якіх тут няма, такія яны высокія.
пра гурт пад назваю срэбныя вочы
на мокрым месцы
й пра тое
што я хацеў бы танчыць

ведаю як, але не магу сказаць.

### *Панскі базар*

ён не дасць вам сябе пагладзіць, о не.
ім можна адно любавацца здалёк.

уцякае ці атакуе?
уцякае.
ды любіць казаць,
што атакуе.

### *чэмпіёнаў свету просім не хваляваццa*

любоў, бля! а ў мяне сёння сабака
расплакаўся каля крамы
і спрабаваў памерці;
мая галава была поўная шуму, нібы чарупіна.
а потым я ўбачыла пана, што крыкнуў: хам!
і замахаў рукамі як птушка, пасля
паглядзеў на пустую
вуліцу, раптам хтось
бачыў.
ніхто не бачыў, сказала я –
я, якая ўсё бачыла.

### *схавай мяне ў сваіх ранах*

яны думаюць, што заблукалі,
бо бачаць перад сабой гару.

глядзяць на компас,
але не ведаюць, куды ісці.

я хацела б расказаць вам гэтую
гісторыю, але ведаю толькі яе пачатак

### *незапланаваны пастой у месцы з выгодамі*

Варшава жарэ канфеці
жанчыны крычаць на лесвічнай клетцы

мне часта сніцца
адна прыступка ўніз

хіба ціхі нарцысізм перакрэслівае тое,
што ёсць добрага ў чалавеку?

што ёсць добрага ў чалавеку?

*Паводле: Ilona Witkowska. Splendida realta. Poznań, Wojewódzka Biblioteka Publiczna i Centrum Animacji Kultury w Poznaniu, 2012; Ilona Witkowska. Lucyfer zwycięża. Kraków, Korporacja Ha!art, 2017.*

## Эва ЛІПСКА



### *ГІСТОРЫЯ*

Стой.
Не ўцякай ад яе.
Не правакуй.
Не рабі рэзкіх рухаў.
Не паварочвайся спінай.

Яна не зробіць табе
нічога кепскага
пакуль не будзеш адбіраць
яе міскі з ежай.

### *АПЕРАЦЫЙНАЯ ПАМЯЦЬ*

*Я не буду вам прыкладам.*

Мы сядзім паміж войнаў
і кроім сыр поўні
на чорнай талерцы.

*Я складаюся са страхаў*
*а вы патрабуеце даверу.*
*Я бяру на мушку ваганні і жаль*
*а вы цэліце ў адвагу і захапленне.*

На стале банбаньерка.
Частую іх планетамі.
Нябесныя целы ў шакаладзе.

Удалечыні праплывае наша
агульная аперацыйная памяць.
Гасне агеньчык сонца.

Не павышай на іх голасу,
Айчына.
Дай ім шанец.

## *РЭПАРТАЖ З МЕСЦА СНУ*

Ужо не Анёл а толькі Ахоўнік
правярае нашыя дакументы.

Бо праз горад якраз праязджае
сакральны картэж з мігалкамі
Бог у пагонах.

“Вось гэта мент!” крычаць  дзеці
і махаюць сцяжкамі.

“Заўсёды тое самае”
піша журналіст
у пастарунку рэлігіі.

Ёсць страх. Ёсць героі.
Ёсць вораг. Будзе і песня.
Чуваць крыкі фіміяму.

## *БІТВА ПАД РОЗУМАМ*

У бітве пад Розумам
пралілося шмат крыві.

Хто цяпер будзе
паміраць за радзіму?
Няма дурных.

Знайшоўся толькі адзін
аматар вострых адчуванняў.

Дублёр патрыёта.

## БАДЛЕР АБО ІНШЫЯ ПАЭТЫ

З урны свету высыпаюць прах на паперку.
Уцягваюць у нос дэкадэнцкія фразы.
Вечна маладыя. Паміраюць на хвалі легенды.

Допыт мінулага папярэджвае:
смерць і каханне заўсёды па тым жа курсе.
Тыя ж ноты ўваткнутых у вушы пёраў.
Тыя ж абвесткі: у вышуку надзея.

Калідоры прагорклых лякарняў
каб умелі пісаць
не напісалі б шмат.

Ранішнія порцыі паліцыі.
Чорныя сутаны птушак.
Дзяжурствы мёртвых сказаў.

І смяротны вырак паэзіі.

## АВАРЫЯ СВЕТУ

Надыходзіць аварыя свету. Але яшчэ
разамлелая дрэмле ў кустах.
Муркаюць віяланчэлі расстроеных траваў.
Неба раззброенае. І маланка
ўдае начную лампадку. Грымоты яшчэ далёка.

Маем надзею, што абмінуць нашу вёску.
Ходзім на піва ў суседні бар.
Поўня яшчэ купаецца ў рэчцы.
Нічога яшчэ не здарылася.

З’ядаем каханне. Выплёўваем косткі.
Глядзім на металалом магілак.
Больш-менш памерлыя. Але больш нічога.

## НАЎКОЛА НАШАГА КАХАННЯ

Наўкола нашага кахання
любіў круціцца скандал.
Падглядваў. Падслухоўваў.
Здзімаў з нас пылінкі.

А мы ўключалі пацалункі
і адключалі ўвесь свет.

Раз-пораз нібы выпадкова
заглядвала здрада.
У чутак ад зайздрасці
павыпадала валоссе.

А мы ўключалі пацалункі
і адключалі ўвесь свет.

Час у авечай скуры
ўмешваўся ў наш узрост.
З воўчым апетытам
жэр нашыя жыцці.

А мы ўключалі пацалункі
і адключалі ўвесь свет.

І хоць нас даўно ўжо няма
ёсць здрада скандал і час.
Усе пацалункі ўключаныя.
І адключаны свет.

### *МЫ БЫЛІ ЎСЁ ЯШЧЭ ЎСЕ*

Мы былі ўсё яшчэ ўсе.
Бавіліся з ветрачкамі часу.
Шчасце заводзілася як будзільнік.

Ніхто нават не ўяўляў
што выпушчаная з прашчы птушка
вернецца да нас каменем.

*Паводле: Ewa Lipska. Pamięć operacyjna.*
*Kraków, Wydawnictwo Literackie, 2017.*

## Юлія ФЯДОРЧУК



### *ПСАЛЬМА І*

*м.м.*

некаторых вершаў нельга ўжо напісаць.
некаторых нельга было напісаць раней.
ноччу роспач, таму што дзеці,
патанулыя дзеці, павешаныя і тыя,
што згарэлі, забітыя дзеці, дзіцячыя амулеты
ў самалёце разбітым, бо мацярынства –
пажыццёвы тэрмін, а роспач шукае аздобы,
кідкіх формаў, каб апрануцца,
каб захінуцца, каб неяк абараніцца;
таму лепш маўчы, я кажу, таму я кажу: ні адна
з вашых костак не будзе зламана, так скажам,

“ні ў якім дабры не цярпець вам нястачы”, так скажам,
“будзе дрэва пасаджанае над плынямі водаў” –

### *ПСАЛЬМА II*

пажыральнікі майго цела,
як гучацьме канон нашай дружбы?
2 квадратныя метры скуры,
канец свету – мая
кватэра, 30 квадратных
кіламетраў клеткавых абалонак
у штодзённым гасподнім доме з вадой,
вадой, вадой для асмяглага, піце
з мяне, ненавіснікі,
піце, мае хаўруснікі,
піце, мае распуснікі,
не замачыўшы ног у моры маім
да заўтра –

### *ПСАЛЬМА VIII*

гэтыя аб’екты могуць быць болей таксічныя
чым відаць у люстэрку па-
мяці
          свядомасці
                              надзеі
не тыя, якімі здаюцца, палі палымянай буйміны і хлеба
і яблыневыя сады не тое, што марыцца ў супермаркеце

акіяны могуць быць іншага колеру
чым гэта відаць на экране
фаўна
          паўднёвых
                              мораў
можа быць не такой жывой асцярожна гэта
ложа прамокла ад слёз

пад купалам з ветру касілак і дронаў
дрэвастой
               магілы й
                              гняздзечкі

“птушак нябесных і рыбін марскіх, усяго,
што праходзіць марскімі шляхамі” –

### ПСАЛЬМА XI

спрабую збудаваць дом
(тут менавіта)
ракавінку смаўжа

спрабую збудаваць схоў
(тут менавіта)
ластаўчына гняздо

закладаю падмурак
(мох на камені)
крошкі святла

адчыняю дзверы
(кропля вільгаці)
халодны танец ветру –

### ПСАЛЬМА XII

устаць на досвітку, зорка
Венера над соснамі, цёмныя, цёмныя
камлі. Глыбока пусціў карані
ў чалавечае цела час
(кажам "мой", кажам "наш"),
здымаючы сіні лак
з рахманых дамоў, і
ператраўлены ў тыглі зямлі,
найсапраўднейшы, свежы дзень,
ужо:

сямнаццаць тысяч гадоў таму
хтось ляпіў фігуркі жывёлы.
першая кніжка
пачыналася словам "гнеў" –

### ПСАЛЬМА XV

пад зоркамі, пасля дажджу, у перамір'е
між летам і восенню, посвістам электрычкі
і лесам не пахіснешся? у згодзе
вечара й ночы, вільготным, як паднябенне,
ціхім, нібы галосныя гукі, паветры – як доўга,
перш чым саб'ецца: назва, досвед? і хтосьці
чужы будзе пасля ўспамінаць, так, як ты памятаеш,
аналагавае дзіця, што зносіцца ўніз па рацэ
слізкай плынню надвор'я ў глыбіні вялікага сну,
з якіх прарастае голас: хто, я –

## ***ПСАЛЬМА XXX***

каго мне баяцца?
калі час дрэмле на ходніку
нібы стомлены пёс, гэта момант
для нас: сціраем пыл з парцаляны,
са здымкаў, з відэамагнітафону; з паэзіі,
палітыкі і кахання. Дваццацігадовай –
такой у цябе выходжу ў рамцы акна,
пакуль не паблякнуць яскравыя
пікселі горада і пакуль
не выльецца дзень. у бледным кадры
той, што сцішае шум мораў: спустошанасць

## ***ПСАЛЬМА XXXI***

*р. к.*

сініца прысела на падаконне як навіна,
згенераваная туманамі, кастрычнік
пераходзіў у лістапад у бярозах вольхах дубах,
марозаўстойлівых кветках, на могілках,
дзе нашы бацькі не пісалі ўспамінаў,
дзе не пазналі б нашых дзяцей, нашых
вершаў і нас. па тэлевізары перадавалі радзіму,
якая жыве, а пасля не жыве, а пасля зноў
жыве, а пасля – не, а потым сонца
падсвяціла карункі галіны, невядома калі
сініцу ўцягнула ў неба, перш чым паспела
я вымавіць: помні, запомні мяне –

*Паводле: Julia Fiedorczuk. Psalmy (2014-2017). Wrosław, Fundacja na rzecz kultury i edukacji im. Tymoteusza Karpowicza, 2017.*

Аляксандр Ірванец



...Ёсць украінцы між вас, адчуваю.

Кожнага кулі чакае пячаць...

# Харкаў-1938

***Урывак з рамана***

*Пераклад з украінскай Уладзіслава АХРОМЕНКІ.*

## Ад перакладчыка

*Якой была б Беларуская Народная Рэспубліка, калі б перамагла? Дзяржаўны лад і ідэалогія, межы і суседзі, літаратура і мастацтва, штодзённы побыт і мары пра будучыню... Такая тэма надзвычай удзячная для застольных спрэчак, патрыятычных спекуляцый і фэнтэзійных утопій.*

*Падзеі рамана Аляксандра Ірванца "Харкаў-1938" акурат і адбываюцца ў фэнтэзійнай Украінскай Рабоча-Сялянскай Рэспубліцы, якая згенеравала блізкі да аўтарытарнага рэжым і цяпер разам з Нямеччынай, якую ўзначальвае геносе Эрнэст Тэльман, рыхтуецца да падзелу Польшчы.*

*Раман населены рэальнымі гістарычнымі персанажамі, але, як і мае быць па законах жанру, – у падкрэслена карнавальных кантэкстах. Аляксандр Даўжэнка разам з Лені Рыфеншталь здымаюць стужку "Трыумф моцы".*

*Шавініст і гомасэксуаліст Міхаіл Булгакаў расчароўваецца ў каханку, які ў самы адказны момант выяўляецца пераапранутай дзяўчынай. Спрактыкаваныя какаіністы Мікалай Гумілёў і Ганна Ахматава бавяць час у хімерных развагах "пра Русь". А бароніць Новую Украіну магутнае войска на чале са слаўнымі генераламі, сярод якіх Сямён Будзёны і Рыгор Катоўскі.*

*Безумоўна, такая Украіна і такія персанажы надзвычай абразлівыя для летуценнікаў-традыцыяналістаў, якія хацелі б пабачыць уяўную Радзіму гэткім гібрыдам этнаграфічнага музея і зямнога раю. У чым украінскія традыцыяналісты-летуценнікі цалкам салідарызуюцца з беларускімі – калі апошнія бяруцца разважаць на тэму: "А калі б БНР перамагла..."*

*Тым цікавейшым раман "Харкаў-1938" стане і для нашага чытача.*

**Уладзіслаў АХРОМЕНКА**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

*У якой з'яўляецца пераважная большасць галоўных герояў і нібыта робіцца зразумела, што і да чаго.*

### ТАГАНРОГ
### 26 КРАСАВІКА 1938 г.

Згасаў цёплы веснавы вечар.

"Вось такая яна, доля ўрадавага пенсіянера..." – Уладзімір Вінічэнка[1], у белай ядвабнай кашулі і чорных адпрасаваных нагавіцах, паліў кубінскую цыгару на балконе ўрадавага лецішча, атрыманага ў пажыццёвае карыстанне.

Удалечыні мігцелі агеньчыкі самага ўсходняга ўкраінскага порта. Гаўбец быў прасторны, застаўлены дзежкамі з дэкаратыўнымі пальмамі, а таксама лаўкамі і шэзлонгамі. У вялікай зале, сумежнай з гаўбцом, пакаёўка накрывала вячэру. Сціпла дзінькала срэбра на белым абрусе.

Раптам, нібы схамянуўшыся, Вінічэнка адклаў цыгару ў крышталёвую попельніцу і праз бакавыя дзверы прайшоў у працоўны кабінет. Сеў за стол, паклаў бялюткі аркуш. Завостраным, нібы іголка, алоўкам накрэмзаў назву новага твора: "Слова за табою, Кіраў!" Гэта мелася быць палкая публіцыстыка, якая канчаткова пераканае чытача ў слушнасці ідэй камунізму. Ці хаця б сацыялізму. У перамогу ладу справядлівасці супольнасці, прыхільнай да большасці грамадзянаў, – без паноў і буржуяў. А не тое, што будуе Канавалец[2] са сваёй кодлай. Ці той выскачка Хвылявы[3], азіят нямыты, з ягоным рэнесансам!

Вінічэнка абхапіў рукою бародку і аддаўся марам. Якая нудота! Якая безнадзейная дзіра той Таганрог![4] А, між іншым, праз колькі дзён у Харкаве мае распачацца карнавал. Як жа хочацца туды паехаць, але як жа

---

[1] Уладзімір Вінічэнка (1880–1951) – украінскі пісьменнік, мастак і палітычны дзеяч левых поглядаў.

[2] Яўген Канавалец (1891–1938) – стваральнік Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў, забіты баевікамі НКВД.

[3] Мікола Хвылявы (1893–1933) – украінскі празаік, нацыянал-камуніст, аўтар лозунга "Геть від Москви!"

[4] Таганрог – горад у сучаснай РФ. Ад 1923 г. быў адміністрацыйным цэнтрам Таганрогскай акругі Данецкай губерні УССР.

не хочацца тэлефанаваць, прыніжацца, прасіць аўто!.. Але ж мае ён права хоць калі перапыняць гэтую ганаровую высылку!

Між іншым, ягоны лёс яшчэ не найгоршы. Пакаёўка, вартаўнік, улетку цёплае мора. Не ва ўсіх так добра склалася. Дарэчы, а што там цяпер з Пятлюрам? Як ён там, наш Сымон Васільевіч?

* * *

– Вось. Цяпер вы – Шымон Петляру! – ад'ютант Васіль Бень працягнуў Пятлюру[1] зеленаваты пашпарт. – Вы з Румыніі, гандлюеце кілімамі і іншымі народнымі вырабамі.

– Яшчэ чаго! Я не размаўляю румынскай! – Пятлюра грэбліва ўзяў дакумент, пагартаў, зыркнуў нядобра. – Цьфу! Петляру! Трасца тваёй мацеры!

– Сымон Васільевіч, – прашаптаў ад'ютант амаль у аблічча. – Мы ж у міжнародным вышуку, не забывайцеся. Па нашых нансанаўскіх пашпартах[2] нас шукаюць паўсюдна.

– Шукаюць, – Пятлюра скрывіўся. – Дый не толькі паліцыя.

– Як бы толькі паліцыя... – у тон яму адказаў ад'ютант.

– А ты іх рахуеш? – Пятлюра зазірнуў Васілю ў вочы.

– Каго – іх? – не зразумеў Васіль.

– Замахі! Замахі на мяне, ты ж іх мусіш рахаваць. Для будучыні. Для мемуараў, для гісторыі.

– Рахую, Сымон Васільевіч, рахую, – хітнуў масіўнай галавою ад'ютант. – Адзін толькі раз збіўся, у Садзе Цюльіры, але потым папраўіўся.

– Ну, і колькі ўжо?

– Сто трыццаць... дзевяць... – прамовіў ад'ютант праз кароткую паўзу і не зусім упэўнена.

Размова адбывалася ў вулічнай кавярні. Мінак, які спыніўся акурат насупраць століка, за каторым сядзелі Сымон Васільевіч з Васілём Бенем, раптоўна і рэзка выхапіў з-пад пахі гранату і шпурлянуў у суразмоўцаў.

– Лягайце! – заскавытаў Васіль, упаў і перакуліў стол.

Але Пятлюра зразумеў усё раней і ўжо адкочваўся пад самую стойку. Васіль, прыкрываючыся сталом, рачкі папоўз за шэфам.

Граната ўпала даволі далёка, метраў за восем, ды яшчэ і закацілася пад дзежку з фікусам. Прагрукацеў выбух, камякі зямлі, дашчаныя трэскі і шырокія лапці лістоў разляцеліся наўбакі.

– Сто сорак! – прашаптаў Васіль ужо зверху; ён, нібы парасонам, прыкрываўся ад камякоў зямлі ўломкам століка.

Тым часам Пятлюра запоўз за стойку, выпрастаўся і шпарка перабег на кухню. Васіль не адставаў. Яны імчалі да службовага выхаду.

– Вы не заплацілі! – гукнуў ім хтосьці наўздагон, але было запозна.

Уцекачы зніклі ў парыжскіх прыцемках і доўга пятлялі нейкімі дварамі і завулкамі, пакуль не апынуліся на трамвайным прыпынку.

Побач цурчэў ладны фантанчык з каменным анёлам. Пятлюра з ад'ютантам дыхалі цяжка і гучна.

---

[1] Сямён Пятлюра (1879–1926) – украінскі палітык і вайсковец, старшыня Дырэкторыі УНР.

[2] "Нансэнаўскі пашпарт" – міжнароднае эрзац-пасведчанне, якое па ініцыятыве Ф. Нансэна выдавалася палітычным уцекачам і асобам без грамадзянства.

А вуліцай ужо ляцеў чорны спартыўны “рэно”. Каля фантанчыка аўтамабіль завішчэў тармазамі.Ляснуў стрэл. Ціўкнула куля, каменнае крылца анёльчыка разляцелася ўшчэнт. Але ж уцекачы зноў не разгубіліся: абеглі фантан і занурыліся пад брамку доўгай жоўтай будыніны.

Двор, на шчасце, быў праходным. Пятлюра спыніўся і прыхінуўся да сцяны, спрабуючы суняць няроўнае дыханне.

– Сто сорак адзін! – падрахаваў Васіль і прыхінуўся побач.

– Абрыдла ўжо, – канстатаваў Пятлюра. – Нешта замнога на сёння. Трэба недзе перахавацца.

– Тут непадалёк Андрэ Жыд жыве. Можам да яго папрасіцца. Ён пусціць.

Сымон Васільевіч няпэўна знізаў плячыма. Ад’ютант асцярожна прайшоў да брамы і выглянуў вонкі. Аўтамабіля са стралкамі ўжо не было на вуліцы. Але вяртацца туды не хацелася.

Васіль Бень падышоў да шэфа і выструніўся. Пятлюра ўжо супакоіўся. Задумаўся, пажаваў вуснамі і нарэшце прыняў рашэнне:

– Да Жыда не хачу. Пайшлі да Рамэна Ралана. А ўвогуле, трэба нам з табою ва Украіну збірацца. Час наспеў.

Ад’ютант згодна нахіліў галаў.

Праз шырокі праходны двор абодва яны пайшлі, асцярожна азіраючыся, і чэрава Парыжа паглынула іх.

* * *

– Чаму мы яго не забіваем?

Алег здзіўлена ўзняў вочы на Сцяпана, але Алена апярэдзіла з адказам.

– Наіўны Стэфка, хто ж рэжа курку, якая нясе залатыя яйкі? – дзявуля падышла да Сцяпана ззаду, абняла за плечы. – Зусім ты ў сваёй Галічыне зачах. А тут вялікая гульня ідзе. Нам жа кожную аперацыю фінансуе СБУ. І гэты гатэль, і пераезды, і тую гранату, якую ты сягоння шпурнуў у кавярні – усё гэта ад іх.

– Але я сапраўды хачу яго забіць! – Сцяпан вырваўся з абдымкаў і ганарліва выпрастаўся, прыўзняўшы падбароддзе. – А вы мне толькі адну кулю ў рэвальвер зарадзілі. З другой бы я дакладна патрапіў.

Алена адсунулася ад Сцяпана і абняла за плечы Алега; той адразу прыціснуўся спінай да пругкіх, мажных цыцак.

Сцяпан, аднак, усё не мог супакоіцца:

– Ён мусіць быць пакараны! Ён здраднік! Ён уцёк, і без яго Украіна пайшла не туды!

Алег рашуча хіснуўся наперад, вызваліўся з Аленіных абдымкаў.

– Табе ж тлумачылі – мы будзем гэта рабіць раз за разам. Калі-небудзь, мажліва, і заб’ем яго.

– Але тады прыпыніцца фінансаванне, – Алена села на шырокую зялёную канапу, паправіла вышыты золатам аксамітны халат, дадала роўна й нягучна. – Заўтра зменім дыслакацыю. Нам арандавалі будыначак у Нантэры. Надалей працуем адтуль. У гэтым гатэлі становіцца небяспечна.

Сцяпан ужо трохі супакоіўся. Ён агледзеў сталовую залу: стол з супніцай, талеркі са шматкамі сыру, памідораў і скрылёчкаў шынкі...

– А ў “Мулен Руж” мы пагэтуль так і не схадзілі. Кажуць, там дзеўкі французскія ўсё што хочаш паказваюць, – мовіў ён крыху спакайней, але з прыхаванай крыўдай.

– Хіба я вам тут мала паказваю, – пасміхнулася Алена.

Стэфка ўзняў на дзяўчыну вочы і не стрымаўся ад хцівай усмешкі. Каб прыхаваць яе, адразу схіліў галаву і ўдаў, нібы разглядае штосьці на сабе, нават палашчыў кашулю на жываце.

– Добра, – ужо прымірэнча сказаў баявым паплечнікам. – Заўтра пераязджаем. Але я калі-небудзь усё адно яго заб'ю.

– Калі-небудзь – так, – задаволена падсумавала Алена. – Але толькі не наступным разам.

– Пабачым... – Сцяпан нібы прыгадаў сваю нядаўнюю рашучасць, але вырашыў да яе не вяртацца.

Тым часам Алег дастаў з серванта тры маленькія кілішкі і літровую цёмную пляшку са свойскім абсэнтам. Зеленкавата бліснула цяжкое тоўстае шкло.

Алена і Сцяпан падышлі да стала. Алег разліў у чаркі. Тым часам Алена дастала з шуфляды стала тры маленькія кулькі гашышу. Усе трое без лішніх словаў праглынулі кулькі і запілі іх абсэнтам.

Алена пасміхнулася. За колькі секунд разняволенасць заззяла і на мужчынскіх тварах. Расставіўшы рукі, Алена абняла абодвух. Пацалавалася з Алегам, але ж правай рукой узялася лашчыць Сцяпана. Той у адказ развязаў матузок ейнага халата. Крысы халата разышліся, бялізны пад ім не было. Усе трое адначасова паваліліся на шырокую канапу. Але ж Сцяпан спахапіўся, падбег да дзвярэй і патушыў святло. Цёмны пакой цяпер поўніўся толькі бляклым святлом ліхтара за вакном і задаволеным Аленіным муркатаннем...

* * *

На досвітку ад'ютант Васіль Бень пакінуў свайго шэфа на самоце і паехаў дамаўляцца наконт хуткага транспарту ва Украіну. За шчаслівым збегам абставінаў акурат на наступным тыдні з Марсэля да Адэсы адыходзіў сухагруз, на які набіралі каманду.

– У мяне атрымалася запісаць нас з вамі ў брыгаду качагараў, – адрапартаваў ад'ютант, калі вярнуўся.

Пятлюра спрасонку паплямкаў вуснамі.

– Якая працягласць рэйсу?

– Кажуць, за двое з паловай содняў будзем у Адэсе. Усяго толькі адну вахту трэба адстаяць. Але ж поўныя содні, дваццаць чатыры гадзіны.

Пятлюра нарэшце наважыўся:

– Збіраемся.

* * *

Зранця Алег са Сцяпанам загрузілі спартыўны "рэно" сваім не надта грувасткім багажом і чатырма валізамі з Аленінымі трантамі. Перад паездкай у Нантэр вырашылі выпіць па філіжанцы кавы. Алена ўвіхалася каля пліты – жанчына цяміла ў кухарскіх справах. Неўзабаве кватэру ахутаў водар пякучых калумбійскіх прыправаў.

На раніцу акурат прыпадаў і сеанс пазачарговай экстранай сувязі. Дзявуля пракруціла колца наладкі радыёлы "Сіменс". Праз радыёшоргаты і эфірны свіст нарэшце прабілася трансляцыя. Гэта быў канал "Радыё-Харкаў" для замежжа. Пасля выпуску навінаў і традыцыйнага канцэрта

народных мелодый звычайна гучалі прыватныя паведамленні і аб'явы. Яўген з-пад Жытоміра дасылаў прывітанне сястры ў Нямеччыну і спадзяваўся сустрэцца на карнавале ў Харкаве.

Алена пасуровела, задумалася. Ключавымі словамі, безумоўна, былі: “Яўген і сястра”, “сустрэцца ў Харкаве на карнавале”.

Яна паставіла на стол філіжанкі і гарачы кавеварнік.

– Нам не трэба ехаць да Нантэра. Мусім ехаць у Харкаў.

– Я ніколі не быў у Харкаве, – Сцяпан задуменна звякаў лыжачкай аб парцаляну.

– Табе спадабаецца, – запэўніў Алег. – Горад неверагодна прыгожы. Усё ж сталіца Украіны.

– Украінскай Эсэсэр, – папрааіла Алена. – А гэта яшчэ не ўся Украіна, на жаль.

– Да пэўнага часу яшчэ не ўся, – Алег, зрэшты, і не спрачаўся. – Але ж мы працуем на Украіну. Хаця яна пакуль яшчэ толькі Украінская Рабоча-Сялянская Рэспубліка. Бо насамрэч Украіна – значна большая.

* * *

## 27.04.1938
## РАНІЦА. ПАМЕЖНЫ ПУНКТ ІВАШКІ, ЗАЛАЧОЎСКАЯ ЗАСТАВА

Чорная, чорная ралля пад нагамі...

На ўзлеску пяшчотна і свежа зелянелі кустоўі глогу з ляшчынай, хаця дзе-нідзе ў ярах яшчэ бялелі плямы шэрага снегу. Вясна пасля Вялікадня штодня набірала моцы – не зарана, але, як і мае быць, на канец красавіка.

Капрал Паўленка, старшы памежнага каравула, пільна ўглядаўся за калючы дрот: там, за ўзаранай кантрольна-следавой паласою пачыналася іншая краіна. Шараговы Пятрэнка штыхом шчапаў на вострыя трэсачкі залацістую сасновую галінку, каб распаліць печку ў каравульным памяшканні. Яго навюткі карабін “маўзер” стаяў каля сцяны.

Ранішняе сонца размывала нябёсы ў блакіт. Асмялелыя травы цягнуліся да святла вострымі стрэлкамі. Цяпло зухавата кацілася ва Украіну, ажыўляла зямлю пасля доўгай зімы.

Паўленка кашлянуў, прымружыўся на шарагоўца:

– Цікава, а што будзе, калі і тут нарэшце Сцяну Дружбы дабудуюць? Як тады нам кардон ахоўваць?

– Я чуў, што на вышках будзем сядзець, праз кожныя сто ці пяцьдзясят метраў. А ў Сцяне – брамы з пунктамі пропуску.

Пятрэнка разламаў трэску напалам, і яна расслаілася вострымі канцамі.

– Але калі гэта яшчэ будзе! Цяперака ж толькі на Луганшчыне будуюць...

Свежы ветрык зварухнуў кустоўе. Пятрэнка скамянеў, глянуў у бок кантрольна-следавай паласы, адклаў штых і схапіў карабін.

– Гля, а там хтосьці лезе. Стой! Стой, страляць буду!

Шараговы прыўстаў на адно калена і прыцэліўся ў бок парослага ляшчынай узгорка перад кантрольна-следавой паласой.

Капрал прымружыўся, узяў бінокль, пасуровеў.

– Пачакай. Яно рукамі вымахвае. Што гэта такое? – угледзеўшы дэталі, капрал выдыхнуў з палёгкай. – Яно нейкае скалечанае, здаецца... Гля – кульгае, на нагу прыпадае. То хай падыдзе.

Пятрэнка апусціў зброю, стаў побач са капралам.

Раптоўна невядома адкуль напаўзла цяжкая шэрая хмара, сыпанула вільготным снегам. Невысокі каржакаваты чалавек сунуўся праз узараную паласу, чапляўся нагамі за разоры. Паднятымі рукамі махаў памежнікам.

Паўленка з Пятрэнкам моўчкі стаялі пад раптоўнай пургою. Снег залепліваў іх вочы і твары. А незнаёмец за калючым дротам упарта сунуўся па ўзаранай слабажанскай зямлі, вымахваў і вымахваў выстаўленымі наперад рукамі.

* * *

## КАРЧМА "ЗВЯГЕЛЬ"

Надвячоркам 27 красавіка 1938 года палкоўнік СБУ Юрый Кацюба, звярнуўшы з Валынскага тракту, праміну́ў замызганыя вулачкі і, акуратна мінаючы калюжыны з памыямі і качкамі, спыніў свой вішнёвы "лінкольн" каля драўлянага ганку. Гэта была карчма "Звягель", папулярная на заходніх ваколіцах Ноўгарад-Валынскага. Кацюба бразнуў дзверцамі, падняўся ў карчму і сеў за дальні стол, адгароджаны ад залы скрынямі з-пад гарэлкі, поўнымі цукерачных абгортак і лушпіння велікодных яек.

З-за стойкі зыркнула худая высокая кабета ў хустцы і доўгай клятчастай сукні. Спярша яна хацела падысці да кліента сама, але стрымалася і гукнула ўглыбіню кухні мужа. Неўзабаве праз дзвярны праём праціскаўся мажны пузаты дзядзька. Фіма – гаспадар карчмы і шматгадовы агент-інфарматар Кацюбы, – з сапеннем абышоў стойку, прыняў з жончыных рук куфаль піва, паважна паставіў перад госцем і сеў насупраць.

– Здароў, Аўхім! – прамовіў палкоўнік і памачыў вус у цёмным напоі; піва было свежым і смачным. – А непаганы хмель...

– Не кажыце мне "Аўхім", – прагундосіў карчмар нечакана высокім для яго голасам. – Я Фіма. Фімам нарадзіўся, Фімам і памру. А піва сёлета сапраўды непаганае. Як бы і ўсё астатняе такім было...

– А што табе не так з усім астатнім? – Кацюба зрабіў ладны глыток і задаволена адхіліўся на спінку. Смага паліла; ён адчуваў, што стаміўся за дзень.

– Да нашага берага нічога добрага не прыплыве: то трэска, то га...но! – Фіма паклаў рукі на стол, схіліў галаву да вуха суразмоўцы. – Самі ж ведаеце, якім стала жыццё ў нашым сумежжы. Раней яшчэ можна было збольшага жыць... а цяпер у нас тут усё ёсць, і ўсё танна. Які сэнс тарабаніць нешта з таго боку мяжы? Які ў гэтым гешэфт?

– Стары кантрабандыст... – Кацюба ўсміхнуўся. – То няўжо зусім няма чаго праз мяжу цягаць? Нешта не верыцца...

Карчмар пачухаў масіўным пальцам масіўны нос. Глянуў у кліентавы вочы, пасміхнуўся крыва:

– Такія ўжо цяпер у нас справы, Міхалыч. Што маем, то маем. Думаю я адсюль выбірацца. Можа, наступнай вясной. Але я вам не пра тое хацеў сказаць.

– Я слухаю... – Кацюба каўтануў, узважыў куфаль. – Штось важнае?

– Нават не ведаю... – карчмар схіліўся, задыхаў часныком. – Кажуць, трэба чакаць кагось такога... дужага...

– Што-што? Каго такога дужага? – Кацюба здзіўлена глянуў на суразмоўцу. – І адкуль такая інфармацыя?

– Быў чалавек з таго боку, – Фіма выразна глянуў цераз плячо – нібы ў бок заходняй мяжы. – Там у іх у Карцы[1] кавалерыя стаіць. Полк нейкі... "стража гранічна", як яны кажуць. Іхні камандзір прыязджаў сюды нядаўна. Так, на гадзінку заскочыў, амаль апоўначы. Яму таксама маё піва спадабалася. Прыглядаўся – што тут у нас і як, распытваў...

– Ты не цягні, – цяпер эсбэушнік глядзеў на карчмара сур'ёзна і нават сувора. – Кажы па сутнасці...

– То я хіба не па сутнасці? Пахваліў ён піва, пакінуў колькі сваіх злотых. А мне кажа: "А вы ведаеце, што па хуткім часе ў вашу Украіну нехта мае прыехаць?" Я пытаюся: "А што за нехта?" А ён мне: "Дакладна нічога не ведаю. Але хтось такі дужы і такі небяспечны, што яму нат і зброі не трэба, каб ліха тут нарабіць..." І больш нічога. Сабраўся і з'ехаў.

Палкоўнік Кацюба задуменна круціў у руках куфаль: "Хтось такі дужы і небяспечны... Мо, дурныя чуткі і плёткі?"

– Не зразумеў. Адкуль гэты "хтось" мае прыбыць? Ад іх? – Кацюба выразна глянуў у бок уяўнай заходняй мяжы.

– Не ведаю. Я ў яго пытаўся – можа, з Літвы? Ён сказаў, "невядома". Кажа, і я не ведаю, адкуль той дужы прыедзе. Дужы, але бардзо небяспечны. Так і сказаў – "бардзо".

Эсбэушнік задумаўся зноў. Наўрад ці польскі афіцэр проста так распавядаў пра падобныя рэчы. Бо й прыязджаў ён сюды відавочна не з турыстычнымі мэтамі. Хаця, з іншага боку, гэта магло быць і звычайнай праверкай пільнасці, і спробай адвярнуць увагу ад нечага іншага, куды больш важнага. На мяжы ўсё здараецца...

– А ў іншых справах што ў цябе? Сям'я твая? Ніхто не хварэе, здаровыя ўсе?

– Цешча памерла ўжо тры гады як, а астатняе ўсё непагана... – Фіма пачухаў падбароддзе, схіліў долу гачкаваты нос і зноў абдаў суразмоўцу ядучым часныковым духам. – Думаю я, Міхайлыч, прадаць гэты шынок. Гешэфт зусім ніякі. Але чуў я, што на Данбасе цяпер жыццё віруе. То, думаю, назбіраю ўсе слёзы, якія за жыццё назапасіў, і куплю якую шахту на Данеччыне. Вугаль цяпер у цане. Можа, і пойдзе ў мяне тая справа.

Кацюба пацепнуў плячыма:

– Сам ведаеш, Аўхім, што прадпрымальніцтва ў нас не караецца. Ты сам гаспадар свайго капіталу. Рабі што хочаш, толькі мяне паінфармуй. Каб ведаць, дзе цябе знайсці ў разе патрэбы.

– Не называйце мяне Аўхімам! – зноўку абурыўся карчмар, але Кацюба ўжо падняўся, кінуў на стол двухгрывенную купюру і, рытмічна выстукваючы абцасамі, пасунуўся да дзвярэй.

* * *

Па-над начной рэчкай, сярод ірваных малочных аблокаў, цьмяна свяціўся самотны паштовы дырыжабль. Ён праплываў на ўсход, то распускаўся ў нябеснай імгле, то праяўляўся выразным светлавым камяком. Ядвабны парасон начных нябёсаў мігцеў сузор'ем Касіяпеі.

---

[1] Горад, цяпер – райцэнтр Ровенскай вобласці, да 1939 г. уваходзіў у склад Польшчы.

Вішнёвы “лінкольн” імчаў па начной шашы. Святло фараў праціналa бялюткія шматкі туману; паўпразрыстыя хімеры імчалі насустрач і распускаліся перад сталёвым капотам.

* * *

Да Жытоміра дарога была паганенькай, але ўжо на новай кіеўскай бетонцы Кацюба разагнаў свайго “лінкольна”. Рух на начной трасе быў рэдкім. Эсбэушнік засяроджана ўглядаўся ў перспектыву светлавых конусаў паперадзе аўтамабіля.

“Выдатная дарога. Можна і паскорыцца. І да Адэсы цяпер еўрапейская шаша, але найлепшая – траса Харкаў-Кіеў. Разбудоўваецца Украіна за апошнія гады. Людзі паціху перасядаюць на аўтамабілі, сяляне засвоілі трактары і камбайны. Моладзь ганяе на патэнтаваных матацыклетках...”

Акурат у гэты момант “лінкольн” абагнаў матацыкліст: чорная скуранка, доўгія русявыя валасы з-пад шалому, няголены твар. “Харлей-Дэвідсан” апошняй мадэлі глядзеўся магутна і стылёва: скураныя сумкі па баках, масіўная пукатая фара... Невялічкі нумарны знак, напэўна, замежны, быў заляпаны шэра-бурай граззю. За паўхвіліны матацыкліст растаў у цемры паперадзе.

Каб не заснуць за рулём, Кацюба ўключыў радыёпрымач. Дыктар чытаў апошнія навіны.

“... а цяпер пра культуру. Пасля ўдалага выступу зборнай У. С. С. Р. на Алімпійскіх гульнях у Берліне пазалетась паміж творцамі Украіны і Нямеччыны наладжваюцца шчыльныя творчыя стасункі. Так, украінскі кінарэжысёр Аляксандр Даўжэнка распачаў працу над фільмам “Трыумф сілы”, які здымае ў суаўтарстве з нямецкай рэжысёркай Лені Рыфеншталь. Новы этап здымкаў пройдзе па хуткім часе ў Харкаве. Гэтым разам майстры сінематографу будуць працаваць на Харкаўскім Пралетарскім Карнавале, які мае прайсці, як і заўжды, першага і другога траўня.

І на заканчэнне выпуску, шаноўныя нашыя радыёслухачы, нагадваем, што заўтра, 28 красавіка, Прэзідэнт Украіны Яўген Канавалец выступіць з традыцыйным штогадовым зваротам да народа і свету. Зварот будзе трансляваецца ўсімі радыёстанцыямі У. Р. С. Р. Далей у нашай праграме – музычная разнастайнасць Украіны. Канцэрт народных песень!”

Зазвінелі цымбалы, гахнулі бубны, заверашчала скрыпка, і жаночы хор зацягнуў: “А мой мілый варэнікаў хоча!..”

Палкоўнік, здранцвелы ад стомы, выключыў радыё і вырашыў заначаваць у Кіеве. Фіміны словы пра “дужага і небяспечнага” вымагалі хуткай рэакцыі. Ён паскорыў машыну і а трэцяй ночы ўжо паркаваўся на службовай стаянцы СБУ на Уладзімірскай; гатэль для афіцэрскага складу месціўся ў суседнім будынку.

Тым часам матацыкліст, які абагнаў Кацюбу, спыніўся за колькі кварталаў у гатэлі «Hilton-Kyiv» і таксама адыходзіў да сну. Гэта быў амерыканскі кінарэжысёр Алекс Сейні. Ва Украіну ён патрапіў з Польшчы праз Ноўгарад-Валынскі. Рэжысёр прыехаў ва У. Р. С. Р. здымаць дакументальны фільм пра бандурыстаў; колісь, у цэнтры Парыжа, ён пачуў бандуру, на якой узнёсла граў дзіўнаватага выгляду мужчына...

## У КІЕВЕ

Кацюба прачнуўся а дзясятай і яшчэ сонны пасунуўся ў душ. Думкі міжволі вярталіся ва ўчарашні дзень. Першай, натуральна, прыгадалася фраза інфарматара Фімы пра "дужага і небяспечнага".

"Дужы? Ну і што, што ён дужы? Ёсць жа кантроль на пунктах пераходу мяжы. Мяжу ва Украіне пятнаццаць гадоў ужо надзейна пільнуюць. Хіба не знойдзем парушальніка?.. А калі пешкі, нелегальна пасунецца – падстрэлім на мяжы. Трэба даць адпаведны загад памежным войскам: весці агонь па ўсіх парушальніках. Напрыклад – "у сувязі з абвастрэннем унутрыпалітычнай і знешнепалітычнай сітуацый".

А, можа, не варта пакуль палохаць госця, а ўзяць яго ціхенька? Але як яго вылічыць? Гэта і ёсць галоўная задача..."

Кацюба глянуў у люстэрка: сіняе галіфэ, напаўшарсцяная гімнасцёрка, шырокія плечы... Такі сабе Кларк Гейбл! Бародку ён згаліў гадоў пяць таму: хацелася выглядаць маладзейшым.

"Хто ж ён такі – дужы і небяспечны?.. Трызненне нейкае!.."

Эсбэушнік ужо перабраў у памяці падвоеных агентаў, якія працавалі і на яго, і на расейскіх чэкістаў. Іх было небагата, трое ці чацвёра. Двое з іх былі ў непасрэднай блізкасці: адзін у Кіеве, а другі крыху далей, ніжэй па Дняпры. З імі было варта перастрэцца.

Кацюба сеў на аксамітавую сафу (інтэр'еры ў пакоях эсбэушнікаў чамусь былі баракальна-выштукаванымі), паволі нацягнуў высокія скураныя боты, наваксаваныя калідорным за ноч. Падняўся, абцягнуў скуранку і, задаволены ўласным выглядам, пайшоў на Уладзімірскую.

У нейкім квартале адсюль, на Праразной, стаяла рабоча-сялянская школа №48, дзе на пасадзе намесніка дырэктара па нацыянальным выхаванні працаваў падвойны агент Пятроў.

Немалады вахцёр адразу сцяміў, што перад ім важны госць. Выйшаў з-за загародкі, падвёў эсбэушніка да раскладу заняткаў, дапамог знайсці нумар кабінета, у якім Віктар Пятровіч праводзіў урок "Найноўшай гісторыі Украіны".

Кацюба ішоў па сходах праз адну прыступку, мімаходзь услухоўваўся ў гукі школы. Недзе дзіцячыя дысканты выводзілі пад фартэпіянны акампанемент "Я лісічка, я сястрычка" Лысенкі[1]. З-за суседніх дзвярэй настаўніцкі голас манатонна надыктоўваў: "Наша Айчына – У. Р. С. Р., Украінская Рабоча-Сялянская Рэспубліка. Сталіца нашай дзяржавы – горад Харкаў". На другім паверсе за дзвярыма дэкламавалі верш, зададзены для вывучэння на памяць:

Бой адгрымеў... І штандараў чырвоных
Хваля ўзнялася на станцыі зноў...
І да натоўпу палонных
Сам камісар падышоў.

"Ёсць украінцы між вас, адчуваю.
Кожнага кулі чакае пячаць... [2]

Кабінет нумар трыццаць восем месціўся ў самым канцы калідора. Кацюба сцішыў ходу, каб не стукаць абцасамі, спыніўся пад дзвярыма. Да

[1] Мікалай Лысенка (1942 – 1912) – украінскі кампазітар.

[2] Хрэстаматыйны верш Уладзіміра Сасюры, адаптаваны А. Ірванцом для школьнай праграмы У. Р. С. Р. Пераклад з украінскай Дзмітра Шчарбіны.

званка заставалася хвілінаў дзесяць – можна было пачакаць. Эсбэушнік асцярожна, каб не рыпець скуранкай, падышоў да дзвярэй і прыслухаўся. Агент акурат у гэты момант распавядаў:

– ...таму пасля “цуда пад Крутамі” ў студзені 1918-га года[1], калі ўкраінскае войска, якое падышло на дапамогу студэнтам і гімназістам і дало першы сур’ёзны адлуп расейскім інтэрвентам, неўзабаве з поўдня далучылася аб’яднаная армія Нестара Іванавіча Махно і Арцёма Сяргеева. Заходні напрамак у той час абараняла армія, якой камандаваў наш цяперашні прэзідэнт. Супольнымі намаганнямі і быў дасягнуты пералом у баях на Чарнігаўскім напрамку. Падыміце рукі, у каго бацька ваяваў на тым фронце? Ат, бачыце, амаль ва ўсяго класа!.. Але па хуткім часе баявыя дзеі распачаліся на Данецкім і Харкаўскім напрамках. Генеральны штаб, а разам з ім і багата іншых установаў перанеслі ў Харкаў. А якіх украінскіх генералаў вы ведаеце? Хуценька!..

– Цюцюнік!

– Зялёны!

– Махно!

– Будзёны!

– Катоўскі!

– Віктар Пятровіч, а ці праўда, што Клім Варашылаў уцёк да Расеі, бо яго Будзёны паабяцаў пасекчы шабляй, калі заспеў са сваёй жонкай?

– Не вярзіце лухту! – грымнуў настаўнік. – На наступным тыдні кантрольная. Усім паўтарыць закалот пад Багадухавым і іншыя падзеі Вызвольнай вайны! Па самое Белгародскае замірэнне 9 траўня, то бок па Дзень Перамогі! Будуць па чатыры варыянты адказаў, а я буду пільнаваць, каб ніхто не спісаў!

На калідоры заверашчаў званок, і Кацюба прадбачліва адышоў ад дзвярэй. Вучні са смехам і грукатам выкаціліся з класа, і за імі, трымаючы пад пахаю скрутак геаграфічных карт, выйшаў настаўнік. Віктар Пятровіч, у зашмальцаваным на локцях пінжаку, выглядаў шэрым і невыразным – якім і мае быць ідэальны агент. Пятроў пераняў позірк госця без здзіўлення – маўляў, чакаў твой візіт.

– Пагаворым не тут, – прашаптаў настаўнік, прывітаўшыся за руку. – Ёсць тут адзін барчык.

Па хуткім часе эсбэушнік з агентам перайшлі дарогу і спусціліся ў падвал шэрай будыніны. Гэта быў тракцір “Купідон”[2].

* * *

## ТРАКЦІР КУПІДОН

Уласнікам установы быў Фёдар Баландзін, расеец з-пад Арла. Тоўсты, брыласты, з касмыкаватай бародкай ён дэманстратыўна хадзіў у яскравачырвонай касаваротцы, слухаў на патэфоне Шаляпіна і чытаў расейскія эмігранцкія газеты: “Парыжскія ведамасці” і берлінскі “Голас эміграцыі”. Абслугоўвала кліентаў рудая крыклівая дзеўка Танька, цыбатая і шкодная.

---

[1] Бой пад Крутамі – закалот паміж вайскоўцамі УНР і Савецкай Расеі, які адбыўся 30 студзеня 1918 г.

[2] “Купідон” у сучасным Кіеве – папулярная арт-кавярня, сталае месца літаратурных вечарын.

Напаўасветленая зала была пустой; толькі ў далёкім кутку, пад партрэтам Пушкіна, сядзеў нехта п'яненькі са стограмовым графінчыкам чагосьці моцнага і празрыстага.

Пятроў і Кацюба прыселі за столік. Фёдар, які без дайпатрэбы бадзяўся па зале, адбрэхваўся ад Танькі.

– Я вам казала, хазяін, нада ўкраінскія пласцінкі купіць к пацяфону! А то вам не толькі цвёрды знак адаб'ют. Вам яшчэ тое-сёе адаб'ют.

– Во яно што! – здзівіўся Пятроў. – А то ж, гляджу, на мінулым тыдні нейкія маладзёны тут круціліся, акурат пад шыльдай "ТрактірЪ "КупідонЪ». Яны, відаць, і адламілі!

– Здаровая рэакцыя маладых патрыётаў, – гмыкнуў Кацюба і позіркам запрасіў Фёдара.

Баландзін рукавом змахнуў са стала ўяўнае (а, можа, і не ўяўнае) крышава.

– Зараз Таньку пазаву! – прабасіў ён і, азірнуўшыся праз плячо так, што шчокі пачырванелі і абвіслі на высокі стаячы каўнер, гукнуў "Танька-а!", хаця афіцыянтка стаяла метры за чатыры пасярод залы і, уткнуўшы рукі ў бокі, назірала, як хлапчанё з місай і анучкай мые бетонную падлогу.

Пачуўшы Фёдараў голас, яна здрыганулася, паправіла фартух і неўпрыкмет штурханула хлопца пад рэбры; Кацюба ўбачыў, як у брудную місу кропнула слязінка.

– А я гавару, Вярцінскага пласцінкі купіць надабна! Он хоць і па-рускі паёт, но он жа кіеўлянін! – гукнула Танька. – А то ваша пастаянная "Барыня" людзей нервірует.

– Абслужы пасіціцелей! – гаркнуў Фёдар, і Танька нарэшце падышла да століка, чухаючы сябе па рэбрах.

– А ішчо такая Крушэльніцкая ёсць, Саламея[1]. Ізвесная очэнь! – бубніла афіцыянтка праз плячо. – Можэт, вам усё раўно, што слушаць, а нам з нім не ўсё раўно, – яна паказала вачыма на хлопчыка, які сядзеў на падлозе, перасоўваючы місу, – нашы з ім сэрцы трэбуюць перамен!

Эсбэушнік замовіў два піва з сухарыкамі і сняданак для сябе. Чаркнуліся куфлямі з Пятровым, выпілі.

Адносіны з гэтым агентам былі даверлівымі, амаль сяброўскімі. Таму і называлі адзін аднаго па-простаму...

– Што чуваць, Віктар? – Кацюба дагрызаў доўгі сухарык.

– Гатоўнасць, – адказаў Пятроў і адсунуў куфаль. – Гатоўнасць усіх, да ўсяго і найвышэйшага ўзроўню. Ат так вось, Юрка!

– Патлумач, – Кацюба паказаў вачыма на місу з сухарамі; агент захрумкаў, бы трусік.

– Паведамленне не абміне. Яно для ўсёй сеткі, – раптам Пятроў перастаў храбусцець, пальцамі раскрышыў сухар на стале перад сабою. – А то магу паказаць. Тут недалёка, каля Гарадской Думы.

Фёдар за стойкай уключыў патэфон – у глыбіні залы зарагатаў бас Шаляпіна: "Блаха! А-ха-ха-ха! Блаха! А-ха-ха-ха!.."

Даеўшы яечню з патэльні і разлічыўшыся, Кацюба з Пятровым выйшлі з "Купідона" і пашыбавалі на Козінку. Ішлі шпарка, агент распавядаў у тэмпе хады:

[1] Саламея Крушэльніцкая (1872–1952) – оперная спявачка, надзвычай папулярная ў дваццатых-трыццатых гадах.

– Каля Думы вісіць вялікая скрынка для лістоў. Бляшаная такая, сіняя. Дык вось, на той скрыні адна рыска крэйдай азначае – “гатоўнасць поўная”. Калі дзве рыскі – “гатоўнасць надзвычайная”. А я ўчора іду на працу, гляджу – ажно тры рыскі! Ну, я неўпрыкмет іх ботам і выцер. А ўвечары вяртаюся дахаты – зноўку накрэмзаныя. Тры рыскі!

Кацюба выдатна ведаў пра гэты спосаб канспіратыўнай камунікацыі. Злавіць чалавека, які крэмзае рыскі, немагчыма. Дастаткова даць цыганяці ці беспрытульнаму грыўню і крэйду, і ён накрэмзае ў патрэбным месцы тое, што скажуць. А можна даць і пяць грыўняў таму, хто дасць цыганяці грыўню з крэйдаю...

Яны спусціліся на Козіну плошчу, прамінулі трамвайнае кола і падышлі да фасада Гарадской Думы. Праваруч галоўнага ўвахода, бліжэй да Хрэшчаціка, сапраўды груvасціўся бляшаны куб цёмна-сіняга колеру з трафарэтам “Украінская Пошта”.

– Ат, унізе, глядзіце, – паказаў Пятроў позіркам, але эсбэушнік ужо і сам бачыў тры крэйдавыя рыскі па-над самым ходнікам.

Поўная, надзвычайная і ўсеагульная гатоўнасць. Да чаго? Наперадзе вясна, праз колькі дзён травень, карнавал, потым – Дзень Перамогі з парадам. Тут можна чакаць чаго заўгодна. Вунь, палякі свайго прэзідэнта на трэці дзень на той свет выправілі...

Развітаўшыся з агентам, палкоўнік падаўся да Управы СБУ на Уладзімірскай.

Трэба было неяк рэагаваць, і прытым – неадкладна. Але як? Небяспека, калі яна насамрэч існавала, выглядала нязвыкла і таму была незразумелай, каб планаваць нейкія захады ў адказ.

Дыверсія? Тэрарыстычны замах? Верагоднасць такога не выключалася...

Перш-наперш трэба было сапраўды загадаць памежнікам: дбайны дагляд усіх мужчынаў ад 16 да 60 гадоў на расейскай мяжы.Ператрусы, допыты – усё грунтоўна, каб цвіка жалезнага не праваронiць.

А ёсць яшчэ адзін агент – непадалёк, блізка Кіева. Заўтра акурат пятніца, дзень кантакту. Варта замовіць які службовы транспарт, каб не ганяць “лінкольн” па той бездаражы; бетанаванай трасы туды яшчэ не праклалі.

Лепш выправіцца з горада на досвітку. Дакладней – уначы.

* * *

## НА ПРЫЧАЛЕ

Дняпро, старэнькі дэбаркадар, навакол – жоўтыя берагі... Службовы катэр СБУ ціха прычаліў да пустой прыстані. Надпіс “Ржышчаў” у ранішняй імгле амаль не чытаўся. Каля самай вады гандлявала піражкамі дзяўчынка сямі-васьмі гадкоў. Кавалачкі печанага цеста цямнелі на кіеўскай газеце “Першая сталіца”.

– Колькі? – пацікавіўся Кацюба.

– Па дваццаць шáгаў! – дзяўчынка глянула на яго знізу вадзяністымі і па-даросламу нядобрымі вачыма. Рудыя, нібы пафарбаваныя кудзеркі апраўлялі квадратны тварык, у ніжняй скiвіцы бракавала двух зубоў. – Ну што – возьмеце?

У інтанацыі Кацюба раптам адчуў базарную прадавачку ці нават вулічную дзеўку. Выцягнуў з кішэні грыўню з помнікам Уладзіміру Вялікаму, працягнуў.

– Як цябе зваць?

– Ліна! – дзяўчынка выхапіла манету і імгненна схавала пад вопраткай. – Але рэшты ў мяне няма.

Эсбэушнік пасміхнуўся, узяў абрывак газеты з піражкамі – важкімі, цупкімі на дотык.

– Ліна, ты хоць нагандлявала штосьці зраніцы? – прагучаў голас мужчыны, і ў тумане прамалявалася знаёмая высокая постаць. Гэта быў бацька Ліны – агент палкоўніка Кацюбы.

Дзяўчынка глянула сувора і абразліва скрывіла губу.

– Вітаю, Юрый Міхайлавіч! Якім ветрам у нашых краях?

– Спадарожным, Васіль, спадарожным, – Кацюба паціснуў працягнутую руку, сунуў піражкі ў кішэню і зарыентаваў агента да берага.

– Я ведаю, нашто вы тут, – Васіль выцягнуў з пачкі папіросу, змяў, уставіў у рот. – Але нічога канкрэтнага, Юрый Міхайлавіч, не ведаю. Толькі папярэджанні пра гатоўнасць.

– Поўная, надзвычайная і ўсеагульная? – эсбэушнік заклаў рукі за спіну, гледзячы, як суразмоўца прыпальвае ад запальнічкі, зробленай з патроннай гільзы.

– Менавіта так. Тры дні таму, напачатку тыдня, тут буксір праходзіў. І тры гудкі даў, – Васіль з асалодай зацягнуўся. – Заўсёды адзін даваў, а тут – тры.

Кацюба прынюхаўся да папяроснага дыму. Гэта быў не тытунь – характэрны водар канопляў выразна вылучаўся на тле ўсіх пахаў.

– Ажно тры разы, кажаш? А папяроса ў цябе духмяная...

– Вы пачулі? Ну, нарваў крыху самасаду. Не такі, як вы звычайна з Галандыі прывозіце, але таксама чапляе. Хочаце пацягнуць?

Эсбэушнік моўчкі ўзяў папяросу, зацягнуўся глыбока і хутка, заперхаў горлам і нарэшце выпусціў дым. – Ат, рэзкая, халера!

– Я ж кажу – самасад, – Васіль прыняў з рук палкоўніка недапалак, пацягнуў, прамовіў прыдушана: – «Пятка» ваша. То ж самы цымус!

Кацюба асцярожна ўзяў пальцамі куцы хвосцік, абхапіў вуснамі крыху раскіслы папяровы муштук. Зацягнуўся акуратна, паступова ўдыхаючы едкую субстанцыю з пякучымі ноткамі. Затрымаў дыханне, адчуў лёгкі звон у галаве і выдыхнуў дым...

– Добра, – эсбэушнік глядзеў на папяросную паперу з дробненькімі выспамі агеньчыкаў, скамечыў недапалак і кінуў у раку. – Значыцца, і ты нічога канкрэтнага сказаць не можаш?

– Юрый Міхайлавіч! У мяне сувязі з імі ўжо тры гады, як няма. Я тут падлікоўцам працую, у рыбным гадавальніку. Можна сказаць – завязаў з мінулым. Вунь – дачку гадую!

– Ну, тады гадуй...

Кацюба пашыбаваў да катэра. Васіль ішоў поруч, засяроджана глядзеў кудысь у далечыню. Яны паціснулі рукі адзін аднаму, і эсбэушнік крыху затрымаў позірк на агенце: ён узяў дзяўчынку за руку, каб сысці з прычала. На развітанне Ліна паспела азірнуцца і проста з туману апякла палкоўніка лютым недзіцячым паглядам. Катэр адчаліў, і праз якую хвіліну з туману пачуўся прыглушаны голас агента:

– Юрый Міхайлавіч! Піражкоў есці не варта!

Зараўлі рухавікі, разгарнулі катэр супраць плыні. Кацюба намацаў у кішэні піражкі, павагаўся, але шпурлянуў іх на сярэдзіну Дняпра. Бурыя

бомбачкі хутка разнесла хвалямі, і яны, набрыняўшы вадою, пайшлі на дно. Катэр ляцеў на поўнач. Эсбэушнік не мог бачыць, як з каламутнай глыбіні ўзняўся дагары белым пузам вялізны сом. Колькі разоў бездапаможна варухнуў пляскатым хвастом, але плынь падхапіла яго і пацягнула яго ўніз па рацэ.

* * *

## ГРАМАДЗЯНІН БУЛГАКАЎ

Тэрміны падцiскалі. На наступным тыдні Кацюбу чакалі ў Харкаве на ўрачыстай харытацыі. Юрый Міхайлавіч паважаў тую прыўкрасную цырымонію і яшчэ ані разу яе не прапусціў.

Але ў Галаўное ўправе СБУ палкоўніка Кацюбу чакала шыфраграма з грыфам "тэрмінова". Сярод пасажыраў, якія ўчора прайшлі праз расейска-ўкраінскую мяжу, выявілі грамадзяніна СССР, мяшканца горада Масква, ураджэнца Кіева – Булгакава Міхаіла Апанасавіча. Булгакаў М.А., па прафесіі доктар-венеролаг, які працаваў загадчыкам літчасткі ў адным з маскоўскіх тэатраў і неаднаразова быў заўважаны ў антыўкраінскіх настроях і ў публічным іх выказванні. У цягніку "Масква – Кіеў", пры даглядзе асабістых рэчаў Булгакава, памежнікі выявілі колькі брашур "Сабачыя яйцы" булгакаўскага аўтарства. Асобна ў справаздачы адзначалася варожае стаўленне Булгакава да ўсіх праяваў украінскай дзяржаўнасці: формы і фуражак з трызубамі і неабходнасці запаўняць мытную дэкларацыю.

Прачытаўшы шыфраграму, Кацюба толькі скрывіўся: ну хіба дыверсант стане дэманстраваць сваю варожасць? А сварыцца з памежнікамі – то проста смешна. Але служба вонкавага назірання пільнавала Булгакава ад учора і высветліла, што спыніўся ён у сваякоў у будынку Лістоўнічых, што на Андрэеўскім узвозе. Ніякіх кантактаў за няпоўныя содні зафіксавана не было – госць пакуль што не выходзіў на вуліцу.

Паснедаўшы пасля размовы на прычале проста ў буфеце СБУ, Кацюба папрасіў малодшых афіцэраў знайсці яму цывільную вопратку і добры ровар.

Праз паўгадзіны ён выглядаў тыповым дзяржслужбоўцам, які атрымаў нечаканы выходны сярод працоўнага тыдня і вырашыў прысвяціць яго шпацыру на ровары: сціплыя палатняныя нагавіцы з падкасанай калашынай, кашуля навыпуск, цёмныя акуляры, і, натуральна – двухколавы спартыўны прыгажун... І ўжо праз паўгадзіны эсбэушнік спешыўся з ровара каля Андрэеўскай царквы і паволі павёў яго брукаванкай уніз, нібы разглядаючы гандлёвыя яткі, на якія Кіеў стаў надзвычай урадлівым. Адразу за Замкам Рышарда, у піўніцы са столікамі на тэрасе, палкоўнік прыхінуў ровар да сцяны. Сеў за столік тварам да вуліцы, замовіў куфаль цёмнага падольскага...

Юнак на супрацьлеглым баку вуліцы адразу прывабіў увагу эсбэушніка: шэрыя галіфэ, запраўленыя ў боты, шэрая вайсковая кашуля, перацягнутая скураным раменьчыкам... Ніякіх знакаў адрознення на вайсковай форме не было. У абліччы юнака нешта насцярожвала, але Кацюба не мог зразумець, што менавіта. Беларусая кароткая фрызура, нос бульбінкай, светлыя маладыя вусікі, зухавата закручаныя на канцах... Юнак паволі спускаўся Андрэеўскім узвозам, заклаўшы рукі за спіну, пры гэтым нечакана шыро-

кая грудзіна выдавалася наперад. Акурат побач з піўніцай ён спыніўся і радасна памахаў дзядзьку, апранутаму не па надвор'і ў габардзінавы строй балотных адценняў.

Яны цёпла прывіталіся і паволі пашыбавалі Андрэеўскім узвозам угару. Юнак глядзеў на дзядзьку са шчырым і непрыхаваным захапленнем. Дзядзька высока трымаў галаву, і профіль яго глядзеўся важка і манументальна. Размаўлялі яны на расейскай.

– А в Маскве піва дарожэ, но гораздо лучшэ... – данеслася да палкоўніка.

– Да ў Маскве ўсё лучшэ! – радасна пагадзіўся юнак.

Суразмоўцы ішлі нетаропка. Кацюба дапіў піва, кінуў на стол грошы і, не чакаючы рэшты, павёў ровар за фігурантамі.

Перад Андрэеўскай царквой Міхаіл Булгакаў з юнаком збочылі леваруч, да паркавай алеі. Дасведчаны Кацюба трымаўся наводдаль, але не губляючы парачку з поля зроку. Тым часам на алеі з'явіўся паліцэйскі нарад: двое мужчынаў у сініх галіфэ, гімнасцёрках і шаломах. Эсбэушнік спыніўся, зрабіў выгляд, нібы папраўляе роварны ланцуг. Калі паліцыянты падышлі бліжэй, хуценька паказаў пасведчанне, перадаў ровар ім і загадаў даставіць яго да Галаўнога ўпраўлення СБУ. І ўжо з вольнымі рукамі пашыбаваў, не губляючы з вачэй балотны габардзінавы строй.

Дзядзька з юнаком рухаліся няспешна. Эсбэушнік трымаў дыстанцыю. Спадарожнікі колькі разоў азірнуліся, але на вуліцы было шмат людзей. Кацюба і надалей удаваў дзяржслужбоўца на адпачынку: медытатыўна азіраў дрэвы і кустоўе.

Ад помніка Уладзіміру Вялікаму расеец з маладым спадарожнікам рушылі ўніз, да Дняпра. Але да ракі не дайшлі, а знянацку збочылі ў хмызы. За зяленівам прамалёўвалася дашчаная сцэнка летняга майданчыка – ці то тэатра, ці то танцавальнай эстрады. За лавачкамі шарэла драўляная будка – пэўна, там спадарожнікі і схаваліся.

Эсбэушнік асцярожна рассунуў кустоўе і на дыбачках падышоў да будкі, прыклаў вуха да прапахлых жывіцай дошак.

– Эті хохлы уже совсем озверелі со своей мовой... – пачуўся з сярэдзіны юнакоў голас. – Прямо везде, і в трамвае, і на уліце – "трэба размаўляць украінскай". Цьху!..

– Потерпіте, Алесь, – нягучна адрэагаваў суразмоўца. – Вот наведем порядок в Сібірі, тогда і к вам на помошчь прідём. Россія своіх в беде не бросает. Вот только Кіров – человек нерешітельный, долго размышляет.

– Уж слішком долго! – узнёслым фальцэтам выгукнуў юнак.

– Нічево. Рускіе, как говорітся, долго запрягают, но быстро едут. Прідзём, прідзём на помошчь Малороссіі!..

Апошняя фраза была прамоўлена прыдушана, і суразмоўцы змоўклі на цэлую хвіліну – бы зрэзала. Эсбэушнік асцярожна зазірнуў у шчыліну паміж дошак. У будцы грувасціліся крэслы і пюпітры – пэўна, для аркестра, які граў тут па выходных. На крэслах збоку сядзелі Булгакаў і юнак. Яны цалаваліся.

– Твае вусы мне твар казычуць, – перапыніў пацалунак Міхаіл Апанасавіч, крыху адсунуўся і пачухаў губу.

Юнак паклаў яму галаву на плячо, заплюшчыў вочы і аберуч прыціснуў да сябе каханка. Той акуратна расшпіліў верхнія гузікі гімнасцёркі юнака. І схамянуўся ў жаху:

– Эта што?!

Пад расшпіленай гімнасцёркай выразна пукаціліся небуйныя, але аб'ёмна-рэльефныя дзявочыя цыцкі.

– Так ты – дзевіца? – прыгаломшана прахрыпеў Булгакаў.

– Да!

Юнак прыціснуў да цыцак далоні, зашпіліў гімнасцёрку і ўкленчыў перад дзядзькам, хапаючы яго за далоні.

– Міхаіл Афанасьевіч! Міхаіл Афанасьевіч! Да, я дзевіца! Но я руская, я рускій, я рускій патріот!

Булгакаў спрабаваў быў вызваліць рукі, але маладзён-маладзіца сціскаў з адчаем іх танюткімі пальцамі.

– Я Алеся. Олеся Бу́зіна. С ударeніем на первом слоге. А нікакая не «Бузі́на», как эті хахлы требуют. Я Олеся Бэзіна. Я девушка, но мечтаю быть мужчіной. Рускім мужчіной!

– І что мне с тобой делать, Олеся? – расчаравана працягнуў Булгакаў.

– А то же, что і с мужчінамі. Я ведь только так это і делаю. Да! – дзявуля прамаўляла швыдка і ўзнёсла, бялявы вус камічна адклеіўся і вібраваў на скразняку. Нарэшце яна адпусціла далоні Булгакава і выдрала з-пад носа бутафорскую аздобу. – Я спередзі ешчо нікому не давала. Спередзі – да, я девіца. Но ведь вам і не нужно спереді, правда ведь?

– Правда, – пагадзіўся Булгакаў і падняўся з-за стала.

Дзявуля відавочна вырашыла, што ён хоча сысці, і малітоўна абхапіла яго за талію. Але Міхаіл Апанасавічы толькі расшпіліў габардзінавы пінжак і ўзяўся распускаць раменьчык нагавіцаў.

– Я помогу, я помогу!.. – мітуслíва залапатала маладзіца.

Кацюба адвёў вочы ад шчыліны паміж дошкамі і кароткімі, амаль нячутнымі крокамі адышоў ад будачкі.

Неўзабаве ён крочыў па вулцы ўгару, у супрацьлеглы ад Дняпра бок. Веснавы ветрык варушыў на дняпроўскіх схілах галінкі з набрынялымі пупышкамі. Яскравае маладое зяленіва панавала па-над горадам...

Эма Яленская



...палескія землі, бясспрэчна,
маюць выдатную будучыню...

# Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце

*Пачатак.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

## Эма Яленская – паненка з вёскі Камаровічы

Дзейнасць Эмы Яленскай-Дмахоўскай выразна паўстае ў трох іпастасях.

З яе імем звязаны прыкметныя для свайго часу набыткі ў польскай літаратуры. Як пісьменніца яна працягвала традыцыі Баляслава Пруса і Элізы Ажэшкі, пакінула цэлы шэраг празаічных і драматургічных твораў, якія заўсёды вызначаліся займальнай фабулай, закраналі грамадска-бытавыя праблемы. Яе проза была перакладзена на нямецкую, чэшскую, рускую мовы, і сёння працягвае выдавацца ў Польшчы і не губляе свайго чытача (аповесці і апавяданні “Паненка”, “Двор у Галінішках”, “Пярсцёнак”, “Бацяны”, “Матка” і інш.).

Ад імя Эмы Яленскай-Дмахоўскай неад’емная і яе грамадска-палітычная і асветніцкая дзейнасць, у якой яна актыўна ўдзельнічала на працягу ўсяго свайго жыцця, да самых апошніх

дзён: стварала рухомыя бібліятэкі, арганізоўвала школы і сама выкладала ў іх, дапамагала настаўнікам словам і грашыма, з самаахвярнасцю і бескарыслівасцю праводзіла навучанне народных настаўніц. Рэдагуючы часопіс “Zorza Wileńska”, а пасля яго закрыцця – часопіс “Jutrzenka”, неаднойчы трапляла ў канфліктныя сітуацыі з цэнзурай і паліцыяй. Выданне яе першага часопіса закончылася працяглым палітычным працэсам і заключэннем у 1911 г. Яленскай-Дмахоўскай на два месяцы ў сумна славутую Лукішскую турму. Падчас нямецкай акупацыі была звязана з так званым Адукацыйным камітэтам, з'яўлялася заснавальніцай і прэзідэнтам Патрыятычнага саюза полек.

Трэцяя істотная грань дзейнасці Эмы Яленскай-Дмахоўскай выклікае ў нас, бадай, найбольшую цікавасць, бо яна была звязана са збіраннем і публікацыяй вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа і вывучэннем яго побыту. Менавіта гэтая малавядомая і да канца яшчэ не прачытаная старонка яе біяграфіі дае падставы звярнуцца да цікавай постаці і вярнуць амаль забытае імя беларускай фалькларысткі і этнографа сённяшняму чытачу.

Нарадзілася Эма Яленская ва Усходнім Палессі, у вёсцы Камаровічы Мазырскага павета Мінскай губерні 29 лютага 1864 г. у сям'і Амеліі (родам з Аскеркаў) і Зыгмунта-Гектара Яленскіх. Маёнтак Камаровічы ў згаданай вёсцы, як і сама вёска, і навакольныя землі, быў спадчыннай уласнасцю бацькі Эмы. Дзіцячыя гады яна правяла, галоўным чынам, на радзіме, а таксама ў маёнтку Глінцішкі пад Вільняю і ў самой Вільні. Навучалася дома пад наглядам хатніх настаўнікаў і маці, якая заўсёды клапацілася пра адукацыю дачкі і садзейнічала набыццю ёю ведаў не толькі на радзіме, але і за мяжою. У 1890 г. Эма выйшла замуж за доктара Казіміра Дмахоўскага і ў тым жа годзе разам з ім пераехала з родных Камаровічаў у Вільню, дзе ёй наканавана было пражыць свой астатні век – яшчэ 28 год.

Чым бы ні займалася яна на працягу свайго жыцця, ва ўсім адчувалася яе шчырая зацікаўленасць і адданасць абранай справе, сур'ёзны падыход, глыбіня разважанняў, мэтанакіраванасць. Атрымаўшы добрую адукацыю і застаючыся да пары да часу ў вёсцы, яна, як і яе маці, не цуралася простага люду, а, як відаць з яе грунтоўнага этнаграфічнага нарыса “Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце”, вельмі добра і ўсебакова ведала жыццё палескага селяніна. Ужо на раннім этапе сваёй творчасці яна выпрацавала ў сабе рысы ўважлівага даследчыка, аналітыка, здольнага без сентыментальнасці ці паблажлівасці (што часам праяўлялася ў падобнага роду працах іншых аўтараў) аб'ектыўна расказаць пра свой народ, які з маленства акружаў яе, з усімі яго вартасцямі і заганамі. Можна без перабольшвання сцвярджаць, што палескі, фальклорна-этнаграфічны перыяд дзейнасці, а таксама тагачаснае прагрэсіўнае пісьменства сфарміравалі Яленскую як асобу, падвялі яе да наступных жыццёвых напрамкаў – мастацкай літаратуры і грамадскай дзейнасці.

Яшчэ ў юнацтве пад уплывам славутага вучонага і рэдактара краязнаўчага часопіса “Wisła” Яна Карловіча Эма Яленская зацікавілася побытам, матэрыяльнай і духоўнай культурай беларускага народа. Публікацыі з розных рэгіёнаў, прадстаўленыя ў даволі папулярным тады часопісе, нібы падштурхоўвалі яе да разумення, што і ў яе родным краі, у асабліва блізкім ёй Мазырскім павеце, можна напаткаць шмат цікавага – такога, пра што яшчэ ніхто ніколі да яе не пісаў. Добра знаёмая з найбольш значнымі зборнікамі беларускага фальклору, яна ведала, на што можна арыентавацца і што трэба шукаць. Плён яе збіральніцкай дзейнасці быў даволі значны, асабліва калі ўлічыць, што ўсё яна рабіла без чыёй бы там ні было дапамогі, прычым на самым высокім прафесійным узроўні! І нават пераехаўшы на сталае пражыванне ў Вільню і страціўшы непасрэдныя кантакты з беларускай вёскаю, яна не забывалася на зробленыя на Палессі свае запісы, прыводзіла іх да ладу дзеля таго, каб праз краязнаўчы часопіс азнаёміць з імі чытача. І ўжо ў 1891 г. у сваіх лістах да Карловіча яна паведамляе пра цэлыя зборнікі вуснай

народнай творчасці, якія ёй удалося сабраць і ўпарадкаваць. Аднак, нягледзячы на намаганні тагачасных польскіх навукоўцаў, іх так і не ўдалося апублікаваць пры жыцці Яленскай. Лёс гэтых рукапісных зборнікаў склаўся па-рознаму.

Адзін з двух пакінутых Яленскай зборнікаў, у якім былі прадстаўлены казкі, з вялікім спазненнем, але ўсё ж пабачыў свет. Рукапіс яго яна даслала ў Кракаў яшчэ ў 1898 г., дзе ён і захоўваўся ўвесь гэты час у бібліятэцы польскай Акадэміі навук. Спачатку ён трапіў у Антрапалагічную камісію, потым быў перададзены ў Мовазнаўчую камісію, дзе, па сутнасці, былі пастаўлены пад сумненне і сапраўднасць асобы, якая збірала народныя творы, і методыка іх запісвання, і дакладнасць спосабу перадачы мясцовай гаворкі. Магчыма, перакідванне на працягу некалькіх год рукапісу з аднае камісіі ў другую і відавочна недаверлівыя адносіны да сумлення праведзеных ёю запісаў (а хто з еўрапейскіх вучоных лепш за яе мог ведаць палескую гаворку, якую яна перадала з надзвычайнай, асабліва для таго часу, дакладнасцю?), а значыць і да яе як фалькларысткі, разбуралі спадзяванні на тое, што казкі з родных Камаровічаў, а таксама запісаныя ў іншых кутках Рэчыцкага і Наваградскага паветаў некалі пабачаць свет. Больш яна не пісала ў Кракаў, не апраўдвалася, што, відаць, і не дазволіла давесці рукапіс да друку. Зрэшты – на той час у Яленскай-Дмахоўскай былі ўжо іншыя дамінанты: досыць прыкметны поспех у красным пісьменстве (перамогі на літаратурных конкурсах імя Баляслава Пруса і Генрыка Сянкевіча), а таксама актыўны ўдзел у грамадскім руху. А між тым дарэмнымі былі сумненні вучоных мужоў у падачы тэкстаў, у адпаведнасці іх жывой вясковай гаворцы. Запісы фалькларысткі зберагалі фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя і сінтаксічныя асаблівасці мовы тых мясцін, у якіх ёй давялося занатоўваць вуснапаэтычныя творы. Высокую якасць запісаў пацвярджаюць і сучасныя мовазнаўцы. Маўклівае, бяздзейснае існаванне казачнай калекцыі Яленскай працягвалася роўна тры чвэрці стагоддзя. Ад забыцця яны аказаліся абуджаныя беларускімі даследчыкамі і неўзабаве сталі здабыткам чытачоў новага часу. 62 тэксты казак, сабраных Яленскай, былі выдадзены ў Мінску ў 1976 г. асобнай кніжкаю пад назваю "Беларускі казачны эпас" (склад. У.В. Анічэнка). Своечасовы выхад зборніка казак, запісаных Эмай Яленскай, мог бы з'явіцца немалой падзеяй для ўсёй славянскай фалькларыстыкі, паколькі на збегу XIX і XX стагоддзяў пра Палессе і яго жыхароў у свеце ведалі вельмі мала.

Другі рукапісны зборнік «Песні, прыслоўі і загадкі з Камаровіч», які ахопліваў у першую чаргу 367 тэкстаў песень розных жанраў, на вялікі жаль, да цяперашняга часу яшчэ не апублікаваны.

Разам са збіраннем твораў вуснай народнай паэзіі Э. Яленская выступала і як даследчык народнага побыту. І тут, на шчасце, гэтая яе галоўная этнаграфічная праца своечасова дайшла да чытача. У 1891-1892 гг. "Wisła" на сваіх старонках апублікавала нарыс "Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце". Яленская зразумела, што яе родны куток, схаваны сярод пушчаў, пяскоў і балот (да бліжэйшай станцыі падчас напісання было 35 вёрст), уяўляе надзвычайную цікавасць. Адасобленыя ад цывілізаванага свету, які здаваўся ім нечым казачным, палешукі здолелі захаваць свой непаўторны лад жыцця. Закрануўшы паходжанне вёскі, аўтарка ў сваёй працы падала ўсебаковае яе апісанне: падворкаў, хат, пасяленняў, маёнткаў. Вялікая ўвага ўдзелена гаспадарчым пытанням – агародніцтву, працы ў полі, вырошчванні ільну, жывёлагадоўлі. Расказваючы аб прыродзе Палесся, Яленская пералічвае жывёл і птушак, якія водзяцца ў гэтым краі, прычым падае побач з польскімі адпаведнікамі беларускія назвы. Гэтаксама дэталёва разглядае яна і раслінны свет.

Паспрабавала даследчыца ў сваіх назіраннях паказаць эстэтычныя погляды палешукоў, спыніўшыся на аздабленні хатняга абсталявання і асабліва на святочным адзенні, дзе выявілася іх непадробная цяга да прыгожага. Яленская

здолела зразумець і адчуць народную эстэтыку і па сапраўднаму ацаніць густ беларускіх сялянаў. Яна з захапленнем піша пра мастацкае вынаходніцтва ў строях і тканінах, пра разнастайнасць узораў і арнаментаў.

Распавядаючы пра жыццё і побыт вяскоўцаў, не магла яна, вядома, абмінуць іх сямейныя святы і абрады. Важнае месца ўдзяліла даследчыца народным уяўленням і вераванням палешукоў. У сваёй працы Эма Яленская раскрыла багатую народную міфалогію. Са слоў сялянаў яна пералічыла і падрабязна ахарактарызавала тых фантастычных істотаў, у якіх верылі яе землякі. Значнае месца ў жыцці сялянаў займалі і земляробчыя святы, кожнае з якіх селянін чакаў з асаблівай нецярплівасцю, паколькі яно давала кароткі адпачынак ад штодзённых клопатаў, несла з сабою весялосць, забавы і наогул актывізавала іх духоўнае жыццё, канцэнтравала розныя праявы народнай культуры. Эма Яленская дала апісанне амаль усіх асноўных каляндарных абрадаў, што адзначаліся ў Камаровічах.

На старонках нарыса даследчыца разгледзела самыя розныя бакі жыцця палескіх сялянаў. Тут можна даведацца і пра кірмашы, і пра мясцовую школу і бальніцу, і пра карчму, і пра ўзаемаадносіны ў сям'і і з суседзямі, пра гадаванне дзяцей, пра гульні і забавы. Праца Эмы Яленскай "Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце" стала, можна сказаць, універсальным, комплексным даследаваннем, пабудаваным на прыкладзе ўсяго толькі адной вёскі, дзе знайшло месца адлюстраванне яе гісторыі, геаграфіі і культуры яе насельнікаў. Добра ўсведамляючы адсталасць палескага селяніна як вынік ізаляванасці, яна пераканаўча сцвярджала самабытнасць і разнастайнасць яго ўнутранага свету, яго духоўнай і матэрыяльнай культуры. Яна не дазволіла сабе перайсці мяжы, дзе, з аднаго боку, няцяжка збіцца на зняважлівы тон, а з другога – трапіць у палон экзальтаваных захапленняў. Усё гэта было шчасліва ёю пазбегнута. Яе асноўнай мэтаю стала аб'ектыўнасць паказу, што фактычна не магло б праявіцца без разумення душы палескага селяніна, без павагі да яго. А менавіта такія адносіны якраз і характарызуюць аўтарскую пазіцыю Яленскай. З дэталёвага апісання відаць, што сама яна назірала палескае жыццё ў самай яго гушчы, завітвала да людзей як блізкі чалавек і сустракала адпаведныя даверлівыя адносіны.

Паненцы з глыбіннай вёскі ўдалося абудзіць шырокую цікавасць у чытачоў закранутай ёю тэмай (нездарма тэкст нарыса выйшаў пасля часопіснай публікацыі асобным выданнем). Больш за тое, гэтая цікавасць да беларускага Палесся перайшла межы славянскага свету, і літаральна праз некалькі год варыянт гэтага нарыса быў надрукаваны пад назваю "Folklore Polesien" ("Палескі фальклор") у парыжскім часопісе "La Tradition" (1894-1895).

З пераездам Эмы Яленскай у Вільню яе думкі пра Палессе, як і яе фальклорная і этнаграфічная праца, паступова аддаляліся, а новае асяроддзе ўжо скіроўвала да іншых тэм.

Фалькларыстычны і этнаграфічны шлях Эмы Яленскай-Дмахоўскай быў нядоўгі, але надзвычай плённы. Першая сярод айчынных навукоўцаў яна разгледзела адзін з найцікавейшых рэгіёнаў Беларусі – Усходняе Палессе з такой падрабязнасцю, з якою ніхто яшчэ перад ёю да яго не падступаўся. Пасля яе пайшлі іншыя таленавітыя і больш маштабныя даследчыкі, але зробленае ў свой час маладой паненкай з вёскі Камаровічы не страціла сваёй каштоўнасці па сённяшні дзень.

Памерла Эма Яленская-Дмахоўская ў Вільні 24 студзеня 1919 г., праз два тыдні пасля таго, як бальшавікі першы раз занялі горад, і была пахаваная на могілках Росы.

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ**

## Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце

### *I.*

Вёска знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы Мазырскага павета, у самай глыбіні так званага Палесся, сярод пушчаў, пяскоў і балот. Паселішча гэтае ўзнікла, відаць, яшчэ на тэрыторыі старадаўніх дрыгавічоў, у вельмі аддаленыя часы, пра што могуць сведчыць і могілкі, якія год таму назад вывучаў доктар Завітневіч з Кіева і якія, паводле яго вызначэння, бяруць свой пачатак з VIII-IX стагоддзя[1]. Пазней, у XVI стагоддзі, Камаровічы ўваходзілі ў склад зямель, якія належалі князям Алелькавічам Слуцкім, і толькі пасля распаду тых уладанняў на дробныя часткі яны пераходзілі з рук у рукі, пакуль у пачатку XVIII стагоддзя не дасталіся польскай шляхецкай сям'і, якая валодае гэтымі землямі і дагэтуль.

У выніку разнастайных зменаў, асабліва пасля распараджэнняў уладальнікаў Камаровічаў, колішняя вёска змяніла сваё размяшчэнне. Старыя людзі яшчэ памятаюць, як Камаровічы ўяўлялі сабою адну доўгую вёску, пасярэдзіне якой знаходзіўся панскі двор. Потым, відаць, калі насельніцтва павялічылася, вёска аказалася падзеленая на дзве часткі, і абедзве яны адсунуліся ад панскага двара, можа, дзеля таго, каб утварыць сабе больш прасторныя палеткі. У выніку цяпер існуюць дзве асобныя вёскі: адна – *Камаровічы*, што за паўвярсты ад двара (там знаходзіцца дом праваслаўнага святара і некалькі халуп, заселеных колішнімі панскімі слугамі ці іх нашчадкамі), другая, на аддаленні – *Заполле*, аддзеленая грэбелькаю і большая за Камаровічы. Там знаходзіцца "воласць", школа і дом фельчара з памяшканнем для хворых. Паміж жыхарамі Заполля і Камаровічаў няма ніякае розніцы ні ў мове, ні ў звычаях; яны ладзяць паміж сабою, жывуць у прыязнасці і згодзе, разам з'яўляюцца на працу, часта жэняцца, пераходзячы з аднае вёскі ў другую. Калі спытаць у селяніна: "Адкуль ты?", ён спакойна адкажа, чухаючы галаву: "А камаровіцкі, паночку", або "Адкуль жэ? З Заполля".

Камаровіцкая воласць разлягаецца даволі шырока. У яе ўваходзіць 13 вёсак: Камаровічы, Заполле, Вялікія Гарадзяцічы, Малыя Гарадзяцічы, Убійбацькі, Галоўчыцы, Філіпавічы, Ванюжыцы, Навасёлкі, Гурыны, Млынок, Бобрык і Фаставічы. Гэтаксама, як і ўсе воласці ў імперыі і заходніх губернях, яна мае самакіраванне, выбірае "старшыну", "сотнікаў" і г д. У суседніх валасцях старшынёю прызначылі самага нядбайнага ў вёсцы гаспадара, у перакананні, што з такім заўсёды лягчэй дамовіцца і што ён будзе менш сачыць за парадкам, а праз гэта будзе больш свабоды. У Камаровічах жа атрымалася наадварот: старшыня – даволі малады селянін, разумны, былы салдат, суровы, але справядлівы. Лепшым довадам пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню тутэйшых сялян з'яўляецца той факт, што выбіраюць яго ўжо ў чацвёрты раз.

Камаровічы да правядзення на Палессі чыгуначных шляхоў знаходзіліся за 130 вёрст ад чыгункі (у Бабруйску). Цяпер да бліжэйшай станцыі *Капцэвічы* на Гомельска-Пінскай лініі вёрст 35. Да павятовага горада Мазыра звыш 80 вёрст. А бліжэйшае мястэчка – бедны занядбаны куток *Капаткевічы*, вёрст за 5 адсюль – заселена пераважна яўрэямі і некалькімі рамеснікамі-хрысціянамі. Там таксама ёсць пошта, аптэка і нядаўна аселы лекар. Акрамя таго, там была яшчэ каталіцкая парафія і пробаства, але ўжо некалькі год пасля смерці пробашча месца яго засталося вольным, а касцёл аддадзены пад кіраўніцтва мазырскага дэкана. Такім чынам, вёска Камаровічы, можна сказаць, ёсць тым, што можна назваць заняпалай глухаманню. Сувязь са знешнім светам, акрамя валаснай пошты, якая

[1] Завитневич В.З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье. Киев, 1890.

дастаўляе лісты і карэспандэнцыю 2 разы на тыдзень, вельмі складаная. Дрэнны стан дарог, летам пяскі, а ўвосень і ўвесну непраходная гразь у вёсках і на грэблях таксама з'яўляюцца прычынаю таго, што жыхары жывуць выключна самі для сябе, адасоблена, ствараючы свой адметны свет, да якога амаль не маюць подступу знешнія, чужыя ўплывы, і самі людзі вельмі мала цікавяцца далёкім светам. У свядомасці палешука, які нарадзіўся ў сваёй вёсцы, вырас у вузкім коле сваёй сям'і і суседзяў, які састарэў сярод гэтага акружэння, астатні свет уяўляецца нечым не зусім сапраўдным, нават крыху казачнымі дзівосамі, у якія паверыць цалкам проста небяспечна.

Нават з пункту гледжання водных шляхоў зносін, якімі так шырока карыстаюцца на Палессі, Камаровічы аказаліся пакрыўджаныя лёсам. За тры вярсты ад вёскі цячэ сапраўдная рака *Арэса*, якая ўпадае ў *Пціч*, аднак у якасці воднага шляху яна можа служыць толькі кароткі веснавы перыяд, калі яе шырока разлітыя воды могуць рухаць нават вялікія баркі. Улетку яна месцамі амаль поўнасцю перасыхае, і яе можна пераплысці і перайсці, месцамі ж віры і ямы ўскладняюць пераправу праз яе. Моцная і хуткая плынь ракі некалі прыводзіла ў рух млыны, сукнавальні і нават паўвека таму назад тут размяшчалася паперня. Сёння на камаровіцкім беразе засталіся толькі сляды ад грэблі, рэшткі печаў і нададзеная мясцовасці назва *Рудня*, дзе калісьці капалі жалезную руду. Відавочна, навакольныя балоты змяшчаюць у сабе вялізную колькасць гэтай руды, а ў былыя часы пераплаўка яе была адной з галоўных галін промыслаў у гэтым краі. Арэса мае нізкія берагі, часткова пакрытыя ўздоўж сасновым лесам. Рэчышча яе даволі шырокае, з надзвычай дзівоснымі паваротамі. З ёю злучаюцца некалькі малых ставоў, утвараючы большыя або меншыя выспы, зарослыя лазою; вялікі трыснёг і чарот шчодра пакрываюць яе берагі. Надзвычай сумны, дзікі і чароўны пейзаж.

Вёска Камаровічы ляжыць на нахіленай раўніне. На адным баку вёскі цягнуцца роўнымі шнурамі сялянскія палі, а на другім – велізарныя забалочаныя лугі, якія ўдалечыні заканчваюцца сасновым лесам. Вёска Заполле размясцілася амаль каля самога лесу, адным канцом яна дакранаецца да яго і мае весялейшы выгляд. Наогул жа гэты палескі кут даволі плоскі, пакрыты рэдкім лесам, часта карлікавым, або ён свеціцца пясчанымі палянамі, на якіх акрамя дзіванны і сухасвету нічога не можа расці. Пры ўзыходзе сонца і пры заходзе над балотамі і лугамі ўздымаюцца ў паветры серабрыстыя туманы, засланяючы далёкі гарызонт. Тады чалавек адчувае сябе аддзеленым ад усяго свету, нібыта выпадкова выкінутым на бязлюдную выспу пасярод туману і хаатычна параскіданых багнаў. У гэтым ёсць нейкая дзіўная, але надзвычай моцная прыцягальнасць.

Палескія землі вызначаюцца перш за ўсё велізарнымі абшарамі. Мазырскі павет налічвае 1.272.370 квадратных дзесяцін. З іх 218.509 кв. дзес. належаць сялянам. Застаецца, такім чынам, 1.053.861 кв. дзес. дзяржаўнай і гаспадарскай зямлі. Але гэтых гаспадароў у нашым павеце такая невялікая колькасць, што на кожнага прыпадаюць даволі значныя плошчы зямлі. У даўнейшыя часы, пры паншчыне, гэта былі вялікія, багатыя памесці. Цяпер жа змяніліся абставіны, і, застаўшыся без дастатковай колькасці рабочых рук, велізарныя тэрыторыі з высечанымі лясамі ўжо не эксплуатуюцца; часта яны, цалкам пакінутыя сваімі ўладальнікамі, сведчаць толькі пра колішнюю заможнасць шляхты ў гэтым краі. Палескія землі, бясспрэчна, маюць выдатную будучыню: багатая зямля, нягледзячы на невялікія ўраджаі, неабсяжныя лугі, лясы, – усё гэта пры добрай працы і капітале магло б некалі прыносіць высокія працэнты.

Малых гаспадарак адносна мала ў нашых краях. Тыя ж, якія ёсць, утварыліся як маленькія фальваркі, дадзеныя былымі панамі сваім аканомам, лоўчым і г.д. за добрую службу. Такія гаспадаркі рэдка пераходзяць у чужыя рукі. Вялікія ж маёнткі сапраўды значныя. Не гаворачы ўжо пра такія магнацкія ўладанні, як

Петрыкаўшчына Хадкевічаў альбо былыя землі Радзівілаў, што належаць цяпер княгіні Хогенлоге. Звычайны шляхціч часта мае больш за 20.000 кв. дзес. Такі абшар толькі ўскладняў і абцяжарваў справу кіравання гаспадаркаю, а недахоп людзей і рабочай сілы яшчэ больш дае сябе адчуць на такіх прасторах.

Камаровіцкія землі, калі не ўлічваць зямель, якія належаць сялянам, ахопліваюць 16.700 кв. дзес. У выніку сказанага суседства атрымліваецца далёкім, вёскі рэдкія і параскіданыя, і ў цэлым край аказваецца вельмі мала заселены. На поўдзень ад панскага двара, які размяшчаецца больш-менш у самым цэнтры Камаровічаў, за 10 вёрст, калі ехаць летняй дарогаю, знаходзіцца фальварак Галоўчыцы, а на поўнач, за вёрст 12 – фальварак Бобрык. Самая блізкая да Камаровічаў вёска раскінулася на супрацьлеглым беразе Арэсы, ужо ў Бабруйскім павеце – урадавая вёска Фаставічы ("Хваставічы"). Далей цягнуцца велізарныя тэрыторыі, што некалі належалі Радзівілам; далей – Грабаў, Навасёлкі і Філіпавічы ("Пiліпавічы"), праз вёрст 15 – Ванюжыцы, уласнасць гаспадара з-пад Вільні; яшчэ праз мілі чатыры – Лучыцы, што мяжуюць з Галаўч*ы*цамі – колішнія ўладанні вядомага філантропа Напалеона Яленскага, цяпер купленыя гаспадыняю з-пад Масквы; і, нарэшце, Міхедавічы. Далей ужо – вёскі, якія не маюць межаў з Камаровічамі: Слабада, Ляскавічы, Капцэвічы, Чалюшчавічы, Дарашэвічы, Капаткевічы, Міхнавічы, Людзяневічы.

Камунікацыі паміж адной і другой вёскамі сустракаюцца вельмі рэдка. Яўрэі ездзяць увесь час, але сярод сялян можна сустрэць людзей, якія за некалькі дзесяцігоддзяў свайго жыцця не адважыліся на вандроўку далей, чым за пару міляў. Цікаўнасць для палешука – рыса зусім не характэрная; наадварот, ён моцна прывязаны да свайго кута і неахвотна пакідае яго. Нават шлюбы маладых людзей з розных вёсак бываюць даволі рэдка, а на ўсялякіх зборышчах, калі здараецца сустрэць суседзяў з наваколля, узаемная непрыхільнасць часта выяўляецца ў жартах, з'едлівых словах і ва ўпартым жаданні трымацца асобна, у коле сваіх людзей. Найбольш збіраецца людзей у Камаровічах падчас капання бульбы. Тады з навакольных і нават аддаленых вёсак прыбываюць на работу жанчыны і маладыя хлопцы і застаюцца там на некалькі дзён. Часам збіраецца такім чынам да 300 работнікаў.

Палессе, якое атрымала сваю назву ад лясоў, і сапраўды густа пакрыта лясамі. Мазырскі павет на 1.272.370 кв. дз. агульнай тэрыторыі мае: ворнай зямлі – 214.773 кв. дз., пад лясамі – 517.148 кв. дз., лугоў, выганаў і да т.п. – 110.266 кв. дз., непрыдатнай зямлі – 430.182 кв. дз. І атрымліваецца, што найбольшая плошча, ажно 40,6 % прыпадае на лясы. Раней нашы дубы і сосны здзіўлялі знаўцаў гэтай справы. Сёння мінула тая пара, бо ўладальнікі лесу не даюць дрэвам дажыць да найбольшага росквіту, а пазнейшым часам яны стараюцца праз кожны дзясятак гадоў спілаваць усё, што можна, дзеля пагашэння нейкіх даўгоў. Сяляне тым больш кіруюцца правілам: *"Чэго-чэго, а лесу ўсім будзе"*, і зусім не дбаюць пра захаванне парадку ў сваёй гаспадарцы; і ўжо ёсць нямала вёсак, у якіх людзі вымушаны купляць лес на дровы. Сапраўды, прыгожымі цяпер застаюцца толькі казённыя пушчы, дзе можна яшчэ любавацца і стогадовымі дубамі, і высокімі стройнымі мачтавымі соснамі, толькі ў самым версе ўвенчанымі цёмнай кронай. Найбольш распаўсюджаным дрэвам на Палессі, бясспрэчна, з'яўляецца сасна: на пясках яна карлікавая і адмыслова выкручаная, а на лепшых глебах расце густая, прамая, дасягаючы незвычайнай вышыні. Акрамя таго, расце тут дуб, елка, клён, ліпа, ясень, асіна, граб, бяроза, альха і рабіна; над вадою – вербы, найбольш кустамі, лаза, ляшчына, каліна, дзікая маліна і ажына, хмель, што ўсюды пнецца, і павоі з буйнымі белымі кветкамі. Гэта найбольш распаўсюджаныя па лясах расліны. Над ставамі і ручаямі расце шмат аеру, трыснягу і высокага цвёрдага чароту.

Лясы густа заселены featured рознага роду зверынаю. Сярод драпежнікаў найболь-

шай увагі заслугоўваюць мядзведзі, якіх тут сустракаецца даволі шмат. Летам яны снуюць па лясах, выдзіраючы пчолы, нападаючы на коней, што пасуцца на начлезе, ці часта выядаючы грэчку і авёс на сялянскіх палетках. Парою вясковыя жанчыны, вяртаючыся з лесу, з грыбоў, перапалоханыя, расказваюць, што сустрэлі мядзведзя. Зімою мядзведзі ўкладваюцца ў збудаваныя "барлогі" ў самых глухіх месцах лесу, і ў гэты час паляванне на іх найбольш паспяховае. Паляўнічых на Палессі шмат, і трапляюцца сярод іх такія, што сваімі рукамі забілі не менш як дзясятак, а то і яшчэ больш мядзведзяў. Дзікі таксама часта сустракаюцца сярод нізкіх і густых зараснікаў. Статкі сарнаў і аленяў ходзяць па лесе ў вялікай колькасці. Ласі, хоць і зрэдку, але завітваюць у нашы ваколіцы. А ваўкоў і лісаў маем велізарнае мноства. З меншага звяр'я ёсць зайцы, куніцы, ласкі, выдры, ваверкі, процьма кратоў і нават дзе-нідзе трапляюцца бабры, якія жывуць па некалькі сем'яў разам над берагамі рэк. Яшчэ гады два таму назад даводзілася бачыць бабровыя домікі, пабудаваныя за некалькі вёрст ад Камаровічаў над рэчкаю Бабрыцаю, якая, напэўна ж, ад гэтых звяроў і набыла сваю назву. На жаль, знішчэнне зверыны з'яўляецца адной з найбольш распаўсюджаных заганных звычак палешука, і ніякія папярэднія наказы, загады не ў стане прадухіліць выбіранне яек з птушыных гнёздаў, знішчэння маладых зайчанятак і наогул палявання ў забаронены час. Першым жаданнем маладога хлопца, калі ён знойдзе птушанятка або звярка – гэта схапіць яго і забіць. Пастухоўскія сабакі дзейнічаюць паводле гэтых жа самых інстынктаў, што і іх гаспадары, таму выпасванне жывёлы ў лесе становіцца ўсё большаю бядою для зверыны і птаства.

Птушак, асабліва на балотах, тут вельмі шмат. Самыя галоўныя і вядомыя – гэта: паўсюдна любімы бацян (*бусел*), нягледзячы, аднак, на іх вялікую колькасць у наваколлі, ні ў Камаровічах, ні ў Заполлі, ні нават у панскім двары яны не маюць сталых гнёздаў; ястраб, якога тут паўсюль называюць *коршакам* і ненавідзяць за шкоду, якую ён прыносіць; чапля, жораў (*журавель*), курапатка, *дзяцел*, глушэц, бекас, *рабчык*, *курка*, совы (некалькі разнавіднасцяў), *пугач*, сойка (*соя*), *сарока, варона,* буфал (*бык*) і шмат меншых – такіх, як вераб'і, гілі, сініцы, шчыглы, дразды, шпакі і г.д. Надвячоркам у вялікай колькасці вылятаюць са сваіх сховішчаў кажаны. Сапраўдным бедствам, асабліва ў траўні, з'яўляюцца камары. Цёплая і вільготная вясна спрыяе іх размнажэнню. Але яшчэ горшымі за іх бываюць мошкі, што накідваюцца на жывёлу. У лясах і на балотах водзяцца некалькі відаў вужоў, ёсць таксама вельмі ядавітыя гады, укус якіх, здараецца, бывае смяротны. Ластавак і жаб у Камаровічах амаль не відаць.

У рэках і азёрах ёсць некалькі відаў рыбы і мноства ракаў. У канавах і лужынах на "лугах" жывуць *уюны* – род печкуроў, якіх вельмі ахвотна спажываюць на Палессі.

## *II.*

Маёнтак Камаровічы каля 200 гадоў з'яўляецца ўласнасцю польскай шляхецкай сям'і. У двары цяпер жыве "паня", але сама яна не кіруе гаспадаркаю. Навакольны люд ведае яе ўжо больш за 20 гадоў, а пасля таго, як яна рана аўдавела, то сама цяпер знаходзіцца ў цесных стасунках з сялянамі, сярод якіх яна набыла агульную прыхільнасць і рэпутацыю "справядлівай" пані. Кіраванне маёмасцю пасля смерці спадчынніка адбывалася па-рознаму: спрабавалі і ўпраўляючыя, і арандатары. Сёння Камаровічы, нарэшце, перайшлі ў арэнду на 12 гадоў да суседа, які энергічна займаецца гаспадаркаю. На Палессі наогул, а тым больш у Камаровічах, гаспадарка амаль выключна звязана з вінакурствам. На пясчанай, лёгкай зямлі найлепш родзіць бульба, і, нягледзячы на высокі акцызны падатак, нізкія цэны і г.д., выраб гарэлкі аказваецца найбольш прыбытковым. Таму ў трох

фальварках: Камаровічах, Борках і Бобрыку, якія належаць арандатару (не гавару ўжо пра Галоўчыцы, здадзеныя ў арэнду асобна на іншых умовах), пад бульбу ідзе штогод каля 150 маргоў. Астатняе засяваюць жытам, зусім мала сеюць аўса і ячменю, крыху грэчкі і гароху – у цэлым столькі, колькі патрэбна, каб пракарміць чэлядзь. Жыта прадаюць тут кожны год не больш за тысячу пудоў, астатняе ідзе на солад для вырабу гарэлкі. Гаспадарка ў фальварках цалкам пастаўлена на патрэбу промыслу, і ўся ўвага звернута на выраб як мага большай колькасці гарэлкі, якая дае галоўны і амаль адзіны сур'ёзны прыбытак. У камаровіцкай вінакурні штогод выганяюць не менш як 1.000.000 адзінак.

Але зусім па-іншаму адбываецца ў сялянскай гаспадарцы. Паляшук не любіць і зусім не разумее гандлю, а дбае толькі пра сваю выгоду. Для яго важным з'яўляецца тое, каб выцягнуць з зямлі пажытак, дастатковы для сябе і для сям'і, а калі ўдасца, то каб з году на год пакінуць запас жыта, грэчкі і г.д. Прадаваць свае прадукты ён ніколі не думае і хіба толькі пры вострай патрэбе, маючы лішкі збожжа, пагодзіцца іх прадаць. Заможныя гаспадары часам маюць шматгадовыя запасы збожжа, якія, у рэшце рэшт, часцей за ўсё робяцца здабычаю пацукоў. Патрэбы тутэйшых людзей яшчэ настолькі абмежаваныя, што амаль цалкам дазваляюць задаволіцца ўласным промыслам. Ніякімі землеробчымі машынамі народ не карыстаецца, хаты будуюць кожны сам сабе сваімі рукамі, ад прызбы да даху, толькі печ і комін кладзе вясковы пячнік. Вокны ўстаўляюць самі. Лавы, сталы, ложкі, усялякае начынне кожны робіць сам дзеля сябе, гэтаксама, як і першабытныя сохі, вазы, сані, граблі і бароны, кублы, бочкі, корабы, ночвы, ражкі і г.д. З адзення таксама не шмат купляюць: боты, шапку, хустку на галаву, часам паркалёвую спадніцу, пацеркі і заколкі для гарсэта. Зрэшты, усё з хатняй тканіны зроблена дома, апрача аднае, можа, світы, пашыць якую прыходзіць спецыяліст – кравец-яўрэй. Таму і патрабуецца гаспадару няшмат грошай. Галоўным чынам яны ідуць на падаткі. (У Камаровічах з поўнага надзелу плацяць 24 руб. срэбр. 86 кап., у Заполлі – 22 руб. ср. 84 кап.). Акрамя таго, грошы яму патрэбны на такія рэчы, як жалеза для сахі, косы, сярпы, соль, часам у пост трохі алею, а на розныя ўрачыстасці, у святочныя дні, на нейкі выпадак – на гарэлку. Гарэлка ў бюджэце тутэйшых сялян займае першачарговае месца. Такім чынам, уся ўвага ў гаспадарцы звернута не на здабыванне грошай, бо заўсёды можна зарабіць іх дастатковую колькасць, а на атрыманне найбольшага прыбытку з зямлі. У праўнанні з іншымі мясцовасцямі зямлі на Палессі маюць шмат, і калі б крыху больш умела весці гаспадарку, то плён ад гэтай працы быў бы значна большы.

Зразумела, што пры павелічэнні колькасці насельніцтва дзяленне зямлі стала агульнай з'явай: ад 1861 г. з 31 надзела ў Камаровічах непадзеленых засталося толькі 6, у Заполлі – толькі 11. Але невядома, на колькі частак яны распаліся. Напэўна, ужо на вельмі дробныя, бо жаданне валодаць зямлёю настолькі моцнае, што кожны член сям'і імкнецца да таго, каб мець сваю ўласную гаспадарку. А пра выплату за зямлю, што перайшла ў спадчыну ад бацькі, і выбар сабе нейкага іншага занятку, тут наогул не чуваць. У горшым выпадку, калі цяжка жыць у адной хаце, ды яшчэ шмат ратоў, якія трэба накарміць, малодшыя наймаюцца ў панскі двор, або служаць за парабкаў у навакольных вёсках, альбо шукаюць работы пры лясных промыслах. Аднак дагэтуль шчаслівейшымі і багацейшымі лічацца тыя хаты, у якіх уся сям'я да глыбокай старасці, а можа і на працягу ўсяго жыцця разам працуе на адным кавалку зямлі; да гэтага старэйшыя звычайна і схіляюць сваіх дзяцей. Не заўсёды, аднак, гэта можа адбыцца па прычыне розных спрэчак, што ўзнікаюць на глебе сутыкнення характараў, зайздрасці, жадання верхаводзіць, а найчасцей за аддзяленне звычайна выступаюць жанчыны, якія не могуць ужыцца між сабою. Ва ўсялякім выпадку такія перанаселеныя, *семеністэ* хаты заўсёды карыстаюцца агульнай пашанай і лічацца ўсімі лепшымі за іншых.

У Камаровічах толькі 4 асобы зусім не маюць зямлі (апрача некалькіх сем'яў – панскіх слуг або рамеснікаў, паходжанне якіх ніяк не звязана з мясцовымі сялянамі). Аднак, яны маюць свае ўласныя хаты і жывуць рознымі заробкамі. Пры падзеле бацькоўскай спадчыны ніякімі прывілеямі не карыстаюцца ні малодшыя, ні старэйшыя браты. Інвентар, хатняе начынне, зямля – усё дзеліцца на столькі роўных частак, колькі ёсць братоў; сёстры ж бяруць з бацькоўскай хаты толькі большы або меншы пасаг у выглядзе каровы, свіней і адзення; грошай зусім не атрымліваюць, хіба толькі адзінкі. Звычайна сыны прыступаюць да раздзелу пасля смерці бацькі. Пры жыцці ён сам трымае ўсё ў руках і кіруе гаспадаркаю, а сыны, хаця б ужо і мелі свае сем'і, знаходзяцца пад яго ўладаю і мусяць працаваць на агульнай зямлі, за што і жывуць, і маюць дах над галавою. Пабочныя заробкі не залічваюцца ў агульную касу і з'яўляюцца бясспрэчнай уласнасцю таго, хто зарабіў. Аднак, у выпадку патрэбы, як сыны, так і дочкі, ахвотна аддаюць бацьку свае грошы, і спрэчак наконт гэтага амаль ніколі не ўзнікае. Горш бывае з падзелам зямлі паміж братамі, часта гэта застаецца яблыкам разладу на доўгія гады.

Здараецца парою, што гаспадар, у якога шмат поля, здае ў наймы пару загонаў другому, каму яна патрэбна. Умовы іх дамоўленасці ў такім выпадку самыя розныя; напрыклад, за загон пад бульбу мужчына адрабляе два дні на касьбе. А якая-небудзь бабуля ў гэты самы час наймае 3 загоны за рубель, што робіць кошт нашмат ніжэй. Такім чынам, сталага рынкавага кошту для палешука не існуе, яго памер залежыць ад таго, хто плоціць: з пана бярэцца даражэй, чым з суседа, з гаспадара даражэй, чым са старой бездапаможнай бабы і да т.п.

Апрача надзеленай ім зямлі, многія гаспадары, жадаючы мець больш поля, наймаюць у пана лясныя палянкі, за якія два разы на год яны павінны адрабляць. Там сеюць яравое жыта альбо грэчку кожны сёмы год, і зямлі той зусім не ўгнойваюць. Аднак, нягледзячы на гэта, на так званых *простаполях* атрымліваюць вельмі добрыя ўраджаі. Жыта, хоць і мізэрнае з выгляду, у намалоце аказваецца непараўнальна спарнейшым, і калі на ўгноенай зямлі капа жыта ледзьве дае дзве з паловай асьміны, на *простаполях* з капы можна атрымаць да чатырох асьмін (сялянская асьміна змяшчае 20 гарцаў). Таксама бяруць сяляне ў пана балотныя лугі дзеля выкошвання на *трэцяк*, г.зн. косяць іх самі, складаюць сена ў стагі і тады бяруць сабе два стагі – а пану аддаюць адзін.

На сваім полі сяляне вядуць непамерна моцную, вычарпальную гаспадарку. Зямля ніколі не адпачывае, усё поле засяваюць штогод, і кожны раз стараюцца ўгноіць як мага большую плошчу і садзяць на ёй бульбу, а астатнюю частку засяваюць жытам і яравымі. Такім чынам, атрымліваецца свайго роду двухполле: на адной змене, толькі што ўгноенай – бульба, а на другой – жыта і гародніна. Таму ўраджаі на сялянскім полі заўсёды непараўнальна горшыя, чым на панскім, а апрацоўка зямлі ў іх зусім занядбаная. Пры большым уменні і доглядзе яны маглі б атрымаць такі ж ураджай з ¾ засеянай раллі і менш абяссільваць яе.

Пад жыта і пад бульбу заворваюць два разы ў загоны, але вельмі мелка, бо зямля, угноеная зверху, добра не радзіла б, калі б ніжні пясчаны слой выйшаў наверх. Жыта сеюць позняй восенню, і працу гэтую выконвае сам гаспадар або яго старэйшы сын, але ні ў якім выпадку не жанчына. У спакойны і ціхі дзень селянін вешае сабе на шыю "каробку" са свянцоным зернем і, ідучы мерным крокам уздоўж раллі, са жмені рассыпае перад сабою насенне. Жнівом жа займаюцца выключна жанчыны, хіба толькі вязаць і складваць снапы бяруць якога-небудзь хлопца. Снапы складваюць па 10 штук разам, і гэта называецц *мар'янка*, шэсць мар'янак утвараюць капу. Гэтак і лічаць, бо амаль ніводная не ўмее лічыць больш як да сарака. Звезенае дадому жыта ўкладваюць на высокіх платах з папярочнымі жэрдкамі, якія называюцца *азяродамі*, і там доўгі час яно сохне. Нарэшце, снапы складваюць у стагі, што вельмі шчыльна стаяць адзін пры адным, каласамі

ў сярэдзіну і прыкрываюць саломаю і галінамі. Старанныя гаспадары робяць яшчэ на чатырох падстаўках своеасаблівую падлогу, прыўзнятую на паўлокця ад зямлі, каб вільгаць не псавала збожжа. А малоцяць кожны сам для сябе цапамі большую частку зімы, потым мелюць дома ў сваіх жорнах. Наогул, млыны, можна сказаць, тут зусім не патрэбныя, і хоць у Камаровічах ёсць вятрак, але для мясцовых сялян амаль ніколі няма работы. Грэчку і ячмень таксама сушаць на азяродах. Лён сеюць у пачатку красавіка. А калі ў жніўні ён ужо паспее і стане бурага колеру, яго вырываюць, складваюць у снапкі і потым аббіваюць насенне. Для аббівання служыць драўляная лапатка, якою пераць бялізну і якая завецца *пранік*. Потым лён рассцілаюць на полі і пакідаюць яго там на тры тыдні, не зважаючы на надвор'е. Калі ён ужо зусім высахне, збіраюць з поля і яшчэ суткі трымаюць у ёўні, ці ў г. зв. *сушні*. Потым пераціраюць на *церніцы*, ачышчаюць ад кастрыцы. Церніца – гэта зробленая гаспадаром драўляная прылада, складзеная з дзвюх роўналеглых дошак; паміж імі ўваходзіць трэцяя, накшталт драўлянага нажа, які рухаецца – падымаецца і апускаецца – з дапамогаю ручкі. Вязка ільну падкладваецца пад гэты "нож", які, апускаючыся, заціскае лён паміж дошкамі, цісне і такім чынам абдзірае луску. А ўжо напалову ачышчаны лён пераходзіць пад *трэпло*. Гэта доўгая драўляная з нарэзанымі кольцамі дошчачка для трапання ільну. Пры гэтым разблытванні і разгладжванні значная яго частка адпадае, і з гэтых адыходаў, потым спрадзеных і сатканых, атрымліваецца больш тоўстае палатно, якое ўжываюць на посцілкі, мяхі, анучы і г.д. – т. зв. *дзеруха*. Ужо вытрапаны лён праходзіць трэцюю па парадку апрацоўку: яго прапускаюць праз *грэбень*, зроблены з кляновага дрэва, асаджваюць на кій, на які садзіцца работніца. Яна закладвае ў грэбень вязку ільну і цягне па некалькі разоў да сябе, а вычасаныя роўныя пасмы кладзе збоку каля сябе. Гэты лён называюць *кужэлем*, з якога вырабляюць самае тонкае палатно. Рэшту, якая засталася на грэбні, называюць *згрэб'е*, і з яго робяць кашулі, фартухі і г.д. Калі работніца вельмі клапацілася пра высокую якасць сваіх тканін, то прапускала кужаль і праз шчотку, зробленую са шчаціны. Такі лён робіцца нібыта бялейшы і мягчэйшы, а з вычасаных дробных і мяккіх адыходаў, т. зв. *пачосак*, вырабляюць вельмі добрыя ручнікі, прыемныя пры дакрананні да іх. Жанчыны з вялікай ахвотаю прадуць і ткуць. Уменне добрай праллі высока цэніцца, а пра дамашнюю заможнасць найлепей сведчаць вялікія запасы палатна, ручнікоў або кашуль. З льнянога насення здабываюць алей, вельмі патрэбны ў часе посту.

Сеюць тут дзе-нідзе яравую пшаніцу, грэчку, проса (любімая спажыва), часам сачавіцу, з якой гатуюць кашу, а на лепшых нівах – авёс. У гародах садзяць буракі, капусту, крыху рэпы, а каля плоту – каноплі на вяроўкі. Вельмі стараюцца таксама мець гарох і мак, але яны, праўда, не заўсёды родзяць. Садзяць і гарбузы, якія часам нядрэнна тут растуць; увосень, калі іх збяруць, то складваюць на даху, каб сушыліся, а потым імі кормяць нерагатую жывёлу, якая вельмі тлусцее ад іх. Зярнятамі ж з гарбуза, высушанымі ў негарачай печы, ласуюцца як найлепшым прысмакам. Гародніну захоўваюць вельмі проста: прывезеную з поля ў вялікіх мяхах бульбу ссыпаюць у яму, над якой дзеля аховы ад марозу звычайна робяць стрэшку. Яму прыкрываюць саломай і дошкамі, а калі доўгі час не маюць намеру адкрываць яе, то прысыпаюць пяском. Такім спосабам бульба кансервуецца да вясны. Капусту, дробна пасечаную і пасоленую, захоўваюць у бочках; буракі і рэпу трымаюць у асобным, нават з печчу, будынку, які называецца *варыўня*. Здараецца, буракі закопваюць яшчэ і ў зямлю. Садзяць на агародах і тытунь (*ціцюн*), потым сушаць, рэжуць і кураць у люльках. Кураць жа амаль усе, жанчыны нароўні з мужчынамі. Тытунёвае лісце, нанізанае на шнурок вялікімі вянкамі, вешаюць увосень пад прыстрэшкам. Потым хаваюць яго ў "клеці".

Работы ў полі бываюць вельмі ўскладнены яшчэ і тым, што ўладанні ў кож-

нага гаспадара знаходзяцца ў розных мясцінах, толькі агароды цягнуцца шнурамі пры хатах, а поле бывае падзелена на мноства дробных, па пару маргоў частак, раскіданых далёка і аддзеленых адна ад аднае на 6-7 вёрст. У выніку адзін гаспадар можа мець бульбу за вярсту ад дома ў правы бок, а грэчку альбо жыта – за 4 вярсты ў левы бок. Варта ўвагі тое, што поле, аддзеленае ад суседніх толькі вузкаю мяжою, ніколі не выклікае непаразуменняў. Каб хто-небудзь паквапіўся на ўласнасць суседа, заараў ягоную зямлю – такога не толькі ніколі не здараецца, але пра падобныя намаганні нават не было чутно. Кожны добра ведае свае загоны і толькі на іх і разлічвае.

Прыгожа выглядаюць сялянскія палеткі ў час важнейшых летніх работ. Напрыклад, у перыяд жніва, ці калі капаюць бульбу, на кожным загоне відаць усю сям'ю за працаю. У залатым збожжы некалькі жанчын з сярпамі, падлеткі падаюць салому для вязання снапоў, а каля вогнішча, якое тут абавязкова павінна быць – п*а*ра падсмаленых дзяцей. З усіх бакоў па полі сцелецца дым і адусюль навокал плывуць песні, а па дарозе да вёскі павольна цягнуцца і скрыпяць вазы, запрэжаныя параю валоў, што вязуць плён палёў дахаты.

Выходзячы з дому на далёкае поле, жанчыны бяруць з сабою хлеб, ваду і кавалак сала, бо дадому не вяртаюцца цэлы дзень і абеду не гатуюць. Калі ж у хаце застаюцца дзеці або старая матка, дык саграваюць для сябе крупнік або кашу і тым павінны здаволіцца да вечара. А там, на полі, у хвіліны пярэдыху, садзяцца каля агню і, наткнуўшы на завостраны ражон кавалак сала, разаграваюць яго над агнём, і тлушч, які з яго сцякае, к*а*пае на хлеб. Гэта лічыцца вельмі вялікім прысмакам. Кап*а*ючы бульбу, пякуць яе сабе пад "прыскам", г. зн. пад распаленым вуголлем, і ядуць з соллю. Наогул, работа ў полі іх зусім не нудзіць, калі іх там некалькі разам. А ў адзіноце самая лёгкая праца здаецца ім невыноснаю.

Кармавых траў тут зусім не сеюць, а толькі стараюцца як найбольш назапасіць сена, каб пракарміць зімою сваю худобу. Але запасаў не заўсёды хапае, і пад вясну, калі маразы працягваюцца, жывёла бывае страшэнна згаладалая. Даходзіць часам да драматычных сцэн, калі яе трэба або аддаваць пад нож, або прадаваць яўрэям. А такі зыход вельмі непажаданы для гаспадароў, паколькі прывязанасць да сваёй жывёлы з'яўляецца адным з мацнейшых пачуццяў у сэрцы палешука. Жывёлы трымаюць у гаспадарках як мага больш, і ёсць гаспадары, менавіта ў Камаровічах, у якіх па тры-чатыры пары валоў, каля пяці кароў, некалькі цялят, больш за дзясятак авечак і каля дзесяці коз.

З ахвотаю гадуюць цялят і дазваляюць ім доўгі час ссаць матку ў перакананні, што ад гэтага малака ў іх прыбывае сіла. Зімою кормяць іх самым лепшым сенам або сечанай і запаранай саломаю. Клічуць іх: "*Васька, васька!*" Вельмі цэняць валоў і любяць працаваць імі больш, чым коньмі. Аруць заўсёды валамі. Імі возяць сена, дровы з лесу, бульбу і жыта з поля. Вупраж іх вельмі простая: яна складаецца толькі з драўлянага ярма (*ермо*), якое кладзецца на карках валоў. А да яго па абодва бакі прымацаваны выгнутыя дубовыя *дужкі*, у якія валы ўсоўваюць галовы. Да дышля ярмо прывязана шнурком, сплеценым з лыка (*цяжмо*). Кіруюць валамі воклічам на іх: "*Ксо!*", калі трэба ісці направа, а "*Одсэ!*" – калі налева. Гэта павінна значыць: к сабе і ад сябе. Кароў маюць у сярэднім па тры, і ўжо хата лічыцца багатаю, калі іх колькасць большая. Малако спажываюць звычайна свежае ў стравы, ці для дзяцей. Масла і сыр збіраюць і назапашваюць пераважна падчас летняга посту, у *Петроўку*. Малака ў гэты час шмат, і таму нарыхтоўваюць вялікую колькасць сыру, каб потым, ідучы касіць на далёкія выганы, мець што ўзяць з сабою. Сала ў гэтую пару ўжо амаль няма, а тварог, добра пасолены, з драбком масла – добры прысмак. Кароў выклікаюць: "*а вусь, а вусь!*" Дадзеныя ім мянушкі звычайна залежаць ад якой-небудзь уласцівасці або нораву: Бялуха, Белка, Беланожка, Красна, Крыварожка, Бязхвоста, Сарока, Варона; альбо да-

юць яшчэ імёны жанчын: Параска, Варка. Маланка і г.д. Калісьці была ў двары карова, якой пастухі далі мянушку Паненка, відаць, у гонар паненкі з маёнтка. Палескія каровы невялікія, часцей палавыя або сівыя, добра загартаваныя ад холаду, вільгаці і нават ад голаду.

Авечак трымаюць па 15-20 амаль у кожнай гаспадарцы. Воўна служыць на адзежу і з'яўляецца адной з першых жыццёвых патрэб. Стрыгуць авечак раз на год, увесну. Воўна звычайна бывае белага або светла-попельнага колеру. Малака авечага не ўжываюць зусім.

Коз трымаюць таксама даволі шмат, у перакананні, што малако іх смачнейшае, чым у кароў.

Каня павінен мець кожны гаспадар, нават самы бедны: некаторыя маюць па пары і больш, і з імі наймаюцца падвозіць гарэлку да чыгункі, альбо, калі ёсць работа ў лесе, возяць дрэва да рачной прыстані. Любы падвоз аплочваецца тут дорага, таму многія гаспадары, пабачыўшы ў гэтым неблагі прыбытак, стараюцца мець лепшых коней і ахвотна з імі наймаюцца на працу. Улетку коні з усяе вёскі праводзяць ночы на пашы пад наглядам хлопцаў, якія ля вялікага вогнішча вядуць гамонку альбо спяць. З кожнай хаты пад вечар нехта з сям'і, часам нават дзяўчына, садзіцца верхам на каня і гоніць яго на пашу, там прывязвае яму на шыю на свабодным шнурку званочак і адпускае. Коні, ведаючы са свайго вопыту, што ваўкі зводдаль з цемры могуць падпільноўваць іх як здабычу, не адыходзяць далёка ад вогнішча. Званкі, падвешаныя на іх шыях, часцей хатняй работы, змайстраваны з кавалка скручанай бляхі з падвешаным усярэдзіне цвічком, выдаюць даволі меладычны гук, ад якога ўсё паветра напаўняецца нейкай ціхай, дзіўнай музыкай. Зімою коням даюць сена, пасечаную салому, зрэдку авёс ці жыта. Пояць іх, не зважаючы на запаранасць ці знясіленне, але трэба прызнаць, што хварэюць коні вельмі рэдка.

Нерагатай жывёлы трымаюць ад чатырох да сямі штук, не лічачы дробнай, якую ў большасці выпадкаў рэжуць і ядуць свежынаю. На адкорм звычайна выбіраюць трохгадовую жывёлу і, адкормленую варанай бульбай, мукою і цестам, забіваюць яе два разы на год – перад Калядамі і перад Вялікаднем. Робяць каўбасы, сала – соляць і складаюць у бочкі, а мяса альбо спажываюць адразу, альбо вэндзяць на ветры. Пра вяндлярні і вэнджанне дымам не маюць уяўлення. Неадкормленыя свінні, т. зв. *надворнэ*, як правіла, свабодна бегаюць па вёсцы, шукаючы якога-небудзь корму, часта заходзяць у шкоду і рыюць лугі або палі. Для свіней павінны быць заўсёды на кожным канцы вёскі замкнутыя вароты, але за гэтым у нас, лічы, ніхто не сочыць. Увосень свіней выпускаюць на поле, дзе тыя ўжо нічога не могуць сапсаваць, а пажыву сабе знойдуць. Пад вечар, калі яны заходзяць надта далёка і не вяртаюцца да загародкі самі, хто-небудзь з хаты выходзіць на поле і раз за разам кліча працяглым голасам: *кабусь, кабусь, кабусь!* І загулялыя свінні збіраюцца.

Са свойскіх птушак сяляне разводзяць адных толькі курэй. Тыя звычайна сядзяць у падпеччы і там нясуцца. Даюць ім трохі рознага перамяшанага зерня, дазваляючы шукаць па вёсцы спажывы. Качак і гусей у вёсцы ўсяго некалькі штук, ды і тыя належаць яўрэям.

Наогул узаемаадносіны сялян са свойскай жывёлай надзвычай блізкія і дружалюбныя. Гаспадар вельмі клапоціцца пра іх, і хоць у хвіліны гневу часам моцна ўдарыць, аднак хутчэй забудзецца сам пад'есці, чым накарміць свайго каня ці вала. Кожную хваробу лечаць з усёй стараннасцю, даведваючыся ад суседзяў і знаёмых пра розныя карысныя сродкі, а ў выпадку смерці жывёлы – моцна перажываюць. Ніякай спецыяльнай гадоўляй не займаюцца, наогул не маюць уяўлення пра гаспадарскі промысел. Калі трэба *грошы на падаці,* то збываюць менш патрэбную ў гаспадарцы жывёлу – то цяля, то пару бычкоў, але ў самой

жывёлагадоўлі ніколі не маюць відавочнага прыбытку, а толькі магчымасць угноіць большую тэрыторыю зямлі і ўласную выгоду.

Для тых, хто шукае заробку, заўсёды існуе магчымасць знайсці працу. Праўда, цэны на работніка ў параўнанні з іншымі краямі досыць нізкія; аднак у іншых мясцовасцях бывае яшчэ горай. У Наваградскім, Магілёўскім, Оўруцкім паветах умовы жыцця павінны быць яшчэ цяжэйшыя, чым у нашым, бо тамтэйшыя жыхары штомесяц ахвотна прыбываюць аж на наша Палессе ў якасці платных парабкаў. Многія з тутэйшых заможных гаспадароў наймаюць сабе на лета не менш за дзесяць, а то і больш такіх парабкаў. Бо палескі селянін занадта багаты на зямлю, каб мог абыйсціся без парабка. Тыя ж, у якіх не хапае ўласнае зямлі, вымушаны наймацца, бо добра ведаюць, што ўсюды яны будуць жаданымі. Таму яны выбіраюць найбольш выгодныя ўмовы, перабіраюць, хто колькі дасць, а пры самай нязначнай незадаволенасці пакідаюць знойдзенае месца, не зважаючы на дамоўленасць. Таму наняць на Палессі парабка, вартаўніка, служку, іншых памочнікаў у доме даволі цяжка. Аднак кошт работніка і дагэтуль невысокі.

Трэба дадаць, што ўсе падзённыя работнікі заўсёды знаходзяцца на ўласным харчаванні, а калі выпадае якая-небудзь іншая праца ў гэты час, то за дзень яны атрымліваюць нармальную плату; напрыклад, калі ў час жніва бяруць жанчыну таўчы крупы, дык плацяць ёй як за жніво.

Найміт у двары за дзень атрымлівае:

Мужчына – за касьбу 35 кап., за вываз жыта 30 кап., працуючы на бульбе 30 кап., за цяслярскую работу летам 30 кап. Жанчына – за жніво 25-30 кап., грэбці сена 25-30 кап., на бульбе 25-30 кап.

Дзіцё, якое дапамагае вязаць снапы альбо падае кошыкі на бульбе, зарабляе 10 кап. Калі чалавек наймаецца на месяц, то найчасцей яго бяруць і на ўтрыманне ў двары. Калі парабка бяруць на 6 месяцаў, на ўсё лета, то яму плоцяць ад 5 да 7 рублёў у месяц, пры гэтым харчуецца ён на дворскім стале і за гэта ён павінен выконваць любую, якая выпадзе, работу. Іншая ўмова з парабкамі на вінакурні. Гэта вельмі цяжкая праца, бо не спыняецца ні дзень, ні ноч, а адпачынку ўсяго 5 гадзін у суткі; такім чынам, адзін чалавек не змог бы вытрымаць увесь гэты тэрмін. Таму кожны, хто дамаўляецца, бярэ з сабою падменніка, і яны змяняюцца кожны тыдзень. Аднак двор дамаўляецца толькі з адным, і яму выплочвае па 8 рублёў у месяц, дае яму жытло ў вінакурні, бульбы – колькі з'есць і дзве чаркі гарэлкі на дзень. Ён жа павінен прывесці сабе падменніка, мусіць знаходзіцца на сваім харчаванні і хлебе. Жанчын наняць на месяц улетку немагчыма, бо кожная жадае атрымліваць грошы за дзень. Зімою жанчына пры двары, на ўтрыманні зарабляе за месяц 2 руб. срэбр. Дзяцей наймаюць пасвіць гусей, свіней і г.д. Але гэтак дамаўляюцца не на месяц, а на ўвесь земляробчы перыяд, які працягваецца да шасці або шасці з паловай месяцаў. Пастушок зарабляе на ўтрыманні 9 руб. ср. За год парабак на ўтрыманні зарабляе 35 руб. ср. Лесніку даюць 40 руб. ср., хату з агародам, зямлю для пасадкі бульбы, бочку жыта, паўбочкі ярыны і солі – колькі запатрабуе. Пастух зарабляе 35-40 руб. ср. і ўтрыманне, гуменны – 50 руб. ср.[1] і ўтрыманне, а для сям'і яму даюць хату з агародам, гаспадыні – 25 руб. ср. і ўтрыманне, дзіцяці – 15-18 руб. ср. і ўтрыманне. Ёсць яшчэ т. зв. *дойкі* – жанчыны, калі ёсць вялікая колькасць кароў, прыходзяць з вёскі рана і вечарам на даенне. З імі дамаўляюцца гэтак: плоцяць ім 3 рублі ў год і, акрамя таго, кожная мае права пасылаць на пашу сваю карову разам з панскім статкам. Выдача вопраткі ў нас ніколі ва ўмову не ўваходзіць.

Найміт у сялян атрымлівае зусім іншую, вельмі разнастайную аплату. Зразумела, кожная гаспадарка імкнецца абыйсціся сваімі сіламі; аднак, у некаторых

[1] Гуменнага ва ўсёй Літве і на Палессі называлі цівуном.

хатах, напр., ва ўдоў ці ў салдатак немагчыма ўсяму без чужой дапамогі даць рады. Таму наймаюць сабе каго-небудзь у дапамогу, а расплочваюцца часцей натуральнымі прадуктамі: асьмінай жыта, "сцяною" палатна і да т.п. На гэта няма ніякая акрэсленай нормы.

Камаровіцкія сяляне ніколі не шукаюць далёкай работы і, напр., могуць няблага зарабіць на пабудове чыгункі, але на гэта няма вялікага жадання. Маючы ўласную гаспадарку, да іншых ніколі не ходзяць. Аднак у іншых палескіх вёсках адбываецца па-свойму, напр., у Камаровічы прыходзяць у час капання бульбы работнікі за тры і за чатыры мілі. Аднак жыхары Камаровічаў не пагарджаюць прыбыткам, калі ён лёгка прыходзіць і шукаць яго не трэба. Яны ахвотна працуюць на лясных промыслах, тым больш што гэта выдатна аплочваецца. Падвозяць таксама да чыгункі гарэлку, лясныя матэрыялы і да т.п. Ніколькі не пагарджаюць яўрэйскімі грашыма – ім усё адно, у каго наймацца, абы аплату атрымаць.

Аднак лад іх жыцця ад таго, што яны маюць больш ці менш багацця, мала змяняецца. Ёсць на вёсцы людзі, якія сабралі сабе на працягу жыцця каля дзесяці тысяч рублёў, але ніхто не мог бы гэтага пра іх падумаць. Грошы свае яны найчасцей мяняюць на срэбра, наколькі гэта магчыма, і хаваюць потым у пэўным месцы. Або закопваюць у зямлю. Пра гэтыя схаваныя скарбы заўсёды шмат гаворыцца ў вёсцы, і колькі разоў, калі згарыць хата, расказваюць, што былі там у сцяне альбо ў даху вялікія багацці. Аднак разумнейшыя купляюць банкаўскія білеты і ніколі не адразаюць купонаў, дзякуючы чаму расце капітал. Некаторыя таксама пазычаюць пад працэнты. Тым не менш такія багацеі не змяняюць ні спрадвечнай вопраткі, ні хат не маюць лепшых, ні набываюць для сябе ніякіх навінак, ні нават зямлі не купляюць. Хоць апошняя часам можа і ўсміхнуцца, і яны робяць да гэтага пэўныя крокі, але ў апошнюю хвіліну шкода пазбыцца грошай бярэ верх, і ніводзін падобны інтарэс не даходзіць да канца. Было ў нашай мясцовасці некалькі спроб прадаць маёмасць сялянам, і ніводная не атрымалася. Найбольш заможны селянін адрозніваецца ад іншых толькі тым, што, можа, крыху больш за іншых вып'е ў нядзелю гарэлкі, што лепшую і ў большай колькасці мае жывёлу і часцей абувае боты. Дзеці яго ў гэткіх самых падраных кашулях бегаюць па вуліцы, а старэйшыя сыны і дочкі ходзяць на работу, нічым не адрозніваючыся ад бедных. І ніколі не ўдалося мне заўважыць нават цень зайздрасці ў бяднейшых, ці ганарыстасці і пагарды ў багатых. Кожны селянін, якою б ні была яго гаспадарка, для другога – *наш брат*, і ва ўяўленнях сваіх яны ідавочна ўсе цалкам роўныя між сабою. Нават тыя, хто не мае зямлі (што тут не вельмі часта сустракаецца), ніколі з гэтае прычыны не зазнаюць прыніжэння, і ніхто не стане іх выракацца. Тут яшчэ моцна захаваліся несапсаваныя чалавечыя адносіны, а людзі – даволі простыя і добрыя, каб зразумець розніцу ў грамадскіх поглядах, якую стварае багацце. Што багатаму лепш жыць на свеце, дык гэта не прычына, каб ігнараваць беднага, бо, урэшце, багаты нічым не лепшы за яго. Так усе яны гэта разумеюць, так жывуць паводле гэтага правіла, так захоўваюць адносіны паміж сабою, не зважаючы на памеры сваёй маёмасці.

Гаворачы тут пра працу і заробкі, я павінна згадаць яшчэ пра пэўны клас людзей, што жывуць на Палессі пад назваю *хатэчковых*. Гэта ў большасці сваёй даўнія перасяленцы са Шлёнска і Галіцыі, а таксама шматлікія ліцвіны, якія аселі тут на наступных умовах: двор дае пэўнай сям'і хату, агарод, дзесяціну поля і паўдзесяціны лугу, дровы і лес, каб паправіць будоўлю ці каб паставіць новае жытло, калі ўзнікне патрэба. Сям'я ж такая абавязана выдзяляць штодзённа на працягу года дваіх работнікаў па цане 20 кап. за мужчыну, 15 кап. за жанчыну і 10 кап. за дзіця. Цэны для такіх "хатачкавых" ніколі не супадаюць з існуючымі, і калі селянін з вёскі бярэ за дзень касьбы 35 кап., то тыя бяруць толькі 20 кап. і нават калі б і не хацелі, але мусяць ісці. Такая дамоўленасць карысная толькі тады, калі ў хаце жывуць

разам некалькі дарослых людзей, напр., бацька, сын, нявестка, дачка і г.д., бо яны і зарабіць могуць за дзень 35 кап., а можа і болей, і ў хаце ёсць каму працаваць, і на зямлі. І для двара таксама лепш, бо можна дакладна разлічваць на некалькіх работнікаў. У Камаровічах ёсць такі пасёлак, які складаецца з дванаццаці хат, дзе жывуць пераважна перасяленцы з-пад Шлёнска і Кракава, а таксама пара сем'яў, якія пераехалі яшчэ пры колішнім пане з наваколляў Вільні. Усё гэта каталікі, якія размаўляюць па-польску. Іх матэрыяльны быт цалкам залежыць ад асабістых уменняў і здольнасцяў. Некаторыя, найбольш працавітыя, жывуць у цэлым добра і нават адкладваюць лішні грош на чорны дзень, іншыя ж – вечныя бедакі, штогод мяняюць месца жыхарства і нідзе не могуць прыжыцца і заседзецца. Пасёлак гэты, які размясціўся прыблізна за вярсту ад двара паміж Заполлем і Камаровічамі, называецца *Крыжык* – ад драўлянага крыжа, пастаўленага там калісьці паняю на памяць пра нейкае небяспечнае здарэнне з коньмі. Жыхароў Крыжыка агулам называюць "крыжакі", альбо па-простаму "крыжацкіе". Жывуць яны цалкам адасоблена, стасуюцца пераважна паміж сабою, а з мясцовымі сялянамі маюць толькі далёкія сувязі. Яны не адрозніваюцца ні большай, чым у тутэйшых, маральнасцю, ні парадкам, аднак характэрная іх рыса – імкненне да асветы. Іх сыны амаль усе ходзяць у школку, хоць, не належачы да воласці, мусяць плаціць за навучанне. Дзеці вучацца старанна, з ахвотаю і поўным разуменнем ўсёй важнасці навукі.

*(Працяг будзе).*



Анатоль Астапенка



...самае вялікае майстэрства –

гэта калі яго зусім не відаць...

# Служыць Бацькаўшчыне

### *Штрыхі да творчага партрэта Барыса Сачанкі*

*У кожнага чалавека свая жыццёвая дарога. Важна, каб усе мы ў меру сіл і здольнасцей служылі Бацькаўшчыне.*

**Барыс САЧАНКА**

У канцы 80-х – пачатку 90-х гг. XX ст. Беларусь, як і іншыя рэспублікі СССР, уступіла ў перыяд аднаўлення сваёй дзяржаўнасці, які суправаджаўся адраджэннем беларускай культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, фармуляваннем нацыянальнай ідэі. Кожны час спараджае сваіх герояў, і ў гэтую пару з'явіліся людзі, якія падтрымалі і ўзначалілі эпахальныя падзеі. Не толькі падтрымалі і ўзначалілі, але і рыхтавалі для іх грунт – не адно дзесяцігоддзе. Бо вядома, што на пустым месцы нічога не расце. Пасля адлігі 1960-х за ўвесь пасляваенны час перабудова 1980-х стала другім этапам палітычнага пацяплення. І, мабыць, невыпадкова тыя юнакі, якія рабілі першыя адважныя крокі за часам адлігі, якія не былі знішчаны рэпрэсіўнай сістэмай, змаглі

акрэпнуць, набрацца творчага духу і сталымі, паважанымі людзьмі з немалым багажом ведаў і твораў уступіць у новую эпоху.

Трэба адзначыць адну тутэйшую акалічнасць: яшчэ з 30-х гг. XX ст. за людзьмі, неабыякавымі да беларускай праблематыкі, якія рупіліся пра свой народ, стваралі, пісалі, змагаліся іншымі спосабамі – з цяжкой рукі ідэолагаў сталінізму і спецслужбаў замацавалася характэрная назва – *нацыянал-дэмакрат*ы, ці, скарочана, *нацдэмы*. Страх увайшоў у кроў і жыццё беларусаў, а пытанні нацыянальнага адраджэння сталі табу. Яшчэ пры Хрушчове пачаўся працэс «зліцця моў», што прывяло да закрыцця беларускіх школ і вынішчэння нацыянальнай гісторыі, якая замянялася гісторыяй «старэйшага брата». Таму людзі, якія ўсё ж наважваліся замовіць слова за Беларусь, не мелі перспектыў у савецкай рэчаіснасці, іх цураліся, іх звалі дысідэнтамі, а маглі і пасадзіць у турму. І ўсё ж у другой палове XX стагоддзя з'явіліся асобы, якія тварылі не ў рамках афіцыёзу. Успомню колькі імёнаў: гісторыкі – Мікола Ермаловіч і Анатоль Грыцкевіч, філосафы Мікалай Крукоўскі і Уладзімір Конан, пісьменнікі – Ларыса Геніюш, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін...



*Барыс САЧАНКА.*

Таму не дзіва, што ў час дэмакратызацыі і нацыянальнага адраджэння менавіта гэтыя людзі сталі арыенцірамі ў новай рэчаіснасці. Тая сітуацыя выглядала нават неяк дзіўна: у спектры нацыянальнага адраджэння амаль не фігуравалі афіцыйныя асобы[1]. Але і сярод асоб з высокімі пасадамі былі тыя, хто жыў беларускаю справай. І тут найперш вылучаецца фігура пісьменніка, былога галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» Барыса Іванавіча Сачанкі, выдатнага празаіка і публіцыста, патрыёта, змагара за беларускае адраджэнне. Гэта чалавек, які з поўным правам займае належнае месца ў пантэоне найлепшых сыноў Беларусі.

## Вытокі

Вялікі Бор – буйная палеская вёска, якая ў 1999 годзе налічвала 1239 жыхароў. Мабыць, праз сваю аддаленасць ад вялікіх трас, ад чыгункі (толькі за шэсць кіламетраў ад яе бліжэйшая станцыя Аўрамаўская па ветцы Хойнікі – Васілевічы) тут захаваліся даўнейшыя традыцыі, абрады, фальклор. Тут яшчэ можна пабачыць «Провады русалкі», ці, як кажуць у Вялікім Бары «Русалле»[2], і шмат іншых старажытных беларускіх абрадаў. Вось як з любоўю і пяшчотай апісвае свае родныя мясціны Барыс Сачанка:

> «*Крынічная сажалка з заўсёды халоднаю, празрыстаю – аж жвір на дне відаць – вадою... Неглыбокі – па забарсні – Шапавалаў перамел... Багністы, увесь у іле, Асіны*

[1] Праўда, Генадзь Бураўкін прадстаўляў БССР у ААН, але ў часы перабудовы далучыўся да дэмакратызацыі і патрапіў у няміласць афіцыйных колаў.

[2] Паводле старажытных павер'яў у нядзелю ў канцы Траецкага тыдня (які называюць Русальным) русалкі вяртаюцца ў азёры і рэкі. А да гэтага часу вадзянік вызваляе душы нябожчыкаў, перш за ўсё дзяўчат, або дзяцей, якія памерлі, не спазнаўшы зямной любові, сям'і і мацярынства.

*брод... Задрымучаны крушыннікам і арэшнікам Грыцаў расцяроб... Аслоненая з усіх бакоў магутнымі камлістымі дубамі паляна-гарадок, дзе быццам ратаваліся ад розных напасцяў – войнаў, халеры – продкі... Стойла ля Старцовай ямы... Вёска! Мая вёска!.. Колькі чаго перабачыла, перажыла яна на сваім вяку! Радаснага і горкага, вясёлага і сумнага, добрага і злога...»* (З успамінаў Б. Сачанкі «Пад сузор'ем сярпа і молата»).

Тут у вёсцы Вялікі Бор, што ў Хойніцкім раёне на Гомельшчыне, 15 траўня 1936 года і нарадзіўся будучы пісьменнік Барыс Іванавіч Сачанка. Барыс быў трэцім дзіцём (усяго было сямёра братоў) у вялікай сям'і Сачанкаў. Бацька Іван Мікалаевіч працаваў у хімлясгасе, а маці – Вера Міхайлаўна – глядзела немалую сям'ю.

Барыс з пялюшак, як той казаў – з малаком маці ўбіраў у сябе сакральны палескі дух, і гэта пазней праявіцца ў ягонай творчасці. Назаўсёды захаваецца ў яго любоў да родных мясцін, да малой радзімы, якую ён будзе ўспамінаць і апісваць у сваіх творах ад першых юнацкіх апавяданняў, да апошняга твора «Пад сузор'ем сярпа і молата», што выйшаў пасмяротна. А традыцыі «Русалля» і іншых беларускіх народных святаў знойдуць адлюстраванне ў яго містычных і фантастычных сюжэтах «Трэцяе вока», «Чорт з Суматры» і г.д.

Цікавай постаццю ў успамінах пісьменніка паўстае дзед Мікалай. Ён быў заможны чалавек: *«Меў ён некалькі кароў і коней, больш за паўсотню авечак, поўны хлеў свіней. Ды і гусі, качкі, куры ў яго былі...»* («Пад сузор'ем сярпа і молата»). Цяпер такога чалавека назвалі б перспектыўным фермерам, добрым гаспадаром... Тады ж, у часы калектывізацыі, карысталіся іншым словам – «кулак». Толькі цудам яму ўдалося выратавацца ад ссылкі ў Сібір. Але ў калгасе, куды мусіў-такі трапіць дзед Мікалай, ён не змог працаваць, як раней, з поўнай аддачай. І прыняць новы стыль адносін да працы – «рабі не рабі, усё адно ж нічога на працадзень не даюць» – ён прыняць не змог. Мабыць, унук Барыс і пераняў ад дзеда шчырае стаўленне да сваёй справы, і гэтая генетычная спадчына дала яму патэнцыял на ўсё жыццё.

Яшчэ цікавая дэталь пра бацьку будучага пісьменніка Івана Мікалаевіча: амаль усе сваякі (браты Васіль і Алёша, сёстры Анюта і Наталля) запісаліся ў калгас, – усе апрача яго самога. Нават «раскулачаны» дзед, хоць і не прыняў «паншчыну» калектыўнай гаспадаркі, мусіў уступіць. А Іван Сачанка – не пайшоў. «Гуртавое – чартавое», мне там няма чаго рабіць», – казаў ён. І пайшоў працаваць спачатку рабочым на чыгуначную станцыю Аўрамаўская, потым у леспрамгас прыёмшчыкам. Маці, Вера Міхайлаўна, у калгас таксама не пайшла – трэба было гадаваць дзяцей, бо пасля трэцяга сына – Барыса, з'явілася яшчэ двое – Іван і Грыша. І на момант пачатку гітлераўскай навалы на Беларусь дзяцей у сям'і Сачанкаў было ўжо пяцёра.

Вайна іх заспела таксама нечакана, як і тысячы іншых беларускіх сем'яў. Вось як проста і матэматычна дакладна малюе гэты момант пісьменнік:

*– Што? – запытальна паглядзела яна [маці] бацьку ў вочы.*

*– Вайна, – ціха адказаў бацька.*

*– Такі пачалася, – хутчэй машынальна, чым усвядомлена прашаптала маці і заплакала, загаласіла. Ды так, як не плакала, не галасіла ні разу...*

Лёс бацькі, якога адразу забралі на вайну, нагадвае лёс многіх простых беларусаў. Прынамсі, «хаджэнні па пакутах» майго бацькі ў час вайны вельмі падобныя да Барысавага бацькі. Спачатку Іван Мікалаевіч ваюе з немцамі ў савецкім войску, потым пасля цяжкага бою трапляе ў палон. Але неўзабаве ўцякае з лагера, хаваючыся ў кустах, лясах, прабіраецца дадому. І ўрэшце трапляе да сваіх. Вось яшчэ важны момант, які раскрывае нутраную прыроду бацькі, і гэтая рыса, думаю, передалася Барысу Сачанку. Ён не ідзе ў партызаны, куды яго цягне знаёмы аднасяльчанін Карп Шлёг. Але не ідзе і ў паліцыю, куды настойліва запрашае

іншы сусед – Іван Рачанка. «Мне дзяцей, сям’ю карміць трэба», – кажа ён. Гэта няпросты выбар – ісці сваім шляхам, паставіць інтарэсы сям’і на першае месца, нягледзячы на пагрозы з абодвух бакоў – партызанаў і немцаў. Трэба мець вялікую мужнасць каб не скарыцца, каб вытрымаць ціск. Падобны выбар, які можна назваць пацыфісцкім, рабіла шмат беларусаў.

*– Я ніколі не шукаў, дзе лепш, а дзе горш, – кажа ён, – жыву, як умею.*

Гэта не нейтралітэт і не баязліўства, бо за няўдзел у вайсковых справах часам плацілі той жа крывёю, што за войска, за партызанку. За пацыфізм не даюць штогадовых юбілейных медалёў, якія маюць удзельнікі вайны і нават тыя, хто толькі ўскосна спрычыніўся да яе, але гэта часта варта не меншай павагі, асабліва калі ўсе ваёўныя бакі табе чужыя.

У чэрвені 1943 года (было якраз свята – Ушэсце) немцы спалілі Вялікі Бор. Усім жыхарам вёскі далі гадзіну на зборы і, нічога не тлумачачы, пагналі пешшу за сорак кіламетраў у Васілевічы. А адтуль Барыс разам з бацькамі быў вывезены ў Нямеччыну.

Працавала сям’я Сачанкаў на ферме ў нямецкага пана, якая знаходзілася за некалькі кіламетраў ад горада Гронінга. Працавалі ад восьмі да васьмі з адным выходным. І хоць сялянская праца была добра знаёмая, жыццё на чужыне было цяжкім. Не ставала ежы, а галоўнае – бракавала інфармацыі пра вайну, пра магчымасць вярнуцца дадому... Амаль два гады пражылі Сачанкі ў Германіі, толькі ў траўні 1945 года прыйшло вызваленне. Але на ферму прыйшлі не савецкія войскі, а саюзнікі – амерыканцы. Зажылі панскія парабкі-беларусы, як піша сам Б. Сачанка ў нарысе «Засталіся толькі ўспаміны», як ніколі добра. З’явілася і мяса і кансервы... І пачалася агітацыя, прапаганда амерыканскага жыцця з мэтай прыцягнуць беларусаў да эміграцыі ў Амерыку.

Потым быў лагер перамешчаных асоб, прапанова не вяртацца на Радзіму і з’ехаць у ЗША. Але ніхто не паддаўся на тую агітацыю. Сачанкамі валодала жаданне хутчэй вярнуцца дамоў, на Палессе, што неўзабаве і адбылося.

У 1945 г. Барыс пайшоў у першы клас Вялікаборскай сямігодкі. Пасля заканчэння чатырох класаў у сям’і Сачанкаў паўстала пытанне: вучыцца далей ці ісці на працу? Апошні варыянт выбару жыццёвага шляху быў не выпадковым – цяжкае матэрыяльнае становішча вымагала максімальнага выкарыстоўвання ўсіх магчымасцяў, каб неяк выжыць. Дырэктар школы І.І. Санцэвіч, як піша ва ўспамінах будучы пісьменнік, сказаў: «Толькі не ўздумай прыпыняць вучобу! У цябе здольнасці да гэтага ёсць. Вучыся».

І Барыс працягвае вучыцца. Скончыў сямігодку з пахвальным лістом. Устала дылема – працягваць навуку, скончыць дзесяцігодку ці паступіць у які тэхнікум. Сам Барыс схіляўся да думкі пайсці ў мараходку, якая была ў Клайпедзе, і вывучыцца на кока: «Хоць галадаць не буду, знойдзецца, што паесці». Вось так, хто марыць стаць касманаўтам ці капітанам дальняга плавання, а падлетак Барыс Сачанка – вывучыцца за карабельнага кухара, кока. Што значыць дзеці вайны! Не па гадах цвярозы, рацыянальны розум, які, дарэчы, і будзе вызначаць ягоную пазіцыю на многія гады.

Але бацька прапаноўвае Барысу вучыцца далей і скончыць дзесяцігодку ў райцэнтры, у Хойніках. Толькі да Хойнікаў аж васямнаццаць кіламетраў, няма дзе жыць...

*– Нанялі б у Хойніках кватэру. І жыў бы там.*
*– За што? – спытаў я ў бацькі.*
*– Дык ты ж зарабляеш, працуеш усё лета...* [з братам Іванам Барыс дапамагаў бацьку нарыхтоўваць бяросту ў лесе]... *Ды і я... Пятро... Іван... Няўжо цябе аднаго не пракормім?*

І Барыс пакідае бацькоўскую хату, пасяляецца ў Хойніках на кватэры ў яўрэяў – спачатку ў Хаіма, а потым у Боруха, якія з задавальненнем прымаюць хлопца, бо ён быў акуратны і працавіты.

Хойніцкую сярэднюю школу Барыс скончыў у 1955 г. са срэбным медалём. Гэтай школе выпала асаблівая роля – адкрыць шлях у вялікую літаратуру двум вялікім беларускім пісьменнікам – Барысу Іванавічу Сачанку і Івану Паўлавічу Мележу.

У час навучання Барыс пачынае пісаць артыкулы ў газеты, раённую і абласную, а таксама ў «Чырвоную змену». І гэта дапаможа яму паступіць у той 1955-ты юбілейны (10 гадоў перамогі над фашысцкай Германіяй) на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паступаць ва ўніверсітэт ён паехаў разам са сваім земляком, у будучым вядомым кінарэжысёрам Віктарам Дашуком.

Усё ж шчаслівая зорка, а хутчэй тая ж адвечная праўда жыцця, па якой ішоў будучы пісьменнік, прывяла Барыса ў беларускую alma mater, ды яшчэ на такі факультэт як журналістыка. Бо мінулае – гады жыцця ў Нямеччыне – як кляймо ворага народа стаяла перад ім сур'ёзнай перашкодай у навуцы, дый у кар'ерным росце ў цэлым. Ужо на ўступных экзаменах ён быў сведкам, як ягонага суседа-абітурыента не залічылі праз «біяграфію».

Барыса прынялі ва ўніверсітэт, але мінулае дало пра сябе ведаць.

## На жыццёвым шляху

Навука ва ўніверсітэце давалася Барысу лёгка. Але, калі прыйшоў час афармляцца на «ваенку» – ваенную кафедру, яго не прынялі. Больш таго, калі сталі разбірацца, то высветлілася, што, як піша Барыс Сачанка, «не маю права займацца на аддзяленні журналістыкі».

*– Што ж рабіць? – запытаўся я.*

*– Цябе зусім не трэба было прымаць ва ўніверсітэт», – сказалі мне...*

«...Вучыцца тут мы вам не дазволім, выключым...» – даводзіць яму асабіст. Але шчаслівая зорка Барыса Сачанкі не дае яму сасупіць з ягонага, як пазней высветліцца, вельмі правільнага шляху. Якраз у той час праходзіў ХХ з'езд КПСС, дзе быў заслуханы знакаміты даклад М.С. Хрушчова аб кульце асобы Сталіна. І адносіны да Барыса Сачанкі як да студэнта з «біяграфіяй» змяняюцца, навука працягвалася без перашкод да самага канца навучання.

Яшчэ да атрымання ўніверсітэцкага дыплома, з 1958 г., Б. Сачанка пачынае працаваць у часопісе «Вожык» – спачатку карэктарам, а потым фельетаністам. Такое занадта ранняе імкненне да працы тлумачылася зусім не жаданнем жыць бязбедна, а жорсткай неабходнасцю. Родныя не маглі памагаць сыну, а стыпендыі не ставала на жыццё. І прыродны талент пісьменніка пачаў працаваць на яго ўжо з тых студэнцкіх гадоў. Пачуццё адказнасці за ўсю сям'ю, што жыла ў вёсцы, змушае яго паводзіць сябе зусім не так, як многія яго сакурснікі, што дбалі толькі пра свой лёс. І таму мы чытаем вось такое, вартае павагі, прызнанне: «За першы ж ганарар я набраў некалькі метраў прыгожай шарсцяной тканіны і паслаў маці, каб яна з яго пашыла сабе сукню...»

Пад псеўданімам *І. Сібарсач* у суаўтарстве з Рыгорам Барадуліным і Янкам Сіпаковым ён піша вострыя крытычныя нататкі, артыкулы, гумарэскі, сатырычныя замалёўкі, якія з задавальненнем друкуе папулярны ў народзе гумарыстычны часопіс. Потым працаваў рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя» (1960–1976), дзе яму першаму давялося чытаць і рэдагаваць «Палескую хроніку» І. Мележа.

У 1960 г. Б. Сачанка становіцца сябрам Саюза пісьменнікаў.

Дыяпазон яго творчых інтарэсаў надзвычай шырокі. У Б. Сачанкі выяўляюцца не толькі пісьменніцкія, але і арганізатарскія здольнасці, уменне кіраваць людзьмі, што спатрэбілася пазней на дзяржаўных і грамадскіх пасадах, якія ён стала займаў праз усё жыццё.

За пяцьдзясят дзевяць гадоў свайго жыцця ён зрабіў вельмі шмат: стаў вядомым пісьменнікам, напісаў каля сарака кніг прозы, публіцыстыкі, крытыкі, стаў дзяржаўным дзеячам, палітыкам.

Сяргей Дубавец у артыкуле «Інтрыга Сачанкі», захапляючыся літаратурнай эквілібрыстыкай, піша: «Сачанка інтрыгаваў, а ўрэшце і сам стаў адной з інтрыг беларускай літаратуры... Ён складаны, як сама інтрыга, у якой складнікі ўтвараюць не канфлікт, а пэўную гульню ў канфлікт, і самі сабе не супярэчаць...»

На маю думку, і жыццё Б. Сачанкі, і яго творчая спадчына, і яго грамадская дзейнасць менш за ўсё нагадваюць інтрыгу. Менавіта інтрыгі ў Сачанкі якраз найменш. Увесь ягоны жыццёвы шлях сведчыць, што ва ўсім у яго была свая пазіцыя, і ён найменш займаўся тым, што завецца інтрыгай. Ён ніколі не ішоў за нейкімі там кланамі, школамі ці палітычнымі плынямі. У яго было павышанае пачуццё адказнасці і імкненне да праўды, – ці гэта эмігранцкая літаратура, ці выступленне забароненага беларускага «нацыяналіста» – ён абараняў гэта, але толькі тады, калі бачыў там сапраўднасць.

Наадварот, мала такіх творцаў і мала такіх дзяржаўных дзеячаў, якія б усё жыццё трымаліся аднаго вялікага і вечнага закону – праўды і сумленнасці. Барыс Сачанка пільнаваўся прынцыпу Льва Талстога: галоўны герой яго твораў, «якога я люблю ўсімі сіламі душы, якога імкнуўся перадаць ува ўсёй прыгажосці і які заўсёды быў, ёсць і будзе цудоўны – праўда» («Літаратура – гэта голас народа»: Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Барысам Сачанкам. «Дзеяслоў» № 6, 2013. – с. 213).

Каля шаснаццаці гадоў Б. Сачанка працуе ў аддзеле прозы часопіса «Полымя» (1960–1976). Наступнае дзесяцігоддзе (1976–1986) ён займае пасаду сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў.

З 1986 г. – загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура». З 1993 года і да самай смерці ў 1995 г. Барыс Сачанка – галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя».

Быць творчым чалавекам і займацца грамадскай дзейнасцю – гэта не кожнаму дадзена. Звычайна творцы – пісьменнікі, мастакі, вучоныя – усяляк адбіваюцца ад якіх бы ні было грамадскіх нагрузак, імкнуцца не займаць адказныя пасады ў іерархіі дзяржаўнай лесвіцы.

У 1980 годзе Б. Сачанка прымае ўдзел у працы XXXV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

У 1993 годзе становіцца галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». Ён вельмі адказна паставіўся да свайго прызначэння. Тут напоўніцу спалучыліся яго любоў да кнігі, грунтоўныя энцыклапедычныя веды і арганізацыйны талент. Кнігі ён не толькі любіў, але і збіраў: яго асабістая бібліятэка – адзін з найбольш славутых прыватных збораў у Мінску.

«Апошнія тры гады не быў у адпачынку. Калі я казаў яму, што трэба вырвацца хоць на тыдзень, з'ездзіць куды-небудзь у вёску, развеяцца, злаваўся ўжо ён: як гэта, маўляў, я паеду, а як жа энцыклапедыя», – пісаў Янка Сіпакоў пра свайго сябра.

Застаецца сказаць, што дзяржава высока ацаніла яго дзейнасць. У 1982 годзе за кнігу «Ваўчыца з Чортавай Ямы» Барысу Сачанку была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Коласа, а ў 1991 годзе ён становіцца лаўрэатам Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа за кнігу «Сняцца сны аб Беларусі...». Б. Сачанка ўзнагароджаны двума ордэнамі «Знак Пашаны», юбілейным медалём «За доблесную працу», медалём Францыска Скарыны і іншымі ўзнагародамі.

## Творчасць

*Я вырас пад гарматнымі ствaламі,*
*Я мераў час секундай, а не днём...*

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ**

Да гэтага раздзела я невыпадкова ўзяў вядомыя радкі сучасніка Барыса Сачанкі, паэта Сцяпана Гаўрусёва. Барыс Іванавіч быў прадстаўніком пакалення, якое правяло дзяцінства «пад гарматнымі ствaламі», пакалення, якое не гуляла ў пясочніцах, не плёхалася бестурботна ў цёплых беларускіх вадаёмах і не ганяла мячык па ціхіх вулачках роднай вёскі. Гэтае пакаленне напоўніцу паспытала галодныя, страшныя гады вайны. Сама вайна ўдзельнічала ў фармаванні іх характараў і светапогляду.

Пакаленне Б. Сачанкі перанесла толькі яму вядомыя выпрабаванні і, як вынік, стварыла выдатную літаратуру. Сам Б. Сачанка выкарыстоўваў для азначэння свайго пакалення тэрмін – «філалагічнае пакаленне». Але мне прыходзіць на памяць іншая паралель: «страчанае пакаленне» амерыканскай літаратуры, якое дало свету Эрнэста Хэмінгуэя, Скота Фіцджэральда, Джэймса Олдрыджа, Уільяма Фолкнера. Гэта залаты фонд амерыканскай літаратуры. А вось пакаленне, якое нарадзілася незадоўга да Другой сусветнай вайны, імёны з залатога фонду беларускай літаратуры: Міхась Стральцоў, Генадзь Бураўкін, Віктар Карамазаў, Янка Сіпакоў, Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін... і сярод іх – Барыс Сачанка.

Першае апавяданне Б. Сачанкі «Плынь» было надрукавана ў часопісе «Маладосць» яшчэ ў 1956 годзе, калі аўтару было толькі дваццаць гадоў. А ў 1960, праз чатыры гады, выходзіць першы зборнік апавяданняў «Дарога ішла праз лес».

Пісьменнік тварыў з зайздроснай працаздольнасцю, і таму наступныя празаічныя кнігі выходзяць прыблізна праз кожныя два-тры гады: «Барвы ранняй восені» (1962), «Зямля тваіх продкаў» (1964), «Пакуль не развіднела» (1966), «Апошнія і першыя» (1968), «Дарогі» (1971), «Аксана» (1971), «Памяць» (1973), «Тры аповесці» (1976), «Ваўчыца з Чортавай Ямы» (1978), трылогія «Вялікі Лес» (1980, 1982, 1984), «Горкая радасць вяртання» (1987), «Вечны кругазварот» (1989) і «Родны кут» (1989).

Зразумела, такая колькасць выдатна напісаных твораў вымагала вялізнага выдаткавання сілаў, любові пісьменніка да сваёй прафесіі і, вядома, жорсткай дысцыпліны. І гэта пацвярджае ягоная дачка Святлана Явар:

> *...даражыў кожнай хвілінай свайго жыцця. Уставаў у 6 гадзін, не шкадаваў сябе цэлы дзень — пісаў, друкаваў, рэдагаваў, арганізоўваў і наладжваў, кантактаваў — і вельмі позна клаўся адпачываць.*
>
> *...Прыгадваецца напружаная праца бацькі за пісьмовым сталом. Ліст за лістом ён спісваў, ствараючы апавяданні, аповесці, раманы... У яго быў неразборлівы почырк, і мама потым перапісвала, а то і друкавала, рукапісы.*

У асобе Барыса Сачанкі шчасліва супалі – вялікі талент пісьменніка з аднаго боку, і вялікая самадысцыпліна, беларуская сялянская працавітасць – з другога.

Але ўпершыню загаварылі пра Сачанку не як пра аўтара апавяданняў, а з нагоды надрукаванага 14 снежня 1957 года ў газеце «Літаратура і Мастацтва» артыкула «Шанаваць родную мову». Гэты быў першы ў пасляваеннай Беларусі публічны выступ супраць русіфікацыі ў БССР.

З болем студэнт БДУ Барыс Сачанка адзначае:

> *...На аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта вывучэнню беларускай мовы не надаецца належнай увагі. Курс беларускай стылістыкі – гэта адна толькі назва. Выкладаецца ён на рускай мове...*

*...Калі не надаецца сур'ёзная ўвага вывучэнню беларускай мовы на аддзяленні журналістыкі, дык, можа, гэта робіцца хоць на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, якое рыхтуе выкладчыкаў для сярэдніх школ? Не. Там таксама выкладанне на роднай мове не вядзецца.*

Артыкул быў перадрукаваны мюнхенскай «Бацькаўшчынай», і пра Барыса Сачанку пачалі шмат пісаць у эміграцыйных колах, «зрабілі з мяне ледзь не нацыянальнага героя», – успамінае пісьменнік. Сачанкам зацікавіліся пэўныя органы, пачаліся непрыемнасці. Аднак універсітэт ён усё ж скончыў.

У «Хроніцы дэмакратычнай апазіцыі Беларусі: 1956–1988» адзначаецца, што артыкул Б. Сачанкі «Шанаваць родную мову» – гэта першы выступ у прэсе супраць русіфікацыі.

Праз адзінаццаць гадоў новыя студэнты, сярод якіх быў вядомы цяпер паэт Алесь Разанаў, ужо ў новых палітычных абставінах зноў выступяць з патрабаваннем зрабіць выкладанне на філфаку БДУ на беларускай мове (быў напісаны калектыўны пісьмовы зварот студэнтаў). Але ўмовы 1968 г. былі іншыя, апарат русіфікацыі спраўна працаваў, і студэнты былі выключаныя з універсітэта.

Адзначу ў гэтай сувязі, што зварот 1968 г., звязаны з патрабаваннем беларускамоўнага выкладання ва ўніверсітэце, цяпер увайшоў у аналы найноўшай гісторыі нацыянальнага адраджэння Беларусі пасляваеннага перыяду, але амаль нідзе не ўспамінаецца нашмат ранейшы выступ (ды яшчэ ў цэнтральнай прэсе!) Барыса Сачанкі. Гэта яшчэ адзін прыклад сціпласці выдатнага пісьменніка з Палесся.

***«Барвы ранняй восені» (1962).*** Так называлася другая кніга пісьменніка. Крытыкі паднялі страшэнны лямант. «*Нават Пленум ЦК КПБ удзяліў маёй сціплай асобе немалую ўвагу. Зацікавіліся мною і тыя службы, якіх заўсёды хвалявала, хто што думае*», – згадваў пісьменнік. Яго абвінавачвалі ў натуралізме, у тым, што ён не бачыць у жыцці нічога светлага, аптымістычнага. У гэтым творы праявілася галоўная рыса Сачанкі: не проста ўсхваляць дабро, радасць жыцця, а паказваць іх у змаганні, паказваць прычыны заганаў грамадства.

***Аповесць «Апошнія і першыя» (1966)*** – значнае дасягненне пісьменніка, гэта рэквіем у прозе. Пісьменнік смела ідзе на стылёвыя эксперыменты: выкарыстоўвае розныя пласты мовы, звяртаецца да біблійнай тэматыкі, алегарычна-казачных і прыпавесных сюжэтаў.

«*Я хацеў бы, каб гэта быў сон. Але гэта не сон. Не, не сон. Гэта праўда!*» – вось так, з роспаччу, рэагуе маленькі хлопчык, падлетак Ясік, бачачы сваю спаленую фашыстамі вёску Рудня. Гэтымі радкамі, што западаюць у душу, завяршаецца аповесць-рэквіем.

***Раман «Чужое неба» (1975).*** Гэты твор – першая спроба Б. Сачанкі ў жанры рамана. «Чужое неба» — адзін з самых асабістых твораў Барыса Сачанкі. Пачынаецца раман раздзелам «Вёска майго маленства». Гэта ўсхваляваны лірычны аповед пра родны, бясконца дарагі герою і аўтару куток зямлі, з якога пачынаецца Радзіма, адкуль пачынаецца шлях у невядомы прастор будучага жыцця.

Вось як пранікнёна, з любоўю апісвае пісьменнік сваё роднае Палессе:

*На Палессі, на самым поўдні Беларусі ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. Дзе б ні быў я, куды б ні закінула мяне доля, не-не дый згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых, прадаветных лясоў, вялізных, неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся, у якой жыве і сёння мая маці, жывуць браты. Там, у той вёсцы, у дзедаўскай сялянскай хаце, я ўпершыню адкрыў свае вочы, там сказаў першае сваё слова, зрабіў першыя свае крокі...*

«Чужое неба» – неба чужыны, дзе прайшлі два гады дзяцінства Сачанкі.

Ёсць у чалавека сваё, роднае неба. Неба дзяцінства, неба бацькоўскай зямлі. Яно чыстае, блакітнае і празрыстае; яно не гняце чалавека, а ўзвышае, уздымае да жыцця. Паветрам гэтага неба, роднага неба Палесся, насычаны найлепшыя творы пісьменніка.

Барыс Сачанка не з кніжак ведаў вайну. Так склалася, што большая частка дзіцячых гадоў (з шасці да дзесяці) прыйшліся на вайну. І таму тэма вайны была адной з галоўных тэм ягонай творчасці. Ужо ў кнізе «Пакуль не развіднела», выдадзенай у 1966 г., ён піша пра партызанскі рух і шараговых партызан – удзельнікаў тых падзей. Зусім не праслаўленне і не дыфірамбы слаўным партызанам гучаць у прозе Б. Сачанкі. Ён фактычна разбурае традыцыі сацыялістычнага рэалізму і, як і Васіль Быкаў, паказвае праўду вайны, часам зусім непрывабную. Сачанка паказвае, што многія станавіліся на шлях партызаншчыны зусім не з патрыятызму, а хутчэй з інстынкту самазахавання.

Аднак Б. Сачанка ніколі не рабіў таго, што стала ледзь не модай у 90-я гады, калі партызанскі рух імкнуліся прынізіць, ачарніць. Ён, як і заўжды ў сваім жыцці, стаіць за праўду, а яна – не бывае толькі белай ці толькі чорнай, яна шматаблічная.

## Трылогія «Вялікі Лес» (1980, 1982, 1984)

Раман-трылогія «Вялікі Лес» – найбуйнейшы Сачанкаў твор, праз які таксама праходзіць тэма вайны. Раман ахоплівае вялікі перыяд з жыцця вёскі Вялікі Лес, ён апавядае пра час калектывізацыі, пра суровыя 1930-я гады. Трылогія Сачанкі – глыбокі і арыгінальны твор, які дэманструе значнае творчае дасягненне пісьменніка. Пісьменнік стварыў у ім цэлую галерэю цікавых персанажаў, як станоўчых, так і адмоўных.

«Вялікі Лес» шмат у чым пераклікаецца з ваеннай трылогіяй Івана Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці» і ўносіць неацэнны ўклад у залатую скарбонку беларускай ваеннай літаратуры.

Як і Іван Навуменка, што хавае свае родныя Васілевічы (якія, дарэчы, усяго за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад мясцін Барыса Сачанкі) пад назвай Бацькавічы, так і Б. Сачанка сваю родную вёску Вялікі Бор празрыста перайначвае ў «Вялікі Лес». Родныя мясціны пісьменніка ўгадваюцца на працягу ўсяго твора, у апісанні палескіх, хойніцкіх лясоў і балот, у ягоных героях. Сачанка піша:

*Як Антэй, дакрануўшыся маці-зямлі, набіраўся новых сіл, так і я, наведаўшы родныя мясціны, гаюся, на доўгі час пазбываюся сноў. Сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі маленства...*

Твор складаецца з трох кніг, кожная з якіх таксама падзяляецца на тры часткі. Агулам трылогія займае 815 старонак друкаванага тэксту. Б. Сачанка з вялікім майстэрствам і талентам малюе карціну жыцця вёскі «Вялікі Лес», лёсы яе жыхароў на працягу ад некалькіх перадваенных гадоў – да першых гадоў нямецкай акупацыі.

Сярод вялікага дыяпазону тэм, блізкіх Барысу Сачанку, цэнтральнай застаецца тэма дзяцінства, лёс маленькага чалавека ў вялікім свеце пасляваеннай рэчаіснасці. Яна яскрава раскрываецца ў апавяданні «Хлеб», дзе апісаны звычайны дзень хлопчыка Толіка, якому маці дала акрайчык хлеба, а другі такі ж кавалачак – брату:

*...Ад братавага кавалачка я адшчыпнуў крошачку. Толькі крошачку. Адну маленечкую, малюпасенькую крошачку. Укінуў яе ў рот. Пачаў жаваць. Калі пракаўтнуў, не заўважыў, як пальцы мае самі, не пытаючы ў мяне на тое згоды, адшчыпнулі яшчэ крошачку. Маленечкую, малюпасенькую крошачку...*

Такая ж дакладнасць і такая ж яркая перадача перажыванняў і ў Міхася Страль-

цова ў знакамітай аповесці «Адзін лапаць адзін чунь», дзе сямігадовы хлопчык Іванка марыць аб новых чунях і... хлебе:

*Ён апусціў руку ў падрапаную кішэню світы і шчоццем грэбаў там за падкладкай, спадзеючыся хоць што-кольвек знайсці на падман голаду: хоць крошку каржа ці хлеба, хоць пшанічнае ці жытняе зярнятка. І хлебную корку ён знайшоў, сухую і гаркаватую, як паспытаў на зуб, і аж дзве пшанічыны на астачу: рассмактаваўся і захацелася больш.*

Трагедыя маленства – адна з асноўных тэм творчасці Барыса Іванавіча. Усё, што перажыў Барыс Сачанка ў дзяцінстве, ён здолеў перадаць мастацкім пяром, выдатныя тэксты якога былі распачатая ў разгледжаным творы «Хлеб» і знайшлі далейшае развіццё ў творах «Чужое неба», «Апошнія і першыя», «Палон» і шэрагу іншых.

Міхась Стральцоў быў для Барыса Сачанкі аўтарытэтам, і ён часта падкрэсліваў гэта. Вось як ён піша пра прозу М. Стральцова ў першыя гады (пачатак 60-х) іх уваходу ў літаратуру:

*Кожнае слова, кожны сказ былі ў яго вывераны, вынашаны... У мяне ж часта не хапала цярплівасці папрацаваць яшчэ і яшчэ над сваім творам.*

У сваіх аповесцях і апавяданнях пра мірны час аўтар выяўляе шырокую тэматычную разнастайнасць. Гэта і апавяданне «Барвовае рэха» (1965), у якім паказаныя розныя бакі калгаснага побыту на фоне глыбокіх пачуццяў ягоных герояў, і апавяданне «Соль» (1971), пра чалавека ўжо немалых гадоў, які праязджае праз вёску, дзе ўсяго некалькі хатаў, гаспадары якіх з'ехалі ў горад.

Б. Сачанка ў сваіх творах часта выкарыстоўвае элементы містыкі і фантастыкі. У цалкам рэалістычным апавяданні «Карчоўнік» (1986) да хлопчыка, які хаваецца ў лазняку ад немцаў (яны наляцелі з аблавай на вёску), раптам з'яўляецца чорт Карчоўнік, які прапануе прадаць яму душу, а за гэта ён выратуе героя ад пагібелі.

Чорт даволі часты ў Сачанкі персанаж, які з'яўляецца нават пры напісанні цыклу апавяданняў, нарысаў з замежных падарожжаў у другой палове 80-х гадоў. Так, падчас наведвання Амстэрдама – апавяданне «Чорт з Суматры» (1989) – сам пісьменнік сустракаецца ў гасцініцы з інданезійскім чортам, які набіваецца паехаць з ім у Беларусь, бо ён мерзне ў Галандыі. Аўтар фактычна ўцякае ад няпрошанага спадарожніка, не прыхапіўшы нават сваіх рэчаў з гасцініцы. Цікавая і філасофская прыпавесць «Трэцяе вока» (1988). Герой твора, дзякуючы таямнічаму «трэцяму воку», прадбачыць будучыню і можа сачыць за людзьмі ў любой частцы свету.

За што б ні браўся Барыс Сачанка – ці то гэта тэма дзяцінства, ці гэта тэма вайны, ці ўспаміны – ён імкнецца ісці да агульназначнага, агульначалавечага. Такі падыход назіраецца і ў эстэтычных прынцыпах Кузьмы Чорнага, якога Барыс Сачанка цаніў за глыбокае разуменне беларускай душы і роднай мовы, за клопат аб лёсе і гісторыі Беларусі. Творчасць К. Чорнага для Сачанкі – каштоўны ўзор добрай беларускай прозы, якой ён захапляўся яшчэ са студэнцкіх гадоў:

*Сапраўдны смак ягонай прозы, ягонага мастацкага слова я адчуў, спасціг яшчэ ў студэнцкія гады, калі акрамя хрэстаматыйнага «Трэцяга пакалення» адкрыў для сябе не менш цудоўныя раманы «Зямля», «Лявон Бушмар», «Бацькаўшчына», «Вялікі дзень», «Млечны шлях».*

Акрамя напісання празаічных твораў Барыс Сачанка шмат часу аддае перакладу, піша кніжкі для дзіцей, а таксама выдае зборнікі крытычных нарысаў. Сярод іх – «Жывое жыццё» (1985), «Сняцца сны аб Беларусі...» (1990) і «Трэцяе вока» (1992).

Вялікая заслуга Б. Сачанкі ў тым, што ён адкрываў беларускаму народу забытыя імёны ці невядомыя творы пісьменнікаў-эмігрантаў. Многія з іх былі ў свой час

залічаныя да нацыянал-дэмакратаў і закатаваныя, высланыя ў бязмежныя прасторы Сібіры ці з'ехалі на чужыну. Так, ён вяртае з нябыту імёны Вацлава Ластоўскага, Казіміра Сваяка, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Клішэвіча, Алеся Салаўя... Ён адзін з першых звярнуў увагу на выдатную беларускую паэтку Ларысу Геніюш, рэпрасаваную сталінскім рэжымам. Ён падрыхтаваў і выдаў яе кнігу вершаў «Белы сон» (1990), што было вельмі няпроста ў тыя, яшчэ савецкія часы.

У сваіх крытычных артыкулах Б. Сачанка адкрывае невядомыя творы і старонкі жыцця беларускіх класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю пра грамадска-літаратурны рух 1920–1930-х гадоў, рэпрэсаваных пісьменнікаў, беларускую эміграцыю ў кнізе «Сняцца сны аб Беларусі» (1990). Сам паспытаўшы смак сталінскага рэжыму, Барыс Сачанка праз усё жыццё застаецца актыўным змагаром за рэабілітацыю рэпрэсаваных, якая распачалася пасля ХХ з'езду КПСС і выкрыцця культу асобы Сталіна. Ён стварае шэраг кароткіх мемуарных мініяцюр, прысвечаных рэабілітаваным героям, піша нарысы. Выкарыстоўвае для працы сваё асабістае знаёмства з сваякамі рэпрэсаваных, шмат працуе ў архівах. Ужо ў пасляперабудовачны перыяд выходзіць ягоная кніга «Беларуская эміграцыя» (1991), а таксама нарысы «Куды ты ідзеш, Амерыка?», «У краіне польдэраў і цюльпанаў», «На зямлі Беластоцкай», «Па слядах Скарыны», «Восень у Парыжы».

С. Дубавец у сваім артыкуле «Інтрыга Сачанкі», аналізуючы дзейнасць Сачанкі што да беларускіх эмігрантаў, лічыць, што Сачанка блефуе, і нават хваліць сталіністаў, але робіць гэта нібыта з мэтай дасягнення найвышэйшай мэты:

> *Паміж недагавораннем і дагавораннем у Сачанкі здарыўся стрэс «перагаворання», калі ён наехаў на некаторых эмігрантаў і пахваліў сталіністаў. Гэтак выглядаў Сачанкаў блеф, абаперты на разуменні, што і які-небудзь бясконца далёкі ад беларушчыны начальнік-сталініст праз такую вось «мёртвую пятлю» пачне нарэшце атаясамліваць сябе з уласнай нацыянальнай культурай... Затое ўжо праз адно толькі называнне Арсеневай – у любым кантэксце – можна прасунуцца да яе легалізацыі.*

Трэба сказаць адразу, што Сачанка ніколі не «хваліў сталіністаў». Наадварот – культ асобы, рэпрэсаваныя пісьменнікі і іх рэабілітацыя – гэта ягоны боль і пажыццёвы клопат. І таму заканамерна, што Наталлю Арсенневу Сачанка ўсяляк вылучае ў лепшым святле. Гэтаксама прадстаўляе Ларысу Геніюш насуперак адмоўнаму стаўленню афіцыйных асоб. Сачанка ніколі не выконваў нечых заказаў, не агучваў «меркаванні» партыйных начальнікаў.

З іншага боку, здаралася, што ён крытыкаваў некаторых эмігрантаў. І, як высвятлялася, – было за што. Ён ламаў тэндэнцыю некаторых адраджэнцкіх колаў выстаўляць усіх нашых беларусаў, хто апынуліся за мяжой, выключна ў светлых фарбах. Няма людзей без заган, нельга дзяліць людзей на «белых» ці «чорных». Выбар іх жыцця – гэта іх выбар. І праўда для пісьменніка перадусім.

## Публіцыстыка Барыса Сачанкі

У жанры нарыса, мемуараў і іншых літаратурных формах, што цяпер часта аб'ядноўваюцца тэрмінам non-fiction, Б. Сачанка працаваў усё жыццё, ад першага згаданага вышэй артыкула ў абарону беларускай мовы да апошняга зборніка «Пад сузор'ем сярпа і молата», складзенага аўтарам, але які пабачыў свет пасля яго смерці. У творчасці пісьменніка значную ролю адыгрывае і гісторыя.

Перад намі кніга «Зямля маіх продкаў» (1964). Сачанка раскрываецца тут як чалавек, закаханы ў свой край, і гэтая любоў выліваецца ў гімн красе палескай прыроды. Б. Сачанка заклікае не забываць і шанаваць людзей мінулага, якія славілі Палессе. Вось як піша ён пра вядомага прапаведніка і тэолага Кірылу Тураўскага:

*Падарожны, скінь шапку і нізка пакланіся зямлі, якая ўзгадавала такога сына не толькі дзеля славы свайго горада... Па гэтай зямлі ён хадзіў, тут ён думаў, тут складаў свае славутыя пропаведзі, дзякуючы якім яго інакш пры жыцці і не звалі, як «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси». Тут ён, яшчэ юнаком, пастрыгся ў манахі і так захапіўся аскетычным жыццём, што папрасіў замураваць сябе ў манастырскай вежы і там у адзіноце аддаўся посту і літаратурнай дзейнасці... Гучаць і сёння словы найвялікшага мудраца Палесся... Гучаць і будуць гучаць, пакуль жыве Беларусь, пакуль жыве на гэтай зямлі вялікае братэрства славянскіх народаў!*

Пісьменніка вельмі цікавіла постаць незаслужана забытага паэта пачатку XX ст. Алеся Гаруна. Ён нават напісаў сцэнар для дакументальнага фільма пра яго.

Б. Сачанка шмат увагі аддаваў выданню і перавыданню забытых ці нават забароненых раней пісьменнікаў як беларускага, так і рускага кантэнту. Ён укладае выбраную прозу Я. Гушчы «Пан Грацыян і іншыя», Я. Івашкевіча «Дзяўчына і галубы», К. Федзіна «Сустрэча з мінулым», М. Булгакава «Белая гвардыя», «Жыццё пана дэ Мальера», Ф. Салагуба «Святло і цені», У. Набокава «Знішчэнне тыранаў», Л. Геніюш «Белы сон», двухтомнай «Анталогіі рускага савецкага апавядання», анталогіі эміграцкай беларускай паэзіі «Туга па радзіме», кнігі ўспамінаў «На суд гісторыі». Сачанка робіць пераклады на беларускую мову твораў Я. Гуцалы, П. Андрэева, І. Андрыча, А. Салынскага, А. Галіна, інш.

Найбольш поўна прадстаўлена публіцыстычная і мемуарная творчая спадчыны Б. Сачанкі ва ўжо пасмяротным выданні, кнізе «Пад сузор'ем сярпа і молата». Кніга была здадзена ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» яшчэ пры жыцці пісьменніка. Але пасля раптоўнай смерці Барыса Сачанкі выдавецтва чамусьці пачало затрымліваць выхад кнігі. Мала таго, кніга праляжала дзесяць гадоў, ды так і не выйшла. Рукапіс кнігі вярнулі ў сям'ю Барыса Сачанкі. Толькі ў 2016 годзе ў серыі «Кнігарня пісьменніка» кніга ўрэшце выйшла.

Зборнік пачынаецца аўтабіяграфічнай аповесцю «Засталіся толькі ўспаміны...» Вядома, найперш тут успаміны пра ваеннае дзяцінства ў вёсцы Вялікі Бор. Пісьменнік малюе нялёгкае паўсядзённае жыццё на акупаванай тэрыторыі, з болем піша пра спаленне любімай вёскі і падрабязна апісвае нялёгкі шлях ягонай сям'і праз усю Беларусь, Польшчу і Германію на прымусовую працу да нямецкага баўэра.

У наступным раздзеле «Запісы розных гадоў» – мемуарныя нататкі і літаратурныя запісы розных часоў. Цікавы трэці раздзел кнігі, дзе сабраныя нататкі і апавяданні Барыса Сачанкі, напісаныя ў час працы ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Сярод іх – успаміны пра людзей літаратурных і калялітаратурных колаў, напісаныя, як той казаў, з першых вуснаў – з назіранняў самога Барыса Іванавіча – поўныя пяшчоты да сваіх суайчыннікаў, з сяброўскімі жартамі пра іх прыгоды.

Шэраг тэкстаў у другім раздзеле кнігі – занатоўкі, нарысы, напісаныя паводле камандзіровак Барыса Сачанкі па замежжы. Як і ў многіх інтэлігентаў савецкага мінулага, якія былі ў тыя часы ў захапленні ад Парыжа, у Сачанкі таксама была мара пабываць у «сталіцы свету». Парыжу ён прысвячае цэлы цыкл нарысаў пад агульнай назвай «Восень у Парыжы». Трапіў Барыс Іванавіч у Парыж як член дэлегацыі ад БССР, якая брала ўдзел у 26-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА. У сваіх нататках-нарысах Б. Сачанка ўдала сумясціў звычайную справаздачу пра працу канферэнцыі і мастацкія замалёўкі, а часам і прыгоды, з жыцця горада.

Яшчэ адна тэма творчасці пісьменніка – гэта Чарнобыльская катастрофа. Яна непасрэдна закранула родныя мясціны пісьменніка. Тут прайшла «зона адчуджэння»... Сачанка вельмі перажываў за свой край, і пра гэта ён з болем піша ў розных творах. Разгубленасць і страх за забруджанае Палессе адлюстраваны і ў рамане «Родны кут». А вось як у «Запісках аб радыяцыі» гучыць рэквіем Сачанкі па сваім вялікаборскім лесе:

*Нарэшце, праз тры гады пасля аварыі надрукавана карта, дзе і якія грыбы можна збіраць. Мае родныя мясціны ў першай зоне, куды, як сказана ў каментарыях, у лес з кошыкам уваходзіць не трэба. Паўраспад цэзію-137 доўжыцца каля трыццаці трох гадоў... Значыцца, я больш ніколі ўжо не патрымаю ў руках, не з'ем ні баравіка, ні падасінавіка, ні рыжыка, ні якога іншага грыба са свайго лесу...*

Барыс Сачанка лічыў, што талент даецца ад Бога. І свой талент, свой падарунак ад Госпада ён выкарыстаў спаўна. Ён унёс у літаратуру свой адметны стыль, свой погляд на тое, якой павінна быць літаратура, і здолеў па-мастацку данесці гэта да нас. Ён казаў:

*Пісьменнік павінен валодаць пачуццём меры. Уменнем своечасова паставіць кропку... У сапраўдным, па-майстэрску напісаным мастацкім творы трэба каб было, як казаў паэт, «ні ўбавіць, ні прыбавіць»... Самае вялікае майстэрства – гэта калі яго зусім не відаць.*

Гэты Сачанкаў запавет вельмі не зашкодзіла б ведаць сучасным вынаходнікам розных мадэрных эксперыментаў у літаратуры. Але гісторыя ўсё паставіць на сваё месца. І я пэўны – Барыс Сачанка застанецца ў ёй назаўжды.

## Нацыянальная ідэя

Цяжка перабольшыць уклад, які зрабіў пісьменнік у беларускае адраджэнне, у захаванне і развіццё беларускай мовы, у вяртанне гістарычнай памяці народа, у рэабілітацыю беларускіх літаратараў, беспадстаўна рэпрасаваных сталінскім рэжымам, – ва ўсе тое, што яднаецца адзіным словазлучэннем – Беларуская нацыянальная ідэя.

Сачанка падводзіць нас да разумення беларускай нацыянальнай ідэі не прапагандай беларускай мовы ці мітынговай прамовай – а простымі, часта шчымлівымі да слёз жыццёвымі замалёўкамі, якія змушаюць нас задумацца, і... змяніцца. Вось, напрыклад, урывак з нарыса «Роднае». Дзея адбываецца ў Сібіры, куды трапляе па справах мастак-керамiст са сваімі вырабамі:

*...І вось падыходзіць да мяне зусім стары чалавек. Было яму гадоў дзевяноста, а можа, і болей... Убачыў зробленыя мною гладышы, глякі, варэйкі, куфлі, чаркі, свісцёлкі і як бы анямеў. А потым раптам заплакаў, заліўся слязьмі. ...Аказалася, сам гэты стары родам з Беларусі, быў высланы ў Сібір, там, можна сказаць, пражыў усё сваё свядомае жыццё. Зусім забыў Беларусь... А ўбачыў мае вырабы – і ажыло роднае, тое, чым жыў у дзяцінстве, – хата, двор, бацька, маці, гладышы і глякі, з якіх калісьці піў малако, бярозавік... Так узяло старога за душу, што ён і назаўтра, і напаслязаўтра прыходзіў на выстаўку. І чаго толькі не расказваў, чаго не ўспамінаў!..*

Вуснамі гэтага мастака Б. Сачанка пераказвае існасць беларускай ідэі:

*А ў мяне пасля гэтага і думка ўзнікла: «Ёсць усё ж нешта нашае, беларускае, што належыць толькі нам і больш нікому, што нікога так не хвалюе, як саміх нас, беларусаў». І з таго часу толькі на роднай мове пачаў размаўляць, па вёсках ездзіць, шукаць усяго свайго, што яшчэ не загінула, засталося.*

Пісьменнік быў сапраўдны патрыёт. Дзе б ён ні знаходзіўся, думкі аб радзіме, яе лёсе, будучыні – не пакідалі яго. Ён часта бываў за мяжой і меў магчымасць параўнаць жыццё ў той краіне, дзе гасцяваў, са сваёй Беларуссю. Жывучы ў Францыі, ён быў прыемна ўражаны ведамі французскіх дзяцей пра сваю краіну. Ва ўспамінах з гэтай нагоды Барыс Іванавіч з горыччу піша:

*Успомніў я сваю беларускую школку... Выпускнікі ж не толькі не ведаюць геаграфіі, гісторыі Беларусі, але нават мовы... Не дзіва, што і адносіны да свае Бацькаўшчыны, мовы такія ў нас іншы раз зняважлівыя, а то і грэблівыя...*

Гэта ключавая беларуская задача – выхоўваць дзяцей з дзіцячага садка, са школы, інстытута. Каб дзеці ведалі сваю гісторыі не горш за французскіх дзяцей, каб з пялюшак чулі беларускую мову і думалі на ёй, каб хварэлі за сваю беларускасць, ганарыліся ёй.

У часы ўздыму нацыянальнага адраджэнння 90-х гг. сталі актыўна вяртацца да класічнага правапісу беларускай мовы – тарашкевіцы. Масавы пераход да даўно забытага правапісу ствараў немалыя цяжкасці. І таму можна зразумець яго непрыняцце з боку прафесійных літаратараў, якія ўсё жыццё карысталіся звыклым правапісам, празваным «наркамаўкай». Паўставала пытанне: а ці так ужо трэба, ды і наогул, ці слушна пераходзіць да класічнага правапісу? Сачанка і на гэтае пытанне мае свой абгрунтаваны адказ, ён бароніць правапіс, якім карысталіся беларускія класікі, на якім вырасла новая беларуская літаратура:

*Чаму трэба вяртацца да Тарашкевіча, а не да мовы Актаў і Статута Вялікага Княства Літоўскага? Ці, напрыклад, да мовы і правапісу часоў Ф. Скарыны?.. Не будуць, як таго каму і хочацца, – я ў гэтым упэўнены! – гаварыць і "глёбус", і "кляса", "філязоф" і г.д. Што мінула, таго не вернеш. Двойчы ўвайсці ў тую самую ваду нікому яшчэ не ўдавалася... Не навязваць трэба народу, як яму гаварыць, а вучыцца мове ў народа.*

Вучыцца мове ў народа – гэта праўда, якую нельга выкінуць ці змяніць. І хоць часы змянілі тую мову, хоць часта за трасянкай не відаць літаратурнай асновы, яна застаецца і будзе заставацца крыніцай мовы.

У 1990-м годзе Б. Сачанка ўзяў удзел у напісанні калектыўнага ліста беларускіх пісьменнікаў пад загалоўкам «Каму, якому народу служым?», надрукаванага ў газеце «Звязда» (1990, № 5) і прысвечанага занядбанаму стану беларускай мовы. Паказальны пачатак ліста, дзе яшчэ шырока ўжываецца савецкая рыторыка:

*«Мы, пісьменнікі – члены КПСС, мусім звярнуцца ўсё па тым жа балючым пытанні, якое сёння на вуснах у многіх і якому быў прысвечаны, нагадаем, трыццаць чатыры гады назад ліст-запавет Якуба Коласа. Сімвалічна, што гэты ліст, прадыктаваны глыбокай трывогай за лёс беларускай мовы, народны пясняр перадаў у ЦК КПБ у апошні дзень свайго жыцця...»*

*«...Наша культура проста задыхаецца і гіне. Даўно ўжо ў рэспубліцы не ставяцца помнікі выдатным дзеячам, не будуюцца новыя тэатры, музеі і бібліятэкі... Вядома, заўсёды можна спаслацца на цяжкасці: маўляў, не да мовы і культуры. Асабліва сёння, калі страшным цяжарам навалілася чарнобыльская бяда... Але ж духоўны Чарнобыль не менш небяспечны, ён, трэба сказаць, і з'явіўся адной з прычын, якія парадзілі тую разбалансіраванасць, тую крызісную сітуацыю, што склалася ў краіне...»*

Ліст быў накіраваны да свядомых камуністаў, да іх высокага прызвання быць авангардам прагрэсу ў краіне. Тут быў уведзены тэрмін «духоўны Чарнобыль», які цяпер ужо амаль забыты. Ліст пісьменнікаў-камуністаў быў напісаны пасля прыняцця Закону аб мовах 1990 г., дзе беларуская мова была абвешчана адзінай дзяржаўнай мовай у Рэспубліцы Беларусь. І супраць гэтага Закону распачалася актыўная дзейнасць праціўнікаў беларускай мовы. Таму ліст пісьменнікаў-камуністаў быў вельмі дарэчы.

Аднак неўзабаве знікне і КПСС, і сама БССР, настануць новыя часы пабудовы «дзікага капіталізму» ў Беларусі, і паднятыя ў тым лісце праблемы з новай сілай і з новым значэннем актуалізуюцца зноў. Сітуацыя пачне пагаршацца яшчэ больш,

і той калектыўны зварот 1990 г. стане для нас прыкладам яднання інтэлектуалаў вакол агульнай бяды – заняпаду беларускай нацыі, культуры і мовы. У тыя часы пасіянарнага ўздыму творца не стаіць убаку ад грамадскіх і дзяржаўных спраў.

Найбольш радыкальнай акцыяй тых гадоў, пэўна, быў рух за наданне асобнага статусу Віленскаму краю. Яшчэ на пачатку ХХ стагоддзя горад Вільню і Віленскі край насялялі 57% беларусаў, 8% палякаў, 17% літоўцаў. Там жыло шмат беларускіх культурных дзеячоў, там стваралася беларуская культура, літаратура, жыла мова. Таму і ўзнікла ідэя надання Віленскаму краю асобнай культурнай зоны, дзе б раўнапраўна развіваліся і літоўская, і беларуская культуры. Б. Сачанка горача падтрымаў ідэю вяртання гістарычнай памяці беларускаму народу і распаўсюджання сапраўдных, амаль забытых ведаў пра Віленскі край да нашай грамадскасці.

У гэтай сувязі ў газеце «Звязда» 11 студзеня 1992 г. быў надрукаваны артыкул-зварот да грамадскасці Беларусі і Літвы пад назвай «Гісторыя не церпіць перакосаў», які падпісалі вядомыя ў Беларусі людзі: Р. Гарэцкі – акадэмік АН РБ, М. Ермаловіч – гісторык, Я. Лецка – старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына, А. Ліс – член СП, М. Лужанін – пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, Б. Сачанка – пісьменнік, В. Сіўчык – сябра Рады ЗБС «Бацькаўшчына», В. Цітоў, С. Цярохін – гісторыкі-этнографы.

І хоць пэўных station ўчых вынікаў гэты ліст-зварот у выніку складанай палітычнай сітуацыі не прынёс, ён выклікаў вялікі рэзананс у грамадскасці, прынамсі, з’явілася шмат твораў, напісаных на гэтую тэму гісторыкамі, літаратарамі і іншымі неабыякавымі да лёсу Беларусі людзьмі.

Трэба адзначыць, што Сачанка быў патрыётам Беларусі ва ўсім. Напрыклад, ён шчыра выступаў за ўказанне нацыянальнсці ў пашпарце. Несумненна, каб ён дажыў да пазнейшых часоў адкату беларусізацыі і культывацыі пагарды да беларускай мовы ў грамадстве, то зрабіў бы шмат карыснага ў абарону мовы і беларускасці наогул. Пісьменнік добра ўсведамляў, што ў падмурку нацыянальнай ідэі разам з моваю ляжыць шанаванне і сваёй нацыянальнай сімволікі. Ён не сумняваецца ў тым, што нацыянальныя сімвалы – бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» – павінны быць дзяржаўнымі сімваламі.

У пачатку 90-х гг. з боку камуністаў і іх прыхільнікаў, якія, нягледзячы на бурны рост антыкамунізму, мелі ў тыя часы яшчэ вельмі высокі патэнцыял і аўтарытэт, пашырылася рыторыка, скіраваная на дыскрымінацыю беларускіх нацыянальных сімвалаў. Так, адным з цэнтральных аргументаў супраць бел-чырвона-белага сцяга была згадка пра тое, што гэты сцяг выкарыстоўваўся ў час Другой сусветнай вайны беларускімі калабарантамі. Б. Сачанка з гэтай нагоды пісаў:

*Так, «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваліся ў час вайны калабарантамі. Але тое ж здарылася з нацыянальнымі сімваламі і ў Францыі, Венгрыі, Балгарыі... І ўсё ж народы не выракліся іх.*

І той факт, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прымае ўрэшце нацыянальныя сімвалы – бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоню» – як дзяржаўныя, успрыняўся многімі як нейкая здрада, як парушэнне традыцый шанавання Вялікай Айчыннай вайны. Сачанка ж зусім не на баку партыйнай наменклатуры, як заўсёды мае сваю пазіцыю, сваё меркаванне:

*...Не трэба абвінавачваць наш Вярхоўны Савет у нейкім святатацтве* (пра прыняцце ВС сімволікі – герба «Пагоня і бел-чырвона-белага сцяга). *Я лічу яго рашэнне і гістарычна і маральна справядлівым.* («Пад сузор’ем сярпа і молата», с. 504).

І яшчэ пры жыцці Барыса Сачанкі – 10 снежня 1991 – года гэтыя сімвалы

становяцца дзяржаўнымі. Аднак, не надоўга. Пісьменнік, нібы прачуваючы эфемернасць і нетрываласць нацыянальнай свядомасці беларусаў, піша:

*Багатая і слаўная наша гісторыя. Але яе, на жаль, у нас мала хто ведаў. Рабілася ўсё магчымае, каб мы, беларусы забылі сваё мінулае, свае карані, нават не лічылі сябе народам. І з гэтага пакарысталіся многія. Асабліва літоўцы... яны прысвоілі і ўсё, што звязана з ВКЛ і Вільняй. Нават герб наваградскага князя – Пагоню.*

І далей, яшчэ бескампрамісней, амаль жорстка:

*...А што беларусы?.. Даводзіцца, як гэта ні прыкра, прызнацца, што мы як не мелі, так і не маем на многія падзеі і факты свайго пункту гледжання, па-ранейшаму глядзім на сваю гісторыю чужымі вачыма – літоўцаў, рускіх, палякаў...*

Як у ваду глядзеў Барыс Іванавіч Сачанка, дэкларуючы тут сумную праўду – *«глядзім чужымі вачыма...»*. На жаль, ён прадбачыў будучыню: менавіта ў год ягонай смерці, у 1995 годзе, адбыўся сумна вядомы рэферэндум, у выніку якога наш герб «Пагоня» быў канчаткова аддадзены суседзям – літоўцам.

Звяртаючыся да герояў беларускай гісторыі, Б. Сачанка не паўтарае за іншымі дыфірамбы, а выказвае свой погляд, адметны практычным зместам, так характэрным для пісьменніка:

*Нізка схіляю галаву перад мужнасьцю Кастуся Каліноўскага, які аддаў жыцьцё дзеля беларускай справы, пайшоў на сьмерць, каб сваім подзьвігам натхніць, павесьці за сабою многіх.*
*Але радуюся, што тым самым шляхам не пайшоў удзельнік паўстаньня 1863 года Францішак Багушэвіч. Паранены, ён перахаваўся, каб потым напісаць творы, якія панесьлі далей у народ словы і мары Кастуся Каліноўскага.*

Апошнія гады жыцця Б. Сачанкі праходзяць на фоне моцнай адраджэнцкай хвалі 90-х гадоў XX ст. Яго вельмі цешаць тыя пасіянарныя працэсы нацыянальнага ўздыму, распаўсюджання беларускай ідэі ў масах. Ён шмат піша на тэмы, звязаныя з адраджэннем.

У 1991 годзе ён выдаў твор пад назвай «Наша беларускае...», дзе ў кароткіх тэзісах, накідах выкладзена існасць беларускай нацыянальнай ідэі. У якасці эпіграфа да нарыса аўтар прыводзіць вялікі ўрывак з твору рускага рэлігійнага філосафа першай паловы XX ст. І. Ільіна. Зварот да Ільіна, аднаго з апалагетаў нацыянальнай ідэі і нацыяналізму, сведчыць аб глыбокім аналізе праблемы, роздуме над ёй, а не абвяшчэнні лозунгаў кшталту «Беларусь – вышэй за ўсё!», простым выкрыкванні на забароненым мітынгу вокліча «Жыве Беларусь!» Выкрыкнуць, трапіць у пастарунак, атрымаць статус палітуцекача, а то і «вязня сумлення» – выехаць за мяжу... і забыцца пра Беларусь. Яна, вядома ж, «жыве...», але ўжо без іх.

Менавіта рускія рэлігійныя філосафы канца XIX – першай паловы XX ст. – М. Бярдзяеў, У. Салаўёў, К. Лявонцьеў і ўжо згаданы І. Ільін – заклалі падмурак сучаснага разумення нацыянальнай ідэі, і іх думкі ўвасабляюцца ў жыцці і самаўсведамленні многіх сучасных нацыяў. Развіваючы думкі І. Ільіна, Барыс Сачанка піша:

*Як маці, бацьку нельга сабе выбраць, так і Радзіму, народ. Якія даў іх Бог, такія яны і ёсць. І не абурацца, не папракаць іх трэба. А рабіць усё магчымае, каб народ стаў лепшы, дабрэйшы, больш адукаваны, свядомы, а Радзіма – багацейшая і слаўнейшая.*
*...У кожнага чалавека свая жыццёвая дарога. Важна, каб усе мы ў меру сіл і здольнасцей служылі Бацькаўшчыне.* («Пад сузор'ем сярпа і молата», с. 366).

Гэтыя словы – падмурак усякай нацыянальнай ідэі. Цікава, што не будучы

знаёмым з словамі беларускага празаіка, у 2003 годзе аўтар гэтага нарыса напісаў манаграфію «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце», а ў 2010 – большае даследаванне «Игде зродилися и ускормлены суть по Бозе. Дослед беларускага нацыяналізму», дзе выказаны думкі, сугучныя сказаным Барысам Іванавічам:

*Чалавека без свайго нацыянальнага пачатку на Зямлі проста не існуе. Кожны нараджаецца альбо эстонцам, альбо рускім, альбо кітайцам... Я нарадзіўся беларусам. І змяніць гэтага я не дам рады. Але калі гэта так, калі Госпад даў мне жыццё ў гэтай нацыі, то значыць так трэба, і ў гэтым маім* ***нацыянальным існаванні і ёсць Найвышні сэнс****. І калі я ўразумеў свой кон і магу нешта зрабіць для сваe нацыі, то я мушу ісці гэтым нялёгкім шляхам.*

Без перабольшання можна сказаць, што Барыс Сачанка – творца беларускай нацыянальнай ідэі ў сучасным яе разуменнні. Ён дакладна фармулюе, бадай, адзіна магчымую схему заняпаду любой нацыі і, у першую чаргу, – беларускай:

*Самабытнасць народа – у яго мове, гісторыі, культуры, помніках мінулага. Гэта добра ведалі ўсе заваёўнікі і заняволенне іншых народаў заўсёды пачыналі з разбурэння і знішчэння чужой ім духоўнай спадчыны, навязвання і насаджэння ўсяго свайго, у першую чаргу – мовы, культуры. Бадай, ні адзін народ не спазнаў гэта на сабе ў такой жудаснай меры, як наш, беларускі.*

Але ўсюды ва ўсіх роздумах-перажываннях Сачанкі пераможным гімнам гучыць вера ў свой народ, вера ў ягоную будучыню:

*...І ўсё ж ён* (народ) *выжыў.*
*Нізка ж паклонімся яму мы, тыя, хто стаў сведкам і ўдзельнікам яшчэ аднаго новага нашага адраджэння, надзеі на лепшую, шчаслівейшую будучыню.*

## Эпілог

І скажуць: быў яшчэ ж ён малады,
Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.

**Сымон БЛАТУН**

Гэтыя радкі заўчасна памерлага таленавітага паэта Сымона Блатуна з ягонага другога і апошняга зборніка вершаў «Радаслоўнае дрэва» Барыс Сачанка цытуе ў сваім праніклівым артыкуле «Штрыхі» пра ягоную творчасць (ЛіМ, 2.06.1989). Мне здаецца, з поўным правам гэтыя радкі можна аднесці і да Барыса Іванавіча, які пакінуў свет у самым росквіце творчых сіл, ён казаў:

*Пісьменнік – гэта яго творы. Ёсць яны – ёсць пісьменнік. Няма твораў – няма пісьменніка.*

За свае творчыя гады – без малога чатыры дзесяцігоддзі – ён напісаў каля 40 кніг. Калегі па пяру вельмі шанавалі палескага самародка, вось яны выказваліся.

**Іван ШАМЯКІН:**

*Я шчыра любіў гэтага чалавека і пісьменніка. Ен радаваў сваёй творчасцю. Празаік шырокага дыяпазону, дальняга бою і аптычнай трапнасці. Усё, што ён пісаў, прыцягвала ўвагу калег, яго чытачоў, крытыкаў: апавяданні і аповесці, трылогія раманаў, нарысы, эсэ, крытычныя артыкулы, даследаванні. Барыс Іванавіч быў самы актыўны шукальнік забытых пісьменнікаў, тых, каго лёс занёс на край свету, і згубленых твораў, а іх нямала нават у класікаў нашай літаратуры.*

**Янка СІПАКОЎ:**

*Ён, здаецца, усё ўмеў і мог на гэтай зямлі. І толькі адзінае, што не ўмеў і не мог, – шанаваць, берагчы сябе. Працаваў на знос...*

*Я знарок гаварыў, успамінаў пра Барыса Іванавіча Сачанку як пра мужнага, сумленнага, шчырага, дзяржаўнага чалавека, як пра асобу, якая ўсё сваё жыццё, працу і творчасць аддала роднай Беларусі...*

*...Ён быў мужны і сумленны. Ніколі не мяняў сваіх думак, ні пад каго не падрабляўся, заўсёды да канца адстойваў свае погляды, за што яго паважалі нават непрыяцелі. Ён не здаў свайго партыйнага білета, не адмовіўся ад нязручнага на сёння членства ў ЦК КПБ і ў той жа час увесь быў аддадзены абнаўленню жыцця, беларускаму Адраджэнню, абараняў мову і гонар свайго народа.*

**Максім ЛУЖАНІН:**

*Думаецца, няпроста знайсці ў Беларусі чалавека, хто б не ведаў і не паважаў імя Барыса Сачанкі. За ўмельства, хутчэй – за прыроджаную здольнасць носьбіта яго рабіць людзям дабро. І рабіў ён гэта дабро ўсяк: адданасцю роднай мове і літаратуры, сваімі кнігамі, прагай абараніць і падняць незаслужана забытае і забароненае, сваёй практычнай дзейнасцю, працай у многіх рэдакцыях, у Саюзе пісьменнікаў, у выдавецтвах...*

*...Барыс Іванавіч чула адгукаўся на чалавечыя патрэбы і ў сілу свае патрэбы рабіць людзям дабро імкнуўся хоць чым цябе ўзрадаваць, прынесці што-небудзь у хату, падараваць, хай сабе драбнічку. Ён неўзаметку рабіўся душою размовы ў любым асяроддзі, чарнявы, чубаты, усмешлівы.*

Так з любоўю і пашанай казалі пра Барыса Сачанку яго сучаснікі, вядомыя пісьменнікі. І нельга абмінуць тут, у заключнай частцы нашага аповеду, успаміны ягонай дачкі, паэткі і літаратуразнаўцы Святланы Явар. Бацька для яе быў усім – і бязмерным аўтарытэтам, і настаўнікам, і сябрам. Ён увасабляў для яе ідэал мужчыны. Святлана Явар паспела напісаць вельмі светлыя і пяшчотныя ўспаміны пра свайго бацьку:

*Ён быў маім ідэалам. Аднак баюся, як пісаў Мікалай Гогаль, «впасть в умиление». ...Калі мне бывае горка і цяжка, я вяртаюся душою да свайго бацькі і, нібыта ў дзіцячыя гады, даверліва бягу насустрач яму па вясновым квітнеючым лузе...*

*Я любіла яго. А больш, магчыма, нікога. Закаханая ў свайго бацьку, я пакуль што не стварыла сям'і, не нарадзіла дзяцей. Так ужо атрымалася... Ніхто ў гэтым не вінаваты.*

Васіль Жуковіч



...паэт выгадаваў сучаснікам і нашчадкам раскошны сад сваіх твораў...

# Клопаты Анатоля Вярцінскага

## 1. Клопатаў шырокі фронт

Мне пашчасціла ведаць Анатоля Вярцінскага цягам дзесяцігоддзяў – з 1967 года. І вось неяк падумалася: які эпітэт найбольш стасуецца з чалавечаю сутнасцю славутага творцы? Ён і смелы, і ўдумлівы, і прынцыповы, і надзейны. А ўсе гэтыя якасці аб'ядноўвае ягоная заклапочанасць, неад'емная рыса характару.

Клопат Анатоля Ільіча зведалі многія, напоўніцу зведаў і я (пра ягоную глабальную заклапочанасць паразважаю далей, а пакуль – пра адносіны да бліжняга). Калі ён у Мінску займеў працу выдавецкага рэдактара, адразу ім быў заўважаны самабытны талент перыферыйнага паэта Міколы Купрэева. Менавіта з лёгкае рукі Вярцінскага выйшла ў свет ягоная кніжка "Непазбежнасць" з вершам "Як быў я цыганскім баронам", у якім і барон, і сама Цыганія – вобразы, безумоўна, алегарычныя.

Добра помніцца пачатак дзейнасці А. Вярцінскага на пасадзе кансультанта СП. Якраз тады, узімку 1967 года, па яго ініцыятыве і пад ягоным кіраўніцтвам быў праведзены ў Доме творчасці Каралішчавічы семінар маладых літаратараў, куды быў запрошаны і я.

Уражанні – незабыўныя. З намі, пачаткоўцамі, гутарылі, дзяліліся багатым досведам свяцілы-класікі нашай літаратуры: Максім Танк, Іван Мележ, Янка Брыль, Алена Васілевіч, а яшчэ Язэп Семяжон, Еўдакія Лось, іншыя знаныя пісьменнікі. Мы адчулі ўвагу і клопат сталых, шматвопытных і знакамітых. Нас надрукавалі ў рэспубліканскіх газетах (мяне асабіста ўвазе чытачоў “Звязды” прадставіла Еўдакія Лось). Мы, маладыя і ўжо як бы прызнаныя вядомымі, пераразнаёміліся, здружыліся.



*Анатоль ВЯРЦІНСКІ.*

І ўсе пранікліся павагай да кіраўніка семінара. Ён ні разу не з’язджаў пад вечар у Мінск, да сямейнікаў, а заставаўся ў Каралішчавічах, працягваў пашыраць знаёмства з намі, часам дапазна слухаў нас і па нашай просьбе чытаў што-небудзь сваё. Клапаціўся пра “семінарыстаў” і як кіраўнік, і як старэйшы сябра. Мяне тады дужа ўразіў адзін эпізод, які і дагэтуль часта ўспамінаю. Неяк не аказалася машыны, каб падвезці нездароўчую Ніну Мацяш ад сталоўкі да галоўнага корпуса. А гэта не так блізка – метраў за дзвесце. Анатоль Ільіч нёс дзяўчыну на руках па ўтаптаным снезе. Я напрасіўся дапамагчы. Ён не адразу даверыў мне, разумеючы: з такою далікатнаю ношаю грэх пакаўзнуцца. А якраз і здарылася непрыемнасць: ужо ля самага корпуса я не заўважыў пад нагамі лёду, прыцярушанага снегам. Ды, дзякуй Богу, усё абышлося без траўмы, я з Нінай на руках “прызямліўся” надзіва плаўна.

З той пары мы з Мацяшоўнаю пасябравалі назаўсёды. Яна клікала да сябе сяброў адусюль: з Белаазёрска, з Бярозы, з Берасця, з Мінска, а яшчэ з Украіны, з Польшчы... Менш як праз два гады пасля Каралішчавічаў (дзякуючы Каралішчавічам) мы з юным Валодзем Васілевічам трапілі да Ніны на радзіму, у яе прасторную і гасцінную бацькаўскую хату. Там, за аселіцамі Белаазёрска, нам адкрыўся цуд арабінавае ночы, у якой збегам акалічнасцяў мы аказаліся хрышчанымі асляпляльнымі бліскавіцамі і ўмытымі бясконцым шалёным ліўнем. Рэхам Каралішчавічаў сталіся пазней паездкі ўжо разам з Анатолем Вярцінскім да яе, прыязнае Ніны Язэпавай. А там, у застоллях, поруч з Нінай і яе вернай белаазёрскай сябрынай, здавалася, канца не будзе ўспамінам, жартам, тостам, вясёлым гамонкам. У 2003-м годзе адзначалася 60-годдзе Ніны Мацяш. Анатоль Вярцінскі перамовіўся з Нілам Гілевічам, і на гэтую ўрачыстасць паехалі мы ўтрох. Тады, 20 верасня, быў цёплы, сонечны дзень.

Праз пяць гадоў Ніны не стала. Панаваў снежаньскі холад, дзьмулі пранізлівыя вятры. У Белаазёрск паехала група пісьменнікаў. З намі быў А.І. Вярцінскі.

Пачынаючы з 2009 года ў маладым горадзе энергетыкаў, дзе жыла, шчыравала, радавалася і пакутавала, а ў святую ноч з 18 на 19 снежня памірала выбітная паэтка Ніна Мацяш, штогод у верасні ладзяцца паэтычныя чытанні, прысвечаныя ейнай памяці. І кожны раз, у прызначаны дзень, едзе туды Анатоль Ільіч Вярцінскі. Нават летась, калі цяжка хварэла яго жонка, светлай памяці Ада Сямёнаўна, ён не прамінуў паэтычных чытанняў у Белаазёрску.

## 2. Дэкламаванне без шпаргалак, або Пярэдадзень паэтычнага тэатра

...У Доме літаратара – незвычайная падзея: на сцэне адна актрыса не проста

дэкламуе, а ўмела пражывае творы аднаго паэта; яна – Галіна Дзягілева, ён – Анатоль Вярцінскі. Гучыць мілагучны, мяккі, задушэўны, таму і праніклівы, голас. Вядома, што паэт, як адметны донар, ахвяруе, передае гарачую кроў сваёй паэзіі тым, хто без яе не можа абысціся. Вось і адбываецца на вачах публікі сапраўдны цуд: ужо актрыса, падсілкаваная жыццядайнаю дозаю духоўнасці, становіцца інтэлектуальна-эмацыйным донарам для прасторнае людское залы, якая сцішылася, як бы замёрла, атрымліваючы зарад гаючага падмацунку. Паэзія Вярцінскага няпростая для ўспрымання, яна часцей за ўсё інтэлектуальная, у вершах, як правіла, існуе свая драматургія, так любімая студэнтамі, будучымі акторамі і рэжысёрамі. Некаторыя з вершаў, як, да прыкладу, “Эдзіт Піяф хоча любві”, “Размова з Ду Фу”, “Адлучэнне Талстога ад царквы”, “Я фільм глядзеў. Там – Спартака распялі...” даюць зацікаўленаму чытачу (і слухачу) больш, чым аб’ёмныя паэмы іншых, не надта заклапочаных зместам паэтаў. Што ні верш – то адкрыццё і суперажыванне. Прапаведуючы чароўнаю мастацкаю моваю любоў, якая ў паэта з’яўляецца скразным матывам, Галіна Аляксееўна гаворыць слухачам і пра антылюбоў ці проста чалавечую глухату, пра зло, якое існуе побач з любоўю і насуперак ёй, з болем апавядае пра жорсткае пакаранне Праметэя за здабыты ім для людзей агонь і пра здраду былога друга Гефеста (“Варыяцыі на тэму “Гефест – друг Праметэя”)... А мне яшчэ карціць пачуць суровую праўду пра жняю. “Хоць бы ўрывачак з “Дажынак”! – думаю. – Бо ўсю паэму як запамятаць?!” І раптам (вушам сваім не веру) – памяткая дэкламатарка пачынае жаданую паэму і ўсёй сваёй істотаю пражывае драму цёткі Аксінні на жніве: Не ўтрымалі серп яе рукі, // выпаў ён з аслабелых рук. // Села Аксіння, сагнулася ў крук, // села, скорчылася ад мукі”. Паказвае ўчотчыка-шкурніка: “Калі б знайшлася шклянка ў цёткі, // то хай бы цётка ішла дамоў. // Я прыпісаў бы цётцы соткі, // прыпісаў бы і з плеч далоў”. Не менш пераканаўча малюе брыгадзіра-паганятага: “Я аштрафую! Я падрыхтую // дакладную старшыні! // Лепей, Аксіння ідзі і жні!”; // Ты, можа, скажаш, што захварэла?! // Так і паверу табе я. // Ты здаравей ад мяне ўдвая. // Якая цябе возьме халера?..”, мужа Івана: “Кінь ты, Аксіння, ідзі паляжы. // Потым схадзі пашукай на мяжы // якой травы, бо галодныя свінні. // Зможаш – пакорпайся ў агародзе. // Зараз, Аксіння, не час хварэць...” І зноў жа – ніякіх экстравагантных жэстаў і позаў, асноўны сродак – моўна-інтанацыйны, ды ў кожным выпадку глыбокая асэнсаванасць таго, што закладзена ў гранічна шчырых, бескампрамісных радках, і таго, што адчуваецца між радкоў, ды, зразумела, прысутнасць вялікага сэрца актрысы – вырашальныя.

Той монаспектакль пад найменнем “Любіць...” адбываўся 30 лістапада 1987 года. Доўжыўся ён амаль паўтары гадзіны. Вершы і паэмы “Заазер’е”, “Дажынкі” чыталіся выключна па памяці. Я з захапленнем думаў пра Галіну Дзягілеву, бо дагэтуль нічога падобнага не чуў. Тая бліскучая лістападаўская вечарына ў Доме літаратара сталася вытокам унікальнага тэатра аднаго актора на Беларусі (цяпер яму ўжо трыццаць!). А сам час, калі мог адбывацца такі цуд, з’яўляўся пярэдаднем новай хвалі нашага нацыянальнага адраджэння, якую, вядома, набліжала найперш прагрэсіўная творчая інтэлігенцыя.

Тады, у непагодлівы познелістападаўскі вечар, у вялікай зале Дома літаратара я, узрушаны выдатнай паэзіяй у такім дасканалым выкананні, забываўся на свет, поўны бруду, хамства і злачынстваў. Быў паланёны светам, дзе ўладарыць хараство і праўда, дзе ідэалізуецца дабро і асуджаецца зло.

## 3. “Тры цішыні”, “Чалавечы знак”. Разгарненне таленту

Пасля развянчання культу асобы Сталіна літаратура на вялікай прасторы савецкай імперыі пачала карэнным чынам мяняцца, хоць п р а ў д а  дапускалася

ўсё яшчэ ў пэўных дозах. Прыйшоў час, калі, напрыклад, у Літве грымела слава Э. Межэлайціса, у Расіі – Я. Еўтушэнкі, А. Вазнясенскага, Р. Раждзесцвенскага, ва Украіне – Д. Паўлычкі, І. Драча, Б. Алейніка... Нам, беларусам, стала малавата постацяў У. Караткевіча, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, і падаў свой чысты голас Анатоль Вярцінскі. Ягоны зборнік-першынец "Песня пра хлеб" абнадзейваў... Ад наступнае кнігі "Тры цішыні" (1966) павеяла скразняком навізны, яна засведчыла і хуткі рост, і прыкметную ступень разняволення творцы, зборнік пачаўся неяк нечакана раскавана для тагачаснае літаратуры – разважаннем пра падзенне бар'ераў: гукавога, светлавога, зямных гравітацый, і пытаннем: "Ці хутка дойдзе чарга да бар'еру // глухой адчужанасці людской, // неразумення і недаверу?" Далей – новая нечаканасць, яна ў смеласці мастакоўскай думкі: "Аднекуль з касмічнае вышыні // зыходзіць да нас тры цішыні". (Хто зацікавіўся, якія, прачытайце). Побач – яшчэ нечаканасць – расповед доктара "Да пытання аб склерозе" ў іранічным стылі з адкрыта-павучальнай канцоўкаю: "Тупайце, хлопцы, тупайце, // каб жывоцік не рос. // Думайце, хлопцы, думайце, // іначай – бяда, склероз..." Апошняя ў вершы пагроза вынікае з прывычкі *лазіць у кішэню па слова:* "Прывыклі ж да папер..." – выкарыстаны пераносны сэнс у якасці непасрэднага, прамога. Прывычка да непатрэбных паперак, але важных і абавязковых з пазіцый абсурдна-бюракратычнай сістэмы, высмеяна ў вершы "Ода квітанцыі". У тым жа іранічным ключы гаворыцца пра хваравітае сама- і славалюбства ў вершах "Акіян і лужына", "Пра дошкі мемарыяльныя і звычайныя".

За гады савеччыны грамадства згубіла слова, з якім не сорамна было б звяртацца да незнаёмае жанчыны. Вярцінскі-паэт на тое яшчэ і прафесійны журналіст, каб такую праблему, вырашаць якую ўзяліся адраджэнцы 90-х гадоў, змог не проста ўбачыць, а і ўзняць яшчэ ў шасцідзесятыя. Белы верш "Згубленае слова, ці здарэнне ў аўтобусе" стаўся вынікам лагічнай і даволі дасціпнай развагі над тупіковай сітуацыяй, у якой, едучы ў грамадскім транспарце, апынуўся інтэлігентны чалавек. У меру з'едлівы тон творцы адпавядае парадаксальным жыццёвым акалічнасцям. Названы верш удала дапаўняюць іншыя, такога ж праблемнага характару, як, скажам, "Комплекс непаўнацэннасці". У цяперашняй сітуацыі ў гэтым неакрэсленым **ты** ("А ты галаву ў плечы, падпёр сцяну недарэчы") вельмі лёгка пазнаецца беларус, тыповая памяркоўнасць і талерантнасць у плоці, кажучы словамі паэта, "Характар наш тут як на далоні". Верш "Баіцца беларус быць беларусам..." (1989 – 1990), адкуль узятыя гэтыя словы пра наш характар, з'явіўся як бы працягам "Комплексу...", яго другой часткаю ці проста яго развіццём:

...зваўся тутэйшым, мяшканцам, мяшанцам...
Не знае, рабіць што з апошнім шанцам,
які ён сёння атрымоўвае,
як быць з сваім імем, з сваёю моваю...
..........................................................................
Хапала адвагі, каб з ворагам біцца,
ад голаду-холаду каб бараніцца...
Ды вось быць самім сабою баіцца.
Прайшоў праз Хатынь, праз Курапаты,
зносіць цярпліва Чарнобыль пракляты,
упарта крыніца яго бруіцца...
Ды быць беларусам ён баіцца.
.............................................................
Казалі "не будзь!" – ён схіляўся ніцма.
Гавораць "будзь!" – усё роўна баіцца.
Вось што робіцца з беларусам.
З сінявокім, белавусым,
не з недарэкам, не з няўмекам,
з добрым увогуле чалавекам.

Але вернемся ў “Тры цішыні”, дзе прасторна вершам усякага характару – інтэлектуальна-пазнавальным (“Бяссрэбранікі”, “Ратунак”, “Эдзіт Піяф хоча любві), антываенным (“Рэквіем”, “Дынамік”), панарамным (“Статак вяртаецца з поля”), тужліва-інтымным (“Паласа адчужэння”, “Мною забыта нямала”, “Пайшло яно, незваротнае...”), вершам пра матулю, яе заўчасную страту.

Ці трэба здзіўляцца, што паэзія Анатоля Вярцінскага вабіла і вабіць мноства прафесійных крытыкаў, даследчыкаў літаратуры, навукоўцаў. У вядучых часопісах і газетах пра ягоную творчасць выказваліся такія пранікнёныя таленты як Міхась Стральцоў, Алег Лойка, Рыгор Бярозкін, Барыс Бур'ян, Варлен Бечык, Вера Палтаран, Ала Сямёнава, Віктар Каваленка, Мікола Арочка. Старонкі ў сваіх кнігах пошукам і знаходкам паэта адвялі Янка Брыль, Тамара Чабан, Міхась Лазарук, Васіль Зуёнак ды іншыя вядомыя творцы. У перыёдыцы друкаваліся часам па дзесяць і больш рэцэнзій на адно і тое ж выданне. Якраз такую вялікую колькасць водгукаў выклікалі паэтычныя зборнікі “Тры цішыні” і “З'яўленне” (1975).

А на зборнік вершаў і паэм “Чалавечы знак” (1968) з'явілася толькі адна рэцэнзія – “Сумленне просіць слова” Барыса Бур'яна (“Полымя”, 1969, № 7). Дапытлівы чытач, які цікавіцца гісторыяй літаратуры і постаццю Анатоля Вярцінскага ў ёй, можа здзівіцца з такога факта, асабліва прачытаўшы ў кнізе Янкі Брыля “Трохі пра вечнае” (1979) аб тым, што паэма “Дажынкі”, адна з трох паэм гэтага зборніка, “выклікала жорсткую крытыку”. Чыю ж такую крытыку? Няўжо Барыса Бур'яна? Знаходжу патрэбны нумар “Полымя”, чытаю рэцэнзію, яна – зычлівая, да таго ж сведчыць пра належны ўзровень крытыка. Ды, на маё здзіўленне, там не аказалася ні слова пра “Дажынкі”. Магчыма, у аўтара было некалькі абзацаў ці хоць бы сказаў пра гэтую непараўнальную ў савецкім друку рэч, а іх узялі дый выкраслілі ў рэдакцыі часопіса, якім тады кіраваў Павел Кавалёў? Закарцела высветліць, як на самой справе тады было, – але не ўдалося, да Барыса Бур'яна не дазваніўся: лета... Так што хай не крыўдуе т а м нябожчык Павел Кавалёў, калі на справе было не так, як падумалася. Аднак дайсці да ісціны хацелася: пра чыю “жорсткую крытыку” заявіў свету Янка Брыль? Паспрабаваў знайсці Івана Антонавіча – не знайшоў, бо ён аж да восеньскіх халадоў жыў на родным Нёмане, у сваёй хаце.

З Вярцінскім таксама не выпадала сустрэцца. Хатні тэлефон маўчаў, а мабільнікаў тады яшчэ не было.

Раптам сустрэў сябра-навукоўца – Уладзіміра Васілевіча, падзяліўся з ім сваімі клопатамі, нагадаў яму словы вельмі шаноўнага народнага пісьменніка пра “жорсткую крытыку” “Дажынак”.

– Быў вусны загад зверху – ні гуку станоўчага пра паэму “Дажынкі”! – ураз Уладзімір адкрыў мне таямніцу-загадку і дадаў: – Ніна Мацяш хацела напісаць ухвальную рэцэнзію на кнігу “Чалавечы знак” і звярнулася ў рэдакцыю “ЛіМа”. Адказ быў кароткі і катэгарычны: “Нам не трэба!”

Уладзіміра Васілевіча цікава дапоўніў літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў:

– У ЦК КПБ ледзьве праглынулі камяк ад публікацыі ў “Маладосці” аповесці Васіля Быкава “Мёртвым не баліць”, а тут – на табе! – яшчэ і “Дажынкі”.

Ну і што ж там за крамола ў паэме Анатоля Вярцінскага? Уся “бяда”, аказваецца, у тым, што пра такое і так ніхто дагэтуль не пісаў. Калі пакорлівую Аксінню на жніве падвяло сэрца (“Стала цёмна-цёмна ў вачах,// як не цямнее і па начах”), аніхто не паспагадаў ёй, апрача жанок, такіх жа бяспраўных працаўніц, як і яна. Пехатою яна яшчэ неяк, выбіваючыся з апошніх сіл, дабрыла да лякарні. А там сказалі: “Цётка, закончыўся прыём. // доктара выклікалі ў раён”. А назаўтра зноў сказалі цётцы: “Трэба жаць!” І тут, на ніве, Аксіння пачала паміраць... Ну, вядома ж, як магла такая не тое што неаптымістычная, а, як прынята было меркаваць, скандальная гісторыя спадабацца ідэалагічным босам? Яна і творцаў некаторых прывяла ў шок. Яе выбуховая сіла ўшчэнт

разрывала цесныя рамкі сацрэалізму. Паэма – хочаш не хочаш – гаварыла пра чэрствасць кіраўнікоў-рабоў тагачаснай калгасна-прыгоннай сістэмы. І мудры Іван Антонавіч Брыль, стараючыся змякчыць удар на чарговым з'ездзе СП БССР, усё ж перамудрыў сам сябе, калі ў дакладзе сказаў: "Я не бачу ніякай злой волі ў "Дажынках" – яны ідуць ад шчырага чалавечага пачуцця, справа толькі ў яго недастатковa прадуманай падачы". Яўная дыпламатыя... Паэзія – як каханне: калі яно ёсць – не схаваеш, а калі няма – не прыдумаеш, як ты сябе ні падавай...

Паэзія ў "Чалавечым знаку" пайшла пад знакам ідэалу:

Хмурэў –
ты ўсмешку мне вяртала.
Звярэў –
ты мудрасць мне вяртала.
Хварэў –
ты сілы мне вяртала.
Старэў –
ты свежасць мне вяртала, –
высокае неба ідэала!

У вершах трапляюцца часта крылатыя выразы: "Абрастаем мохам абставін", "З быту выходжу, як з нябыту", "Знаюць: у мутнай вадзіцы // іх рыбка павінна вадзіцца". Афарыстычнае і маштабнае мысленне паэта дазваляе на малой плошчы сказаць нешта істотнае, часта – вельмі важнае:

Спартак, Спартак!
Героі ўсіх эпох!
Ці не такі ваш лёс быў у фінале?
Як нехта моцна спаў, вас распіналі,
Вы ціха на крыжы сваім каналі,
І білася жанчына каля ног.

Гэты верш створаны ў 1967-м годзе. Прамінула цэлае паўстагоддзе, а ён не менш актуальны і сёння. Неяк гадоў дваццаць пяць таму чуў, як бліскуча яго дэкламаваў памяткі і артыстычны Уладзімір Някляеў.

Нешта прарочае прысутнічае і ў "Навагоднім тосце" – равесніку верша пра Спартака. Падумалася: што звычайна кажуць на парозе свята? Якую-небудзь банальшчыну. А тут прапануецца тост за ... Час, які ставіць кропкі ўсе над "і":

Хлуснёю назаве хлусню,
а мітуснёю мітусню,
нядоўгае – нядоўгім,
нядобрае – нядобрым,
нячыстае – нячыстым,
злачыннае – злачынствам.
Тырана так і назаве
тыранам, німб з яго сарве.

Верш належыць беларусу, а сэнс яго лёгка зразумець і ў Расіі, і ў Чылі, і ў Кітаі. Дарэчы, пра Кітай. Відаць, невыпадкова Анатоль Вярцінскі шмат гадоў быў старшынёй рады таварыства "Беларусь–Кітай". "Размова з Ду Фу" (у зборніку "З'яўленне") – выдатны працяг кітайскіх матываў, а іх магутны пачатак якраз у тым жа "Чалавечым знаку": "Мне снілася, што мяне білі // на нейкай плошчы хунвэйбіны". Чарговы цуд: рэчаіснасць і метадычнасць кітайская, а сітуацыя так зразумелая нам, беларусам... Тут не толькі "эфект нечаканасці" (тэрмін незабыўнага Варлена Бечыка), а штосьці куды больш істотнае, нейкі прарочы кашмар, быццам не сон аўтар убачыў, а рэальнасць, жахлівую сатанінскую яву.

У творчасці Анатоля Вярцінскага яскрава адлюстроўваецца кантрастная беларуская ява, гераічная і драматычная гісторыя, што асабліва засведчыла “кнігазбораўскае” выданне “Жыцьмем” пад грыфам “Кнігарня пісьменніка”. Тут вельмі шмат “балючых” твораў, яны выраслі з трагічнага мінулага і трывожнай рэчаіснасці апошніх гадоў.

Яго вершы не абыходзяцца без выбітных асобаў. Назаву хоць бы некаторыя: “Купала ідзе да Коласа”, “Чытаю Гарэцкіх”, “На паклон да Кабзара”, “Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент”. У вершы “Замест рэцэнзіі” даецца прысвячэнне з неабходным удакладненнем: “Кастусю Цвірку – ініцыятару выдання, аднаму з укладальнікаў і рэдактару кнігі “Расстраляная літаратура” (2008). Не могуць пакінуць чытача раўнадушным творы, ахвяраваныя памяці літаратурных знакамітасцяў: “Развітальная размова з Янкам Брылём”, “Ля магілы Максіма Танка”, “Еўдакія Лось у труне”, бо ў кожным з іх вытанчана перададзена сутнасць асобы, як і ў трыпціху “Памяці Васіля Быкава”:

Вы кажаце: вяртаюцца здалёку,
а не вяртаюцца зглыбоку ды са змроку.
Ды ён не там, дзе змрок, дзе тлен і тло.
Ён тут, дзе дух жывы, дзе рух і дзе святло.
Не, ён не там, ён недзе тут, ён з намі.
Такі, якім яго мы зналі,
якім яго мы бачылі і чулі,
якога не ўзялі асколкі, кулі,
агонь пякельны і сыры акоп,
а потым – шальмаванне і паклёп.

Васіль Быкаў ахвяраваў нам чыстую кроў сваёй жыватворна-праўдзівае прозы, таму ён застаўся з намі. Па сутнасці Васіль Быкаў ужо ў нас, у нашай свядомасці і ў крыві. Дзякуючы Анатолю Вярцінскаму акрэслілася такая думка.

Страшэнна цяжкі для Анатоля Ільіча стаўся 2017-ты год: прыйшла самая балючая страта – не стала жонкі Ады Сямёнаўны. У снежні з’явіўся ў паэта цыкл вершаў “Пл*а*чу” з прысвячэннем: “Светлай памяці жонкі Ады Вярцінскай (Жураўлёвай)”. Гэтая праніклівая лірыка, пранізаная скразной скрухай па блізкай душы, з’явілася ў “Новым часе” у студзені 2018 года. А ў траўні паэт апублікаваў у гэтым жа выданні вершы Ады Вярцінскай, нечакана знойдзеныя ў яе блакноце. “Нішто сабе. – Прыемнае ўражанне выказаў ён у прэамбуле да публікацыі. – Не казала ж ніколі, не прызнавалася...” Не казала яна, выкладчыца літаратуры, што часам спрабуе свае сілы ў паэзіі. “Праўда, адкрыццю я не вельмі здзівіўся, – зазначыў тут жа Анатоль Ільіч, – бо заўсёды аддаваў належнае яе тонкаму філалагічнаму пачуццю”. З усяго вынікае, што Ада Сямёнаўна была натхнёнай паплечніцай знакамітага творцы. Міжволі ўзгадваецца арыгінальны і смелы выступ Анатоля Ільіча 3 лютага 2015 года ў газеце “Народная воля”: “Эта мова величава и проста...” або Маякоўскі супраць... Пуціна”. Дык вось паспрыяла пісьменніку якраз жонка. Неяк, аднаўляючы ў памяці часткова забытыя вершы Уладзіміра Маякоўскага, яна папрасіла знайсці ў дамашняй бібліятэцы том з творамі, якія праходзілі яе навучэнцы па праграме. Анатоль Ільіч, вядома, знайшоў Адзе Сямёнаўне патрэбную кнігу. Праз нейкі час яна пачала чытаць уголас, выбарачна, радкі з верша “Нашему юношеству”. А там прыкметная сімпатыя і да “украинца хлопца”, вусны якога “цедят смешок”, і да ўкраінскага каларытнага слова: “хохол отвечал: – Нэ чую...” ды непрыняцце вялікадзяржаўнага шавінізму: “Москва для нас не державный аркан”. І ў тым жа чацвёртым томе дванаццітомнага збору твораў Маякоўскага Анатоль Вярцінскі вылучае верш “Долг Украине”, які пачынаецца крылатым гогалеўскім пытаннем: “Знаете ли вы украинскую ночь?”, змяшчае яго ў сваёй публікацыі, падкрэсліваючы, што твор гэты “безумоўна, робіць гонар

Маякоўскаму, асабліва з гледзішча сённяшняга дня...” і што “Уладзімір Уладзіміравіч Маякоўскі яўна не ўхваляе... ганебную, агрэсіўную дзейнасць у дачыненні да Украіны свайго цёзкі... Пуціна”.

## 4. Пазіцыя публіцыста

Выступаючы на XVII з’ездзе СБП, Анатоль Вярцінскі закрануў, між іншага, пытанне “Што чытаем? Што, каго перачытваем?” Сам ён “перачытваў і чытаў у асноўным нашу публіцыстыку”. Успомніў параду Ніла Гілевіча: “Не перачытваючы – усенародна – Купалу, мы да беларускай Беларусі не дойдзем”. (Вядома, гэта не мог не заўважыць Народны паэт Гілевіч: там жа, у Купалы-прарока, названы ўсе праблемы і шляхі беларускага нацыянальнага АДРАДЖЭННЯ і поўнай незалежнасці!). Пачаў Анатоль Ільіч з кнігі “Жыве Беларусь” (1993). Перачытаў артыкулы Янкі Купалы з прадмоваю і каментарамі Вячаслава Рагойшы. Пасля перачытваў, “з тымі ж цікавасцю і пранікненнем, публіцыстыку Максіма Багдановіча, змешчаную ў трэцім томе новага збору яго твораў і дапоўненую ўдала аднайменным пасляслоўем Уладзіміра Конана (2001 год)”. З яўнаю сімпатыяй названыя і кнігі: “Максім Гарэцкі. Публіцыстыка 1918–1919 гг. Смаленск-Менск-Вільня”, “Праўдай адзінай” і “На крыжах” Васіля Быкава, “Апакаліпсіс па графіку” Алеся Адамовіча, “Які ён, шлях Беларусі да дэмакратычнай дзяржавы?” Альфрэда Майхровіча, “У віры быцця” Ніла Гілевіча, “Перадусім Беларусь. Згадваючы Генадзя Бураўкіна” (укладанне і каментары Сяргея Шапрана), “Чарнобыльскія пантэоны: сны і явы” Эдуарда Збароўскага, “Саркафагі страху” Міхася Скоблы, “Карчаваткa” Міколы Гіля.

Анатоль Ільіч у сваім выступе на з’ездзе падкрэсліў, што гэтае ягонае “перачытванне і чытанне было карыснае яшчэ і тым, што нагадвалі – своеасаблівы эфект лакмусу, – пра такія неад’емныя рысы беларускай літаратуры, як высокае пакліканне, служэнне верай і праўдай беларускай справе...” І вось падумалася мне пра глабальную заклапочанасць Анатоля Вярцінскага лёсам Бацькаўшчыны, ягонае асабістае служэнне верай і праўдай беларускай справе, жаданне быць у гушчыні народнага жыцця, у эпіцэнтры падзей. У гэтым сутнасць не толькі паэта, а і публіцыста. Яшчэ я падумаў: не ўсе чытачы Анатоля Вярцінскага ведаюць, што ён уганараваны дзяржаўнай прэміяй не за паэзію, а за кнігу публіцыстыкі “Нью-Йоркская сірэна”. Вядома ж, невыпадкова. Кніга паказала грамадзянскую сталасць, багатую эрудыцыю, чэпкую памяць і глыбінна чалавечную пазіцыю Вярцінскага. Не менш, а яшчэ больш вартая ўвагі і яго пазнейшая публіцыстыка. Крытыка – таксама.

## 5. Рэдактар з вялікае літары. Дзейны дэпутат

Немалая частка літаратараў заўсёды працавала ў выдавецтвах, рэдакцыях газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні, як правіла, нічога не губляючы і нічым не рызыкуючы. Прыкладаў, калі за рэдагаванне, за выданне кніг браліся таленавітыя, сумленныя і самыя смелыя творцы, малавата. Але былі. І яны не раз рабілі пагоду, рызыкуючы і пасадамі, і здароўем. Ну, скажам, пры таталітарным рэжыме, у самым разгары брэжнеўскай “слоты”, у якую перайшла хрушчоўская “адліга”, Андрэй Макаёнак і Георгій Папоў у часопісе “Нёман”, дзе яны займалі пасады – адпаведна – галоўнага рэдактара і намесніка, не пабаяліся надрукаваць даволі вострыя словы праўды Янкі Брыля. Яшчэ пры жывым Брэжневе і найвышэйшай у нас пасадзе Слюнькова напачатку васьмідзясятых тадышні дырэктар “Мастацкай літаратуры” Міхал Дубянецкі самазабыўна змагаўся за мужную аповесць Васіля Быкава “Мёртвым не баліць”, якую чыноўнікі ЦК КПБ не дазвалялі ўключыць у чатырохтомны збор твораў, не баяўся лішні раз трывожыць высокае начальства, – і перамог, праўда, цаною падарванага здароўя: перанёс у цяжкай форме інфаркт.

Набліжаўся іншы час. Здавалася, што не вернуцца, кажучы словамі А. Вярцінскага, "бясчэсця сумныя гады" і "паласа бясчасся". Абвяшчалася галоснасць, дэмакратызацыя, пачала выходзіць на бальшак, на прастор яе вялікасць праўда, аднак, пры страшным тармажэнні з боку ўладных структур. Была вялікая неразбярыха: ці дазволена друкаваць усё, што аўтары прапануюць, тое, што ім найвастрэй баліць? Нават пасля падзення КПСС і адмены цэнзуры яснасці не было. Адказнасць на сябе бралі самыя адважныя рэдактары. І адным з першых у гэтай ролі аказаўся Анатоль Вярцінскі, які з 1986 года па 1990-ты ўзначальваў "ЛіМ". З самага пачатку свайго рэдактарства ў органе творчай інтэлігенцыі ён рашуча ўзнімае забароненыя тэмы, першая з якіх – аб статусе беларускае мовы. А неўзабаве дзякуючы Зянону Пазьняку і "ЛіМу" свет уведаў пра злачынствы, што чыніліся ў Курапатах, пра сталінскі генацыд у адносінах да народа. І ўвогуле ў газеце шмат з'яўлялася вострых публікацый, у тым ліку і маіх публіцыстычных вершаў – пра душагубную рэпрэсіўную палітыку сталіншчыны, мярцвяцкую брэжнеўшчыну, пра чорную быль Чарнобыпя і афганскую бойню, дзе склалі галовы больш за сямсот беларускіх воінаў.

Галоўны рэдактар, даючы дарогу да чытача сваім аўтарам, іх праўдзівым і баявітым матэрыялам, даваў прыклад маладзейшым кіраўнікам іншых літаратурных выданняў. Так мяркую не толькі я. Такую пазіцыю падзяляе былы галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч. Прыемна ўзгадаць, што ў тыя гады ў "Маладосці" з'явіліся "Лісты з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага, артыкулы пра беларускую дзяржаўнасць Цішкі Гартнага, "Старажытная Беларусь" Міколы Ермаловіча, "Споведзь" Ларысы Геніюш". Паярчэў быў часопіс "Полымя". Нават "Вожык" смялей натапырваў свае калючкі... Зрэшты, усіх нашых смельчакоў мог натхняць прыклад Аляксандра Твардоўскага, галоўнага рэдактара "Нового мира", дарэчы, беларуса па паходжанні.

Ніколі не даводзілася бачыць Анатоля Ільіча мітуслівым. Калі заходзіў да яго ў кабінет, сам разумеў, што ў яго, мажліва, яшчэ засталіся службовыя клопаты, але па ім гэта не адчувалася: для "хадакоў" знаходзіў час. Праўда, я прыязнасцю тою не злоўжываў.

Калі пачуў, што мой старэйшы сябра пакідае "ЛіМ", засумаваў, ды, калі даведаўся, што ён кандыдат у дэпутаты вышэйшага органа ўлады, узрадаваўся, хоць разумеў: чалавек на свае плечы ўзвальвае яшчэ цяжэйшую і не менш адказную ношу.

Пашанцавала мне быць адной з даверaных асобаў кандыдата ў дэпутаты – Анатоля Вярцінскага. Мы з Галінай Каржанеўскай (таксама яго даверанай асобаю) радаваліся: наш кандыдат перамог! А барацьба была няроўная: другі прэтэндэнт на званне дэпутата быў старшынёй выканкама, у чыіх руках і ўлада з яе шматлікімі рычагамі, і машыны, і грошы; у паэта ўсе скарбы, вядома, не ў кашальку, не ў сейфах і не ў ашчадных касах. У яго адно багацце – слова. Але абавязкова шчырае, вернае.

Людзі пайшлі за Анатолем Ільічом Вярцінскім (большасць прагаласавала за яго) і, думаецца, не каяліся. Іх дэпутат працаваў сумленна і самаадданa, быў абраны намеснікам старшыні камісіі па пытаннях галоснасці, СМІ і правах чалавека. У тыя гады (1990–1994) беларускім парламентам распрацоўваліся, абмяркоўваліся і прымаліся важнейшыя, лёсавызначальныя дакументы, як, напрыклад, Дэкларацыя аб суверэнітэце нашай дзяржавы, першая Канстытуцыя незалежнае Рэспублікі Беларусь, у падрыхтоўцы якой дэпутат Вярцінскі браў самы непасрэдны ўдзел, абмяркоўвалася дзяржаўная нацыянальная сімволіка. Выбіраліся на адказныя пасады кіраўнікі. Часам ад прынцыповасці нават аднаго дэпутата залежала многае. Пастаянна вяліся вострыя дыскусіі, спрэчкі, звычайна цяжка было з прапановаю прабіцца да мікрафона. Пасля такога штодзённага самаспальвання было не да вершаў.

***

Можна падумаць: займацца б яму ўсё жыццё толькі творчай працай! Бо перагружаць паэта цяжкімі клопатамі – амаль тое, што смажыць салаўя. Магчыма, удвая ці ўтрая большай колькасцю сваіх кніг ён папоўніў бы скарбы нацыянальнай літаратуры. А магчыма, адарваўшыся ад стыхіі жыцця, зусім перастаў бы тварыць ці, яшчэ горш, штампаваў бы вершы без водару, як папяровыя кветкі. Але гэта ніяк не магу ўявіць. Бо Вярцінскі не з тых творцаў, якія любяць замыкацца ў абмежаванай прасторы. Мабыць, таму яго кнігі хочацца чытаць і перачытваць, апынацца з імі сам-насам.

***

Нейк надарылася мне сумесная з Анатолем Вярцінскім і тэатрам "Зьніч" паездка. У рафіку было цёпла і ўтульна, там шмат пра што мы гаманілі. Я не мог не пацікавіцца ў Анатоля Ільіча, у каго паэма "Дажынкі" "выклікала жорсткую крытыку". Аказваецца, выхад кнігі "Чалавечы знак" быў крытычна сустрэты П. Машэравым. З крытыкай першы сакратар выступіў перад партыйным актывам, пасля чаго (вось ён, адваротны эфект!) зборнік быў імгненна ў Менску раскуплены... Яшчэ я даведаўся, што ў друку змяшчалася адпаведнае рэагаванне сакратара ЦК КП Беларусі С. Пілатовіча: "Творчая інтэлігенцыя і сучасная ідэалагічная барацьба" ("Полымя", 1969, №9). С. Пілатовіч заяўляў, што "у зборніку "Чалавечы знак" мала ёсць цікавага" і што, на яго думку, "асабліва няўдалыя атрымаліся паэмы... "Дажынкі" і "Даруйце". "Злавесныя, наўмысна атупленыя фігуры калгаснага ўчотчыка, брыгадзіра і мужа Івана, – абураўся сакратар, – сваім раўнадушшам гнятуць безабаронную Аксінню, а тая ўсё зносіць..." Што ж, не дзіва, што партыйны бос назваў асабліва ўдалую, па-шаўчэнкаўску шчымліва-балючую і смелую паэму асабліва няўдалаю і што ў надзвычай таленавітым і арыгінальным зборніку "Чалавечы знак" ён знайшоў мала цікавага. То былі яго цяжкасці, увогуле вярхоў праблемы... А мне застаецца назваць рэдактара "Чалавечага знаку" – Пятра Прыходзьку, які разумеў, што кніга станецца апальнаю, але не пабаяўся падпісаць і аддаць яе ў друк.

***

У кнізе "Жыцьмем" я доўга не мог адвесці вочы ад "Вечнай квецені". Хто з нас не зачароўваўся вясновай квеценню?! А ў тым і сіла мастака слова, што ён здольны выказаць пачуцці многіх людзей:

Убачыў, як квітнее сад,
і адарваць не мог пагляд.
Нібы глядзеў упершыню
на гэтую харашыню.

Так пачынаецца верш, створаны паэтам у 2011-м годзе, адным з яго юбілейных гадоў. Ён не мог не нагадаць мне яшчэ ранейшы ягоны цуд, які з'явіўся ў чэрвені 2006 года:

Не помню такога лета,
каб было столькі квета
і каб быў ён светлы,
як ранішні снегапад,
як юначыя мроі,
як вясельныя строі...
Не помню такога лета,
каб квітнеў так мой сад!

На гэты клічнік у канцы радка гляджу як на сімвалічны знак. Паэт выгадаваў сучаснікам і нашчадкам раскошны сад сваіх твораў, багаты і жанрава, і тэматычна, і настраёва, і эстэтычна. Цуд і водар такой квецені – з разраду вечных.

Павел Ляхновіч



…Ён усё ж існуе,
і зляваць Яго не варта…

# Дарагія цені

***Успаміны тагачаснага падлетка***

На Ракаўшчыну бацькі мяне прывезлі шасцігадовым. Мама ўладкавалася настаўніцай у Кіявецкую пачатковую школу, гэта памежны з Ракаўскім Яршэвіцкі сельсавет, а тата ў сталічны млынкамбінат. Кіявецкая школа стала першай у мяне і маёй сястры. Паводле татавых аповедаў у ёй вучыўся і ён, і мой дзед, Пётрусь Ляхновіч, і, магчыма, прадзед Ляксандра і прапрадзед Домка. Так што мы з сястрой працягнулі традыцыю пачынаць адукацыю менавіта там. Школа гэтая была размешчана на правым беразе безыменнага ручая, што цячэ праз Пятровічы, Кіявец, і ля Тупальшчыны злучае свае воды з Іслаччу. Зусім побач, на ўзгорку, стаяла царква. Я памятаю, як у ёй служылі, гэта была першая ў маім жыцці літургія. Праз некалькі гадоў царкву ўначы разграмілі, і ад Кіяўца ў бок Ракава ўздоўж шашы былі раскіданы выдраныя аркушы са Святога Пісьма, якія збіралі, галосячы, кіявецкія і навінскія кабеты. З таго часу, здаецца, царква была зачынена. З’ехаў і кіявецкі бацюшка, звёз сына, Машыка, з якім я сябраваў.

Школка тая праіснавала яшчэ пару-тройку дзясяткаў гадоў, ужо ў якасці бібліятэкі. А зараз на яе месцы стаіць шыкоўны катэдж. Здаецца, той будынак на месцы нашай школы належыць прыходскаму святару. І царкву адрамантавалі і ажывілі.

Жыла наша сям'я тады на дзедаўскім хутары за дзве сотні метраў ад шашы на Івянец, на ўскрайку лесу "Казіна", якраз пасярэдзіне паміж вёскамі Навіны і Мендыжэчы (зараз гэты тапанімічны паланізм зліквідавалі, і былыя Мендыжэчы называюцца "Міжрэччам"). На той хутар дзед пераехаў з сям'ёю недзе ў канцы дваццатых – пачатку трыццатых гадоў, дакладней не ведаю, а спытаць ужо няма ў каго. Купіў у пана Маслоўскага дзесяць дзесяцінаў зямлі і кавалак лесу. Тая частка, што была дзедава, у адрозненне ад "Казіны", з якім была адным цэлым, называлася "Бярэзнік". Потым надышоў трыццаць дзявяты год, і дзеда ад ягонай зямлі "вызвалілі". Тата мне малому некалькі разоў паказваў: "Глядзі, Паўлік, гэта наша зямля – вунь адтуль, да Францішкоўскай гары, уздоўж Казіны, ажно да дарогі..." Тата вельмі любіў Коласаву "Новую зямлю", казаў – напісана нібыта пра сям'ю дзеда і бабулі.

Кожную суботу на змярканні па шашы ў мінскім напрамку паўз наш хутар пачыналі ехаць фурманкі, узімку – запрэжаныя сані. Ехалі ўсю ноч. За імі брылі, мыкалі прывязаныя каровы, вішчэлі ў вазах свінні, бляялі авечкі. Усё наваколле накіроўвалася ў Ракаў. На кірмаш.

Першае, што я памятаю пра Ракаў – гэта ракаўскі кірмаш. Не "рынак", не "базар", а менавіта кірмаш. Там не толькі гандлявалі, людзі ішлі туды камунікаваць, гэта быў вялізны клуб па інтарэсах. Там я ўпершыню пакаштаваў марозіва, упершыню пастраляў у пнеўматычным ціры, напіўся квасу. Памятаецца, там было некалькі выязных дзяржаўных (а якіх яшчэ?!) крамаў, частка плошчы занята для гандлю быдлам, частка – "таўчок", дзе прадавалі ўсё непатрэбнае – ад паношанай вопраткі да кованых бязменаў. Прыкладнае ўяўленне аб ракаўскім "таўчку" можна атрымаць, наведаўшы "Поле Цудаў" на ГЦ "Ждановічы". Толькі гандлявалі ў Ракаве з зямлі, і рэчы прадаваліся для ўжытку, а не для аматараў антыкварыяту. Ці гандлявалі садавінай-гароднінай – не памятаю. Відаць, не.

Працаваць кірмаш пачынаў – ледзь-ледзь шарэў світанак, і заканчваў прыкладна гадзін у сем-восем. Гэта ўлетку. Ракаўцы, якія праспалі і спазняліся, падвяргаліся кпінам аднавяскоўцаў.

Недзе ў годзе 63-м бацькі атрымалі ў Ракаве дзялку і дазвол будавацца. Пабудова сваёй хаты цягнулася доўга, не хапала сродкаў. Але ўзімку 1968 года да дзедаўскага хутара пад'ехаў гусенічны трактар, "запрэжаны" ў вялізныя сані на палазах-бярвеннях, мы пагрузілі на іх рэчы, прывязалі карову Маліну і пераехалі жыць у Ракаў. Да таго часу я ўжо скончыў Кіявецкую пачатковую, і трэці год вучыўся ў Ракаўскай сярэдняй школе, быў сямікласнікам. Хата нашая (якая зараз не нашая, пасля смерці таты прыйшлося прадаць), стаіць па вуліцы Паштовай, 9, у чатырох-пяці хвілінах хады да касцёла, царквы, ці ракаўскага базара. Зараз гэта ўжо "базар", а не кірмаш, хоць знаходзіцца на тым самым месцы – ля ўсходняй агарожы яўрэйскіх могілак. Вуліца Паштовая пачынаецца ля касцёла, у пачатку яе стаяла на высокім падмурку пошта, а яшчэ ў тым жа будынку жыла сям'я Залётавых, сын якіх, Мікола, марыў стаць футбалістам. Пошта была знакамітая тым, што ў пачатку дваццатага стагоддзя туды прыйшоў ліст ад Льва Талстога, адказ некаму з ракаўцаў. Па нейкім дзіўным супадзенні яна згарэла якраз тады, як я гасцяваў у Ракаве (да таго часу куды толькі мяне не кідала доля, а тут прыехаў, начаваў у Аксакаўшчыне (алібі!) у кватэры былой суседкі Валянціны Гапановіч і яе мужа Чупрыса Вячаслава, і той ноччу пошта пайшла дымам).

Ад той пошты (ад падмурка, што застаўся пасля пажару) вуліца Паштовая цягнецца паралельна Іслачы, потым заварочваецца градусаў на 80-90 і ўпіраецца ў яўрэйскія могілкі. Праз адну хату ад нас жыў парах ракаўскай парафіі ксёндз Ян Такарскі. Нягледзячы на тое, што бацькі мае былі зусім не набожныя, а паміж нашай

хатай і ксяндзовай жыла сям'я Коржыкавых, гаспадыня якой была даволі зацятая каталічка, прыязныя адносіны з айцом Янам склаліся менавіта ў маіх таты і мамы. Відаць, сыграла ролю падобнае мінулае таты і а. Яна – абодва зусім нядаўна былі вязнямі ГУЛАГа. Тата з 45-га па 52-гі валіў лес у тайзе ля Усць-Кулома, Комі, ксёндз Такарскі – калі мяне не падводзіць памяць (чуў ад таты) – недзе таксама ў Комі АССР. Прыязнасць у адносінах паміж бацькамі і а. Янам выявілася ў прыватнасці тым фактам, што да майго 16-годдзя ксёндз паклікаў маму і падараваў "для дзецко" шыкоўны скураны кашалёк (у ім шаснаццаць дзесяцірублёвак), і два бананы. Я ўпершыню бачыў бананы, бацькі таксама, і мы даволі доўга не ведалі, як да іх падступіцца. Разабраліся. На тыя грошы – 160 рублёў, месячны заробак абодвух бацькоў! – мне набылі шарсцяны спартовы – "майстарскі" – касцюм нябесна-блакітнага колеру з белымі палоскамі на каўняры і манжэтах "майстаркі". Як зараз кажуць – вельмі "круты". Я бярог яго, і ён пратрымаўся ажно да 91 года, хоць апошні дзясятак гадоў "круцізну" страціў – змянілася спартовая мода.

У тыя гады, калі я жыў у Ракаве, у ракаўскім касцёле месціўся склад камбікорму потым, здаецца, нейкая майстэрня па рамонту сельгастэхнікі. Ганак быў разбіты, як казаў мне сябра Слава Рак – званамі, якія нібыта скінуў сакратар партарганізацыі саўгаса (жыў тут жа побач, на вуліцы 8 Сакавіка, якая даўней называлася Дамініканскай), здаў у металалом і на гэтыя грошы набыў сабе матацыкл.

Ракаўскія каталікі маліліся ў капліцы на могілках. І мы часта бачылі а. Яна ў чорнай сутане, з кавенькай, які павольна ішоў у той бок, спачатку вуліцай Паштовай, потым па краі яўрэйскіх могілак. Мы віталіся з ім (нас прывучалі здароўкацца з усімі дарослымі, незалежна – знаёмымі, ці не), а ён у адказ заўжды здымаў галаўны ўбор і адказваў па-расейску з акцэнтам "Здраствуйце!" Валя Жылінская, з нашай вуліцы, з каталіцкай сям'і, злавала на нас і спрабавала вучыць правільна вітацца са святаром: "Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!" Не здолела.

У ксяндза Такарскага на двары жылі двое сабак – Мунгарт і Карусь. Мунгарт быў буйны, белы, бульдогападобны, вельмі незвычайны і таму страшны. Аднойчы я прывёў да ксяндзовай брамы аднакласніка Казіка Курылу з Альшанкі паказаць тое дзіва. Калі Казік праз шчыліну ў браме ўбачыў Мунгарта, то адразу даў лататы, ажно пыл закурэў!

Праз шмат гадоў пасля мне прыйшлося некалькі месяцаў працаваць загадчыкам гаспадаркі ў Пінскай вышэйшай каталіцкай семінарыі Тамаша Аквінскага, і аднойчы мы з групай семінарыстаў прыводзілі ў парадак пасля зімы сядзібу, дзе жыў яго эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтак. Я вельмі шкадую, што тады ў гутарцы з яго эмінэнцыяй я не ўзгадаў, што мы былі суседзямі з ксяндзом Такарскім. Неяк не прыйшло ў галаву. А зараз позна ўжо...

Неяк перад каталіцкім Вялікаднем, вучыўся я тады ці то ў восьмым, ці то ў дзявятым класе, на сходзе наш класны кіраўнік, светлай памяці Іван Антонавіч Шумскі, загадаў, каб уначы мы папарна (спісы пар былі падрыхтаваныя ўжо) наведалі капліцу на могілках і перапісалі вучняў школы, калі такія там будуць. Ён сам будзе з гэтымі "двойкамі" старшым. Уначы я прыпёрся да капліцы, дзе не знайшоў ні Івана Антонавіча, ні свайго напарніка Шурку Барэцкага. Зайшоў унутр, пастаяў дурнем і вярнуўся дадому. На мой зварот у панядзелак Іван Антонавіч вырачыў "са значэннем" на мяне вочы і сказаў: "Ну як жа! Мы былі, але нікога з вучняў там не бачылі. Зразумеў?" Я зразумеў.

З усходняга боку касцёла, каля апсіды, у нас, дзяцей з вуліц Паштовай і 8 Сакавіка, была пляцоўка, дзе мы гулялі ў футбол на адну браму. А брамай служыла шырокая ніша касцельнага падмурка. Мая матуля, ды і не адна яна, забараняла там гуляць, бо галы мы забівалі, грукаючы мячом у сцяну касцёла, ды дзе там! Аднойчы ў час гульні Слава Рак зламаў нагу Бронаку Гарбачу. Дагэтуль у маім вушшу стаіць сухі трэск косткі Бронакавай нагі. Гэты выпадак дарослыя растлу-

мачылі Боскім папярэджаннем за грэх – стук мячом у сцяну святыні (хоць была яна на той час апаганенай). Праз год дакладна на тым жа месцы ўжо я зламаў нагу Лёніку Адамовічу. Пасля гэтага выпадку я ля касцёла больш не гуляў. І ўпершыню задумаўся – а чаму гэта выпадкі адбыліся на адным і тым жа месцы? І прыйшоў да высновы – відаць, Ён усё ж існуе, і злаваць Яго не варта.

Касцельная агарожа з буйных камянёў, яе паўднёва-ўсходні кут, выкарыстоўваўся мной у якасці скалы для "альпінісцкіх" трэніровак. Не прыдаліся мне гэтыя трэніроўкі. Адзіны раз у жыцці, а я дзесяць гадоў жыў у Арктыцы, паўночней Мурманска, я паспрабаваў ускараскацца па вертыкальнай скале. Далез ужо амаль да верхняй пляцоўкі, але глянуў уніз і як прыліп ад страху. І сядзеў там хвілін дваццаць не ў змозе паварушыцца. Потым пачаў мерзнуць – хоць было лета, але ж Поўнач, "вышэй" за 69-ю паралель! – і паціху папоўз уверх, пераадолеў апошнія тры метры. Больш на такія авантуры не адважваўся. І ў сапраўдных гарах быў толькі аднойчы – ўзышлі з жонкай на Гавэрлу ў Карпатах.

Дзіўная рэч – я жыў на дзедаўскім хутары каля сямі гадоў, у казарме вышэйшай ваеннай вучэльні пасёлка Зых ля Баку – пяць, у арктычным гарнізоне падводнікаў – дзесяць, у Пінску ўжо за трыццаць, а ў Ракаве – толькі чатыры, але заўжды чамусьці лічыў і лічу сябе ракаўцам. Можа таму, што тады ўпершыню нашая сям'я стала валодаць уласным жытлом, не кватараваць? Бо нават на дзедаўскім хутары мы былі кватарантамі, гаспадыняй была бабуля. У ваеннай вучэльні і ў гарнізоне падводнікаў я адчуваў сябе часовым прыхаднем. Але ж у Пінску я даўжэй чым дзе, і маю ўласнае жытло, але сапраўдным пінчуком не пачуваюся. Чаму? Мо таму, што так і не авалодаў палескай гаворкай? Але шмат маіх пінскіх знаёмых апрача "другой дзяржаўнай" напалам з мацюкамі не ведаюць ні слоўца, і ўсё ж маюць устойлівую пінчукоўскую самаідэнтыфікацыю. Не, няма адказу...

"За Польшчай" Ракаў меў статус мястэчка, а "вызваліцелі" з усходу апусцілі яго да вёскі. Ураўнялі са шматлікімі вёскамі навокал, назвы якіх азываюцца цяплом у маім сэрцы – Паморшчына, Вялікае Сяло, Душкава (адтуль мая бабуля па мячы), Выганічы (там жыве маё першае, юначае каханне), Пярэжары, Казакі, Барок, Кучкуны, Бузуны, Гярвелі, Аксакаўшчына, Новае Поле, Палачанка, Міхалова, Альшанка (няма ўжо, зраслася з Міжрэччам), Навіны, Цішкоўшчына, Манькаўшчына, Сульжычы, Дружычы, Харужы, Галімцы, Юржышкі... Ураўняць то ўраўнялі, але ракаўцы гэтай ніверліроўкі не прынялі. І існаваў у часы майго жыхарства ў Ракаве бытавы "нацыяналізм" – падзел на "грашоў" (гэта значыць, на паўнавартасных ракаўцаў) і "навалач" (зразумела каго). Абедзве мянушкі лічыліся крыўднымі і ўжываліся як аргумент пры канфліктах.

Ракаўскую сярэднюю школу наведвалі дзеці з навакольных вёсак, прынамсі з пятага класа. Дык класы камплектаваліся па гэтым жа прынцыпе – ракаўцы асобна, звычайна ў класах пад літарай "А", вяскоўцы – у "Б", а калі вучняў было шмат, то і "В". У прыватнасці я трапіў пасля сканчэння пачатковай школы ў 5 "В". Вучняў у класе было шмат, месцаў не хапала, і мне прыйшлося сядзець за партай з двума суседзямі – Міколам Палюховічам і Аляксандрам Клінцэвічам, абодва з Вялікага Сяла. Школа тады размяшчалася на левым беразе Іслачы ў групе будынкаў. Адзін з іх быў цагляны, з тоўстымі сценамі і высокімі вокнамі. У сутарэннях гэтага будынку месцілася майстэрня, дзе хлопчыкі вывучалі прадмет "Праца" – займаліся сталярнай і слясарнай справай. Дзяўчынкі ў гэты час шылі і гатавалі, але недзе ў іншым месцы. Апрача цаглянага будынка школьныя класы былі раскіданы ў некалькіх драўляных. Казалі, што ўвесь гэты комплекс пабудаваны ў 19 стагоддзі і што ў ім пры царах нібыта было нейкае рамеснае вучылішча. Яшчэ пэўны час у іх размяшчаўся дзіцячы дом, але я яго не заспеў. Памятаю толькі, што ракаўскія кабеты не вельмі добрым словам згадвалі тых выхаванцаў.

Нашыя тры класы, 10 "А", 10 "Б" (мой) і 10 "В" былі апошнім выпускам той

школы “за ракой”. Побач з нашай хатай пабудавалі новую школу, якую давялося заканчваць маёй сястры. Але гэта ўжо не зусім мая школа. Хоць пэўнае дачыненне да яе маю. Наш клас неяк быў пасланы капаць канаву для яе падмурка. Праз сорак гадоў пасля выпуску нам удалося сабрацца – не ўсім, толькі ўдзевяцёх – на “вечар сустрэчаў”. Тады ўразіла, што знік беларускі дух – і вучні, і настаўнікі “зачірікалі”.

У нас былі цудоўныя настаўнікі! З некаторымі, як, напрыклад, сужэнцамі Станкевічамі, Артурам Мікалаевічам і Святланай Мікалаеўнай, з Марыяй Іванаўнай Шумскай, з Вандай Канстанцінаўнай Раманчык я не губляю сувязяў дагэтуль, хоць ідзе пяты дзясятак гадоў ад нашага выпуску і яны даўно ўжо пенсіянеры (ды і я таксама).

Першым нашым класным кіраўніком (ці маім, калі ўжо я вяду аповед) быў настаўнік малявання і чарчэння Уладзімер Станіслававіч Кароль. Гэта з-за яго мяне не-не, ды і казыча часам, і я бяру ў рукі пэндзаль і фарбы.

Пасля Уладзімера Станіслававіча нашымі класнымі былі па чарзе сужэнцы Шумскія, спачатку Марыя Іванаўна, потым, бліжэй да выпуску, Іван Антонавіч. Абое – вельмі моцныя матэматыкі. Іх школу, перавагу яе, я адчуваў усе пяць гадоў навучаньня ў ваенным вучылішчы. А прафесія, якую там атрымаў – штурман ВМФ – яна ж уся базуецца на матэматыцы. І фізіцы. Фізіку ў Ракаўскай школе мне выкладалі тры настаўніцы – Ванда Мартынаўна Рабкевіч, Лізавета Мечыславаўна Дубавец і Ванда Канстанцінаўна Раманчык. Падаецца – я ўва ўсіх быў улюбёным вучнем і, адпаведна, адчуваў сімпатыю да іх і да прадмета.

З гістарычных помнікаў Ракава я памятаю г.зв. “Валы” – рэшткі замчышча на левым беразе Іслачы насупраць клуба. Месца нашых дзіцячых гульняў “у вайну”.

Паміж клубам і ракой – “Браты” – так мы называлі брацкую магілу савецкіх салдат і партызанаў, што загінулі ў Другую сусветную.

Паміж клубам і касцёлам стаяла кінутая хата з глыбокім каменным сутарэннем. Мы таемна залазілі туды з суседам, Яўгенам Коржыкавым. Цяпер тая хата, паводле маіх назіранняў у час рэдкіх наведванняў Ракава, ажыла.

Пасярод ракаўскага возера ўзвышаўся высокі курган канічнай формы. Хлопчыкам я пару разоў дабіраўся туды – дзе ўброд, дзе плыў. Сёння той курган пасярод возера здаецца мне нібыта ніжэйшым і шырэйшым. І ўжо назва курган да яго не пасуе. Выспа... Узімку непадалёк ад яго мы вызвалялі ад снегу прастакутнік на лёдзе і гадзінамі рэзаліся ў хакей. Ажно пакуль можна было разгледзець шайбу. Яшчэ ў хакей гулялі на лёдзе ручая паміж вясковай лазняй і яўрэйскімі могілкамі.

Царква. Тата распавядаў гісторыю яе ўзнікнення, але думаю, яго аповед не адпавядае рэчаіснасці, з’яўляецца проста вясковай легендай (як і легенда пра тое, што паміж касцёлам і “Валамі” існуе падземны ход).

Гісторыя такая. Вельмі даўно з’явілася ў Ракаве сляпая княгіня – нехта ёй сказаў, што калі будзе кожны дзень прамываць вочы вадою з крынічкі, што і зараз цячэ з-пад зямлі непадалёку ад Ракава побач з выездам у мінскім напрамку, то верне зрок. Так і здарылася – праз які месяц-два княгіня стала бачыць. Каб аддзячыць Творцу, фундавала грошы на пабудову храма, які загадала паставіць ля той крынічкі. Але чалавек, які распараджаўся грашыма, вырашыў, што месца для святыні непрыдатнае з-за балоцістай глебы, і царкву пачалі ўзводзіць там, дзе яна зараз. Праз пэўны час княгіня прыехала паглядзець, як выконваецца яе загад, засталася вельмі расчараванай і ў “другім траншы” адмовіла. Так і стаяла царква недабудаванай, дзічэла і зарастала бярозкамі, аж пакуль не знайшліся грошы на яе заканчэнне. Спачатку яна была грэка-каталіцкай, але потым, пасля захопу нашых земляў Расеяй, Унію забаранілі і ўсіх загналі ў расейскае праваслаўе, прыслалі праваслаўных папоў.

Пры ўваходзе на царкоўны двор пабудавана брама-званіца. Калі я быў пяці- ці шасцікласнікам, у нішы званіцы быў абраз, і надпіс пад ім: “Сія колокольня і ікона... на пожертbuilt ванія пріхожан...” Неяк так. Потым, памятаю, быў скандал – уначы

званіцу абрабавалі, скралі той абраз. Застаўся толькі надпіс. А яшчэ памятаю, як на званіцы здымалі фільм. Наверсе, ля званоў, мітусіўся чалавек у рыжым парыку і старажытнай вопратцы і званіў. У той час званіць перад набажэнствам было забаронена, і я ўпершыню пачуў, як гэта яно... Тады ля царквы сабраліся ўсе ракаўскія дзеці, ды і дарослых было даволі. Казалі, што фільм называецца "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Пра Уладзіміра Караткевіча я тады яшчэ не чуў. Пазней, ужо дарослым, глядзеў фільм, спрабаваў пазнаць тыя кадры, што здымаліся на маіх вачах, але нічога не пазнаў.

Аднойчы, я тады быў курсантам ваенна-марскога вучылішча, мы з сябрам позна ўвечары пералезлі ў царкоўны двор, расселіся пад кустамі бэзу і п'янствавалі – было ў нас дзве пляшкі "Абрыкосавага водару" і некалькі яблыкаў на закуску. Сябра мой, Саша Захвіцэвіч, ужо сышоў у вечнасць... Адпявалі яго таксама ў гэтай царкве.

А яшчэ пазней, ужо афіцэрам, я хрысціў у ракаўскай царкве дачку аднакласніцы і сяброўкі маёй сястры. Мая хросная дачка зараз ужо дарослая, мае сваё дзіця, Несцера. І таленавітая мастачка.

Яўрэйскія могілкі, "Жыды", – па той нашай моладзевай тэрміналогіі. Пад старымі хвоямі зараслыя дзірваном капцы і шмат-шмат надмагільных камянёў з незнаёмым дзіўным пісьмом. Ніхто ніколі не прыходзіў аплакваць нябожчыкаў пад тымі камянямі. Хто мог бы – тыя самі ляжалі ў агульнай магіле непадалёку ад царквы. Да вайны Ракаў быў больш чым напалову яўрэйскім, а ў часы майго дзяцінства ў нас жыў адзіны яўрэй. Ён меў прозвішча Чэчык, быў хірургам і, здаецца, галоўным урачом ракаўскай бальніцы. Я дагэтуль нашу шнар пад пашчэнкай ад яго скальпеля.

Нікому з "грашоў" не прыходзіла ў галаву вандальнічаць на яўрэйскіх могілках. Так, могілкі былі запушчаныя, але цэлыя. Праз некалькі дзясяткаў гадоў, у час чарговага наведвання Ракава, я звярнуў увагу, што камянёў там стала нібыта меней. Відавочна меней. На маё пытанне тата грэбліва адказаў, што яўрэйскія помнікі крадуць навапрыезджыя "прадпрымальнікі", перабіваюць надпісы і прадаюць. О, норавы!

Яшчэ ў Ракаве ёсць каталіцкія і праваслаўныя могілкі. Тыя, што зараз "праваслаўныя", да забароны Уніі былі уніяцкімі. Частка магілаў тых часоў захавалася на ўзгорку бліжэй да трасы Мінск-Вільня. На каталіцкіх могілках пахаваны кампазітар Міхал Грушвіцкі, на каменным помніку яго магілы высечана нотная фраза. Яшчэ там ёсць магіла князёўны і княгіні Друцкіх-Любецкіх. Зноў жа тата распавядаў мне, што князёўна Хрысціна каталася на коні недзе ля савецка-польскай мяжы (яна праходзіла там, дзе цяпер мяжа паміж мінскім і валожынскім раёнамі, за кіламетр ад Ракава), была схоплена савецкімі памежнікамі, закатаваная, і цела яе падкінулі на "польскі бок". Пасля гэтага яе маці, княгіна Марыя, страціла розум і да самай смерці жыла ў Ракаве на дапамогу ад простых ракаўцаў. На надмагільнай капліцы ўжо ў савецкія часы нехта ўвесь час пісаў: "Загінула ад рукі бальшавікоў". Улады знішчалі надпіс, але праз нейкі час ён з'яўлялася зноў. Князёўна Хрысціна – нібыта прамы нашчадак князя Рурыка.

Ракаў часу майго дзяцінства быў цэнтрам саўгаса "Ракаўскі", кантора якога месцілася побач з касцёлам, перад касцельнай брамай. Былі ў вёсцы ганчарня, яна размяшчалася за пару сотняў метраў ад каталіцкіх могілак, а таксама сталярныя майстэрні. Старэйшым школьнікам я ўлетку падрабляў там падсобным рабочым – і на ганчарні, і на сталярцы. Трэба было зарабіць крыху грошай на падручнікі, бо тады падручнікі вучні набывалі на свой кошт, і на вопратку.

На беразе Ракаўскага возера жыў паралізаваны чалавек, мог толькі сесці ці легчы. Па прозвішчы Кур'ян, я пару разоў бачыў яго праз вакно. Жыў ён з таго, што рамантаваў абутак. Ракаўцы шапталіся, што гэта быў паліцай. А тата распавёў яго гісторыю. Да вайны жыла ў Ракаве дэпутатка Вярхоўнага Савета БССР Марыя Макуцкая. Калі прыйшлі немцы, Макуцкая недзе ад іх схавалася, але яе муж, які лічыў, што раз ён не быў дэпутатам, то яму хавацца не варта, неяк натрапіў на паліцая Кур'яна і

быў ім моцна збіты. Як прагналі немцаў, ролі памяняліся. Макуцкі стаў камандзірам “знішчальнага батальёна”, а Кур’ян хаваўся ад савецкіх па навакольных лясах. І неяк забрыў на хутар татавага дзядзькі, Міхася Ляхновіча, які дагэтуль (хутар, не Міхась) жывы, размешчаны пры дарозе ў Міхалове. Дарослых дома не было, і Кур’ян завёў гутарку з дзецьмі. Тым часам у двор заехаў на брычцы камандзір “ястрабкоў” Макуцкі. Кур’ян забіўся за печ, але Макуцкі яго ўжо заўважыў праз шыбу. Тады Кур’ян адштурхнуў Макуцкага і кінуўся наўцёкі, але Макуцкі адзіночным стрэлам з аўтамата загнаў яму кулю ў “пятую кропку”, пашкодзіўшы пазваночнік. Савецкія ўлады не сталі помсціцца былому паліцаю, ён нават не быў высланы, відаць, таму, што на лесапавале ці ў шахтах патрэбны былі здаровыя работнікі. Не ведаю, ці адпавядае гэтая гісторыя рэчаіснасці, – я чуў ад бацькі гэтак.

Наконт лесапавалу. Майго бацьку немцы ў 44-м, незадоўга перад адступленнем, забралі на працу ў Германію. Там ён быў разам з землякамі Віктарам Курылам з Альшанкі і Васілём Чупрысам з Ракава. Вызвалілі іх амерыканцы. Некалькі месяцаў трымалі ў лагеры і казалі, каб добра падумалі, ці вяртацца на Радзіму. Амаль кожны дзень у лагер прыходзіў савецкі камісар і агітаваў вяртацца. Старэйшыя хлопцы, разумнейшыя, засталіся – хто паехаў у Амерыку, хто ў Аўстралію, а тата з Васілём (што было з Курылам, я не памятаю, можа, тата пра яго не распавядаў...) напісалі заявы, што хочуць на Радзіму. Пасля гэтага яны былі выдадзены амерыканцамі савецкім акупацыйным уладам, пасаджаны ў вагоны і пад канвоем праз Малдову і Украіну павезены на ўсход. У Данбасе Васіля Чупрыса пакінулі працаваць у шахце, а тату павезлі далей, і завезлі на лесапавал у Комі АССР, пасёлак Усць-Кулом, дзе ён увесь час знаходзіўся пад пагрозай галоднай смерці або смерці ад рук крымінальнікаў, якія там выкарыстоўваліся ў якасці малодшай адміністрацыі. Васіль жа праз месяц з шахты ўцёк, і пехатою, начамі, дабіраўся ў Беларусь. Было лета, нешта па дарозе знаходзіў, каб не памерці галоднай смерцю. Прыйшоў у Ракаў, і родныя яго перапнравілі да сваякоў у Душкава, дзе ён прасядзеў у лёху ажно да смерці “лепшага сябра спартсменаў”. У 53-м годзе, пасля смерці “дзядзькі Юзі”, тату адпусцілі дадому, Васіль вылез з лёху. А я потым вучыўся ў адным класе з сынам Віктара Курылы, Казікам, а з сынам Васіля Чупрыса, таксама Васілём – у паралельных.

Былі ў Ракаве свае знакамітасці. І са знакам “плюс”, і “мінус”. Ракаўцы з гонарам заўжды ўзгадвалі імя Вячаслава Рагойшы. Хто гэта такі, я хлапчуком не цікавіўся, але імя гэтае не-не ды і трапляла ў мае вушы. Таксама вельмі вядомай асобай быў Васіль Пятровіч Налецкі, наш школьны выкладчык гісторыі. Ён заваяваў папулярнасць як выдатны, з пастаўленым голасам, прамоўца – без яго не абыходзіўся ніводзін урачысты сход да якога-небудзь свята, якіх тады было шмат. Людзі ішлі на гэтыя сходы без прымусу – проста каб паслухаць Васіля Пятровіча. Апрача гэтага ён стварыў школьны краязнаўчы музей і быў ці не адзіным тады краязнаўцам. Між іншым (які свет цесны!) яшчэ да майго нараджэння мае тата і мама кватаравалі ў вёсцы Траскоўшчына ў матулі Васіля Пятровіча.

З павагай і белай зайздрасцю ўзгадвалі ракаўцы вялікую сям’ю Янушкевічаў, усе сыны якіх выбіліся ў людзі. Сярод іх – вучоны-матэматык (ці фізік? дакладна не ведаю), літаратуразнавец, мастак, скульптар. Я ж найбольш знаёмы быў з іхнім бацькам, які працаваў цырульнікам у вясковым “Доме быту”. Пазнаёміўся ўжо калі быў афіцэрам і прыязджаў у Ракаў адведаць тату (матуля памерла яшчэ як вучыўся ў ваенным вучылішчы). Прыходзіў да яго ў цырульню, садзіўся ў фатэль, і дзядзька Язэп доўга-доўга мяне стрыг, галіў і распытваў аб Поўначы, аб караблях і падводных лодках, аб зброі, аб “хто мацнейшы – рускія ці амерыканцы”? Пазней пазнаёміўся і пасябраваў з Язэпам-малодшым, літаратуразнаўцам, і Фэлікам, вядомым мастаком і грамадскім дзеячам. Між іншым, гэта Фэлік і Язэп адкрылі беларусам яшчэ аднаго знакамітага земляка – пісьменніка Сяргея Пясецкага, з творчасцю якога я параўнальна нядаўна здолеў пазнаёміцца дзякуючы ім.

“Мінусовай”, але ўсё ж папулярнасцю карыстаўся ў вёсцы і быў па-свойму яркі і знакаміты адзін няшчасны чалавек, расеец, які прайшоў Другую сусветную танкістам, быў паранены і кантужаны. Яго сям’я жыла ў суседняй з намі хаце, і з яго сынам, Яўгенам, мы часта разам гулялі ў футбол ці хакей, хадзілі на лыжах, хоць ён быў на тры гады маладзейшы. Звалі суседа Васілём Коржыкавым, а ў вёсцы – проста “Коржык”. Хварэў на язву страўніка. Працаваў кіроўцам на грузавіку, быў ціхмяны і незаўважны. Пакуль не вып’е. Не тое, каб быў алкаголікам, не. Выпіўшы, станавіўся прамоўцам. Выходзіў у цэнтр вёскі і вельмі гучна выкрыкваў адрывістыя фразы-лозунгі. Усё нешта пра вайну. Без звязнага сэнсу. І гэтак мог крычаць доўга. Вяскоўцы казалі : “Зноў Коржык выступае...” Чаму яго ўзгадаў? А як жа – без “выступаў” Коржыка, без вясковай дурнічкі Александрыны і дурня Стася, ад якога неяк пяцікласнікам, яшчэ не ракаўцам, я незаслужана атрымаў поўху (дзеці Стася дражнілі, а я яшчэ не быў “у тэме” і не асцярогся), нельга ўявіць тагачаснае ракаўскае жыццё...

Мінаюць гады, і кожнае маё чарговае наведванне Ракава ўсё большым смуткам шчыміць у сэрцы. Сыходзяць у вырай сябры дзяцінства і аднакласнікі, зусім не засталося сваякоў. Застаюцца толькі прозвішчы на надмагільных камянях.

Амаль ніхто не пазнае на вуліцах.

Хай. Брыду па знаёмых мясцінах і бачу дарагія – як аказваецца – цені.



Валянцін Акудовіч



...кожны, хто тады *прыходзіў да Беларусі*, мала чым розніўся ад ранніх хрысціянаў у пару канаючай Рымскай імперыі...

# Літаратурна-філасофскі сшытак “ЗНО”

## *З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”*

*Працяг. Пачатак у №95, 96.*

Як ні дзіўна, у Савеце міністраў не марудзілі, і неўзабаве намеснік Кебіча сп. Дзямчук аддаў загад Міністэрству культуры скласці каштарыс філасофскага часопіса. Цяпер нам адно што і заставалася рабіць, дык гэта пераможна скласці на грудзях рукі і чакаць грошай.

А далей колькі словаў пра лепшага, як на мяне, міністра беларускай культуры. Гэта быў мажны дзядзька, які, здаецца, скончыў той жа інстытут *Сельскай механізацыі*, куды я ў свой час не патрапіў. І быў ён спецыялістам па торфараспрацоўках. Апошняе кожнага, хто пра такое чуў, моцна весяліла, але адно пакуль з міністрам ты не знаёміўся асабіста.

Спакойны, разважлівы, прыязны. Ясна разумеючы, што яму паводле азначэння бракуе *культуры*, ён не толькі з сімпатыяй, але і з піетэтам ставіўся да нашага галоўнага рэдактара. І ўжо ж напэўна толькі таму падтрымаў яе безумоўна авантурную ідэю стварыць пры тыднёвіку філасофскі часопіс. Хаця, як мне цяпер

здаецца, яны так лёгка пагадзіліся на гэтую забаву, бо ў *глыбіні душы* і думаць не думалі, быццам яе падтрымае старшыня Савета міністраў. А як прыйшоў загад рыхтаваць каштарыс часопіса, тады і схамянуліся...

У нейкі дзень Вольга Міхайлаўна сказала, што яе выклікае да сябе наш міністр і папрасіла чакаць, пакуль вернецца.

Ужо было позна. Я заставаўся ў рэдакцыі адзін адзінюткі, і нешта мне было трывожна. Калі Вольга Міхайлаўна вярнулася, дык мела разгублены твар (я ніколі не бачыў яе разгубленай). Нейкі час марудзячы са словамі, урэшце адважылася:

– Валянцін, – сказала, не гледзячы мне ў вочы, – міністр вырашыў перадаць правы на часопіс Міністэрству адукацыі.

Праз доўгую паўзу прызналася:

– Ведаеце, што ён мне сказаў? Ён сказаў: слухай, Вольга, а на халеру нам гэта патрэбна? Вунь колькі і без таго праблемаў – не атрэсціся. А тут яшчэ *такі* часопіс самі на сябе ўзвальваем. Да таго ж хіба ты ўсё ў філасофіі разумееш? А я дык увогуле нічога не разумею. Раптам яны такое надрукуюць, што мы, не ўцяміўшы, потым не толькі пасады, але і волю страцім...

Я паныла маўчаў, што тут было казаць?

Раптам твар у Вольгі Міхайлаўны трохі прасвятлеў:

– Ведаеце, што мы прапануем наўзамен? Замест "Эліты" і "Суплёту ідэй" рабіць раз на месяц філасофскі дадатак у газету хоць сабе на шэсць, хоць сабе на дванаццаць старонак. Колькі адужаеце – столькі міністр і паабяцаў прафінансаваць. Толькі штат павялічыць не можа. Таму разлічвайце на свае сілы.

*P.S.* Пра гэта трэба было сказаць раней... Бальшыня дыялогаў у маіх мемуарах, далікатна кажучы, зусім не стэнаграфічныя. Разам з тым яны і не літаратурная прыдумка. Нешта, блізу падобнае, было, а цяпер я проста рэканструюю парэшткі ўспамінаў суладна ўжо з адноўленым кантэкстам.

***

Буду шчырым, адразу я быў не ў захапленні ад нечаканай магчымасці, бо не меў пэўнасці, што пацягну гэтую ношку сам-адзін. Толькі хлопцы разам з Людмілай Крушынскай урэшце пераканалі закасаць рукавы. Хаця галоўным тут было іншае. Мяне ж таксама вабіла сама ідэя літаратурна-філасофскага сшытка як папярэдняга канспекта будучага філасофскага часопіса.

Аднак спачатку пра ўласна назву сшытка – ЗНО. Пэўна, не толькі чытачы, а шмат хто і з аўтараў па сёння не ведае, што стаіць за гэтымі трыма літарамі – нейкая абрэвіятура, сакральны знак ці выпадковае дурноцце?

Ні першае, ні другое, ні трэцяе. А ўвогуле гэта была сапраўдная эпапея. Найперш мы распрацавалі метадалогію пошуку назвы. З яе вынікала, што мусім выправіцца на пошукі адразу ў чатырох накірунках. Першы – малавядомыя беларускія словы, другі – лацінізмы (дамінанта, дыскурс і да т.п.), трэці – грэцкія словы (топас, эйдас і да т.п.), чацвёрты – што заўгодна, адно каб не як у людзей.

О, гэта была праца дык праца. Два разы запар я перачытаў слоўка за слоўкам увесь слоўнік Вацлава Ластоўскага, а пасля тое самае прарабіў са слоўнікам замежных словаў. Не памятаю, што непасрэдна чыталі мае хаўруснікі, але калі надышоў час падсумавання, то ў нас было столькі годных і прыгожых словаў, што іх, бадай, хапіла б на ўсе падобныя сшыткі еўрапейскага кантынента. А нам дык не хапіла. Кожнае прэзентаванае слоўка нечым муляла, нечым не задавальняла, нечым само сябе дыскрэдытавала.

Настаў момант, калі мне падалося, што лягчэй у пушчы знайсці авечку, якую даўно з'елі ваўкі, чым вартую назву для нашага сшытка.

Міналі дні, першы выпуск быў ужо лічы падрыхтаваны, а назвы як не было, так і няма. Роспач ды адчай...

І вось тут ранкам заходзіць у рэдакцыю Алесь Разанаў. Вочы гараць, твар праменіцца натхненнем – быццам яго сёння анёлы ўмывалі. І адразу з дзвярэй урачыста паведамляе:

– Знайшоў!

– Не можа быць, – кажу, каб не сурочыць.

Разанаў, як Цыцэрон перад рымскім сенатам, ускідвае руку і ўрачыста паведамляе:

– Зно.

Я ўвачавідкі ніякавею. Што зно? Чаму зно? Навошта зно? Разанаў не адразу разумее, што я нічога не разумею, а зразумеўшы, пачынае тлумачыць.

Я не ўпэўнены, што недзе знойдзецца чалавек, які здольны пераказаць тое, што кажа Алесь Разанаў. А калі такі чалавек ёсць, то гэта напэўна ж не я. Таму далей буду карыстацца ўласнай версіяй разанаўскага тлумачэння. Спрошчана яна выглядае так: Разанаў ператрос усе беларускія хронікі ды ўвесь сучасны лексікон і высветліў (ці вылічыў), што ў фанетычнай аснове калі не большасці, то вельмі многіх сутнаснаваральных і дынамічных словаў знаходзяцца гэтыя тры гукі (-з-, -н-, -о-), натуральна, у розных спалучэннях і не заўсёды ў поўным складзе (звон, дно, воз, зноў і г.д., і да т.п.).

Шчыра кажучы, лагічная аргументацыя разанаўскага тлумачэння не так ужо і моцна мяне пераканала, але я не мог не даць веры ягонаму вуху.

Паверце, у Разанава геніяльнае вуха.

Разанаў чуе слова ў яго яшчэ вільготнай, трапяткой прааснове: можа быць, у вушных ракавінах Разанава (як у марскіх – мора) увесь час шуміць, пераліваючыся, магма тых першагукаў, з якіх потым і ўзнікаюць словы. Зрэшты, як у яго гэта адбываецца, не істотна. Але тое, што ёсць (вуха), тое ёсць.

Так – зно – сталася "ЗНО". Яно досыць міралюбна суіснавала з газетай (як дамініён з метраполіяй), рабіла тое, што лічыла патрэбным, аднак пры гэтым улічвала, што ягоная свабода досыць умоўная і абараняць гэтую свабоду ад чынавенства даводзіцца не таму, хто рыхтуе сшытак, а таму, хто адказвае за ўвесь тыднёвік.

***

Першы выпуск "ЗНО" пабачыў свет у траўні 1993 года. Графічны вобраз сшытка стварыла наш таленавіты дызайнер Наталля Овад. А зварот да чытача прымусіў мяне напісаць Алесь Разанаў. Не маючы іншага выйсця, я і накрэмзаў усялякага рознага аж на цэлую старонку (як на сённяшні розум, дык добрую палову выкінуў бы з палёгкай). Але ж апошні фрагмент хацеў бы працытаваць.

*"Шаноўны чытач!*

*Літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" пры газеце "Культура" мае на мэце:*

*– актуалізаваць айчынны досвед інтэлектуальнай творчасці;*

*– спрыяць вылучэнню з універсальнага зместу ўласнай філасофіі ў формах, тоесных беларускаму досведу;*

*– стварыць адпаведны кантэкст для тых літаратурных і філасофскіх тэкстаў, што пакуль вымушаныя шукаць выпадковага прытулку ў традыцыйных выданнях ці ўвогуле не могуць знайсці свайго друкара;*

*– падтрымаць інтэлектуальную эсэістыку на шляхах станаўлення жанру;*

*– папулярызаваць лепшыя здабыткі еўрапейскай і сусветнай гуманістыкі.*

*Мы будзем вітаць паэзію сэнсаў і сэнсатворную паэзію.*

*Не станем пераконваць чытача, што неўзабаве ўсё пажаданае спраўдзіцца. Лепей нагадаем беларускую прымаўку: рабі што можаш і хай будзе, як будзе".*

Мы былі ўзрушаныя. Уся рэдакцыя. І тыя, хто не меў ніякага дачынення да "ЗНО" – не менш за астатніх. Газета ў адначассе вырасла ў два разы – з васьмі да шаснаццаці палос. Аднаго гэтага было дастаткова для салодкага хвалявання (цяпер было што ў руках патрымаць). Толькі галоўная радасць паходзіла з іншага.

Усе разумелі, што ніколі раней нічога такога ў нашай публічнай прасторы не было. Беларускае перыядычнае выданне прэзентавала сябе як філасофскае!

Сентыментальна гартаю той першы выпуск. Распачынаюць яго (пасля маёй прадмовы) "Нататкі з нічыйнай зямлі" Алеся Разанава. Лішне казаць, што яны наскрозь мысліўныя. Наступная паласа за Ігарам Бабковым. Яго канцэптуальны трактат "Беларуская традыцыя: на зломе сэнсаў" будзе мець працяг яшчэ ў двух нумарах. Далей я пераказваю гутарку з нашым славутым перакладчыкам Васілём Сёмухам пра адметнасці перакладу філасофскай літаратуры. У сп. Васіля ўжо была падрыхтаваная да друку кніга Фрыдрыха Ніцшэ "Так казаў Заратустра". Ладную частку з яе мы пазычылі для "ЗНО". Затым экзістэнцыйныя "Версэты" празаіка Уладзіміра Арлова. А паэт Леанід Дранько-Майсюк, наадварот, прапанаваў вялікі ўрывак з *ego-essai* "Стомленасць Парыжам", якое пазней цалкам надрукуе часопіс "Крыніца". Дарэчы, эсэ будзе мець шалёны поспех. Апошнім у выпуску быў тэкст вельмі таленавітай паэткі (і на той час супрацоўніцы рэдакцыі) Галіны Булыка, якая прааналізавала філасофскую складовую знакамітага навукоўцы і мысляра Іллі Прыгожына. А канцавала сшытак карціна "Віртуальная прастора" Юры Герасіменкі.

Потым Ігар Бабкоў выкладзе гэтую падзею ў наступнай оптыцы:

"Разам з Акудовічам і Разанавым у газеце "Культура" мы ствараем літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", і праз яго Акудовіч прапускае ўсю постмадэрнісцкую моладзь.

Усё гэта было і мэтанакіравана, бо мы ўсведамлялі, што не можам адбыцца ў тых формах культуры, якія ёсць, але і нешта стыхійнае, бо ніхто не распісваў крокі і нічога не планаваў. Атрымлівалася тое, што атрымлівалася. Напрыклад, афіцыйны філасофскі часопіс не атрымаўся. Мы ўмудрыліся сабраць купу філосафаў. Савет міністраў выдзеліў грошы. Але не пайшло, і цяпер ясна, што гэта было бы акадэмічнае абы-што. Не дамовіліся, і ў якасці кампрамісу аддалі Акудовічу восем палос газеты "Культура" пад літаратурна-філасофскі сшытак. І гэта апынулася лепш, чым быў бы кампрамісны варыянт з часопісам".

Пасля кароткага, але поўнага раднаснай эмоцыі балявання ў рэдакцыі, мы з Ігарам Бабковым рушылі пешкі ў рэстарацыю Дома літаратараў. Падзея была вартая працягу за кілішкам і сярод сцішанага сумоўя сам-насам. Няспешна азіраючы праспект у веснавым падвячорку, я раптам адчуў такую стому, быццам выканаў галоўную справу свайго жыцця.

Хаця насамрэч усё толькі пачыналася...

***

Шкадую, што мала сказаў пра гэта раней. Недзе блізу самага пачатку. Інакш для староннягa чытача застанецца зусім не зразумелым: адкуль столькі эйфарыі праз некалькі дадатковых старонак у культурніцкім тыднёвіку? Хай сабе гэтыя старонкі і пазначаныя сакральным для беларусаў словам "філасофскія".

Паспрабую патлумачыць.

Пафасна кажучы, кожны, хто тады *прыходзіў да Беларусі,* мала чым розніўся ад ранніх хрысціянаў у пару канаючай Рымскай імперыі. Ён паводле азначэння адчуваў сябе місіянерам новай веры. І чаго б тады ні рабіў, яго наробак быў не роўны сам сабе, а шматкроць павялічваўся тым, што мацаваў новую веру. І тут было не істотна, ці купляў ты ў шапіку "Нашу Ніву", ці чапляў на грудзі бел-чырвона-белую значку, ці хадзіў на шэсці БНФ, ці сам ствараў незалежныя газеты, беларускія суполкі або нацыянальную філасофію. Карацей, самым істотным ва ўсіх праявах нашай жыццядзейнасці тады быў місіянерскі чын. Нават калі для саміх носьбітаў гэтага паклікання ён і не вытыркаўся.

Толькі пра гэта лёгка казаць, але як пераканаць недаверка, што так яно

адбывалася насамрэч. Бо хоць хто можа запытацца: калі так яно было, дык куды потым падзелася?

І сапраўды, куды ўсё тое падзелася?

Выдавец Ігар Логвінаў, калі даведаўся, што я маю намер пісаць успаміны, сказаў: “Назва “Хронікі беларускага інтэлектуала”, можа, і неблагая. Хаця лепей было б апусціць яе ў падзагаловак, а пра ўласна назву яшчэ падумаць. У Вас жа з гэтым добра атрымліваецца...”

Тут я не пярэчыў: “Мяне няма. Роздум на руінах чалавека”, “Разбурыць Парыж”, “Дыялогі з Богам”, “Код адсутнасці”, “Архіпелаг Беларусь”, “Кніга пра Нішто”, “Прачнуцца ранкам у сваёй краіне”...

Хіба ж не меў Логвінаў рацыю, пахваліўшы назвы маіх кніг?

Добра натрудзіўшы глузды, абраў, не без сумневаў, наступную: “*Мы сустрэліся на будоўлі Вавілонскай вежы*”. Падтэкст палягаў на маёй шчырай веры, што не так важны твой уласны наробак, колькі тая справа, да якой ён прыдаецца. Інакш кажучы, ужо сам той факт, што ты працаваў на будоўлі вежы, скіраванай у нябёсы, робіць сэнсоўным тваё жыццё, нават калі штодзённыя бруд і пот на тое не паказваюць.

Не менш важным тут быў і складнік “*Мы сустрэліся...*”, бо я хацеў ахапіць успамінамі ўсіх, хто ўкладаўся ў стварэнне новага дыскурсу (зразумела, у сілу сваіх магчымасцяў).

Між іншым, народ Вавілона таксама цікавілі не толькі нябёсы. Яны прагнулі праз гэтую вялікую справу *здабыць сабе імя* (так кажа паданне). Ну рыхтык беларусы 90-х.

Дык куды падзелася Вавілонская вежа?

Як усё вялікае, яна асыпалася ў Нішто, але пакінула па сабе адзін з самых прыгожых міфаў пра чалавека, які прагне вышыні ды годнасці.

Не чуў, каб нехта з сяброў і хаўруснікаў таксама думаў пра нашае рушэнне ў падобных высокіх катэгорыях. Аднак мы сустрэліся не дзе яшчэ, а менавіта на будоўлі Вавілонскай вежы. І гэта было цудам.

(Натуральна, пад метафарай “Вавілонская вежа” я маю на ўвазе не толькі “ЗНО”. Крый Божа. Гэта дзясяткі розных выданняў, праектаў, кніг і проста безліч штодзённых справаў. Каб усё гэта перафарматаваць у цэглу, якую мы з кожным днём падымалі вышэй і вышэй, то нашыя далоні было б не адрозніць ад Сізіфавых.)

*P.S.* Не ўпэўнены, што меў рацыю, аднак потым я абраў іншы варыянт назвы, якая адсылала ўжо не да міфа пра Вавілонскую вежу, а да міфа пра Сізіфа ў інтэрпрэтацыі Альбера Камю: “*Трэба ўяўляць Сізіфа шчаслівым*”.

Наўрад ці ёсць сэнс цяпер тлумачыць, чаму я так зрабіў. Бо папераздзе яшчэ вельмі шмат працы і хто яго ведае, што мне пазней ўзбрыдзе ў галаву. Да прыкладу, некалі “Дзеяслоў” зрабіў мне ласку і надрукаваў важкую нізку эсэ пад назвай “Вялікая здрада”. А потым кніжка з пераважна тымі эсэ ўжо называлася “Код адсутнасці”.

Хіба адно заўважу, што гэтыя міфы, нягледзячы на вонкавую розналежнасць, ёсць дзвюма скранямі адной базавай праблемы чалавечага існавання, а менавіта Працы, сакральная сутнасць якой неспазнаная і па сёння.

***

Завершыўшы гэты адцінак і паклаўшы ўжо галаву на падушку, нечакана згадаў: гэта ж Вавілонскую вежу намаляваў мастак Марэк Станілевіч на вокладцы маёй кнігі “Дыялогі з Богам”, перакладзенай на польскую мову Галінай і Янам Максімюкамі. (Каштоўнасць гэтай працы надаваў і той факт, што Ян Максімюк раней пераклаў “Уліса” Джойса. О, як мы ганарыліся тады, што маем “Уліса” па-беларуску!)

Што праўда, ніякага пафасу на вокладцы і блізка не было. Уздоўж усяго

серпанціна “брэйгелеўскай” вежы паволі падымаліся “брэйгелеўскія” чалавечкі і большыя за іх слімакі. (Зразумела, тут мова пра Пітэра Брэйгеля Старэйшага).

Не бачу патрэбы ва ўласнай інтэрпрэтацыі гэтага вясёлага і скептычнага малюнка. Я згадаў яго адно таму, што і сам маю намер за межамі пафасу распавесці, чаму нашай “Вавілонскай вежы” таксама было наканавана знікнуць, лічы, дазвання. І на гэты раз ужо не Бог будзе таму прычынай, а, хутчэй, ягоная адсутнасць.

Кінуўшыся на злом галавы злучаць беларускае мысленне з вялікай метафізічнай цывілізацыяй, створанай у папярэдніх тысячагоддзях еўрапейскім геніем, мы не хацелі зважаць на той ужо амаль відавочны факт, што яе час на зыходзе. На змену метафізічнай цывілізацыі прыходзіла цывілізацыя тэхналагічная. Зрэшты, маруднае слова “прыходзіла” тут зусім не пасуе. Тэхналагічная цывілізацыя абрынулася на нас, як тысяча лавін адразу. Яна сталася нашай татальнасцю. Лічы, умомант, прынамсі паводле гістарычнай меры.

І мы разгубіліся – і згубіліся адзін для аднаго. Пагубляліся...

Але пра ўсё гэта вялікая гаворка будзе потым. Далёка потым. А пакуль у нас наперадзе гады і гады радаснага натхнення...

***

“ЗНО” праіснуе амаль чатыры гады. Я маю ўсе 44 выпускі і калі б пачаў іх удумліва гартаць, то захлынуўся б менавіта гэтым мінулым без астачы. Таму, каб пазбегнуць такой спакусы, адразу пачну з хаўтураў па “ЗНО”, якія мы наладзілі ў лютым ужо 1997 г. Тады я папрасіў аўтараў сшытка адгукнуцца на гэтую падзею і недзе за два тыдні сабраў і падрыхтаваў для друку сорак тэкстаў (на жаль, 44 не атрымалася). Вось толькі два з іх:

<u>Алесь Разанаў</u>

*44 свечкі*

На развітальным свяце “ЗНО” запальваюцца 44 свечкі.

Трохі розных, трохі падобных.

Пакуль іх не было, мы нечага не бачылі і не разумелі, але яны з’явіліся – і мы пачалі бачыць і разумець (=бачыць вачамі розуму). Ну, не так далёка, не так глыбока, не так высока і не так відушча, як хацелася б, але ўсё-такі...

У гэтым і было стратэгічнае прызначэнне “ЗНО” – паспрыяць самаспазнавальнай рэчаіснасці ў карэкцыі зроку, зрабіцца органам з н о.

Як агонь залежыць ад свечак, але з імі не супадае, гэтак і з н о залежыць, але не супадае са “ЗНО”. “ЗНО” ўсё больш застаецца ў гісторыі, у тым, што адбылося, з н о застаецца з намі.

Намацанае і абуджанае, яно пазірае, як гарацьпаціху знікаючы ў незваротнасць, свечкі.

<u>Алег Бембель</u>

*З Н О*
о а д
л б у
а р м
к ы у
н
я
л
а
г
а

*... іду па в а с т р ы і ...*
*па з л о м е*
*сэнсаў...*
*нібы па бітым шкле – хоць галасі!..*
*... шукаю МЕТА – СЭНС...*
*... а над усім –*
*сІвы СутВАр...*
*і ўсмешка Solus Rex-а...*

(Тут патрэбнае невялічкае тлумачэнне. *Solus Rex* – Самотны кароль – назва першай паэтычнай кнігі Ігара Бабкова.)

***

Нават не ўпэўнены, што варта на гэта марнаваць час прастору тэксту. Тут я маю на ўвазе круглы стол “Нацыянальная філасофія: вектары кірунку”, які зладзіла газета “Культура”.

Ужо быў падрыхтаваны другі выпуск “ЗНО”, і мы, лічы, забыліся, што Міністэрства адукацыі пакуль не выканала загад спадара Кебіча – стварыць філасофскі часопіс. Відаць з гэтай, зусім непатрэбнай міністэрству вярэды і быў ініцыяваны круглы стол ў нашым тыднёвіку.

Хаўрус удзельнікаў налічваў адзінаццаць чалавек – сярод іх чатыры дактары філасофскіх навук. Ды і астатнія былі нязломкі. Дыскусія атрымалася жывой, разумнай і досыць шчырай. Здаецца, было б нават цікава перадрукаваць тут бальшыню выступаў, прынамсі, самае адметнае з таго, што ў іх прамаўлялася. Але, па-першае, нават у такім абскубаным варыянце матэрыялу было б зашмат, як да фармату маіх успамінаў. А па-другое, калі гутарка скончылася, дык стала зразумелым, што яна ладзілася толькі дзеля птушачкі, для нечага патрэбнай Міністэрству адукацыі, якое і не збіралася ствараць філасофскі часопіс. Прынамсі, болей *адтуль* да нас ніхто не звяртаўся. Таму я вылучу пераважна тое, што мне бачыцца вартым згадкі само па сабе.

*Акцябрына Рашчынская* (галоўны інспектар упраўлення ВНУ і педагагічнай адукацыі Міністэрства адукацыі РБ):

– Перад Міністэрствам адукацыі цяпер сапраўды пастаўленае пытанне аб стварэнні літаратурна-філасофскага часопіса. Міністр, спадар Гайсёнак, падтрымлівае гэты праект. Але якім быць часопісу – гэта пакуль вырашаецца. І таму мы з задавальненнем сустрэнемся з вашай ініцыятыўнай групай, каб больш дэтальна прааналізаваць прапанаваны тут варыянт праекта.

*Ігар Бабкоў* (філосаф, літаратар):

– Я б хацеў сказаць колькі слоў пра своеасаблівую функцыю нашай ініцыятыўнай групы. Справа ў тым, што неабходнасць у інтэлектуальнай прасторы, дзе б арганічна спалучаліся літаратура, філасофія, культуралогія і да т.п., адчувалася даўно, і апошнія гадоў пяць у прыватных гутарках пра гэта шмат гаварылася. Не было толькі людзей, якія б узяліся за штодзённую будзённую працу, не чакаючы ад яе матэрыяльных выгод... У пэўны момант мы сабраліся ўтрох і сказалі самі сабе, што адступаць далей няма куды, што гэтым трэба практычна заняцца. На пачатку ідэя часопіса бачылася як аўтарскі праект, які мы збіраліся рэалізоўваць праз камерцыйныя структуры. Але пазней зразумелі, што дарма маем нейкую перасцярогу да дзяржаўных інстытуцый, што гэтая ідэя ўжо выспела не толькі ў “нефармальных” колах... І ўрэшце вылілася ва ўнікальнае, я лічу, супрацоўніцтва з газетай “Культура”, унікальнае ў тым сэнсе, што практычна ўсе людзі працавалі на самаахвярнасці, і працуюць пакуль што на самаахвярнасці. Першы літаратурна-філасофскі сшытак ужо выйшаў, гатовы да друку другі, складзена некалькі наступных. Больш за тое, не чакаючы,

будуць грошы ці не будзе грошай, мы пачалі рыхтаваць першы нумар часопіса, патроху асвойваць гэтую прастору...

*Уладзімір Конан* (доктар філасофскіх навук):

– У нас добрая, радасная падзея. Асмелюся сказаць, што, магчыма, з літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" мы пачынаем новы этап у беларускай філасофскай традыцыі. Гэтая традыцыя заўсёды была звязаная з культуралогіяй, літаратурай і народнай творчасцю. Так склалася, што недзе да XVI ст. уключна, прынамсі, да Сымона Буднага, наша філасофская традыцыя развівалася ў рамках асветніцтва, сутнасна звязанага з літаратурай. Быць можа, толькі ў XVII–XVIII стст. і ў першай палове XIX ст. (да закрыцця Віленскага ўніверсітэта) была прафесійная філасофія на Беларусі, так званая неасхаластыка (...).

У другой палове XIX ст. і першай палове XX ст. беларуская філасофія знаходзіць сябе ў межах літаратурнай творчасці. Падчас панавання марксісцкай дыялектыкі беларускую філасофію выратавалі заходнебеларускія пісьменнікі і мысляры Ігнат Канчэўскі і Уладзімір Самойла. (...)

Мне тут хацелася б сказаць колькі слоў пра метад падачы матэрыялаў. Справа ў тым, што мова чыстай філасофіі для такога выдання наўрад ці будзе прыдатнай, як і вузкаспецыяльныя матэрыялы. І ў гэтым сэнсе літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" падае прыклад, як арганізоўваць тэксты, каб яны былі цікавымі і прафесійнаму філосафу, і проста адукаванаму чалавеку.

*Мікалай Крукоўскі* (доктар філасофскіх навук):

– Вялікія надзеі мною звязваюцца і з літаратурна-філасофскім сшыткам, і з часопісам. "ЗНО" я разглядаю як значнае дасягненне. Я, прызнацца, не надта верыў, што ў нас атрымаецца такое... Дазволю сабе спыніцца на пытанні – у якім накірунку развівацца будучаму часопісу. Колькі б мы ні радаваліся таму, што называем плюралізмам, усё-такі ідэя ёсць нешта такое, што аб'ядноўвае людзей. І не толькі фармальна, не толькі ўвогуле, але і практычна, як кажуць дзэн-будысты: цяпер і тут. Таму што калі мы не аб'яднаемся – у нас нічога не атрымаецца. Вельмі цяжка, калі ты ў параненым стане апынаешся на полі, пакінутым сваімі... У часопіса пэўны накірунак павінен быць. Сёння можна рухацца і на поўнач і на поўдзень, і на захад, і на ўсход, а некаторыя ідуць назад у мінулае. Таму свой накірунак павінен быць, але не трэба спяшаць вызначыцца з нейкім адзіным шляхам, таму што можна паўтарыць трагічны вопыт філасофіі мінулых часоў...

*Алег Бембель* (філосаф, паэт, святар):

– Тут ішла гаворка пра галоўнага рэдактара будучага часопіса. Я лічу, што ён павінен быць адзіны ў трох асобах: АкБаР (Акудовіч, Бабкоў, Разанаў). Далей – пра творчую апазіцыю. Палітычныя страсці адыходзяць, хто яшчэ імі поўніцца, той жыве фармальна. Беларусь ёсць з'ява дзяржаўная, з'ява сусветная, з'ява ў самоце. Зараз будуць і ўжо ёсць разломы ў самой творчай эліце, заснаваныя на спрэчках. І калі гэтыя спрэчкі, натуральныя ў працэсе духоўнага станаўлення, будуць вырашацца традыцыйнымі метадамі адміністрацыйнага гвалту апанента – усё разбурыцца. (...) Ніцшэ казаў: зоркі павінныя быць самотнымі, яны не могуць быць блізка адна ад адной, а тут збіраюцца нібыта блізка. І добра было б, каб яны не выклікалі акаянную рэўнасць...

*Алесь Разанаў* (паэт):

– Філасофія ў прынцыпе не збор тэкстаў, не вынік, які, тым больш, узнікае як гатовы адказ, а само сутнаснае мысленне. Тут ужо гаварылася, што кожная філасофія мае нацыянальную адметнасць, а што ўвогуле гэта ўніверсальная з'ява. І яна адбываецца ўсюды, дзе ёсць для яе прастора. І калі адразу ўпасці ў напрацаваныя недзе тэксты, плыні, структуры, як у нешта гатовае, як у вынік, і казаць, што гэта філасофія, то мы памылімся. Таму што галоўнае тут працэс

мысленне, працэс шляху. А мы ж яшчэ не ўзялі ў суразмоўнікі беларускую мову, не "разгаварылі" яе. Наш арыенцір, наш ратунак – заставацца на сваім шляху. І не проста заставацца, а тварыць гэты шлях. Усё астатняе прыйдзе.

***

Калі я ўжо, лічы, падрыхтаваў да друку матэрыялы "круглага стала" (нават фотаздымкі ўдзельнікаў пазбіраў), мне зусім нечакана патэлефанаваў мой сябар, які неаднойчы хадзіў са мной у горы. Цяпер ён сабраўся на Палярны Урал з групай дзесяцікласнікаў, якіх ужо даўно трэніраваў.

– Валянцін, мой намеснік, казёл, знянацку захварэў. Пайшлі. Табе трэба адно сабраць заплечнік і заўтра быць на вакзале...

Цяжка сказаць чаму, толькі *Поўнач* я любіў болей за ўсе тыя месцы, што абхадзіў/аблазіў. Хібіны, Палярны і Прыпалярны Урал заўсёды апрычона вабілі мяне. Я іх згадваў і на Алтаі, і на Паміры, і на Цянь-Шані. Хаця касмічная веліч апошніх уражвала неверагодна, і ад працы на тых паднябёсных скалах я атрымліваў ні з чым не параўнальны экстаз. А якія ноччу зоры на вышыні чатырох-пяці тысяч метраў! Здавалася, калі добра падскочыць, дык рукой можна памацаць.

А на Паўночным Урале ні велічы, ні вышыні, ні кідкіх колераў. Далікатныя пастэльныя фарбы, чуйная цішыня і паветра шызае, як неба, а неба непрыкметнае, як паветра. Да таго ж куды вокам ні кінь – усюды адно роўнядзь, пакрытая карлікавай бярозкай ды мохам. І хіба адно дзе-нідзе на даляглядзе пабачыш сціплы хрыбет з нізкімі вяршынямі (самая высокая сярод іх, Нэтэм-Пэ, трохі вышэй за тысячу метраў).

Я паклаў слухаўку, пайшоў у кабінет да Людмілы Крушынскай і грымнуўся перад ёй на калені.

Яна без жартаў спалохалася. Падхапілася і пачала мяне падымаць.

– Што здарылася, Валянцін?!

– Адпусціце ў горы.

– Калі?

– Заўтра.

– А "круглы стол"?

– Лічы гатовы.

Так я апошні раз выправіўся ў горы. Вандроўка была просценькай, усяго другой катэгорыі складанасці. Але я, патрапіўшы ў рэдактары, ужо некалькі год пакідаў пісьмовы стол адно дзеля ложка. Таму ўсе цягліцы абмяклі данельга. Гэта мне і далося ў знакі. Рэч у тым, што хаця хлопцы яшчэ не мелі досведу сур'ёзных вандровак, аднак фізічна былі моцна натрэніраваныя. Да таго ж перад "зубрам" беларускага спартовага турызму ім увесь час хацелася выхваляцца. І калі трохі захуткая для мяне хада па тундры не стварала асаблівых праблемаў, то пры пад'ёме на гару Барзова я хапануў сур'ёзную прыгоду.

Гара Барзова – гэта проста гурба камянёў вышынёй з кіламетр, невядома кім і дзеля чаго ўпаасобку насыпаная сярод трохі пагорыстай тундры. Пад'ём на яе не патрабуе асаблівай тэхнікі і, тым болей, начыння: ні вяровак, ні крукоў, ні чаго там яшчэ – акрамя моцных ног, каб скакаць з каменя на камень.

І хлопцы паскакалі...

Калі я пачаў адчуваць, што для мяне такі тэмп – гэта занадта, то мог сцішыць моладзь і нават запыніць яе на колькі хвілінаў дзеля адпачынку. Але ж я для іх быў "зубрам". Гэта дзеля мяне яны гналі свае ногі ўсё хутчэй і вышэй.

Я ўпінаўся з апошняй моцы. А пад самай вяршыняй мне падалося, што сэрца спынілася, бо вочы засціла чорная невідаль. Апошнія метры адолеў, кажучы сучаснай простамовай, "на аўтамаце".

Добра, што нам не было куды спяшацца і мы адпачывалі на вяршыне, пакуль

не замёрзлі. Пакрысе я збольшага акрыяў і, асцярожна спусціўшыся, распавёў сябру (кіраўніку), што са мной здарылася. Ён максімальна аблегчыў мой заплечнік, і да Хальмер-Ю я адтаптаў маршрут без асаблівых прыгодаў. А вось у Варкуце, скуль мы цягнікам вярталіся да Мінску, чорт падштурхнуў мяне бегчы наўздагон тралейбусу. Толькі тралейбус я не дагнаў, бо тут жа зваліўся на асфальт. Потым у горадзе гады два не адважваўся нават з пільнай патрэбы падбегчы, хіба адно цішком, чуйна пільнуючы сэрца. Таму далей пра горы і мовы не магло быць...

Так скончыўся мой працяглы і прыўкрасны раман з гарамі, што доўжыўся больш як два дзесяцігоддзі. Дык чаму пра яго нічога няма ў маіх расповедах, калі ён быў такі прыўкрасны?

Няма і не будзе. Бо маё мілаванне з гарамі – гэта прыватныя эмоцыя і чын. І яны не маюць нічога агульнага з будоўляй Вавілонскай вежы, якая і паклікала мае ўспаміны.

Дарэчы, забыўшыся на сваё *параненае* сэрца, першае, што я зрабіў на мінскім вакзале, гэта набыў “Культуру” і перачытаў радок за радком усе прамовы з круглага стала “Нацыянальная філасофія: вектары кірунку”. І толькі запэўніўшыся, што ўсё як мае быць, паехаў да хаты.

***

Праект літаратурна-філасофскага сшытка ў тыднёвіку “Культура” мне бачыцца настолькі важным (і не толькі дзеля мяне асабіста), што было б непапраўна абысціся адно згадкамі пра нараджэнне ды хаўтуры.

“ЗНО” і блізу не мела таго сацыяльна-палітычнага ды культурнага значэння, як, скажам, “Наша Ніва”. Але інтэлектуальна і, у пэўным сэнсе, літаратурна яму не было інавацыйнай раўні. Тут упершыню агучылі сябе фрэйдызм, постмадэрн, постструктуралізм і шэраг іншых “ізмаў”. Тут заманіфеставаў сябе (і застаўся сярод гаспадароў) блізкі да постмадэрну літаратурны рух “Бум-Бам-Літ”, тут знайшло сабе прытулак “Таварыства Вольных Літаратараў”, не кажучы пра дзясяткі і дзясяткі *безумоўна* таленавітых філосафаў, празаікаў, паэтаў...

Асобнай гаворкі патрабавала б перакладніцкая майстроўня сшытка. Мы не адмовіліся ад перакладаў сусветнай філасофскай класікі (Платон, Ратэрдамскі, Шапенгаўэр, Кіркегар, Ніцшэ, Шпенглер, Вебер...). І ўсё ж такі нам бліжэй былі тыя, хто быў *бліжэй* да нас ці ўвогуле яшчэ жыў у статусе класікаў (Ясперс, Гайдэгер, Леві-Строс, Артэга-і-Гасэт, Арто, Фуко, Дэрыда, Дэлёз, Дэбрэй, Мукс, Калакоўскі...)

На жаль, пакуль я не бачу магчымасці непасрэдна запыняцца ні на арыгінальнай, ні на перакладной літаратуры. Але адшкадую трохі месца, каб згадаць некалькі значных інтэлектуальных падзей і колькі маладых аўтараў, што *прагаварыліся* на старонках сшытка.

***

Пяты выпуск “ЗНО” быў цалкам прысвечаны *Постмадэрну*. Пра яго тады ў нас мала хто ведаў, а калі хто недзе такое і чуў, дык маўчаў пра тое, як пра жахлівы сон. Таму цалкам натуральна, што я распачаў нумар з расповеду пра гэты вялікі стыль, які пераможна гойсаў тады па ўсёй зямной кулі. Казалася ў маім тэксце прыкладна наступнае...

Першы постмадэрновы акт адбыўся тады, калі Бог вырашыў распушыць адну мову на мноства і «дэканструяваць» Вавілонскую вежу. Таму Жак Дэрыда звяртае нашу ўвагу на «Апакаліпсіс» як на мадэль постмадэрнай свядомасці («Пра нядаўна ўзніклыя апакаліптычныя матывы свядомасці»).

Калі правесці агледзіны тэкстаў і падзей на ўсім гістарычным прасцягу, дык можна ўбачыць на тле часу безліч слядоў постмадэрну, але ўсе тыя сляды добра

пратаптаныя пазітывісцкім рухам чалавецтва да “светлай будучыні”. Гэты рух трымаўся самых розных падставаў: матэрыялізму, ідэалізму, гуманізму, рацыяналізму, эвалюцыянізму... Але да самага апошняга часу заўсёды ў цэнтры бытнага было нешта, што аб’яўлялася і прымалася за першую перад другімі ісціну, і гэты своеасаблівы падменнік Абсалюту (логас, Бог, быццё, эвалюцыя, камунізм...) арганізоўваў вакол сябе ўвесь вір жыцця. Без такога ўніверсальнага апірышча людства не ўяўляла свайго існавання. Нават чалавек невымернай інтэлектуальнай адвагі (Ніцшэ, натуральна), заўважыўшы, што “Бог памёр”, напалохаўся “чорнай дзіркі” ў сярэдзіне сусвету і заткнуў яе ідэяй “звышчалавека”.

Аднак бясконцая ратацыя ідэалагічных парадыгмаў некалі мусіла надакучыць. Іх сутвы і найменні як быццам выдавалі на рознае, але ўсе яны аднолькава не адказвалі на галоўнае пытанне: навошта *ўсё* і чалавек ва *ўсім*? І калі раней здавалася, ну вось, пераменім старую парадыгму на новую і нарэшце атрымаем адказ, дык у другой палове XX стагоддзя склалася трывалае разуменне, што ад усіх гэтых пераменаў ніякага плёну няма і, пэўна, ужо ніколі не будзе; ды ўвогуле, надалей трэба кінуць гэтую дурную звычку караскацца па вертыкалі ўгару ды наперад, бо не існуе ні верху, ні нізу, ні гісторыі (“Канец гісторыі” Фукуяма), ні часу (“Канец новага часу” Гвардзіні), ні чалавека (“канец чалавека” Фуко)... Ёсць адно паверхня, тэкст, архіў, рэшткі слядоў і паводка жыцця, якая ўсё блытае, змешвае, праглынае і ні ў якую пару не супакойваецца, бо няма нідзе тых берагоў, у лажніцу якіх яна калісьці магла б улегчыся...

Постмадэрн – гэта быццё без сэнсу быцця, быццё без якога-колечы фармуючага цэнтр Абсалюту, быццё без сярэдзіны і берагоў, быццё як татальнасць быцця...

***

Потым я даволі шмат і ў розных выданнях буду сваімі тэкстамі нагадваць пра постмадэрн. З гэтага сёй-той нават стане называць мяне бацькам беларускага постмадэрна. Хаця куды часцей пры згадцы майго прозвішча будзе гучаць толькі лаянкавая лексіка. Што і зразумела: постмадэрн і нацыяналізм, які тады панаваў у беларускамоўнай прасторы, – рашуча варожыя з’явы.

У тую пару ў мяне часта пыталіся: як пісаць постмадэрновыя тэксты? Найбольш цікавы выпадак здарыўся не дзе-небудзь, а ў маім працоўным катуху.

Неяк дачка (тады яна вучылася ў 4 класе) падышла да пісьмовага стала і папрасіла:

– Тата, навучы пісаць постмадэрновыя тэксты.

Я трохі разгубіўся. І таму, што ў чатырохкласніцы з’явілася жаданне пісаць постмадэрновыя тэксты, і таму, што я ніколі не думаў, як пішуцца тэксты, постмадэрновыя ці якія заўгодна іншыя. Для мяне як трава расце, так і пішуцца тэксты – ціха, неўпрыкмет, з прычыны саміх сябе.

Каб хоць трохі скаардынаваць свае думкі, пачаў здалёк:

– Ведаеш, Вераніка, перш чым пісаць постмадэрновыя тэксты, трэба навучыцца пісаць звычайныя вершыкі, казкі, апавяданні.

– Ну дык, гэта ж будзе не хутка,– з сумам уздыхнула Вераніка.

Я зразумеў яе сум і вырашыў хоць як патлумачыць розніцу паміж звычайным і постмадэрновым тэкстам.

– Звычайны тэкст, – знайшоўся я, – гэта калі кажуць пра нешта ўсур’ёз, постмадэрновы – калі гэтую сур’ёзнасць перасмейваюць. Постмадэрновы тэкст, нават самы сур’ёзны, гэта бясконцае перадражніванне таго, што ёсць, бо постмадэрніст не верыць, быццам тое, што ёсць, гэта праўда, гэта сапраўды тое, за што яно выдае сябе для чалавека...

Ты, напэўна, яшчэ памятаеш, у “Буквары” быў такі сказ: “Мама мыла раму”. Дык вось, каб стварыць постмадэрновы тэкст, ты бярэш гэты сказ і, да прыкладу, пішаш:

Мама любіць
Рамы мыць.
Тата любіць
Шыбы біць.

"Мама мыла раму" – звычайны тэкст, а дражнілка, якую мы толькі што прыдумалі,– постмадэрновы. Хаця гэта, можа, і не лепшы прыклад. Давай пашукаем яшчэ што, больш выразнае. Скажам, ты калісьці вучыла на памяць верш Пімена Панчанкі "Герой".

Злосна сказаў: "Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне".
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

З гледзішча сацрэалізму – бліскучая страфа (ды і ўвогуле бліскучая). І хаця ва ўсім вершы няма ні каліўца праўды і гэты "герой" цалкам прыдуманы паэтам, але якая рытарычная фігура – цуд! Другая страфа значна слабейшая, затое ў трэцяй зноў усё выдатна... Толькі мы адхіліліся. Значыць так, ты бярэш пачатак трэцяй страфы:

А ён свае косці з іржавых калючак
Сваімі рукамі без стогну аддзёр.

І далей тым жа самым вершаваным памерам, але па-свойму ператалумачваеш, чаму "герой" злез са скруткаў дроту. Ну, прыкладам, ён убачыў, што бяжыць яшчэ дзвесце ботаў, гэта значыць новых сто ахвотнікаў па чужых спінах праз калючы дрот пералазіць. А яму і папярэднія абрыдлі, ён падняўся і сказаў: "Ды колькі можна па маёй спіне таўчыся".

Вераніка ўсміхнулася і пайшла ў свой пакой, можа, звычайную казку пісаць, а можа, – постмадэрновы тэкст. А я пачуўся ніякавата ад апошняга прыкладу. Хай сабе гэты герой Панчанкі наскрозь паэтычная прыдумка, але самаахвярнасць чалавека і трагедыя вайны, якую гэты верш гіпертрафавана вылучае, праўдзівыя, і ці варта такога, яшчэ зусім маладога чалавека вучыць постмадэрнай іроніі на прыкладах з запечанай крывёю?

Бадай, не варта. Затое з гэтага выпадку я атрымаў магчымасць сфармуляваць сваё разуменне сутнаснай розніцы паміж традыцыйным і постмадэрновым пісьмом. Гэтая розніца (сутнасная) не ў дэцэнтралізацыі тэксту і не ў дэканструкцыі яго, не ў адсутнасці "героя" ці "аўтара", тым болей не ў фармальных прыёмах (у тым ліку і згаданай вышэй іроніі), а ў *іншай* ролі самога слова.

У традыцыйным тэксце мастацкае слова спрабавала імітаваць Слова стваральніка свету. Бог сказаў: хай будзе святло, і святло з'явілася. З гэтага і традыцыйнае мастацкае слова імкнулася выявіць у сабе такую ж стваральную моц, яно жадала не толькі адлюстроўваць рэальнасць, але ствараць яе і быць ёю. І яшчэ, паколькі Бог (прынамсі, Хрыстос) уяўляў з сябе маральны імператыў, то і кожнае слова ўжо паводле свайго азначэння рабілася маральным, яно было цалкам з'арыентаванае на той маральны закон, што ад пачатку заставаўся латэнтна імплікаваны ў ім.

Інакш кажучы, у традыцыйным тэксце слова – заўсёды *этычнае* слова.

У постмадэрным тэксце слова значыць што заўгодна, аднак найменей тое, што азначае. Таму тут слова не этычнае, а выключна *эстэтычнае*. Каб быць ужо зусім дакладным, дык выславімся наступным чынам: у постмадэрне слова не маральнае, але і не амаральнае, яно – імаральнае.

Постмадэрнае слова не ведае, што такое боль, сумленне, адказнасць.

У традыцыйным тэксце “герой”, які свядома забіў дзіця, – рэальны забойца, якому ні іншыя героі тэксту, ні аўтар, ні чытач ніколі не даруюць. “Героі” постмадэрнага тэксту могуць бясконца рэзаць дзяцей на кавалкі дзень пры дні, і гэта будзе выклікаць у постмадэрновага чытача што заўгодна, толькі не агіду да герояў (і аўтара), бо постмадэрновы тэкст ведаць не ведае, што такое сапраўдная рэальнасць (тым болей – этычная рэальнасць), ён цалкам адбываецца ў сітуацыі гіперрэальнасці віртуальнай гульні.

*P.S.* Здаецца, Сяргей Дубавец аднойчы напісаў, што ён хацеў бы быць апошнім салдатам, што загіне за незалежнасць Бацькаўшчыны.

А я, постмадэрніст, хацеў бы быць ботамі таго салдата, якія сцягне з задраных ног марадзёр і пойдзе ў іх да бліжэйшай вёскі на танцы.

***

Прыйсце постмадэрна ў пераважна *вясковую* на той час беларускую літаратуру спачатку было зразуметае як прыезд вандроўнага цырка ў глухое правінцыйнае селішча. Хай вычвараюцца, а мы парагочам з дурняў. Назаўтра яны з’едуць разам з грукатам алюмініевага тазіка і зноў будуць чуваць спевы салоўкі ды бразгат вёдраў для малака. Гэта постмадэрністаў і ратавала па першым часе ад татальнага астракізму. Хаця, відаць, больш спрыяльным для постмадэрна быў той факт, што жывая частка грамадства тады банальна прагла пераменаў. Хоць якіх, хоць як. Толькі б не так, як было раней, гэта значыць – аніяк. Дык хай сабе скачуць і выенчваюць на сцэне нікому незразумелыя словы. Абы не панылая аднастайнасць заўсёды ўсё таго ж самага. І гэта найбольш ратавала постмадэрністаў ад тухлых яек і гнілых памідораў. Зрэшты, у тыя гады нешта падобнае наўрад ці каго б ужо напалохала.

Хаця, бадай, самае цікавае ў гэтай падзеі было тое, што, не паспеўшы засвоіць падставовыя канстанты постмадэрна, нашыя інтэлектуалы на ягоным подзе стварылі палемічны дыскурс, у якім пачалі прапаноўваць уласныя эстэтычна-філасофскія версіі літаратурнага пісьма пасля постмадэрна ўжо (ці наўзбоч яго). Найперш згадаю “Шызарэалізм” Юрася Барысевіча і “Транслагізм” Сержука Мінскевіча ды Алеся Туровіча, “Афрыканізм” Змітра Вішнёва...

Далей некалькі фрагментаў з артыкула Юрася Барысевіча “Шызатура і літафрэнія” (“ЗНО” №24).

“...Ыеаіооу прніспрмтк йй хрмтрпт юіуіаабі хірбццвш 1й2 яіааоюі еаіеооуою рбшмглц4т9 йй оотхрснс” – такімі загадкавымі словамі заканчваецца адно з апавяданняў падборкі літаратараў-дэбютантаў у “Нашай Ніве” №1/95. Наўрад ці сам аўтар (Р. Равяка) разумее іхні сэнс, але гэта і не істотна: сёння і больш празрыстыя тэксты пішуцца без асаблівай надзеі, што іх будзе хтосьці чытаць. (...)

Спад цікаўнасці да інтэлектуальнай літаратуры, які мы назіраем сёння, не забівае яе (па-ранейшаму пішуцца неблагія вершы, апавяданні і п’есы, выдаюцца ўсе старыя і некалькі новых часопісаў), але, парадаксальным чынам, робіць яе яшчэ больш элітарнай, вучыць нас пісаць ужо не для ўсіх, а толькі для нямногіх. Літаратар сёння свабодны, як ніколі раней, бо ведае, што за напісанае не атрымае ні ордэна, ні кватэры, ні турэмнага тэрміну ці якога яшчэ прыстойнага ганарару. І гэта дае падставы, напрыклад, лідэру ТВЛ Алесю Аркушу заклікаць да ператварэння прыгожага пісьменства ў свайго кшталту балет літараў і сімфанічную музыку гукаў, да канчатковага вызвалення яго ад ленінскага прынцыпу “народнасці” – ідэалагічнай машыны вытварэння “народных пісьменнікаў” (гл. “Ксеракс беларускі” №3).

Чым менш абывацеляў удзельнічае ў літаратурным працэсе (у якасці тых, хто піша або чытае) – тым менш “здаровага сэнсу” пранікае ў напісанае. Літаратура сёння, не зважаючы на пэўную настальгію па вялікім чытачы, цешыцца сваёй свабодай ад яго, расцякаецца морам дзівосных эксперыментаў і галюцыянацыяў. Напэўна, не дарма Юрась Пацюпа ў тым жа нумары “Ксераксу” атаясамляе

сучасную літаратуру з таямнічай глюкаўкай: “Глюкаўка – прадукт працы, які не мае кошту пры каласальных затратах індывідуальнай працы. Яна – ідэальны шэдэўр, калі мастацкая творчасць – гэта вытворчасць жыццёва непатрэбных рэчаў”.

У гэтым тэзісе мы знаходзім тлумачэнне адрознасці кансерватыўнага рэалізму ад рэвалюцыйнага шызапісьма: рукой вольнага літаратара водзіць не пачуццё грамадзянскага абавязку і не разлік на годную аплату сваёй працы, а сіла бессвядомага, абыякавага да ўсялякіх разлікаў і абавязкаў Жадання, пра якое Ж. Дэлёз і Ф. Гватары кажуць так: “Жаданне ігнаруе абмен, яно ведае толькі дарунак і крадзёж... Шызафрэнік перайшоў мяжу, за якую рэпрэсіўнае грамадства выдаляе вытворчасць жадання. Ён свабодны, безадказны, адзінокі і вясёлы Заратустра. Ён проста перастаў баяцца з’ехаць з глузду” (“Капіталізм і шызафрэнія”). (...)

У адрозненне ад постмадэрнізму шызарэалізм не адварочваецца ад рэчаіснасці, ад пякучых душу сацыяльных і метафізічных праблем, адмаўляецца ад уцёкаў у выдуманы (вытрызнены) свет: дзівосаў хапае і побач з намі. У адрознасць жа ад рэалізму яму замала аднаго, хай сабе і добра абгрунтаванага, гледзішча: адбыўшыся шэзафрэнік – нешта большае, чым адзін чалавек, нават народ, спрасаваны ў адно той ці іншай ідэалогіяй. Шызарэалізм не мае трывалага, саматоеснага гледзішча на аніводную рэч, думку або істоту: усялякі пункт погляду ён ператварае ў лінію, плоскасць і нават раскрытую на ўсе бакі, на 360 тысяч градусаў прастору сузірання (прыгадаем зборнік “Шлях-360” Алеся Разанава). (...)

Увогуле, у адрознасць ад постмадэрністаў я лічу магчымым развіццё абсурду, захлынуўшага свет, да атрымання новых або вяртання страчаных сэнсаў. Мэтай шызафрэнічнага падарожжа з’яўляецца пункт гледжання, дзе ўжо відаць зіхценне новых сэнсаў на даляглядзе яшчэ абсурднага тэксту, жывапіснага ці харэаграфічнага твора. Новыя сэнсы павінны не прамаўляцца, а толькі прадчувацца, як ранішняе сонца за халодным ускрайкам зямлі”.

***

Нехта любіць кіслае, нехта салодкае, а я люблю таленавітае. Таму для мяне абсалютна неістотныя эстэтычныя схільнасці ды прыхільнасці аўтара. Класіцызм, рамантызм, рэалізм, мадэрн, постмадэрн... Гэта ўсё адно – калі таленавітае. Вось чаму ў сшытку суседзілі як класічныя тыпы пісьма, так і ўльтрасучасныя. Хаця нейкі час выглядала, што рэй вядуць постмадэрністы. Але гэтаму, пэўна, хутчэй спрыяў эфект іх радыкальнай навізны, якая, натуральна, найперш кідаецца ў вочы.

Я вылучыў некалькі аўтараў з невялічкімі тэксцікамі, каб хаця б мімаходзь праілюстраваць той тып пісьма, з якім нашыя хлопцы спрабавалі разбурыць маналіт таталітарнай літаратуры. Гэтак з аднаго боку. А з другога – пашукаць сябе там, дзе раней беларусы нікога і нічога не шукалі.

*Ільля Сін*

*Ілля Сін памёр*

белая ломкая газэтная папера са сьвежым пахам паліграфскай фарбы прыемна храбусьцела на зубах, паступова заглытваючыся ва ўнутр. Там былі зграмоджаныя недабітыя шклянкі, тара з-пад ацэтона, цёплая коўдра, шыбеніца для слізьмакоў, некалькі ветракоў і нават адзін здохлы папугай у кутку. Ягоная тужлівая песня поўнілася сапраўднай шчырай любоўю да Айчыны. На сцяне вісеў невялічкі адбойны малаток, а пад ім валяліся кавалкі карціны “Узыход сонца над цемрай”. На іх спачываў С, а П разлёгся ў адным з шуфлікаў тумбачкі. Раз-пораз прачынаючыся, сябры працягвалі сваю доўгую гутарку адносна вартасьцяў у мастацтве, коштаў на камбікорм і г.д. На стале стаяла зьмерзлая і зьледзянелая гарбата. Аднекуль згары падалі белыя пушынкі, больш падобныя на прысак.

А пасьля Ільля Сін памёр.

*Зміцер Вішнёў*

*Клёкатамус*

За мутным шклом у пакоі А з раслін В асыпаліся featureнакаляровыя лісці і краскі. Там сядзела чорная кошка з вачыма, падобнымі да пробак ад “Пшанічнай”. Там вісеў малюнак 5х5 (з выявай дурня, які п’е кісель). Там стаяла эбанітавая тумба з гадзіннікам (у выглядзе голага ідыёта), які цікаў у зваротным напрамку. Там ляжалі кнігі (99) з назвай “Казкі ад дзядзькі афрыканца”. Там ляжаў паласаты пехцяр з дзіркамі, падобнымі да гайкавёртаў. І вось сярод гэтай пышнаты, нібы струк чырвонага перцу, чалавек па імені – Я.

Я (дакладней ён) сядзеў у адных абрыкосавых плаўках на бегемотазэдліку. Сядзеў Я і размахваў рукой з алоўкам. Сядзеў Я і лаяўся.

Раптам – званок. Прыйшоў чалавек – Ён. Увесь у жоўтых гумовых латках... І сказаў Ён адно слова:

– Клёкатамус.

Раптам – званок.

Прыйшоў чалавек – Той. У трусах, баталах, пальчатках, цыліндры і акулярах. І сказаў Той два словы:

– Клёкат Тамус.

Пазней прыляцелі плоскія зялёныя птушкі. Яны тры разы пракрычалі:

– Клёк Катам Мус! Клёк Катам Мус! Клёк Катам Мус!

Паказалі барвовыя язычкі. Паплявалі на крылцы. Паскакалі. І паляцелі.

*Альгерд Бахарэвіч*

*Паўночная Асетыя*

А пятай ільдзіне, калі мае свойскія жывёлы вярнуліся да хаты, я заўважыў на іхніх лапах Паўночную Асетыю. Паўночная Асетыя спаўзла з лапаў на лінолііюм і насьцярожана прынюхалася. Потым яна зьнікла, але ненадоўга. Я абіраю бульбу – яна танчыць на кончыку нажа. Я палю цыгарэту – яна хаваецца ў дыме.

Паўночная Асетыя – надта зменлівая дама, і калі ты захочаш яе ўявіць, уяві імгненне, якое захутала ногі ў пухнатую коўдру і п’е гарбату.

Зьмяркалася. Мае свойскія жывёлы павячэралі й леглі спаць. Заснулі яны хутка – катаньне на лыжах па марозе спрыяе здароваму сну. Толькі вось іх сакавітыя адрыжкі перашкаджалі спаць мне. Я ляжаў з заплюшчанымі вачыма й думаў: пра што – няважна. Раптам дзьверы зарыпелі, і ў спачывальню зазірнула Паўночная Асетыя. Яна падумала, што я сплю, ціхутка прычыніла дзьверы і прайшла ў залю.

Спачывальня была сумесная з заляй. Іх адзьдзяляла тонкая сценка, а ў сценцы была шчыліна, праз якую ўсю залю цудоўна відно. Я ўладкаваўся ля шчыліны, імкнучыся не рабіць рэзкіх рухаў, каб не пабудзіць сваіх свойскіх жывёлаў. У залі граў духавы аркестр. Пад ягоныя ўсхліпы віхурылася – ад тэлевізара да канапы – некалькі джэльтменаў і лэдзі. Паўночная Асетыя стаяла ля шафы з нейкім чуваком у смокінгу. Чувак быў п’яны й шаптаў Паўночнай Асетыі на вуха: “Я ня буду пісаць пра жаночыя вусны, ня буду... Хай Міхасевіч піша! Я бы мог напісаць, што яны падобныя на дзьве гары ў промнях світальнага сонца, што гэтыя горы адбіваюцца ў возеры з чыстай крынічнай вадой, але не буду!” Гарачы подых казытаў Паўночнай Асетыі вуха і яна сьмяялася, сьмяялася, сьмяялася...

Тое, што я ўбачыў, мяне асабліва не здзівіла: у маёй залі штовечар адбываюцца ўсялякія штукі. Здаецца, нічога цікавага: дзеці з пажарным кранам – маці, што пахне прасам – стыне пірог ружовы – горача ў роднай хаце. Але цяпер было нешта ня тое. Ня тое... ня тое... Духавы аркест граў усё гучней, і раптам я зразумеў.

– Кантрабас фальшывіць!– закрычаў я, але мяне ніхто не пачуў.

– Кантрабас фальшывіць!!!—крыкнуў я яшчэ раз, але свет не зрушыўся.

Тады я ўскочыў на ногі і пабег у залю, бразнуўшы дзьвярыма так, што мае

свойскія жывёлы папрачыналіся й зараўлі, хто як умеў. А я... Я спыніўся на парозе, бо ў залі нікога не было – толькі жоўтая скамянелая стома.

Як доўга я не ездзіў па марозе зь ледзяных узгоркаў, калі соплі ў носе і вецер у твар, і з-пад лыжаў церушыцца Паўночная Асетыя. Можа б тады я спаў здаровым сном. Як свойская жывёла.

Услухайцеся: Паўночная Асетыя. Паўночная Асетыя для тых, хто ЧАКАЕ. Паўночная Асетыя. Ты і я.

Бадай, найбольш выразным прыкладам плённай агрэсіі постмадэрна *ў шырокія колы грамадства* сталася газета “Навінкі”. Постмадэрная паводле азначэння гэтая масавая газета была афіцыйна зарэгістраваная ў 1999 годзе і прадавалася ў дзяржаўных кіёсках. (Яе стварылі *Лёлік Ушкін і Паўлюк Кавальчук*.)

У адрозненне ад інтэлектуальных падзеяў, якія не губляюць сваёй вартасці, калі застаюцца ва ўжытку хаця б нейкага абмежаванага кола, вартасць эстэтычнай з’явы спраўджваецца адно тады, калі яна, хай сабе і ў *адаптаваным* выглядзе, заваблівае шараговага спажыўца. У гэтым сэнсе досыць папулярная газета “Навінкі” фактам свайго з’яўлення засведчыла, што постмадэрн на Беларусі ўжо адбыўся як эстэтычная і, больш за тое, светаглядная падзея.

Зрэшты, досыць пра постмадэрн...

***

Я рэдка ўплішчваў у “ЗНО” свае тэксты. Сярод нешматлікіх быў і той, што высветліў перспектыву майго здумлення на ўсё будучае. Якраз тады мяне захапіла і панесла праз гады тайніца *нішто, няма, адсутнасці*. Як гэта можа быць – *не быць?* І ўсе мае кнігі ў той ці іншай меры будуць пошукам адказу на гэты метафізічны запыт. А пачынаўся шлях *у нікуды* з тэксту “Мяне няма”. Таму нельга сказаць, што я яго тут проста люструю. Я наноў углядаюся ў яго, як у сваю загалоўную ростань, у каторы раз спрабуючы зразумець, навошта Кон выбраў яе для мяне.

Тое, што ёсць, таго ўжо не будзе.

Я ёсць – значыць мяне ўжо не будзе. Ніколі. Нідзе.

Мяне ніколі болей не будзе!

Быццё – гэта месца, дзе збіраюцца канаць назаўсёды ўсе магчымасці быцця. Татальны могільнік усяго, што мела волю быць.

Вусціш быцця ў тым, што *быць* больш трагічна, чым *не быць*. Бо *быць* – гэта *ўжо* быць, а *не быць* – гэта толькі *яшчэ* не быць.

У *быць* адзіны сэнс – болей *не быць*. Нідзе. Ніколі.

Гэтаму мета-песімістычнаму разуменню быцця як татальнага анігілятара ўсяго, што было вымкнутым у быццё, стае ў апазіцыю мета-аптымістычная ідэя быцця як месца, дзе ўсё, што з’яўляецца быць, застаецца назаўсёды або ў вечным кругазвароце, або ў несупынных працэсах трансмутацый...

Але і той, хто кажа, што ўсё несмяротнасць, і той, хто кажа, што ўсё смяротнасць, пражываюць аднолькавае жыццё. І напэўна пасля смерці яны не разыходзяцца ў розныя бакі – адзін у вечнае Нешта, другі ў вечнае Нішто, – а трапляюць у нейкую адну наканаванасць. У наканаванасць адсутнасці таго, што было.

Праклён быцця – яно адбірае быццё.

Неяк бацька паскардзіўся маці:

– Пражыў жыццё, а навошта жыў? Ужо смерць не за гарамі, а навошта жыў?..

– Куды ад смерці падзенешся? З варонамі не паляціш! – адказала маці.

Абыякавасць быцця стасоўна мяне і мая любоў да яго – вось на чым я ўкрыжаваны да скону. Хаця больш дакладна будзе казаць не пра маю непатрэбнасць быццю, а пра неабавязковасць менавіта мяне ў быцці. Бо сказаць, што быццю

непатрэбны чалавек як феномен быцця (да якога, зразумела, дастасаваны і я) было б залішне безадказна.

Чалавек увогуле, чалавек як феномен быцця, пэўна ж, для нечага патрэбны быццю. Прынамсі цяжка, амаль немагчыма пагадзіцца, што феномен чалавека паўстаў з выпадковага збегу акалічнасцяў фізічнага свету, што чалавек сваім цэлым нічым большым за гэтае цэлае не абгрунтаваны, ніякай трансцэндэнтнай задумай не абумоўлены.

Занадта буйна, мудрагеліста, вытанчана арганізавана быццё для чалавека, сам чалавек і той фенаменальна багаты і фантастычна згарманізаваны свет цывілізацыі, які чалавек стварыў, каб лічыць усё гэта толькі няўцямнымі прыгодамі законаў тэрмадынамікі...

Феномен чалавека і я-чалавек – гэта рашуча розныя падзеі. Калі карыстацца фальклорным параўнаннем, то феномен чалавека – гэта дрэва (дрэва жыцця), а я чалавек – лісток на тым дрэве. І хаця лісток немагчымы без дрэва, у лістка і дрэва дзве розныя сутнасці, два розныя зместы быцця і, верагодна, два розныя зместы ў быцці.

Я сам – лісток, і неўзабаве восень. Дрэву яшчэ быць і быць, і кожную вясну на ім будзе шапацець новая лістота. А я ўсё часцей пагладаю на дол. Адтуль пад ранак ужо цягне холадам, і я пачынаю здагадвацца, што ў лістка і дрэва зусім розныя далягляды: дрэву наканаваны лёс, лістку – толькі доля.

Можа, яно і добра, што ад вясны да восені лісток мысліць і пачувае сябе дрэвам.

Можа яно і добра, што я-чалавек тоесніць сябе з феноменам чалавека, бо з гэтага ён мае хоць нейкі аптымізм быцця.

Мною жыццё не вершыцца, – кажа ён. І яму лягчэй адыходзіць у невараць. Але не толькі знікаць у небыцці – быць у быцці яму лягчэй і весялей, калі ён атаясамляе сябе з усёй гісторыяй людства, з усёй культурай і цывілізацыяй, з усім мысленнем і з усім эмацыйным досведам. Які я вялікі і магутны, які я разумны і здольны, – думае зазіночаны з усім людскім я-чалавек і пачувае сябе трохі бясконцым і трохі вечным...

Праз дарогу ад хаты, дзе я нарадзіўся і асталеў, за высокім каменным мурам пачыналіся старыя, зарослыя могілкі. Як толькі мне было дазволена перабягаць праз дарогу, увесь вольны час я бавіў з сябрукамі на могілках. Яны былі для нас дзіцячай пляцоўкай, садком, піянерлагерам, стадыёнам... Там мы гулялі ў хованкі, індзейцаў, футбол, карты. Пазней там сустракаліся і гулялі з дзяўчатамі. На ўжо ледзь прыкметных магільных капцах добра спелі суніцы. Яны былі буйнымі і салодкімі. Больш буйнымі і салодкімі за звычайныя – ці гэта нам толькі здавалася, бо патрэбная была пэўная адвага, каб ласавацца ягадамі з капцоў над дамавінамі, хай сабе і спарахнелымі.

Могілкам было некалькі стагоддзяў, і пад нашымі нагамі спрэс пластаваўся чалавечы прах. Але калі не лічыць рэштакаў збуцвелых каменных крыжоў ды плітаў і рудых ад іржы жалезных агароджаў, запакаваных у густое кустоўе, то гэтае месца нічым не рознілася ад старога парка ці вячыстага лесу, паколькі ўжо ніхто не памятаў пра тых – пад дзірваном...

Хто тут быў, а хто не быў? Нехта быў – гэта адзінае, што мы ведалі. Бадай нават не Нехта, а ўсяго толькі Нешта... Нешта было тут, адбывалася, і ў гэтым адбыванні Нечага неяк прысутнічалі тыя, над сатлелым прахам якіх цяпер раскінулі свае шаты ліпы, ясені ды грабы.

Напэўна, мне не трэба было гойсаць па напластаванні праху, скакаць праз здзірванелыя магільныя капцы, есці жменяй сакавітыя суніцы, мілавацца з дзяўчынай на заімшэлых магільных плітах... Напэўна, мне не трэба было перабягаць дарогу на могілкі, і тады я разам з другімі суцяшаў бы сябе, што не знікну дазвання ў невараці, а нейкім чынам перабяруся ў адвечнае быццё...

Але я залішне доўга бавіўся на старых могілках, каб не памятаць, ува што

згортваецца жыццё чалавека, чым і дзе яно вершыцца. І таму, калі закарцела спытацца пра самае кранальнае – што ёсць быццё, хто ёсць ты і ці знойдзецца ў цябе нешта, праз што ты пасля не згубішся ў небыцці, я ўжо ведаў пачатак адказу: быццё падобнае да старых могілак за каменным мурам, дзе жывыя мілуюцца на надмагільных плітах, з якіх шурпаты час паздзіраў усе літары.

Заставалася апазнаць працяг гэтага ведання. Але чым далей я паглыбляўся ў росшукі, тым больш ясна разумеў, што ўсё болей губляю тое, што шукаю. А потым і зусім згубіў. І ў які бок ні аглядаўся, куды ні зазіраў, – няма мяне.

Чалавека можна прыдумаць, ды нельга знайсці. Без ліхтара ці з ліхтаром. Здаецца, гэта адзінае, што я зразумеў, скрэмзаўшы столькі паперы.

Нельга знайсці тое, чаго няма. Марна шукаць я-чалавека ў нейкіх яшчэ вымерах, акрамя тых, што можна *памацаць пальцамі*. Я-чалавек заўсёды па-за кантэкстам сакральнага, ён цалкам месціцца ў прасторы рэальнага і ўвесь да рэшты вычэрпваецца экзістэнцыйным адбываннем тут-быцця.

***

Так яно і мусіла стацца. Алесь Разанаў з Ігарам Бабковым спакваля ўсё далей адыходзілі ад “ЗНО”. Па першым часе мы яшчэ збіраліся, каб абмеркаваць чарговы нумар, але так было нядоўга... Хлопцы захапіліся новымі праектамі, а я застаўся ў “Культуры” адпрацоўваць свой штатны заробак. Між іншым, аб’ём працы, якую патрабаваў кожны сшытак “ЗНО”, больш чым у два разы перавышаў норму іншых супрацоўнікаў газеты. Але я ж з уласнай хэнці схапіўся за гэткую ношку...

Што праўда, досыць хутка самахоць пачалі аб’яўляцца *валанцёры*. Пакуль найперш згадаю Юрася Барысевіча. Гэта, бясспрэчна, быў дарунак ад майго Кону. Юрась скончыў інстытут замежных моваў і рабіў выдатныя пераклады – перадусім з французскай. Мы і пазнаёміліся, калі ён прапанаваў пераклады з Антанэна Арто. Толькі не гэта было галоўным. Юрась і сам меў залатую галаву (а да яе заўсёды лагодную ўсмешку на твары), якая прадукавала выключна эўрыстычныя тэксты. У гэтым сэнсе сярод беларускіх мысліўцаў яму не было роўных. Сшытак як бы наўмысна быў створаны пад яго, і Юрась не спыняўся аддзячваць за гэта бліскучымі тэкстамі...

Дарэчы, канцэпцыя сшытка спарадкавалася досыць хутка, бо на месцы кутных камяняў былі закладзеныя ўжо напрацаваныя старонкі “Эліта” і “Суплёт ідэяў”. Неўзабаве з’явіліся (ці адшукаліся, як Ян Пятроўскі з перакладамі “Платона”) новыя перакладчыкі і арыгінальныя аўтары. Таму справа ў мяне рушыла на добры лад раней, чым я мог спадзявацца. І хаця значная частка тэкстаў была не-чыт*а*льнай (залішне складанай) для многіх чытачоў, ніхто з іх (і кіраўніцтва газеты таксама) не папікаў мяне за гэта. Бадай, усе адчувалі, што пакуль так яно і мусіла быць. Справа новая, нечаканая. Патроху прызвычаімся. Толькі ў гэтай сітуацыі, пэўна, ці не найбольш нязвыклым было тое, што я сам абсалютна не думаў пра чытача, як чытача. Я думаў выключна пра інтэлектуальны ландшафт краіны. Дакладней пра тое, што ён павінен з’явіцца ў Беларусі – інтэлектуальны.

І адно праз тры з лішкам гады даведаўся, *як* расчытваў і пакрысе засвойваў прастору ўжо прынцыпова іншага пісьма *шараговы* чытач. У тым апошнім, 44 нумары “ЗНО” ёсць споведзь Дзіны Кірылавай, якая на кампутары набірала ўсе нумары сшытка. Трохі працытую з яе аповеду:

“Першы нумар “ЗНО” даўся мне вялікай крывёю. Я ўзненавідзела гэтыя тэксты, складзеныя з быццам бы знаёмых літар, кропак, косак, пытальнікаў, але – не больш за тое. Словы, словазлучэнні, сказы былі настолькі незразумелыя, іхні сэнс быў схаваны настолькі глыбока, што мой сярэдні мозг спачатку разгубіўся, потым збянтэжыўся, а потым сказаў мне: “Гэта твой асабісты вораг”. І сапраўды, засталася адна альтэрнатыва з дзвюх магчымых: альбо аўтары гэтых трызненняў

з'яўляюцца патэнцыйнымі кліентамі шпіталя, што месцяцца ў Навінках, альбо ты, даражэнькая, завершаная дурніца. Апошняе, безумоўна, хацелася аспрэчыць. (...)

Менавіта так гэта пачыналася... І здавалася, непрыязь (мяккавата сказана) не знікне ніколі. Але – цуды ўсё ж такі здараюцца – мой сярэдні, банальны розум крок за крокам уваходзіў у гэтую незнаёмую прастору, навобмацак, спатыкаючыся, падаючы, але – хай жыве пані Ўпартасць! – другі нумар "ЗНО" ўжо не так раздражняў і псаваў настрой, трэці нават зацікавіў трошкі (ужо не памятаю, хто гэта быў – Ніцшэ або Ясперс, – не істотна). Пачало здавацца, што не такая ўжо гэта бязглуздзіца... А потым сталі з'яўляцца не толькі пераклады "з вялікіх і памёрлых", але і абсалютна новыя творы, прычым напісаныя адмыслова для "ЗНО".

***

Тое, што я не зважаў на чытача як чытача, а думаў адно пра канцэптуальныя змены ў нашай культуры, праз некалькі год пачало давацца ў знакі. Выданне, разлічанае на масавую публіку (прынамсі, у задуме), мусіла дбаць пра адпаведны наклад. І хаця літаратурна-філасофскі сшытак фармальна не замінаў гэтаму, бо быў толькі дадаткам і выходзіў раз на месяц, але і наўрад ці спрыяў.

Неяк мы ладзілі сустрэчу з французскай амбасадай і з гонарам развесілі на сценах старонкі "ЗНО" з грунтоўнымі перакладамі Фуко, Дэлёза, Льётара, Леві-Строса, Дэбрэя...

Амбасадар і ягоная світа тады моцна дзівіліся: у нас такое немагчыма, каб складаныя філасофскія тэксты друкаваліся ў грамадскім выданні, створаным дзеля масавага чытача. Потым я неаднойчы выхваляўся, маўляў, "ЗНО" робіць тое, што дзівіць нават французаў. І толькі значна пазней зразумеў, што хваліцца не было чым, паколькі шараговага чытача газеты, сфармаванага канонам расійска-савецкай культуры, усё гэтае незразумельства, ды на беларускай мове, толькі прыніжала і, напэўна, тым яшчэ і абражала.

Цяпер мне не складана зразумець, што ў кулуарах міністэрства "праблема "ЗНО" пачала абмяркоўвацца значна раней, чым быў зроблены канчатковы вырак – трэба пазбаўляцца ад сшытка. І толькі калі з'ехала ў ЗША галоўны рэдактар Вольга Іпатава і быў прызначаны новы міністр, пачалі пра гэта казаць уголас. Хаця, відаць, начальнікам чагосьці не хапала, нейкага пераканаўчага аргумента, паколькі праект не выглядаў шараговай з'явай, каб яго скасаваць з нейкай няўцямнай прыхамаці.

І тут...

Якраз у гэты час Ігар Бабкоў з Валеркам Булгакавым стварылі першы беларускі філасофскі часопіс "Фрагменты". Пра гэтую, у інтэлектуальным сэнсе вялікую падзею, яшчэ будзе асобная гаворка. А вось стасоўна "праблемы "ЗНО" часопіс зрабіўся тым важкім і апошнім аргументам для начальнікаў, каб скасаваць ужо даўно толькі "мой" праект.

– Валянцін, – сказалі мне начальнікі, – цяпер, калі ёсць філасофскі часопіс, усё тое, што Вы робіце ў тыднёвіку, будзе больш натуральна і правільна рабіць у "Фрагментах". А Вам мы прапануем месца першага намесніка галоўнага рэдактара і штомесяц дзве паласы ў газеце дзеля тэкстаў, якія маглі б вабіць і шараговага чытача...

Так "ЗНО" стала гісторыяй.

Дарэчы, я забыўся адзначыць. Кожны нумар літаратурна-філасофскага сшытка канцаваў афіцыйны рэліз:

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.*

Славамір Адамовіч



...Словам трэба карыстацца
вельмі абачліва...

# Кулакі дабра

***З кнігі «Лісты да Зянона»***

***Год 2017***

### Тэзісы нашай штодзённасці

1. Беларускі Нацыяналізм, Гонар і Годнасць як эмоцыі нацыянальнага выжывання.

Я ўжо пісаў і яшчэ раз паўтараю: няма праблемы беларускай мовы як такой, бо яна была, ёсць і будзе, пакуль жыве хоць адна беларускамоўная сям'я!.. Ёсць праблема нулявой прысутнасці Нацыянальнага Гонару ў беларускім грамадстве і тым больш у дзяржаўным сегменце. А нацыянальныя Гонар і Годнасць сёння, пасля дваццаці трох гадоў татальнай, гвалтоўнай русіфікацыі, можа падняць толькі Беларускі Нацыяналізм, адфарматаваны ў агульнанацыянальную партыю Нацыянальнага Выратавання. Такой партыяй мусіў бы стаць абвешчаны мною яшчэ на мяжы тысячагоддзяў, а сёння наноў адроджаны Беларускі Нацыянальны Кангрэс.

2. Беларускі Нацыянальны Кангрэс як форма для напаўнення зместам палітычнай сілы нацыянальнага маштабу.

За апошнюю пяцігодку сям-там у сталіцы Беларусі парасткі Нацыянальнай Ідэі прараслі ў выглядзе прыватна-прадпрымальніцкіх ініцыятываў, сярод якіх можна назваць паспяховае прасоўванне на рынак адзення з белнацарнаментам і сімволікай, прыватныя курсы белмовы, вяртанне да белмовы некаторых сегментаў бізнесу ды іншае. Але ўсё гэта толькі прыватнасці і асобныя элементы, якія хоць і спрабуюць пракалупаць невялічкія дзірачкі ў сцяне рэжыму, але не вырашаюць галоўнага: вяртання ў Беларусь БЕЛАРУСКАГА жыцця, эканамічных і палітычных свабодаў ЛАЯЛЬНЫМ да беларускай дзяржавы грамадзянам, забеспячэння гарантыяў дзяржаўнаму суверэнітэту Беларускай Рэспублікі на міжнароднай арэне. Без аб'яднання ў магутную палітычную сілу, якая возьме ўладу ў Краіне, будзе працягвацца далейшая атамізацыя грамадства і дэградацыя той дзяржаўнай формы існавання, якую мы сёння маем.

*30.01.2017*

## Знайсці сваю Лолу на праваслаўнае Раство

Ёлкі-палкі! Знайшоў у віртуальнай прасторы сваё першае школьнае каханне! Цяпер настаўніца ў Магілёве. Дзевятамайскі здымак з зялёна-чырвоным банцікам і «каларадскай» стужкай на камізэльцы. Кароткая стрыжка, нейкі высахлы тварык з кулачок і маленькія вочкі. Няўжо гэта яна, маё першае і такое незабыўнае аж дагэтуль?

З часу, калі я бачыў яе апошні раз нажыва, прайшло роўна 40 гадоў.

*07.01.2017*

## Жорсткая навука любіць сваё

Сямейнікі прывучылі гарадскую котку да «кіцікэту» расейскага. А той скончыўся яшчэ ўчора, дык ужо суткі сядзіць галодная. Выправілі мяне ў блізкую краму. Першы раз на такое пагадзіўся, стаю сабе, стэлажы з наедкам разглядаю. Заўважаю нашы слуцкія, «для взрослых кошек», сухарыкі. Толькі купляць, аж прадавачка папярэджвае: на слуцкі гаспадары скардзяцца – каты есці не хочуць. Ах ты, думаю, так яго растак! Спецыяльна свой куплю, яшчэ і на пачак цыгарэт зэканомлю.

Так і зрабіў. Котка чмыхае, але хрумстае слуцкія. А я смэглю гарадзенскі «Фэст».

*26.01.2017*

## А ты гатовы да мабілізацыі?

Кажуць, дзеля праверкі баявой гатоўнасці РБ прызываюць з запасу. Аб'яўлюся як штых, няхай толькі позву дашлюць! Заўсёды гатовы «пачысьціць пер'е» сваёй цялеснай канстытуцыі, праверыць камплектацыю і правесці зборку-разборку ва ўмовах, максімальна набліжаных да баявых.

*01.02.2017*

## У рубрыку «Бульдозер»

Тры месяцы не было ў Пухавіцкім раёне начальніка ідэалогіі! Нарэшце прызначылі. Знаёмімся: Кацярына Мікалаеўна Камольская прызначана нач. аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Пухавіцкага райвыканкама. У

мінулым – загадчыца сталоўкі. Бацька ейны ў 90-х пачынаў як прыватны таксіст (як некалі Мікола Аўтуховіч). Цяпер «працуе» ахоўнікам на новым мар'інагорскім рынку – сядзіць у будцы вартаўніка.

Былы ідэолаг Пухавіцкага раёна Булевіч Леанід Аляксандравіч, якога ў маі 2016-га так напалохаў мой бел-чырвона-белы плот, звольнены па сканчэнні кантракту.

Старонка ў соўшэл-медыях паведамляе нам, што Аляксандравіч у мінулым – танкіст, і нават праходзіў стажыроўку па праграме «Тасіс» у Нямеччыне...

*02.02.2017*

## Дыялогі пра Еўропу

3-га лютага 2017-га, пятніца. Еду ў электрычцы ў сталіцу. На чарговым прыпынку каля мяне сядае жанчына ў веку за пяцьдзясят. Насупраць яе прымошчваецца ейная таварышка. Едзем. Жанчынкі ціхенька курлыкаюць пра сваё. Я ўдумліва перачытваю «Заняпад Еўропы» ў перакладзе на рускую 1993-га года выдання. Чытаю я ўдумліва, але не забываюся сваім бакавым зрокам прамацваць радыюс-location. Прамацваю і бачу, што жанчынка злева нахіляецца і спрабуе разгледзець вокладку маёй тоўстай чорнай кніжкі. Я спярша раблю выгляд, што не заўважаю, але на спробе чацвёртай з подсмехам кладу закладку паміж старонак і закрываю кнігу, тым самым даючы магчымасць жанчыне прачытаць назву. Два словы вялікімі літарамі прачытваюцца імгненна, і далей адбываецца кароткі дыялог:

«– Закат Еўропы... Эта каторая тут? Ілі каторая там?.. А, эта Амерыка, навернае?..»

«– Не, – кажу, – Еўропа – гэта каторая *тут* (усміхаючыся), а Амерыка ўвогуле не Еўропа, яна далёка, за акіянам...»

«– Ага, ну панятна, а я думала, Біблію чытае мужчына з такой інцереснай барадой...»

«– А гэта і ёсць Біблія ... – сучасная, я ўжо другі – раз перачытваю. Ды і сваю напісаў, зараз пакажу...»

І дастаў з заплечніка ўласны раман «Цана Еўропы, альбо Гісторыі Вільмана».

## Абараніць Перыметр

25/26 лютага 2017 года адбыў начную вахту ва ўрочышчы Курапаты. Дзяжурылі чалавек пад 30 маладых людзей, бальшыня мне невядомыя альбо вядомыя толькі віртуальна, дык была добрая магчымасць развіртуаліцца... Нехта, вялікі арыгінал і жартаўнік, прыцёг і паклаў у намёт шакаладны рэвальвер у празрыстай упакоўцы)))... Але быў сярод нас і вельмі нават сур'ёзна настроены грамадзянін – за плячыма ў яго пагрозліва бялела ў начной цемры прахода дзяржальна сякеры ў армейскім заплечніку. Так што я моўчкі застыдаўся сваёй чорнай лёгкай біты-аловачка, якую прыцёг на ўсякі крайні разам з нарвежскім спальнікам.

Цягам начы спрабавалі драмаць, здаецца, толькі дзяўчаты – хлопцы кантралявалі перыметр і гаварылі, гаварылі, гаварылі... І хоць сякеры, біты і шакаладныя рэвальверы былі ў нас напагатове, але агульная настраёвасць – мірная, мы нават шкадавалі тых, што па той бок Перыметру, галодныя і неабагрэтыя, рабілі выгляд, што кантралююць нас.

Курапаты, як і Хатынь, самы ясны, яскравы Сімвал нашай Памяці, захоўваючы і аберагаючы які мы толькі і маем надзею на свой працяг у дні сённяшнім і асабліва ў кожным наступным дні нашай будучыні!

Дзякуй маладому чалавеку Яўгену, які пасля 9-й ранку 26-га падкінуў мяне да чыгунвакзала!..

## Маразы і мова (накіды да рамана "Хутар, альбо Успамінаючы СССР")

Ромка Мароз, мой аднакласнік і сябручок, памёр у красавіку 2015-га, і я не змог праводзіць яго ў апошні шлях, бо якраз у гэты час сядзеў у гатэлі «Нарона» запалярнага нарвежскага гарадка Буда і пісаў другую частку свайго рамана «Цана Еўропы...». Ромка ўжо ніколі не прачытае мой раман, а я не ўбачу Ромку.

Нашае з ім сяброўства, сяброўства роду Марозаў і роду Адамовічаў, было сяброўствам у трэцім пакаленні. З Ромкавым дзедам Міколам сябраваў мой дзед Стась. А з бацькам Рамана Владакам усё жыццё дружбаваў мой бацька Генюсь...

У Рамана Мароза засталіся дачка й сын – як і ў Мароза-старэйшага. Ужо па смерці бацькі Рамана сын жаніўся, пра што й паведамляе мне ў электроннай перапісцы:

«*25 студз.*

– Вітаю, Жэня! Ты жаніўся? Тады віншую))) А дзе цяпер? Ці бываеш у Альхоўцы?

20:26»

«*2 лют.*

Е. Мороз

– Таксама вітаю, так, я жаніўся, жыву ў Мядзелі, у Альхоўцы бываю рэдка, сямейныя клопаты, выбачайце, што адразу не напісаў вам, працую вальшчыкам, я толькі цяпер заўважыў, што вы мне напісалі!!!».

## Пра «сэнс жыцця»

*Аляксею Кузняцову*

Сёння паўднём над маёй сядзібай з характэрным свістам з-пад моцных крылаў праляцелі гусі – п*а*ра, напэўна ж Ён і напэўна ж Яна. І адразу за імі высока ў злёгку захмараным небе зажурчэў ручаёк жаўрука...

На імгненне істоту маю пратнула тое нешта, чаму нават паэты не знаходзяць наймення. Я падкурыў як ніколі дарэчную ў такі момант цыгарэту, зацягнуўся і падумаў: дзякуй богу, што я ізноў чую гэтыя самыя дасканалыя ў свеце гукі – гукі Жыцця.

*10.03.2017, Мар'іна Горка*

## Да пытання пра Беларускую Ідэю

Паміж мною і Радзімай-Бацькаўшчынай-Беларуссю (Літвой) не стаяла, не стаіць і не будзе стаяць нічога і нікога, што перашкаджала б мне ўзаеміцца з ідэяй Беларускай Сілы наўпрост, без пасярэднікаў. Урэшце рэшт я і ёсць той самы элемент сілы і аб'ектывацыя названай ідэі. Ні партыя, ні асобная сацыяльная ці грамадска-палітычная група, ні хрысціянскі і ніякія іншыя багі, ні «чалавецтва», ні «цывілізацыя», ні нават «культура» і «вялікая і багатая» гісторыя не звязваюць мяне з дадзеным Краем, які называецца Беларусь, як толькі і пераважна маё ўнутранае адчуванне прыналежнасці да гэтага і ніякага іншага ўлоння Бацькаўшчыны ў стане перманентнага абнаўлення і адраджэння.

Я гавару няйнакш, як:

я ёсць Беларусь;

ты ёсць Беларусь;

мы ёсць Беларусь!

Усё астатняе зяўляецца інструментарыем нашай аб'ектывацыі.

## Калі сціскаюцца «кулакі дабра»

Ведаеце, мне ўсё ж няўтульна. Няўтульна, што мае словы і заклікі пра «дабро, якое павінна быць з кулакамі», пацвярджаюцца шматгадовай практыкай беларускага грамадска-палітычнага жыцця. Глыбока антыбеларускі ў сваёй сутнасці рэжым унутранай акупацыі не мог і не можа развівацца па-добраму, бо створаны быў па-злому. Яшчэ больш мне няўтульна вось зараз, калі я чую і бачу, як разумныя, здавалася б, людзі, нібы тыя асуджаныя да смерці, альбо ахвяры з «стакгольмскім сіндромам», гавораць і пішуць пра нейкі «страх» узурпатара, «мяккую беларусізацыю», «лібералізацыю», альбо, даруйце, «патрыятызм» галоўнага інспіратара шматгадовай антыбеларускай палітыкі.

Рэжым, пра які мы сёння гаворым, не зменіцца сам і па-добраму не саступіць уладу – ну проста таму, што прырода яго зацэнтравана на гвалт і зло палягае ў аснове гэтай прыроды, а сілкуецца яна нашай дабрынёй і каласальнай цярплівасцю.

Надыходзіць час, калі для злому сістэмы неабходна і трэба ўжыць нашую добрую сілу – «кулакі дабра», калі хочаце. Толькі не гаварыце мне пра пагрозу з усходу і супрацу з рэжымам – вельмі неразумная і проста прымітыўная прапанова. Толькі наш супраціў можа быць гарантыяй нашай нацыянальнай свабоды!..

Я мог бы тут яшчэ доўга разважаць і складаць прыгожыя фразы з разумных словаў. Але мне з кожным днём робіцца ўсё больш няўтульна ад таго, што з неўнікнёнасцю набліжаецца момант, калі «кулакі дабра» будуць ужытыя супраць злой сілы антыбеларускага рэжыму. Таму што ўсе іншыя варыянты ўжо не спрацоўваюць і, відавочна, не спрацуюць. Таму і няўтульна мне, што мой варыянт застаецца адзіна магчымым.

Дык паглядзіце праўдзе ў вочы хоць напярэдадні вырашальнай бітвы і паўтарайце як самую кароткую і эфектыўную малітву: дабро павінна быць з кулакамі! дабро павінна быць з кулакамі!..

І так пераможам!

*10.03.2017, Мар'іна Горка*

## Інструктаж для першаходкаў

Адзін з сяброў пытаецца на сваёй старонцы ў нашых сацыяльных цянётах: «кто сидел на сутках, поделитесь, как к ним готовиться, что брать с собой на случай ареста на 15 суток?»

Адказваю: ні на 15 сутак, ні нават на 3 гадзіны ў райаддзеле сучаснага антыбеларускага рэжыму «готовітся» не трэба! Трэба рыхтавацца да граматных паводзінаў тут, на волі; да граматнага, прадуманага супраціву, які ўрэшце рэшт вас і такіх, як вы, прывядзе да перамогі!..

Калі вы ўсё ж трапілі ў мянтоўню, а потым і на «суткі», то тут, паверце, істотна не тое, ці захапілі вы з сабой у кішэнь сваю любімую зубную пасту, цыгарэты «Кэмэл» альбо туалетную паперу – урэшце рэшт вам усе падобныя дробязі перададуць радня, сябры, салідарныя з вамі незнаёмыя людзі альбо падзеляцца сукамернікі... Галоўнае, што спатрэбіцца вам за кратамі рэжыму, гэта вашыя ўласныя Дух, Вера ў сваю Праўду і Воля да жыцця і перамогі! Ні больш, ні менш! Не адсутнасць той ці іншай бытавой дробязі будзе хваляваць вас – перш за ўсё вас *там* шакуюць вашыя супляменнікі ў форме. За першыя 24 гадзіны ў камеры вы перажываеце наступныя ў парадку іх узрастання эмоцыі: 1) здзіўлення, 2) шоку, 3) агіды, 4) нянавісці, 5) вострага жадання адпомсціць.

Адзіныя бытавыя дробязі, якія я вам катэгарычна рэкамендую мець «на сутках»

– гэта блакнот папяровай фабрыкі «Палесдрук» і некалькі тоўстых стрыжняў і ручку (асадку). Праверана: якраз у камеры часовага ўтрымання многія з нас робяцца пісьменнікамі жанру non-fiction.

Што і правільна: турэмны смурод нашай эпохі павінен быць зафіксаваны ў тым ліку і на пісьме, і пажадана – непасрэдна на месцы злачынства.

## Пра вербальныя адпаведнасці (рэпліка)

Журналіст, карэспандэнт, рэпарцёр N піша:

«З краінай, дзе пасады ідэолагаў ёсць нават на свінакомплексах і ў цырках, яўна не ўсё ў парадку».

На гэты пасаж рэплікую наступным чынам: «Паважаны калега! Ты ўжо даруй, што на «ты», а далей па тэксце ў мяне могуць праскокваць грубыя нелітаратурныя, але тэма надта ўжо важная. А калі тэма асабліва важная і кранае практычна ўсё насельніцтва той самай «краіны», у адэкватнасці якой, як вынікае з твайго вышэйпададзенага вербальнага пасажу, ты маеш сумневы, то мая справа – зрэагаваць, і зрэагаваць максімальна жорстка, каб дайшло – раз і назаўсёды.

Не ведаю, ці чытаў ты ўсе тамы Бібліі, але напэўна ж памятаеш, як пачынаецца: «Спачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог». Людзі даўна і многа дыскутуюць наконт гэтай фразы, ейнага, фразы, значэння, але адно тут недыскутабельнае: суадноснасць Слова і Бога ёсць кангруэнтным, г.зн., што той, хто стварaў кнігу кнігаў, той добра разумеў с і л у Слова, якое сілай сваёй вартае і роўнае сіле Боскай, а ўрэшце і з'яўляецца самім Богам.

Разумееш, пра што я, калега? Я пра тое, што Словам трэба карыстацца вельмі абачліва, асабліва ў наш час глабальнай інфа-вайны ўсіх супраць усіх... Дык вось, каб Слова заставалася ў Бога і было Богам, каб яно не стала д'яблам, спярша яго трэба прамаўляць пра сябе, акурат як вучаць у пачатковай школе. Прамаўляючы пра сябе, з'яўляецца час падумаць, а што ж я гатовы прамовіць услых? Што я маю на ўвазе пад тым ці іншым словам, якое збіраюся данесці да свайго слухача-чытача?..

А цяпер вернемся да тваёй асабіста для мяне абуральнай фразы, у якой ты ставіш знак роўнасці паміж палітычным рэжымам, які напладзіў «ідэолагаў ...на свінакомплексах» і Краінай, якая ў нашым выпадку называецца «Беларусь». Вось у гэтым атаесамленні і палягае твая катэгарыяльная, катэгарычная і сэнсавая памылка, дружа! Гэтай бяздумнай, альбо недадуманай табою фразай ты пазбаўляеш нас і сябе ў першую чаргу духоўнага, ідэальнага кантэксту. Бо паняцце «краіна» (неістотна якая – Гаіці, ЗША альбо Беларусь) не тоеснае паняткам «дзяржава», «палітычны рэжым». Бо апошнія два могуць мяняцца як заўгодна часта і ў якой заўгодна імпліцытнай канфігурацыі, але Краіна – гэта наш духоўны канструкт, наш Ідэал... Так як ідэаламі для іншых народаў з'яўляюцца іхнія краіны.

Адным словам, у тваёй фразе, паважаны N, варта замяніць толькі адно слова толькі адным словазлучэннем, і тады ўсё стане на свае месцы, і Слова застанецца з Богам, а д'яблава будзе аддадзена д'яблу.

І яшчэ раз, праз паўтарэнне да замацавання: Краіна (Беларусь) не ёсць дзейны ў Беларусі палітычны рэжым, як і палітычны рэжым не ёсць Беларусь!

Заўсёды памятай, што і як гаворыш і пішаш, каб не падставіць Бога пад удар Д'ябла.

## «Вайна па перыметрах нематы…»

*1.*

Цэлы дзень лётаў па закупках будматэрыялаў, змок, нацягаўся, уваліўся ў хату, дарваўся да ноўта і... толькі адборная расейская мацярнЯ клёкатам заклекатала дзесьці ў кадыку: ну падлы! Крыві прагнуць!..

Думаў з хлопцамі перастрэцца перад 25-м, разлічыцца-памеркавацца – не паспеў.

*2.*

Еду першым рэйсам на свой хутар у Цагельню, вязу мурлат, бэлькі перакрыццяў, іншае даховае дрэва. За рулём – мой новы мар'інагорскі знаёмы, гадок мой, былы «афганец», у якога паўтузіна дзетак. Абтрэсшыся на калдобінах лакальнай шашы на Тальку ад кропляў дажджу, кіроўца раптам пытаецца:

«– Так а што Вы думаеце насчот этава лагера пад Асіповічамі?»

«А што тут думаць, – кажу, – ё н народнага гневу баіцца, вось і выдумляе казачкі...»

Мой знаёмы аж страпянуўся за рулём:

«Ну вот, я то же сваім гавару: пушня всё эта!.. І ваабшчэ, как жэ он надаел!»

Стрымліваючыся, каб не развіваць тэму далей і глыбей, пераводжу размову на праблемы будоўлі.

Наконт афганца я спакойны: не дай бог што – гэты бацька шасцёх дзетак будзе на правільным баку і хутка ўзгадае навыкі «афганскай кампаніі».

## 25 Сакавіка 2017-га: цяжкія роды Нацыі

Цудам застаўся па гэты бок і буду спаць на сваёй пасцелі...

Ужо прапаноўвалі на менскай вуліцы Казлова прайсці самаходам – невераемнае нахабства! – у іхні аўтазак, але мае журналісцкія бэджы, кавенька і патрабаванне паказаць мне «старшага групы» дапамаглі ўнікнуць «забору». Працягваў здымаць, аж пакуль не завяршылася нашае свята ў абноўленай забягалаўцы крамы «Океан», што на той жа вуліцы. У парыве ажытацыі цалаваўся з чатырохдзетным бацькам З.Б. і чытаў застольнай публіцы верш «Пасля іх»...

Тым часам сотні беларусаў сёння будуць сустракаць свае першыя суткі ў няволі. Прычым, ні-за-што!

Глухая нянавісць расце, і цана пытання адно ў тым, калі ж адбудуцца роды новае рэчаіснасці.

## Агульна-прыватнае, альбо Хто бачыў ворага на даўжыню мяча, той ведае, як пасլаць стралу перамогі

28 мая 2017 года на прыватнай сядзібе пад Мар'інай Горкай быў праведзены «Фэст Нацыянальнага Сцягу».

У закладанні даўно наспелай традыцыі ўстаноўкі на прыватных тэрыторыях грамадзянаў Беларусі сцягароў-флагштокаў з наступным жа пад'ёмам на іх Нацыянальных Сцягоў узялі ўдзел: сябры грамадскай кампаніі салідарнасці «Разам», святар беларускай аўтакефаліі, дзве работніцы ніжэйшага звяна пухавіцкай «вертыкалі» і два тутэйшыя апівохі, якія былі прыстаўленыя прыглядаць за смажаннем шашлыкоў.

Сам сцяг пашыла спадарыня А., даўняя прыхільніца нацыянальнага руху, за што ёй вялікі дзякуй.

Фэст распачаўся маёй сумбурнай лекцыяй пра нюансы ўстаноўкі сцягароў і пад'ёму сцягоў, затым святар прамовіў малітву і асвяціў сцяг.

Завяршаючы наш своеасаблівы рытуальны чын, я адчытаў увесь спіс рэпрэсаваных беларускіх патрыётаў вясны 2017-га, – імёны і прозвішчы тых, хто на вечар 28-га мая знаходзіўся ў засценках, і падкрэсліў, што свята сцягу мы прысвячаем у гонар названых юнакоў і мужчын, якія ў сваю чаргу ратуюць гонар усяго народа, усёй Нацыі, якая знаходзіцца ў пакутлівым працэсе станаўлення.

*P.S.* Як ні дзіўна, з боку ўлады візуальных варушэнняў падчас свята заўважана не было.

## ***Год 2018***

***

«Паважаны Зянон Станіслававіч!

Я не ведаю ўсіх нюансаў Вашага шматгадовага знаходжання за межамі Бацькаўшчыны, але, грунтуючыся на ўласным вопыце выжывання паводле Дублінскай Канвенцыі 1990 года і як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, бяру на сябе смеласць прапанаваць Вам наведаць нашу Краіну з нагоды меркаванага святкавання надзвычайнай даты ў гісторыі нашага народа – 100-й гадавіны з часу абвяшчэння БНР!

Ведаю, што такая прапанова многімі нядобразычліўцамі будзе расцэнена як «чарговая правакацыя». Гэта не навіна для мяне. Аднак я ведаю і тое, што словы без справаў мёртвыя. Вядома, не мне Вам тлумачыць, што на 24-м годзе жыцця пад рэжымам унутранай акупацыі адбываецца глыбокая сацыяльная, палітычная, канфесійная і ўрэшце духоўная атамізацыя грамадства. Перш за ўсё з прычыны нечуванага нацыянальнага прыгнёту і татальнай русіфікацыі. Дух народу сцяты ў абцугах самадура-пракуратара і ягонае клікі, але не да безнадзейнасці. У нас, беларускіх патрыётаў-нацыяналістаў, ёсць магчымасць перавесці патэнцыйную энергію 2018-га года як Года БНР у кінетычную з пастаяннай дынамікай росту. Іншымі словамі, Вас, Зянон Станіслававіч, чакаюць нават тыя, хто ўжо даўно і незваротна паставіў толькі на свае ўласныя сілы. Самае кур'ёзнае, бадай, у тым, што Вашаму прыезду спрыяе і ўвядзенне так званага бязвізу на нашай заходняй мяжы. Варта толькі разумна выкарыстаць гэтую сітуацыю.

Не сумняваюся: калі аднойчы мы пачуем, што Зянон Пазняк сёлета збіраецца наведаць Беларусь, то нават не дзясяткі, а сотні аўто Вашых прыхільнікаў, апалагетаў і проста суайчыннікаў гатовыя будуць сустрэць Вас на любым памежным пункце пропуску і забяспечаць належны эскорт. Менавіта Ваш прыезд у Беларусь з паўнамоцтвамі ад Рады БНР альбо ўласна еннымі прадстаўнікамі стаўся б найярчэйшым і найістотным момантам адзначэння сотай гадавіны з часу прыняцця Трэцяй Устаўной Граматы!

Са свайго боку ў выпадку Вашага прыезду гарантую Вам самы цёплы прыём у самым цэнтры Беларусі – у Мар'інай Горцы, а таксама калектыўнае фота на фоне бел-чырвона-белага сцяга, які і сёння лунае на сцягары на маёй беларускай сядзібы.

Спакойнага ўезду і прыязных памежнікаў, Зянон Станіслававіч!

З павагай, Аўтар».

*11.01.2018, Мар'іна Горка*

прачытанне

Ірына Саматой



...Нічога так зло не баіцца,
Як смеху – ён валіць з ног...

# “Мой лёс – галера і прастол”

## *Мастацкі свет паэзіі Уладзіміра Папковіча*

Уладзімр Папковіч – беларускі паэт, перакладчык, актыўная і самабытная творчая дзейнасць якога прыпадае на 60-я гады XX – пачатак XXI стагоддзя і не губляецца ў багатай на таленты прасторы нацыянальнага прыгожага пісьменства. Створаная паэтам мастацкая мадэль свету нясе ў сабе адбітак асабіста перажытага, маральную далучанасць да жыцця народа, павагу да спаконвечных маральных каштоўнасцей, высокую культуру пачуццяў, шырыню інтэлекту.

Ключ да разгадкі творчасці пісьменніка, адпаведна літаратуразнаўчым меркаванням, знаходзіцца ў яго радаводзе, яго псіхабіяграфіі. Нарадзіўся У. Папковіч 25 сакавіка 1935 года ў вёсцы Дварэц на Вілейшчыне. Перажыў ваеннае ліхалецце, арышт бацькі па ілжывым даносе, цяжкія гады сіроцтва. Вучыўся ў Ільянскай сярэдняй школе Вілейскага раёна, а ў 1953 годзе стаў студэнтам факультэта нямецкай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Пасля заканчэння інстытута працаваў выкладчыкам нямецкай мовы і перакладчыкам тэхнічнай літара-

туры ў розных навучальных і дзяржаўных установах Мінска. З 1966 года жыве і працуе ў Віцебску. З 1982 года – старшы выкладчык, пазней загадчык кафедры нямецкай мовы ВДУ імя П.М. Машэрава. У дадзены час знаходзіцца на заслужаным адпачынку. Друкавацца пачаў з 1962 года. Пераствaрыў на нямецкую мову паэму К. Вераніцына "Тарас на Парнасе" (2003). Разнастайная па праблематыцы, багатая па настраёвасці, шчырая і спавядальная па гучанні, творчасць паэта захапляе перш за ўсё жыццёвай мудрасцю і асаблівай назіральнасцю, пільнай увагай да нюансаў чалавечага быцця.

У. Папковіч прыйшоў у літаратуру аднячасова з пакаленнем "шасцідзясятнікаў": Р. Барадуліным, Г. Бураўкіным, А. Вярцінскім, В. Зуёнкам, але творчая спеласць, плённая праца прыпала на сталыя гады жыцця. Пра гэта ён засведчыў у радках верша: "Мы рамантыкі з шасцідзясятых, // Дзеці крохкай адліжнай пары..." [3, с. 42] Сацыяльныя і палітычныя падзеі часу (вайна, сталінскія рэпрэсіі, унутраныя і знешнія абставіны) абумовілі ідэйна-тэматычную накіраванасць лірыкі, галоўныя мастацкія рысы і асаблівасці. Лірычны герой У. Папковіча назаўсёды захоўвае ў душы повязь з малой Радзімай, яе ваколіцамі і людзьмі, кіруецца маральнымі запаветамі бацькоў:

Я не забыўся, дзе мой родны дом,
Я кожны дзень яго ўспамінаю:
Ці з-за стала ўстаю, ці ў ложку засынаю,
І ў дождж і ў снег... І раніцай і днём [2, с.5].

Ужо ў першых паэтычных кнігах знайшлі адбітак многія аўтабіяграфічныя матывы: дзіцячыя ўспаміны пра вайну, вясковыя гісторыі, студэнцкія гады, краявіды Вілейшчыны з паземкавымі і чарнічнымі барамі:

Паміж Вілейкай і Лагойскам –
Па сорак вёрст ў два бакі –
Стаіць маленечкая вёска,
Дзе хаткі, як баравікі [1, с. 7].

Матыў вяртання ў былое гучыць у вершах з характэрнымі назвамі: "Усё адтуль", "Пішу, як дома гаварылі", "Тут, кажуць, вёсачка была", "Вокнамі празрыстымі хата падміргне", "У кожнага ёсць сакральнае". З-пад пяра пэта выйшаў шчыры гімн беларускай вёсцы:

Ад гучнай фразы да маленькай коскі
Я навучыўся грамаце усёй
У непрыкметнай беларускай вёскі,
Настаўніцы, дарадчыцы маёй [2, с. 6].

Крэўная знітаванасць з вясковым светам ("Лічы мяне часцінкай невялічкай // Тваёю, родны край! // Прэч не гані!" [2, с. 5]) становіцца эстэтычнай асновай яго творчасці:

Быў лёс мой сем раз перакроены,
Не ў ладзе з ніякай логікай.
Іду па жыцці я ўзброены
Удовінай педагогікай [2, с. 8].

Паэт не карыстаецца ўскладненай асацыятыўнасцю, звыклая прастата традыцыйных памераў яго лірыкі хавае ў сабе глыбокі духоўны сэнс і сапраўдную эстэтычную культуру, выяўляе дакладную кардыяграму жыцця творцы, здольнага на глыбокае самавыяўленне.

Для паэта вобраз маці-Радзімы нязменна асацыіруецца з вобразам роднай маці, Вольгі Антонаўны, шматдзетнай жанчыны-ўдавы, якая "ўмерці душы не давала" [3, с. 50]. Для сына яна найпершы настаўнік жыццёвай школы, урокаў любові,

дабрыні, чалавечай спагады: “Сцеражыся злых людзей, сынок... // Не судзі нікога вельмі строга” [2, с. 13]. Успамін пра маці, радасны і балючы – у вершах “”Не заблудзіся ў сабе”, “Дома”, “Ёсць свой куточак і ў мяне”, “Тут мама прыснілася мне”:

Адзін у чужой старане...
Мне хочацца вельмі дадому,
Тут мама прыснілася мне,
Мне, сіраце старому [1, с. 37].

Побач з вобразам маці, з феноменам яе нязгаснай любові, суіснуе ў творчасці паэта тэма кахання. У спаконвечным таемным суладдзі чалавека і прыроды нараджаецца гармонія пачуццяў:

Быў ціхі вечар і задумны сад,
Вяла сцяжынка вузкая да саду.
Мы ў ноч патрапілі, нібы ў засаду.
Згубілі сцежку, каб пайсці назад.
Ноч незабыўная была...

Там над сабою страцілі мы ўладу,
І над суквеццем зарападу
Любіліся да першага святла [2, с. 64].

Лірычнаму герою ўласцівы самыя розныя пачуцці: ад бязмежнага здзіўлення перад цудам жаночага хараства, радасці кахання да роспачы, расчаравання, забыцця. У інтымнай лірыцы аўтара сустракаюцца наступныя жаночыя вобразы: таямнічая незнаёмка (“Не маўчы, незнаёмка, скажы...”, “Ты адкуль, прыгажуня такая?...” “Мне падалося: ты міргнула”), каханая (“Ты кахала мяне, ты туліла мяне”, “Вар’яцею ад твайго пагляду”), забытая жанчына (“Часам зусім без прычыны”, “Нам размаўляць ужо няма пра што”), жанчына-Мадонна (“Летні верш”, “Дзяўчынка натхнёна спявала ў хоры”). Узорам інтымнай лірыкі заслужана можна палічыць верш “Жанчына тонка адчувае хараство”. Высокая культура ўнутранага пачуцця, эмацыянальная напоўненасць, далікатнае адчуванне жаночай прыроды, сцісласць і дакладнасць слова – важнейшыя рысы лепшых вершаў паэта пра каханне.

Плённымі для У. Папковіча як у колькасным, так і ў плане мастацка-пошукавым з’явіўся пачатак новага стагоддзя. Асноўнай ў творчасці паэта стала філасофская лірыка. У разважаннях пра лёс і прызначэнне чалавека аўтар спрабуе асэнсаваць вечныя праблемы людскога існавння, маральныя каштоўнасці жыцця, якія ў сучасным свеце лічацца нямоднымі: “Не дабрыня, а злосны дух // запаланіў людскія сэрцы” [2, с. 33]. Філасофскімі матывамі прасякнуты зборнікі “На шалях лёсу”(2017), “Зазімак”(2018), у вершах якіх выразна адчуваецца спавядальнасць радка, заглыбленасць ва ўнутраны свет чалавека, аналіз уласнай існасці. На няўтульным, урбаністычным скразняку памежжа стагоддзяў лірычны герой, былы вясковец, сёння гараджанін-інтэлегент падводзіць рахункі пражытага, разважае пра свой драматычны “завейны” лёс:

Мой лёс –
Галера і прастол –
Гняце мяне і ўсцешвае.
Я свой цяжар цягну,
Як вол,
А жорсткі час праспешвае [3, с.14].

У кнізе нярэдка гучыць матыў адзіноты, адчужанасці, душэўнага дыскамфорту (вершы “Залічыце мяне да вар’ятаў”, “Ніхто не вечны на зямлі”, “Мой шлях няпэўны быў”, “Жыццё будзённае меню”, “Здавалася, душа перахварэла”).

Вельмі адчувальныя ў сённяшняй паэзіі віцебскага творцы рэлігійна-медытатыўныя роздумы. Аўтар імкнецца да душэўнай раўнавагі і гармоніі, сваё зямное жыццё ўспрымае падрыхтоўкай да вечнага існавання, шукае выратаванне ў малітве:

Малю Цябе ад ранку і да ночы,
Пазбаў, Гасподзь, мой край ад духаў злых.
О, Бог, адкрый сляпым на праўду вочы,
Вярні глухім да слоў сакральных слых [2, с. 79].

Паэт звяртаецца да формы споведзі, малітвы, рэфлексіі, медытацыі з выкарыстаннем рэлігійнай паэтыкі, сімволікі, вобразаў Крыжа, Храма, Раю і Пекла, Божага суда (вершы “Міласэрнасць Бога бязмежная”, “Ачышчэнне храма”, “Я сёння не саромлюся маліцца”, “Ніхто не вечны на зямлі”, “Мая малітва” і інш.).

У сувязі з вастрынёй нацыянальнай праблемы, занядбанасцю роднай мовы ўзрастае эстэтычная вартасць такіх вершаў, як “О, наша мова...”, “Народнае роднае слова”, “Пішу, як дома гаварылі”. Лірычны герой – сапраўдны сын беларускай зямлі, поўны рашучасці і мужнасці абараняць і адстойваць матчына слова.

У. Папковіч – чалавек добразычлівы ў адносінах да сяброў, і гэта, напэўна, адна з прычын, што ён часта звяртаецца да жанру прысвячэння. Шчырыя радкі адрасуюцца В. Быкаву, Р. Барадуліну, Я. Сіпакову, Д. Сімановічу, А. Канапельку, С. Рублеўскаму, Ф. Гумену і інш. Туга па страчаным і няздзейсненым, разважанні пра творчасць – гэта той пачуццёвы вопыт, якім магчыма падзяліцца з сябрамі.

Асаблівае месца ў паэзіі У. Папковіча займаюць гумарыстычныя творы, да якіх ён звярнуўся ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Гумар, або добры смех, выкарыстоўваецца для весялосці, з мэтай пасмяяцца з чаго-небудзь без з’едлівасці і крытыкі. Сведчаннем паэтычнага дару віцебскага творцы служыць зборнік гумару “Вы будзеце смяяцца...” (2008) пад псеўданімам Ахрэм Нядбайла. Выкарыстоўваючы прыём эстэтычнай правакацыі, аўтар свядома выбраў гаваркі псеўданім, нібы падкрэсліваючы бязладнае і пустое жыццё галоўнага героя гумарыстычных вершаў. На самой справе Ахрэм Нядбайла – усмешлівы аптыміст і жыццялюб, чалавек з добрым, адкрытым для людзей сэрцам, які добразычліва, нязлосна жартуе над недахопамі ўласнага характару, паводзінамі людзей. “Смех кожнага з нас робіць роўным сярод людзей, трошачкі ўзвышае над часам” [4, с. 4], дапамагае выстаяць у складанай сітуацыі:

Нічога так зло не баіцца,
Як смеху – ён валіць з ног.
Не трэба змагацца і біцца.
Засмейся –
І ты перамог! [4, с. 14]

Гумарыстычная творчасць У. Папковіча ў адзначаным зборніку прадстаўлена наступнымі жанравымі мадыфікацыямі: гумарыстычны верш, прыпеўка (чатырохрадкоўе), паэтычная карацелька (двухрадкоўе), “ахрэмінка” (аўтарская жанравая форма).

У гумарыстычных вершах адлюстроўваюцца грамадскія, бытавыя, сямейныя бакі жыцця, праблемы мастацкай творчасці. З гумарам расказвае У. Папковіч пра сучаснага змагара за праўду, які рэзка памяняў свае погляды, калі “яго начальнічкам зрабілі / І крэсельца яму далі” [4, с. 11]. Жартаўліва-павучальна паэт дзеліцца сакрэтам сямейнага шчасця:

Для жонкі ў хаце рай стварай,
Не задзірайся,
Райся. Старых грахоў не паўтарай
І новых не цурайся [4, с. 14].

Асобныя вершы маюць свайго адрасата – “Паэт”, “Вучоны”, “Крытыку”, “Дарадцам я заўсёды рад”, “Заклік” і інш. Спачувальна аўтар раіць пасрэднаму маладому паэту прымусова не пісаць вершы:

А лепей ты дзяўчыну палюбі.  
Калі не верш,  
Дык хоць дзіця народзіцца [4, с. 7].

Немалаважным выглядае і тое, што развіваючы традыцыі беларускай гумарыстычнай паэзіі, У. Папковічу імпануе імпульсіўнасць і няўрымслівасць барадулінскай натуры. Зварот да пісьменніцкай творчасці прысутнічае і ў шматлікіх гумарыстычных творах Р. Барадуліна.

Творчае асэнсаванне народна-паэтычных традыцый ярка адлюстроўваецца ў аўтарскіх прыпеўках (чатырохрадкоўях) з выразным рытмам, тэматыка якіх ахоплівае самыя разнастайныя з’явы жыцця, ад любоўных заляцанняў да грамадска-палітычных падзей. Дасціпна гучаць прыпеўкі на тэму сямейных узаемаадносін “Мілы спіць на тапчане”, “Мой Валодзя быў на сходзе”, “Пасля татавай зарплаты” і інш. Выкарыстанне лірычна-эмацыянальнага і грубавата-экспрэсіўнага гаваркога слова сведчыць пра жыццелюбівую натуру аўтара:

Каб узяла цябе халера,  
Мужыка-функцыянера!  
Быў, гаворыць, на нарадзе,  
Сам па вушы ў памадзе [4, с. 18].

Найбольшую цікавасць у дадзеным зборніку, у плане праяўлення камічнага, выклікаюць “ахрэмінкі” – гумарыстычныя, па словах аўтара, імгненнарэактыўныя вершы. Галоўны персанаж – тутэйшы жыхар Ахрэм, на першы погляд, аматар прыгод, гультаяваты, слабы чалавек:

Ахрэм, лайдак, падаўся ў бізнес,  
Тавараў розных накупіў.  
Затым усё са склада вынес,  
Забыўся, што сваё. Прапіў [4, с. 75].

Але за маскаю блюзнерства хаваецца іншы чалавек:

Ахрэм – узорны сем’янін,  
Не п’е, не курыць, не дурэе,  
Уласнаручна склаў камін,  
Зімой сядзіць, што трэба грэе [4 , с. 74].

Праз смешныя і цікавыя выпадкі з жыцця раскрываецца жыццёвы досвед персанажа ў сяброўстве, каханні, выхаванні дзяцей, літаратурнай творчасці, навуцы. У вобразе Ахрэма ўвасобіўся жывы народны характар, насмешлівы, невынішчальны, стойкі ў любых нягодах.

Гумарыстычнай філасафічнасцю прасякнуты паэтычныя карацелькі (двухрадкоўі) У. Папковіча, у якіх пранізлівы гумар часам перарастае ў афарыстычную мадэль: “Не будзь зласліўцам у чужой бядзе. / Павер мне – і табе перападзе [4, с. 34], “Здаецца мне: мы Богу замінаем, / Калі яго так часта ўспамінаем” [4, с. 73], “Праўда ў мове і ў слове. / А найперш – у душы, панове” [4, с. 74].

Двухрадкоўі носяць павучальны характар, утрымліваюць у сабе народныя матывы і асабісты вопыт, прымушаюць сур’ёзна задумацца над сваімі паводзінамі і станам грамадства: “Жыццё, як той трамвай: / Заціснулі – трывай!” [4, с. 56], “Ад даўніх дзён, ад сівізны вякоў, / Народ не крыўдзіў п’яніц, жабракоў” [4, с. 47], “Начальства трэба ўсёй душой любіць – / На гэтым можна добра зарабіць”[4, с. 45].

Заўважым і тое, што ў гумарыстычных творах аўтара раскрыццё пэўнай сітуацыі дасягаецца праз народную моватворчасць: фразеалагічныя спалучэнні (“хапіў ты цераз край” [4, с. 30], ”хоць трэсні, хоць лясні” [4, с. 10], “не вяжа лыка” [4, с. 34] “на забавы ласы” [4, с. 42]), народныя выслоўі (“Адзін ляны, другі п’яны”[4, с. 53], “Страх па пятах бегае за мной” [4, с. 31], “Навукі грыз да ачмурэння” [4, с. 43] і інш.).

Для ўсёй смехавой творчасці паэта характэрна шырыня погляду, дасціпнасць, аптымізм, натуральнасць, эмацыянальнасць, сувязь з фальклорам, народнымі традыцыямі. Праз нязмушаны гумар аўтар змог паказаць маральна-этычныя, сацыяльныя праблемы сучаснага жыцця, характар, звычаі беларусаў, пры гэтым нікога не асуджаючы.

Такім чынам, даследуючы мастацкі свет паэзіі У. Папковіча, можна зрабіць наступныя высновы. Тэматычная прастора творчай спадчыны паэта з архетыповымі вобразамі роднага дома, маці, каханай, душы, мовы з грамадзянска-публіцыстычнымі, філасофска-медытатыўнымі, гумарыстычнымі матывамі і жыццесцвярджальным пафасам захапляе перш за ўсё жыццёвай мудрасцю і шчырай спавядальнасцю, дакладнасцю ўласна-біяграфічнага і эмацыянальнага вопыту, пільнай увагай да нюансаў чалавечага быцця. Найважнейшай асаблівасцю мастацкай спадчыны У. Папковіча з’яўляецца тое, што яна не пакідае чытача раўнадушным.

С п і с л і т а р а т у р ы:

1. Папковіч, У. На тым стаю / У. Папковіч. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня. – 2004. – 223 с.

2. Папковіч, У. На шалях лёсу / У. Папковіч. – Віцебск: Копі-цэнтр “Колер”. – 2017. – 107 с.

3. Папковіч, У. Як ёсць... / У. Папковіч. – Мінск: Медысонт. – 2015. – 103 с.

4. Нядбайла, А. Вы будзеце смяяцца / А. Нядбайла. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня. – 2008. – 77 с.



Леанід Галубовіч



…у выніку чалавек, як заўсёды, застаецца – пад Небам на Зямлі – адзін на адзін з безадказнымі пытаннямі, пастаўленымі сваім жыццём да ўласнага выраку…

# Дом для чалавека

***Рэцэнзія на кнігу Віктара Казько***

***Віктар Казько. Казань пра ката, каторы смяяўся. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”; вып. 22). – 292 с.***

Вядомы пісьменнік Віктар Казько – сірата і паваенны дзетдомавец, юнацтва і маладосць якога (1956-1971) прайшлі ў далёкай Кемераўскай вобласці Расіі. Уся яго творчасць (напачатку рускамоўная) пераважна заснаваная на аўтабіяграфічным матэрыяле. Вайна вачыма дзіцяці і ўсе тыя трагедыйныя моманты, што вызначалі свядомасць падлетка падчас гэтай людской нянавісці і варварства. Шмат творчай энергіі патраціў аўтар і на барацьбу за ахову прыроды ад чалавека і за яе натуральнае захаванне для нашчадкаў. Асабліва раніла і турбавала яго душу роднае яму Палессе. Увесь час працаваў ён над новымі формамі пісьма і ўласнай стылёвай адметнасцю, а таксама насычэннем шчыльнасці зместу дзеля ўзвышэння і сцвярджэння высокіх чалавечых ідэалаў. Трэба зазначыць, што створаныя ім




літаратурныя вобразы маюць сімвалічна-алегарычны сэнс, пэўную дакументальную і публіцыстычную падаплёку ды глыбокі аналітычны і філасофскі падтэкст. Пік яго творчай вядомасці і выяўленасці мастацкага плёну прыпаў на рэшту савецкага часу, хоць лінія яго літаратурных паводзінаў у пераважнасці была ўжо супярэчнай агульнапрынятай камуністычнай ідэалогіі. Аднак дзве дзяржаўныя ўзнагароды ён заспеў-такі атрымаць – прэмію Усесаюзнага Ленінскага камсамола (1977) і Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Я. Коласа (1982). Але ж і творы былі вартыя высокай адзнакі, прынамсі, аповесць “Суд у Слабадзе”.

Не зважаючы на *мету* залічанага да “дзяржаўнай абоймы”, Віктар Казько ніколі не быў актывістам і трыбунам, яму імпанавала грунтоўная зацяжная літаратурная работа ў развагах як над уласным светапоглядам, так і над грамадскімі заломамі часу ды асобнымі людскімі лёсамі. А гэта, як мінімум, патрабавала аўтарскай спавядальнасці, шчырасці і мастацкай праўдзівасці пагатоў.

І таму, пакуль шмат якія яго калегі выпучваліся і выдзімалі рознакаляровыя мыльныя бурбалкі з нейкіх бягучых уладных лозунгаў ды ідэалагічных партыйных перадавіц, ён ціха занорваўся ў звычную для сябе творчую адзіноту, занурваючыся там у глыбіню духоўных і псіхалагічных праблем чалавека і ўсяго грамадства (*хто ты і што ты, homo savietikus?*). І не так, можа, пытанні экзістэнцыі прыцягвалі яго, як вызначэнне чалавечай значнасці і вартасці перад *лікам* самой Прыроды. А яшчэ – разгадка фундаментальных пазнакаў спрадвечнасці, што неўспадзеў і нечакана паўставалі і паўстаюць перад намі ў нашай будзённасці. А найбольш яго займаў *творчы праект* **зруба** будучай беларускай хаты (чалавечага дома), у якім чалавек жыў бы высакародна і годна ў гармоніі і згодзе з боскай прыродай і біблейскімі запаветамі. Не такога дома, які ў нас ёсць, а такога, якім ён быць павінен па творчай волі і мастацкім уяўленні пісьменніка В. Казько. Бо нельга не пагадзіцца з такім яго выказваннем: *“Зямля і час спраўна і дбайна ўпакойваюць і стагуюць адмерлую ўжо мінуўшчыну, але знакі пакідаюць, мо для ненароджанага яшчэ нават. Такія знакі праблісківаюць і ў людской памяці. Яны праблісківаюць сёння і тут у казанні паданняў і ў чужых пісаннях. І калі ў іх ёсць хоць каліва праўды, то яна ніколі не згасне, захаваецца хаця бы знакава”.*

Дык вось, надоечы давялося мне прачытаць апошнюю па часе выдання кніжку Віктара Казько “Казань пра ката, каторы смяяўся”. Па жанры як бы прыпавесць у стылі фантасмагорыі. А насамрэч вельмі глыбокі твор, *бесчалавечны*, маючы на ўвазе амаль поўную, апроч аўтарскай, адсутнасць людзей-герояў... Паганскі і сімвалічны ў сваёй аснове твор. Аўтар (а ён і ёсць, па сутнасці, галоўным героем) увесь у пошуках гармоніі між вышэйшай Прыродай і нашым грэшным зямным жыццём...

Калі чалавек апынаецца ў сітуацыі экзістэнцыяльных вычуванняў, у стане панічнай страты сваёй істоты праз страту родавай крэўнасці, што сышла не толькі ў зямны нябыт, але й цяпер, проста на вачах, сыходзіць у нябыт людской памяці... Галас канаючага ў царстве мёртвых... Усё растварылася ў крыві, сышло крывёю, таму крывёю і пішацца-згадваецца... І як сцвярджае ў другім раздзеле твора сам аўтар: *“Не так ужо і блага, калі творца ўмываецца слязьмі”*...

Можна сказаць, што “казань” Казько – гэта і своеасаблівая спроба стварэння метафарычнай гісторыі пра магчымае з’яўленне і скон зямнога жыцця (прадчуванне апакаліпсісу). Балючы адчайна-спавядальны тэкст... Ён – для цярплівага, уважлівага і ўдумлівага чытача. Той, хто прачытае да канца, атрымае своеасаблівы мастацкі шок, пасля якога задумаецца над біблейскімі метамарфозамі зямнога чалавечага

жыцця. (Між іншым, дазволю сабе адступленне і прызнаюся, што не так даўно я набраўся крытычнага нахабства і наўпрост спытаў у Віктара Апанасавіча пра цяжкаваты замес яго стылістыкі. Ён адказаў мне, што гэта натуральная (*жывая* і *рэчаісная)* манера яго пісьма, якую ён выправіць не можа, не парушыўшы сваёй літаратурнай самасці і арыгінальнасці. Больш за тое, яна суладная і адпаведная яго празаічнаму дыханню, мысленчаму і сюжэтнаму ходу расповеда. Спрачацца не выпадала).

Ну а цяпер – больш канкрэтна пра кніжку і сам твор.

На пачатку самога казання пісьменнік як бы пазначае месца дзеяння. Гэта Палессе, блізкае да вусця ракі Пціч. Тут, апрача лірычнага апісання прыгожай і велічнай прыроды, распавядальнік спрабуе надаць філасофскія сэнсы ўзаемасувязям чалавека і акаляючага свету. На метафарычным вобразе невялікай беларускай рэчкі вымалёўваецца яе эвалюцыйна-зменлівы шлях: крыніца-рэчка-балота-багна-меліярацыя-асушэнне... І як гэты вырак падобны на чалавечы лёс: нараджэнне-жыццё-старэнне-скон... Аднак ці ўсё канчаецца адназначным сыходам пэўнай жыццёвай з’явы? І тут ужо паўстаюць вечныя пытанні і такія ж – бясконцыя – пошукі адказаў на іх. Ці не таму ў кожнага з нас ёсць свая крыніца і свой незабыўны ўспамін пра яе. У В. Казько ён такі: *“Крынічка прапала. Але рака засталася. З яе вельмі халоднай і сярод лета вадою. І то быў нават не холад вады, а смутак і жальба па сваёй страчанасці і загубленасці. І вялікае шкадаванне па крыніцы, якая перамагла бруд, мазглявасць стагоддзяў, зацятасць пракаветнага чорнага торфу, сярод якога рачулка і праклала сваё рэчышча. Перамагла ліхалецце і немач часу, але не адолела хцівасць і памкненне пустабола выхваліцца. Стоена і задуменна бегла і бегла ўдзень і ўначы, старанна мыючы, аблізваючы карані дрэў, каменьчыкі і маленькія пясчынкі, спадзеючыся адшукаць саму сябе, свой колішні выток. Любую ёй сваю маладосць, маленькую сінявокую пад лагодным небам крынічку”.*

Вось, як мне здаецца, у апошніх двух сказах і ёсць галоўная ідэя ўсяго *казання* пісьменніка. Каты і міфалагічныя вобразы ў гэтым тэксце – падсобныя і другарадныя героі, пры дапамозе якіх пісьменнік (ужо каторы раз) спрабуе тую спрадвечную ідэю выказаць. Прасцей кажучы, Віктар Казько хоча зразумець і асэнсаваць пражытае ім самім, праецыруючы тое на агульначалавечае жыццё і пэўны гістарычны час. І трэба прызнаць, гэта ён робіць (стварае) неардынарна, па-свойму і на высокамастацкім узроўні.

Асабліва ўражвае стаўленне пісьменніка да ўсяго жывога ў прыродзе – чуйнае і спагадлівае. І як ён сцярожка і заклапочана апісвае сыход катоў у пошуках сваёй лепшай долі (свайго дома, гаспадара)... Параўноўваючы са сваёй доляй (і лёсам сучаснага чалавека), ён хоча, каб яны *“не зведалі такога жаху, не зведалі сытнага і шчаслівага пекла”*. Але разам з тым усведамляе і немагчымасць бязвіннага існавання ў гэтым свеце, бо *“грэшнае жыццё, а не чалавек”*. І чытач ад самага пачатку кнігі патрапляе ў атачэнне жывога свету, дзе ўсе намагаюцца мець роўныя правы альбо на іх прэтэндуюць – ад чалавека да казюркі. Ад усяго гэтага ў нас прачынаюцца прыспаныя гены колішняга паганства. Нават у моўных стасунках, дзе

*“гартанна гучала чужая гэтаму краю гаворка. І гаворка свая, тутэйшая. Толькі ішла яна нібыта з-пад зямлі, адлятала ад халодных, адмерлых ужо вуснаў гаворачага, толькі гукамі чапляліся за жыццё, больш трызнілі ўжо. І адразу было не зразумець – ці гэта будучае канае і з такім болем адыходзіць у зямлю, ці мінулае пнецца выхапіцца, вырвацца з нябыту і канае ў ім”.*

У некаторых момантах казані можна было сутыкнуцца з гратэскам (наўмысна выпісаным у стылі сацрэалізму) на сённяшні чалавечы (і сучасны беларускі) лад жыцця. І ў той жа час прасвечваецца своеасаблівая філасофія беларушчыны ў яе натуралізаваных спрадвечных праявах (паганства і савецкасці).

Паступова ўводзячы ў сюжэт аўтабіяграфічныя матывы (трагічныя лёсы маці і сястры, паваеннае ўласнае драматычнае выжыванне і святы несмяротны вобраз бабулі), В. Казько скіроўвае чытацкае ўяўленне на наш час... Якраз тыя ўлазіны-пасядзелкі на чале з Цмокам, дзе вырашаюцца цяперашнія і далейшыя планы канчатковага будаўніцтва СВАЙГО дома (з маналогамі Гругана, Васіліска, Русалкі, Лесавіка, Берагуна, Дамавіка...) выяўляюць сваіх ускосных прататыпаў нашага часу. Скажам, хіба непазнавальны вобраз Берагуна (Абярэга-Бэрка): *"Я, як хавальнік і сацыяльны гарант, абярэг тубыльцаў, не дапушчу, каб мае людзі туляліся немаведама дзе па свеце, жылі ў такой хаце. Усё толькі пад ключ, толькі пад замок. Усё і ўсіх ад водаў, крыніц, балотаў, лясоў і межаў. Гэта я ўслых усім, усяму свету кажу. Як галоўны абярэг і абаронца тутэйшых тубыльцаў загадваю..."* Што праўда, ёсць у яго і апаненты (прынамсі, у гэтым творы Казько): *"Сёння нас тут хочуць зноў стаптаць, распнуць, загнаць у нябыт. Усе мы сёння і даўно ўжо – беспрытульнікі, выгнаннікі, а то і проста нежыць без нас, хаця мы і ёсць, без свайго запаветнага: казкі, казані, сказа, падання. І гэта, як ты, Берагун, абазваў яе, даўгаблудная хата – апошні наш прытулак, адзіная і апошняя надзея на ўратаванне і ўваскрэсенне. Калі ў нас ёсць яшчэ духу і сілы хаця б жадаць гэтага"*.

Але, як бы папярэджваючы тыя міфалагічныя "парламенцкія" пасядзелкі, пісьменнік, а заадно і герой, ад імя якога вядзецца казань, падрахоўвае нашу гістарычную бытнасць такімі песімістычнымі высновамі: *"усім навідавоку была толькі іх непрыкметнасць, кідкая непагляднасць, знарочыстая выродлівасць. І зрэдку толькі хто задумваўся і разумеў, што насамрэч хаваецца за гэтай непагляднасцю, памяркоўнай ціхмянасцю і знешняй пакорай бажавільнасці, аб якія каторае ўжо стагоддзе і эпохі абломвалі зубы людзі і час. І нават прастора, неабсяжнасць. Трымалі за дурняў, прымалі за прасцячкоў і знікалі самі, гінулі ў дрыгве і багне ліхія і спрытныя, ды крыху ўсё ж дубаватыя, а больш прагныя і хцівыя, пажадныя да іх зямлі крывасмокі, люцыферы, ведзьмары, вядзьмаркі, чэрці, не паспяваючы нават і ўразумець, што гэта ўтварылі з імі гэта, здаецца, нежыць, гэтыя тубыльцы, нячысцікі"*.

І даючы благаслаўленне героям сваёй кнігі на жыццё ў пабудаванай хаце, аўтар зноў і зноў пры гэтым адценьвае ўласны шлях да сваёй хаты, будуючы якую ён прайшоў праз бальшавіцкае пекла – пасляваеннае галоднае сіроцтва, цаліну, лесанарыхтоўкі ў Сібіры (што праўда, тут сустракаюцца і надта зацягнутыя манатонныя, як царкоўныя настаўленні, апісанні). Ён заглыбляецца ў аўтабіяграфічныя наўпроставыя і падтэкставыя звязкі сюжэтных ліній, спрабуе выснаваць з гэтага родавую філасофію жыцця, смерці і вечнасці...

Пісьменнік падсвядома адчувае, што чытач патрабуе ўнутранага тлумачэння, чаму ўсё ж у казані пануюць паганскія матывы. І робіць пэўныя намёкі і падказкі, маўляў, і *" сам ён быў, паміж быццём і небыццём, паганцам з першапачатковасці, часоў Перуна, Ярылы і Цмокаў"*, што яго *"памяць настоеная на жудасці і жаху крыві, спавітая і выпестаная ёю, таму такая няпэўная і кароткая – літасцівая да яго, абярэжная"*, і ўвогуле ён *"...наскі чалавек, у якога ад нараджэння столькі імён – мо каб сакрыць, захаваць і выратаваць нас дзеля нікому не вядомай яшчэ нашай жа будучыні. Столькі імён, але ніводнага пакуль свайго"*. Вось гэтае нязводнае і найбольш балючае – адсутнасць СВАЙГО: сваёй гісторыі, сваёй Айчыны, свайго Я, сваёй асабістай, а не калектыўнай, адказнасці перад Творцам – праходзіць рэфрэнам праз увесь твор...

Пры ўсёй фантасмагарычнасці расповеду не можа не здзіўляць даволі шырокі досвед пісьменніка ў жыццёвых і шмат якіх бытавых пытаннях: земляробства, лясніцтва, палявання, рыбалка і нават тэхналагічныя ды інжынерныя навыкі... Што, трэба зазначыць, вялікая рэдкасць для нашых літаратараў.

Зрэшты, не забывае В. Казько ўсмешліва-іранічна, прадстаўляючыката БІЧа

як Былога Інтэлігентнага Чалавека, ахарактарызаваць і сябе самога, бо, бачыце, *“...з яго, Біча, пісьменніка не атрымалася, а чалавек, што стаяў на парозе, адбыўся пісьменнікам, хаця на сваёй радзіме і не вельмі знаным. Але каго са сваіх слынных сыноў калі-небудзь прызнавала і прызнае айчына, асабліва ў сённяшні віртуальна-камп’ютарны і тэлевізійны час, які ўжо наракл: «абудзі ў сабе ідыёта» ці «давай замуцім»?..”*

Аднак уласна я лічу гэтага пісьменніка вельмі знаным, бо, жывучы разам на адной зямлі, ён падказвае-падштурхоўвае мяне, чытача, заглядваць у вочы вечнасці (адправіўшы сваіх герояў у вандроўку на Месяц), шукаючы там пэўных адказаў адносна нашай зямной часовасці. І да ягоных слоў, хаця б час ад часу, варта прыслухоўвацца *“народу, які няўзнак недзе ў стагоддзях часткова самохаць, а больш прымусова страціў сваё імя і слова. Вось з усяго гэтага – памяці і забыцця – склаўся, з’явіўся і ён. Самы што ні на ёсць сапраўдны тубылец, тутэйшы, як і ўсе астатнія тут...”* Творца, які здольны, пераступіўшы ўласнае эга, напісаць, што і *“самі гэтыя мастакі і творцы ды ўсе спрэс гуманісты колькі спажылі чалавечыны. Ці не іх жа спакушаным і вытанчаным розумам зямля і чалавецтва дведзены да краю, да бездані... Не, прарэджваць і прарэджваць трэба чалавечую пароду. Хаця на зямлі нічога няма больш учэпістага, чым пустазелле. Ведаць бы, дзе плевелы, а дзе зерне. Ён не ведае, і ніхто не ведае. Таму – толькі сыход і абнаўленне”.*

Адным словам, *“чалавек павінен азірацца, каб чуць і бачыць сваё сёння і заўтра”.*

І тут варта, хоць бегла і коратка, адзначыць літаратурнае майстрэства В. Казько. Бо ў казаннях пісьменніка шмат моўнага цымусу і народных выслоўяў (*“што ўжо ўсім, тое і бабінаму ўнуку”, “тут вас не стаяла, там вам не здесь, але калі нада, то трэба”*, прызабытых слоў (*вымерхацца, ачахнуць, чэзнуць, ушпіліць (даць лупцоўкі), мікіціць, скрытня*), анекдатычных цытацый (*“пан, пасцель пасцелена, калі ласка, прыгнятаць”, “сялянская звычка – лячыцца, калі позна ўжо, калі, як гаворыцца, і да Лучанка прыходзіць Ханок”*).

Часта ў сваіх развагах аўтар абапіраецца на біблейскія матывы. Адметная і яго медытацыйнасць пісьма і самаснасць стылю, глыбокае, энцыклапедычнае веданне гісторыі чалавецтва і беларускага чалавека ў прыватнасці. Абазнаны ён (і не толькі ў тэорыі, але і на практыцы) у фізічных, біялагічных, псіхааналітычнах магчымасцях чалавека, з’явах прыроды і ўсяго жывога ў ёй. Ну і філасафічнасць, не мудрона-начытаная, а самабытная, вылушчаная з горкага вопыту ўласнага жыцця. Адсюль і заключная выснова кніжкі – братчына, як магчымае (самахвотнае, а не мусовае) яднанне ўсяго існага і людскага дзеля вечнага... І гэта не вынаходства самога аўтара, бо, *“уга, якая магутная была тут у сярэднявеччы братчына. Мо самая магутная і слынная ва ўсёй Усходняй Еўропе: школы, школкі, універсітэты, шкаляры, студэнты, выкладчыкі – усе пад адным дахам тубыльскай братчыны...”* Так, здавалася б, менавіта ў гэткай братчыне і выратаванне, але трывожыць падсвядомае безадказнае пытанне, а *“што будзе з гэтай іх наватворанай братчынай – яднаннем чалавека, звера і зданяў. Ці не нараджэнне гэта новага і больш жахлівага звера, а не абнаўленне – вяртанне веры, дабрыні, сумлення? А хацелася б, хацелася... Коціка шкада”.*

Хоць сам усмешлівы коцік тут, па вялікім рахунку, і ні пры чым, бо *“са словам і са слова ўсе мы вылупіліся, убачылі гэты свет, як, на маю думку, і сам чалавек. Са слова – гутарак, містэрый, вяртэпаў і апокрыфаў. І каб не прапасці знічкамі ў сусвеце, да гэтага трэба нам і вяртацца, што і загадвае нам той жа сусвет”.*

І ў выніку чалавек, як заўсёды, застаецца – пад Небам на Зямлі – адзін на адзін з безадказнымі пытаннямі, пастаўленымі сваім жыццём да ўласнага выраку...

Але, відаць, для таго і неабходны нашы чалавечыя споведзі-казані, каб на іх аднойчы нам адказаў сам Творца. Кожнаму паасобку ці ўсім разам?..

# Прытулак памяці

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Віслaндэр Юя, Нурдквіст Свэн. Мама Му ўяўляе. Пераклад са шведскай мовы Н. Кандрусевіч. – Мінск: Надзея Кандрусевіч, 2018. – 26 с.**

Гэтая кніга пра знакамітую карову Маму Му і яе сябра Крумкача шведскай пісьменніцы Юі Віслaндэр з цудоўнымі ілюстрацыямі мастака Свэна Нурдквіста, будзе выдатным калядным падарункам для дзетак. Гэтым разам гісторыя пра тое, як Мама Му і Крумкач бавіліся і весяліліся ўзімку, уяўляючы, што цяпер лета.




**Алесь Замкоўскі. Наступны прыпынак. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 109). — 128 с.**

Дэбютны зборнік вершаў Алеся Замкоўскага — гэта лірычны відарыс узнёслых вандровак неспакойнай душы аўтара па свеце пачуццяў, роздумаў, трызненняў і мар. Сонца, поўня, неба, зоры, вада, вясна, восень, зіма, дзень і ноч, анёлы, каханая — яго галоўныя спадарожнікі на абраным паэтычным шляху. Зборнік складаюць вершы, напісаныя на працягу апошніх 15 гадоў.

*У травеньскі бэзавы вечар*
*закрый мае сумныя вочы*
*пяшчотнага слова далоняй.*
*Бяссоннай купальскаю ноччу*
*спакой падары маім вуснам*
*сваім пацалункам гарачым.*
*У верасні ранкам туманным*
*ізноў напішы мне прызнанне*
*на мокрым лісце й пажоўклым.*
*А дзённай завеяй у лютым*
*аддай свае крылы свабоды —*
*я моўчкі растану, я моўчкі...*




**Мікола Пракаповіч. Прытулак памяці. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 110). – 260 с.**

Пабачыў свет зборнік вершаў і паэм Міколы Пракаповіча са змястоўнай прадмовай Алеся Каско, якую ён паспеў напісаць незадоўга да сыходу ў вечнасць. *“Мне, як і ягоным чытачам, ад самага пачатку ў вершах Міколы Пракаповіча імпанавала яшчэ адна, апрача*

*патрыятычна-багдановічаўскай, пуцяводная зорка: мройная зорка свабоды чалавека ад гвалту, прыніжэння, неабходнасці быць „вінцікам“ бяздушнага грамадскага механізму. Паэт нярэдка <...> выходзіць на маштабныя філасофскія абагульненні, і ўсё ж агульналюдскія каштоўнасці і каштоўнасці нацыянальныя ў яго нед'емныя, дзве іпастасі свабоды злітныя, як святло падвойнай зоркі ў Сусвеце"*, – адзначаецца ў прадмове.

Вершы, сабраныя ў кнізе "Прытулак памяці" са зборнікаў розных гадоў, – як адбіткі шляху душы. За кожным вершам – ці жыццёвая сітуацыя, ці шчаслівая сустрэча, ці роздум на самоце. Яны абавязкова закрануць запаветныя струны неабыякавага да паэзіі чытача, адгукнуцца, паклічуць да сумоўя.




**Святлана Явар. Дзівосны сад. Выбранае / Укладанне Т. Барадулі. – Мінск : Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 108). – 276 с.**

Святлана Явар – малодшая дачка Барыса Сачанкі. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру Інстытута мовазнаўства (абараніла кандыдацкую дысертацыю па творчасці Масея Сяднёва). Працавала журналістам, выкладчыкам, навукоўцам. Раптоўна памерла ў чэрвені 2011 года. У выданне ўвайшлі вершы з двух прыжыццёвых зборнікаў, вершы розных гадоў, а таксама празаічныя творы, што дае магчымасць "адчуць усю глыбіню яе найтанчэйшай повязі з жыццём і вышыню яе памкненняў, напраўду містычных прасвятленняў".




**Віктар Ярац. Зямныя эцюды. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 111). – 92 с.**

У кнігу "Зямныя эцюды", выхад якой прымеркаваны да 70-годдзя аўтара, увайшлі вершы паэта апошніх гадоў, у якіх новыя перажыванні і фарбы настрояў, а таксама – адноўленыя ўспаміны аб пройдзеным ды перажытым.

*У рэчышчах, як чуйных капілярах*
*зямнога цела, плынь штогод мутней.*
*І не бруіцца рэчка, як раней,*
*дзе заплылі жыўцы.*
*Блукае ў хмарах*
*бяссонне чыстай кроплі, што з зямлёй*
*баіцца сустракацца.*
*І шукае*
*душа людская страчаны спакой*
*на берагах.*
*І як знайсці — не знае.*

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" № 1-6 (92-97) за 2018 год

***Паэзія***



***Проза***

*пра сабачку, унукаў і іх шчаслівага дзядулю.* №97, 83

**Франц Сіўко.** Раз – шкілет, і два – шкілет. *Аповесць.* №94, 10

**Уладзімір Сіўчыкаў.** Смаленні вепрукоў. *З нізкі «Уладзевы гісторыі».* №93, 102

**Уладзімір Сіўчыкаў.** Стрыптыз каля Белага Дома. *З нізкі «Уладзевы гісторыі».* №97, 138

**Аксана Спрынчан.** Змушаная рамантыка. *Разынкавая муроўка. (Працяг).* №94, 127

**Уладзімір Сцяпан.** Букет. *Мініяцюры.* №95, 46

**Вітаўт Чаропка.** Гэты свет не для мяне... *З нізкі «Запасная кніжыца жыцця».* №95, 135

***Дэбют***

**Яніна Асіпцова.** Ва ўсім вінаватае сонца. *Вершы.* №97, 160

**Марыя Бадзей.** Лоўля вятроў. *Вершы.* №96, 139

**Сяргей Вайніцкі.** Ліхтар. *Апавяданне.* №95, 153

**Янка Вольская.** «Вы жэ самі ўсё прэкрасна панімаеце». *Аповесць.* №93, 113

**Аляксандра Дзмітранок.** Справа прынцыпу. *Апавяданне.* №92, 189

**Вадзім Корань.** Лавіць матылькоў... *Вершы.* №93, 144

**Галіна Сіўчанка.** Наследаваны звычай. *Вершы.* №94, 161

***Тэатр***

**Уладзіслаў Ахроменка, Максім Клімковіч.** Карта паляка. *Крэсовыя сцэны ў двух актах. Тэксты зонгаў – Сяргей Балахонаў.* №93, 151

***Пленэр***

**«За лесам, за летам, за Летай».** *Вершы ўдзельнікаў першага пленэру Тацяны Сапач. Прадмова і ўкладанне Адэлі Дубавец.* №94. Наста Кудасава – 166; Павел Астравух – 168; Ніна Лістота – 170; Таццяна Нядбай – 173; Насця Шакунова – 174; Аксана Яраш-Камінская – 175.

***Пераклады***

**Эліза Ажэшка.** Афіцэр. *Навела. Пераклад і прадмова Анатоля Бутэвіча.* №94, 177

**Ары Бэн.** Тыгр у садзе. *Апавяданні. Пераклад Лідзіі Ёхансэн.* №92, 207

*«Бітва пад Розумам»: сучасная польская паэзія.* №97**, Войцех Бановіч** – 165; **Ілона Віткоўска** – 167; **Эва Ліпска** – 170; **Юлія Фядорчук** – 173. *Пераклад Андрэя Хадановіча.*

**Аляксандр Ірванец.** Харкаў-1938. *Урывак з рамана. Пераклад Уладзіслава Ахроменкі. №97,* 177

**Кабаясі Іса.** Сляды ад лапак. *Хайку. Прадмова і пераклад Вольгі Гапеевай.* №93, 179

**Станіслаў Ежы Лец.** Тысяча і адна фрашка. *Пераклад Андрэя Хадановіча.* №92, 196

**Лінда Клакен.** Пакуль чакала цябе. *Пераклад Вольгі Гапеевай.* №94, 212

**Ежы Плютовіч.** Бяссонне. *Пераклад Надзеі Артымовіч і Ціхана Чарнякевіча.* №95, 173

**Габрыэля Пузыня.** Заклад на талерку вустрыцаў. *Апавяданні. Прадмова і пераклад Ірыны Багдановіч.* №96, 156

**СіДзі Райт.** Уяўны жнівень. *Вершы. Пераклад Вольгі Гапеевай.* №95, 169

**Арцюр Рэмбо.** Вечнасць. *Вершы. Пераклад Андрэя Хадановіча.* №96, 143

**Стэйнар Упстад.** Дзень усіх святых. *Вершы. Пераклад Дзмітрыя Плакса.* №93, 182

**Эма Яленская.** Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце.*(Пачатак). Пераклад Уладзіміра Васілевіча. №97,* 194

***Вытокі***

**Лявонці Карповіч.** Што адбылося аднойчы, нанова цяпер адбываецца. *Калядная казань.* №97, 5

***Юбілеі. Памяць. Спадчына***

**Артур Бартэльс.** Артур Бартэльс і яго паэма «Дзяніскавічы». *Прадмова Анатоля Трафімчыка. Пераклад Віктара Гардзея.* №94, 219

**Юлія Бібіла.** «...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!» *Успаміны. Падрыхтоўка да друку, прадмова і каментары Тацяны Кекелевай і Арсеня Ліса.* №92, 251; №93, 219; №94, 236; №95, 248.

**Аксана Данільчык.** «Жменя асенніх дум». *Слова пра рукапісны паэтычны зборнік Ганны Новік.* №93, 213

**Язэп Драздовіч.** Касмічная адысея Язэпа Драздовіча: малавядомыя тэксты. *Падрыхтоўка публікацыі і прадмова Ліі Кісялёвай.* №95, 179

**Тацццяна Кабржыцкая.** Пратуберанцы творчых арбіт адраджэнца Вацлава Ластоўскага. *Украінскі кантэкст жыццёвага і творчага шляху.* №95, 194

**Сяргей Чыгрын.** Масей Сяднёў і Тодар Лебяда. №94, 230

***Архівы***

**Сяргей Астрэйка.** «Бенгалія». *Паэма.* №96, 200

**Галіна Гайлевіч.** *Вершы.* №96, 184

**Аксана Данільчык.** Гісторыя аднаго сямейнага архіва *Гутарка з Алінай Алексенка. №96,* 178

**Віктар Жыбуль.** Вяртанне «Бенгаліі». №96, 188

# Нашыя аўтары

**Адамовіч Славамір** — паэт, эсэіст, публіцыст. Аўтар кніг «Кальварыйскія клёны», «Зямля Ханаан», «Турэмны дзённік», «Плавільшчыкі расы», «Цана Еўропы, альбо Гісторыі Вільмана» і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Архангельскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Аўтарка кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва» і інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Акудовіч Валянцін** — філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Асіпцова Яніна** – паэтка. Скончыла Беларускі Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, цяпер – студэнтка Лодзінскага факультэта інфарматыкі. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Магілёве. Жыве ў Лодзі (Польшча).

**Астапенка Анатоль** – публіцыст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі МАІТ. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Пад псеўданімам Антон Кулон выдаў кнігу эсэ «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве», «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (усе – у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Тэорыя змовы», «Музы і свінні» і інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Памёр у лістападзе 2018 года.

**Бановіч Войцех** – польскі паэт і журналіст. Аўтар кніг вершаў «Выбар большасці», «Адкрытае мора», «Польскія знакі», «Рэха» і інш. У якасці журналіста супрацоўнічае з кракаўскай газетай «Tygodnik Powszechny». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў Кракаве, дзе і жыве.

**Бычкоўскі Алесь** – празаік. Аўтар кніг «Горад за 101-м кіламетрам», «У пошуку шчасця», «Анамалія», «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры». Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Беразіно на Міншчыне, дзе і жыве.

**Васілевіч Уладзімір** – фалькларыст, этнограф, перакладчык. Працаваў у БДПУ імя М. Танка. Перакладае з польскай мовы. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Віткоўска Ілона** – польская паэтка. Аўтарка кніг «Splendida realta», «Lucyfer zwycięża». Лаўрэатка спецыяльнай прэміі XVI Нацыянальнага конкурсу паэзіі імя Я. Бярэзіна (2010), паэтычнай прэміі «Silesius» (2013). Нарадзілася ў 1987 годзе. Жыве ў Сакалоўскім.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Ірванец Аляксандр** — паэт, празаік, драматург. Адзін з заснавальнікаў літаратурнай суполкі «Бу-Ба-Бу». Аўтар кніг «Вогнище на дощі», «Тінь великого класика», «Рівне/Ровно», «П'ять п'єс», «Хвороба Лібенкрафта», «Мій хрест» «Сатирикон — XXI», «П'яте перо» і інш. Лаўрэат шэрагу нацыянальных і замежных прэмій. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Львове. Жыве ў Ірпені.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічыах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Карповіч Лявонці** – царкоўна-грамадскі дзеяч, публіцыст і багаслоў. Узна-

чальваў антыўніяцкае супрацьстаянне ў ВКЛ. Стваральнік і першы архімандрыт Віленскага брацкага праваслаўнага манастыра Святога Духа, кіраўнік брацкай друкарні, рэфарматар і рэктар брацкай школы. У канцы 1940-х кананізаваны Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквой. У 2011 г. кананізаваны Беларускім экзархатам. Нарадзіўся ў 1580 годзе ў Пінску. Памёр у 1620 годзе ў Вільні.

**Кулік Яўген** – мастак. Аўтар эталона герба «Пагоня» ў якасці дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь у 1991—1995 гг. У станковых творах распрацоўваў тэмы гісторыі і культурнай спадчыны (серыі «Помнікі дойлідства Гродзеншчыны», «Славутыя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі», «Замкі Беларусі», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «На куццю», «Памяці Алены Кіш», «Паўстанне 1863 г. на Беларусі» і інш.). Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. Памёр у 2002 годзе.

**Ліпска Эва** – польская паэтка. Аўтарка некалькіх дзясяткаў кніг вершаў, сярод якіх «Чацвёрты збор вершаў», «Пяты збор вершаў», «Дом спакойнай маладосці», «Сховішча цемры», «Стыпендыянты часу, «1999», «Заакрамы», «Не тут» і інш. Лаўрэатка шматлікіх літаратурных прэмій. Нарадзілася ў 1945 годзе ў Кракаве, дзе і жыве.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кніг «Пачатак сезона», «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Разанаў Алесь** – паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Саматой Ірына** – літаратуразнаўца. Аўтарка артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1961 годзе ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Рублеўскі Сяргей** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «У, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца», «Мамін шэпт пад абразамі» і інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтар кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Юлія Фядорчук** – польская паэтка, празаік, перакладчыца. Аўтарка пяці кніг вершаў, чатырох кніг прозы і трох кніг эсэ. Лаўрэатка прэміі Польскага аб'яднання выдаўцоў за дэбютную кнігу вершаў «Лістапад пад Наровы» (2000), аўстрыйскай прэміі Х. Бурды (2005), прэміі імя В. Шымборскай (2018). Жыве ў Варшаве.

**Яленская Эма** – польскамоўная пісьменніца, фалькларыстка і этнограф. Аўтарка аповесцяў «Двор у Галінішках», «Віленская кальварыя», «Ад кахання», «Буслы», «Пярсцёнкі», «Жанчына, пуху марны», «Юбілей», «Тры пакаленні», «Як адламаная галінка», «Маці» і інш. Нарадзілася ў 1864 годзе ў вёсцы Камаровічы на Мазыршчыне. Памерла ў 1919 годзе ў Вільні.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**







У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.